Віктар Карамазаў

# Аброчны крыж

АПОВЕСЦІ,
АПАВЯДАННІ



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1994

# КРАЕМ БЕЛАГА ШЛЯХУ

Доктар Валетаў ляжаў на канапе, заклаўшы рукі за галаву, і слухаў, як па сценах дома шоргаў злосны восеньскі вецер. Паклееная белымі шпалерамі столь выглядала на досвітку шэрай, змрок трымаўся і ў акне, а на сцяне, над канапай, з цемені ўжо выплылі вялізныя рогі старога аленя, і там, дзе яны віселі, вось-вось мелася зажаўцець пляма святла ад Лістратавага, праз вуліцу, акна. Але святло не запальвалася, і Валетаў з санлівай лянотай падумаў: можа, гэта тыя рогі, якія яму калісьці наставіў Чырвонец? Ці ўжо нядаўна — Шчыгол? Нішто сабе — двойчы раганосец?

Спружыны пад спіною зарыпелі — ён павярнуўся на бок, тварам да сцяны. За сцяною пачуў крыўдлівы голас малой:

— Я не пайду ў садзік.

Зіна заплакала, але яе хутка суцешыў смешна-самавіты басок трынаццацігадовага Віці:

— Маўчы, румза. Нікуды я цябе не вяду.

Дзеці замоўклі, і Валетаў, успомніўшы, што сёння нядзеля, садзік не працуе, ссунуў нагу з канапы, адкінуў коўдру і сеў. У роце гарчыла, у горле смягла. Пад рыпенне спружын устаў і босы пашлёпаў па голай, за ноч схаладнелай падлозе. Каля дзвярэй у сенцы спыніўся, у сівым ранішнім змроку разглядаючы, хто тут ляжыць на лаўцы пад вешалкаю. З-пад караткаватага жончынага паліто ад акна свяціліся белыя танклявыя ногі, ад парога — бялявая галава.

— Сцерва,— глуха, без эмоцый, выгукнуў Валетаў і пашлёпаў на кухню.

Можа, што печ была белая ды што сцены ў кухні белыя, з блішчастай пліткі, тут як бы раней світала, і Валетаў, калі прачынаўся, любіў сюды завітаць. Адсунуўшы на вядры

дошчачку, чарпануў конаўкаю вады, да палавіны выхлебтаў, душу спатоліў, стоячы, як рахманы конь, над вядром, а пасля сеў да акна на табурэтку і нетаропка дапіваў астатняе, за кожным глытком гучна выхукваючы паветра. Напіўшыся, адшукаў на падаконніку пачак «Беламору», намацаў апошнюю папяроску — закурыў.

Учора ён позна, як сцямнела, вяртаўся з работы і, калі падыходзіў да хаты, напярэймы з-за плота выскачыла Лістраціха: «Зайдзі, Паўлавіч, матка памірае». Куды дзенешся ад суседкі? Зайшоў — так і ёсць: хіба стары шлунак пераварыць каўбасы, што дачка, бухгалтарка мясакамбіната, кожны дзень валачэ пад кофтай з работы? Стаў, баба, клізму! Лістраціха ў рогат, а яе муж пад той рогат спірт, конаўку вады і каўбасу на стол. Чарку выпіў, за ёю следам другую, гурком салёным пахрумсцеў, да каўбасы не дакрануўся. А ці яны доктара без каўбасы выпусцяць з хаты? Тры кальцы ў газетку загарнулі, сунулі яму ў рукі, падзякавалі, што ўважыў, зайшоў. А на свой ганак падняўся — праз адчыненую фортачку з кухні пачуў сынаў басок:

— Гражданка Валетава! Тут табе не кіно, а суд, і ты павінна адказваць на ўсе пытанні суда.

Маці загаласіла:

— Сынок!.. Які ж ты мне суд?.. Што ты гаворыш?.. Ты ж мая крывіначка!..

Але суддзя быў няўмольны:

— Чаму ты п'еш гарэлку?

Валетаў жахнуўся: хто навучыў сына гаварыць гэтак з маткаю? Сябрук Маруткін, пасынак раённага суддзі? Дык жа і той яшчэ смаркач. Суддзя жыў у драўляным доме, дзе быў нарсуд, праз сцяну ад залы судовых пасяджэнняў, дык, можа, сын, бываючы ў сябра, наслухаўся з судовай залы? Не, Маруткіны тут ні пры чым. Жонка, яна — пры ўсім.

Зайшоў у сенцы, адчыніў дзверы ў хату. Зноў пачуў сынаў падроблена-дарослы басок:

— Сведка Зінка Валетава! Суд пытаецца. Ты абараняеш падсудную Валетаву?

На кухні зашморгала носікам і заплакала дачка. Не вытрымаўшы, Валетаў знарок моцна хлябнуў дзвярыма, каб усе ў хаце пачулі і схамянуліся. Убачыўшы бацьку, Зіна кінулася да яго, зараўла яшчэ мацней. Жонка, якая сядзела побач з вядром на ўслоне, адвярнулася, каб не глядзець мужу ў вочы, а Віця стаяў каля стала і злосна бліскаў вачыма то на маці, то на бацьку. Узяў яго за плячо, разам з Зіначкай прыгарнуў да сябе.

Пакуль ціха стаяў сын, супакойваючыся, і дачка плакала ў бацькаву балонневую куртку, Валетаў не зводзіў вачэй з жонкі, але тая ніводнага разу на яго не глянула. Моўчкі вывеў дзяцей з кухні, праз зальчык правёў у спальню і разам з імі сеў на ложак.

Калі ўжо Зіна ляжала ў ложку і доўга не магла сагрэцца пад цёплай ватняй коўдраю, калацілася, ён выйшаў на кухню, адчыніў халадзільнік. У ім было амаль пуста. Ляжалі тры яйкі, суседчына крадзеная каўбаса ды яшчэ стаяла бутэлька з учарашнім малаком. Пераліў малако ў малую каструльку, паставіў на газавую пліту, падагрэў, разліў у два кубачкі, знайшоў акрайчык батона і з гэтым вярнуўся да дзяцей. Замарыўшы, як любілі казаць у хаце, чарвячка, Зіна зноў схавалася пад коўдру, сагрэлася і заснула, а Віця выйшаў у зальчык, уключыў тэлевізар.

Валетаў сядзеў ля дачкі. Ён усё глядзеў на яе пушыстую бялявую галоўку, слухаў, як яна пасопвае ў тоўсценькую кірпачку, пакуль сам не пачаў кляваць носам, змораны за доўгі каля аперацыйнага стала дзень ды яшчэ і суседчынай чаркаю. Устаў, каб ісці спаць, і, пастаяўшы, зноў сеў. Ён спаў на канапе ў зальчыку, але там Віця глядзеў тэлевізар. Было не позна, і не хацелася, каб сын, здагадаўшыся, што бацьку ахвота спаць, з-за яго не дагледзеў фільм. Расплюшчыўшы вочы, уставіўся ў акно, нібыта голас адтуль пачуўшы, але за акном былі ціша і цемень — ані зорачкі ў небе, ані агеньчыка ў суседніх хатах. Падышоў бліжэй да акна, і тады над чорнай зямлёю ўбачыў жаўтлявыя хмары і жаўтлявую поўню. І зноў — голас. Зінін? Поўня глядзела з неба ў акно круглым дзяціным тварыкам, на ёй былі і вочкі, і носік, і роцік, і цяпер ужо сапраўды здавалася, што поўня плакала Зініным голасам. Балюча заплюшчыў вочы. Ці гэта дзяціны плач у ягонай душы, назаўсёды?

Выйшаў са спальні і сеў на канапу да Віці.

— Будзеш спаць? — спытаў сын.

— Глядзі кіно. Цікавае?

— Абы-што.

Сын падскочыў да тэлевізара, выключыў і выбег на двор.

Валетаў доўга не мог заснуць. Ляжаў і думаў пра сына. Чаму ён выключыў тэлевізар? Заўважыў, што бацька клюе носам? Ці сапраўды нецікавы фільм? А можа, ад злосці? Заўсёды, калі злаваў на маці, дык і з бацькам не жадаў гаварыць, сноўдаў па хаце міма ўсіх, як ваўчанё, нешта шукаючы і не знаходзячы. Што з ім робіцца? Зіну зразумееш заўсёды. Яна ці смяецца, ці плача. А сын — і не запла-

ча, і не засмяецца. Усё ў сабе носіць, не паказвае. Ад усіх замкнуўся.

За акном днела, і Валетаў, з цыгаркаю седзячы пад адчыненай форткай на кухні, заўважыў, што зямля ў садзе неяк незвычайна падсвечаная. Можа, за ноч насеяўся першы снег? Яшчэ ў пуні ў кучах бульба, буракі, морква, даўно трэба ўсё перабраць ды апусціць у пограб, каб не памерзла. І скрыні з яблыкамі ў пограб просяцца. А за пуняю дроў машына, нярэзаных, трэба шукаць чалавека з бензапілою. Лазня ў садзе гаспадара чакае. За лета так-сяк зляпіў, накрыў, засталося падлогу паслаць — дошак няма, жалезную печку зварыць з катлом для гарачай вады — дзе тое жалеза, дзе зваршчык? Часу на ўсё не хапае. Ды і грошай.

Дакурыўшы «беламорыну», зачыніў фортку і выйшаў на двор.

Снегам яшчэ не пахла, зямля ляжала цёплая.

Здзівіўся, што дзверы ў пуню адчыненыя. Пераступіў цераз парог — пачуў салодкі водар антонавак і цітавак. Усе пахі зямныя любіў, прымаў за боскі дар, але гэты, пах даспелых восеньскіх яблык, радаваў асабліва моцна. Стаяў і нюхаў, аж нос, здавалася, выцягваўся, даўжэў, вантробы налівaліся салодкай млосцю. Над дзвярыма было мутнае ад пылу акенца і праз яго ў пуню сачылася святло, у якім збоку ад дзвярэй бачыў і скрыні з яблыкамі, адну на адной, і жоўтую салому, ускінутую на іх, і бульбу ў кучы. Люк у падлозе, што вёў у пограб, быў адчынены, і там, унізе, калыхаліся жоўтыя і шэрыя, усё роўна як ад агеньчыка, цені. Хто там? Намацаў на сцяне выключальнік і запаліў лямпачку, якая над дзвярыма тырчэла з патрона. Ледзь бліснула — скалануўся. Перад ім, над люкам, вісела тоўстая, перакінутая цераз бэльку вяроўка з пятлёю на канцы. Падышоў да люка і нейкі час, не варушачыся, глядзеў праз яго ў пограб. Спытаў уголас:

— Чаго тут вяроўка?

Ніхто яму не адказаў. Хвіліну яшчэ пастаяўшы, намацаў нагою першую жалезную лесачку ў пограб, пачаў спускацца ўніз.

На перавернутым уверх дном вядры тлела, дагараючы, свечка, на падлозе ляжалі рассыпаныя жаўтабокія антонаўкі, і над імі, плачучы, сядзела жонка. Побач стаяла скрынка, на дне якой ляжалі яблыкі, і Валетаў зразумеў, што жонка валакла зверху ў пограб скрынку з яблыкамі і не ўтрымала, рассыпала. Хацела адна перанесці яблыкі? Пачуўшы мужа, прыціхла і, не падымаючы галавы, затуліла

твар далоньмі, а ён маўчаў, усё роўна як доўга наважыўся гэтак стаяць, і яна, канцом хусцінкі ўцёршы твар, пачала збіраць яблыкі ў скрыню.

— Куды ж ты іх кладзеш? Ці яны, бітыя, будуць зімаваць? У кошык ды ў хату. Хай дзеці грызуць.

Кошык з лёгкага белага дроту вісеў на сцяне. Валетаў паставіў яго паміж сваімі і жончынымі нагамі на падлогу і, прысеўшы, пачаў збіраць яблыкі. Узяў дзве жоўценькія цітаўкі, вялізныя — яшчэ ніколі, здаецца, гэтакія не радзілі,— і доўга трымаў іх у руках, разглядаў, чуючы востры салодкі пах. Два яблыкі ўзяла жонка. Адвёўшы вочы ад тых, што трымаў, Валетаў глядзеў на яе два, з іх перавёў позірк на яе рукі. Жонка апранула Віцеву спартыўную, з кароткімі рукавамі, куртку, і Валетава балюча разанулі запясці — танклявыя, белыя, на сініх плямах. Падумаў: яшчэ ж маладая, на васемнаццаць гадоў маладзейшая за яго, а рукі як у старой. Сінякі ад вяроўкі? Ад яго рук? Быццам кляшчамі, схапіў два дні назад уначы, калі прыцягнулася п'яная, завалок у пуню, каб дзеці гэтакую матку не бачылі, скруціў вяроўкай, не шкадуючы, той злосцю, што на сэрцы скіпела не за адзін год, і пакінуў на ноч у халоднай пуні. Што ж рабіцца? Хто з іх вар'ят? Можа, абое? Заплюшчыў вочы, каб не бачыць яе рук, і кінуў усляпкі яблыкі ў кошык. Кінула і яна. Сэрца аблілося гаркатой за яе, што пустадомка.

Калі яблыкі падабралі і ён з цяжкім кашом пачаў падымацца па драбінах з пограба, спыніўся і, не азірнуўшыся, сказаў:

— Ідзі бульбы звары. Дзеці галодныя спаць леглі.

Аднёсшы кош з яблыкамі ў сенцы, вярнуўся назад у пуню і стаяў, глядзеў на бульбу, высыпаную на падлозе, абкладзеную аполкамі. Колькі яе тут? Мяхоў пяць? Не перабіранай, з драбнатою разам. А калі перабраць? Трэба купіць, каб на зіму сабе і кабану хапіла. А ў каго сёлета купіш, калі ўсюды вымакла — паўлета і восень ліў дождж. За хатаю пляц высокі, адхоністы да Сажа, тут бульба магла б зарадзіць і ў гэткае лета, ды наваліўся каларадскі жук. Ён, Валетаў, пагруз у рабоце, у бальніцы, але жонка сядзела дома — магла ababраць жукоў? Ужо два гады, як нікуды працаваць яе не пускаў, на адну сваю зарплату трымаў сям'ю, толькі глядзі ж ты дзяцей ды гаспадарку. Не, усё кінерыне — паперлася шукаць дабрадзея, які б чарку наліў. Прабадзялася, прапілася, а цяпер што зіму есці? У магазінах — шаром пакаці. Восень, самая, здаецца, гародніна, а ні качана, ні бурака, ні бульбіны. Краіна спяшае ў рынак. Які

рынак? Па тэлевізары і ў газетах кожны дзень галоднай зімой пужаюць, а рабіць ніхто не хоча. Усіх ад працы адвучылі. Каб не дзеці, не кідаўся б шукаць тую бульбу — гары гарам жыццё такое, здыхай ад голаду гэтакая баба, лярва. Але ж дзяцей трэба карміць. Без бульбы не пражывеш. Вось і едзь, доктар Валетаў, пабірацца па людзях.

Са скрынак з яблыкамі скінуў сухую жоўценькую салому, зняў верхнюю скрыню, паднёс да люка, паставіў на падлогу. Жонка яшчэ была ў пограбе, і ён хацеў гукнуць, падаць ёй скрыню, але, успомніўшы-ўбачыўшы яе танклявыя ссінелыя рукі, падумаў, што цяжару гэтакага яна зноў не ўтрымае, і сам, аберуч абхапіўшы скрыню, пачаў спускацца ўніз. Калі ўсе яблыкі апусцілі ў пограб і жонка вылазіла наверх, ён праводзіў яе доўгім маўклівым позіркам, глядзеў на хударлявую вузенькую спіну, вострыя ружовыя каленкі, танклявыя белыя лыткі, таксама, як рукі, у сіняках, і зноў стала да болю шкада яе, ужо не як жонку — як маці сваіх дзяцей.

Пагасіў свечку і сам палез наверх. Калі зачыняў люк, нешта халоднае, калянае шарганула па карку. Разагнуўся і ўбачыў перад сабою вяроўку, якая звешвалася з бэлькі. Успомніў бацьку. Той памёр гадоў трыццаць назад, калі Васіль, закончыўшы ў Мінску медыцынскі інстытут, трэці год працаваў у родным гарадку хірургам. Са злосцю шпурнуў вяроўку, яе канец, на бэльку, адышоў да дзвярэй, сеў на дубовую калоду, на якой некалі секлі курэй ды качак, і зноў закурыў. Падумаў: чаму гэта ў апошнія гады амаль ніколі не ўспамінае маці і часта пачаў успамінаць бацьку? Здаецца, куды прыемней думаць пра маці. Яна, для суседзяў — цётка Аксеня, была такім ціхім, ласкавым, услужлівым чалавечкам, яе так паважалі ўсе, хто жыў у вуліцы, бываў у хаце, хто яе ведаў. І ён, яе Васілёк, любіў сваю маці. Жыццё пражыла, шануючы і Бога, і ўсё жывое, зямное і нябеснае. У хаце віселі абразы, у вялікім пакоі на покуці Тройца з лампадкаю — маці перад ёю заўсёды малілася. А бацька, яе Хвядос, вечна стаяў і супраць Бога, і супраць матчынай дабрыні. Розныя яны былі людзі, нічым не падобныя. Уся іх згода была ў тым, што маці вечна маўчала, баялася запярэчыць. Сэрца сынава засталося з маці, з яе ціхасцю і дабрынёю, бацька ўсё роўна як міма-бокам прайшоў-пракаціўся. Разам не шмат пажылі — таму, можа? Да вайны, калі Васіль быў малы, ды апошнія ў бацькавым жыцці тры гады. Астатняе — то вайна, бацька быў на фронце, то ягоная турма. Гарадок згарэў, як нашы адбівалі ад немцаў, агонь

выкаціў усю вуліцу, а чырвоная, з цэглы, пуня Валетавых засталася. У адной палавіне жыла сям'я, другую здалі ў арэнду. Райспажыўсаюз тут рабіў морс, бацька працаваў на морсе, і хутка яго пасадзілі. Даказалі, што краў сіроп. А яшчэ пры ім пачалі будаваць хату, вывезлі з лесу бярвенне. Як загрымеў за Чыту, дык і тое бярвенне ўкралі. За сіроп далі аж дзесяць гадоў, і хату ставілі без гаспадара, калі Васіль хадзіў у шосты, сёмы, восьмы класы. Ледзь вярнуўся іх арыштант — маці памерла, надарваўшыся. Пасля турмы бацька застаўся пад Чытою, не пажадаўшы дадому вяртацца, з'явіўся, калі зусім пастарэў, знясілеў, калі ўжо яго трэба было глядзець ды глядзець. Васіль бацьку не пазнаў: косці ды скура, шэры, на струп'і — ледзь рухаўся. Дзень пры дні, ад снегу да снегу, сядзеў на парозе пуні, смаліў цыгарку. Летам у пуні і жыў. Тапчан з сеннікам стаяў, столік, лаўка. З пуні міліцыянер яго вывеў, у пуню і вярнуўся, а ў хаце бываў адно ўзімку, у самыя злосныя марозы. Нават печачку зляпіў сабе ў пуні. Бывала, Васіль завядзе бацьку ў хату, пасадзіць за стол, каб разам паесці, дык той па-звярынаму, нібы сабака ў чужым двары, чагонебудзь пасёрбае, хапаючыся, нікому ў вочы не зірнуўшы, і назад у пуню. Усё роўна як баяўся сынавай хаты, яе цяпла. Як і сына баяўся, і нявесткі. Тады у Васіля была Валя, першая жонка, якую ён прывёз з Мінска. Вучыліся разам у інстытуце, і тут, у гарадку, яна працавала ўчастковым урачом. Першы год жылі, а ўжо і сынок з'явіўся, Ігарок. Васіль спадзяваўся, што, як падрасце Ігарок, у бацькі душа памякчэе, бо ведаў, як любяць старыя малых, як шмат у іх бывае агульнага. Ігарок падрос, а бацька не змяніўся. Які дзікі быў да сына, да нявесткі, гэтакі і да малога. Што камень. Ні слова людскага, цёплага, ні ўсмешкі, ні позірку ласкавага. А малы спачатку да яго ішоў. «Дзядуля!» — ручкі пухленькія расставіць, насустрач — топ-топ, нібы мядзведзік. Стары рукой лёгенька яго адпіхне, ні слова не сказаўшы, адвернецца і — у пуню. Так ад сябе адвучыў малога, што той ужо, як дзеда ўбачыць, адразу ў слёзы, увесь закалоціцца. Цікаўнасць у старога да жыцця маладых была, калі-нікалі гэта паказваў, але, паказаўшы, згортваўся, нібы п'яўка, змрачнеў ад злосці. У пуні, бывала, сядзе на парог, ці на калоду, ці на свой тапчан, доўга будзе сядзець, глядзець на вяроўку, што звесіцца з бэлькі, з пятлёй на канцы. А вяроўка вісела ўсё жыццё, колькі памятае пуню Васіль. На ёй у пограб апускалі бочкі, скрыні, падымалі наверх тыя самыя бочкі і скрыні. І як райспажыўсаюз быў, арандаваў

пуню, і пазней вісела. Бацька колькі тут жыў, столькі і бачыў вяроўку перад сабою, глядзеў на яе. Ці на штосьці іншае — праз яе? А Васіль хоць і памятаў вяроўку з маленства, думаць пра яе пачаў апошнія гады. Раней і бачыў, і як не заўважаў. А цяпер і ў хаце, бывае, сядзіць, а яе бачыць. Неаднойчы хацеў зняць, каб не вісела, але падыдзе, возьме ў руку і нічога іншага не прыдумае, як толькі закінуць канец на бэльку, каб не матляўся ў вачах. Праз колькі дзён глядзіць — зноў матляецца. Зусім быў адвязаў, кінуў у кут на падлогу, а яна зноў знайшла ранейшае месца. Бацька зноў павесіў. І Васіль яе ўжо не чапаў — хай матляецца.

Выйшаў з пуні, у кішэні курткі намацаў ключы і адчыніў гаражныя вароты, за якімі стаяў шэранькі «Запарожац». Машыну ён ганяў мала — ездзіць за горад не было часу, а па горадзе, на работу ды з работы, па магазінах прывык хадзіць пеша. Хіба толькі ў нядзелю, як сёння, садзіўся за руль.

З гаража зноў выйшаў на двор і стаяў, уставіўшыся на прыруб хаты, які зусім, здаецца, нядаўна, ужо без маці і яшчэ без бацькі, сваёй сілаю ладзіў, у самы першы год пасля інстытута, разлічваючы на вялікую і вечную сям'ю. Колькі было маладых спадзяванняў! Можа, самыя шчаслівыя ў жыцці гады. Хоць... ці шмат іх? Два, тры? Як адзін міг. Цяпер глядзеў на ганачак у сад, на філёнкавыя, з дзвюх палавінак, дзверы ў прырубе, пакуль не згледзеў, як жывога, нябожчыка бацьку на тым новым ганку, а згледзеўшы, да болю зажмурыў вочы і аж застагнаў. У наступную хвіліну ўжо не бачыў ні прыруб, ні ганак — аднаго бацьку. Стары стаяў на каленях перад дзвярыма, прыпаўшы да іх няголеным тварам, праз шчыліну ў ніжніх філёнках глядзеў у хату гэтак прагна, што не пачуў, як Васіль узышоў на ганак. Калі ж, ваўкавата азірнуўшыся, убачыў сына, мігам скаціўся з ганка, пашастаў кустамі за прыруб. Нічога не зразумеўшы, Васіль апусціўся на калені, на тое месца, дзе стаяў бацька, усунуўся тварам у дзверы, злавіў вокам тую самую шчыліну між рассохлых філёнак. У загусцелым вячэрнім прыцемку ў хаце разгледзеў белую печ, канапу, не пазнаючы, проста ведаючы, што там канапа, за ёю на сцяне дыван, на дыване двухстволку, «іжаўку». Але што на канапе? Падэшвы ботаў, дзве, насамі ўніз, на чорных абцасах белыя бліскучыя падкоўкі, за імі нешта мышына-шэрае, сіняе, гарбатае, голыя каленкі? Аберуч схапіўся за ручку дзвярэй, ірвануў на сябе з дзікай сілаю, ажно дзверы, якія былі з таго боку

на замку, вылецелі з лутак. Ускочыў у хату. Усё — шэрае і сіняе, голыя каленкі і боты на блішчастых падкоўках — загрымела на падлогу, і ўжо перад ім, Валетавым, стаяў капітан раённага ДАІ, вуграсты Чырвонец. Падцягваючы мышыныя галіфэ, ён ці то ўсміхаўся ў вочы, ці то крывіўся тоўстай нахабнай мордаю, і Валетаў быў кінуўся на яго, але, заўважыўшы, як з падлогі за спіной у гаішніка падымалася жонка, абсморгваючы на сцёгнах спадніцу, падскочыў да сцяны, дзе вісела «іжаўка». Жончын лямант шугануў да парога. Ускінуў стрэльбу — Чырвонца ўжо не было, а жонка якраз вылятала ў дзверы. Байкі шчоўкнулі, але стрэльба ні разу не грымнула. Пустыя ствалы? Патроны ляжалі на падаконніку, і Валетаў крутнуўся назад, згроб некалькі жоўценькіх латунных патрончыкаў, не памятаючы, што ў іх, шрот на зайцоў ці карцеч на ваўкоў, і са стрэльбаю, з патронамі ў жмені выскачыў за парог. Была, як цяпер, позняя восень, цямнела нечакана і хутка. Заклаўшы патроны ў ствалы, абагнуў хату і пуню, выйшаў на вуліцу, але нікога не ўбачыў. Вярнуўся назад. Ледзь пераступіў парог, як на печы бліснулі дзве іскрынкі — падкоўкі? Грымнула стрэльба. Нешта там здрыганулася і звалілася на падлогу. Каля ног, выпрастаўшыся, ляжала яшчэ маладая Нерпачка, любімая рыжая лайка. Валетаў застагнаў і ўжо не памятаў, як вываліўся з хаты, як па расквашанай дажджамі зямлі давалокся ў канец агарода, у сад да суседа. Схапіў стрэльбу за ствалы, ускінуў над галавою і гахнуў аб слуп. Абураная гэтакім жартам, стрэльба адказала громам, ажно Валетаў адкінуўся спіною да плота. Усярэдзіне запякло, і ён пачаў спаўзаць спіною па частаколінах. Упёрся нагамі ў гразкую зямлю і ўстаяў, не зваліўся. Блізка брахаў сабака. Гэта быў Джын — уродлівы, паміж дварняком і норным грыфонам, караткалапы гібрыд. Пазнаўшы суседа, Джын шоргаўся тоўстымі бакамі аб яго ногі, і сабачая адданасць сагрэла Валетава. Толькі цяпер пачуў парахавы смурод. Абмацаў сябе, агледзеў. Збоку, пад рукавом, была прапалена куртка. Стрэліла пад руку — сарваўся баёк? Падняў галаву. Па небе плылі нізкія шэрыя воблакі, а пад імі, каля сваёй хаты, стаяў Толік, глядзеў на Валетава.

Сусед быў глухі і нямы, што пень, ні слова нельга было ад яго пачуць, мычаў ды стагнаў, і Валетаў любіў заглядаць да яго. Нічога не чуючы і не кажучы, ён усё разумеў і гэтым быў вельмі падобны да свайго сабакі. Адна была паміж імі розніца: Джын глядзеў у вочы і прасіў, каб ты яму даў кавалак, а Толік у вочы глядзеў і гадаў, што даць, якім

кавалкам аддзячыць за тое, што ты завітаў да яго, забытага людзьмі і Богам глушца. Заводзіў у хату, наліваў шклянку віна ці гарэлкі, выкладаў на стол батон варанай каўбасы. Працуючы грузчыкам у тым самым райспажыўсаюзе, дзе бацька Валетава некалі пасля вайны краў сіроп, ён развозіў па магазінах на грузавіку то скрынкі з гарэлкаю, то каўбасы з мясакамбіната, і калі вяртаўся з работы, пляшку гарэлкі і батон каўбасы кілаграмы на два кожны дзень нёс у брудным рукзаку за плячом. Іншы надышоў час — змяніліся норавы і правілы жыцця. Нёс ён, неслі ўсе, хто што мог, і ўжо нікому не гразіла ні дзесятка, якую некалі схапіў стары Валетаў, ні нават цікавасць паставога да твайго рукзачка, што там у ім, бо з гэтакім, калі не большым, рукзачком на плячы цяпер хадзіў кожны чалавечак, які хацеў жыць і есці. Нават і сам паставы.

Са стрэльбачкаю, што паказала свой люта-справядлівы нораў, Валетаў падышоў да Толіка, пальцам шчоўкнуў па горле, і той яго зразумеў без слоў — завёў у хату і з рукзачка, што вісеў на цвіку, выставіў на стол яшчэ не адкаркаваную пляшку рускай горкай. Сядзелі доўга. Толік падліваў Валетаву, мычэў, паказваў на стрэльбу, якая стаяла ў куце разам з качэргамі ды гаршчэчнікамі, на акно, як на ўвесь свет, з агідаю да нечага далёкага крывіў, нібы твані наглытаўшыся, твар і ўсё махаў рукою, як адганяў яго ад сябе і ад Валетава, суцяшаў, разумеючы бяду суседа і молячы, каб не браў да сэрца, да галавы. У Толіка Валетаў і заначаваў, п'яны зваліўшыся на канапу за печчу. Пакуль яго не было дома, з'явілася жонка, апранулася, пабрала такія-сякія шмоткі ў сумку, трохгадовага Ігарка — на рукі, і паехала да бацькоў у Магілёў. У тую ж восень яна кінула работу і падала на развод, зразумеўшы, што жыць разам пасля ўсяго, што адбылося, не змогуць. Не вінілася, не прасіла даравання, ні ў чым і яго не вінаваціла, адрэзала, як нажом, і ён таксама адрэзаў, як тым самым нажом. Аднак Ігарок у сэрцы застаўся. Ігарка, першынца, Валетаў забыць не мог.

Цяпер, успомніўшы суседа, падумаў, што з ім трэба дамовіцца, каб наладзіў сваю бензапілу ды парэзаў дровы. Падышоў да сцяны, на якой віселаануча, узяў яе ў рукі і замёр: гэта ж была летняя Валіна сукенка, якую прывёз ёй з Мінска, калі ездзіў на з'езд хірургаў. Уткнуўся ў сукенку тварам, моцна, да болю зажмурыў вочы, як баючыся, што з іх шыбануць слёзы. У вачаў зноў бліснулі падкоўкі Чырвонца. Страсянуў галавою, скамечыў старую сукенку і выкінуў з гаража.

— Тата, ідзі снедаць,— пачуў Віцеў голас.

— Іду, сынок,— адгукнуўся паспешліва, нібы чакаў гэтага голасу.

На кухонным стале ў каструлі ўжо стаяла, грэла паветра духмянай параю бульба, у місцы чырванелі дробныя познія памідоры, якія ён купляў, ідучы з работы, на рынку.

Паглядзеў на стол і не стрымаўся:

— Хоць яешню спячы. Дзяцей накорміш поснай бульбаю?

І тады, першы раз за апошнія дні, развязаўся язык у жонкі:

— А дзе тыя яйкі? Сама знясу?

— Восень. У людзей капуста і гуркі.

— Трэба купіць качаны, тады будзе капуста.

Ён замоўк. Тыя качаны — капейкі, але ж і капейкі адкуль у яе, каб купіць? Яна нідзе не працавала, а ён ёй не даваў ні рубля, нават на хлеб і малако, сам па крамах хадзіў, купляў харчы і не харчы, хоць усюды і не паспяваў.

— Парэж каўбасу.

— А я ведаю, што гэта за каўбаса?

— Не чужая, калі ў сваім халадзільніку. Ад Ліструціхі прынёс.

— Зноў з радыяцыяй?

— З'ясі якая ёсць. Усе ядуць і жывыя.

Дзён дзесяць назад было, што суседка прынесла з камбіната кракаўскую каўбасу, а пасля, як з'елі, прыбегла сказаць, каб сабаку выкінулі, бо Масква вагон гэтай самай кракаўскай забракавала — высокая радыяцыя. З'елі — не падохлі. А калі ўжо тут і рабілі чыстыя каўбасы? Адкуль будуць чыстыя, калі жывёлу на забой возяць з зоны, дзе ні людзям, ні жывёліне жыць нельга? Чатыры гады трубяць пра высяленне ўсяго жывога, а пад размовы і сеюць, і жнуць, і жывёлу гадуюць у забруджаных цэзіем ды стронцыем вёсках.

Жонка парэзала каўбасу на патэльню, разбіла ў яе два яйкі, а Валетаў з'еў бульбіну з памідорынай, не сядаючы за стол, стоячы, запіў шклянкаю старога, ужо загарчэлага кіслага малака, выцер рукою вусны і зноў выйшаў на двор. Некуды страшэнна хацелася вырвацца з хаты, нібы з турмы, і ён завёў машыну — выехаў на вуліцу.

Калі зачыняў вароты, падышоў сын:

— Ты куды едзеш?

Дастаў з кішэні траяк:

— Паснедаўшы, збегай у магазін. Купі малака і хлеба.

Чаго-небудзь белага. Які батон. А я з'езджу ў вёску. Ды глядзіце тут з Зінай матку. З хаты не выпускайце.

Сын надзьмуўся. У гэтакі дзень, вольны ад школы, яму хацелася бегчы да хлопцаў, на Сож з вудамі, і ён заславаў:

— А я ёй не пастух.

— Ты не пастух, але ўжо не малы. Трэба дык трэба.

Разы два ў месяц, у суботу ці нядзелю, доктар Валетаў, Васіль Паўлавіч, ці проста Палыч, як яго звалі, нізка кланяючыся, былыя і будучыя пацыенты, хворыя і часова здаровыя, рабіў выезд па вёсках, ці, як казаў сам і як казалі ў сям'і, аб'езд. Кожны ягоны аб'езд дома лічылі як бы бацькавым абавязкам, і калі хто-небудзь у гэтакі дзень тэлефанаваў, пытаўся доктара Валетава, ці падымаўся на ягоны ганак, сямейнікі адказвалі даўно завучаным: «У аб'ездзе»,— што гучала заўсёды, нават на язычку ў малой Зіны, важка, быццам ён, Валетаў, быў на рабоце. Адказ пераконваў і тых, хто аб'езд разумеў як ад'езд, скажам, у камандзіроўку, і тых, хто не разумеў, што такое аб'езд, паколькі Валетаў быў усё ж доктарам, хірургам раённай бальніцы, а не лясным аб'ездчыкам.

Вуліца, на якой жыў Валетаў, бегла з гары пад адхон, ад цэнтра райгарадка да Сажа, і, павярнуўшы гарбуна, як зваў Валетаў сваю машыну, налева, не мог разагнацца адразу, газаваў на гару моцна ды ехаў ціха. Пакуль ехаў, бачыў усё, што рабілася на вуліцы. Заўважыў сына, які самотна стаяў ля варотцаў, па-даросламу плечуком падпёршы жалезны слуп, напэўна, зайздросцячы бацьку, што той можа сесці ў машыну і на ўвесь дзень паехаць; бачыў Зіну, якая ўсунулася ў шыбку, расплюшчыўшы на ёй і без таго таўсценькі носік, махала бацьку ручкай; жонку ўбачыў няясна, бо яна да акна не падышла, стаяла ў пакоі воддаль, каб ён не заўважыў, але ён заўважыў яе ў мутным кухонным паветры і падумаў: радая, што мужык паехаў. На другім баку вуліцы згледзеў старую Лістраціху, несла суды вады з калодзежа, і ўсміхнуўся: дачка ўдалую клізму зрабіла, што ўжо з поўнымі вёдрамі. Далей сустрэў старога Цодзіка, які ўставаў раней за ўсіх суседзяў, адчыняў і гандаль на вуліцы, і ўсякі іншы ў гарадку рух. Некалі Цодзік рабіў у нарыхтоўчай канторы, крамка яго стаяла на старой рыначнай плошчы, гадоў дваццаць назад разабранай раённым начальствам пад асабнякі, і тая крамка прывучыла рана ўставаць, быць на рынку ўжо тады, як з вёсак прыязджалі першыя мужыкі і бабы, каб першы тавар з іх кошыкаў трапіў яму ў рукі.

Даўно не было той крамкі, таго рынку, а Цодзік і цяпер нешта валок у пузатай сумцы.

Валетаў яшчэ раз, ужо на плошчы, насупраць помніка правадыру ўсіх народаў павярнуў налева і спыніўся каля піўнушкі. Піва ў горадзе прадавалі адно тут, і мужчыны сабраліся, як на мітынг. Падышоў, а перад ім — Толік, сусед. Узяў за руку, адвёў убок, кулаком перад сабою туды-сюды павадзіў, нібы пілуючы,— той адразу ўсё зразумеў: заківаў галавой, замычаў, паляпаў Валетава па плячы, і гэта азначала, што дровы ён папілуе. Яшчэ і па горле сябе шчоўкнуў. Валетаў паказаў на гарбуна, маўляў, за рулём не вып'еш, але змікіціў, што піва няблага ўзяць з сабою, калі знайсці слоік. Толік і гэтыя яго думкі прачытаў: збегаў некуды за піўнушку і прынёс трохлітровы слоік, падаў праз галовы. Белая поліэтыленавая накрыўка знайшлася ў машыне. Валетаў сунуў Толіку два рублі, але той рашуча адмахнуўся.

Праехаўшы метраў сотню, звярнуў на абочыну, вылез з машыны і стаяў звесіўшы галаву, думаючы, што далей рабіць. Не, ён не спыніўся абы-дзе і абы-чаго. У падвале трохпавярховага дома насупраць размяшчалася кацельня камунгаса, і туды трэба было зайсці. Але вакол разлілася багна. Ляжала, праўда, і дошчына да падвала. Ступіў на кладку, яна ўвагнулася, захлюпала у гразі, але да сцяны прайшоў, спусціўся ў падвал. Насустрач дыхнула гарачынёю катлоў, смуродам каменнага вугалю, шлаку. За вялікімі чыгуннымі дзверцамі гуло полымя, на лаве за апошнім катлом у ватоўцы і ботах ляжаў, накрыўшы твар кепкаю, чалавек. Побач стаяў стол, на ім — пустая, з-пад віна, пляшка і шклянка. Чалавек, пачуўшы Валетава, ссунуў з твару кепку, усхапіўся і залыпаў ад агню чырвонымі, нібы ў труса, вачыма.

— Мне патрэбны Шчыгол,— сказаў Валетаў.— Калі яго змена?

— Я Шчыгол. А што? — прахрыпеў чалавек.

— Ты-ы?..

Галава Валетава смарганулася назад, усё роўна як чагосьці збянтэжыўся, але ў наступнае імгненне нос драпежна завастрыўся, Валетаў зрабіў крок наперад, яшчэ крок, набліжаючыся да чалавека. Смярдзючы шлакавы пыл казытнуў у носе — моцна, ледзь паспеўшы схаваць нос у кулак, чыхнуў. Пацверазеўшы ад раптоўнага чыху, вымавіў:

— Ну дык я Валетаў.

Чалавек нервова грукнуў ботам у бетонную падлогу,

грукнуў другім ботам і, адкашляўшыся, не ўстаючы з лаўкі, адказаў:

— Хто не ведае? Шлунак кожнага ў руках у Валетава.

Малінавая чырвань ад катлоў гуляла па твары Шчыгла, адганяючы змрок падвала, высвечвала няголены твар з усіх бакоў, і Валетаў чым даўжэй у яго ўглядаўся, забыўшы, чаго прыйшоў, ловячы пад малінавым падманам сапраўдны твар, тым мацней здзіўляўся не ягоным гадам, а зношанасці, кароглівай шэрані, пабітай глыбокімі маршчынамі.

— Ну дык вось што, стары...

Чалавек не даў дагаварыць:

— Гэтакі, як ты сам. А можа, маладзейшы.

— Колькі ж табе? Дзесяткаў шэсць?

— А сорак не хочаш?

— Сорак?..— Валетаў зачмыхаў, як не давяраючы вушам і носам ловячы ісціну. Шчыгол адчуў яго няўпэўненасць і ганарыста заўсміхаўся. Гэта яшчэ мацней узлавала Валетава.— Ну дык... Вось што, гнілы кавалер. Твае вантробы сапраўды ў маіх руках. Сёння я аб іх рукі пэцкаць не буду. А наступным разам гніллё з цябе вытрасу. Ты мяне зразумеў?

— Зразумеў, доктар,— працадзіў той праз моцна сціснутыя зубы, але не памкнуўся ўскочыць на ногі, нават не варухнуўся, наадварот — асядаў разам з лаўкай у зямлю, у падлогу, ніжэў, ператвараючыся ў шэрую купіну.

Валетаў павярнуўся і пайшоў на цьмянае святло ў дзвярах.

Далей па гарадку не ехаў, а ляцеў, усё роўна як за ім гнаўся той смурод і ён ад яго ўцякаў. Насустрач абапал дарогі ішлі людзі, сярод іх, напэўна, былі знаёмыя, але ён не бачыў твары, бачыў адны постаці, нават не постаці ў вопратцы, а ўсё такое, як на аперацыйным стале, бела-шэра-чырвонае, адны як бы вантробы, выкінутыя з вопратак пад хірургічны нож Валетаву, і ў галаве выбліснула думка, што людзі, пакуль жывуць і ходзяць, ганарацца сваім здароўем ды прыгажосцю, а яны калі і здаровыя, калі і прыгожыя, дык усяго на момант і астатняе іх жыццё — смурод, гніллё.

Выскачыўшы за горад, не аб'язджаючы ў асфальце ямін, налітых вадою, гарбун нёсся ўжо між прысад. За абочынамі дарогі ляжалі палі, воддаль праплыў шэры цагляны дамок былога аэрапорта, у якім з мінулага года прадавалі віно і гарэлку. Валетаў звярнуў на абочыну, рэзка затармазіў. Як пакаўзнуўшыся, гарбун пайшоў юзам, правае задняе кола занесла, ударыла аб прыдарожны камень, але ранейшая

хуткасць язды да гэтага часу пагасла і, тузануўшыся, злёгку кінуўшы свайго гаспадара плячом у шкло дзвёрак, гарбун стаў. Валетаў зняў рукі з руля на калені, плячыма адкінуўся назад і ў млосці, у неверагоднай, усю раніцу чаканай палёгцы заплюшчыў вочы. Толькі цяпер убачыў перад сабою той шэры дамок у полі, тыя, з усіх бакоў магазінчыка, лужыны, акенца, праз якое давалі віно і гарэлку, дзверы, у якія нагамі і кулаччам грукалі ўсе, хто не хацеў стаяць ў чарзе, чаргу, сапхнутую ў лужыну здаровымі дэгенератамі, якія ўвесь дзень, нібы кабялі, кружылі вакол шэрай крамкі, і першы раз не пашкадаваў, што праехаў міма.

Пашкадаваў, што заехаў да Шчыгла. Бо што даказаў? Ці прапітай мордзе дакажаш? Але ж і не заехаць не мог. Заехаў — добра зрабіў. І што пагаварыў.

Два дні назад, калі ўжо сцямнела, познім вечарам Валетаў ішоў з работы разам з хірургам абласной бальніцы, праводзіў яго ў гасцініцу, і ля качагаркі ў цемені яны ледзь не сунуліся на жанчыну, якая ляжала на дарозе. Валетаў чаравікам падчапіў яе ногі ў гумовых боціках, адкінуў, каб не замінала людзям, прайшоў далей, а хірург з вобласці, вялікі гуманіст, схіліўся над п'янаю, узяў за руку, хацеў падняць і сам ледзь не загрымеў у гразь, пакаўзнуўшыся. То была жонка Валетава. Госцю ён гэта не сказаў, а сам, правёўшы яго да гасцініцы, прыйшоў дадому і месца сабе не знаходзіў. Вярнуўся туды, дзе яна валялася,— яе ўжо не было. Пасля знаёмыя перадалі, што нехта бачыў яго жонку ў качагарцы, як піла віно са Шчыглом. А тады, не знайшоўшы яе, зноў завітаў з дзвюма кішэнямі яблык у гасцініцу. Абласны хірург ужо сядзеў за сталом, расклаўшы на газеце вараную пячонку, хлеб, салёныя гуркі. Запрасіў да стала і пляшку медыцынскага спірту паставіў. Трымаючы ў руках шклянкі, маўчалі. Абодва пра адно думалі. Абласны хірург — пра п'яную бабу, якая валялася на дарозе ў гразі, Валетаў — пра жонку, тую самую бабу. Выпіўшы, госць грукнуў дном пустой шклянкі аб стол і закрычаў, як перад канцом свету:

— Спілася краіна! Чуеш?.. І Гарбач яе з гаўна не выцягне! Калі ўжо маткі співаюцца — канец усяму, Валетаў!..

Штосьці яшчэ гаварыў гучна, з захлёбам, нібы яго нарэшце прарвала пасля доўгага маўчання, усе словы кідаў да Валетава, быццам ён, правінцыя, гэтага не разумеў, не мог прабіцца да ісціны сваім балотным розумам, а Валетаў устаў з-за стала, адышоў да акна і глядзеў у чорную начную шыбку, далонню заціснуўшы вочы. Там, дзе абласны хірург

бачыў краіну, народ, усё такое гучнае і агульнае, ён, Валетаў, бачыў жонку, а дзе яе — там і дзетак, Віцю і Зіну. Госць мог гаварыць пра краіну доўга, мог зрывацца на крык, на мат-перамат, а ў яго, Валетава, не было ўжо ні абурэння, ні слоў, усё гэта з яго даўно выбегла, як выбягае кроў з дзіравага чалавечка.

Цяпер ён сядзеў у гарбунчыку і праз шкло дзверцаў глядзеў у поле, дзе стаяла шэрая крамка. Бачыў замглёны адлегласцю дах, падпёрты знізу, ад зямлі, людскім штыкетнікам, як той штыкетнік варушыўся, кружыў, быццам вакол крамкі кружыла жывое кола. Валетаў неаднойчы прыязджаў па гарэлку і ведаў, што там рабілася. Адчыняліся белыя дзверы — да іх кідаўся натоўп, адчыняліся чорныя — той самы натоўп кідаўся да чорных, адчынялася закратаванае, нібы ў турме, акенца — усе гуркалі да акенца. Таўстая цыцкастая крамшчыца ў залітым вінам халаце была вышэйшым законам, магла прадаваць і не прадаваць, магла за кожную бутэльку браць колькі хацела. Па віно і гарэлку прыязджалі рознага калібру раённыя начальнікі, рэвізоры і міліцыянеры, яна іх ведала, пускала ў краму праз чорны ход, выпускала праз белы, і людское кола прагна кідалася ад адных дзвярэй да другіх — гэтак ад раніцы да вечара і мясілася вакол крамы гразь. Нават Валетаў, чалавек тутэйшы, даўно звыклы з малюнкамі мясцовага жыцця, не пераставаў здзіўляцца, чаму ўлады выкінулі продаж гарэлкі з горада ў поле? Вядома, тут гэтыя куплю і продаж ніхто не бачыў, акрамя сваіх дзікуноў, якія за пляшкаю гатовы задушыцца хоць у якім балоце.

Валетаў выехаў на дарогу. Супакоіўшыся на абочыне, ужо не газаваў, як дагэтуль, часцей прытарможваў і аб'язджаў яміны, успамінаючы пра падвескі і звязаны дротам глушыцель, які ад калатнечы мог зусім адваліцца.

I дарогі, і ўсё навокал заплыло гразёй і вадой, бо з неба ліло лета і восень, апошні месяц рэдкі дзень выдаваўся без дажджу. Але за гэтую ноч неба распагодзілася, хмары сплылі, зямля абветрылася, зачарсцвела, паветра пасушэла, усё роўна як і марозік падкраўся блізка. Раніцай нясмела выбліснула сонца, паднялося над зямлёй і цяпер аж сляпіла праз лабавое шкло. Асфальт на дарозе святлеў, абсыхаючы, ад яго падымалася пара, святлелі дрэвы ў камлях, яшчэ ўчора шэрае і чорнае лісце на зямлі запалала жаўцізною і чырванню; у паветры заіскрыліся срабрыстыя нітачкі,

шкло зазіхацела, нуда і шэрань спаўзлі з душы, пасвятлела не толькі ў вачах, але і ў думках, і Валетаў успомніў, што сёння Пакровы Святой Багародзіцы.

Гэта свята восені з маленства жыло ў памяці раўнавагаю, светлай надзеяй. А ішло адчуванне ад маці. Яна заўсёды да Пакроваў падганяла скапаць і засыпаць у пограб бульбу, прыбраць буракі і моркву, яблыкі ў гэты час ляжалі ў скрынях, пляцёнкі цыбулі віселі за печчу ў хаце, ад качаноў за хлевам з градаў тырчэлі адны качарыжкі, хоць шаткавалі капусту з першымі маразамі, пазней. З-за Сажа, з Радзімцаў, матчынай вёскі, на кані прыязджаў дзядзька Ерафей, высокі і хударлявы, лысы ад лоба да патыліцы, галасісты, як звон. Прывязаўшы каня да шула варот, з белай лазовай кашолкай, накрытаю ручніком, ён заходзіў у сенцы, здымаў лапці, ставіў пад лаўку, з меха, які трымаў пад пахаю, даставаў юхтавыя боты, абуваў і толькі пасля гэтага ішоў у хату. Пераступіўшы парог, казаў зычным голасам: «Пакроў-бацюхна, пакрый зямельку сняжком, малых дзетак цяплом, дзеўку моладу жанішком». Сястра Валетава, старэйшая за яго, Волька, дзяўчына ладная, на выданні, як казалі, залівалася чырванню, сарамяжліва хавалася за печ, усё роўна як дзядзька пра яе казаў, а той працягваў: «Бацюхна Пакроў, нагрэй хатачку без дроў, дзетак малых накармі, людзей старых паміры». Зняўшы з кашолкі ручнік, не спяшаўся дастаць гасцінцы, нешта кажучы, жартуючы, а ўжо Васіль з нецярплівасцю пазіраў на кашолку, гадаючы, што за гасцінцы прывёз дзядзька Ерафей, ужо і сястра не магла ўседзець за печчу, выходзіла са свае схованкі. Дзядзька даставаў шапку жоўценькіх яек, у белую анучку загорнуты сыр, свежыну, бо першага кабана заўсёды біў на Пакровы, вялікія салодкія грушы, бэры, якіх Валетаў з таго часу нідзе ні ў кога не бачыў, мяшэчак з арэхамі-лузганцамі. І хай сабе ў хаце былі свае яйкі, бо маці трымала курэй, хай былі арэхі, па якія Васіль хадзіў з сястрою за Сож, усё роўна то былі вельмі дарагія гасцінцы. Маці пачынала збірацца ў царкву, а дзядзька садзіўся на лаўку і расказваў, якія Пакровы бывалі раней, калі ён яшчэ быў хлопцам, як вёска, усё да гэтага часу парабіўшы ў полі і ў гародах, гуляла вяселлі.

Дзядзька сваё згуляў таксама на Пакровы яшчэ за царом Мікалаем. Успамінаў сваю Кацярыну, яе русявую касу, вялікія сінія вочы, вышываныя строі. І як яна казала: «Ерахвеюшка, мілок, выкраў Кацю ў Пакравок». На гэтым дзядзька замаўкаў, выходзіў у сенцы і там, прысмаліў-

шы доўгую, з газеты, цыгарку, ціха чакаў сястру. З малебна ён у хату ўжо не заходзіў. Падбіраў з-пад каня недаедкі сена, забіраў лапці і ехаў на кірмаш, які раней заўсёды збіраўся на Пакровы. Там ці што прадаваў, ці што купляў, абавязкова браў чарку і вяртаўся ў вёску.

За думкамі пра тое даўняе жыццё Валетаў ледзь не праскочыў паваротку налева, але паспеў скрыгатнуць тармазамі і звярнуць на брук, скаціўся з гары да Сажа. Тут стаяў калгасны паром, збіраўся адчаліць ад берага, каб перакінуць на той бок трактар з прычэпам, і Валетаў якраз паспеў. За Сажом, газуючы, падняўся на гару паперадзе трактара, заехаў у старыя панскія ліпы, і ў ліпах спыніўся, выйшаў з машыны. Трактар нізам, паўз бераг, патарахцеў у процілеглы бок на ферму, яго тарахценне за гарою заціхла, і Валетаў, агледзеўшыся ў сонечнай яснасці і цішыні, упершыню за апошнія дні адчуў, як з душы спаўзае каменны цяжар, робіцца лёгка, вольна. Расшпіліў балонневую куртку, зняў з галавы і кінуў на капот зялёны капялюш, развёўшы рукі ў бакі, выпрастаўся, глыбока ўдыхнуў чыстае паветра, аж у грудзях хрумснула, і заўсміхаўся назло ўсяму нялюдскаму свету, які вечна варожа, здавалася, глядзеў на яго. Нават і куртку скінуў пад ногі, на залатое дубоваліпавае лісцейка, застаўся ў світэры. Пайшоў і пайшоў паміж старых ліп па чыстым, як у парку, дыване. Спыніўся, убачыўшы насупраць блакітны дамок з белымі вокнамі, з пеўнікам на вільчыку. Жывы певень закукарэкаў на двары за шчыльным высокім плотам, за варотамі, таксама, як увесь дом, у блакітную фарбу: галасісты, мабыць, пры дружнай курынай чародцы. А над шыферным дахам з чырвонага коміна цягнулася сіняя ў белым высокім небе стужка дыму. Усё тут дыхала ўтульнасцю, мірам ды ладам, і таму не грэх было пастаяць ды палюбавацца, з зайздрасцю адчуваючы, як некаторыя людзі нават на велізарным, што цяпер у дзяржаве, сметніку ўхітраюцца жыць па-людску. А потым вярнуўся да машыны, ускінуў на плечы куртку, капялюш шпурнуў на задняе сядзенне, сеў за руль і пад'ехаў да таго самага блакітнага дамочка.

Вылез з гарбуна — якраз і варотцы рыпнулі, з іх выйшаў стары з ружовенькім, нібы ў падлетка, тварам.

— Ці не да Шурыка? — углядаючыся ў Валетава і баючыся памыліцца, спытаў.— Ужо ён на пчалярні. Прачнуўся — адразу на лісапету. Не емшы.

— Людзі сёння да Бога ідуць, Пакровам песні пяюць, а ваш сын да пчолак? — як здзівіўся Валетаў.

— А работа — ніколі не грэх. Колькі гадоў бадзяўся па свеце, армію адслужыў, на Поўначы лес карчаваў, на чыгунцы, у ОРСе, грузіў вагоны, шафярыў у калгасе, а ўсё яму было не ў нораў. Бегаў-лётаў, пакуль не заарандаваў калгасную пасеку. Кажа, што пчолкі па душы.

— Першы год?

— Ды ўжо трэці. За калгасам шэршні пчолак з вуллякоў павыбівалі, а Шурык за два гады пасеку на ногі паставіў. Цяпер, паеўшы мядку, старшыня круціць-муціць, каб пчолак назад забраць. Суд будзе мірыць.

Валетаў пазіраў на старога з таемнымі думкамі. Як атрымалася, што першы раз бачыліся? Дарога даўно знаёмая, хата вочы намазоліла, ведаў за Сажом ледзь не кожнага чалавека, як і яго, доктара, усе тут ведалі, але не ўяўляў, хто ў гэтай хатцы жыве. І старога ні разу нідзе не бачыў, і яго Шурыка. Той па свеце цягаўся? Ну а ён, стары? Тут — увесь век? На мядку чырвоненькі — хваробы не точаць, да дактароў не звяртаецца?

— А што восенню з пчоламі рабіць? — спытаў Валетаў.— Вось... зіма блізка.

— Да зімы іх трэба сабраць. Кожную кватэрку дымком абмыць, уцепліць, каб не памёрзлі.

Валетава цікавіў Шурык, а не пчолы і не стары. Пчолы былі ў Шурыка. І мёд у Шурыка. І, акрамя таго, Шурык раней за бацьку знайшоў бальніцу. Тыдзень назад збіралася ВТЭК, і ён, Валетаў, член камісіі, трымаў у руках яго паперы. Малады, а ўжо страціў палову шлунка. На камісію не з'явіўся, і яго самога Валетаў не бачыў. За пчоламі не выкраіў часу? Калі праглядаў здымак, падсела медсястра, шапнула на вуха, што шлунак належыць пчаляру, а пчаляр мае мядок. Пачутае запамятаў і цяпер не мог праехаць міма хаткі ў ліпах.

— А ці ведаеце вы мяне? — спытаў.

— Ну а як жа? — здзівіўся пытанню стары.— Доктара ды міліцыянера хто не ведае? Турма ды хвароба над кожным чалавекам крумкаюць.

Валетаў аж усклікнуў:

— Во як!.. Доктара з міліцыянерам раўняеце?

— А ці я няпраўду кажу?

— Ну... яшчэ вы глядзіцеся — ні на турму, ні на хваробы.

— Ды я сваё пажыў. Сын, Шурык...

Гэтай занепакоенасці Валетаў якраз і чакаў:

— Я трымаў у руках здымак вашага сына. Трэцяя група, можна сказаць, свеціць. Але...

Знарок не дагаварыў, каб чалавек гадаў і не здагадаўся, што ён, Валетаў, меў на ўвазе, выгукнуўшы сваё «але», каб яно, загадкавае, тузала, як скабка пад скурай. Павярнуўся да старога спіною і пайшоў да машыны. Стары ўжо бег за ім:

— Дык што — але?.. Га, таварыш доктар?..

Валетаў прыпыніўся, азірнуўся і ў адказ кінуў, быццам не пачуўшы пытанне, гэтакае, каб яснасці не паболела, скабка пад скураю тузала:

— Перадайце сыну, што Валетаў цікавіўся пчолкамі.

Ужо выехаўшы з-пад ліп на дарогу, падумаў: можа, варта напрамкі — пра мядок? Каб прадалі за грошы? Але ж і стары не дурань, век недарма пражыў — павінен здагадацца, чаго хацеў доктар? А не ён, дык здагадаецца сын. Вушлы, мабыць, калі свет далёкі аб'ездзіў і ля бацькавага боку да мёду прыляпіўся.

Валетаў выехаў на дарогу, што вяла ў Радзімцы. Апошні раз праязджаў тут на гарбунку месяц назад, тады дарога, як і год, і два таму, ляжала перакапаная. Яе будавалі гадоў пяць, і ўражанне было такое, што перакапваць умеюць, а як замасціць — развучыліся. Панавозілі горы пяску, камення, і праезду не было, адны аб'езды, вадою залітыя. І вось — асфальт. Гадамі пясок перакідвалі з месца на месца, а тут за адзін месяц паклалі асфальт — раўнюткі, свежы, пахнуў агнём і гудронам. Ну, не дзіва? Гарбун каціўся весела і не хацеў зварочваць. Але прыдарожная стрэлачка, таксама новенькая, сіненькая, паказала ўбок на Лапацічы, і Валетаў яе паслухаў — звярнуў.

У Лапацічах звычайна пачынаўся ягоны круг — аб'езд. Вёска была невялікая, меншая за суседнія Радзімцы, але кантора лесапункта, лясніцтва, ДБЗ (домабудаўнічы заводзік, што рабіў сталярку і блокі з дошак, шкловаты і плоскага шыферу для зборных домікаў), орсаўская, ад леспрамгаса, крама, сталоўка, таксама орсаўская, вылучалі яе з усіх навакольных вёсак. А яшчэ яна была вядомая тым, што тут апошнія чатыры гады пачыналася радыяцыйная зона. Гарадок, дзе жыў Валетаў, не трапіў у зону, блакітны дамок пад ліпамі таксама не ў зоне, а Лапацічы ў зоне, і гэтае слова — зона — было, можна сказаць, другой назваю вёскі. Пра радыяцыю гаварыць тут стаміліся, але Валетаву і цяпер яшчэ расказвалі, як у першыя дні мая восемдзесят шостага года, калі зямля ажывала пасля зімовых халадоў,

усё цвіло, набрыняла цеплынёй і духмянасцю, ноччу, пад раніцу, пачуліся выбухі, нібы над галовамі рваліся снарады ці ракеты. Пайшоў дождж, у вокны забарабаніў град, лёд з неба сыпаўся буйны, як боб. А раніцай прыгрэла сонейка, і па вёсцы заблішчэлі сінія, з зялёнымі ды ружовымі беражкамі лужыны. Дзеці высыпалі на вуліцы голенькія, лезлі ў каляровыя лужыны і рагаталі, шчаслівыя. І толькі пазней вёска дачулася, што за шчасце разлілося ў яе пад вокнамі. Ліло з хмар, якія плылі з Чарнобыля на Маскву і якія вялікая сталіца да сябе не пусціла, расстраляла ў небе над гарапашнай беларускай зямелькай — хмары і абрынуліся казачна-каляровым дажджом. Тады загаварылі пра радыяцыю, ёд ды цэзій. І ўжо калі тутэйшыя людзі прыязджалі ў райцэнтр, іх называлі то Цэзіямі, то Цэзарамі. А як дазналіся, што Цэзарам быў імператар старажытнага Рыма, магутны цар, усе зрабіліся Цэзарамі. Адбылося гэтак, мабыць, яшчэ таму, што Лапацічы здаўна любілі жарт, вясёлы нораў. А паколькі жарт між нармальных людзей далёка коціцца, то свае Цэзары з'явіліся ў Радзімцах, Халмянцы, Чудзіках, Маліне. У Радзімцах адбыўся выпадак, калі чалавек атрымаў новы пашпарт і ў графе аб нацыянальнасці было напісана — Цэзар. Пісарчук у пашпартным стале памыліўся? Ці палічыў, што з'явілася новая нацыя? Цары — Цэзары? Усе — цары? І царства — зона.

Дарога, прывёўшы ў Лапацічы, заканчвалася каля крамы. Тут быў самы цэнтр вёскі, і амаль кожны, хто прыязджаў, ля крамы спыняўся.

Перад ганкам ляжаў вытаптаны машынамі, людзьмі і коньмі мурожны пляц, ускрай якога, абгінаючы краму, з лесу ў Сож цёк ручай, кімсьці названы Вялікай Калымою, бо ў канцы вёскі была і Малая Калыма, альбо Калымка,— таксама ўпадала ў Сож. Ручай у сухмень драбнеў, паўнаводна шумеў у дажджы, асабліва ўвесну ды восеньскую залеву, і каля крамы быў масток праз Вялікую Калыму. Ручай дзяліў вёску на дзве палавіны, а драўляны, бярвенцамі ў накат, масток тыя палавіны злучаў, і ўсё гэта ў апошнія гады для Лапаціч мела важны сэнс, бо Вялікая Калыма дзяліла вёску на зону і не зону, на брудную і нібыта чыстую, а масток злучаў брудную зону з нібыта чыстай не зонай. Мяжу ўстанавіла, магчыма, рота хімікаў, якая стаяла ў палатках на Сажы, бо ўсе казалі, што гэта вайсковыя хімікі знайшлі ёд і цэзій на правым беразе Вялікай Калымы, дзе большая палова вёскі, і не знайшлі на левым беразе, дзе хат мала, але стаялі завод і лесапункт з лесаскладам. Ну, а што

за рота? Яе ўкамплектавалі запаснікамі, якіх вёска называла партызанамі, бо вайсковага выгляду яны амаль не мелі, хадзілі вахлакаватыя, доўгавалосыя, камандзіраў дужа не слухалі і рабілі што хацелі: пілі гарэлку, цiскалі дзевак, глушылі рыбу, кралі курэй, шасталі па садах ды градах. Два гады з гакам без ахвоты, загараючы, рабілі ў вёсцы дэзактывацыю — высякалі хмызы, перарывалі зямлю, вывозілі яе за вёску ў ямы, у тыя ж ямы скідалі старыя платы і хлявы, сцягвалі з дамоў брудныя дахі, клалі новы шыфер, двары і вуліцы засыпалі пяском. А калі з'ехалі, мяжа праз вёску па Калыме засталася, забралася нават у карты зоны, якія ніхто не бачыў, але пра існаванне якіх усе ведалі, і па-ранейшаму адна палова лічылася зонаю, а другая не зонаю. Дзе зона, там кожнаму чалавеку плацілі па тры чырвонцы ў месяц, якія назвалі грабавымі, давалі прыварак да заробкаў, а на палове, дзе зоны не было, дзе нібыта чыста, ні грабавымі, ні прываркам не радавалі. І вось тут, на Вялікай Калыме, пачалі адбывацца самыя драмы мясцовага жыцця.

Падзяліліся людзі. За ручаём жылі Цэзары, а дзе завод і лесапункт — проста лапаціцкія мужыкі ды бабы.

На нібыта чыстым беразе Вялікай Калымы апынулася і крама.

Прыехаўшы ў Лапацічы, Валетаў, як заўсёды, першы прыпынак зрабіў ля крамы. Тут можна было сустрэць патрэбных людзей, але на гэты раз усяго некалькі жанчын стаялі на ганку, ды яшчэ за ганкам ля трактара курылі хлопцы ў брудных рабочых штанах і куфайках. Пазнаўшы доктара, жанчыны ўступілі дарогу.

За прылаўкам стаяла Ніна — светлагаловая дачка Шнэйдара, майстра з ДБЗ.

— Чым багатыя Лапацічы? — спытаў Валетаў.

На прылавак дачка Шнэйдара выкладала цюбікі зубной пасты, яшчэ і яшчэ, як на роту гнілазубых. Стрэльнула на Валетава светлымі вачанятамі — пазнала:

— У нас цяпер усе дзефіцыты. Бачыце? Індыя падсылае. А ўчора было японскае мыла.

Жанчына, што хавала пасту ў сумку, азірнулася на Валетава, і ён успомніў, як яшчэ да Чарнобыля яе аднойчы ноччу прывезлі ў хірургію з апендыцытам. Тры гадзіны адстаяў за аперацыйным сталом, ратуючы кабету ад разлітага па чэраве гною.

— Гэта я, Палыч, цётцы родненькай у Ленінград шлю. Там нямашака нашай радасці. Просіць, каб высылала паболей.

— Дык не бядуйце, бабы,— звонкім галаском падбадзёрыла Ніна.— Што нам трэба? Зрабілі зону, дык хоць хлеб кожны дзень прывозяць з горада, малако з Мугулёва — чыстае. І грэчкі далі па кілаграму на рот. Калі гэтакае было? Зона — слава Богу!

Валетава яе радасць здзівіла:

— Што — слава Богу? Што зона?

— А во гляньце на нашага Цэзара. Чаго яму не хапае?

Усе павярнуліся да высокага маладога мужчыны, які зайшоў у краму. Кашуля на грудзях была расшпіленая, калматая галава ў саламянай пацярусе, нібы са стога вылез, твар мясісты, чырвоны. Нешта хацеў сказаць, раскрыў рот, але жанчыны зарагаталі, і ён маўчаў, лыпаючы вузенькімі, уpослымі ў сала вочкамі.

— Курава ці ёсць? — нарэшце прабасіў, калі цёткі пачалі аціхаць.

Ад яго басу ўсе зноў зарагаталі.

— Няма, Ціток. І не будзе. Хопіць смуроду без твайго курава. Не хлеб і не сала, абыдзешся,— адрэзала Ніна.

Той не сумеўся:

— А віно ці гарэлка?

— Даўно праспаўся ад учарашняга чарніла? — зноў разанула Ніна пад дружны жаночы рогат.

Цяпер чалавека і Валетаў пазнаў. Успомніў нават і ягонага сябра Мармышку. Лапаціцкія — вадою не разальеш. У апошнія гады, калі Ціток стаў Цэзарам, а Мармышку не пашанцавала, у Цэзары не выйшаў, іх сяброўства ўсіх здзіўляла. Неяк прывёз Мармышка лес, надумаў ставіць хату на другім беразе Калымы, каб зрабіцца Цэзарам. Упільнаваў Ціток дзень, калі сябра з'ехаў у горад да цёткі, прывёў хлопцаў з бензапілою, выставіў дзве пляшкі віна і сказаў, што гэта Мармышка віно ставіць, каб яны дровы парэзалі. І парэзалі. Але калі Ціток з жонкаю пасвілі радоўку, Мармышка прывёў да сябра на двор партызанхімікаў, нібыта ў свой двор. І як пачалася п'янка, дык закончылася тым, што ў хляве ў Цітка закалолі на закусь свінку, якую яшчэ б карміць ды карміць. А ўжо нядаўна Ціток сплаціў Мармышку за свінку. Той, не паставіўшы новай хаты, вырашыў перакінуць на другі бок сваёй хібары Калыму, даць ёй новае рэчышча і гэтакім чынам зрабіцца Цэзарам. Палову лета дзёўб зямлю і камень, а Ціток прыгнаў самазвал бетону і вывернуў у новае рэчышча. Зноў жа выкраіў час, калі Мармышкі не было ў вёсцы. Пакуль той

вярнуўся, бетон — скала скалою. І зноў хадзілі ў абдымкі. Цяпер вёска чакала, што змудрыць Мармышка.

Крамныя дзверы шырока адчыніліся, і ўрачысты хлапечы голас абвясціў:

— Віно прыехала!

Ніна хуценька павыправаджвала ўсіх за дзверы, пачынала прымаць скрыні з «Белымі росамі», і Валетаў вярнуўся да гарбуна. У машыне стаяў пах разлітага піва, і ён, успомніўшы пра яго, купленае ў гарадку, знайшоў у бардачку гранёную шклянку, наліў са слоіка, што стаяў на гумовым дыванку пад нагамі, выпіў і яшчэ захацеў. Толькі наліў другую шклянку, як да машыны пад'ехаў чалавек на веласіпедзе, пад саламяным капялюшам.

— Доктар Валетаў? — спытаў.— А я Мядок.

Не адразу змікіціў, што за Мядок. Прозвішча? Шклянку з півам падаў Мядку.

— Свежае. Сёння з бочкі.

Той выпіў з ахвотаю. Аблізваючыся, загаварыў:

— Я на парог, а тут бацька. Вось, кажа, быў доктар, шукай у Лапацічах. На лісапету — і сюды. Убачыў вашу машынку — ага, думаю, трэба чакаць.

Цяпер Валетаў зразумеў — павесялеў:

— А я гадаю, што за Мядок?

— Мяне ж гэтак людзі ахрысцілі. Прозвішча не кожны ведае, а скажы Мядок — любы пакажа.

Нездаровая жаўтлявасць разлівалася па хударлявым, з ямкамі на шчоках, твары, надта рана, не па гадах, завараным старэчымі маршчынамі, і па твары Валетаў прачытаў усе хваробы — і шлунак, і пячонка, і ныркі.

Мядок зняў з руля стары рукзак, што адвісаў ад цяжару, паставіў сабе на калена, развязаў хахол і паказаў трохлітровы слоік з жоўценькім, нібыта бурштын, мёдам:

— Першай гонкі. Ліповы.

— Ашчынкаю пахне?

Слоік з мёдам схавалі ў багажнік машыны. Валетаў абгарнуў яго чыстымі анучкамі, каб дзе на яміне не кульнуўся, пачаў мацаць кішэні, шукаць грошы, але Мядок схапіў за руку, і гэты жэст Валетаў зразумеў, поркацца па кішэнях перастаў, але ў знак удзячнасці ціха, ледзь не шэптам, як не жадаючы, каб хто-небудзь падслухаў, сказаў:

— Ну дык... прыязджай, Шурык, на камісію. Зробім усё, што трэба. Трэцюю групу самі даём, за ёю Магілёву не кланяемся. А як пячонка? У мяне, браток, вока вострае — трэба лячыць. Прыязджай.

Мядок яшчэ ахвотней паабяцаў:

— А вы... як што якое — адно слова... Я ўмею плаціць.

Ён весела асядлаў веласіпед і, ускінуўшы ўгару руку, развітаўшыся, нібы з добрым сябрам, памчаў з пустым рукзаком на плячы, а Валетаў, з прыемнасцю падумаўшы, што нечакана і яшчэ аднаго патрэбнага чалавека прыдбаў, завёў машыну. Ад'ехаць не паспеў — падбегла маладзічка.

— Маня?..

Маня Сурман апошняе лета была таемнай радасцю Валетава, і, выбіраючыся ў гэты аб'езд, ён пра яе не проста думаў, а марыў сустрэцца. Вылез з машыны, аберуч узяў за плечы, прыгарнуў да сябе, і яна сама, як даўно гэтага чакаючы, насустрач памкнулася, цёплай шчакою прытулілася да яго паголенай, але ўсё роўна крыху калючай сківіцы.

— Вы, Паўлавіч, былі ў Радзімцах? Тыдзень назад?

— Ехаў праз вёску.

— Мне вучні казалі, што спыняліся каля школы, з машыны выходзілі. Я з апошняга ўрока прыбегла дадому і да поўначы вас чакала. Думала, што заедзеце.

— Ах, Маня-Маня! Заеду сёння. Чакаць будзеш?

— Буду, Паўлавіч! Я тут толькі хлеб вазьму.

Сёлета напрадвесні Валетаў лячыў яе брата Лёніка, які ляжаў, пакаўзнуўшыся на галашчоку, з пераломам нагі. Той, калі выпісваўся, аддзячыў дзвюма пляшкамі каньяку і запрасіў да сябе на Сож палавіць рыбу. Адну пляшку яны тады разам асушылі ў ардынатарскай, другую Валетаў данёс дадому, а калі вада на лузе, у пойме Сажа, спадала, прыехаў да Лёніка на рыбалку і першы раз убачыў Маню. У канцы лета Лёнік перабраўся жыць у Магілёў, рабіў электрыкам на фабрыцы, але ягоная хата ў Радзімцах з таго часу прываблівала Валетава да сябе, бо Маня ў ёй засталася з бабаю і малым, ад няўдалага замуства, сынам. Былі і жаданне завітаць, і нерашучасць: ці добра без Лёніка? І хацелася, і калолася. Як сёння. Цяпер Маня сама знайшлася — лепей не прыдумаеш.

Весела развярнуўшы гарбуна, Валетаў пад'ехаў да прахадной ДБЗ. Хоць была нядзеля, завод працаваў. Дачка Шнэйдара, у якой, пакідаючы краму, пытаўся пра бацьку, невыпадкова сказала, што ён на заводзе. Адразу быў не паверыў: нядзеля ўсё ж, Пакровы? Але ад Мані дазнаўся, што ў Радзімцах і ў Лапацічах рабілі, як у будні дзень, бо ў зоне чакалі замежных гасцей, вучоных з МАГАТЭ, сусветнай арганізацыі па атамах, з імі разам ехалі вялікія чыны з Масквы і Мінска, і трэба было так зрабіць, каб п'яніцы

ў гэты дзень працавалі, а не лупілі гарэлку, не цягаліся па дарогах ды вёсках, не мазолілі сваім ваяўнічым выглядам вочы культурнай Еўропе.

Вароты прахадной аказаліся адчыненыя, і Валетаў спыніўся ўжо на заводскім двары, пад вокнамі канторы. Першая думка была зайсці да дырэктара Качуркі, але дзверы кабінета, абабітыя чорным дэрмацінам, не адчыніліся. Падаўся ў сталярны цэх, дзе майстрам якраз і рабіў Шнэйдар. Той сядзеў адзін у маленькай канторы за сталом і калупаў пальцам нештачка на голай дошцы. Увесь аддаўшыся свайму занятку, нават галавы не падняў, і госць таксама пачаў разглядаць, што пад пальцам у Шнэйдара. А быў там усяго толькі чорны, як вугаль, жучок. Шнэйдар торкаў у яго тоўстым ногцем, і жучок стрыг доўгімі, як у коніка, ножкамі, спрабаваў паўзці, але смаргаўся то ў адзін бок, то ў другі, нібы п'яны.

— Бачыш? Без галавы, а нештачка вырабляе,— загаварыў Шнэйдар і, нарэшце падняўшы вочы, паверх акуляраў глянуў на Валетава.— Ведаю, што ты тут. У акно бачыў твой «мерседэс».— Зноў утаропіўся ў жучка.— Сядай і глядзі. Гэтая істота падобная на нашу з табою дзяржаву. Без галавы, а жывая. Адно тулава. Яшчэ і нагамі дрыгае. Некуды пнецца. А куды? Без галавы?

Параўнанне збянтэжыла Валетава:

— Ну, вы скажаце, Франц Карлавіч. Як гэта дзяржава без галавы?

Не адрываючы вачэй ад жучка, Шнэйдар даваў яму ногцем пад хвост і далей разважаў з тым самым спакоем:

— А калі яна, тая галава, была? То вісельнік Сталін, то Булганін, курыны маршал, то шут кукурузны Хрушчоў. А Брэжнеў ці Чарненка? Ад гэтакіх у вёсцы запалкі хаваюць, каб яе не спалілі. Дзе ж ты бачыў галовы? Га, доктар? Ты вантробы людскія ў рукі возьмеш і няма табе розніцы, чые яны. Можа, генія, а можа, дэбіла? Вантробы ва ўсіх аднолькавыя, і ты з гэтым звыкся.

— Ды... як быццам аднолькавыя, але... не зусім.

Шнэйдар сагнуў тоўсты палец, пстрыкнуў жучку пад хвост, і той невядома куды дзеўся. Тады ўзгрувасціў валасатыя рукі на стол і ўзняў галаву, буйную, нібы ў льва, з чыстым светлым тварам і папялова-русым густым чубам. Доўгім позіркам вывучаў Валетава, чакаючы сустрэчнага слова. Не дачакаўся, спытаў:

— Ну, што цябе да старога немца прыгнала? Што трэба? А можа, зацікавіла, ці жывы немец?

Немец ён быў сапраўдны, хоць і мяшанец з беларусамі. Адзін з нашчадкаў, як сам казаў, тых немцаў, каторых яшчэ Пётр Першы прывёз у Расію дзеля дзяржаўнага ладу і розуму.

— Угадалі,— пагадзіўся Валетаў.— І не бачыліся даўно, і справы ёсць.

— Я ж цябе, доктар, ведаю. Калі прыехаў, значыць, штосьці трэба. Попусту бензін не спаліш,— мякка ўсміхнуўся, быццам просячы прабачэння за сваю не вельмі прыветлівую думку.

Валетаву патрэбны былі дошкі ў лазню, і Шнэйдар мог уважыць, кубаметр прадаць, але спачатку пацікавіўся, ці вялікі заробак мае галоўны хірург бальніцы. Аказалася, што заробак яго меншы, як у кранаўшчыка на прыстані, і не шмат большы, як у грузчыка. Шнэйдара гэта засмуціла, і ён прапанаваў Валетаву не дарагія, апрацаваныя на станках дошкі, а з-пад пілы, неабразныя, якія каштавалі ў чатыры разы меней, хоць гэта і не азначала, што неабразныя павязе дадому. Валетаў мог дамовіцца з рабочымі, каб яны прапусцілі дошкі праз станкі пасля змены, абрэзалі і выгаблявалі ў нерабочы час, а ён за гэта калі выставіць некалькі пляшак віна, то ўсе і будуць задаволеныя. Праўда, Шнэйдар не меў права выпісваць з завода дошкі, сплаўляць іх налева ці направа. Але навошта галава, калі не паразумецца з законам? Завод вазіў лес з Лапаціцкага лясніцтва, і Шнэйдар прапанаваў Валетаву выпісаць у гэтым самым лясніцтве машыну дроў, абы-якіх, танных, што абыдуцца ў чырвонец, білет на дровы аддаць яму, Шнэйдару, а ён падшые яго да сваіх дакументаў і дровы Валетава вывезе разам са сваім лесам пад тыя самыя дошкі. Дзяржава нічога не страціць, а ён, Валетаў, як знойдзе.

— Што яшчэ? — спытаў дзелавіты немец.

— Ды і... гэтага хопіць.

Яны не паспелі выйсці з канторкі, як ваваліліся рабочыя:

— Карлавіч, збірай сход.

Было відаць, што Шнэйдар ведаў, якога сходу хочуць людзі, бо маўчаў, апусціўшы вочы, нічога ў іх не пытаўся, нічога ім не абяцаў. Пачухаўшы карак, кінуў Валетаву:

— Ну ладна, доктар, ты тут пагуляй.

Ён без ахвоты пакрочыў у кантору, а рабочыя ад станкоў і піларам рушылі за ім услед.

Застаўшыся адзін, Валетаў абышоў духмяныя, смалою налітыя штабялі брусоў і дошак, зазірнуў у цэх, дзе гналі паркет, з цэха выйшаў на засыпаны пілавіннем двор. У гала-

ву засеў той Шнэйдараў жучок: няўжо немец і тут мае рацыю — дзяржава без галавы, у сутаргах? У яго, Валетава, у самога з дзяржаваю было мала згоды. Бо не было жыцця. Ні ў бацькі, ні ў маці, ні ў яго. Адна нястача, мітрэнга з усіх бакоў, нідзе радасці. Сам вінаваты? І бацька? І матка? Але ж ці толькі яны здабылі не жыццё — жасцянку? Як жылі навокал? Шмат тых, хто лепш? Дзе яны? Хіба, можа, там, дзе няма яго, Валетава? І ўсё ж у яго не было іншай дзяржавы. Гэта — ягоная. Цяпер усе на дзяржаву памыі льюць. Яна і без памяці, яна і без сэрца, яна і без галавы. А як жыць, калі ў чалавека яе няма? Няма такой, якая за цябе? У яго ні маці, ні бацькі, ні сясцёр і братоў, ні жонкі сапраўднай, і нават першага сына не бачыў трыццаць гадоў, не ведаў, ці патрэбны яму ён, бацька? А калі яшчэ і дзяржава чужая? Не, тут немец загнуў, перагнуў. Прыкра зрабілася ад Шнэйдаравай пстрычкі.

У канцы двара каля склада Валетаў заўважыў жанчыну ў сіняй куфайцы. З завалы на дзвярах яна здымала замок. Падышоў.

— Дзень добры, Іванаўна.

Тая аж здрыганулася, пачуўшы за спіною нечаканы голас:

— Палыч? Нешта забылі да нас дарогу?

— Хворыя далёка не адпускаюць.

— Спачатку людзі самі сябе гнояць, потым шукаюць ратунак у доктара.— Яна, пэўна, падумала пра свайго хваравітага мужа, які надта любіў заглядаць у бутэльку.

Зайшлі на склад, Іванаўна ўключыла святло. Рознага жалеззя было поўна і на паліцах, і пад нагамі. Валетаў чмыхаў доўгім носам — прынюхваўся.

— Што-небудзь трэба? — здагадалася кладаўшчыца.

— Жалеза на печку ў лазню.

Два лісты пяцімiліметроўкі якраз стаялі каля сцяны, і ўжо Валетаў прыкідваў, ці хопіць яму двух.

— Качурка блюў сабе?

— Дырэктар? Дык я да яго зайду. Не адмовіць.

— Не зойдзеце. Няма і не будзе.

— Як гэта? — не зразумеў Валетаў.

— А пакінуў нас на немца. Ужо на сваёй Палтаўшчыне галушкі з чыстага мяса жарэ. Збег.

Гэтакая навіна была Валетаву нечаканай, але распытваць, чаму збег Качурка, не стаў, падумаўшы, што пра гэта ніхто яму лепш не раскажа, як Шнэйдар. Заўважыўшы на стале шклянку, дастаў з кішэні курткі салдацкую алюмі-

ніевую біклажку, скруціў белы корак, наліў з біклажкі ў шклянку і падаў Іванаўне.

— Ну, Палыч, вы з гэтай сяброўкай неразлучныя. Да нас прыязджаеце заўсёды з ёю.

— Трымай. Пацалунак маёй сяброўкі.

На складзе меўся кранік з вадою, але спірт неразведзены апёк, як агнём, адразу збіўшы з жарту. У Іванаўны знайшлася скварка, у Валетава ў кішэні — яблык. Прыхапілі на зуб, аддыхаліся, і тады Валетаў спытаў пра мужа, які рабіў на заводзе зваршчыкам. Печку ў лазню ён мог, вядома, зварыць, жалеза са склада Іванаўна магла адпусціць, ні ў кога не пытаючыся, як даўно спісанае з баланса, але ў мужа вечна не знаходзілася часу, ды і ці тут, на вачах у людзей, варыць печку? Пра гэта Іванаўна толькі падумала, а Валетаў ужо яе зразумеў:

— Дык чакаю твайго Сяргея ў паліклініцы. У мяне там зранку прыём хворых. Дзён на пяць выпішу бюлетэнь. Хай печку варыць дома. О'кэй?..

Іванаўна рассмяялася:

— Ну, Палыч! За вамі не заржавее.

Ён наліў яшчэ па грамульцы — дамоўленасць належала замацаваць сустрэчным сяброўскім жэстам.

Калі вярнуўся да машыны, Шнэйдар ужо стаяў, чакаў. Селі і пакацілі з заводскага двара.

Валетаў заўважыў адразу, што настрой немцу рабочыя сапсавалі. Не жадаючы гаварыць, ён не жадаў і слухаць. Маўчаў і Валетаў. Ужо як да крамы пад'ехалі, мармытнуў у нос:

— Стой.

Гарбун быў не па габарытах Шнэйдара, і вылазіў ён з машыны — нібы з пасткі выблытваўся, а калі вылез, то пamaладому спрытна падскочыў да службовых дзвярэй крамы і знік за імі. Не цяжка было здагадацца, што вынесе пляшку. І гэтак атрымалася: калі Валетаў зайшоў у краму, дачка Шнэйдара ўжо несла бацьку дзве пляшкі віна. Валетаў намацаў у кішэні пяцёрку, сунуў Ніне ў руку — Шнэйдар скрывіўся. Яшчэ ў кішэні знайшліся жалезны рубель і медзь, і Валетаў вытрас увесь свой капітал — папрасіў зважыць цукерак.

Ад крамы звярнулі да лясніцтва, але ляснічага не знайшлі.

— Я з ім сам усё выраду,— паабяцаў Шнэйдар.— Газуй да нашага дуба.

Магутны дуб стаяў на строме Сажа, і Сож, робячы вакол

дрэва пятлю, паважліва абыходзіў яго з трох бакоў, ведаючы моц каранёў асілка, іх трывалую повязь з зямлёю і даўно адмовіўшыся ад некалі пэўнай надзеі змыць строму з дрэвам разам. Валетаў з маленства любіў гэтую мясціну. Адсюль маляўніча адкрываўся далёкі абсяг зямлі і неба, і ён мала сустракаў куточкаў, каб давалі гэткае моцнае адчуванне сілы і еднасці з роднай зямлёю. Пабыўшы тут, кожны раз як бы сам мяняўся, на ўсё пачынаў глядзець цверазей, нібыта з чужога жыцця вяртаўся ў сваё. І цяпер, выставіўшы на капот дзве пляшкі, вялізныя і чорныя, дзве бомбы, побач з імі паклаўшы кулёк з цукеркамі, хацеў, як некалі, разлегчыся на сухім лісці і доўга глядзець у высознае верхавінне, у неба, па якім плылі белыя, нібы астраўкі снегу, аблачыны, у веліч і вечнасць, волю і годнасць прыроды. Але глядзеў пад сябе на лісце, на зямлю, і нешта перашкаджала зрабіць тое, што рабіў раней, заўсёды. Рукі паклаў на камель дуба, на яго шурпатую кару, абняўшы, нібы чалавека, задраў галаву да неба. У галаве закружылася. Мацней абхапіў дуб.

— А я, Паўлавіч, рады, што ты прыехаў,— зусім блізка, за спіною, сказаў Шнэйдар.— Тут каго толькі не перабыло. Кожны дзень госці бывалі. І юшка, і песні. А цяпер? Дзе тыя госці? Чыю цяпер юшку сёрбаюць? Кажуць: душыцеся, Цэзары, самі сваёй рыбаю, сваімі песнямі. Усіх ад нас адвярнула.

Валетаў павярнуўся да яго, спіною прываліўся да шурпатага дуба. Шнэйдар стаяў перад ім з дзвюма шклянкамі чорнага, нібы смала, віна ў абедзвюх руках.

— І я, Карлавіч, пра гэта падумаў. Бывала, пад дубам і ляжаш, і выспішся. Неяк тут усю ноч спаў, да сонца. А цяпер? Ужо і вы п'еце стоячы. На траву, на лісцейка ні сесці, ні легчы няма ахвоты?

Шнэйдар выпіў адным махам, са злосцю. Задумліва пакручваў пустую шклянку ў тоўстых пальцах.

— Якая ахвота? За лета ў Сож не зайшоў, каленяў не замачыў. І хоць бы які страх стрымліваў. Не, ужо і страху няма. Нешта адбылося з душою. Ні да вады, ні да травы, ні да рыбіны. Ходзіш, быццам самога сябе на мінным полі шукаеш.

Валетаў успомніў, як чатыры гады назад на пачатку мая да яго прыехаў з Мінска сябра, былы аднакурснік. Выбраліся на Сож з крыгаю. Насупраць дуба, на тым беразе, вогнішча расклалі, пачалі варыць юшку. Тут, у раёне, пра чарнобыльшчыну яшчэ толкам ніхто не ведаў, а сябра ведаў,

што неба на Сож скінула і цэзій, і ёд, і стронцый. Валетаў хлеб на траву паклаў — той крычыць: падсцялі газету. Ваду на юшку прынёс з Сажа — зноў не так: гоніць па ваду ў вёску, ды каб з накрытага калодзежа. Зманіў, што ўзяў з накрытага. Дзе тыя крытыя калодзежы? Лыжку на траву не пакладзі, шклянку на зямлю не пастаў. А потым глядзяць з-за Сажа на дуб і вачам не вераць: аж белы ад буслоў. Налічылі пятнаццаць птахаў на адным дрэве. Што з імі, чаго збіліся ў кучу? Жахліва зрабілася. Няўжо і птушкі ў бядзе? Белы ад буслоў дуб, можа, быў самы моцны сігнал бяды. Першы раз адчуў, што ёсць бяда з усіх бед — смерць усяго жывога: вады, травіны, птушкі, чалавека, зямлі. Усяго — адразу. Калі ўсё жывое ў адной яміне.

Шнэйдар зноў падняў над шклянкай чорную бомбу, але не ліў, штосьці ўбачыўшы, загледзеўшыся. Валетаў азірнуўся: на грэбні стромы чырвоная кропелька падымалася вышэй, яшчэ вышэй. Пазнаў маленькага Мармышку з чырвоным, нібы агеньчык, капялюшыкам на галаве, з авоськаю пляшак у руцэ. Другую руку Мармышка працягнуў уніз са стромы і следам за ім, з яго дапамогаю, на строму ўскараскаўся здаровы Ціток — стаяў на каленях і не мог падняцца на ногі. Мармышка кінуў авоську з бутэлькамі, узяўся падымаць Цітка, але сам заваліўся. Нарэшце падняліся абодва, абняліся і пасунуліся ў бок вёскі.

Шнэйдар адвярнуўся, не жадаючы, каб яго заўважылі.

— Ці даўно Ціток заходзіў у краму цвярозы? — здзівіўся Валетаў.

Шнэйдар пра іх гаварыць не хацеў. Ён з прыкрасцю глядзеў на людзей, што набіраліся, як жаба твані.

— А мае рабочыя, Паўлавіч, цябе ўбачыўшы, кажуць: вунь хірург Валетаў, дык ты, Шнэйдар, у яго спытай, што ў нашых кішках, ці праўда, быццам па іх смерць гуляе і мы толькі таму жывыя, што ў нужнікі часта бегаем, чарніла напіўшыся?

Дзіўна было, што ён гэтак спытаў, убачыўшы Цітка і Мармышку.

— Затым вас рабочыя і вадзілі ў кантору, каб гэта сказаць?

— Ну, было і яшчэ. Ты адкажы на гэта.

Валетаў мог пасмяяцца з Цэзараў. Даўно не смяяўся. А ці да смеху? Можа, сам Шнэйдар смяецца? Не, відаць. Удакладніў, каб Валетаў яго лепш зразумеў:

— Раней нам казалі, што рэнтгены, кюры, бэры ў тым канцы Лапаціч, за Калымой, а дзе завод — чыста. Па азё-

рах, казалі, рыба атручана, а ў Сажы — чыстая. У лесе брудныя плямы, але паміж плямаў чыста. А цяпер што кажуць? Усюды — не пі і не еш? А як жыць? Ты, доктар, кожны дзень нашы кішкі ў руках трымаеш. Што яны паказваюць?

— Цёплыя. Смярдзяць, але маўчаць.

Шнэйдар засумняваўся:

— Не можа быць, каб маўчалі. У кішках уся наша жытка.

Шнэйдар са сваімі Цэзарамі глядзеў сапраўды ў аснову. Але што ведаў Валетаў? Бальніца нейкія назіранні за жыхарамі зоны вяла, сотні картак запаўнялі і высылалі ў навукова-даследчыя цэнтры Масквы і Мінска. Там былі прыборы, японскія ды амерыканскія, якія ўсё, што хацеў ведаць Шнэйдар, паказвалі. Але гэта там — не тут? Што ведаў Валетаў? Ён бачыў, як людзі хварэюць і паміраюць. Ад лейкозаў, інсультаў, пухлін. Памірае з кожным годам усё больш. А ці падарункі гэта зоны? Ён не сумняваўся, што і яе падаруначкі. Але дакажы, калі прыборчыкі не ў тваіх руках. Як ён, Валетаў, дакажа? Ён выразае, выкідае, зашывае. Яго галоўны дазіметр — нос. О-го, нос Валетава! Але што яго нос чуе? Што кішкі напханыя калам?..

Валетаў трымаў у руцэ пустую шклянку, круціў яе, танклявымі пальцамі перабіраючы грані, глядзеў у шклянку, адчуваючы на сабе дапытлівы позірк Шнэйдара.

— Ад хлусні, Карлавіч, людзей памірае болей, як ад раку. Хлусяць вам. Хлусяць мне. Самі сабе. Усе збрахаліся. І навука, і ўлада. Усе!

Шнэйдар нібы схапіў Бога за бараду:

— А ты філосаф! Ты — як той парламент. Яго паслухаеш, дык адным трэба, каб мы тут будавалі, аралі, сеялі, жалі, касілі, давалі краіне хлеб, малако, мяса, каб не парушалі велічных планаў партыі. Другія нібыта сякуць праўду-матку, даказваюць, што жыць, дзе мы жывём, нельга, што ўсіх нас трэба адсюль вывезці, ратаваць. А што з іх тузання атрымліваецца? Пяць гадоў цэзій ядзім і стронцыем запіваем. Каму верыць? Прыехаў на завод лектар з Масквы, з ЦК. Дужа смелы. Ён і Гарбачова, і Ельцына ў гразі выкваццаў, такую спёк праўду, якой век нашы вушы не чулі. І пра бэры, і пра кюры, і пра рэнтгены, і што нам тут жыць нельга, што нас заклалі, прадалі, што мы, як іранскія камікадосы, смяротнікі. Быццам ён за нас, хоча ратаваць. А Цэзары завялі яго з гэтай праўдай-маткаю ў лес і морду скрывянілі. Ён крычыць: за што, я вам праўду сказаў! А яны яму: за гэта

самае, маскаль разумны. Ну і што ты, доктар, думаеш? Дзе праўда і дзе брахня?

Кроў у Шнэйдара была гарачая, завёўшыся, доўга не мог астыць. Але Валетаў не ва ўсім яго разумеў.

— Дык што хочуць рабочыя?

— А жыць хочуць.

Ён замоўк на высокай ноце і цяжкімі валавянымі вачыма, быццам бык на чырвонае, зноў глядзеў цераз плячо Валетава. Там, пад зусім аблыселым ад халодных восеньскіх вятроў лазовым кустом, варушылася чырвоненькая плямка. Зноў Мармышка? У сваім капялюшыку ён поўзаў па крузе, грабучы абедзвюма рукамі зямлю. Следам за Мармышкам па тым самым крузе, таксама на ўсіх чатырох, поўзаў Ціток.

— Здаецца, у вёску пайшлі? — сказаў Валетаў.

— А яны па прамой ніколі не ходзяць,— адказаў Шнэйдар.— Кругамі, петлямі.— Ціток і Мармышка то адпаўзалі далей ад куста, то зноў да яго вярталіся, і ўсё грэбліся.— Бычкі збіраюць. Курава ў краме няма, дык вёска падбірае тое, што партызаны панакідалі за тры гады. Тут стаяў іх палатачны табар.

Шнэйдар разліў па шклянках віно, усё да дна, размахнуўся і шыбнуў бутэльку. Ціток і Мармышка, пачуўшы, як яна шаснула ў траву, прыціснуліся да зямлі. Але праз хвіліну Мармышкаў капялюшык загарэўся ранейшай чырванню. Цітка не было. Мармышка ўскочыў у куст, схапіў бутэльку і скаціўся за куст.

— Дзівакі?

— Цэзары,— не пагадзіўся з Валетавым Шнэйдар.— Што такое Цэзары? Новыя людзі. Людзі зоны. Ім законы не пісаныя. Стань насуперак — заб'юць. Цэзару галоўнае — гарэлка, а за гарэлку лепш — чарніла. Мазгі залье, тады ціхі, не бунтуе, не ўспамінае цэзій і стронцый, нават жыццю рады. Дзяржава гэта ведае — залівае зону чарнілам. Яна, карміцелька, і чутку пусціла, што чарніла вымывае з кішок радыяцыю. А піць кожны дзень — дзе ўзяць грошы? Чаго ад мяне хочуць рабочыя? Грошы! Адчыняй, немец, сейф, плаці за цэзій, што мы яго тут жыўцом глытаем. Кажу: мой сейф пусты, пішыце міністру, размалюйце яму сваю жытку ў зоне. А што — яны? Кажуць: калі мы размалюем, дык усё ў чырвоны кумач, зямлю і неба. І што думаеш? Яны кумачовага пеўня пусцяць. Тады ўжо на заводзе будзе вялікі пралетарскі мітынг. Певень закукарэкае.

— Але ж завод — не ў зоне? Тут радыяцыі няма?

— Брэшуць. А Цэзары гэтую брахню ведаюць. Бярвенне на завод вязуць бруднае. У лесе рабочым выплочваюць прыварак за радыяцыю. Тут гэтае бярвенне кантуюць, пілуюць, габлююць, з яго робяць сталярку, блокі — тут яно ўжо чыстае? Як так, Валетаў? Хе-хе?..

Гэтае Шнэйдарава «хе-хе», ненатуральны, нейкі дзікунскі смех скалануў Валетава. Пусцяць пеўня, спаляць завод — хе-хе? І гэта — Шнэйдар? Ён усё жыццё ганарыўся тым, што завод будаваў бацька яшчэ ў дваццатыя гады, як быў ленінскі нэп. Тут ён, галавасты і працавіты немец, паставіў лесапілку, сталярны цэх, паркет рабіў на шведскіх станках. Калі пачалося раскулачванне, Карла Шнэйдара загналі ў Сібір на сапраўдную Калыму, дзе ён і склаў галаву. Але ж завод людзі называлі Шнэйдаравым? Саветы хоць і забралі ў свае рукі, але жонка Шнэйдара тут днявала і начавала, сварылася з кожным, хто спрабаваў усцерці запалку, калі не вывозілі тырсу, разлівалі мазут і бензін — баялася, што новыя гаспадары спаляць завод. Ён быў як бы яе, завод яе Карла. І сын, Карлавіч, калі падрос, пайшоў сюды рабіць. Яго ніколі не ставілі ні дырэктарам, ні інжынерам, працаваў звычайным майстрам, але з маленства ведаў тут кожную дошчыну і гайку. Дырэктары мяняліся, а Шнэйдар заставаўся. Тыя ж дырэктары гэта адчувалі і перамагчы яго ўлады не маглі. А што цяпер? Спаляць — хе-хе? Гэта кажа Шнэйдар?

За дубам, на строме, дзе нядаўна ўзніклі, як з ямы, Ціток і Мармышка, зноў варушылася штосьці жывое. Валетаву спачатку здалося, што гэта Мармышка, ужо без чырвонага капялюшыка, нават здзівіўся, што той ідзе па сваім ранейшым крузе. Але там была жанчына. Яна ўскараскалася на кручу і стаяла, трымаючы ў руках такую самую, як у Мармышкі, авоську з пустымі бутэлькамі. Заўважыўшы Валетава і Шнэйдара, якіх, можа, і не пазнала, спынілася, пастаяла і падалася той самай сцежкаю, якой прамышлялі Ціток і Мармышка, да куста. Сышла ў лагчыну — схавалася. Валетаў успомніў размову з Іванаўнай:

— Качурка з'ехаў?

— А Качурка не першы. З'ехалі аграном, інжынер лесапункта, фельчар. У каго галовы не прапітыя — усё кідаюць і едуць. А ў каго прапітыя, тым усё роўна, дзе гібець. Абы на чарніла плацілі.

Шнэйдару даліся п'яніцы на заводзе, ён іх ненавідзеў люта, хоць сам чарку мог узяць, і вось зноў быў загаварыў пра тое, ды раптам, нешта падумаўшы, спытаў:

— Чаму немец не бяжыць?

— Я, Карлавіч, пра гэта не думаю.

— А я табе скажу. Пётр Першы чаму панавёз у Расію немцаў? А таму, што ў Расіі ўсё правыя ды левыя. Што такое правыя і левыя? Гэта — мача ў кроў ці кроў у мачу. Вечная рэвалюцыя, а жыцця няма. Гэтак і ў нас на заводзе. Качурка быў правы, добры для партыі. Камуніст для камуністаў. З мачою ў крыві. Сам жыць хацеў, а людзям жыцця не даваў. Можа, ад цэзію збег, але і ад Цэзараў. Яны б яго ў лес зацягнулі, як таго маскаля. Гэтым пахла. Ну, а дай волю левым, Цэзарам, завод развалакуць і прап'юць. Тут немец патрэбны. Буфер паміж левымі і правымі. У нашай краіне, Валетаў, галава — дзефіцыт, а не каўбаса. Без Качуркі завод будзе дыміць, а без Шнэйдара — хрэна!..

Жанчына стаяла на тым месцы, дзе грабліся Ціток і Мармышка. Нагіналася, драпала зямлю рукамі, разгіналася — калупала кійком.

Шнэйдар плюнуў у той бок, яшчэ раз — сабе пад ногі.

— Закурыць знойдзеш?

— Няма,— сумна прызнаўся Валетаў.— Сам усю раніцу без курава. У краме пуста.

— Усе збяднелі. Ні ў кога цыгаркі не стрэльнеш.— Шнэйдар яшчэ раз плюнуў пад ногі і падаў руку.— Гуд бай. Мой абед скончыўся. Трэба ісці на завод, будаваць дамочкі для светлай будучыні.

— Але ж, Карлавіч... Дрэва радыяцыйнае — якія дамочкі? Крэматорыі?..

Вочы Шнэйдара заблішчэлі старэча-вадзяністым блакітам, як ад ціхай удзячнасці, што чалавек нарэшце зразумеў, можа, самую вялікую яго бяду, і Валетаву захацелася нагадаць пра другую пляшку віна, не адкаркаваную, каб не развітвацца гэтак хутка. Але ведаў: калі Шнэйдар сказаў, што трэба ісці на завод, дык піць ужо не будзе — пойдзе. І не затрымаў, пра пляшку змоўчаў.

Карлавіч падаўся напрамкі, забыўшы пра сцежку, што вяла на завод з-пад дуба. За кустом, на тым самым месцы, дзе прамышлялі і Ціток, і Мармышка, і жанчына, пакалупаў носам чаравіка зямлю, нагнуўся, нешта падабраў, разгледзеў, зноў нагнуўся, пэўна ж, падбіраючы тыя самыя леташнія і пазалеташнія бычкі, нацерусіў з іх у далонь, з кішэні дастаў шматок паперы, згарнуў цыгарку, прыкурыў ад запалкі і пакрочыў далей, не спяшаючыся, як сам сабе гаспадар. Бычкі, мабыць, былі сырыя, самакрутка не хацела дыміць, і ён яшчэ раз спыніўся, прыкурыў. А Валетаў гля-

дзеў яму ўслед, дзівіўся з яго і думаў: «Што з немцам? Пляваўся, бачачы, як прамышляюць Ціток, Мармышка, жанчына, а сам? Ці гэта ранейшы Шнэйдар? Дзе тая годнасць?» Валетаў быў тут таксама не госць. У суседніх Радзімцах і яго пупавіна зарытая. Маці адсюль, дзяды-прадзеды. Зямлю тутэйшую ведаючы не абы-як, мазалём, неаднойчы здзіўляўся: як сталася, што няма на ёй гаспадара, лепшага за немца Шнэйдара, у якога вечна жыло адчуванне, што ўсё тут ягонае — Сож, дуб, завод, нават і Калыма? Ці не ён пусціў па вёсках і гэтыя далёкія, халодныя назвы, Калыма Верхняя, Калыма Ніжняя, Калыма і Калымка — каб яны не давалі людзям забыць лёс Карла? А цяпер — хе-хе? Няўжо і ён адчуў, што ўсяму канец?

Завёўшы гарбунка, ад'ехаўшы ад Сажа і ад дуба, Валетаў паціху выбіраўся на каляіну, якою ехаў сюды, але згубіў яе і не шукаў, руляваў у той бок, дзе стаяла крама. Калыма заставалася злева, там яна бегла ў Сож. Ён узяў яшчэ правей і каля хат, аб'язджаючы сады, апынуўся перад крушнямі камення, пяску, жвіру. За капанінаю ўбачыў яміну, роў. Што за кар'ер? Тут заўсёды роўная дарога паміж садамі вяла да крамы. Паўз плот пагазаваў міма наспы. І раптам спыніўся. Не таму, што далей нельга было праехаць. Ехаць можна было і далей. Але перад вачыма ўспыхнуў чырвоны, нібы святлафор, капялюшык на галаве ў Мармышкі. Той стаяў з узнятым аберуч ломам, глядзеў на машыну. Валетаў прытармазіў.

— Што за меліярацыя? — спытаў праз апушчанае ў акне шкло.

Мармышка яшчэ разы два гахнуў ломам у вышэйшую за яго самога крушню бетону — лом адскокваў са звонам, нібы ад жалеза,— рукавом пінжака шмаргануў па мокрым ад поту лбе. Хістаўся, трымаючыся за лом, але паказваць, што п'яны, не хацеў.

— А я Калыму на месца варочаю.

— Дык ужо ж паварочвалі рэкі? — засмяяўся Валетаў.— У Сібіры. Усёй краінаю. А што атрымалася?

— Там не хапіла сілы. Бо не было духу.

— Духу ці сілы?

Мармышка глядзеў на Валетава як на загадку, але сам здаваўся Валетаву яшчэ большай загадкаю. У той жа час Валетаў адчуваў, што разгадка Мармышкі не ў адным чарніле, якога ён сёння набраўся, не толькі ў кругах, якія вырабляў на карачках, з зямлі выпорваючы бычкі, але і ў ломіку, за які прагна трымаўся, у тым самым духу, пра які

сказаў. І сіла, і дух чалавека былі ў тым, што ён бачыў сябе Цэзарам і ў вобразе лапаціцкага Цэзара — ледзьве не рымскім імператарам.

Аб'ехаўшы капаніну, Валетаў спыніўся і, не вылазячы з машыны, яшчэ нейкі час дзівіўся з нечаканых яму загадак зоны. Мармышка раз за разам ускідваў над галавою лом і гахаў ім у закамянелы бетон, а за яго спіною на пясчаным узгорку сядзеў Ціток — збоку ляжала авоська з бутэлькамі, бутэлька стаяла паміж ног, а яшчэ адну ён аберуч трымаў горлам уніз над той першай бутэлькаю, што паміж ног, і засяроджана выціскаў з яе кроплі віна. Ніжняя губа адвісла, зубы сцяліся, рукі, абшчапіўшы пасудзіну, дрыжэлі ад натугі. Цiток бачыў перад сабою машыну, пазіраў на яе, але работы не спыняў — нішто ў свеце не было вартае ягонай увагі, акрамя таго, каб здабыць яшчэ адну святую кроплю.

Валетаў праехаў праз усю вёску і ўжо за ёю, за апошняй хатаю, звярнуў направа. Цяпер яму трэба было выбрацца на асфальт, з якога паварочваў у Лапацічы, калі ехаў з горада. Свежы, яшчэ цёпленькі, ён вёў у Радзімцы.

Стаяў полудзень, але сонца вісела ў небе па-восеньску нізкае, цені ад бярозавых прысад ляжалі праз дарогу касыя і доўгія. Над маладой рунню чорнымі хмарамі насілася вараннё. Яно тут заўсёды збіралася ўвосень.

З аднаго боку ад дарогі блішчэла ралля, з другога рунела азіміна, а летась з двух бакоў сеялі лён, які потым доўга вылежваўся і пайшоў пад снег. Вясною яго, гнілы, зааралі, і палеткі гулялі, засяваць іх забараніла санітарна-эмідэміялагічная служба, бо не на адзін дзесятак гадоў тут густа пасеяўся той самы цэзій. Ужо сабраліся садзіць лес, яму на лячэнне зямлю вывелі з калгаснага севазвароту, але зноў пасеялі жыта, і цяпер чутка хадзіла, што жыта пусцяць на гарэлку, бо цэзій у гарэлцы нібыта не шкодны — чалавек співаецца раней, як яго можа задушыць той цэзій.

Вараннё чорнаю хмараю ўзнялося з зялёнага поля і шуганула цераз дарогу на блішчаста-чорнае. Доўгія стракатыя цені слізганулі перад коламі машыны, і з-за зялёнае выспы насустрач выкацілася шэрая хаціна. Прыгарнуўшы да сябе нізкія хлеўчукі, яна стаяла сярод поля адна, якраз на скрыжаванні лапаціцкай палявіцы і радзімецкай асфальтоўкі, і пад яе вокнамі на мурожна-зялёнай абочыне Валетаў, праязджаючы міма, спыняўся заўсёды. Тут жыў Лаўрэн Хросны, галоўны ў гэтых мясцінах лясны Цэзар.

Хросным яго звалі таму, што на тэрыторыі абходу, у Радзімцах і Лапацічах, ён ахвотна выконваў абавязкі хроснага, любіў гэты вясёлы чын, які даваў пропуск не проста ў хаты, але да святочных і будзённых сталоў. Галоўным жа лясным Цэзарам яго прызнавалі за тое, што рабіў леснікам і, жывучы на скрыжаванні, трымаў у сваіх руках, як казалі, ключы ад радыяцыйнай бяды па гэтых дарогах і ў прыдарожнай акрузе. Драўляныя шчыты з намаляванымі чарапамі і лічбамі ён хаваў у сваім хляве, адзін толькі ведаючы, у якім месцы кожны трэба ставіць, дзе жыве смерць, а дзе яе яшчэ няма. Смерць, вядома, пільнавала там, дзе Хросны ставіў шчыты, а калі іх прыбіраў, дык гэта людзі разумелі не іначай, як дазвол Хроснага ісці па шчаўе, грыбы, ягады — Лаўрэн нібыта рабіў тыя мясціны чыстымі. Чалавек ён быў з хітрынаю, як кожны ляснік, але не злосны, не шкодны, знакі бяды калі і выстаўляў, дык ненадоўга — папужае людзей і схавае ў хлеў. Хоць быў выпадак, калі заеўся з калгасным конюхам Мірановічам, які ў абходзе ў Хроснага выкраў нарыхтаваныя для раённага суддзі дровы. Хросны знайшоў іх на двары ў конюха, сіквестраваў, склаў акт, але нікуды не падаў, суд учыніў свой: ля ганка Мірановічавай хаты на жалезным пасынку падняў вялізны чорны шчыт, на якім былі намаляваныя і чэрап, і 130 кюры на кв. км. Як ні гразіўся Мірановіч, што зваліць хлусню, бо ўсіх 130 кюры ў яго пад ганкам, маўляў, няма, але зваліць баяўся, адчуваючы за ёю закон і ўладу. Давялося тры дні паіць лесніка гарэлкаю, пакуль той не дараваў яму дровы і не адвёз заразу ў свой хлеў.

Валетаў ледзь спыніўся перад варотамі, як на кані пад'ехаў і сам Лаўрэн. На драбінах ляжала некалькі чорных шчытоў.

— Што ты возіш, людзей пужаеш? — пытаннем сустрэў Валетаў.

Хросны споўз з драбін на зямлю, падаў руку:

— Вялікае начальства едзе. Трэба агітацыю выставіць. Дык я што выставіў, а што сэканоміў.— Узваліў шчыты на плячо і панёс у двор за вароты. Вярнуўшыся, кіўнуў на машыну: — Яшчэ ходзіць, лекаў не просіць?

— Бегае. А больш стаіць у сваім хляве.

Адказаў Валетаў спакойна, але ў вочы Лаўрэну зазірнуў з падазронасцю, спрабуючы прачытаць думкі, што засталіся ў галаве лесніка. Машына, хоць на ёй ездзіў Валетаў, належала Лаўрэну, які даў Валетаву з ёю разам даверанасць і тэхнічны пашпарт, бо ў самога быў «конь», ды і ездзіць за

рулём не ўмеў. У той жа час не было б яе ў Лаўрэна, калі б не доктар. Лаўрэн лічыўся інвалідам вайны, меў трэцюю групу, і Валетаў, працуючы два гады назад старшынёю раённага ВТЭКа, зрабіў яму другую групу, па якой Хросны атрымаў ад дзяржавы добрую пенсію, а пасля яшчэ бясплатную машыну. Цяпер ён разумеў: машына яго і не яго, Валетаў яе выбіваў — Валетаў і ездзіў, трымай пенсію і маўчы, тым больш што яе кожны год трэба пацвердзіць на камісіі, а без Валетава не пацвердзіш. Ды сёлета з арміі, адслужыўшы, прыйшоў Лаўрэнаў унук, які ўзяўся калашмаціць дзеда, каб вярнуў машыну ў свой двор. Ахвяраваць дружбаю з Валетавым Лаўрэн не рызыкаваў, але і з унукам псаваць адносіны не хацеў. І што было рабіць? Не мела баба клопату — купіла парася?

Усё гэта ведаючы, Валетаў пацікавіўся, дзе хлопец.

— Узяў сякеру, пайшоў у будаўнічую брыгаду.

— Як яго ўбачыць?

— Заўтра абяцаў заглянуць.

— Перадай, што ён мне патрэбны. І ён, і яго сякера. У лазні буду падлогу класці.

— Ён кожны дзень на рабоце.

— Нічога. Мы з ім паладзім.

Лаўрэн ведаў, як ладзіў Валетаў. Сам карыстаўся яго бальнічнымі лістамі, калі будаваў сыну веранду, капаў бульбу, ездзіў у Магілёў да дачкі. Хай бы і ўнук з доктарам пасябраваў — можа, адчапіўся б ад дзеда, ад машыны?

Тым часам, пакуль перакідваліся слоўкамі, госць заўважыў пад плотам дзве чырвоныя дошкі, тазік з накрыўкаю ад вываркі, прыціснутаю цаглінай. Воддаль ад тазіка хадзілі два ачмурэлыя каты, трывожна каўкаючы. Ды і сам, лепш за катоў, носам чуў востры вантробны пах, ужо не цёплы, але яшчэ свежы. Хітра спытаў:

— Нешта ў цябе сёння кабаны не вішчаць, есці не просяць?

Ляснік усміхнуўся — куды дзенешся ад Валетава?

— Большага закалоў.

І ўжо тут як не запрасіць у хату?

Зайшоўшы ў сенцы, Валетаў адразу сеў да стала. Мінула палова дня, аб'езд толькі пачынаўся, і ён баяўся затрымацца надоўга — у хату не пайшоў.

— Можна і выпіць, але я ўжо выпіў,— загаварыў не зусім ясна, ці то адмаўляючыся ад чаркі і скваркі, ці то на іх намякаючы.

Хросны гэтыя хады-выхады ведаў.

— Яшчэ і я не піў і не еў. Як падняўся, павёз чарапы на бальшак, дык вось калі вярнуўся.

— Дзе ты іх ставіш?

— А дзе конь капытом за камень зачэпіцца, там і пастаўлю. Будуць госцейкі ехаць, хай бачаць, што і мы тут не спім, службу ведаем.

— Ды ты службу заўсёды ведаў.

— А без яе яшчэ ніхто не пражыў.

Пакуль гаспадар смажыў на газавай пліце свежыну, Валетаў выйшаў на двор. Наведаў прыбіральню, зазірнуў у адчынены хлеў. З аднаго боку ад варот ляжаў тарфяны брыкет, з другога цёмны кут быў застаўлены шчытамі: «Цэзій-137», «Зона», «168 кюры на кв. км», «Ягады і грыбы не браць! Радыяцыя!», «Рыбу не лавіць!». Калі вярнуўся на веранду, свежына дыміла на стале.

— Цяпер, Лаўрэн, увесь цэзій у цябе ў хляве.

— Гэтакі загад. Сам кажаш, што нельга людзей пужаць. Іх пусці да праўды, дык гэта ўсё роўна што гарачую махнытку сунеш у стог сена. Каму трэба? Пажару і ўлада баіцца.

— Сам дайшоў да гэтакай хітрасці?

— Ёсць каманда. Сказана, каб раніцай выставіў чарапы па асфальце — я павёз і выставіў. Загадана вечарам сабраць у хлеў — паеду і збяру. За гэта мне грошы плоцяць. Я тут малая сошка.

— Ды не, Лаўрэн. Якая ж ты сошка? Ты — Бог! Ад цябе залежыць радыяцыйная абстаноўка ў зоне.

Ляснік зразумеў жарт:

— А што? Як выстаўлю ўсе чарапы, што ў хляве, дык і жыць не захочаш.

Віно, якое Валетаў піў са Шнэйдарам, размарыла, і ён накінуўся на пячоначку ды сальца. Свежына у любой хаце была святам, асабліва добра ішла пад чарку, і па першай выпілі з ахвотаю, але калі Лаўрэн наліў па другой, Валетаў чарку ад сябе адставіў:

— Дарога наперадзе, шафёр за рулём.

З пустымі рукамі ў свята выпусціць госця Хросны не мог і загарнуў у газетку рабрынкі, шматок сала. Валетаў успомніў, што ляснік заўсёды садзіў шмат бульбы ў лесе на нераскарчаваных прагалінах, і спытаў, як з бульбаю сёлета, калі ва ўсіх не зарадзіла, расказаў пра сваю бяду, што бульбу з'еў амерыканскі жук. Той яго зразумеў, паабяцаў мяхі тры насыпаць. Узяць у Хроснага бульбу Валетаву было выгадна не толькі таму, што грошы ляснік з яго не браў ніколі, але і таму, што садзіў ён бульбу ў лесе, ведаючы, дзе

цэзій, а дзе яго няма, месца выбіраў больш-менш чыстае. За гэтыя гады, як і ўсе, хто жыў у зоне ці побач з зонаю, Валетаў з бядою звыкся, пра цэзій не думаў, тым больш што выбіраць не было з чаго, жытка выбару не давала, у магазінах і на рынку рабілася ўсё пусцей і даражэй, а сям'ю карміць было трэба. Даўно не шукаў чыстага прадукту. Але калі здаралася магчымасць выбраць чысцейшае, дык чаму і не выбраць? Насыпаць мяхі папрасіў не сёння дык заўтра, каб узяць адной машынай, як прыедзе па дошкі да Шнэйдара. І тут Хросны здзівіўся:

— Вырваў у немца дошкі?

Ляснік неаднойчы адпускаў Шнэйдару лес са свайго абходу, ведаў, што даброй той не раскідаецца, жардзіны не перадасць, хоць чужое не возьме, і гэтае здзіўленне Валетаў зразумеў. Сам быў здзівіўся шчодрасці Шнэйдара. Але цяпер падумаў, што і ён, і Хросны кепска ведаюць немца, можа, яго наогул ніхто добра не ведае.

— Я табе, Лаўрэн, скажу, што кожны чалавек — загадка. Тым большая загадка — немец. І да яго трэба мець падыход.

Шчыліны вачэй у Хроснага яшчэ больш павузелі, але ад Валетава ён і ў тых шчылінах не схаваў калючага бляску, які Лаўрэнаву шчырасць рабіў небяспечнай. Насцярожыўся.

— А што такое, Палыч, твае аб'езды? Гэта ж і ёсць падыходы да чалавека, і да кавалка. У цябе падыходы, нібы ў Чычыкава. Са школы памятаю, як той аб'язджаў маёнткі і скупліваў мёртвыя душы. Ад цябе не схаваеш. Ды і ахвоты хаваць ад цябе няма.

— Дурны быў Чычыкаў. Мёртвыя — на халеру жывому? Памятаю таксама і Чычыкава, і тыя душы, а навошта яны яму спатрэбіліся, мёртвыя, і тады не разумеў, як вучыўся, і цяпер не ведаю. Але... пры чым тут Чычыкаў? Ты што хочаш гэтым сказаць?..

Лаўрэн хітранька закругліўся:

— Ды я... ды так. Ну... успомніў.

Але Валетаў бачыў, што Чычыкава ляснік успомніў невыпадкова, сэнс у свой успамін уклаў, і з гэтым усім Валетаву варта было разабрацца. Ён зноў сеў да стала. Лаўрэн зноў наліў чаркі. Валетаў ужо не змаўчаў:

— Ты мяне параўнаў з Чычыкавым. А я табе скажу, што мае кругі па вёсках дабрачынныя. Я зайду ў хату — чалавек рады, што доктар зайшоў. У кожнага баліць, а я — лекар! Можа, не гэтак першы раз зайшоў у тваю хату? Не ты ляжаў-плакаўся, што інвалідаў вайны не прызнаюць?

Я прызнаў? Хто табе пенсію даў? Можа, я ў цябе што-небудзь узяў і не аддзячыў? Машыну ці бульбы мех?

Валетаў нібыта быў пакрыўджаны Лаўрэнам за Чычыкава, і Лаўрэна гэта занепакоіла:

— Ну што ты, Палыч? Ды я зусім не пра тое. Гары полымем той Чычыкаў. Я ж не хацеў...

Валетаву спадабалася, што Лаўрэн захваляваўся, адчуў сябе вінаватым. Чычыкаў сапраўды ні пры чым. Але Лаўрэн рана пачаў забываць ласку, і гэта Валетава абурыла:

— Лапшу на вушы вешаеш. Хоць і ведаеш: мне чалавек сам дае. І Шнэйдар. Што ты падумаў? Я абдурыў немца? Не, ты маўчы. Ты слухай. Шнэйдар рады, калі я да яго прыязджаю. Не я яму сёння чарку паставіў за дошкі, а ён мне за прыезд. І дошкі даў, і дзве пляшкі віна купіў. Ясна? І яшчэ падзякаваў. Немец — культурны чалавек. Галава на плячах. Разумее, што не ўсё ад пляшкі.

Лаўрэн падсунуў Валетаву поўненькую чарку, як спадзеючыся, што гэтая чарка іх памірыць, але Валетаў другі раз падняўся з-за стала і выйшаў на вуліцу, нават пакунак са свежынаю не ўзяўшы. Пакунак вынес Лаўрэн. Сам адчыніў дзверцы машыны і паклаў свежыну на сядзенне. Ён уюном хадзіў вакол гарбуна і Валетава, не ведаючы, чым яшчэ дагадзіць.

— Ты, Палыч, не крыўдуй за Чычыкава. Ну, у галаву стукнула, успомніў. А я ж да цябе ўсёй душою. Я табе ўсё магу аддаць. Бяры машыну, бяры кабана, бяры бульбу. Хочаш — бабу бяры.

Апошняе, пра бабу, рассмяшыла Валетава. Садзіўся ў машыну і рагатаў, аж галавою выцяўся аб жалеза кузава. Рагатаў і Лаўрэн, прысядаючы.

— А што, Палыч? І бабу. Бяры маю Аўдоццю. Вязі разам з бульбаю. Га?.. Бяры!..

— Парагачы. Гэта здорава. А я паехаў.

Яны развіталіся, і Валетаў у добрым настроі пакаціў у бок асфальтавай дарогі. Ад'ехаўшы , азірнуўся на Лаўрэна і ў яго за спіною ўбачыў Аўдоццю. Яна ішла па дарозе з Лапаціч, у адной руцэ несла вядро, у другой мятлу, а Лаўрэн, не бачачы яе спіною, рагатаў, хапаючыся за жывот, аж танцуючы. Аўдоцця ішла ўсё хутчэй, размахваючы мятлою, спяшаючыся да блазнотнага мужыка, і Валетаву зноў стала весела: «Ну, бог лясны, зараз яна табе ўсыпле і за рогат, і за пляшку на стале». Жонка ў Хроснага была скупая, сварлівая, на мужыка заўсёды злая, і што адбудзецца, Валетаў добра ведаў.

Машына тым часам выехала на асфальт, павярнула налева. Валетаў спыніў яе на абочыне. Лаўрэна і Аўдоцці адсюль не было відаць, схаваліся за хатаю, але ўжо не пра іх думаў. Спыніўся перад чорным, як з пажару, шчытом, на якім белай фарбай было напісана: «Цэзій-137. 90 кюры на кв. км». Загадкавыя лічбы распальвалі іншыя думкі. Ён ведаў, што пры пятнаццаці кюры на той самы кв. км жыць нельга, гэта ўжо сказалі навука і ўлада, якія гадамі хавалі праўду аб бядзе, ужо яны нібыта, калі верыць газетам і тэлевізару, вывозілі людзей з гэтакіх вёсак, а тут не пятнаццаць, тут вунь колькі тых кюры, таго цэзію, а людзі, жылі, ніхто іх адсюль нікуды не вёз, яны тут аралі зямлю, садзілі бульбу, гадавалі дзяцей і кабаноў, радаваліся свежыне і шклянцы віна, марылі атрымаць, хто яшчэ не атрымаў, прыварак і грабавыя, адзін з аднаго жартавалі, адзін з адным дзяліліся кавалкам, жылі, як жылі вечна — хто і за што мог папракнуць? Тыя самыя Шнэйдар і Лаўрэн — хіба яму, Валетаву, не радыя? Усе розныя, і ўсе аднолькавыя. Чычыкавым назваў Лаўрэн — за што крыўдзіцца? Гэтакі жарт — з падкалупкаю. І хай калупае. А чарку наліў, свежыною накарміў, дадому кавалак даў — кепскі Лаўрэн? І з Чычыкавым уляпіў не міма — хіба не тымі кругамі ездзіць ён, Валетаў, якімі ездзіў Чычыкаў? Ну, таму патрэбны былі душы мёртвыя — хай бярэ мёртвыя. А яму, Валетаву, каб жыць, трэба і бульба, і дошкі, і мядок, і яшчэ ці мала што? Чалавек не сам выдумляе сабе жытку, лёс падносіць. І ў кожнага свае кругі. У Чычыкава, у Шнэйдара, у Цітка і Мармышкі, у Хроснага, у Валетава. І кругі гэтыя вечныя. Чалавеку толькі здаецца, што ён вядзе прамую лінію жыцця. Кожны пятляе, кружыць. І ўсе кругі паўтараюцца.

У галаве ўзняўся вецер, шум. Уваччу пацямнела. За лабавым шклом ляцела чорнае ласкуцце. Тое самае вараннё, што пералятала праз дарогу, калі ехаў з Лапаціч, зноў пранеслася над машынаю. Нібыта ветрам, яго сагнала на поле, залітае вадою. Вялікі чорны груган сядзеў на шчыце, што абяцаў 90 кюры на кв. км, пагойдваўся і нахабна крумкаў у вочы. Валетаў пасігналіў, алеругана не спалохаў. Хацеў выскачыць з машыны, схапіць камень, ды раптам у люстэрку замільгацелі сінія і чырвоныя агні. Яны падштурхнулі — зноў выехаў на асфальт. І адразу пачуў каманду:

— Вадзіцель! Звярніце на абочыну!

Камы сініх і чырвоных агнёў выскачылі з-за спіны,

і шэры, з тымі агнямі, «жыгуль» апынуўся наперадзе. Валетаў звярнуў з асфальту — стаў. Перад ім стаяў «жыгуль». У вочы кінуўся нумар: MI... Мінскае ДАІ? Валетаў захваляваўся. На дарогах раёна ён не баяўся ездзіць і выпіўшы, раённае ДАІ свайго хірурга ведала, нават Чырвонец, забыўшы старое, даваў пад казырок, але для мінскай аўтаінспекцыі ён быў нуль, прытым нуль з гарэлачным перагарам. Што рабіць? Выходзіць з машыны, прад'яўляць правы і тэхпашпарт ці чакаць, калі падыдзе інспектар? Ды і дзе правы? Ці ўзяў з сабою? Цапнуў сябе па грудзях: у кішэні пуста? А ў вачах зноў бліскалі агні, сінія і чырвоныя. Не тыя, што наперадзе за лабавым шклом, а ў люстэрку — адзаду. Абкладалі з усіх бакоў? Страх пакінуў Валетава. З'явілася злосць на ўвесь свет, на аблаву, на аблавы, якія ганялі ўсё жыццё. Ужо ён прачыніў дзверцы, каб выйсці з гарбуна і гаркнуць лаўцам у твары: ну што, злавілі, сукі? Але «жыгуль» з агнямі, які стаяў наперадзе, нібы ўгадаўшы намер Валетава і спалохаўшыся, звярнуў на сярэдзіну шашы і памчаў далей. Валетаў ледзь паспеў ляснуць дзверцамі, як міма пранеслася другая машына з такімі самымі агнямі, белая з сіняю палосай пад шыбкамі, і за ёю заблішчэлі яшчэ агні, адно белыя, за якімі, у канцы чарады, зноў бліскалі сінія і чырвоныя. Адна за адной з агнянымі вачыма прамчалі чорныя лайбы, пяць ці шэсць, і апошняя мігалка не прыпынілася. Цяпер Валетаў здагадаўся, што пранесліся тыя самыя птушкі, насустрач якім Лаўрэн выстаўляў знакі бяды. Машыны былі ўрадавыя, нашы, але касцюмы і мова там, у іх, чужыя. І нашы, вядома, касцюмы. Без нашае мовы. Касцюмы, плашчы, паліто, капелюшы. Стаяў на бальшаку і думаў: ну... нагналі жаху! Большага, як на Лаўрэна.

Поле блішчэла ад лужын. З дарогі была відаць раскіданая капалкамі, абмытая дажджамі і ўсё ж чорная гнілая бульба. А дзе тое вараннё? Не заўважыў, калі ўзнялося, куды паляцела.

Валетаў абкружыў бярозава-асінавы гаёчак, мінаваў ферму і ўжо за першымі радзімецкімі хатамі спыніўся. Ад асфальту ішоў прагал у бярозавых прысадах, і там, дзе ён канчаўся, віднелася драўляная, абшытая блакітнымі шалёўкамі хаціна. З дарогі можна было пазнаць, што ў ёй ніхто не жыве — дошкамі пазабіваныя і вокны, і дзверы. А пасля вайны тут была чайная, якую называлі «Блакітным Дунаем». За Радзімцамі тады шумелі вялікія лясы, іх няшчадна seklі, вывозілі, і каля хаціны заўсёды запыняліся лесавозы, таўкліся людзі. Заходзіў сюды і Валетаў

з маткаю, калі са свайго радзімецкага лесу вазілі бярвенне на хату. За стойкамі буфета кожны раз стаяў Моцік, тоўсты яўрэй-буфетчык, а ў яго за спіною на паліцах радоў у пяць сінелі пляшкі з дэнатуратам, абклееныя чарапамі, чырвонымі крыжамі і вялізнымі чорнымі літарамі: ЯД! Тут заўсёды таўкліся людзі. Моцік разліваў па шклянках дэнатурат, з бочкі пад правай рукою напаўняў кухлі півам, і з бочкі ад левай рукі доўгай драўлянай лыжкаю браў і хлёпаў на шматок тоўстай шэрай паперы буйную чырвоную ікру. Мужчыны запівалі сінюю атруту півам, злізвалі з паперы ікру, адзін за адным, не затрымліваючыся, выходзілі за парог, а ім насустрач заходзілі іншыя. За стол калі хто і садзіўся, дык ненадоўга — пасёрбаць чаго гарачага. А яшчэ ўспомнілася, як Сінчылу — яны тады хадзілі ў восьмы клас — пасабляў касіць луг, і калі скасілі, Сінчылаў дзядзька прывёў хлопцаў у «Блакітны Дунай», узяў пляшку цэлую дэнатуры, піва, чырвоную ікру і гарачую капусту. Наліў хлопцам як сабе, па паўшклянкі атруты, яшчэ і падбадзёрваў, каб кульнулі па-мужчынску, не выглядаючы бабамі. Яны кульнулі і налеглі на гарачую капусту, паадварочваўшы насы ад ікры. Тая сіняя гарэлка, першая ў жыцці, запомнілася назаўсёды. Самая першая. А пасля — пайшло і паехала. Як з лёгкай рукі.

Валетаў спыніўся каля хаты родненькай цёткі Фёклы, сястры матчынай. Старая сядзела на ганку ў квяцістай святочнай хусціне і рудой куртцы-плюшаўцы, сціскаючы ля твару шэрыя кашчавыя кулакі. На яго прывітанне яна паспешліва выцерла твар канцамі хусціны.

— Гэта ты, Вася? Аслепла, дзіцёнка не пазнаю.

Вочы цётчыны былі чырвоныя, нібы ў трускі.

— Яшчэ ж вы без кійка ходзіце?

— Га, без пайка? Пайкі даюць, слава Богу. Цукар, пясок, учора давалі. Па кіле на душу. Косцік прынёс. А сёння ў краме цукеркі, падушачкі.

Цётка здзівіла. Ці яна сапраўды недабачыла, недачула? Ён быў тут улетку, і тады не скардзілася ні на вочы, ні на вушы, ні на галаву. А чаму вочы мокрыя? Ці ёй плакаць? Жыла з дзецьмі на ўсім гатовым, сынам Косцікам і нявесткай Нюраю не магла нахваліцца.

— Дзе ж Косцік? — спытаў.

— А там, дзе ўсе, каля крамы. Узяў мех ды пайшоў. Кажа, што гярманцы прыехалі, можа, што добрае выкінуць. Хоць і цукеркі, падушачкі.

— Якія гярманцы? Га-а!..

Дапяў: тыя, што памчалі на чорных лайбах? Цётцы ўсе не нашы — германцы. Дзве вайны з імі, германцамі, за плячыма — з галавы не выходзяць.

— А табе, Вася, дзіва, што я не пазнала? Усе бабы ў вёсцы слепнуць. І адна суседка, Цацоха, аслепла, і другая — Бутрымаўна, і трэцяя — Лізка, Колева маці, баба маладая. Ты Колю, культурніка, ведаеш? Цяпер у кожнай хаце сляпыя. Такога раней не было. Ад чаго гэта? Ад цэзію ці ад нукліду?

— Гэта адно і тое ж — цэзій, нukліды.

— А хто яго ведае? Цяперака нейкіх слоў панавыкручвалі. Не на маю галаву.

— Катаракта пайшла гуляць. Вы ў доктара не бываеце?

— А хто, Вася, сходзіць да доктара — у таго катаракта, а хто да доктара не дойдзе — у таго курыная слепата.

— Ну дык прыязджайце да мяне. Скажыце Косціку, хай ён вас прывязе. Доктар выпіша акуляры. Будзеце лепей бачыць.

— Ат! — махнула рукою.— Мяне ўжо магіла вылечыць. Я гарэлкі зроду цярпець не магу. Гэтакая ўрадзілася. Кажуць, што ад цэзію няма ратунку бабам, як я, і дзецям малым, бо ў рот не бяром гарэлкі. Дык і мая катаракта, можа, ад гэтага? А можа, курыная слепата? Вунь школу зачыняюць. У дзяцей забы, як у галубоў, растуць.

Валетаў узяў танклявую, нібы лісцінка, цётчыну руку, і ў гэты момант адчыніліся вароты — пярэстая карова, задраўшы галаву, прывітала ровам. У двары забрахаў сабака, закудахкалі куры.

Цётка кінулася зачыняць вароты.

— Ну, ты маўчы,— узмалілася, хоць Валетаў нічога ёй яшчэ не сказаў.— Як нам жыць без кабанчыка, без кароўкі? Косцік кажа: на халеру тады вёска, калі трэба ад жыўняку адмовіцца? Дзіця малое ў хаце. Хіба ты яго без малачка выгадуеш?

Старэйшыя цётчыны дзеці і ўнукі з хаты павыляталіся, жылі ў гарадах, а Нюра, нявестка, Косцікава маладзіца, год назад расшчодрылася яшчэ на дзяўчынку, і над сваім падскрэбкам бацькі і бабуля дрыжэлі мацней, як над ранейшымі, калі тыя былі малымі.

— А як жа іншыя людзі? Жывёлу ўсе пазадавалі?

— І людзі хаваюцца з ёю, маўчаць. Скажы, што ў цябе жывёла ў хляве, дык нічога не дадуць у краме. Во як зрабілі!

Цётка знікла за варотцамі і выйшла на ганак з сенцаў. У руках трымала рэшата з яйкамі:

— Бяры, Вася, калі нашым не грэбуеш.

Ён узяў яйка, паважыў: вялікае і цяжкое, нібы гусінае. Адно — як два крамныя. Нешта хацеў пра гэта сказаць, ды пачуў дзяціны плач: насцярожыўся, сунуў рэшата з яйкамі цётцы назад у рукі, падняўся на ганак. У хаце плакала не то дзіця, не то жанчына, ці разам — дзіця і жанчына? Адчыніў дзверы. Чарнявая Нюра сядзела на краёчку канапы са спавітай дачкою на руках, карміла грудзямі і плакала ўжо ціха, адварочваючы твар ад дзіцяці, каб слёзы не ліліся яму на галоўку.

— Ну, чаго ты? — Валетаў падышоў да Нюры.— Ну, Нюра? Што здарылася? Дзяўчынка добрая. І сама... Ці, можа, малака няма?..

— Ёсць, Вася! — закрычала Нюра, у адчаі матаючы галавою і ўжо плачучы ўголас разам з дачкою.— Каб яно згарэла, маё малако! Каб у мяне грудзі павысыхалі, як я імі траўлю дзіця! — Усхапілася з канапы, кінула дзяўчынку на падушку.— Ды замоўкні ты! — А тая аж заходзілася.— Каб мне самой здохнуць!..

Старая схапіла дзяўчынку і панесла, гушкаючы, за печ.

— Табе нельга плакаць,— казаў Валетаў, абдымаючы Нюру за плечы.— Кожная твая слязіна дзіцяці перадаецца.

— Ой, Вася, як жа ўсё гэта вытрываць? Кажуць, не кармі сваім. А чым? Усё тут сваё. Чыё ж яшчэ? І кожны раз, як сяду карміць, слязьмі абліваюся. Тады і малая. Плачам абое. Дык што ж гэта за жыццё? Калі яе атручу, дык ці я жыць застануся? Я ж на сябе рукі накладу. І хто гэтак зрабіў, што сама, маці, кожны дзень даю атруту? А божа ты мо-ой!.. А я ж забойца свайго дзіцёначка!..

— Ну, не выдумляй.

Валетаву жудасна рабілася ад таго, што адчувала, думала, казала Нюра. Халаднеў ад яе праклёнаў, ляманту. Чым пасобіць? І калі не ён, дык хто яшчэ? Хто, як не доктар?

Нюра сама, змогшыся ад слёз, замоўкла, і тады Валетаў выйшаў з хаты. Ужо ўкруціўшы дзіця, цётка Фёкла насіла яго па двары. Стаяў на ганку: куды ехаць? Дзяціны і Нюрын плач не сціхалі ў вушах. Усё мог стрываць, забыць, але не гэтыя слёзы, не плач дзяціны. Гэтакае з ім пачалося даўно, можа, з таго часу, як страціў свайго Ігарка. Любая слязіна дзіцяці і над дзіцёнкам даводзіла да шаленства. А дзе ж Косцік? Заязджаў як да сваіх людзей на хвілінку, не мог міма праехаць, а цяпер ужо не мог не ўбачыць Косціка — няўжо не чуе, як Нюра плача?

Самы цэнтр вёскі — магазіны, калгасная кантора, Палац культуры — непадалёк, і праз якую хвіліну гарбун выпаўз з-за хат на асфальтавую плошчу. Ляснуўшы дзверцамі, Валетаў падышоў да прадуктовага магазіна і не памыліўся: браценік тырчэў на ганку сярод людзей. Узяў яго за рукаў паліто, выцягнуў з натоўпу на вальнейшае месца, а ўжо і мігалка на плошчы загаўкала ў жалезнае горла:

— Вадзіцель «Запарожца»! Забярыце машыну!..

Цьфу, паскуда! Валетаў адцягнуў Косціка за магазін.

— Цябе — чуеш? Гарбуна камандуе забраць.

— Уліп я, братуха. Пад газай. А гаішнікі з Мінска. Цяпер хрэн з ім, з гарбуном.

На плошчу заварочвалі чорныя «Волгі», станавіліся роўным цугам адна да адной каля гарбуна, і ён, маленькі і шэры, быў падобны на мышанё паміж блішчастых вялікіх лайб. Пад'ехала яшчэ мігалка, з яе выйшлі міліцыянеры, акружылі гарбуна, праз шкло разглядалі, што ў ім усярэдзіне, бачылі і слоік з півам, і рэшата з яйкамі пад капелюшом, і пляшку віна, недапітую са Шнэйдарам. Капітан хадзіў з мегафонам, абвяшчаў:

— Вадзіцель «Запарожца»!..

Госці з чорных машын падняліся на высокі ганак Палаца культуры. Капітаны ды маёры засталіся каля машын.

— Што рабіць? — спытаў Косцік.— Пайшлі слухаць германцаў. Пакуль не паедуць, да гарбуна ўсё роўна не падыдзеш.

Валетаў пляваўся і лаяўся: уліп па-дурному. І навошта яму спатрэбілася гэтая плошча? Цяпер стой, чакай, пакуль лайбы раз'едуцца, павязуць з Радзімцаў паноў. І ўжо было ўсё адно — тырчаць на вуліцы ці сядзець у Палацы.

Людзей сабралася не густа — брахня ўсім абрыдла, Цэзарам і не Цэзарам. Валетаў і Косцік зашыліся ў куточак на апошніх крэслах, селі так, каб ніхто не бачыў, а самі бачылі ўсё, што вакол рабілася. Перад вачыма і зала з людзьмі, і сцэна, на ёй — чырвоны стол, госці за сталом, у іх над галовамі, перад вачыма ўсяе залы, на чырвонай стужцы лозунг: «Народ и партия — едины!» Валетаў сядзеў і намагаўся ўспомніць, дзе сёння чытаў гэты лозунг? На варотах ДБЗ у Лапацічах? Там літары чырвоныя, напісаныя паўкругам, на фоне залатога сонечнага прамення, а сонца, ягоная макаўка, пад паўкругам слоў.

Маскоўскі міністр пачаў казаць, што робіцца ў краіне, каб зліквідаваць чарнобыльскую бяду, абараніць зямлю і чалавека. Сыпаў мільярдамі рублёў, бэрамі і рэнтгенамі,

гамамі і бэтамі, а людзі між сабой гаманілі, быццам усё гэта ведалі лепш за яго, вучанага. Калі ж скончыў прамову, усхапіўся кілаваты Сёмчык, кармач са свінога комплексу. Ён раней, пакуль не турнулі за крадзеж, рабіў на камбікормавым заводзе, і ў яго Валетаў неяк за пляшку віна выменяў два мяхі камбікорму. Цяпер убачыў — успомніў.

— Калі ўсё гэтак добра,— пачаў Сёмчык,— дык чаму ў нас на комплексе нараджаюцца парасяты без капыткоў, босыя, без лычоў, з кацінымі пыскамі, пацучынымі хвастамі? Ці не значыць гэта, што і людзі могуць нараджацца падобныя да якой малпы ці з пацучыным хвастом? І калі гэтак пойдзе, дык, можа, людства вернецца ў жывёльны радавод?

Зала прыціхла. Адно госці за чырвоным сталом шушукаліся, не разумеючы Сёмчыкавай мовы, адзін у аднаго перапытваючы, заглядаючы ў вочы таму, хто выступаў перад Сёмчыкам, каб патлумачыў. Але і той не ведаў, што адказаць. Нарэшце з-за стала падняўся райкомаўскі сакратар Вастракоў:

— Такога няма і не будзе.

Кілаваты Сёмчык зноў усхапіўся, раскрыў рот, каб запярэчыць, але Вастракоў рот яму заткнуў:

— Фактаў не было. Думаю, што і не будзе.

І хутчэй даў слова госцю з МАГАТЭ. Той гаварыў на заморскай мове, але побач з ім стаяла маладзенькая нетутэйшая дамачка, і яна перакладала на рускую. Калі Сёмчыкава пытанне ўзбунтавала людзей, пасеяла насцярожанае шушуканне і посмехі, дык цяпер ужо прыціхлі, як прыціхае наш чалавек перад заморскім, чакаючы нечага незвычайнага. Той расказваў пра аварыі на атамных электрастанцыях у Амерыцы і даводзіў, што жыццё ў Радзімцах не смяротэльнае, што на астравах, дзе выпрабоўваліся атамныя бомбы і радыяцыя вышэй, як тут, людзі растуць здаровыя і высокія, асілкі, што Херасіма і Нагасакі падштурхнулі японцаў да самага доўгага жыцця ў свеце, што ў Парыжы, адкуль ён прыехаў, радыяцыя большая, як у Радзімцах. У інстытуце Валетаў вывучаў англійскую мову, і яму падалося нешта знаёмае ў мове госця, вырашыў, што чалавек з Англіі, а Косцік пераконваў, што немец, бо нямецкую вучыў у школе і таксама некалі шпрэхаў. Цяпер пачуўшы, што госць прыехаў з Парыжа, абодва разгубіліся — француз? Ды ўсё гэта — момант. Соль пачалася, як госць сеў і ў зале падняўся ўсім вядомы стары Ахрэм, саматужны філосаф, на-

званы Хокам, ад Сафокла, якога ён нават чытаў і вымаўляў па-свойму — Сахокам.

— А ці праўда, што на нас,— спытаў Хока,— звалілася аж сотня гэтакіх бомбаў, як тая, што звалілася на Хірасіму? Калі вучоныя не брэшуць і ў Хірасіме пасля адной бомбы людзі жывуць даўжэй, дык ці не значыць гэта, што радзімцы пражывуць у сто разоў даўжэй за японцаў?

У зале і за чырвоным сталом загаманілі мацней, але Валетаў нікога не мог пачуць, бо ў самае вуха ржаў, нібы стаеннік, Косцік.

Яшчэ не ачунялі ад Хокі, а ўжо побач з ім пачала ўсхоплівацца яго жонка, маленькая Аксютка. Яна заўсёды з якім яблыкам ці скарынкаю хлеба, як мышка, сядзела ў газетах і ведала не меней за мужа-філосафа. Ды і рабіла не рахункаводам у канторы, як ён, а ў школе, выкладала гісторыю, і да ўсяго іншага была партыйная. Куслівых пытанняў, якія мог задаць непартыйны Ахрэм, у галаве ў Аксюты не ўзнікала, словы яе на ўсіх сходах былі ўзважаныя і вытрыманыя, а таму таварыш Вастракоў, які ведаў накіраванасць думак старой настаўніцы, вечнай актывісткі, якраз хацеў даць ёй слова, каб яна выправіла непартыйную лінію мужа.

— Аксюта Хокава? — спытаў у залу і не зразумеў, чаму ўсе зноў зарагаталі. Хокавай звалі Аксюту вяскоўцы, ад мужавай мянушкі, па-вулічнаму, Вастракоў мог назваць яе толькі па прозвішчы Калюга, але прозвішча, пэўна, забыў. За спіною сядзеў старшыня калгаса, і той, прыўзняўшыся з крэсла, на вуха сакратару выпраўляў сітуацыю. Вастракоў хуценька павысіў голас: — У вас ёсць што сказаць, Аксюта Марцінаўна?

Былая настаўніца і актывістка адмахнулася ад Ахрэма, які трымаў яе за плячо, каб не выступала, жадаючы, мабыць, сам яшчэ выскачыць, паднялася, зацягнула на шыі канцы хусткі на мацнейшы вузел і сказала:

— Вось мой Ахрэм даводзіць, што радзімцаў трымаюць у цэзіі сумыслу, каб мы на сваіх касцях рухалі перадавую савецкую навуку. Яе ўжо рухалі і трусы, і пацукі, і касманаўты, а цяпер як бы наша чарга. І яшчэ Ахрэм кажа, што гэта трэба багатай Амерыцы, якая хоча купіць нас разам з цэзіем і стронцыем за даляры. Дык гэта так ці не так? — У зале загаманілі, і ўжо над чырвоным сталом зноў стаяў, як каланча, Вастракоў, трымаў напагатове руку з доўгім указальным пальцам да Аксюты. Яна адчула, што і ёй рот зараз заткнуць, пасадзяць, як пасадзілі мужа, таму закрычала, спяшаючыся давесці, можа, самае галоўнае: — Дык

я што хачу, людзі? Я і мой Ахрэм не супраць, каб нас хто-небудзь купіў. Але калі вы нас купілі, дык раскашэльвайцеся. Дзе тыя далярчыкі?

Вастракову неабавязкова было садзіць Аксюту. У зале ўзняўся гэтакі гоман, што пачуць яе зрабілася немагчыма. Яна сама села. Але, як толькі Вастракоў крыху супакоіў мужчын і баб, зноў падскочыла:

— Жывёлу ў нас забралі, ■ ў краме ні мяса, ні малачка. Што есці трусам ды пацучкам? Хоць якіх каўбасак падкіньце? Лімончыкаў-апельсінчыкаў?

— Чаго захацела!..

Па зале каціўся рогат. Госці за чырвоным сукном круцілі галовамі, пыталіся адзін у аднаго, што кажа старая. Перакладчыца нагіналася то над адным, то над другім, невядома што ўкладала ім у вушы, і тады ўсхапіўся міністр з Масквы. Памахаўшы абедзвюма рукамі, пачаў гаварыць. А з-за чырвонага стала выйшаў той самы ці англіец, ці немец, ці француз, абышоў сваіх, па сходачках спусціўся ў залу і знік за бакавымі дзвярыма. За ім следам падняўся і выйшаў старшыня калгаса Ахрэмчык. Валетаву падалося, што зараз пачнуць выходзіць астатнія госці, і ён таўхануў локцем Косціка:

— Пайшлі.

З ганка Валетаву адразу кінулася ў вочы, што гарбунчыка на плошчы няма. Здзівіўся і Косцік:

— Ты яго бачыш? Я не бачу.

На тым месцы, дзе стаяла машына, з чорна-белымі палкамі стаялі «чырвонцы», і Валетаў адно цяпер успомніў, што дзверцы машыны не зачыніў на ключык, ляснуў ды пайшоў, нібы з хаты ў двор. Але куды яны яе адкацілі ад сваіх «лайб»?

Удвух абышлі плошчу, зазірнулі ў суседнія вуліцы— гарбун як у ваду кануў. Косцік падаўся за Палац у нужнік, а Валетаў стаяў на рагу плошчы і азіраўся. За машыну не хваляваўся — з вёскі нікуды не дзенецца. Але навошта здзекі? Пачуў знаёмы Косцікаў свіст — у два пальцы.

За Палацам у тухлай лужыне стаяла вялізная, быццам хлеў, прыбіральня, падгнілая і схіленая набок, усё роўна як плыла, тонучы, і хіба Валетаў мог падумаць, што ў той лужыне месца ягонаму гарбуну? Машына стаяла побач з прыбіральняй і ў чаравіках да яе нельга было падступіцца.

— Сукі-«чырвонцы»,— нервова чмыхаў носам Валетаў.

Косцік прынёс цагліны, паклаў у тухлянку, каб па іх падабрацца да машыны.

— Ты ідзі дадому,— сказаў Валетаў Косціку.— А мне трэба чакаць. Пакуль не паедуць, за руль не сядзеш.

Браценік нікуды ісці не думаў, гэта Валетаў заўважыў, але як след яго зразумеў, калі той выцягнуў з кішэні пляшку віна. Тут ужо злосць і на Косціка ўзгарэлася: яму чарка ў галаве, калі дома слёзы? Нагадаў і пра Нюру, і пра дачку, што чакаюць. Косцік надзьмуўся, а Валетаву было ўжо балюча не толькі за Нюру, малую, цётку Фёклу, яшчэ і за сябе. Тут свята, Пакровы, даўно не бачыліся, не гаварылі цёпла, як браты, хоць ні ў аднаго, ні ў другога іншых братоў няма — няўжо на сухую разбягуцца? Валетаў ведаў, што Косцік да яго гарнуўся, заўсёды яму рады, а ён? Свінячае рыла на сябе напяліць? Па цаглінках, якія вымасціў Косцік, падышоў да машыны, адчыніў дзверцы, узяў на заднім сядзенні шклянку, два яйкі з рэшата і хутчэй назад — па тых самых цаглінках, падымаючы калашынне. Адышлі ад мышыны, ад лужыны, пад ліпай выпілі, яйкам аб яйка дзюбнулі. А ў вушах — плач і Нюрын, і дзяціны. Спытаў:

— Што ў цябе, братуха, дома робіцца? Што з жонкай, з дачкою? Можа, чым-небудзь памагчы?

Косцік зноў надзьмуўся. Усё роўна як Валетаў кепска зрабіў, што спытаў пра сям'ю.

— У Стахванавай Лізкі сын памірае ў Магілёве. У другі клас хадзіў. Ты ж іх ведаеш? Рак шчытавідкі. Ну... ці мала што ў каго? Дактары ж не прызнаюць, што нашы хваробы ад цэзію?.. А мая дурная баба — усё да галавы.

— Не кажы гэтак. Не дурная. Яна — маці. Мы, мужыкі, шмат чаго не разумеем, пакуль смажаны певень не дзеўбане нам у сраку. Мяне дзёўб. І раз, і другі. А цябе яшчэ, бачу, не дзёўб. Нюра дрыжыць за дзіця.

— Усё так. Але як жыць? — усклікнуў у адчаі Косцік, адводзячы, нібы хаваючы, вочы.— Кожны раз як сядзе малую карміць, дык у слёзы, бытта над нябожчыкам. А ў мяне сэрца няма? Я пень з гары? Яшчэ і доктарка ваша: не кармі, баба, сваім малаком. А чым карміць? Дзе тое чыстае?

— А як іншыя маткі? Не ў адной жа Нюры дзіця малое?

— Іншыя? Як і яна. Карміць трэба? Кароўскае ў нас і дарослым забараняюць. У аднаго Міцькі чыстае. Але якое малако ў дзвюх цыцках? Кароў ужо два разы доім, а яго казу ўсё яшчэ тры разы на дні за цыцкі бабы цягаюць. На тое малако бягуць, адна адну абганяючы.

— У Будавея такое чыстае, як ва ўсіх. Пусціў чутку, што цэзій па нулях і ў бульбе, і ў малацэ — вось і чыстае.

Валетаў не верыў Міцькавым нулям, але доўга не мог даўмецца, навошта мужыку спатрэбіліся тыя нулі, калі іх няма і быць не магло хоць у Радзімцах, хоць за магільнікам у Галыні, на Салаўках, дзе стаяла яго хата — дзвесце метраў ад Радзімцаў. Але пачынаў здагадвацца: не Міцьку — людзям трэба. Ён сам і малако не п'е. Параіў Косціку:

— Ты ж, братуха, не вахлак. Бяры ў Міцькі. Каб хоць Нюра не плакала. Я з ім сёння дамоўлюся. Мне не адмовіць. А то... бяры ў горадзе, на малочнай кухні?

— Хто адтуль прывязе? Гэта ж трэба кожны дзень? Косцік топай дзесяць вёрст ды назад дзесяць? А трактар? А поле? Калі там тую кухню адчыняюць, я ўжо на трактары.

Замоўк Валетаў. Упёрся са сваімі мудрымі парадамі ў сцяну — куды далей? Маўчаў, пакуль Косцік не ўскрыкнуў:

— Гля!..

За прыбіральняй, куды глядзеў браценік, той самы заморскі госць у касцюмчыку — ці француз, ці немец, ці англіец — стаяў бездапаможна, як бег і не дабег, не мог кроку зрабіць ні ўзад, ні ўперад. Спяшаўся ў прыбіральню, і дошка пад ім зламалася — стаяў на дне лужыны па костачкі ў тухлянцы і ў новых для сябе абставінах не мог здагадацца, які яшчэ зрабіць крок, бо смурод разліваўся навокал. Зніякавеў нават Валетаў. Каб гэта ўваліўся свой чалавек, падбег бы ды падаў руку ці што-небудзь параіў, а тут чужы, з самога Парыжа! Яшчэ і сарамата скавала, быццам сам яго ў сваё дабро ўкінуў.

Першы паспяшаўся на дапамогу Косцік. Два крокі зрабіў і спыніўся, убачыўшы яшчэ адно дзіва: з-за Палаца выглянуў старшыня калгаса Ахрэмчык — схапіўся за галаву і зноў схаваўся. Косціку што рабіць? Каб хоць не высунуўся Ахрэмчык. А то як бы даў чырвоны сігнал: стоп! Бо калі не падбег старшыня, дык Косціку, радавому трактарысту, як адважыцца падаць руку чалавеку з Парыжа? Тым часам госць захады рабіў сам. Ён адмераў крок убок, але пакаўзнуўся і, запялёхаўшы калашынне, набраўшы ў чаравікі чужога дабра, ледзь устаяў на нагах, хоць і на сухое не вылез. З-за вугла паказаўся Вастракоў, за ім — той самы Ахрэмчык. Стаялі і глядзелі, каманды зверху чакалі. Косцік не вытрымаў, падбег і, як свой свайму, падаў руку. Вастракоў знік, а старшыня калгаса апынуўся каля Косціка. Пакуль удвух выцягвалі чалавека з твані, Вастракоў прывёў міністра, і яны Косціка адцёрлі, самі павялі госця да машыны.

Чалавека з Парыжа адразу павезлі, а Косцік, душачыся ад рогату, вярнуўся да Валетава.

— Скажы, Палыч? Гэта ж без маскоўскага начальніка не ведалі, як чалавека з гаўна выцягнуць?

— Куды яны яго?

— Можа, у лес адмываць? У Палацы сарцір на рамонце.

— Дык жа вакол людзі жывуць? У любы двор?..

— А раптам правакацыя?

— Ну, засранцы!..— Валетаў вылаяўся.

Яны адышлі ад сталоўкі і адтуль бачылі, як з Палаца выходзілі радзімцы, спяшалі да крамы, натоўп ля якой усё гусцеў. Выйшлі і госці з мясцовым начальствам. Спыніліся каля чорных лайб і глядзелі, як народ штурмаваў краму.

— А я і не зразумеў, чаго яны да нас прыехалі,— прызнаўся Косцік.

Валетаў таксама не мог даўмецца, навошта ім, французам ды шведам, спатрэбіліся Радзімцы, але была ў яго свая думка:

— Ты «Мёртвыя душы» Гогаля чытаў?

— Не чытаў, але ў школе праходзілі.

— Дык Чычыкава памятаеш? Як ён ездзіў па маёнтках, купляў душы памерлых?

— А на хрэн яны ім? І мёртвыя, і жывыя?

— Ты ў іх спытай.

— А можа, не душы — Цэзары спатрэбіліся? Можа, праўду сказала Аксюта? Купляюць нас? На тавар прыехалі паглядзець?

— Вунь дзівяцца, як мы, ачмурэлыя ад цэзію, душымся. А за чым гэта? За чарнілам ці куравам?..

Косцік зноў зарагатаў, успомніўшы пра француза, а Валетаву і успамінаць пра тое было брыдка, нібы сам выкупаўся і смярдзеў. Хацелася закласці ў рот пальцы, выліць з сябе гаркату, і ён адышоў пад плот, грудзьмі на яго аблёгся.

Не заўважыў, як знік Косцік. Схамянуўся, калі ўжо ў вачах заблiскала: з плошчы вырульвалі мігалкі, стрыглі чырвонымі ды сінімі, як на каляднай ёлцы, агеньчыкамі, і следам за імі выкатваліся чорныя лайбы. Не ўбачыўшы нідзе Косціка, Валетаў па тых самых цаглінах падышоў да машыны, сеў за руль і ціхенька выехаў на апусцелую плошчу. Завярнуў за магазін, а там і Косцік:

— Вылазь, братуха. Даюць сушаныя бананы, з Індыі, турэцкі чай і цукеркі, падушачкі.

— Ну во, Аксютка і выпрасіла тое-сёе трусам-пацукам.

Узяць ласункі дзецям Валетаў хацеў, але не было грошай ды і людзей вакол магазіна сабралася болей, як дагэтуль у Палацы, ганак штурмавалі мужчыны, жанчыны толькі пазіралі збоку, выглядалі кожная свайго. У гэтакі вір Валетаў ніколі не кідаўся, і Косцік яго зразумеў — пашыўся сам у натоўп. Валетаў вярнуўся да машыны, сеў за руль. Не ведаў: чакаць ці ехаць?

Дзень дагараў, і адно цяпер Валетаў падумаў, што сённяшні аб'езд не вельмі ўдаўся. У Лапацічах пабачыў людзей, якіх хацеў пабачыць, зрабіў тое, што меціў зрабіць, не ехаў пусты, але ў Радзімцах карты зблытаў Косцік. Праз яго зачапіўся за Палац і цяпер ці шмат паспееш аб'ехаць? Раніцай, калі пакідаў горад, спадзяваўся, што з Радзімцаў заверне ў Маліну, Халмянку, Чудзікі, у кожнай вёсцы наведае знаёмых людзей, завітае на Салаўкі да Будавея, у якога разжывецца на свежую рыбу, і прыцемкам, вяртаючыся назад, падкоціць да Манінай хаты. Але цяпер бачыў, што загадзя намаляваны ў думках круг трэба рэзаць, і калі рэзаць, дык адразаць Халмянку, Маліну, Чудзікі, хоць у кожнай з гэтых вёсак нешта губляў, не заехаўшы. У Халмянцы жыў стары Даніла, у якога Валетаў кожны год браў дзесяткі тры дубовых венічкаў у лазню, той іх ужо і вязаў, ведаючы, што прыедзе доктар, але Валетаў даўно не заглядаў, і стары мог тыя венікі каму-небудзь прадаць. А ў Маліне людзі яшчэ не зваліся з авечак, як пазводзіліся ў іншых вёсках, і цяпер, калі мінала самая пара рэзаць авечак, па хатах можна было сабраць сырыя аўчыны на кажушкі сабе, дзецям і жонцы, якая яна ні сцерва. У Чудзіках ведаў чалавека, які б іх, пакуль тыя маразы, вырабіў, пафарбаваў.

Валетаў завёў гарбуна, каб ехаць, не чакаючы браценіка, ды той, нібы адчуўшы яго намер, з'явіўся:

— Я цябе там шукаю, а ты тут? Сямёнаўна, крамшчыца, чорныя дзверы табе адчыніла.

У руках у Косціка быў не пусты мех — ускінуў на капот. Валетаў зазірнуў у мех і здзівіўся: пуд, не меней, адных цукерак, танных падушачак у цукры, а зверху яшчэ і цэлафанавыя пакецікі з тымі самымі індыйскімі бананамі.

— Навошта столькі цукерак?

— Варыць, братуха.

Валетаў адстаў ад жыцця. Яго даўно не здзіўляла, што людзі мяхамі валаклі з крамаў радыяцыйны, з Украіны, цукар на самагонку, але што і цукеркі ішлі на сівуху — першы раз чуў.

Вуліца, якой ехалі, вяла на галынскую дарогу да Буда-

вея, і цяпер Валетаў быў гатовы развітацца з Косцікам, але таму спатрэбілася пад'ехаць да магільніка. Ён збіраўся ставіць на бацькавым курганку жалезны крыж замест гнілога драўлянага — на месцы хацеў прыкінуць шырыню і вышыню. Валетава гэта мала хвалявала. Машына ўжо ехала міма высокага плота з брамаю лясгаснай мехустаноўкі, дзе млын звычайна круглыя суткі малоў хвойную лапку на муку жывёле, і далей, праз вуліцу, стаяла Маніна хата. Заехаць цяпер ці пазней? Можна цяпер, калі б не Косцік. А калі не заедзе і Маня ўбачыць у акно, як праехаў міма? Спыніў машыну, спытаў у Косціка:

— У Лапацічах працуюць, а тут ціха. Выхадны?

— Забастоўка. Другі тыдзень. Лапнік у лесе сякуць, сюды вязуць, а малоць няма рук.

— А я думаў, што Цэзары ў запоі?

— Патрабуюць даплаты за радыяцыю. У лесе нарыхтоўшчыкам лапкі плоцяць, а тут ні фіга, быццам тут тая самая лапка чыстая. Дурняў знайшлі?

Валетаў слухаў Косціка, але выкройваў сваё: заехаць да Мані ці пачакаць, як сцямнее? І павярнуў за плот.

— Сюды навошта? — здзівіўся Косцік.

За плотам упёрліся ў штабель чорнага спарахнелага лапніку, аб'ехалі, выбраліся на ўзгорак і скаціліся ў лагчынку, дзе алешнікам бегла тая самая Калыма. Папятляўшы па Радзімцах, яна лясочкам спяшалася ў Лапацічы, каб там знайсці рупліўцаў Мармышку і Сож.

Едучы да Будавея, Валетаў часта за апошнія гады праязджаў міма млына, але даўно не заглядаў на гэты беражок Калымы. Дзе спыніўся, акурат тут, на пясчаным грудку, некалі стаяла бабіна лазенка. Згадаўшы яе, Сцёпачку ўбачыў, старога салдата, які пасля вайны пасабляў удовай бабе Тэклі паліць лазню, насіць ваду з рэчкі і ў лазні жыў. Пад паветкаю ляжалі дровы, віселі венікі, стаяў тапчанок, закіданы трантамі. Парыўся Сцёпачка апантана. Даваў столькі пары, што мала хто мог уседзець на палку. Малыя падкрадаліся да акенца і цікавалі, ці жывы там Сцёпачка, а той, бывала, выскачыць галяком ды за імі. А як напарыць каторага, дзверы расчыніць: бяжы ў рэчку — хоць у дождж, хоць у снег. Сам стаіць на парозе, рукамі прыкрываючы сарамату, рагоча. Пасля распальваў вогнішча, ставіў у агонь чорны чайнік з вадою. Частаваў чаем усіх, хто падыходзіў. Пілі з конавак, бляшанак, а ён успамінаў вайну, як вызваляў Варшаву, Прагу, браў Берлін. Валетаў не памятаў, калі Сцёпачка з'явіўся ў бабінай лазні, хоць здагадваў-

ся, што здарылася гэта адразу пасля вайны, затое добра памятаў, як ён развітваўся з бабінай лазняй, з Радзімцамі. Гэта адбылося ўлетку надвечар. Садзілася сонца, з пашы берагам Калымкі з-за Сажа вярталіся каровы. Каля бабінай лазні стаялі драбіны, у драбінах сядзеў з вінтоўкаю на каленях міліцыянер, у шынялі, курыў, а Сцёпачка на лаўцы нешта запіхваў у мех. Пойдзе ў лазню і зноў выходзіць, анучку вынесе і запіхне, пойдзе пад паветку і адтуль нешта нясе, яшчэ якую анучку. Завязаў мех, сеў на лаўку і таксама закурыў. Міліцыянер пачаў падганяць, каб ужо садзіўся на воз. А Сцёпачка курыў і дужа сумна глядзеў на рэчку Калымку. Апошні раз як зайшоў у лазню, дык выйшаў з яе таксама ў шэрым шынялі. Зашпіліўся, паклікаў да сябе пацаноў, што круціліся паблізу на беразе, кожнага пагладзіў па галаве цяжкой грубай рукою, з кішэні шыняля дастаў нешта ў хусцінцы, сунуў Валетаву за кашульку, дастаў з меха нешта загорнутае ў анучу і таксама яму аддаў, сказаўшы, каб аднёс бабе Тэклі. Ускінуў мех на спіну, ускочыў на драбіны і падагнаў каня: «Ну, пайшоў, вараны». І заспяваў: «Ой, вы коні, вы коні стальныя...» Валетаў памятаў і тое, як прыбег да бабы Тэклі, кінуў перад ёю на стол пакунак ад Сцёпачкі. Ануча разляцелася, і ў ёй аказаліся новыя боты. Дастаў з-пад кашулі малую анучку і яшчэ мацней здзівіўся: у ёй ляжалі медаль «За адвагу» і паперка, спісаная хімічным насліненым алоўкам. Паперкі ўзяла баба, чытала і плакала. Яны разам пайшлі за вёску на дарогу, якая вяла ў горад, доўга на ёй стаялі. Баба глядзела ў той бок, дзе быў горад, і ўсё выцірала на твары слёзы, а ён, малы, нічога не разумеў у тых яе слязах, у ад'ездзе Сцёпачкі. Вяртаючыся дадому, спытаў у бабы Тэклі: «А куды паехаў Сцёпачка?» Баба яму на гэта нічога не адказала. І тады ён зноў спытаў: «А гэта да яго прыязджаў брат?» Баба паглядзела дужа строга: «Адкуль ты ўзяў, што брат?» І ён адказаў: «А той быў як Сцёпачка, у такім самым шэрым шынялі і абодва старыя, сядзелі на драбінах побач, як браты, толькі той быў у ботах і без барады, а Сцёпачка ў лапцях і з барадою». І тады баба Тэкля пагладзіла яго па галаве, як раней Сцёпачка, адказала: «Усе людзі, дзіцёнак, браты. Толькі яны, браты, розныя. Ёсць добрыя, ёсць злыя».

Валетаў стаяў перад старым абламаным кустом, што некалі рос каля лазні. Белы, вясною — як купіна снегу, бэз. Баба казала, што яго пасадзіў Сцёпачка. Сто разоў пад корань абламвалі, а ён усё адрастаў.

Берагам Калымы Валетаў прайшоў далей, дзе стаялі

дзве старэнькія лазенкі. Каля першай сеў на калоду. Падышоў Косцік.

— Ці ёсць у цябе закурыць? — спытаў Валетаў.

Косцік доўга поркаўся па кішэнях:

— Хацеў купіць, ды няма ў краме. Хрэнова стала з куравам. І зона, а не завозяць.

— Цэлы дзень без курава.

Памаўчалі.

— А ты Сцёпачку памятаеш? — спытаў Валетаў. Косцік доўга думаў, не мог успомніць.— Ды... ты і не можаш памятаць. Ты яшчэ тады быў у праекце. Яго ў сорак восьмым забралі. Салдат у шынялі. Жыў у бабінай лазні.

— Га-а!.. Ну дык чуў. Вораг народа?

Валетаў аж скалануўся. Ажно запякло ў патыліцы, у носе, у вачах. Доўга глядзеў збоку на брацеініка, быццам раптам узненавідзеў і не ведаў, як вымесціць абурэнне.

— Дурань ты, братуха. Ну і дурань!..

Гэтакая рэакцыя Валетава была Косціку нечаканасцю:

— Ды я... Людзі казалі.

— Дурні, як ты.— Рукі Валетава ляжалі на каленях і дробненька калаціліся. Ён гэта сам заўважыў, паклаў адну на адну, адной супакойваючы другую, але калаціліся абедзве. Сунуў руку пад крысо курткі і з унутранай кішэні выцягнуў біклажку.— Лепш збегай у машыну, прынясі шклянку. Ды вады якой. Бяжы!

Косцік вярнуўся са шклянкаю, але вады не знайшоў, прынёс два яйкі і цэлафанавы пакет з бананамі. Валетаў наліў у шклянку спірту, выпіў, сунуў біклажку са шклянкаю Косціку, выхапіў у яго з рукі яйка. Запіў яйкам і вочы заплюшчыў, прыслухоўваючыся, як разлівалася гарачыня па целе. Адразу цёплае супакаенне пайшло па нервах, рукі перасталі калаціцца.

— А Уладзіка Лыча ведаў?

— Ну, як жа? Вось... мы ў яго ў гасцях. Гэтая лазня — ягоная. Матка два гады як памерла. Рак страўніка.

— У тым самым годзе і ён.

— Дзе гэта ён служыў? У Архангельску? А лазня стаіць, нікому не замінае. Гэта ж ты з ім вучыўся?

— У адным класе.

Валетаў усхапіўся, абышоў лазню. Няўжо тая самая, Уладзікава? Была лазня — звон! А цяпер? Абсела, вянцы на два ў зямлю ўгрузла, счарнела, страха сыпалася, франтон выбіты, зялёнай дзярнінаю зарасла, а вакол ламачча, як яго сюды знарок панавезлі. Нейкія ламаныя колы, пала-

зы, драбіны трупехлыя. Усё пагрузла ў хмызах, крапіве.

— Ці праўда, што ён на самалёце разбіўся над Новай Зямлёю? — спытаў Косцік.

— Разбіўся? — Схамянуўся: як над Новай? Уладзік спіўся, даўно быў спісаны з палётаў, апошнія гады працаваў у штабе палка. Пра тое, што ў штабе, сам пісаў. А потым? Яго жонка, як прыязджала з сынамі на пахаванне свекрыві, расказвала Валетаву, што Уладзік атруціўся масандраю — тэхнічным спіртам, які злівалі з самалётаў. Утрох пілі — аднаго ўратавалі, а ён і яго камэска згарэлі.— Разбіўся, Косцік. Уладзік разбіўся. Над Новай Зямлёю.— Жонка прасіла, каб нікому не гаварыў, як было. Не трэба. Хай — разбіўся.

Зноў завярнуў за лазню: дзе іх хата? Яшчэ нядаўна стаяла — ужо няма? Далей па рэчцы стаялі лазенкі Котавых, Сінчылы, Крывога Матыля — дзе яны? Дзе вербы? Дзе хлопцы, з якімі ў Радзімцах рос, вучыўся? У вёсцы было ўсяго шэсць класаў і хто хацеў вучыцца далей, той хадзіў у гарадок: Лыч, Сінчыла, Кот, Матыль — дзе яны? Хто іх павыганяў з вёскі? Хто з іх яшчэ жывы? А Лісачка? Таня Лісава — дзе? На Далёкім Усходзе выйшла замуж? Божа, што яе пагнала праз усю краіну? Каханне? Ды не, свайго марака яна ўжо там знайшла. А каханне было тут. Яе кахалі ўсе хлопцы, галовы гублялі. Уладзік — першы. А ён, Валетаў? Піхнуў ад сябе дзверы лазні, каб адчыніліся, і яны, знятыя з петляў, проста адваліліся, загрымелі на падлогу ў прымыльнік. Зайшоў — дзвярэй не было і з прымыльніка ў парылку. А печ стаяла. Дзіўна, што яшчэ не разабралі на цэглу. Комін абваліўся — дзірка ў неба. Пераступіў парог, глянуў на палок. Дошкі ляжалі як і тады — шырокія, чорныя. Успомніў: той самы палок, на якім ён, Валетаў, стаў мужчынам, ужо не ў тым сэнсе, што пад венікам Сцёпачкавым, а ў сэнсе самым хвалюючым, які існуе на зямлі, у той самы момант, калі Лісачка стала жанчынаю на гэтым палку. Ён ёю пакутаваў даўно, з таго часу, як яна пачала разам з ім хадзіць з Радзімцаў у гарадскую школу. З імі хадзіў і Лыч, таксама кахаў Лісачку. Валетаў пакутаваў ціха, таемна ад усіх, тыя гады ён быў наогул, можа, самы ціхі. А Лыч нішто сваё не хаваў. Ужо ў сёмым класе ён быў высокі, танкашыі, чубаты, хуткі, як сабака, галаву насіў заўсёды адкінутаю назад, ганарыста. А Валетаў быў ростам невялічкі, адзін з самых малых у класе. Гэта ўжо ў дзесятым выцягнуўся, дагнаў і Лыча, і ўсіх сябрукоў. Лыч быў першым Лісаччыным гусарам. Праўда, нядоўга. У дзевятым з ёю ўжо хадзіў

Сінчыла. Валетаў як бы з засады выйшаў у дзесятым. Аднойчы на вечарынцы ў Радзімцах як узяў яе на вальс, дык не выпусціў з рук ні ў той вечар, ні ў тое лета. Гэта было апошняе школьнае лета. І калі ад'язджаў вучыцца ў Мінск, у інстытут, яго праводзілі ўсім класам, хто яшчэ быў у гарадку і ў Радзімцах, а Лісачка пры ўсіх цалавала яго і плакала, і вісела ў яго на шыі, і бегла за вагонам, які забраў яго з гарадка, ад яе. Зімою, прыехаўшы на студэнцкія канікулы, у той жа вечар па глыбокім снезе ды моцным марозе ў лёгенькім паліцечку і чаравічках, прыхапіўшы ў магазіне бутэльку гарэлкі, шыбаваў у Радзімцы. У Тані цяжка хварэла цётка, памірала, і яна ўжо нідзе не вучылася, працавала на ферме. Яны ішлі па начной Калыме і сцежкі не знаходзілі: снегу намяло па калені, гуляла завіруха, мароз ціснуў, аж усё крактала. У Лычавай лазні, яшчэ цёпленькай, на акенцы стаяў агарачак свечкі — запалілі. Не знайшлі ні шклянкі, ні конаўкі. На лаўцы ў вядры з вадою плаваў апалонік, і ён, Валетаў, у яго наліў гарэлкі, даў Лісачцы. Яна ніяк не магла выпіць з апалоніка, спрабавала і не магла. І тады выпіў ён, цярпліва і рашуча, як трэба перад дзяўчынаю, не здрыгануўшыся, не скрывіўшы твару і не спяшаючыся ратавацца цукеркаю. За другім разам яна ўсё ж выпіла і папрасіла вады. Ваду пілі з таго самага апалоніка. Ён яе цалаваў, аж зрабілася горача. Скінуў сваё паліто на палок, туды ж закінуў шэрую заечую шапку, расшпіліў Лісаччын кажушок. Яна як бы саромелася цалавацца, быццам ніколі не цалавалася ні з Лычам, ні з Сінчылам. Але потым, як незнарок, паваліла локцем свечку, агеньчык пагас, і Лісачка аж уся прыліпла да яго, шэпчучы: «Я чакала цябе, Вася!» А ён ёй, наіўны: «Я ж ведаў, я ж бег сюды». Хацеў гаварыць шмат чаго, а яна не давала, пацалункамі ўсё рот затыкала: «Ды не, не цяпер. Я чакала цябе колькі гадоў, а ты ўсё быў ціхі, нясмелы...» Абаім стала горача. Ён зняў з яе кажушок, паклаў на палок, а потым схапіў і яе на рукі, з ёю ускочыў на той кажух. «Не трэба, Вася! Ну, не трэба! » Не то сапраўды прасіла, каб ён яе не чапаў, не то, наадварот, падганяла, каб быў смялейшы. «Ну ты ж не гэтакі, Вася, ты ж ціхі, Васечка...» І тады ён як узлаваў на ўвесь свет, на сябе, на свае тыя гады, калі быў ціхі, нясмелы, баяўся сябрам дарогу перабегчы, здалёк на іх з Лісачкаю глядзеў, ледзь не плачучы. «Трэба, Таня,— сказаў рашуча, як яшчэ нікому не казаў.— Цяпер або ніколі». Яна ўскрыкнула і заплакала. І тыя яе слёзы ён зразумеў як радасць, бо іначай і не магло быць у тую цудоўную ноч, калі яна была маладзенькая, цёплень-

кая, гладзенькая, як уся з зямной пяшчоты, з кветачак і сонейка, а ён — увесь з нейкай не сваёй упартасці. Цёпла было ў Лычавай лазні. За акенцам спявала мяцеліца, гуляючы ў жмуркі з начным снегам. Што з ім рабілася? Ён жа гэтага раней не ведаў, як не ведала гэтага яна, і адкуль усё адчуваў, як што трэба рабіць? Няўжо і гэта ў чалавеку ад прыроды, у памяці генаў, і аднойчы прачынаецца як сваё, быццам ужо было раней, як было з ім і з ёю?..

Страх і разгубленасць апанавалі пасля. Нібы ад страты чагосьці чысцюткага. Гэта адчулі абое, у адну і тую ж хвіліну, бо калі ён гэта адчуў, яна кінулася яму на грудзі і закалацілася моцна-моцна. Ён спытаў: «Табе, Таня, халодна?» І яна, калоцячыся, ледзь вымавіла: «Та-ак...» Ён пасобіў ёй апрануцца. Яна калацілася. Ён кінуўся ў прымыльнік, прынёс бярэма дроў. Яна закрычала: «Не палі, каб хто не ўбачыў дым з коміна!» Тады ён адчыніў у печы дзверцы, за якімі ляжалі камяні, сунуў туды руку — выхапіў, апёкшыся. Апалонікам лінуў вады. Камяні не шыпелі. Лісачка ўжо стаяла побач, укрывала яго сваім кажушком. «А ты, Вася, ліні з другога боку, знайдзі хоць адзін гарачы каменьчык». І ён яго, адзіны, знайшоў, які прачнуўся і зашыпеў. Яны тады абое абрадаваліся. «Не лі шмат, заллеш!» Ён гэта ведаў. Яны ўдваіх лілі на гарачы камень ваду, пакрысе, і камень шыпеў, і ад яго праз дзверцы ішла гарачая пара. У лазні пацяплела. Яны забралі з акна свечку, запалкі, залезлі зноў на палок і ў самым куточку запалілі агеньчык. Божа, якая дзіўная была ночка! Дзіўная была Лісачка. Чыстая і пяшчотная, таемная, як тая ноч, блізка-зямная, як свая вёсачка. Да той ночы ён ніколі не ведаў гэтакай салодкай дзяўчыны і ніколі пасля не ведаў. Неаднойчы пра гэта думаў. Калі б не Лісачка, не тая ночка з ёю, няўжо ніколі б не зведаў, што такое сапраўдная жанчына, яе пяшчота, яе асалода, яе палон і тваё, у яе абдымках, спасціжэнне найвышэйшай таямніцы жыцця? І няўжо ёсць мужчыны, якія гэтага не ведаюць? О, няшчасныя!..

— А ты чуў, што Танька Лісава памерла?

Валетаў здрыгануўся, аж грукнула, нібы аб нейкую вострую костку, сэрца, забілася часта-часта. Хто там, за спіною, ускінуў сякеру?

— Косцік?.. Што ты сказаў?..

— Танька Лісава... Ты ж з ёю ў адным класе вучыўся? Дык яна, кажу... Тэлеграма была з Находкі. А тут ужо нікога з радні. І дзядзька памёр, і цётка. Яна ж у іх гадавалася. Бацькоў і не памятала. Бацька на фронце загінуў,

а маці памерла ў вайну. Тэлеграма хадзіла па хатах. Я сам яе ў руках трымаў. Ты што?.. Табе ніхто не казаў?..

— Яна ж, Лісачка, недзе ў Прымор'і? За марака выйшла...

— Ну дык што?.. Тэлеграма была з Находкі.

Косцік стаяў на парозе, рукамі ўзяўшыся за луткі дзвярэй, і твару яго ў шэрані лазні відаць не было. Стаяў нібы здань, нібы чорны крыж.

— Ідзі!.. Ідзі!.. — паўтарыў Валетаў, як баючыся не Косціка, а яго здані, яго крыжа.

— Куды, братуха?

— Ідзі!..— зноў паўтарыў Валетаў.— Чарніла... У машыне...

— Навошта чарніла? Ёсць белая.

Косцік выскачыў з лазні. Валетаў упёрся грудзьмі ў палок, тварам сунуўся ў цёплыя дошкі, далоньмі гладзіў іх: няўжо, Лісачка, і цябе ўжо няма?

Адзаду, пад нагамі ў Косціка, грукнулі дзверы. Валетаў усхапіўся, рукавом курткі шмаргануў па вачах.

— Трымай.

Косцік працягваў шклянку. У другой руцэ ў яго была пляшка. Не глянуўшы яму ў твар, Валетаў адвёў працягнутую руку ўбок і шклянкі не ўзяў.

— Паехалі.

Міма Косціка сігануў за парог, да машыны.

— Ды ты што, братуха? Белая, руская. Чуеш?..

Валетаў сеў за руль. Машына смарганулася, і Косцік ледзь паспеў у яе ўскочыць. П'яна калыхаючыся на ямах, якіх Валетаў не бачыў і не аб'язджаў, трымаючы паміж каленяў пляшку, ён незадаволена бубнеў, нешта казаў, але Валетаў яго не слухаў.

— Кажаш, забастоўкай свайго дамогуцца?

Косцік таксама пераключыў пласцінку:

— А ні фіга. Мы — не Яўропа. Добра баставаць там, дзе гаспадар умее капейку лічыць. А наша дзяржава лепш мільён у зямлю закапае, згноіць, а рубель свайму чалавеку з рук не выпусціць.

Дзяржава!.. Валетаў бачыў перад сабою Лісачку такою, якой яна, цёпленькая, ляжала ў тую далёкую ноч побач з ім на палку ў Лычавай лазні, шэпчучы: «Ты мяне, Вася, кахаеш? Ты мяне будзеш заўсёды кахаць? Я цябе, Васечка, заўсёды... Я не магу без цябе. Я гэтак... даўно, Вася...» І раптам узарваўся:

— Вам усё дзяржава кепская!.. А дзе, у якой дзяржаве

жыла-была Лісачка?.. Ты яе бачыў?.. Яна — з Амерыкі?.. Танечка Лісава — не ў гэтай дзяржаве?.. Дурні!..

Твар у Косціка скамянеў, адны вочы, спалоханыя, некуды імкнуліся з ямак. Ён заплямкаў тоўстымі губамі, нешта хацеў сказаць у адказ, хапаючы паветра, нібы рыбіна ў прыдуху, і закрычаў:

— Стой, куды гоніш?.. Стой!..

Валетаў рэзка тармазнуў. Косцік сунуўся галавою ў лабавое шкло — пляшка звалілася пад ногі. Адчыніў дзверцы:

— Ты што?.. Га, братуха?.. Пры чым тут Лісачка?..

Валетаў цяжка дыхаў, усё роўна як не ехаў, а бег на гару.

— Ды я так. Проста... успомніў.

— Дык пайшлі да дзядоў. Трэба крыжы замераць. Новыя буду ставіць. Пакровы, бачыш... Матку тваю спамянём. І бабу. Мае таксама ляжаць...

Валетаў сядзеў, глядзеў на магільнік, каля якога спыніўся, на бярозы, крыжы пад бярозамі.

Косцік угаворваў, не ўгаварыў — псіхануў:

— Дык навошта я браў змея-гарыныча? — Аж страсянуў перад брацёнікам пляшкаю.— Дзеля цябе і браў. Каб на магілцы, як людзі, старых спамянуць...

Абы ён супакоіўся, не злаваў, Валетаў паабяцаў:

— Заеду, як буду вяртацца. Тады з гарынычам разбяромся. А ты крыжы замярай ды бяжы да Нюры. Чакай мяне дома.

Валетаў абагнуў магільнік, выехаў на ўзгорак, спыніўся, адчыніў дзверцы і азірнуўся: ад магільных бяроз з-за выспы тырчэлі адны вяршаліны. Што там рабіў Косцік? Трэба і крыжы замераць, але ж яшчэ раней Нюра казала, што мужык яе зачасціў на магілкі. Нешта яго сюды цягне?

Пачуў далёкі танклявы голас. Быццам з таго боку, дзе бярозкі, з Радзімцаў. Як усё роўна малое плакала.Ляснуў дзверцамі, газануў, ад'ехаў, зноў спыніўся. Перад машынаю ляжала раскоўзанае раздарожжа. Дарога з Радзімцаў паварочвала направа ў Маліну, ад яе адлятала вузейшая левая, на Галынь, і Валетаў успомніў шэры крыж, пад крыжам — Белы камень, крынічку пад каменем, вясёлую і чыстую, якая бегла з адхону ў Сож. Назва была і ў крынічкі — Бразгун. І была дарога на Бразгун. Людзі ішлі сюды ў святы. На Тройцу, на Міколу, на Пакровы. Збіраліся мужыкі і бабы з Радзімцаў, Маліны, Лапаціч, Халмянкі, Чудзікаў, нават

з далёкіх вёсак, з горада. Збіралася моладзь, збягаліся падлеткі. Чысценька апрануўшыся, прыходзілі баба Тэкля, маці, дзядзька Ерафей. Вада тут была святая. Старыя вымывалі з вачэй слепату, маладыя дзяўчаты, каб папрыгажэць, мылі твары, кожны яшчэ і дадому наліваў то бутэльку, то слоік. Як на Тройцу, дык прыносілі кветкі і зялёненькую дзеразу, сплялі вяночкі, вешалі на крыж, клалі на Белы камень, у крыніцу-вадзіцу.

Да Валетава не адразу дайшло, чаму ўспомніў крыж, камень, крыніцу. Зразумеў, зноў убачыўшы, як жывую, Лісачку. У белай, вышыванай чырвонымі крыжыкамі кофтачцы, з сінім вяночкам на галаве. І зноў скалануўся: няма Тані?

Выйшаў з машыны, агледзеўся. Нідзе нікога. І нічога. Ціха. Ні крыжа, ні каменя, ні крыніцы. Дзе тое поле, на якім красавала жыта, цвілі васілёчкі? Нават дарогі няма. Трактары ды машыны яе растаўклі, сапхнулі да Сажа. На месцы крыжа, крыніцы і каменя, таго жыта і тых васілёчкаў — абмылак мёртвага шэрага поля, на якім другі год не сеялі і не жалі. Гэтак спаганіць святое месца! Трактарам камень звалаклі ў Сож. Дзе тое — усё? Дзе Танечка з сінім вяночкам на русай галоўцы? Дзе Лыч? Дзе Сінчыла? Усе дзяўчаты і хлопцы — дзе? З класа адзін Валетаў жывы? Няўжо адзін застаўся?

Як матор на старых свячах, збоі давала сэрца. Паколвала. Ужо трэба было нешта насіць у кішэні, хоць валідольчык. Ціха апусціўся на сядзенне і не варушыўся. Не варушыцца — не цяжка. А не думаць? Зусім, ні аб чым? Гэтай улады над сабою не меў. Якая ўлада? Яна — там, высока. Тая лічыць твой каляндар. Ты сам — не ўлада, нават над сабою. Што зробіш, галубок, калі ўлада і лінію выбрала на вынішчэнне ўсяго, чым жывеш? І лесу, і рэчкі, і поля, і паветра, і крыжоў святых, і лазенак на беразе Калымкі, і Бразгуна. Навошта ўладзе гэтакая вынішчэнне? А каб душа чалавека здзервянела, задыхнулася. Улада баіцца душы, бо душа таемная, жытку разумее не як хоча ўлада, часта — наадварот. Як ёй дасі каманду, калі не ведаеш, чым яна табе на каманду адкажа? А як няма душы, дык няма і свайго шляху. Тады ўсе людзі каманду разумеюць аднолькава. Уладзе гэта трэба? Валетаў яе, суку-ўладу, ненавідзеў. І вышэйшую, талмачоў-вампіраў, якім жывы чалавек, сабе гаспадар, чысты і мудры, костка ў горле, і сваю маленькую — над жонкаю, сястрычкаю ў бальніцы, сабакам, мале-

чай птушкаю. Вось калі дайшло, за што ён яе не любіў: яна супраць душы.

За спіною дыхаў магільнік, за магільнікам стаялі канцавыя радзімецкія хаты, а з другога боку, таксама на ўзгорку, праз лагчынку, віднелася жаўтлява-барвовая хмарка лісцейка, якое яшчэ трымалася за асінавы астравок. Некалі тут была вёска Галынскія Хутары, калі жылі дваровыя пана Галынскага. Рэвалюцыя ўсё змяла. Спачатку пана і яго палац, пасля і хаты мужыцкія, і мужыкоў. Хто памёр, каго павысылалі, падпанкаў ды падкулачнікаў, а хто сам разбегся. Пасля вайны засталіся тры хаты, і гэта ўжо была проста Галынь. А цяпер тут адзін Будавей, сам сабе і пан, і мужык.

Валетаў не знайшоў яго ні каля хаты, ні ў хаце, якая заўсёды адчыненая, не ведала ні чэпа, ні прабою, каб які замок часам павесіць. Прынёс з машыны слоік з півам і сеў за стол. Шклянку ўзяў з падаконніка, пальцам выкінуў з яе дохлую муху, наліў піва і, п'ючы, разглядаў усюды павыстаўленае, як напаказ, бабылёва багацце. У хаце — ні перагародкі, ні хоць бы якой шырмачкі. Стол, лаўкі, крэслы, падаконнікі, пазакіданыя вопраткай, цяслярным ды слясарным інструментам, посудам, кніжкамі. На цвіках па сценах віселі дрот, вяроўкі, нажніцы, каляровыя фотаздымкі з «Огонька», партрэт, таксама з часопіса, генсека Мікіты Хрушчова з кіяхом кукурузным, партрэт маршала Жукава на белым кані, на маскоўскім парадзе, ходзікі з гіркамі на ланцужках, а праз усю хату ад буржуйкі да печы — жалезная труба, на якой кашулі, споднікі, анучы, шкарпэткі. Транты звешваліся і з печы. Калі вочы зачапіліся за суднічак, што стаяў ля парога, Валетаў устаў з-за стала, адчыніў дзверцы суднічка — у нос дало воцатам, расолам. За дзверцамі павёў носам улева-ўправа, знайшоў вялізную, з-пад шампанскага, бутэльку, заткнутую папяровым коркам. Баўтануў — паўнюткая. Адкаркаваў, паднёс да носа — самагоначка. На стол выставіў, знайшоў на палічцы яшчэ адну шклянку з чырвоным ад віна дном. На сцяне самаробная шафка — адчыніў: там і хлеб, укамянелы акрайчык, і слоік з салёнымі гуркамі пад белай плёнкаю цвілі. А дзе ж Міцькава сала?

З хвіліну гаспадара пачакаў, а на большае не хапіла духу: наліў з бутэлькі ў шклянку, яшчэ панюхаў — цукроўка-ядранка? Паўшклянкі выпіў, гурком рот заткнуў, кінуў туды-сюды вачыма — калоду карт на рагу стала ўбачыў. Страпаныя, у плямах віна і тлушчу, яны звычайна ляжалі ці

тут, на стале, ці ў Міцькі ў кішэні. І гулёк Міцька быў не заядлы, адно ў падкіднога дурня, але нечым, акрамя працы ды гарэлкі, трэба было адганяць ад душы самоту бабылёвай жыткі. Патусаваў калоду, раскінуў у руцэ веерам, зноў сабраў у калоду, паклаў на стол і выйшаў у сенцы.

Клець была адчыненая — зайшоў, уключыў святло, ведаючы, як у сваім закуце, дзе і выключальнік, і кублы, кумпякі і каўбасы. Ні кумпякоў, ні каўбас. Яшчэ рохкалі ў хляве. Заглянуў у кубел — сала радамі. Узяў кавалак, не выбіраючы, абтрос буйную соль, паважыў у руцэ, даў кіло два і раптам пачуў, як за сцяною ляскала сякера. Паляскала і заціхла. Міцькава? За агародам? Агледзеўся: мяхі стаяць, насыпаныя збожжам, мукою. Бліжэйшы развязаў — сунуў нос: камбікорм кабанам — місачка алюмініевая зверху.

Вярнуўшыся ў хату, кавалачак сала адрэзаў, з'еў з асалодаю. Міцькаў чыміргес даў па мазгах, і Валетаў адкроіў яшчэ сала, паклаў на хлеб. Еў і глядзеў у акно. І ўжо бачыў чорнага каня, Ворана, у драбінах пад асінкамі, блізка ад машыны. Конь быў з галынскай фермы, яго часта, як трэба, запрагаў Будавей — то кармы на ферму падвозіў, то вазіў на дойку ў луг бітоны пустыя, а поўныя, з малаком,— на ферму. Прыехаў і цяпер на Воране? Ледзь пра гэта падумаў, а тут гаспадар на парозе:

— Міхей? Во гэта госць!

Целам Будавей быў дробны, ростам якіх-небудзь паўтара метра, вырасці ды раз'есціся за ліхалеццем не паспеў, адно галава вялізная, кудлы на ёй густыя і доўгія, чорнасмаляныя, як у цыгана, сівога воласу — расады не знойдзеш, зубы буйныя выпіралі, калі рагатаў.

— Ты дзе бадзяешся?

— А дуб з лесу прывёз, сякеру ўзяў у рукі.

Міхеем ён зваў Валетава здаўна. Дзеда Валетава, які жыў у Радзімцах, мужа бабы Тэклі, гэтак звалі — па дзеду Міцька і яго ахрысціў. Ну, Міхей дык Міхей. Валетаў быў не супраць. Чаму б пры выпадку і дзеда не ўспомніць?

— Сядай за стол. Я сёння галодны. Па-людску не снедаў і не абедаў.— Валетаў наліў Будавею шклянку, даліў у сваю.

— За Пакровы?

Выпілі, тады гаспадар адставіў ад чалесніка засланку, пляскатаў у печы віламі, выцягнуў на загнетку чыгун, накрыты патэльняй.

— Бульбу тушыў. З баранінай.

— Я ўжо не памятаю, калі нюхаў баранінку. Дзе тыя твае бараны ходзяць?

Міцька паставіў чыгун на стол, зняў патэльню — дыхнула, аж нос угару задзёрся.

— Насця апошнюю авечку зарэзала, павезла ў Мінск да сына. З Віцем, унукам. Сын загадаў, каб прывозіла хлопчыка. Валосікі пачалі сыпацца.

Валетаў насцярожыўся:

— Як сыпацца?

— А лінька бывае і ў ваўка.

— Дзіця — не воўк? Як Насця заўважыла?

— Шапку з галавы ў хлопца зняла, а ў шапцы валасы. Тады і лысінку на галаве знайшла. А не бяда. За жыццё яшчэ сто разоў адрастуць.

Будавей у гэтым мала разумеў. Яму воўк і дзіця — адна прырода. Але Валетаў змоўчаў, ведаючы, як ён прывязаны да Насці, да яе ўнука. Трывогу сваю не паказаў.

Міцька на Валетава касавурыўся, чакаючы, што той далей скажа, але маўчалі абодва, і тады наліў яшчэ. Валетаў сваю шклянку адставіў. Міцька гэта як не заўважыў — выпіў і зноў пачаў касавурыцца на госця. Хоць і гаварыў спакойна, сэрца было не на месцы. Адчуваў, што распытваў Валетаў не так сабе. І задумаўся не так сабе. Каб не маўчаць, загаварыў:

— Апошні раз прыйшоў я да Насці, а яна малому дае малако з кубка і слязой падсалоджвае. Чаго ты, пытаюся? Ой, кажа, што рабіць? І малако даваць баіцца, і бацькі па малога не едуць.

— Тое самае Нюра Косцікава...

Валетаў бразнуў лыжкай аб стол, усхапіўся, стаў пасярод хаты і ганяў пад скурай на горле костку, каб пракаўтнуць бульбіну, усё роўна як яна ў яго захрасла.

— Хрэн іх ведае, баб радзімецкіх!.. Самі ядуць, ад дзяцей хаваюць. Як малым жыць, не емшы?

— Што ты Насці параіў? — пракаўтнуўшы бульбіну, спытаў Валетаў.

— А хто я такі, каб раіць? У мяне, кажу, па нулях і цэзій, і стронцый, няма ні замкоў, ні запораў, усё адчынена, дык прыходзь і бяры бульбу, моркву, буракі, гуркі, ідзі ў клець, у пуню — усё, што ёсць, тваё. Кароўка якая? Барада доўгая, хвост кароткі, а малака нам з табою, кажу, хопіць. Пі, еш і не бойся. Усё па нулях.

Косцік праўду казаў: ведаў Будавей, якія ў яго нулі. З Галыні партызаны вывозілі старыя хаты, хлявы, платы,

тое адно і пакінулі, нібыта чыстае, што патрэбна Будавею: ягоную гаспадарку на асінавым астраўку ды за асінкамі два мацнейшыя хлявы, людзьмі забытыя. Купіў, што яму трэба, у хімікаў, як усё ў краіне куплялася: паіў лета самагонкаю, карміў рыбаю. Адсюль і нулі. Пусціў чутку і сам у яе паверыў. Што хацеў, тое атрымаў: бабы радзімецкія да Будавея пабеглі — прадай, Міцечка, вядзерца чыстай бульбачкі, прадай гурочкаў, памідорчыкаў. Тут ён і ўдарыў сваім козырам: дык хто вам Міцька — чорт з балота, душагуб? І ўжо адна перад адной засакаталі, нібы куры: ну што ты, Міцечка, мы ж ніколі гэтак не думалі, не казалі.

Але і думалі, і казалі. З першых дзён, як галынскі ўзгорак асядлаў Будавей. Праз дзесяць гадоў пасля вайны, якія адседзеў на Салаўках. Нетутэйшы, са свету, без сям'і і без сваякоў, паставіў над Сажом хату, пасадзіў пад вокнамі астравок горкіх асінак, у асінках зляпіў стол, павець з летняй печчу, на сене і спаў ад вясны да глыбокай восені. Жыццё Будавея кацілася ўсяму свету адкрытае і даверлівае, але вёска яго баялася і казала ўсялякае: адны — што сядзеў у лагеры за абрабаваны банк, другія — што забіў чалавека, трэція — што ў канцы вайны вадзіў банду.

Маткі дзяцей да Галыні па шчаўе і ягады не пускалі, страшылі арыштантам. Бабы баяліся ў гэты бок кароў ганяць. А як з'явіўся ў яго гармонік, як пачаў на ім іграць па вечарах, дык у Радзімцах, бывала, бабы і дзеўкі работу пакідаюць, слухаюць і кажуць: «Чорт з балота іграе, арыштант».

Нават гармонікам не павярнуў да сябе радзімцаў. А нулямі павярнуў.

— Пайшлі са мною. Нештачка пакажу.

Яны выйшлі з хаты, завярнулі за хлеў. Там Будавей і майстрачыў. На зямлі ляжалі калоды, белыя дубкі, трэскі, у калодзе тырчэла сякера. Камлісты, раўнютка абчасаны дубок з гняздом для папярэчыны і папярэчына, крыху танчэйшая, побач.

— Крыж? — здзівіўся Валетаў.— Косцік пайшоў на могілкі мераць крыж дзеду, падвозіў яго, а тут тое самае. Нешта вы ўзяліся? Ды ў цябе ж, Міцька, няма каму ставіць? Хіба сабе рыхтуеш? У два разы большы за самога.

Валетаў пасміхаўся, але Будавей на госця пазіраў стрымана.

— Не той гэта крыж, пра які ты думаеш.

— Можа, аброчны? — няўпэўнена спытаў Валетаў.

— Во!.. Цяпер ты мяне зразумеў. Крыж-аброк!

Як на што нечаканае глядзеў Валетаў на белы, да жывога цела падобны дуб.

— Дзе паставіш? — спытаў.

— А ты сам, Міхей, як скажаш? Дзе мы яго паставім?

— На Бразгуне?

— Ну дык пасобіш занесці.

Будавей свярдзёлкам выкруціў у крыжавіне дзве дзіркі, загнаў у іх балты, пасадзіў папярэчыну. Ключом зацягнулі гайкі, ажно з вылежанага дуба выбегла раса белая, паднялі крыж, прыставілі да хлява, удвух павіслі на папярэчыне, ухапіўшыся за яе рукамі, а яна і не піскнула.

— Гэты б нас з табою вытрымаў, га? — змрочна пажартаваў Валетаў.

— Думай, што кажаш,— не прызнаў жарту Будавей.— Мы Аброку жывыя патрэбныя. Бярыся. За камель ці за крыжавіну?

— Адразу і закапаем?

— А што валаводзіцца? Насця сёння прыедзе — хай парадуецца. А то часта ўспамінае Аброк на Бразгуне. Гэта яна мне расказала, што ён значыў для вёскі. Я, вахлак, раней бачыў па дарогах крыжы, а не ведаў, навошта яны стаяць. Ты ці ведаеш?

— Баба Тэкля аднойчы перад радзімецкім крыжам на калені бухнулася і мяне паставіла побач: маліся, каб вярнуўся Сцёпачка. Быў гэтакі салдат, з вёскі пад канвоем павезлі. А ён усё роўна не вярнуўся.

— Сам павінен быў даць крыжу зарок, што вернецца. Я так разумею. Аброк вартуе вёску, усіх, хто ў вёсцы, не распускае па свеце, са свету вяртае. Людзі яму прысягаюць у вернасці. Гэтак спрадвек. Людзі забыліся на Аброк. Яны яму здрадзілі. І растрэсліся вёскі.

— А што ж ты, Міцька, выбраў гэтакі дзень — Пакровы? Грэх цюкаць сякерай у свята.

— Бог мне даруе.

Валетаў узваліў на плячо камель, Будавей — крыжавіну, панеслі камлём уперад, прыхапіўшы з сабою рыдлёўку і сякеру.

Дуб хоць і быў вылежаны, але дуб ёсць дуб — ледзь данеслі. Апусцілі на мурог — пачалі выбіраць месца. Будавей хацеў ставіць там, дзе крыж стаяў некалі, абяцаючы, што яшчэ і крыніцу раскапае, той самы Бразгун, бо недзе ж тая жыла бяжыць, калі бегла раней, і камень, які ляжаў, Белы, знойдзе і пакладзе на ранейшае месца. Але дзе яно, ранейшае месца і Аброка, і Белага каменя? Усе прыкметы сцёр-

тыя-змытыя. Капаць пачалі на ўзгорку, пад якім адна дарога вяла ў Радзімцы, другая — у Галынь, трэцяя — у Маліну, праз Халмянку.

Пакуль капалі яму ды ставілі крыж, пачало цямнець. Над Сажом узышла поўня. Яе незвычайны жаўтлява-барвовы колер першы заўважыў Будавей:

— На мароз?

— На Пакровы ён можа сябе паказаць.

— Ну... ты, Міхей, глядзі, каб не скрывіць. У цябе вока цвярдзейшае.

— Я, Міцька, у аб'ездзе,— Валетаў хацеў сказаць, што быць цвярозым у аб'ездзе яму цяжка, але да канца думкі не выказаў, можа, палічыўшы, што Будавей разумее з паўслова.

— Усё роўна. Вока хірурга памылкі даваць не можа.

Валетаву спадабалася Міцькава разважанне, і ён ужо не аспрэчваў.

Будавей адышоў ад крыжа на адну дарогу, адтуль пакамандаваў, куды нахіліць крыж, управа ці ўлева, перайшоў на другую дарогу, з яе таксама пакамандаваў, а вярнуўся да крыжа — зноў крыва.

— Стой! Ёсць адвес.

Дастаў з сумкі капронавую вяроўку з жалезнай гіркаю на канцы, на другім канцы зрабіў пятлю, накінуў на стаяк, зашморгнуў, пачаў раўняць крыж па адвесу.

— Ну?.. Засыпаць?

Валетаў збіраў на полі каменне, насіў і кідаў пад крыж, потым сыпаў пясок. Асадзіў наспу рыдлёўкаю, утаптаў нагамі. Пясок і каменне аселі — падсыпаў яшчэ і Міцька. Крыж, пакуль закапвалі, зноў скрывіўся. Зноў выраўнялі, узяліся абтоптваць разам, з двух бакоў. Натанцаваўшыся, адышлі на радзімецкую дарогу і з прыемнасцю глядзелі на сваю работу.

Тым часам цемень села на пойму Сажа, заткала шэрым радном далячынь за ракою. Дарогі, якія разбягаліся ад крыжа, пакарацелі, воддаль зліліся з полем, адно вада ракі блішчэла-разгаралася тым самым жаўтлявым святлом, і крыж, узняты над ростанню, рассякаў цемень белай вертыкаллю, як жывым промнем, злучаў зямлю з нябёсамі, а гарызанталлю, такой самай белай, нібы жывымі рукамі, абдымаў ноч, і ва ўсім гэтым відовішчы быў момант і гук не зусім як бы яснай, але неабходнай ісціны.

— Ну дык што скажаш, Міхей? — пасля хвіліны ўрачыстага маўчання азваўся Міцька.— Цяпер крыж трэба асвяціць. Аброк — знак боскі і людскі.

Валетаў зразумеў напрамую:

— Трэба з Маліны прывезці бацюшку. Людзі збяруцца, як некалі на Бразгун.

— У Маліне ўжо ні бацюшкі, ні службы.

— Як гэта? Царква стаіць?

— Няма каму ў яе хадзіць. Людзі павыехалі і з Маліны, і з Халмянкі. Там жыццё, Міхей, спяклося.

— Зусім нікога?

Міцька сунуў сякеру ў сумку, узяў рыдлёўку і падаўся да хаты. Валетаў глядзеў яму ўслед, не разумеючы гэтай маўклівай рашучасці, але не аклікнуў. Стаяў і думаў: няўжо праўду сказаў Міцька? А дзед Даніла, у якога браў венікі? Куды ён, стары, паехаў з Халмянкі? І калі там пуста, дык што чакае Радзімцы, Лапацічы? Калі гэтакі вецер узняўся, людзей з хат вымятае, дык вымеце і адсюль? Міцька, можа, гэта адчуў, таму і за крыж схапіўся? Каб утрымаць хоць Радзімцы? Але ці ўратуе крыж?

Міцька вярнуўся. З той самай сумкаю, але без рыдлёўкі і сякеры. Дастаў з сумкі сала, хлеб, цыбуліну, пляшку ўрачыста паставіў на мурог.

— Пакуль мы бацюшку знойдзем, дык спачатку самі, Міхей, Аброк асвенцім.

З кішэняў пінжака дастаў дзве шклянкі, наліў з бутэлькі ў адну, падаў госцю, наліў у другую. Валетаў адчуваў, што піць яму ўжо нельга, бо якім, напіўшыся, да Мані з'явіцца, але адчуў і тое, што не можа адмовіцца, каб не пакрыўдзіць Міцьку,— момант незвычайны. Марудзіў і Міцька, нешта пакутліва і грунтоўна абдумваючы. Нарэшце сказаў:

— Ты, Міхей, не будзь вахлаком. Ты хоць і глядзіш чалавеку ў чэрава, і не ўсё бачыш. Чалавек глыбейшы за чэрава. Яго рабавалі, спойвалі, травілі дустам і цэзіем, білі па галаве, пакуль мазгі адбілі, зрабілі Цэзарам. Ён даўно не Богу моліцца, а шлунку. Яму адбілі ахвоту глядзець на неба і зоркі. А мы зноў дарогу да Бога пакажам. Аброку хай моліцца. Аброк — Бог.

Цікава было з Будавеем. Не стаяў ён на зямлі пнём глухім, не ляжаў калодай гнілою. Жыццё рабіла пнём, калодай, каменем, а ён не парахнеў, упіраўся — жыў.

— Ты сам у Аброк верыш? — спытаў Валетаў.— Ці верыш, што крыжам уратуеш вёску?

Пытанне Будавею не спадабалася:

— Міхей!..

— Не злуй,— паспяшаўся супакоіць Валетаў.— Твой крыж куды паверне людзей? У вёску ці з вёскі? Дзе рату-

нак? Раней крыж вёску бярог. Яго за тое яшчэ Абярогам звалі. Дык жа тады ў вёсцы было жыццё. А цяпер? Навошта яна, калі тут мёртвая зона? Ты хочаш навечна ў зоне людзей пакінуць?

Скрыгатнулі ў Міцькі зубы, глянуў, як на ворага:

— Зона? А дзе яе няма? Я ўсю краіну праехаў-прайшоў — усюды зона. Брэшуць, што недзе там — не зона. Усё маё жыццё ў зоне.

— Але ж...

— Што — але ж?..

Валетаў хацеў запярэчыць, ён яшчэ не думаў гэтак, што ўсюды зона, ды адчуваў, што пасіліць Міцьку ў гэтае спрэчцы, калі ў яе ўвязацца, не зможа, тут Міцьку нічым не зваліш, тут ён усё да каліва ведае. Але як — усюды? Няўжо? Замоўклі абодва, нібы спрачацца далей баяліся. І тады Валетаў успомніў:

— Ну дык... я пайду. Мне трэба да Мані. Ты яе ведаеш. Чакае.

Міцькавы вочы не падабрэлі, не памякчэлі, глянуў так, быццам Валетаў ад яго ўцякаў. Але цямнелі зямля і неба — падганялі.

— Ну дык ідзі. Чаго не ідзеш? — як зразумеў Валетава.— Калі Маня чакае, трэба ісці. Яны, дзеўкі, доўга чакаць не любяць.

Гаротна стаяў гарбун у асінках. Валетаў адчыніў дзверцы, укінуў у кішэню кулёк з цукеркамі, у другую кішэню ўвапхнуў вялізную Шнэйдараву пляшку і запаветнай Міцькавай сцежкаю спусціўся з гары да бліскучай пад поўняю стужкі Сажа. Воддаль, бліжэй да крыжа, бачыў, ідучы, на экране бялесага неба чорную галаву і спіну Ворана, драбіны, чуў, як Міцька з канём гаварыў.

Зарыпела кола ў драбінах. І замоўкла.

— Міхей!..

Валетаў спыніўся, зноў падняўся на кручу.

— Падыдзі да мяне,— гукнуў Будавей.

Падышоў: што з ім? Сядзіць на драбінах, локцямі ўпёршыся ў калені, галаву звесіўшы. Твар затуліў далонямі.

— Ты што, Міця?

Будавей адарваў далоні ад твару, ускінуў густы чуб. Глядзеў не на Валетава — на Сож. Вочы блішчэлі суха, злосна.

Як угадаўшы жаданне гаспадара, Воран смаргануў драбіны, пайшоў, і Валетаў не мог застацца, пайшоў таксама, трымаючыся за драбіны.

Конь пад'ехаў да гарбуна, стаў галавой у асінкі. Міцька споўз з драбін, падаўся ў хату. Валетаў ведаў накірунак Міцькавых думак і перажыванняў — сядзець у хаце Міцька не зможа, вернецца. І той вярнуўся — з гармонікам.

— Я цябе, Міхей, не адпушчу да Мані без страданія.

Гармонік у руках рыпнуў, але Будавей звёў мяхі.

— Іграй. Я паслухаю.

— Налі мне. І сабе.

Валетаў адчуваў, як шмат значыла гэтая хвіліна для Міцькі. Сёння гэта была другая такая хвіліна. Першая выдалася ля крыжа, калі яго абмывалі, а другая цяпер, калі Міцька ўзяў у рукі гармонік. І тут Валетаў павінен быў уважыць, усё зрабіць, як ён сказаў і задумаў. Адшукаў на драбінах сумку, у ёй — пляшку і шклянку, наліў — Міцьку падаў.

— А мне болей не трэба.

Пачутае не спадабалася Будавею:

— А мы з табою, Міхей, п'ём не болей і не меней, як нам напісана. Чаму не болей і не меней? Ды таму, што камандуе той, хто налівае. А хто налівае? Ты ці я? І не ты, і не я. Жытка налівае. Яна мачыха шчодрая. Яна нас катавала, рабавала, а цяпер споймае і кляне, што мы п'янь і Цэзары. І мы сябе клянём, каб яе не гнявіць.

— З гэтым я згодны.

— Ну дык налівай і сабе.

Валетаў абшарыў сумку, абмацаў сена ў драбінах, а другой шклянкі не знайшоў.

— Дужа культурны зрабіўся,— сказаў, зразумеўшы яго, Міцька.— Бяры шклянку, а я — з горла.

Міцька раскруціў пляшку, задраў галаву, і віно забулькацела яму ў рот.

— Навошта раскручваеш? — спытаў Валетаў, калі той выпіў і падаў пляшку.

Уздыхнуў гармонік, глыбока ўздыхнуў з ім разам і Міцька.

— Ты, Міхей, не ведаеш? Каб яна ў мяне вінтом пайшла. Шурупчыкам востранькім.— Пальцы прабегліся па чорных і белых гузічках.— Калі я тут з'явіўся, пасля вайны, пасля Салаўкоў, піў, можна сказаць, мала. Як цяпер, тады піць не ўмелі. Іншая была жытка. Яна тады гэтак не налівала.

— Тады ты быў ціхі, як Сцёпачка.

— Я твайго Сцёпачку не бачыў. Я пазней тут з'явіўся. Можа, ён і быў мне салавецкім брацікам. Не ведаю. Але

мачыха ў нас адна. Гэта помні. Яна мяне і спяваць навучыла.—

Адчыніце акно, адчыніце,
Мне так мала засталася жыць,
Вы на волю мяне адпусціце,
Дайце мне і страдаць, і любіць.

Здрыгануліся Міцькавы плечы. Віскнуў і замоўк гармонік. Зацыўкаў адным запалым пішчыкам, нібы пылянятка. Валетаў сам раскруціў у бутэльцы астатняе, што засталося, падаў Будавею:

— Яшчэ кроплю глытні. Табе трэба.

Будавей хакнуў, паветра з сябе выпусціў, астатняе з бутэлькі тым самым шурупчыкам уліў і вочы заплюшчыў. Сеў на бервяно, падбародак паклаў на гармонік.

— Мне, Міхей, галоўнае, каб дзеткі і бабы не плакалі. Не магу чуць і бачыць, як яны плачуць. Я тады гатовы зямлю грызці. Што са мной? Што, скажы, за парода такая?

— Гэтакая і ў мяне,— вымавіў Валетаў.

— Я баб люблю, што яны слабыя і мяккія. А праз іх люблю дзетак. Я іх доўга гукаў. І хоць бы адна адгукнулася. Я, можа, таму і Салаўкі вытрываў, што мара была добрую бабу ўзяць у рукі. Гармонік, думаў, плача, сякера спявае, шаную зямліцу, кожную жыўнасць у вадзе і на сушы, ну... дасць Бог — на волю вырвуся, знайду куточак па сэрцы, хатку пастаўлю, збяру вакол сябе дзевак і баб, адной каторай вокам міргну, павяду з песняю. І што з гэтага раю атрымалася? Усім іграў, а і адной не павёў. Валю Мінчанку памятаеш? Прыйшоў на вечарынку з гармонікам. Дзевак было поўна, а як павярнуўся і агледзеўся — куды дзеліся? Адны хлопцы ды Валя з імі стаіць, смяецца мне ў вочы. Я і пайшоў «Сямёнаўну» выбіваць з гармонікам вакол яе. А яна — круць спадніцаю ды з хаты. Выскачыў я на вуліцу ды за ёю. Ты чаго мяне баішся? Гармоніку не верыш? Не чуеш, як плача? А яна мне, зараза, у вочы: Салаўкі па табе, Будавей, плачуць. Ух, узарвала ўсяго! Кахнуў я гармонік аб яе ганак, завярнуўся і пайшоў. А назаўтра прывезлі мне мех з аскялёпкамі ад усёй маёй музыкі. Было, памятаю, перад Пакровамі. Было яшчэ цёпла. Я тады рыдлёўку на плячо і ў лес. Панавыкопваў маладзенькіх асінак, панасадзіў іх на сваім беразе. Мала — яшчэ нясу, мала — яшчэ капаю. Зашумеў асіннічак. Людзі яго назвалі Салаўкамі. І хатку маю, і бераг мой — Салаўкі і Салаўкі. Бачу, ім нішто іншае пра Будавея ў галаву не ўваб'еш, як ні старайся: катаржнік — тут твой крыж. Хай сабе, думаю, хай будуць

Салаўкі, хай Будавей застанецца катаржнікам. Ад лёсу ды ад жабрацкай торбы, кажуць, не адракайся.

Міцька задумаўся, і гэта выкарыстаў Валетаў, каб спытаць тое, што даўно збіраўся спытаць:

— А чаму ты асінкі садзіў? Ні бярозкі, ні дубкі, ні ялінкі. Чаму асінкі? Адны асінкі?

— А таму, Міхей, што асінкі мае сястрычкі,— дзіўна адказаў Міцька.— Там, дзе я быў, чалавеку з чалавекам пагаварыць не давалі. Я навучыўся гаварыць з асінкамі. Яны, лапатушкі, вечна табе што-небудзь шапочуць. Раскажуць і што было, і што будзе. І паслухаюць арыштанта, зразумеюць. Ніякі сіксот не падкапаецца. А тут, думаю, хоць і воля, ды не твая, Будавей, цябе на волі ні бачыць, ні разумець не жадаюць. Усе твае дзевы ў асіннічку. Сядзеў на Салаўках, дык сядзі на Салаўках. А гармонік новы купіў. Ручная работа. І з гэтым ужо на вечарынкі не пайшоў. Хопіць. Не хочаце маёй музыкі, дык і не трэба. Ёсць жа і ў зэка гонар? Ды што я перад табою рассапліўся? У цябе дзве жонкі, а радасці ад іх шмат бачыў? Свет, Міхей, скруціўся. Д'ябал галоўную жылу жыцця перагрыз і кроў з яе выпусціў. Ну... ідзі да Мані, а я пачакаю Насцю. Раніцай у Міцькі будзе рыба. І табе трэба, і Насці. А што табе яшчэ трэба? Сала? Збожжа? Усё ў мяне бяры.

Трэба было і зерне — курам, і сала, і рыба — дзецям. Але Валетаў раптам успомніў Хроснага, яго размову пра Чычыкава — прыкра зрабілася. Яшчэ і Міцька таго Чычыкава ўспомніць?

— Нічога, Міця, не трэба. Я там са сваёй сцерваю душу гнаю тыдзень, другі, дзічэю, а потым, не вытрываўшы, бягу ад яе сюды, да цябе. Можа, і дня з ёю б не жыў, каб не дзеці.

— Дай я цябе пацалую,— расчуліўся Будавей.

Гармонік вісеў у Міцькі на адным плячы, да зямлі распусціўшы мяхі квяцістыя, парыпваў, а яны, цалуючыся, не чулі яго. Калі мацней яўкнуў, Валетаў адарваўся ад Міцькавага калючага твару, папрасіў:

— Яшчэ страданне. Адыходнае.

Будавей і зайграў, і заспяваў з грудным, ад гарэлкі і расчуленасці, хрыпатком:

Ой, васількі, васількі,
Шмат вас рассыпана ў полі...

Дзіўна ціхая выдалася ноч. Зззяла поўня, з усіх бакоў абсыпаная яснымі зорамі, яшчэ адна поўня ззяла на вадзе

пад тым, далёкім берагам, і ад яе, далёкай, ад берага да берага, тым самым агнём палала белая свечка. Святло ад дзвюх поўняў і свечкі разлівалася па ўсім рачным плёсе, ва ўсе бакі, і гэтаксама далёка разлівалася Міцькава музыка. Яна ў яго была свая, не тая, што ў іншых, можа, што сваё было ў Міцькі жыцці, ні на чыё не падобнае. Сваё яно, вядома, у кожнага. Сваё і ў Валетава. Але чаму тады гэтак моцна хваляваў Міцькаў гармонік?

Берагам ракі Валетаў дайшоў да магільніка. За агароджаю з дзвюх жардзін бялелі старыя бярозы, і святло ад іх сеялася на крыжы і помнічкі. Насупраць варотцаў лысеў прагал. Там, дзе прагал, пасля вайны стаяла драўляная каплічка, у якой адпявалі нябожчыкаў, а потым каплічку нейкі злыдзень абрабаваў, вынес усё, што было. Яшчэ праз год яе зусім спалілі рыбакі-начлежнікі. Валетаў памятаў тую летнюю ноч, як яна гарэла. Ён тады, ужо гарадскі падлетак, гасцяваў у радзімецкай бабулі. Уся вёска ўсхапілася. Хоць вада ў Сажы побач, а ўратаваць капліцу не паспелі. Застаўся падмурак з круглага шэрага камення. Пасля і каменне размялі на помнічкі. Там, дзе стаяла каплічка, нікога не хавалі, тое месца абыходзілі, і чорны лапік хутка зацягнула дзярніна.

За прагалам у крыжах варухнулася белая пляма — з зямлі яна падымалася па чорным крыжы ўгару. Сэрца абмерла, і Валетаў не мог кроку зрабіць, галавы павярнуць. Белае сарвалася з крыжа, матлянулася праз курганок. Было зачапілася за бліжэйшы крыж, але і ад яго адарвалася, перакінулася яшчэ праз адзін курганок — злілося з бярозай. Чалавек? Ён хістаўся ва ўсе бакі ля бярозы, не выпускаючы яе з абдымкаў.

— Касцік? — паклікаў Валетаў.

— У-гу?..

Валетаў пралез паміж жэрдак, падышоў бліжэй — сапраўды Касцік. Аберуч абдымаючы бярозу, ён трымаў у руцэ і пустую пляшку, купленую ў Радзімцах: руская — два коннікі з пікамі.

— Дзе твой пінжак? Дзе паліто? Усё крыжы дзеду мераеш? У белай кашулі — жаніх?

Валетаў абышоў бліжэйшыя курганкі, але не зачапіўся ні за паліто, ні за пінжак. Зрабіў яшчэ круг, большы — на чужым крыжы вісела паліто. Пінжак сядзеў у паліто — рукавы ў рукавах. А што пад нагамі? Брудны чаравік —

Касцікаў? З вопраткаю і чаравікам вярнуўся да браценіка — той усё абдымаўся з бярозай.

— Ну, артыст!..

Валетаў пасадзіў Касціка на дзедаў курганок, крысом паліто абцёр босую нагу, пачаў усцягваць на яе чаравік. Мокры, ён не ўзлазіў, як на чужую нагу. Пакуль тузаўся з тым чаравікам, Касцік улёгся на зямлю. Падняў яго і ледзьве ўсунуў рукі ў рукавы паліто і пінжака.

— Пайшлі дадому. Ну, уставай!.. Жонка чакае.

— Нюра? Дзе Нюра? — Стаў адразу слухмяны і нават зрабіў два крокі, ды раптам зноў заўпарціўся: — А ты што за камандзір? Ты хто такі?..

Валетаў паспеў выхапіць у яго пляшку на імгненне раней, як яна магла апусціцца на галаву, закінуў у кусты. І голас павысіў:

— Валетаў я — ведаеш?

Касцік схамянуўся:

— Вас-сіль?.. Ты?..

Ішлі цяжка. Праз кожныя некалькі крокаў Касцік потырч ляцеў то ў адзін бок, то ў другі, не папярэджваючы, дзе хоча легчы. Валетаў быў узваліў яго сабе на спіну, але доўга несці не змог — свае ногі гнуліся ў каленях. Потым Касціка закалаціла трасца, пачало ванітаваць. Ён курчыўся і стагнаў. Валетаў сунуў яму ў рот ягоныя пальцы — са свістам паперла блявота.

Пакуль давалакліся, працверазелі абодва. У хаце гарэла святло, і гэта абрадавала Валетава, бо самога жонка даўно не чакала познімі вечарамі і па начах, калі недзе затрымліваўся, называла гэтакія вечары і ночы ягонымі блядкамі, знарок рана выключала святло, клалася, каб у хату заходзіў цеменню, як у яму, не чуючы жывога голасу. Зведаў, што гэта такое, калі ў сваёй хаце цёмна, глуха, халодна і ніхто не сустракае. Нават здзівіўся, што Касцік святлу ў хаце не абрадаваўся: пакруціў галавою, памычэў, што бык, сеў на бервяно каля ганка, папрасіў закурыць. Курава і ў Валетава не знайшлося. Касцік доўга шукаў свае кішэні, рукі ўсё соўгалі міма, і тады Валетаў сам абмацаў яго кішэні: адна была мокрая і пустая, у другой ляжаў пачак «Астры» — пусты.

— А в-выпіць ёсць? — спытаў Касцік.

Тупа глядзеў спадылба на куртку Валетава, як чуючы ў кішэні пляшачку.

— Ідзі ў хату, піток. Нюра пачастуе.

Касцік трос галавою і мармытаў:

— Ты мяне не кідай. Табе Нюра заўсёды радая. А без цябе я не пайду.

— Будзеш тут спаць?

— У-га.

— Ну, уставай.

Ногі ў Косціка ішлі не туды, як ім была каманда ісці, але Валетаў пасобіў падняцца на ганак, разам уваліліся ў сенцы. Тут Косцік зноў упёрся. Валетаў падштурхнуў яго да хатніх дзвярэй, той тузануўся ўбок, страціў раўнавагу, схапіўся за Валетава, і абодва загрымелі на падлогу. З хаты пачулася жаночая лаянка. Дзверы адчыніліся, і на парозе з'явілася Нюра ў белай начной сарочцы:

— Ах ты, скаціна п'яная!.. Каторы дзень крыж мераеш!.. Ну, я табе крыж пастаўлю!..

Яна кінулася ў другі канец сянец, схапіла ў куце галень, але Косцік паспеў ускочыць у хату, і Нюра матлянулася за мужыком. Валетаў зачыніў хатнія дзверы і выйшаў на вуліцу.

Пастаяў пад вокнамі, прыслухоўваючыся. Дзяцей і старой чуваць не было, усё роўна як яны спалі, а Нюра ўсхадзілася:

— Набраўся, каб цябе... гэтакага мужыка!.. Людзі дзецям бананы неслі, а ты што прынёс?.. Каб ты захлынуўся сваёй гарэлкаю!..

Цяпер толькі Валетаў спахапіўся: дзе Косцікаў мех з бананамі, турэцкім чаем і цукеркамі-падушачкамі? Ён жа ўскінуў яго на плячо, калі развітваліся ля магільніка? Пагубляў у крыжах? Але пачак цукерак быў у Валетава — нёс Мані. Ціхенька, не рыпнуўшы дзвярыма, зайшоў у сенцы, паклаў цукеркі на лаўку. І яшчэ падумаў, што дадому ад Міцькі будзе ехаць хутчэй за ўсё заўтра раненька, Міцька якраз падоіць казу, і ён, Валетаў, завязе па дарозе малако Нюры. А калі рыбы наловіць, дык і рыбы свежай.

У хаце прачнулася і плакала малая. Валетаў утуліў галаву ў каўнер курткі і пашыбаваў нацянькі.

На рагу вуліцы абышоў лужыну, спыніўся, пачуўшы доўгі скрыгат, усё роўна як блізка нехта выцягваў са смолкага дрэва доўгі таўсты цвік. Агледзеўся і за плотам каля хаты заўважыў чалавека — ад акна адрываў дошчыну. Падышоў бліжэй. Пад нагамі хрумсцела падсохлая на лёгкім марозіку дарога, і чалавек пачуў крокі, азірнуўся, апусціў рукі, у адной з якіх трымаў сякеру. На двары пад вокнамі стаялі чамаданы, сумкі, скрыні, як бы з хатнім скарбам. Усё гэта прыемна здзівіла Валетава:

— Што я бачу? Не толькі з Радзімцаў людзі бягуць? Едуць і ў Радзімцы?

Чалавек углядаўся ў твар Валетава, не спяшаючыся падтрымаць размову, і раптам спытаў:

— Доктар Валетаў? Хоць цёмна, а пазнаў, здаецца?

— Мясцовы, значыць, калі пазнаў?

— А можа, і вы не забылі мяне? Шастапалаў. Ляжаў у вас у бальніцы, у пятнаццатай палаце. Вы мне нырку рэзалі. Вось... вярнуўся ў сваю хату. Год цэлы тут не быў.

Валетаў успомніў і як аперыраваў чалавека, і як Нюра казала, што сусед паехаў ад радыяцыі, за хату і гаспадарку атрымаўшы ад дзяржавы дванаццаць тысяч.

— Вам за гэтую хату сплацілі? І за сад-агарод?

— А хрэн ім у лапу, доктар. Грошы сплацілі. Дзе жыць? Куды яны мяне з сям'ёй выкінулі? Віцебшчыну аб'ездзіў, пад Магілёвам кружыў, а нідзе не зачапіўся. Рабі, работы ад пуза. А я ж не які-небудзь паражняк? Сям'я, двое дзетак і жонка. Трэба свой кут. Усюды кажуць: чаму табе, навалоку, без чаргі, калі мы, свае, стаім у чарзе на кватэру гадамі? Ну і што, калі з зоны? У цябе свая зона, у нас у кожнага свая. У каго цяперака бяды няма? Во як прывецілі!..

Валетаў падазрона глядзеў на мужчыну. Па тым, як той, размаўляючы, адбіваў ад вокан дошкі і ставіў іх да сцяны, бачыў, што рукі як рукі, у рабоце зграбныя. Але як паверыць, што за лета і восень не знайшоў прытулку на сваёй зямлі?

— Дзе ж сям'я? — пацікавіўся.

— Жонка і дзеці пайшлі па ключы. Яе сястра тут жыве, праз тры двары. Клава Цацоха. Ведаеце?.. Ключы ад хаты і хлява здалі ў сельсавет, як бралі выкуп, і на ўсякі выпадак і сабе па ключыку пакінулі, аддалі Клаўцы. Мала што якое? Хата ўсё ж родненькая? Як адчувалі, што вернемся. Ну... хай сабе...

Адбітыя ад вокан дошкі мужчына занёс да хлява, занёс туды і малыя драбінкі. Вярнуўшыся, спыніўся перад верандаю. За акном на стале сядзела голая лялька. Мужчына заўсміхаўся.

— Вось і яна вас чакала,— заўважыў Валетаў.

— А што?.. Каб не дзеці, дык, можа, і аглоблі не павярнуў бы назад. Дзеці прымусілі. Ды зіма наперадзе.

— Як гэта? — здзівіўся Валетаў.— Людзі з-за дзяцей зону пакідаюць, а вы з-за іх вярнуліся ў зону?

Чалавек перакінуў позірк з лялькі на Валетава — твар

пазмрачнеў, усё роўна як Валетаў спытаў пра забароненае. Пайшоў за хату.

У паветры лёталі белыя мухі. Яны былі дробныя і рэдкія, і здавалася, што гэта яшчэ не снег. Хоць і чаму б снегу не легчы? Зямля пад нагамі цвярдзела, паветра сушэла.

— А ці ёсць у вас дровы? — пацікавіўся Валетаў, калі чалавек, абышоўшы вакол хаты, вярнуўся да ганка.— Печы даўно не паленыя.

— Дроў поўны хлеў.

— Тымі, што ў вас, паліць забаранілі. Сёлета па дварах з дазіметрамі хадзілі. Печы — як атамныя рэактары. Дровы ў вёску завозілі з Архангельскай вобласці.

— Але ж дагэтуль палілі сваімі?

— Пакуль спахапіліся.

Чалавек памаўчаў, спытаў:

— Закурым? — дастаў з кішэні пачак.

Сядзелі на ганку і моўчкі смалілі цыгаркі. Белыя мухі з неба ўсё сыпалі. Сняжок гусцеў, неба імглілася.

— Вось і першы снег,— прамовіў Валетаў.— На самыя Пакровы. Гэтакае не памятаю. А ў старыя часы, маці казала, снег часта выпадаў на Пакровы.

Развагі пра жыццё, успаміны, думкі пра першы сняжок штосьці таемнае зрабілі з чалавекам, і ён, цяжка ўздыхнуўшы, з горыччу вымавіў:

— Як на тое... пляшачкі не хапае. А то б мы... якраз.

— За ўлазіны?..

— Ды... што ні кажыце, а сустрэча. Доктар — як хросны бацька. Калі ён цябе аднойчы на ногі паставіў. А можа, і болей, як хросны. Як ужо мяне камяні ў нырках даймалі...

— А цяпер?

— Слава Богу. Рука ў вас лёгкая.

Валетаў выцягнуў з кішэні пляшку віна — чалавек усміхнуўся. Хто з іх абрадаваўся болей, сказаць было цяжка, але радасць Валетава, што гэтак дарэчы аказалася пляшка, была іншая, як тады, калі выпіваў са Шнэйдарам ці з Лаўрэнам, з Міцькам ці з Косцікам. Тут яна была ад таго, што чужы чалавек яго помніў, быў удзячны, бацькам хросным назваў, што ў яго, чужога, быў настрой, адпаведны ягонаму настрою, калі хацелася нешта добрае і сказаць, і зрабіць. І яшчэ — што ў Радзімцы, жорстка пакрыўджаныя людзьмі і Богам, ужо быццам і не прыдатныя для жыцця, вярнуўся вось чалавек, нічога лепшага, як гэтыя самыя Радзімцы, не знайшоўшы, і не адзін вярнуўся, а з жонкаю, з дзецьмі, каб тут жыць. Падумалася пра крыж, які ставіў з Міцькам.

Можа, Аброк вярнуў? Першага чалавека, першую сям'ю?..

— Ты, зямеля, ці памятаеш, як у нашай вёсцы на Галынскім выгане, пры дарозе, на Бразгуне, стаяў крыж? — Чалавек маўчаў. Не мог успомніць? — Міцьку Будавея, можа, памятаеш?

— Будавея ведаю. Як жа?..

— Дык мы з ім на тым месцы, на Бразгуне, зноў паставілі крыж. Вярнулі Аброк на месца. Сёння ставілі, і ўжо ты прыехаў. Ну!.. Табе гэта падабаецца?..

Чалавек маўчаў, быццам успамінаў, што такое аброчны крыж, і яшчэ не здагадваўся, навошта ён доктару разам з тым Бразгуном. Але Валетава гэтая глухата душы не пакрыўдзіла і не здзівіла. Малады, не ведае. Людзі забываюць старое, святое. Жытка забываць навучыла. Пільнуюць тое, што пад носам. Але пра крыж і Бразгун яшчэ ўспомняць. Бо таго, што пад носам, вельмі мала, каб жыць.

— Ну і хай сабе, доктар,— вымавіў чалавек, і гэта Валетаву не спадабалася:

— Ды што ты ўсё хай сабе ды хай сабе?.. Ты не хайкай.— Скінуў з пляшкі ногцем жоўценькі металёвы корак, падаў пляшку чалавеку.— Няма ў што наліць? Пі з горла. І жыві.

Чалавек адкінуў назад галаву, ускінуў пляшку і пачаў ліць у сябе. Ён рабіў гэта лягчэй, як Будавей, хоць і не раскручваў, як той, пляшку, проста ліў, пераліваў з аднаго посуда ў другі. У пляшцы віно булькала і садзілася ўсё ніжэй, але пасярэдзіне пляшкі была метка — палец, з якога Шастапалаў не зводзіў вачэй, і адарваўся ад пляшкі, калі віна ў ёй засталося роўна палавіну. Падаў астатняе Валетаву.

— Я, доктар, быў зачапіўся за купіну пад Воршай. Жонка рабіла на сырзаводзе, сам сеў на трактар. Быў лес, мог хату паставіць, не чакаючы казённую. Але дзеці...

— Хварэлі?

— І не скажу, каб хварэлі. Людзі тамашнія да нас не павярнуліся. Ды і гэта — хай сабе... Дзеці дзяцей не прызналі. Ніхто не хацеў сядзець з маімі за адной партаю ў школе. Баяліся нашага цэзію. Ужо і настаўніца гаварыла з класам, што дзеці мае не заразныя, і дырэктар школы гаварыў з бацькамі — не жадалі слухаць. Бывала, па адном ідуць у школу, па адном са школы. Ні сяброў, ні сябровак. Сын біўся. Зацяўся, ледзь што — кулакі ў ход. А дачка ідзе ў школу — слёзы, са школы — слёзы. Ну як сэрца вытрымае?

Валетава пачутае і ўзрушыла, і абурыла:

— Што ж там за дзеці? Звераняты?

— Бацькі ўвялі ў вушы.

Валетаў працягнуў пляшку:

— Дапівай.

Выпіўшы да дна, чалавек адкінуў пад хлеў пустую пасудзіну і моўчкі глядзеў на вуліцу. Падумаў пра сваіх і Валетаў. Той трывогі, якая ўзнікла за дзяцей у апошні год, ён не ведаў раней. Была, але не такая. Раней мог на тыдзень з'ехаць з дому і быць спакойны, а цяпер дзень не пабачыць — сэрца смыліць: як яны там? Можа, што жонка распілася? Іншыя хоць гэтага не ведаюць.

Валетаў усхапіўся са скрыні, на якой сядзеў:

— Ну дык... не бядуй. Добра зрабіў, што вярнуўся.

Падняўся і Шастапалаў:

— Добра, кажаце?

— На сваёй зямлі, якая яна ні горкая, і ты свой, а на чужой і ты чужы. Хоць Беларусь усюды свая, а ўсё ж усюды не тое, што свая вёска.

Чалавек глядзеў Валетаву ў вочы, і Валетаў адчуваў яго хваляванне. Тут, дома, седзячы на бежанскіх клунках, ён усё яшчэ пакутаваў: ці трэба было вяртацца? І добра, што даў яму выпіць — хоць крыху супакоіў. Хто супакоіць, як не той, хто сам жыве нібы заяц, кругамі-петлямі?

Снег сыпаў, і вуліца ўжо ляжала белая. Валетаў завярнуў за рог плота, агледзеўся: дзе ён? Здагадаўся, што каля млына, убачыўшы за хатамі высокую і доўгую сцірту хваёвага лапніку. Труба тырчэла над дахамі. Раней яна дыміла ў тры змены, а цяпер маўчала. Падумалася ў настроі Шастапалава: ну і хай бастуе труба, калі праўды вакол сябе не бачыць, хоць і стаіць высока. Недзе раве галодная жывёла, не паеўшы хвоек? Хай раве. Перавёў позірк на другі бок вуліцы, адлічыў тры хаты: дзе бяроза, што пад акном у Мані? Заўважыў агеньчык у акне. Пайшоў на яго, а падышоў — галава конская, лоб у лоб. Зноў Воран? Не, сівенькі дробны канёк. Снег на галаве, на грыве, на хамуце і гужах. Чый жа ты? Над конскімі вушамі свяціла поўня, а на поўні — вочкі, носік, роцік. Дзяціны голас: «Тата едзе ў аб'езд — дзеткам будзе што паесць». Лічылка Зініна? Хто ёй прыдумаў? Няўжо сама? Але... плач — яе? Аж здрыгануўся. Схапіў каня за аброць, галавою прыціснуўся да ягонае галавы. Не бойся, канёк, любы! Табе халодна — дрыжыш? І мне не цяплей, як табе. Жыццё наша — жасцянка. Конь адступіў убок, шаргануўся аглобляю ў плот,

і адразу на двары забрахаў сабака — Манін? Далонню правёў па конскай храпе, адышоў да плота, глянуў у двор. Дзе ты, Бобік? На табе, Бобік! А што даць? Манінага сабачку, зусім не злоснага, ужо ведаў і хацеў даць яму які кавалак, ды ў кішэнях было пуста.

Дзверы на ганку рыпнулі, адчыніліся, і на двор выкаціўся насцярожаны Манін голас:

— Хто там?..

У сенцах гарэла святло, і Валетаў бачыў Маню ля прачыненых дзвярэй у тым самым хатнім халаціку, у якім і тады, увесну, калі быў яшчэ Лёнік, сядзела з імі за сталом. Бачыў тоўстую чарнявую касу на яе плячы, на грудзях. Разгубіўся — ці адгукнуцца? Адчуваў, што прыйшоў не так, як трэба: і пазнавата, і выпіўшы, і з пустымі рукамі. Было апраўданне? Сапраўды, хіба мог не замачыць Аброк з Міцькам ці адмовіцца выпіць з бяскрыўдным Косцікам каля Лычавай лазні, успомніўшы Лісачку? Ці з бежанцам, небаракам, як было не разліць тую пляшку, што нёс да Мані? Чым яшчэ мог супакоіць чалавека, як не працягнутай насустрач чаркаю? Выпіў на складзе з Іванаўнай? Дык жа і там трэба. Ты ёй чарку наліў — яна табе дала жалеза на печку. А печку ў лазні паставіш — дзетак малых пагрэеш, памыеш. І тое самае са Шнэйдарам — дасць дошкі, а па цёплых дошках у лазенцы дзеткі будуць шлёпаць босымі ножкамі. Можа, ёсць іншы спосаб знайсці дошкі? Ці жалеза на печку? Які ён — іншы? Дзе той спосаб? Купіць? Дзе купіць? Дулю, Валетаў, купіш, хоць ты і доктар. Купіць не купіш, а прапіць і ўзяць можна. І тут Валетаў не ўказ. Не ён нарадзіў дзяржаву з гэтакім норавам. Гатовенькую яму паднеслі. Ці калі б не ўзяў чарку з хітразадым Лаўрэнам Хросным, хіба ж ён паабяцаў бы мяхі бульбы насыпаць? Даў бы кавалак свежыны? Але дзе той Лаўрэнаў кавалак? Пакінуў у гарбунчыку? Эх, галава! Мані не прыхапіў? А цукеркі? Нюры пакінуў? Ну, за гэта Маня, калі дазнаецца, не папракне.

Пастаяўшы, яна зачыніла дзверы, і як толькі зачыніла, Валетаву зрабілася сумна, усё роўна як сам сабе адзіную светлую сцежку абрэзаў. Сілы не было адсюль пайсці, яшчэ раз не ўбачыўшы Маню, і ён адчыніў варотцы ў двор.

Гаўкнуўшы ўсяго адзін раз, Бобік мёў хвастом снег, і Валетаў, павесялеўшы ад гэтай сабачай даверлівасці, сеў на ганак, прытуліў да нагі Бобіка. Дзверы зноў адчыніліся, і святло, якое было ў сенцах, лінула ў вочы.

— Паўлавіч? — Маня стаяла на парозе ўжо ў кажушку.— А што ж гэта вы ў хату не заходзіце?

— Я тут з Бобікам бяседую. Ён мне пра гаспадыню расказвае. І з канём пагаварыў. Бачу, госці ў хаце?

— Ой, госці! — усклікнула Маня не то з радасцю, не то з жартам ці здзекам.— Заходзьце, Паўлавіч. Гэта і госць будзе. Той самы, які трэба.

А госць у хаце ўсё ж быў. Калі Валетаў зайшоў, ля парога стаяў ладны хлопец у шэрай балонневай куртцы з вялізным, пад самыя вушы, каўняром пададзетага пад куртку світэра, з зімовай шапкаю ў руцэ. Сустрэчы з Валетавым той, відавочна, не чакаў, і разгубленасць чырванню ўспыхнула ў яго на твары. Ён адступіў, прапускаючы Валетава ў хату, пазіраючы на дзверы.

— Дык ты, Міша, едзь. А то конь твой замёрз. Карову, бачыш, маці здала ў калгас. Дык ты за яе не хвалюйся.

Маня праводзіла хлопца на ганак і, калі вярнулася ў хату, смяялася ўжо скінуўшы з сябе кажушок, ласкава пазіраючы ў вочы Валетаву і расшпільваючы на ім куртку.

— Нешта вясёлая? — спытаў Валетаў.

— А чаму ж?.. Адзін госць з хаты, другі ў хату. Што яшчэ адзінокай жанчыне трэба? Ці вы Мішку Капуцкага не ведаеце? Другі год у нашым калгасе ветэрынарыць. Жаніцца захацеў — Маню выгледзеў. Смех і бяда. Вакол п'яніцы, зладзюганы, і раптам гэтакі сярод гразі — маладзенькі, чысценькі, ну як вярбовы коцік. Ды ці табе, кажу, па Мані сохнуць? Маня — баба, удава саламяная. Ідзі дзевак мацай. Наліла чарку — не, кажа, не п'ю. Ну, во! Кавалер, жаніх, а піць не навучыўся. І гэта — у Радзімцах!

На стале ў прыхожай сапраўды стаяла пляшка гарэлкі, паабапал пляшкі — два налітыя гранёныя шкалікі, салёны качан у місе, на сподку — свежыя скваркі.

— Пакрыўдзіла хлопца?

— А чым жа я яго пакрыўдзіла? Зайшоў і стаіць на парозе. Як ваш кабанчык? Ці добра есць? Як кароўка? Ці цельная? Ужо і кабанчыка няма, два тыдні, як закалолі, і кароўку з двара звялі. А як Бобік? Сама, дурная, не здагадвалася, а пасля мне калгасны заатэхнік сказала: дык ён жа, Маня, у цябе закаханы! Тады я ўсё зразумела. Спытала аднойчы: чаму ты, Міша, не жэнішся? Ці ў Радзімцах дзяўчыны не знойдзеш? А ён мне: я б вас, Маня, узяў, а больш мне ніхто не да душы. І гэтак сур'ёзна, аж голас задрыжэў. А ці ёсць табе, пытаюся, хоць гадкоў шаснаццаць? Мне, кажа, ужо васемнаццаць. Я ў рогат і пакацілася. А ён хоць

і сарамяжлівы, чысты, дзіця дзіцём, а ўпарты ж!.. Ну завяжы і развяжы...

Валетаў працягнуў рукі да Мані, узяў яе за плечы, прыхінуў да сябе, як каля крамы. Як тады, яна да яго прыхінулася сама. Ён яе пацалаваў ужо не ў шчаку, а ў мяккія гарачыя губы і па губах адчуў, што чакала.

Весела зазірнуў ёй у вочы:

— То, бачыш, надта малады, то стары?

— А хто ж гэта мне стары?

— Ну...

— І не заікайцеся. Чаго няма, таго няма.

Яна выйшла ў сенцы. Нешта там смажыла, то забягаючы ў хату, то зноў знікаючы за парогам. Ён ёй хацеў сказаць, каб не бегала, не старалася вельмі, што сыты і п'яны, што і чалавек ён дрэнь, бадзяецца па вёсцы, калі людзям спаць трэба, што позняга прыблуду частаваць не варта, але Маню спыніць было немагчыма. Паставіла на стол патэльню са свежынаю і тады ўжо сама, весела ўздыхнуўшы, села побач з Валетавым.

— Цяпер магу гуляць! — аж праспявала, гарэзна крутнуўшы галавою, тоўстай прыгожай касою, і вочы яшчэ мацней заблішчэлі.— Нальем? Я, скажу як ёсць, даўно не брала ў рот. І ўжо ахвота бабе.— Засмяялася, аж схілілася над сталом, потым ускінула плечы, супакоілася, не пагасіўшы агню ў вачах. Узяла бутэльку, наліла яму і сабе.

Валетаў за руку не паспеў схапіць:

— Ты, Маня!.. Не бачыш, што я ўжо цёпленькі?

— Не бачыла, Паўлавіч. Як піў, ці піў — не бачыла.

— А што выпіўшы?

— І з кім піў — не пытаюся. Выпіў, значыць, трэба было.

— Во ты якая? Яшчэ я цябе гэтакай не ведаў.

— І гэтакай, і нягэтакай. І калі не пабрэзгуеце, то яшчэ зведаеце.— Зноў як спалохалася сваёй адкрытасці ды смеласці — засмяялася, аж гарэлка са шкаліка плёснулася на руку.— Ну дык не будзем разліваць. За што? А давайце за дружбу, Паўлавіч? Вы з Маняй не супраць за дружбу?

Адразу весела і Валетаву зрабілася, так весела, ажно забыў, што яму піць не трэба. Забыў і выпіў. Як не выпіць, калі і Маня — да дна?

А скваркі былі духмяныя, хацелася не глытаць, а смактаць кожную, нібы цукерку.

— Я, Маня, быў у Будавея.

— Ведаю, чула страданні Міцькавы. Зайшла ў канец

саду, да Сажа, а яны плывуць-коцяцца па рацэ. Ну, думаю, там і Паўлавіч. Як жа — сябры? А ўжо калі сышліся разам, то Паўлавіч да мяне хутка не прыйдзе. Не магу я слухаць страданні Міцькавы. Усю мяне ад іх ломіць і калоціць. І так захацелася да вас на Салаўкі бегчы.

— Ну дык прыбегла б?

— Сама не пабяжыш, калі не клічуць. Баба не тое што мужчына. А можа, і зусім... не чалавек?

— Гаротніцаю прыкінулася? Мне падабаецца, як ты вясёлая. Тады і мне весела.

— Ды вы, мужыкі, гэтакія. Вам дай вясёлую бабу. А бабе?.. Ух!.. Нешта мяне першая чарка не грэе. Марозіць.— Скаланулася, як сапраўды мерзнучы, зноў наліла.— Вы, Паўлавіч, на мяне не глядзіце. Я то гарачая, як агонь, то як лёд. Мяне ўсё жыццё гэтак... Не-пас-та-янная.

Маня смяялася, жартавала, і Валетаў зноў не мог ад яе адстаць, не выпіць. Падсунуўшы патэльню да госця, яна кінула есці, сціхла. Глядзела на сцяну. Там вісеў вялікі, у раме, фотаздымак, на якім дзед і баба, маладыя. І Валетаў, седзячы побач з Маняй, глядзеў на фотаздымак. У маладога дзеда быў прыгожы твар, мяккі і цёплы, як у жанчыны. Маня пайшла ці не ў дзеда? І баба была прыгожая, нават вельмі, прыгажуня, але то ўжо іншая прыгажосць, кідкая, кожнай рысачкаю на твары падкрэсленая. Дзед у касцюме, пад гальштукам. Чуб густы, чорны, як Маніна каса. А баба светлая.

Валетаў, гэтак падумаўшы, сказаў:

— Прыгожы ў цябе дзед.

І тады яна ўскрыкнула:

— Ох, бедалага!..

Аж сама спужалася свайго нечаканага крыку: ускочыла з крэсла, кінулася да дзвярэй з прыхожай у гасцінуюю, як усім сваім целам затуляючы дзверы, каб там не было чуваць. Валетаў яе зразумеў:

— Старая спіць?

— Сын... Баба да суседак павалаклася. Як Мішка на парог, дык яна за парог. Хочацца ёй мяне выдаць. Абы за каго. Хоць за дзіцёнка. Думае, калі застануся з ім адна, дык і павісну на шыі. Скажыце, Паўлавіч, ці мы, бабы, усе гэтакія дурныя?

У акне дзынкнула, пачулася кацінае каўканне. Маня адкінула фіранку. За шыбкаю, зацярушанай па краях снегам, у хату глядзелі дзве аднолькава круглыя кацiныя пыскі. Маня выйшла ў сенцы і хуценька вярнулася, паперадзе

сябе ўпусціўшы кошку. Адну? А дзе другая? Ці яму падалося, што за шыбкаю дзве каціныя пыскі? Валетаў няўцямна глядзеў на Маню. Яна ліла нешта са збана ў конаўку, а ён думаў, якая яна вабная ў сваім мяккім халаціку. Але чаму гэтак шмат на халаціку чырвоных кветачак? Не той халацік, што быў на ёй? І збан у руцэ — два збаны? І дзве рукі? Дзве тыя, што трымаюць збаны. На стол паставіла — два? У вачах дваілася? І каса Маніна — дзве касы на плячы, адна ля адной побач. Маня падала Валетаву конаўку, сказала, каб выпіў журавінавага квасу, а ён працягнуў руку і, убачыўшы перад сабою дзве конаўкі, завагаўся, якую ўзяць, левую ці правую. Узяў тую, што трэба, угадаў, і ад таго, што ўгадаў, павесялеў. Разумеючы, што з ім робіцца, асцярожна, каб не заплёўся язык, пачаў апраўдвацца:

— Ну, Маня, ты мяне бачыш? Выпіў са Шнэйдарам, потым з Косцікам, братухам, потым з Міцькам, потым з бежанцам. А яшчэ з Лаўрэнам Хросным. А яшчэ...— Пачухаў галаву, сілячыся ўспомніць, з кім яшчэ піў. Не ўспомніў.— А ці я конь, каб выпіць вядро?..

Маня рассмяялася з гэтага яго каня, і Валетаў смяяўся таксама, нібы дзеля таго, каб адной не сумна было смяяцца.

— Ну во, Паўлавіч, і ўсе вашы п'янкі праходзяць. Мае журавінкі каго хочаце на ногі паставяць.

Яе смех звінеў у вушах, і Валетаў падумаў, што гукі, як гэты смех, таксама ці не дваяцца.

— Ты мне, Маня, яшчэ і кавы зрабі, калі яна ў цябе ёсць. Я на аперацыю як іду, заўсёды кавы кубачак выпіваю. Тады галава і рукі на месцы.

— Ёсць і кава ў Мані. Вы дарэмна, Паўлавіч, да мяне не заглядаеце. У мяне ўсё ёсць.

Пакуль ён марудна, па глытку, піў з кубачка каву, яна выйшла за дзверы. У суседнім пакоі на канапе спаў яе пяцігадовы сынок, і яна ўзяла яго на рукі разам з цёплай коўдраю, аднесла ў спальню, выгараджаную за печчу. У выгарадцы звычайна спала баба, яна са сваім Сярожам клалася ў зале на канапе, але калі з імі жыў Лёнік, ён спаў у зале, баба на печы, і цяпер, як прыязджаў, баба зноў лезла на печ. Маня аднесла сына ў спальню, дастала з шафы прасціну, навалачку, летнюю коўдрачку, прынесла сваю падушку са спальні, заслала ўсім чысценькім канапу і выйшла зноў да Валетава. Ён ужо хроп, падпёршы галаву рукамі. Яна ўзяла яго за плячо, спытала:

— Можа, Паўлавіч, ляжаце?

Валетаў прыўзняў галаву, правёў па твары, як умы-

ваючыся, далоньмі, сустрэўся з цяпер ужо зусім няяснымі тварамі Маніных дзеда і бабы, але падумаў не пра іх, падумаў пра іх унучку Маню і сябе: «Спаць? Ён што, прыйшоў да Мані спаць?» Ці то злосць, ці то сорам заварушыліся ў ім. Злосць на каго? Не, ён не хоча спаць. Павярнуўся да Мані. Яна глядзела яму ў вочы. Божа, якая прывабная! А каса! Працягнуў руку, каб дакрануцца да чорнай блішчастай касы, што ляжала ў яе на грудзях. Якія прыгожыя грудзі! Яна зразумела гэтае яго жаданне, узяла пад руку, рука яго легла ёй на плячо, і ён ці то сам устаў на ногі, ці то Маня на ногі паставіла, стаяў і хістаўся, і Маня пахваліла лагодненька:

— Ну вось і малайчына, Паўлавіч. Хто сказаў, што мы моцненька выпілі? Зусім не моцненька. І на ножках самі стаім, і галоўкі ў нас не баляць. Паляжым і ўстанем. І зноў будзем гуляць.

Гэтак развaжаючы і з госцем, і з сабою, Маня завяла Валетава ў вялікі пакой, ледзь прасунуўшыся з ім у дзверы, пасадзіла на канапу, сцягнула з яго цёплы світэр, разула, зняла з ног шкарпэткі, пазасоўвала ў чаравікі, занесла чаравікі са шкарпэткамі на загнетку, каб падсохлі, прынесла крэсла, павесіла на яго світэр. Валетаў ужо ляжаў, а ёй што рабіць? Расшпіліла на ім кашулю, зняла, павесіла на спінку крэсла, сказала, каб штаны сам здымаў, і выйшла з хаты на ганак.

Снег сыпаў, закідваў зямлю, усё навокал ляжала белае, свежае, з лёгкім марозцам. Маня падумала, што трэба было Паўлавіча вывесці сюды, на ганак, хай бы пасядзеў на халадку. Вярнулася да яго — ён ужо хроп, не зняўшы штаноў. «Ох! — цяжка ўздыхнула.— А ці яна не здымала штаноў з мужыка? Быў жа свой гэтакі».

І штаны зняла, і падцягнула госця, неверагодна цяжкога ў п'яным сне, на падушку, і коўдрай накрыла, і фортачку ў акне адчыніла, каб хутчэй працверазіўся на свежаку.

Калі ўсё рабіла, яшчэ і радавалася, што мужчына ў хаце, госць не абы-які, галоўны ў раёне хірург, перажываючы толькі з тае прычыны, што ўсё не так, як магло быць, магло быць лепей, атрымалася па-радзімецку, як у вёсцы, дзе п'юць і жывуць без разумнай меры. Пасядзела са штанамі на каленях, убачыла бруднае калашынне, выйшла з хаты на ганак са шчоткаю, чыстым сняжком іх вычысціла, прас нагрэла, на лаўцы ў прыхожай адпрасавала, павесіла штаны на спінку крэсла, дзе госць спаў, агледзела чаравікі, таксама брудныя, іх абцерла, наваксавала, паставіла на загнетку,

нагрэла на пліце вады, памыла шкарпэткі, павесіла на шворку ля печы. Тут і баба з'явілася:

— Ну як госць? Паехаў? Каня нямашака.

Старая агледзела стол, на якім стаялі недапітая пляшка і патэльня са свежынай, гадаючы, што ў хаце было. Маня ёй адказала:

— Ляжыць госць. Спіць.

— Як гэта? — Старая ведала сарамяжлівасць Мішкі-ветэрынара і не магла паверыць, каб гэтак хутка ўлёгся.

— А так,— са злосцю кінула Маня.— Вунь, на канапе.

Баба зазірнула ў залу і выскачыла, як ашпараная:

— А гэта ж не Мішка? А хто гэта?

Маня раззлавалася:

— Ды ідзі ты спаць. Валетаў з бальніцы. Ведаеш? Ну дык... Лезь на печ.

З двара ў хату Маня вярнулася, калі баба ўжо ляжала на печы. Паслухала, як пахропваў Валетаў, зайшла да сына, а самой спаць не хацелася. Села каля сынавага абнесенага драбінкамі ложка і, слухаючы ўжо яго ціхае пасопванне, глядзела ў начное акно. Што з ёю сёння рабілася? Увесь дзень чакала Паўлавіча, а з'явіўся Мішка, якога, хоць і добры хлопец, лепш не бачыць. Паўлавіча ёй трэба. Усяго два разы быў у іх хаце з братам Лёнікам, яшчэ два разы сустракала ў вёсцы, а ўжо адчувала ў ім нешта патаемнае, ціхую скруху, ці што, тугу па нечым жаданым, пакуту, тое, чым сама даўно жыла, і ўсё гэта падказвала, што яе чалавек. Яшчэ, можа, таму ўгадала ў ім шчымлівую патаемнасць, што душа ягоная цягнулася да Будавея, да Міцькавай музыкі, а Міцькавы страданні і яна чакала па вечарах ■ Салаўкоў. Як прыйшоў Паўлавіч, як убачыла яго, такая злосць узгарэлася на Мішку, што стаіць на парозе, хоць ты яго качаргою гані, а засталася з Паўлавічам — дакрануцца да мужчыны захацелася. Бачыла, што выпіўшы, а не звярнула на гэта ўвагі, хоць і ненавідзела п'яных Цэзараў, якія ўсё жыццё ў вёсцы чарнілі.

Шыбкі ў акне былі цёмныя, густа-сінія, было відаць, як на іх наліпалі сняжынкі, краёчкі ў шыбках бялелі ад маладога снегу. Маня і ў хаце адчувала той, што за акном, халадок. Ён цверазіў, насцярожваў.

На тым баку вуліцы, дзе мехустаноўка, гарэў агеньчык, адзіны на ўсю, мабыць, вёску. Там стаяла хата Качуркі. Жонка не спяшалася за ім на Палтаўшчыну і па начах паліла святло. Маню агеньчык у чужым акне хваляваў, бо ведала: там была маладая жанчына, была не адна, быў яшчэ

і мужчына, яе каханак, а калі ёсць жанчына і ёсць мужчына, калі яны адны і ніхто на дарозе ў іх не стаіць, дык і што тады зона? Не зона жанчыне страшная. Страшней няма, калі адна ў зоне.

Валетаў прачнуўся, ляжаў і гадаў: дзе ён? Быў у Мані — у яе і зваліўся?

Пакоя, у якім ляжаў, не мог пазнаць у цемені. Намогся прыгадаць, што адбылося звечара. Памятаў, як ішоў да Мані, як ля яе хаты з канём цалаваўся, хлопца на Маніным парозе ўспомніў. Можа, за Маню пабіліся? Не, здаецца, хлопец пайшоў з мірам. Конь быў ягоны — паехаў. За сталом сядзелі ўдваіх з Маняй. Пілі гарэлку. Маня была вясёлая, па-хатняму ўтульненькая ў мяккім мультановым халаціку, абсыпаным чырвонымі кветачкамі. Памятаў яе бліскуча-чорную касу. Глядзеў і думаў, што на гэтакай касе можна і засіліцца. Гэта ці не сказаў? Напэўна ж, смяялася з яго дурноты. А што потым адбылося? Кошка на каленях мармытала. А пасля кошкі? Круціўся Бобік, сабачка Манін? Не, Бобік брахаў раней. Як прыйшоў да Мані, сустрэў Бобік. А за Бобікам? Што было пасля Бобіка?..

Пачуўся голас. Глуха, як за сцяною, гаварыла, узды-хаючы, жанчына. Памаўчала, зноў загаварыла. Дзе, хто і з кім? Прыўзняўся, агледзеўся. Ззяла дзвярная шчыліна. Святло з суседняга пакойчыка? Зноў лёг. Горыч падкаціла пад грудзі, а галава пустая. Божа, хіба дзеля гэтакай ночы ішоў-ехаў да Мані? Зажмурыў вочы, каб нічога не бачыць, і зноў пачуў жаночы голас — з той шчыліны ў дзвярах. Плакала жанчына. Няўжо Маня? За сталом была вясёлая, жартаўлівая, аж ён дзівіўся, раней не бачыўшы яе гэтакай. Во... і Маню пачуў: некага супакойвала? Але каго? І чаму не спяць? Хутка развіднее? Ці, можа, яшчэ поўнач?

Насупраць у акне — далёкі агеньчык. Хтосьці яшчэ не спаў? Бяда ў чыёйсьці хаце, большая за яго бяду? Можа, там хворы ці нябожчык? Хто каго сярод ночы пабіў, скалаціў, пакінуў? Хіба мала вар'яцтва ў вялікай вёсцы? Але чаму ў хаце, калі гарыць святло, павінна абначыцца бяда? Гэтак у самога бывае? А навошта па сабе іншых мераць? Можа, святло ад радасці ў хаце? Хтосьці кагосьці чакае? Начны цягнік з Мінска ў Маліну калі прыбывае? Ці ўжо сустрэліся — гамоняць? Вочы закрыліся і быццам сам некуды паехаў: пачаў правальвацца ў глыбозную яміну, дзе ці то пуста, ці то мякка?

Як праз сон, пачуў, што рыпнулі дзверы, зашоргала на столі ці пад столлю. Адтуль і голас:

— Чаго ты ходзіш? Чаго не спіш?

На сцяне клацнуў выключальнік. Валетаў расплюшчыў вочы. Святла ў шчыліне ўжо не было. Але святло гарэла ў далёкім акне.

Ляжаў і прыслухоўваўся, ці не пачуе яшчэ які голас, які шоргат. У хаце было ціха. Зноў засынаючы, нейкім адным нервам, што яшчэ не спаў, пачуў, як канапа побач увагнулася, назе пацяплела ад дотыку чагосьці жывога. З цвярозай асцярожнасцю высунуў з-пад коўдры руку і адразу знайшоў загадкавую цяплынь.

— Не спіш? — прашаптала Маня.— А я думала, што спіш.

— За сцяною ты гаманіла?

— Суседка прыходзіла.

— Надумалася ноччу.

Маня ўстала з канапы, і ён чуў, як яна ціхенька некуды выйшла, за шырму ля печы, што — цяпер толькі ўспомніў — адгароджвала ад зальчыка спальню сына. Вярнуўшыся, стаяла над ім ужо ў лёгкай начной сарочцы, і ён, пасунуўшыся да сценкі, ціха сказаў:

— Кладзіся.

Толькі цяпер адчуў, што канапа шырокая, як сямейны ложак, і ў галовах дзве падушкі. Звечара паслала на дваіх?

Пад бокам рыпнула — ён замёр:

— Баба не спіць?

Маня супакоіла:

— Хай чуе. Сама...

— Ты што? Старая?..

У празрыстай белай сарочцы, расшпіленай усцяж, Маня ляжала на спіне, і цяпер ужо ён сядзеў над ёю, схіліўшыся, ловячы вуснамі яе губы, чуючы яе, жаданую, усю, ад гарачага твару і пушыстай касы да самых каленак.

— А я сёння чысценькая.

Яна засмяялася ўголас.

— Ціш-ш...

— Чаму ў вас вочы блішчаць, як у ката на смятанку? — спытала з халаднаватай гарэзнасцю.

— Можа, галодны кот?

Жарт не пераканаў Маню, і халадок недаверу застаўся:

— Ой, не кажыце. Як я была ў бальніцы, калі ляжаў братуха, дык бачыла, колькі ў вас там дзяўчатак, сястрычак у белых халацiках.

Цяпер ён не захацеў жартаваць:

— Дзяўчаткі, Маня, не для мяне.

І яна зноў не пашкадавала яго:

— А я ж таксама яшчэ маладзенькая?

Ён замоўк, як праглынуўшы чужы кавалак, а яна яго зразумела і спахапілася, бо гэтага, раптам ёю сказанага, абое ці то ўпотай баяліся, ці то ўпотай саромеліся.

Ён даўно чакаў сустрэчы. Але што з ім рабілася? Баяўся самога сябе? Што пасля выпітае гарэлкі не такі, які патрэбны сабе і Мані? Няўжо і яна, раней за яго, гэта адчула? Яе цёплае сцягенца дробненька калацілася ў яго пад нагою, і ён, нібыта каб супакоіць яе, захінуў сарочку. Яна схапіла за рукі. Каб гэтага не рабіў? Калоцячыся, спытала:

— Ну?.. Што ты надумаў?

Яна колькі разоў казала яму «ты», колькі разоў гаварыла «вы», як сама з сабою змагалася, але зноў сказала «ты», і гэтае «ты» нібы расхінула перад ім цёплы напаўзабыты свет, і ён, супакойваючыся, загаварыў не пра тое, што яна, як здалося, хацела пачуць:

— Успомніў, як ты нам з Лёнікам яешню пякла, як скаварада ў цябе тады выскачыла з рук.

— Вашыя вочы...

— Нядобрыя?

— Якраз... дабраты спужалася. Даўно не бачыла ад мужчын дабраты. Навокал адны Цэзары п'яныя. А вы — кажаце: пойдзем, Манечка, да рэчкі. Што было рабіць? І хацелася, і калолася.

— І мама не дазваляла?

— Мамы даўно не бачыла. І баба не закон. Людзі. Іх вочы, языкі. Ну і... ляпнула: чыс-цень-кая...

— Ты ж, як я прыехаў, з лазні выкацілася?

— Выкацілася, гляджу, вы з Лёнікам на ганку гамоніце. Што, думаю, за чалавек? Куртку на плечы ды бегма ў хату. З сянец чую, як пытаецеся ў Лёніка: «Чыя гэта дзяўчына?» А ён, дурань, ужо гукае: «Дзе ты, Маня? Можа, спячэш нам яешаньку?» І як вы, Паўлавіч, наш ганак знайшлі? На рыбалку прыехалі ці проста так?

— Адчуў, Маня, што ты...

— Хутка ж вы адчулі? Брат толькі з бальніцы выпісаўся, кажа, што з доктарам, пакуль ляжаў, блізка пазнаёміўся, а вы праз тыдзень ужо з'явіліся.

— Жыццё навучыла спяшацца.

— А яшчэ чаму яно вас вучыла?

— Яшчэ?.. Душы чытаць.

— Як жа вы маю прачыталі?

— А як сваю. Калі чалавек адзінокі, ён за адно спагаднае слоўка апошнюю сарочку аддасць. Можа, не так?

— Так,— нешта сваё ўзважыўшы ў думках, выдыхнула яна.

— Ты ўсё ведаеш. Сама перажыла.

— Як мой мяне кінуў, з'ехаў з бухгалтаркай лесапункта ў чыстыя краі, далей ад зоны, я не перажывала. Ён мне апошні раз казаў: «Ты, Маня, яшчэ маладая, не прападзеш, а сыну стаць на ногі я пасоблю». Гэтаксама думала: не прападу, Іванку падгадую, каб за спадніцу не трымаўся, і зноў — вольная птаха. Слёзы пасля паліліся. І хлопцаў, і мужыкоў хапае, а кожны глядзіць на цябе як на кінутую. Нават не пагаворыць па-чалавечы, ветліва не папросіць, кладзіся яму адразу, і ўсё тут.

— Ты ж казала, што яго з хаты выгнала?

— А што яшчэ скажаш? Ну, табе кепска? Можа, прынесці журавінавага квасу?

— І да квасу.

Знаёмы агеньчык бліснуў у чужым акне. Бліснуў і пагас.

Маня прынесла дзве шклянкі. Выпіў з адной — запякло і кол ад грудзей адваліў, з другой запіў кіслым журавінавым квасам — яшчэ больш палягчэла. І зноў — рукі да Мані:

— Ідзі сюды.

На печы закашляла старая.

— Не слухай ты яе. Хай бухае.

У чужой хаце, цалуючы Маню, ён не мог не чуць гэтакае і шаптаў з заплюшчанымі вачыма:

— Ну як жа? Як жа так?..

Яна знайшла, што сказаць:

— Я не баюся. Бо ведаю бабу. Сваіх дзяцей як гадавала? Ты пра майго дзеда Івана Куленіча чуў?

— Штосьці. Газеты пісалі.

— Яму хацелі даць Героя, дакументы высылалі ў Мінск. А там, у ЦК, кажуць, нейкі былы партызан упёрся: позна Героя рабіць. Дзед жа ў сорак першым, як трапіў у акружэнне, вярнуўся ў Радзімцы, а тут ужо немцы. Ён па-нямецку шпрэхаў. Усе гэта ведалі. Немцы за яго. Куды дзявацца? Служыў у паліцыі перакладчыкам. Але як служыў? Свае лічылі паліцаем, а ён іх ратаваў ад смерці. У гарадку з турмы палонных выпусціў, і ніхто не ведаў, што гэта яго работа. Звязаўся з нашымі парашутыстамі. Іх выкінулі пад Радзімцамі ў сорак другім.

— І гэтую гісторыю чуў. Як Куленіч гестапаўцаў і палі-

цаяў завёў у засаду парашутыстаў. У тым баі загінуў?

— А пакуль праўда выплыла, як было жыць бабе, маці, нам з Лёнікам? Кожны тыцкаў у вочы: баба — жонка паліцая, матка — дачка паліцая, мы з Лёнікам — унукі паліцая. Ні воза дроў, ні лугу, ні сотак у полі, ні паветра глытка. Усё неба тым паліцаем зашмаргнулі. Як прыедзе ў вёску ўпаўнаважаны, райкомавец ці фінагент, дык абавязкова прыдзярэцца: і хлеб дзяржаве не здаеш, і мяса хаваеш, і воўну чаму на базар адвезла, і дзе твае яйкі, дзе тваё малако? Падрыўшчыца калгаса! Вораг народа! А якая баба, гэтакія і дзеці, і ўнукі — ворагі. Самі галодныя, пупы голыя, а паперка ў суд — з'явіся. Што было бабе рабіць? Ну і... Начальнік у хату, а яна пад начальніка. Во, тады ёй пачалі даваць і луг, і соткі, і дровы. Бутрым, старшыня, партызанскі недабітак, сам да нас у хату прыводзіў. Бывала, яшчэ і сала сваё прынясе, і гарэлку: гуляй Дунька — палку на працадзень я табе пастаўлю. І ён ставіў. А што? Хацеў, каб баба выгульвалася.

— Ты гэта адкуль узяла?

— А не ў адной хаце жылі? Быў фінагент на веласіпедзе, з афіцэрскай сумкаю на баку, з наганам. Як на парог, дык баба яго і справадзіць па драбінах на гарышча. Там сена, старыя кажухі. І сама туды апрамець з самагоначкаю, з салам, з варанай бульбачкай. Во тады ўлада савецкая і паспісвае падаткі, нават дапамогу бабе выпіша.

— Гэта пасля вайны? Цябе ж тады яшчэ не было на свеце?

— Дык матка ляжала на печы, усё чула і бачыла.

— Табе расказвала?

— Бывала, матка з бабаю счэпяцца і даказваюць адна адной, хто з іх лепшая. Баба ўсё матку дакарала, што сослепу замуж выйшла, а матка бабу, што жыла не так, папікала і фінагентам, і райкомаўцамі. Усё чыста адна пра адну распішуць. А мы з Лёнікам з той самай печы чуем. Абрыдзее лаянку слухаць, на вуліцу выскачыш, а там на цябе — немачка і немачка. І Лёнік — нямчук. А ці нас з Лёнікам судзіць за дзеда і бабу? За дзеда, які паклаў сябе за людзей, за ўласць? Матка чаму ад нас з'ехала? Каб не хадзіць у дочках паліцая. Усё кінула. Дзяцей родных... Во як жылі, Паўлавіч...

Валетаў зазлаваў на Маню. Навошта ўсё гэта выкладае? Каб супакоіць перад старой? А хіба сябе гэтым самым не аблівае? Яна — чужая і бабе, і матцы?

Нехта нясмела, украдні, грукнуў у акно. Маня здрыгану-

лася, наструнілася. Маўчалі абое. І раптам яна моцна абхапіла яго за шыю, прыціснулася, уся калоцячыся. Пачуў, як мокра грудзям. Ад яе слёз? Сам, яшчэ мацней, прыціснуў яе да сябе, мокры твар — да грудзей, шэпчучы:

— Ну, што ты?..

Зноў нехта грукнуў. І адразу ґукнуў:

— Маня?..

Яна рашуча, са слосцю, усхапілася і сядзела на канапе, уставіўшыся ў акно. Потым з канапы спаўзла на падлогу, ускінула на сябе халацік, адсунула ад шыбак фіраначку і зноў зашморгнула.

— Гэта Насця. Вас, Паўлавіч, шукае. Будавей сказаў, што вы ў мяне. Я не прызналася, як першы раз прыбягала. Ды ці яна дурная, не ведае, што мужчыну баба заўсёды схавае?

— Навошта я ёй?

— Бяда з унукам.

Маня прынесла яму чаравікі, шкарпэткі, сухія і цёплыя, штаны, а ён, усцягнуўшы на плечы кашулю, сядзеў на цёплай канапе і глядзеў насупраць у акно. Недзе там, у далёкай хаце, зноў гарэла святло, нібы і не гасла, і ён з прыкрасцю да сябе падумаў, што ноч, якую так чакаў, скамячылася — лепш бы яе зусім не было. Сорамна нават перад далёкім агеньчыкам, перад тымі чужымі людзьмі, хоць і ён іх не ведаў, і яны яго.

Калі выйшаў у сенцы, там на ўслоне сядзелі Маня і Насця. Схаваўшы твар у далоні, Насця плакала, а Маня трымала яе за плечы, суцяшала. Яны адразу як не пачулі Валетава, галоў да яго не павярнулі, але калі ён падышоў бліжэй, Насця ўзняла чырвоныя мокрыя вочы:

— Прабачце, Паўлавіч, што патурбавала. Мяне Міцька паслаў. Ён у маёй хаце сядзіць. Прасіў, каб я вас прывяла. Каб жа ведаць, да каго яшчэ кінуцца.

— Што з малым?

— Сказалі... з кроўю. Лейкоз ці...— Насця зараўла мацней, аж уголас.

— Ну... першы аналіз не канчатковы. Трэба і другі, і трэці. А калі што... Мінск — не Радзімцы. Там спецыялісты, лякарствы.

Валетаў і Насця выйшлі за варотцы, а следам за імі выскачыла Маня з ягоным шалікам, з капелюшом. Ускінула капялюш яму на галаву, шалік абматала вакол шыі, куртку зашпіліла на гузічкі. Ён яе абняў. Яна прашаптала:

— Сёння ж не пі. Я буду чакаць.

Развідняла і ў хаце. Будавей сядзеў за сталом, зваліўшы на яго кудлатую галаву. Каля галавы стаялі бутэлька і шклянка, ляжалі сала, цыбуліны і Міцькава фінка з наборнай пласціглазавай ручкаю. Сеў за стол і Валетаў. Паміж іх стаяла Насця.

Міцька хроп.

— Дык што вы мне яшчэ скажаце? — спытала Насця, наліваючы самагон у шклянку перад Валетавым.— Была ў мяне адзіная радасць — унучак. Цяпер яго ў вёску бацькі не пусцяць. Дачка сказала, што і сама сюды не паедзе.

Міцька кінуў храпці, але галавы не падымаў.

Што мог адказаць Валетаў? Вечнае да яго пытанне: што рабіць? А ён — Бог? Людзі Бога згубілі, а іншага заступніка не знайшлі. І ён, Валетаў, слабы заступнік. Чым ён мог памагчы Насці? Або Мані? Альбо сваёй жонцы? Даць таблетку для сну? Ці ад болю? Гэтакія пайшлі хваробы, што і краіна бездапаможная, а не толькі раённы хірург.

— Налі, Насця, і сабе,— сказаў так, быццам гэта і была яго самая першая парада.— Супакойся. Вып'ем за тое, каб не да горшага, а да лепшага.

Заварушыліся на стале смаляныя кудлы. Міцька падняў галаву, расплюшчыў вочы:

— А што гэта вы без мяне?

Насця паставіла на стол яшчэ адну шклянку, наліла і ў яе, прынесла слоік з салёнымі гуркамі. Папрасіла прабачыць, што не было калі ні зварыць, ні насмажыць.

— Ну дык... каб усё стала на сваё месца,— сказаў Валетаў, падымаючы шклянку.— За твайго, Насця, хлопчыка. Каб вярнуўся да цябе здаровенькі.

— Ой, Паўлавіч!..— зноў у слёзы.

— Не плач. Горш не будзе, як будзе,— суцешыў Міцька.

Калі зусім добра развіднела, Насця пакінула мужчын адных. Яна працавала на пошце, прымала і выдавала пасылкі, бандэролі, грашовыя пераводы і цяпер, колькі дзён праездзіўшы з унукам, баялася спазніцца на службу. Будавей прынёс з сянец мокры непусты мех, і раней, як убачыў, што ў мяху, Валетаў носам пачуў свежую рыбу. Засунуў руку ў мех, патрымаў шчупачка, падлешчыка, лінка, укалоўся аб акуня.

— Калі ты, Міцька, паспеў? Пілі разам, а ноччу Насця прыехала. Ты ж яе сустракаў?

— Я табе, Міхей, абяцаў. І Насці. А яна кажа: не трэба мне ўжо, Міця, ні тваіх рыбак, ні твайго малачка, ні тваёй бульбачкі. А як жа гэта — не трэба? А каму я сеці стаўлю?

А навошта мне тады каза рагатая? І тыя нулі ў садзе-агародзе? Ці, можа, Міцька маніў? Можа, няма ў яго нулёў? Не, Міхей! Сам капітан памераў прыборчыкам. Капітан не будзе маніць. Як жа так? Я баб і дзетак карміў чы-ысценькім!..

Валетаў бачыў, што хвалявала Будавея не адна бяда Насціна. Гэтую бяду ён, можа, яшчэ не адчуваў, як адчувала яна, не ўяўляў усю пагрозу. Хвалявала тое, што адбывалася з нулямі, з іх патаемнаю сілаю і ўладаю над вёскай. Праз нулі вёска павярнулася да яго тварам, бабы і дзеткі пайшлі як да свайго збавіцеля, тыя нулі з нячыстай сілы пераварылі яго ў сілу чыстую. А цяпер? Калі вёска скажа, што і нулі Міцькавы яе падманулі? Ведалі ж людзі, што Насця свайму ўнучку ўсё несла ад Будавея, з яго сада-агарода, з яго клеці? І малачко — ад яго рагулі, і рыбку — з яго сетачак.

Валетаў маўчаў. Будавей — не Насця, каб супакойваць. Якія нулі, калі іх ні ў кога навокал няма?

Міцька ўпарта глядзеў у твар Валетава, чакаючы ад яго хоць нейкага слова, і, не дачакаўшыся, устаў з-за стала, ускінуў на плечы куфайку.

— Ты куды сабраўся? — спытаў Валетаў.

— Трэба яшчэ бутэлечка. Чырвонца няма, а ў Насці браць не хачу. Можа, дадуць напавер.

— Тады скідай куфайку. Пайду я.

— А ў цябе ёсць чырвонец?

— Ёсць.

Грошай не было і ў Валетава, ні рубля, але ён разумеў, што браць напавер лепш яму, як Міцьку. Міцька любіў аддаваць і не любіў нічога ні ў кога браць, яму прасіць — нож у сэрца, а ў Валетава, як-ніяк, у магазіне тая самая Сямёнаўна, заўмаг, пра якую казаў Косцік, якая чакала праз чорны ход па бананчыкі індыйскія, чаёк турэцкі, з якою некалі вучыўся ў адным класе. Успомніў, што яе звалі Жэнькаю. Ды і... доктару — хто не дасць?

У магазіне Сямёнаўны не аказалася, але дзяўчынка ў белым халаціку ветліва вывела на ганак, паказала, як ісці да хаты, дзе Сямёнаўна нібыта павінна быць: пятая злева. Прайшоў чатыры — усе мёртвыя, з пазабіванымі вокнамі. Некалі вытаптаныя сцежачкі пазарасталі мурагом, чорнае быллё пад платамі, пад вокнамі ў кветніках. Пятая хата — жывая. Зайшоў у двор. За варотамі стаяла машына, «каблучок», з адчыненымі на абедзве палавінкі дзверцамі. Малады хлопец браў з машыны ў бярэма вялікую кардонную скрыню ў замежных наклейках. Пачуўшы незнаёмыя крокі,

імгненна павярнуўся не тварам, а спіной да Валетава, засланіўшы сабою скрыню, хуценька панёс яе праз двор, разганяючы курэй і гусей, схаваўся ў адчыненых варотцах хлява. Валетаў адчуў, што тут яго не чакалі, але назад паварочваць было позна. Сышоў з ганка, і тады з хлява ў белым халаце выбегла Сямёнаўна. Кышкнула на курэй, падскочыла да «каблучка», ляснула дзверцамі, ды Валетаў паспеў не толькі заўважыць у машыне скрыні, але і адчуць, з якімі нервамі яна яго сустракала. Не, яшчэ не ўбачыла, што гэта ён, Валетаў, не разгледзела, не пазнала. Сустрэліся тварам у твар — тады развяла рукі і аж у ладкі пляснула:

— Божа! Які госць!..

А ён яе таксама пазнаў не адразу. Глядзеў і не верыў: няўжо тая маленькая Жэнька, што некалі сядзела перад ім за суседняй партаю, сваімі коскамі, як круцілася, змахвала з задняй парты ягоныя ручкі, алоўкі? І тады была пухленькая, нібы булачка, але вясёленькая, вучылася без ахвоты, на траякі, а хлопцам вочы муліла. Што атрымалася з Жэнькі! Перад ім стаяла таўсценная старая баба, заплытая нездаровым салам, няшчасная ў тлушчы, і Валетаў адчуваў, як у ім усё дарэшты супраціўляецца назваць яе Жэнькай — яму ж некалі таксама падабалася. У старым сале ўбачыў свае гады, падумаў: няўжо і ён гэтакі? Не, ён гэтак не апусціўся, яшчэ — цьфу-цьфу — граму лішняга на сабе не цягаў, не на бяду мог бы нават нарасціць тлушчыку на косці. Але ж гады — тыя, што і ў яе? Не часта пра гады думаў. Зусім не думаў. А сёння — двойчы. Першы раз — у ложку з Маняю. Там — перад жаночай маладосцю. Тут — перад старасцю, таксама жаночай. І тады — разгубіўшыся, і цяпер. Цяпер яшчэ і здзівіўся: што жытка з чалавекам робіць!

Яго роспач яна заўважыла — сумелася:

— Не пазнаеш?.. Ну, заходзь у хату.

Ён пераступіў парог, і яна зачыніла за ім дзверы, сама застаўшыся ў сенцах.

У хаце гулялі дзеці: старэйшая, гадкоў дзесяці, дзяўчынка, і яшчэ дзяўчынка, і хлопчык, меншы за іх абедзвюх, гадкоў пяці. Пакой быў вялікі, завалены вопраткаю і дзіцячымі цацкамі. Убачыўшы незнаёмага дзядзьку, хлопчык зашыўся пад стол і гурчэў там з самазвалам, грузіў у яго, як пясок, цукеркі ў бліскучых абгортках, выгружаў і зноў грузіў, вёз, а старэйшая дзяўчынка пасабляла меншай апранаць чарнявую ляльку, негрытоску. Меншая хітранька пазірала на Валетава, і ён папрасіў у яе ляльку. Яна паклала ляльку яму на калені, і ён злавіў яе за ручку, узяў за галоў-

ку, правёў пальцамі па шайцы, памацаў падбародачак. Дзяўчынка рагатала, думаючы, што дзядзька жартуе. Падбегла старэйшая:

— І мяне...

Гульня дзецям так спадабалася, што і ціхі, як стомлены ці хворы, хлопчык вылез з-пад стала:

— І мяне, дзядзь, а дзядзь?..

У хату зайшла Сямёнаўна:

— Ну, Паўлавіч! Ну, малайчына, што адшукаўся! А то я цябе даўно заўважаю. Праскочыш праз вёску на машыне — і няма. Ну, думаю, заганарыўся, сваіх не пазнае. А я ж магу чым-небудзь і памагчы. Нам сюды, у зону, падкідаюць і каўбаску, і тое-сёе заморскае. Каб жылі, не паміралі. Ты ж не так сабе зайшоў? Што-небудзь трэба? Каўбаса будзе заўтра. А сёння зялёны гарошак бяры. Бананы сушаныя былі ўчора. Сабе пакінула, з табою падзялюся. Грэчка трэба?..

Валетаў успомніў, што ў яго ні капейчыны ў кішэнях, усё, што было, вытрас у краме са Шнэйдарам.

— Не трэба, Сямёнаўна. Нічога не трэба.

Самому прыкра зрабілася ад таго, як ён яе назваў. Якая Сямёнаўна? Разам вучыліся — Жэнька? Але і Жэнькаю назваць старую бабу язык не паварочваўся.

— Ну чаму не трэба? Цяпер усім усё трэба. Да мяне толькі і едуць, каб што ўзяць. І з горада. Хочаш — дам цэлую скрынку гарошку? Як свайму чалавеку. Не пашкадуеш. Венгерскі!

Цяпер ён зразумеў, што за скрынкі насіў з машыны ў хлеў хлопец.

— Ды не. Мне б...— Ён ледзь не загаварыў з ёю пра паўлітра, па якое прыйшоў, але замоўк, бо прыкра стала ад таго, як пачалася размова: каўбасы, кансервы, грэчка, гарэлка — іншага жыцця няма? Столькі гадоў не сустракаліся, не гаварылі, і адразу — чым шлунак напхаць? — Ты мне скажы, гэта ўсе твае ўнукі?

— Ну вядома ж, Паўлавіч, не дзеці. Мае дзеці вялікія. Во, падкідышаў панарабілі, а самі ў гарадах грошыкі зарабляюць. Сын у Віцебску, дачка ў Крычаве.

— Дык, можа б, там і дзецям здаравей? Тут усё ж зона?

Сямёнаўна зарагатала:

— Мае пра гэта не шманаюць. Заікнулася я ім пра зону, дык яны мне: не адлыньвай, матка, у вёсцы дзецям воля, а зона цяпер усюды. І што — не так? Было б што з'есці. Зона там, дзе галодныя. А ў нас слава Богу.

— Людзі ж адсюль едуць.

— Дурні едуць. Што яны лепшае знойдуць? Тут і аклады з працэнтамі, і грабавыя.

— Ну... ты дзяцей правер. Хоць на шчытавідку. У Магілёве японскія апараты — звазіла б? Насця таксама сядзела спакойная.

— А што толку, Паўлавіч? Не везла — была спакойная. А цяпер? У пятлю лезці?

Валетаў здзівіўся:

— Як гэта ты кажаш? Можа, Насці і было спакайней, але ж... дзіця лячыць трэба?

— Вылечаць? Хіба ў нас лейкозы ды ракі вылечваюць? Добра правяраць там, дзе вылечваюць. У нас у вёсцы ўжо ніхто не хоча правярацца. І дзяцей не вязуць. Туды, хоць і ў Магілёў, ехаць — адна мітрэнга. Дзе заначуеш, дзе чаго з'ясі? Калаціся ў чэргах. А толку? Лепш нічога гэтага не ведаць. Усё роўна, калі што якое, ратунку няма.

Думкі яе былі жахлівыя, але казала яна праўду. Людзі ўжо не хацелі думаць пра хваробы, дзяцей адмаўляліся везці і да ўрачоў, і на паўднёвае мора, не верылі ні ўрачам, ні курортам. Валетаў гэта бачыў і чуў. Усе дамагаліся аднаго: каб плацілі за тое, што яны тут, у зоне, ды каб было ў краме, ды каб ім не напаміналі пра зону, пра розныя там кюры, рэнтгены, нукліды.

— А ўсё ж... звазі.

Не сказаў, што яму не спадабаліся шчытавідкі ў хлопчыка і меншай дзяўчынкі, не адважыўся хваляваць,— сама павінна занепакоіцца, чаму ён, доктар, настойвае. А яна і гаварыць пра тое не захацела.

— Дык з чаго пачнем, Паўлавіч?

— А чаго нам не хапае?

— Ну... госць у хаце, стол накрываць трэба. Не хвалюйся, у мяне ёсць чым частаваць.

Яна выскачыла ў сенцы і вярнулася з пляшкай гарэлкі, слоікам зялёнага гарошку, паставіла ўсё на стол і адчыніла халадзільнік. Але Валетаў заўпарціўся:

— Не, другім разам. Мы ж яшчэ паміраць не збіраемся. У цябе работа, мяне чакаюць.

— А цябе хто чакае?

— Будавей.

— Ну, не вялікая шышка. Дзеці, кыш на вуліцу!

Сямёнаўна несла на стол палку дарагой каўбасы, але Валетаў стаў на дарозе:

— Лепш, калі можаш, пляшачку з сабою, напавер. Гро-

шы, едучы, не ўзяў, а пляшка спатрэбілася. Нам з табою калі ўжо сесці за стол, дык трэба пасядзець. Ёсць што ўспомніць.

Яна зразумела Валетава, і выйшаў ён ад яе з поліэтыленавым мяшэчкам, у якім ляжалі пляшка гарэлкі, два слоікі з зялёным гарошкам і нават два пакецікі з сушанымі індыйскімі бананамі. На вуліцы яшчэ пастаялі. Яна прасіла, каб не забываў, заходзіў, зноў казала, што ў яе ёсць усё з прадуктаў, што ён заўсёды можа ў яе загрузіцца, што яна баба цёплая, сваіх не крыўдзіць, і ён абяцаў не аб'язджаць, бываючы ў Радзімцах. На гэтым разышліся. Яна завярнула за суседнюю хату і агародамі падалася ў магазін, а ён вуліцаю прайшоў дзесяць крокаў, спыніўся і яшчэ раз азірнуўся. А сапраўды, падумаў, чаму б не заглядаць да Сямёнаўны, чаму б не дружыць з гэтай цёплай бабай? Хто цяпер галоўны ў горадзе і ў вёсцы? Чалавек у белым халаце? Гледзячы які на ім халат. Доктар патрэбны, калі хвароба сагне ў дугу. А яна — усім, сагнутым і разагнутым. Шлунак напхаць хоча кожны, хворы і здаровы. Магазін у руках, дык і хата — поўная скрынка. Дзеткі з цукерачкамі гуляюць, як з пясочкам. І хлеў — склад. Цёплая баба? Цёплая. Шнэйдар недарэмна сказаў: шлунак жыццём камандуе.

За спіною прасігналіла машына. Валетаў сышоў з дарогі. Зялёны фургончык з чырвоным крыжам над лабавым шклом, рэзка затармазіўшы, спыніўся. Знаёмы малады шафёр адчыніў дзверцы і выскачыў з кабіны.

— Нарэшце мы вас знайшлі, Паўлавіч.

У кабіне сядзела сястра «хуткай дапамогі».

— Дужа патрэбны? — насцярожыўся Валетаў, загадзя ведаючы, што можа абяцаць яму гэтакая сустрэча.

— Загад галоўнага: знайсці і даставіць у хірургію.

— Ну, Федзя, выдумаеш. Я сёння ў адгуле. А ты адкуль дазнаўся, дзе мяне шукаць?

— Быў у вас дома. Сын сказаў, што ў аб'ездзе. А я ж ведаю, дзе ваш аб'езд.

Выклікалі, вядома, за аперацыйны стол, і загадак Валетаву тут не было, але сёння ўжо выпіў, ды яшчэ і ўчарашняе з яго не вычхалася.

— Там два хірургі. Батура... дзе?

— Ляжыць з радыкулітам.

— Ну дык... Панцялейчык?

— Не ведаю, Паўлавіч. Чуў, што не вярнуўся з Бабруйска. Як быццам званіў.

— Каму званіў? У Бабруйск адпусцілі на два дні — суботу і нядзелю. А сёння — панядзелак?

Шафёр няпэўна паціснуў плячыма:

— Не ведаю. Мне загадана вас знайсці.

— Ну і едзь. Скажы галоўнаму, што Валетава знайшоў, загад перадаў. А Валетаў законна п'яны, у адгуле.

Шафёр яшчэ раз пацісиуў плячыма і сеў у машыну.

Прыкра зрабілася. Ні ў чым не схлусіў і віны сваёй ні перад кім не адчуваў, а прыкрасць пякла. Яго шукалі таму, што былі тэрміновыя аперацыі, не было іншага хірурга, і ў такіх абставінах ён ніколі не адмаўляўся выйсці на работу, нават у святы, колькі разоў перапыняў адпачынак, прыходзіў з-за сяброўскага стала, узяўшы не адну чарку, але сорамна было глядзець у вочы хвораму, рыхтаваць яго да аперацыі, калі бачыў, як хворы чуе пах гарэлкі, як ён поўніцца жахам, што рэзаць яго будзе далёка не цвярозы хірург. Усе аперацыі, слава Богу, дагэтуль заканчваліся добра, быў упэўнены, што ў любым стане любую аперацыю зробіць як след, але ж...

— Стой, Федзя! Не газуй. Ты едзеш назад?

— Ды не, Паўлавіч. У мяне яшчэ два выклікі. Цяпер еду ў Маліну.

— Ну дык падкінеш мяне да Халмянкі.

Пачуўшы, што ў машыне паедзе доктар, з кабіны выскачыла сястрычка, уступаючы сваё месца, але ён вярнуў яе назад у кабіну, сам палез у фургончык.

На нейкі час Валетаў забыўся, куды ішоў. Забыўся на Сямёнаўну і яе паўлітэрка, на Будавея, які чакаў у Насцінай хаце. Абрадаваўся магчымасці заглянуць да старога Данілы, разведаць наконт венічкаў, а яшчэ ўпэўніцца, што Халмянка жывая і Міцька дарэмна страшыў, быццам вёскі ўжо няма. Ды і размову з шафёрам на цяжкой ноце, адмовіўшыся вярнуцца ў бальніцу, гэтым самым як бы не закругляў, яшчэ як бы меў магчымасць, едучы, падумаць, ці варта паказваць нораў, ставіць сябе і шафёра ў дурное становішча перад галоўным урачом. Пакрыўдзіцца Будавей? Не паспее — праз паўгадзіны вернецца, ды яшчэ і з паўлітрам.

З фургончыка ў кабіну было круглае акенца. Валетаў адсунуў на ім засланачку, спытаў:

— У Маліне два выклікі?

— Адзін у Маліне, другі ў Ленінскім гарадку.

— Там, у Ленінскім, няма радыяцыі?

— Раней казалі, што чыста, а цяпер — што не чысцей, як тут.

— Тады навошта гарадок будавалі?

— А каб Цэзары не разбегліся з зоны. Куды цяпер пабягуць? Кватэрак, як тут, нідзе не знойдуць. Мільёны ўклалі. Жывіце, галубчыкі, з усімі ўтульнасцямі.

— А што яны ў Ленінскім робяць? Зямля ў іх чыстая?

— Нават пад балкончыкамі не сеюць і не жнуць. Зараслі чарнобылем. У вазоны, пад кветкі, зямлю прывозяць з іншых раёнаў.

— Хто ж іх корміць? Іншай для селяніна работы няма, як на зямлі?

Шафёр зарагатаў:

— Ёсць іншая, Паўлавіч. Гарэлку п'юць, а потым адзін аднаму морды б'юць. Не работа?

— Але ж... каб піць, трэба зарабіць?..

Гэтага здзіўлення шафёр быццам не пачуў. Спытаў:

— А вы чаго ў Халмянку, калі там няма душы жывой?

— Як гэта няма? — І яму, як раней Будавею, не паверыў Валетаў.— Мой сябра дзед Даніла з Халмянкі нікуды не ехаў. Куды яму на дзевятым дзесятку? Усё жыццё там пражыў. Пад вокнамі свой магільнік. Далёка не трэба несці.

Хлопец не спрачаўся. Ды ўжо і ехалі праз Халмянку.

— Да якой хаты падвезці?

— Спыняйся дзе хочаш. А лепш насупраць клуба.

Машына стала. Валетаў папрасіў шафёра, каб на гэтым самым месцы спыніўся і пасігналіў, як будзе вяртацца, забраў назад у Радзімцы, але, калі ў дзеда Данілы заседзіцца, на дарогу не выйдзе, дык каб не чакаў.

Сонца ўзнялося, сняжок, які выпаў за ноч, растаў, наваколле блішчэла мокрае, хаты паўз асфальт стаялі з пазашыванымі вокнамі, выганчыкі і сцежкі ля варот і платоў пазарасталі калматым быльнягом, яшчэ зялёным сёлетнім і спарахнела-бурым леташнім ды пазалеташнім, але мокры бляск шыферных дахаў і аконных шыбак, платоў і таго самага быльнягу, стужкі асфальтавай, што бегла насустрач сонцу, рабілі вёску не зусім і мёртвай, як бы яшчэ жывой. Валетаў звярнуў у бярозавыя прысады. Голыя, нібы велізарныя гальні, дрэвы блішчэлі, памытыя і яшчэ не абсохлыя, блішчэў і выганчык, раней стаптаны гусямі, авечкамі, свіннямі, а цяпер усцяж зараслы. Жывёлы і птушкі ў Халмянцы было заўсёды багата, у кожным двары раўла, рохкала і цыўкала, травіна нідзе не перастойвала, не ішла ў глум. Вось калі адчуў нежылы холад: дзе жывёла? Ні галавы, ні хваста, ні следу. Як на чужой планеце. І хоць бы адзін

чалавечак? Мёртва. Але нешта бухала, ляскала. Нейкі ж ёсць яшчэ голас? Ніколі не чуў гэтакіх гукаў.

Валетаў пераскочыў цераз канаву. Тут раней пачыналася вузкая, паміж платамі, вулачка, у канцы якой на беразе возера стаяла хата дзеда Данілы. Дзе тая вулачка, тыя платы? Платы абваліліся, ад іх там-сям стаялі чорныя дубовыя слупкі, на якіх віселі канцы жэрдзя. Дошкі валяліся ў траве. Ад слупкоў да слупкоў — быльнёг. Узняўся за адзін год? Апошні раз Валетаў ішоў гэтай вулкаю да Данілы роўна год назад. Дзе-нідзе людзі тады яшчэ жылі. І дзед Даніла жыў, матам крыў усіх, хто ехаў з вёскі. Павярнуў налева — праз машынны двор. На двары спыніўся. Кантора, у якой механізатары збіраліся на нарады, была на замку, акно выбітае, пад акном шклянне. За свірнам — ток, на таку і далей — ламачча ад машын, камбайнаў. Гусенічны трактар, як і машыны, выпатрашаны, быццам нехта з яго павытрасаў шлунне. ЗІЛ з прычэпам стаяў на ступіцах. Ні колаў, ні рухавіка пад капотам. Па двары гуляў вецер, перамятаў рэшткі шэрай гнілой саломы. І зноў бухала блізка. Дзверы ў свірне? Цяпер заўважыў, як вецер іх адкідаў, а яны зачыняліся. Адляталі і зачыняліся. Бухалі.

У канцы двара пастаяў над «беларусам», звонку яшчэ новым: за якія грахі жахлівы лёс і ў гэтага зямелі? Задніх колаў не было, ад пярэдніх — адны дыскі, кабіну нехта сарваў і валялася побач. Успомніў, што шафёры з бальніцы ездзілі сюды ці не сюды, некуды ў зону, па запчасткі для сваіх машын, прывозілі часткі ад трактароў і камбайнаў, некаму прадавалі, выменьвалі. Ведалі, што нічога тут браць нельга, недарма людзі адсюль выязджалі, пакідаючы нават самае новае, дарагое, бо ўсё было заразаю, смерцю. Не — развалаквалі смерць па зямлі.

За дваром выйшаў на бераг возера, на жоўценькі пясочак і ўбачыў хату дзеда Данілы: высокі чырвоны комін, адзінае акенца на ваду, дошкамі, як іншыя ў вёсцы, не заканапачанае, адкрытае ветру і сонцу, адчыненыя варотцы, вярба ля берага насупраць варотцаў. Абрадаваўся: жывы, значыць, дзед Даніла, Халмянку не пакінуў, не даў вёсцы зусім, да апошняга чалавечка, вымерці? Але дзе чайкі, што заўсёды з пісклявым, енкам лёталі над вадою і дзедавай хатаю? А качкі і гусі? Іх у Данілы поўна было, а тут — ні пярынкі. Ціша несусветная. Восень у зазімак?

Валетаў абышоў лазовыя кусты, якія з берага ўразаліся ў ваду, карчастую вярбу, зламаную навальніцай, ніц зваленую на пясок і жвір, у калецтве не ўсохлую, адно абмалоча-

ную перадзімовымі халадамі. За вярбою стаяў бела-шэрацагляны вясковы клуб. Але што ў вокнах? Ніводнай шкліны, з шыбак вылятаЛі і на ветры матляліся не то вяроўкі, не то стужкі. Падышоў, спыніўся на хрумсткім аконным шкле. Вецер выдзімаў з вокан стужкі. Нехта парэзаў шторы на стужкі? Каму спатрэбілася?

Абышоўшы будынак, падняўся на ганак. Куды дзеліся дзверы? Увайшоў у залу. На сцэне стаяла чырвоная трыбуна з дзяржаўным гербам, за ёю на вяроўцы ўніз галавою вісеў партрэт правадыра. Вецер гуляў па зале і партрэт гайдаўся, нібы маятнік гадзінніка, бліскаючы васкова-жаўтлявай лысінай, а над ім пад столлю, на ўсю сцяну, вялізнымі чырвонымі літарамі, падобнымі на чырвоныя зубы, як здзек з людзей, з іх жыцця,— словы нібы таго самага дабрадзея: «Нынешнее поколение будет жить при коммунизме!» Тысячы разоў дзе толькі не бачыў гэты чырваназубы рогат, але першы раз адчуў, што гэта здзек з яго. Азірнуўся, пашарыў вачыма па падлозе — ні цагліны, ні кала. Торбачка ў руцэ са слоікамі? І пляшка. Іх ён пашкадаваў. Саскочыў са сцэны і нырнуў у бакавыя дзверы.

Наступны пакой пазнаў адразу. Некалі тут і быў вясковы клуб — атынкаваная і пабеленая вясковая хата. Пасля ўжо хату абнеслі цэглаю, прыбудавалі ў два разы большую хароміну з той сцэнаю, а раней усё было тут: кіно, танцы, сходы. І тут быў лозунг. Не той пра камунізм, іншы, але таксама вёў у жыццё шчаслівае. Сюды аднойчы прыходзіў з Лісачкаю. Танцавалі пад гармонік. У куточку на лаўцы сядзелі, шапталіся, слоўкамі цёплымі адно аднаго грэлі, яе руку ён трымаў на сваім калене. То і было шчасце? Ці проста адчуванне, што гэтак, з Лісачкаю, можна і ў загадкавы камунізм зайсці? Цяпер у куточку на падлозе ляжала гара кніг, пашкуматаных і брудных. Нехта з кніг разводзіў цяпло, а потым, мабыць, спужаўся, што спаліць стадолу, затоптваў агонь нагамі. Валяліся абгарэлыя томікі Пушкіна, Талстога, Гогаля. І Коласава «Новая зямля». Падняў Коласа, далонню абцёр пыл і бруд з кнігі, адагнуў заламаныя ражкі, адгарнуў вокладку і адразу пачуў, як з той школьнай пары, шчымліва-цёплы голас: «Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы...»

Падышоў да акна. За ім блішчэлі і возера, і жоўценькі беражок. Паклаў кнігу на падаконнік.

«А мы ж, Танечка, думалі, што вёсачкі нашы шэрыя, нецікавыя, што клуб наш брудны, халодны, танцы ў ім — таўкатнеча вясковая, што ўсё жыццё наша такое самае

шэрае, гразкае. Шукалі шчасце ў чужых гарадах. І што знайшлі?..»

Валетаў дастаў з поліэтыленавай торбачкі пляшку, у кішэні знайшоў складанік, сарваў бляшаны корак. Піў нагбом. Адарваўшыся ад пляшкі, аж страсянуўся. Хутчэй сарваў аб падаконнік накрыўку са слоіка і прагна глытаў салодкі сок разам з мяккім салодкім гарошкам. Піў і бачыў Лісачку, гаварыў з ёю: «Дзе наша вёсачка, Таня? Дзе самі? На якім мы свеце?» Трымаючы ў адной руцэ пляшку і торбачку, у другой слоік з гарошкам, выйшаў зноў у вялікую залу, азірнуўся на сцэну, трыбуну, лозунг. Недаедзеным гарошкам, слоікам, запусціў у чырвонае зуб'е над правадыром і крыкнуў, як на ўвесь свет:

— Су-кі!..

Лодка ляжала на пяску, карма сядзела ў вадзе. Знаёмы быў і корч ад старой вярбы з ланцугом, замкнёным на носе лодкі. Замок вісеў іржавы — даўно ніхто не трымаў у руках. Некранутая ржа насцярожыла. Глянуў на Данілаву хату: шыбкі блішчэлі, белыя фіранкі за шыбкамі зашморгнутыя. Падышоў да хаты — варотцы прачыненыя ў двор, сцежка тораная, незарослая, быццам толькі што па ёй прайшоў чалавек.

— Дзед Даніла? — гукнуў Валетаў.

Ніхто не адгукнуўся.

Зайшоў у двор. Вароты ў хляўчук былі прачыненыя. Стаяла калода, на якой гаспадар сек дровы. Шырокая дошка пры сцяне хлява — тут стары габляваў, пілаваў. Жаўтлявае пілавінне пад дошкаю і на дошцы, габлюшкі жаўтлявыя. Нядаўна майстрачыў?

Сунуўся ў хляўчук. Святла ад прачыненых варот хапіла, каб заўважыць венічкі. Навязаныя парамі, яны віселі на жэрдцы, бярозавыя і дубовыя. А дзе карыта? Раней тут стаяла новая труна, якую стары жартачкамі называў карытам, і ўсё тужыў, што не хапіла дошак на века, збіраўся купіць ці пазычыць, каб пасля, як спатрэбіцца, людзі не бегалі, не шукалі, не рабілі тое, што сам сабе мог зрабіць. Выйшаў з хлеўчука: свежыя аполкі? Не іначай, як стары дошкі знайшоў, рабіў века. Але дзе яно? І карыта — дзе?

— Дзед Даніла? — гукнуў яшчэ раз.

У хаце халодна, сыра. Шырокі ўслон стаяў пасярод наўскас, адным канцом у покуць, другім да парога. Люстэрка на сцяне завешана шэрай анучкай, а пад ім, на стале ў шклянцы, агарак жоўтай свечкі. Пахла хвояй і воскам.

Валетаў апусціўся на ўслон. Спазніўся? Як жа так? І венічкі на зіму навязаў. Чакаў?

Выйшаў на двор і стаяў, не ведаючы, куды ісці. У вачах курчыліся жоўценькія габлюшкі, а ў галаве — думка: сыны века на труну рабілі?

За спіною ў хаце грукнула — здрыгануўся: хто тут? Хтосьці жывы? Ці зноў вецер? За парогам у суцемку нешта калыхнулася. Хацеў паклікаць Данілу — хто яшчэ мог гаспадарыць у ягонай хаце? — як раптам заўважыў вялізную сабачую галаву. Яна набліжалася: шырокая шэрая лабаціна, Валетаў зрабіў крок назад, саступаючы з дарогі. Істота, ледзь жывая, спынілася на сенечным парозе і глядзела, звесіўшы нос, уніз, баючыся скочыць з вышэйшага, як у хаце, парога. Цяпер Валетаў убачыў яе ўсю, ад галавы да хваста, і тое, што ўбачыў, не спалохала, але здзівіла. Перад ім стаяў нямоглы воўк. Страшэнна хударлявы, знясілены хваробай ці голадам, з абвіслай па баках поўсцю, зляжала-рудой, закарэлай на чэраве і грудзях, з вострым гарбатым хібам, на падагнутых, як перабітых, задніх лапах. На чалавека воўк не звяртаў увагі. Пастаяў і пайшоў у варотцы, цягнучы зад. Хвост вісеў, бытта галень. Чалавека воўк, вядома, чуў і бачыў, але ўсё роўна як страціў не толькі сваю драпежнасць — адчуванне асцярогі, страху смерці.

Валетаў выйшаў з варотцаў і падаўся следам за воўкам. Паляўнічы інстынкт падказваў забіць яго. Хоць колам, хоць каменем. Ледзь жывы, выпрастаецца, не паспее зубы ашчэрыць, калі яны ў яго яшчэ ёсць. Ужо ўзяў з-пад плота цагліну, нагнаў воўка і раптам адкінуў цагліну ў крапіву, адчуўшы, як сілы пакідаюць самога. У канаючай істоце ўбачыў сябе, сваю дарогу і свой канец. Ды не толькі свой. Канец свету.

Вёска скончылася. Валетаў спыніўся перад агародкаю. Над галавою шумелі бярозы, метучы па нізкіх хмарах голым галлём. Пралез паміж жардзін, прадраўся праз бэзавую зарасць, прайшоў паміж курганкоў і крыжоў, абагнуў помнічак з чырвонай зорачкай і фотаздымкам салдаціка ў круглай рамцы, спыніўся перад свежай наспачкай. На жоўтым пясочку, абкладзеным зялёным дзёрнам, ляжалі счарнелыя астры. Такія самыя астры ляжалі побач на магілцы дзедавай Куліны. Валетаў сеў на старую магілку, дастаў з торбачкі недапітую пляшку, паставіў на свежы курганок.

— Вось дзе мы з табою, Даніла, сустрэліся. Не дачакаўся ты мяне. Але не вельмі і памыліўся. На які тыдзень?

А то б яшчэ і выпілі, і што-небудзь адзін аднаму сказалі. Ну... ты на мяне не сярдуй.— Лінуў з пляшкі на жоўты пясочак, а сам піць не спяшаўся.— Добры ты быў чалавек. Усе з вёскі паразбягаліся, а ты яе пільнаваў да апошняга свайго дзянёчка.

Валетаў піў па глытку і ў той жа час гаварыў са старым. Дзякаваў за венічкі, за дружбу. Спытаў, ці былі людзі на праводзінах, ці прыязджалі сыны. Нібыта ад самога Данілы пачуў, што прыязджалі абодва, Міша і Валік, што падышлі людзі, з Маліны прыходзіла старая Агрыпіна, якая заўсёды нюхам чула нябожчыка і з'яўлялася пачытаць псалмы, правесці спрадвечным бабскім плачам, што сыны памінкі справілі, хапіла гарэлкі, усё было як трэба, па-хрысціянску.

— Гэта добра, што па-хрысціянску,— нібыта на голас Данілы адказаў Валетаў.— А крыж я табе абяцаю. Касцік будзе рабіць свайму старому, зробіць і табе. Я яму закажу, каб зрабіў. І тады мы з ім прывязем крыж, паставім і блаславім.

У вачах усё зацягнулася змрокам — курганкі, крыжы, дрэвы, хмызняк. Галава напоўнілася шумам-гамам. Узняў галаву, глянуў угару: над бярозамі аж цёмна ад варання. Вялізныя чорныя птушкі кружылі ў небе, садзіліся на дрэвы і ўзляталі, хлябалі ў голлі бяроз чорнымі анучамі крылаў. Ці не той гэта быў вырай, што гнаў яго ад Лапаціч у Радзімцы, другі дзень крумкаў над ім, вісеў над галавою? Учора, пачуўшы і ўбачыўшы гэты чорны гвалт, зямлю пад яго ценем, сябе адчуў ценем, зямлёю, душу як бы хто загарнуў у чорныя анучы, а цяпер нечакана абрадаваўся крыклівому вараннню. Усё ж голас жывы ў вёсцы.

За магільнікам ляжала поле, і Валетаў, ідучы па ім, спыняўся і азіраўся. Магільнік з вараннём у старых бярозах застаўся адзаду, крумканне аціхла, а цемра не таяла, усё роўна як ужо і дзень канчаўся. Дзе тое сонца? Хмарыла, збіраўся дождж? Але дождж не палохаў. Валетаў ішоў не то полем, не то лугам. Раней тут было поле, сеялі жыта, віку з аўсом, лён, а цяпер густа буяла дзіч. Ужо і сцежка пад нагамі згубілася. Спыніўся: куды яшчэ ісці? Стаяў па грудзі ў пустазеллі, плямамі зялёным, сёлетнім, а плямамі леташнім шэрым, ажно чорным у сухастоі, з жыўцом змешаным, вятрамі скалмачаным — далей не прабіцца.

Ледзь выблытаўся на лысую выспачку, і калі ўжо з тае лысіны агледзеўся, дык жахнуўся: далёка навокал разлягалася мёртвае поле. Яно кацілася на ўсход і там, куды кацілася, на ўсходнім краі, з ягонае дзікасці ў неба паўставала

незразумелая белая казка — гмахі, падобныя на светлы міраж у акіяне безнадзейнага змроку. Хмара ў небе схавала сонца, поле пад хмараю выдавала яшчэ больш дзікім, пагрозліва-шэрым, але далягляд быў пад сонцам, блішчэў геаметрычна дакладнымі, іскрыста-белымі, нібы з цукру, плоскасцямі. Белыя, злёгку блакітныя і ружовыя, яны паўставалі над безвыходна-мёртвай зямлёю, нібы светлы міраж перад вачыма здарожанага пустэльніка.

Ці гэта ўсё ж не міраж? Сонечны горад сярод мёртвых палеткаў? Горад-сонца, які, пэўна, не сніўся і вялікаму фантасту Томасу Мору? Валетаў раптам спахапіўся: ці не той гэта Ленінскі гарадок, які ў апошнія гады будавала ўся Беларусь, куды адусюль гналі цэглу, жалезабетон, цэмент, сталярку, шыфер, тэхніку, будаўнікоў? Ну як жа не той? Ён адзіны — той! Дзесяткі мільёнаў рублёў уклалі, каб ссяліць сюды мужыкоў і баб, разам з малымі дзеткамі, з Радзімцаў, Маліны, Халмянкі, Чудзікаў. Можа, пра гэтакі горад, малы, як вёска, але прыгожы, як сталіца, некалі марыў ён, Валетаў, марыла Лісачка? Марылі і шукалі, а прыйшоў час — сам горад сюды з'явіўся? І як гэта ён першы раз яго бачыць? Нядаўна вырас? За адзін год? За адно лета?

Валетаў сышоў з лысай выспы ў лагчыну, праз калматы быльнёг прадраўся да зарослай меліярацыйнай канавы, пераскочыў цераз яе, адчуваючы ў нагах маладую пругкасць, апынуўся на асфальце. У горад-сонца, горад-казку вяла блішчастая шэрая стужка, раўнюткая, нібы напятая струна, і ён, усхваляваны відовішчам, ішоў па ёй, не думаючы, навошта туды ідзе, чуючы музыку новай дарогі. Але спыніўся: на абочыне асфальту нечакана заўважыў знаёмага, з Данілавай хаты, ваўка — сядзеў да яго спіною, таксама ўглядаючыся ў светлую казку насупраць, за асфальтам і полем. «Ну, а цябе гэты горад накорміць і напоіць? — ледзь не ўголас спытаў Валетаў.— Дык ідзі, шукай і ты ў ім сваё шчасце». Успомніў пра торбачку — выхапіў з яе пляшку. На дне плёскалася гарэлка. І яшчэ быў слоік з гарошкам. Складаніка не знайшоў — пакінуў у клубе? Размахнуўся і шпурнуў слоік на асфальт у той бок, дзе сядзеў воўк, нібы ў яго цэлячы. Шклянне разляцелася, а гарошак, ці не ўвесь, які быў у слоіку, дзіўна раўнюткай купінкаю застаўся якраз перад ваўком на асфальце. Воўк падняўся на ўсе чатыры лапы, але з месца не сышоў. «Ну еш, жывіся, Цэзар ваўчыны!» Але воўк як не чуў, што яда пад носам. Сышоў з асфальту і пашыўся ў шэры быльнёг. Поўсць на ім была таго самага колеру, што і поле, шэрая з чорным і рудым,

паклычаная, і Валетаў не заўважыў, як звер зліўся з полем, як ягоная поўсць сплылася з поўсцю зямлі. Зямля ў ваўчынай поўсці? Валетаў жахнууся ад нечаканае думкі. Калі зямля, дык і ўсё астатняе? І ён, чалавек? Усё зарасло воўчай поўсцю?

Ускінуў над галавою пляшку і, не адрываючыся, вылестаў з яе да дна. Адкінуў, перасмыкнуўся: чым рот заткнуць? Узяў нос у далонь, панюхаў — ад грудзей адхлынула. З асфальту сышоў у ваўчыную поўсць, у тым самым месцы, дзе сышоў воўк, падаўся ў поле. Нагам было мокра, халодна. Чаравікі вымаклі, брыдка шастала цяжкое мокрае калашынне. Куды ісці далей? Полем у Радзімцы? Яшчэ раз агледзеўся, падумаў: калі там жывуць мужыкі і бабы з Чудзікаў, Радзімцаў, Маліны, Халмянкі, дык як жа яны не аруць, не сеюць, не жнуць? Жывёлы няма, каб выгнаць на пашу? І пашы няма, каб выгнаць жывёлу? Дык праўду сказаў Федзя: пад вокнамі і балконамі зямля мёртвая? Воўчая поўсць абклала светлы горад? Тады які ж гэта горад? Лагво воўчае. Але ж і воўк у гэтым лагве здыхае?

Валетаў ішоў і ўжо не азіраўся. Кароткі дзень позняй восені згасаў. Халоднае шэрае поле навокал усё больш халаднела і дзічэла.

Падыходзячы да Радзімцаў, Валетаў углядаўся ўдалячынь, шукаў трубу мехустаноўкі, каб выйсці да блізкай ад яе Манінай хаты, але трубы не бачыў, хоць хаты ўжо выплылі з шэрані, набліжаліся. Ішоў полем, той самай воўчай поўсцю, збіраючы на калашынне сабак і ваўчкоў. Хаты былі ўжо блізка, а не пазнаваў іх. У вачах усё плыло і дваілася, як учора ўвечары, і ён, ідучы, гадаў, ці гэта гарэлка вінаватая, ці вінаватыя вочы? Ці, можа, хаты? Падышоўшы да нейкай драўлянай сцяны, пытаўся ці то ў сябе, ці то ў сцяны: што за будыніна — ні вокан, ні дзвярэй? Завярнуў за рог — зноў глухая сцяна. Што за ліха? За другі рог завярнуў — аж галавою затрос ад нечаканасці: шумела грыўка лясная і ў ёй, рылам у камель дрэва, стаяла малая машынка, нават нібыта ягоная — гарбун не гарбун? Бліжэй падышоў: гарбунчык?.. Ты чаго тут? Цябе хто сюды загнаў?.. Галаву вышэй ускінуў, агледзеўся: гэта ж Салаўкі? Хата Міцькава за асінавым астраўком, ганак, дзверы адчыненыя. Дзіва — не шукаючы і не гадаючы, да гарбунка прыбіўся. Нібы сабака — да сваёй будкі.

Адчыніў незамкнёныя дзверцы і сеў за руль. Цёплая радасць накацілася, аж пагаварыць захацелася.

— Ну дык што, канёк мой? Паедзем дадому? Загуляліся мы з табою, а дома чакаюць дзеткі і баба. Мы ім гасцінцаў з аб'езду прывязем, накормім, і яны будуць радыя.

Толькі цяпер успомніў, што ў руцэ поліэтыленавая торбачка. Вытрас з яе сабе на калені ўсё багацце — два блішчастыя, у цэлафане, пакецікі з бананчыкамі. Пачмыхаў носам — не пахлі ні Індыяй, ні хоць бы якімі прысмакамі. Але нешта і пахла? Яшчэ носам пачмыхаў, балотам ці рэчкаю — тванню? Маню ўспомніў: зноў чакае? Трэба ехаць да Мані. Па кішэнях курткі пачаў шукаць ключы ад машыны, але ключоў не было і ў адной кішэні, і ў другой. Можа, згубіў? Пра гэта думаў, пакуль галава не звалілася на руль. Пачуўшы, быццам нехта побач храпе, спытаў:

— Гэта ты, Міцька?

Ніхто з ім не захацеў гаварыць. Прыўзняў галаву, прыслухаўся: зноў ціха, ніякага храпу. Здагадаўся, што хроп ён сам, сябе чуў, не пазнаўшы.

Але дзе ключы? Паспрабаваў вылезці з машыны, каб паглядзець пад сядзеннем, ды вылезці цяжэй, як залезці. Павярнуўся бокам, павёў вачыма па заднім сядзенні. Там ляжаў мокры мех, ад якога якраз і пахла рачной тванню. Міцька рыбу ўкінуў? І сала побач з мехам, некалькі брусоў, абы-як загорнутых у газету. І рэшата з яйкамі — цётчын гасцінец. А ключы? Дзе ключы? Варочаючыся, локцем аблёгся на рулявую калонку і гарбун заспяваў хрыпата, як прастуджаны. Спяваў, пакуль гаспадар не ўсеўся як след. Усеўся — пачаў чакаць: ну, цяпер ужо Міцька прыбяжыць. Не, не бег Міцька. Працягнуў руку пад рулявую калонку, і гарбун загурчэў. Хацеў тут і заглохнуць, ды Валетаў даў яму газку — завыў. Што ж гэта? Ключ тырчэў у замку? Як той бацька, склеротык, некалі паўдня акуляры шукаў, увесь сад і ўсю пуню выпаўзаў на карачках, а яны сядзелі на носе. Гарбун пагурчэў-пагурчэў ды і з месца смаргануўся. Грукнуўся носам у дрэва, здрыгануўся і заглох. Ну, паскуда! Валетаў лаяў невядома каго — сябе, дрэва ці гарбуна? Трэба назад, а ён уперад, пацалаваўся з Міцькавай асінкаю. Морду суродаваў? Цяпер едзь уродзінаю. Валетаў хацеў зноў вылезці, паглядзець на машыну, але перадумаў — позна глядзець. Ключ у замку намацаў — гарбун зноў загурчэў. Куды паедзеш з пабітай мордаю? А хрэн з табою, з такой машынкаю. Ну, назад? Назад! — усё роўна як каню скамандаваў Валетаў. І цяпер ужо гарбун даў назад, ад

любай яму асінкі. Назад і наперад? Але як з Міцькам не развітацца? Як не сказаць, што яго асінка з гарбунчыкам цалаваліся? Яшчэ патрубіў. А можа, Міцька ў Насці? Ехаць да Насці?

Ад'ехаў ад хаты. Дарога пад коламі ляжала коўзкая, усё роўна як тут, пакуль бадзяўся ў Халмянцы і вакол Халмянкі, прайшоў дожджык, і невядомая сіла ссоўвала машыну ў канаву. Спаўзці ў пагібель Валетаў ёй не даў. Выбраўся, газуючы, да крыжавіны дарог і ў вечаровай шэрані на ўзгорачку ўбачыў Аброк, Міцькавы пад крыжам драбіны. Тармазіць пачаў загадзя, каб яшчэ і з Аброкам не пацалавацца, а спыніўся пад самым крыжам. Дзверцы адчыніў — паклікаў:

— Міцька?..

І тут яму ніхто не азваўся. Пасядзеў пры адчыненых дзверцах, слухаючы, як шуміць вецер, і пачаў вылазіць з машыны. Вылез нарэшце, але адыходзіць ад яе не спяшаўся — больш надзейна было за яе трымацца. Ногі закалелі, мокрыя, увесь закалеў, ляскатаў зубамі — гарэлка, якую адзін выхлестаў, ужо не грэла. Дурань, што ў Сямёнаўны не ўзяў дзве пляшкі. Толькі цяпер пра гэта падумаў. Хацеў зноў сесці ў машыну, ад ветру схавацца, як заўважыў на драбінах ногі ў ботах. Падышоў: Міцька ніцма ляжыць, пахропвае. У куфайцы, зімовая шапка на патыліцы. Тузануў за плячо — не абазваўся, але храпці кінуў, дыхаць пачаў раўней. Валетаў аблёгся грудзьмі на драбіны — нешта, як востры камень, у грудзі ўпёрлася. Памацаў — біклажачка? Вось калі пра яе ўспомніў.

— Ці ты мяне чуеш, Міцька? Кажуць, што няма на зямлі радасці. Ёсць радасць. Чуеш?..

Міцька не чуў, як плёскаўся спірт у біклажцы. Валетаў скруціў галоўку, усунуў у яе нос, скрывіўся. Але яшчэ панюхаў, грэючыся ад аднаго паху. Глытнуў разочак і аж захлынуўся. Не хапіла паветра, але і дыхнуць баяўся, ведаючы нораў чыстага спірту. Забегалі вочы, шукаючы на драбінах хоць што-небудзь у рот. Знайшоў яблык: хрумснуў, не жуючы праглынуў — аддыхаўся.

— Ну, прачынайся. Твая чарга, чуеш? — Убачыў белую капронавую вяроўку. Яна вісела з крыжавіны Аброку над Міцькавай галавою.— Што гэта?.. Ты што надумаў, га?..

Валетаў схапіў Будавея за плечы, страсянуў. Той прыўзняў галаву, пралупіў вочы:

— Ты што, Міхей?..

— Гэта?.. Адкуль ўзялася?..

Валетаў смаргануў за вяроўку, але яна, моцна прывязаная, мокрая, выслізнула з рукі.

— Га-га-га! — зарагатаў Будавей.— Ты, бачу, спалохаўся?..

Валетаў забыў, што гэта быў Міцькаў адвес, па якім яны разам раўнялі, калі закапвалі, крыж, і цяпер, убачыўшы вераўчаку, у ім сапраўды прачнуўся калі не страх, дык нейкі мёртвы холад, з якім ён заўсёды глядзеў на вяроўку, што вісела ў сваёй пуні яшчэ ад вайны, з тых часоў, як бацька варыў дзяржаўны морс. Тая вяроўка наганяла чорныя прадчуванні. І ўжо не толькі тая.

— Не бойся, Міхей. Па мне вяроўка не плача. Быў час, калі плакала. Я цяпер жыць хачу. А ты... куды збег? Я цябе даўно чакаю.

Міцька хоць і быў п'яны, ■ усё памятаў і гаварыў цвяроза:

— Я не збег, я быў у Данілы ў Халмянцы.

— І што табе сказаў Даніла?

— Што позна Аброк паставілі. Нашы Радзімцы ніякая трасца ўжо не ўратуе.

— Твой Даніла кепска бачыць з таго свету.

— Вёска плача па жалезных крыжах.

Чужыя зубы зноў зарыпелі ў роце ў Будавея.

— А ці бачыў там светлы горад?

Ён ужо неаднойчы казаў Валетаву пра той горад, які дужа спяшаліся будаваць.

— Бачыў і горад.

— І што цяпер скажаш?

Міцька п'яны чапляўся за жывое, як і цвярозы, як ён сам, Валетаў, чапляўся за тую жылачку ў чалавеку, дзе біўся пульс жывой крыві. Але зноў не паспачуваў Міцьку, не супакоіў:

— Тое скажу, што светлы не горад, а міраж. І той міраж, калі паглядзець блізка, не што іншае, як лагва воўчае.

— Дык ты нічога не ўбачыў. Там мільёнчыкі закапалі. А што такое мільёнчыкі? Дай іх табе ці мне?

— Мільёнчыкі закапалі ў лагва. І людзей сагналі, каб яны там ваўкамі каналі. Ваўчыная поўсць іх з усіх бакоў абклала. І задушыць. Як задушыла Маліну, Халмянку. І Радзімцы задушыць. І тваё Салаўкі. Не выратуюць ні нулі, ні Аброк.

— Ты рэхнуўся, Міхей! Якая ваўчыная поўсць? Ты напіўся і трызніш.

— А ты пралупі свае цвярозыя бельмы. Твой Аброк, можа, не ў ваўчынай поўсці стаіць?

Будавей узняў галаву і доўгім позіркам глядзеў перад сабою ў поле. Паміж вёскаю, Салаўкамі і лесам яно ляжала шэрае і круглае, як жытні блінец, і шэрань па ім плыла хвалямі то ў адзін бок, то ў другі, нібы вецер яе ганяў. Міцьку хацелася зразумець тое, што сказаў Валетаў, ягоны страх пра ваўчыную поўсць, убачыць тую поўсць, але зразумець і ўбачыць, што зразумеў і ўбачыў Валетаў, не мог. У яго былі пытанні, але ён не любіў іх задаваць і да канца, да яснасці ў галаве стараўся дапяць сам.

— Не, Міхей. Я з табою не згодны. Гэта не поўсць, а зямля. І не воўчая, а наша з табою, родненькая.

— Зямля родзіць. Корміць цябе і мяне. А гэтая каго сёлета накарміла? Што ты на ёй пасеяў і зжаў? Крыж пасадзіў? У воўчую поўсць? А што з яго вырасце?..

Дзень выдаўся — усё наперакасяк. Словы Валетава душа Міцькава не прымала. Адкуль ён іх браў? Адкуль ахвота да гэтае скрухі? Каб яму, Міцьку, счарніць душу? А ці душа без таго не счарнела? Зноў сцяліся зубы, зарыпелі, бытта млыны.

— Маўчы!..

Маўчаць Валетаў умеў, але цяпер не мог. Калі б і Будавея не было побач, гаварыў бы тое самае, з самім сабою. Пагаварыць з самім сабою нават любіў. Асабліва як выпіўшы. І з гарбунчыкам, і з дрэвам, і з месяцам у небе. Учора, як ішоў да Мані, гаварыў з канём ля яе варот, з Бобікам. Можа, таму і піў, каб было з кім пагаварыць. Дык ці мог ён маўчаць цяпер з Міцькам?

— Зямля, кажаш? Была, пакуль не зарасла поўсцю.

— Была і ёсць! — павысіў голас Будавей.— Вось я — хто я такі? Чалавек на дзірках ад варожых жалезак. І торба мая была пустая. Усё забралі, вытраслі мяне і маю торбу. Ні маці, ні бацькі, ні братца-сястрыцы, ні страхі над галавою, ні дакументіка, што чалавек, як усе. У мяне, можа, і твару не было людскага. Бабы ад мяне беглі — лагернік, арыштант. Адны дарогі пад нагамі, бясконцыя. І я пайшоў. І знайшоў бераг, зямлі латку. І акрыяў. І жыву. Дык я табе, Міхей, так скажу. У чалавека можна ўсё забраць, а ён будзе жыць, пакуль ёсць зямлі латка, рэчка, лес, поле, паветра глыток.

— А хто ў цябе ўсё забраў?

Пытанне было Будавею дужа цяжкое. Валетаў пытаўся пра гэта не першы раз, але адказу не пачуў ніводнага разу і неаднойчы здагадваўся, што адказаць яму Будавей можа

ў нейкім асобым стане душы. Вось — можа, якраз і быў гэтакі выпадак? Валетаў замоўк і чакаў.

— Хто?.. А я не ведаю... Жытка забрала.

Апошняе, што Будавей дадаў, падумаўшы, слова пра жытку, падказала Валетаву, што тут нешта новае ў Міцькі ў галаве. Ён і ўчапіўся:

— Дурыш ты мяне. Якая жытка? Што такое жытка? Гэта ўсё, што вакол нас. Вялікае і агульнае. Не абхопіш. А што канкрэтна? Ці — хто?

— Ну... тое, што ёсць уласць.

— Во! — усклікнуў Валетаў.— Цяпер ты мне не збрахаў. Уласць усё ў цябе забрала. А навошта яна цябе абакрала? А каб ты сканаў. Толькі яна тады была дурнаватая, як цябе абкрадала, не ведала, што ўсё роўна жыць будзеш, бо ёсць у цябе зямля, ёсць рэчка, ёсць асінкі, поле. Пасля ўбачыла сваю памылачку, зразумела і забрала ў цябе ўсё. І поле, і лес, і рэчку, і да ўсяго яшчэ поўсцю ваўчынай абклала цябе. А ты ўхапіўся за нулі. На нулях хацеў утрымацца? Не, хрэна! Нуль — ёсць нуль! Не ўтрымаўся на нулях — ухапіўся за Аброк? А позна!.. Кранты табе, Міцька.

— А табе? — зарыпеў чужымі зубамі Будавей.

— І мне. Усім нам, Цэзарам.

— А ты ж не Цэзар, Міхей?

— Усе мы Цэзары. Ты сам казаў, што ўся зямля — зона. Вунь дзе пабываў — на Салаўках. Там — зона? А мой бацька быў у Чыце — і там зона. А дзе сканаў стары Шнэйдар? Не ў зоне?

Замоўклі. Будавей упарта глядзеў у поле, шукаючы ў ім нешта вельмі яму патрэбнае, але поле было аднастайна шэрае, глухое. Нічога новага не заўважыўшы, папрасіў:

— Дай мне, Міхей, вады.

Валетаў стаяў побач з Міцькам, грудзьмі аблёгшыся на тую самую ляжэйку драбін, з якой звешваліся Міцькавы, у цяжкіх ялавых ботах, ногі. У руцэ ён трымаў біклажку з рэштаю спірту і не ведаў, дзе ўзяць вады. На драбінах — якая вада? Калода карт ляжала збоку ад Міцькі — гуляў ці гадаў? Не адзін, значыцца, быў тут? Ці не была і Насця? Згроб карты, пачаў тусаваць.

— Міцька?..

Будавей маўчаў. Валетаў вытусаваў трэфовага вальта і разглядаў яго. Як ні паварочваў карту, а валет усё вісеў галавою ўніз. Праўда, быў і другі — галавою ўверх. Двайняты? Паспрачаліся і адвярнуліся адзін ад аднаго? Ці адзін —

дваіўся? А ці можа гэтак дваіцца, каб галовы — у розныя бакі?

— Ты глядзі. Мой партрэт, Міць?..

Будавей пралупіў вочы:

— Вады, Міхей?..

Валетаў сунуў яму біклажку:

— Пі...

Будавей трымаў біклажку, звесіўшы над ёю чорныя кудлы, не ведаючы, што з ёю рабіць, а Валетаў усё дзівіўся з трэфовага вальта, быццам першы раз бачыў.

Нарэшце Будавей адкінуў галаву назад, біклажку занёс над шырока адчыненым ротам. Спірт цёк міма, па падбародку, але нешта ў рот трапіла, бо Міцька загуў, як у трубу, заматаў, апёкшыся, галавою.

— Трэфовы валет — гэта я, Міць... Мне цыганка на яго гадала. Я тады хадзіў уверх галавою. У мяне мама была. І дзядзька Ерахвей быў, і баба Тэкля. І бацька быў, сядзеў у турме за шклянку сіропу салодзенькага. Я любіў маму. Я быў увесь у маму. У мяне былі душа і слёзы, як у мамы. А цяпер ні душы, ні слёз. Я гарэлкі мала піў і кахаў Лісачку. Мы хацелі жыць, Міця. Прыгожа жыць хацелі! Як мама жыла. Чысценька. І каб Бог быў з намі. У мамы быў Бог. І ў бабы Тэклі. І ў дзядзькі Ерахвея. А ў мяне няма Бога. Я свайго Бога прапіў. Чуеш, Міця? За савецкую ўласць дужа доўга піў і прапіў Бога. Усё мы прапілі.

Міцькавага твару Валетаў не бачыў. Ён быў схаваны пад кудламі, чарнейшымі за ноч. Але бачыў, як Будавей уздрыгваў, быццам яго даймалі сутаргі, як ад вялікай злосці ў сэрцы сціскалася на каленях кулачча. Нешта і ён хацеў сказаць, але толькі раз-пораз ускідваў кудлатую галаву, хапаў вялізным ротам паветра, гікаў, стагнаў. Нарэшце і ў яго з рота прарваліся словы:

— Ты, Міхей, супраць савецкай уласці!.. А я, каб мне гэтая ўласць не налівала папоўніцы, даўно б здох. Як вып'ю, тады цёпла і мякка. Працверазею — магіла халодная і сырая.— Зноў закалаціўся, застагнаў.

Валетаў узяў біклажку, патрос: ці ёсць хоць кропля? Не пачуў — яшчэ трос.

— Гэтак і я, Міць...

Нешта знайшоў у біклажцы, зляліў на язык апошнія кроплі.

— Вады,— зноў папрасіў Будавей.

З біклагаю ў руцэ Валетаў зрабіў крок ад драбін, але адысці ад іх баяўся — другой рукою трымаўся за драбіны.

І хацеў ісці, і не пускалі драбіны. Нарэшце зрабіў другі крок — захістаўся. Ногі гнуліся ў каленках, але ён упарта імкнуўся да гарбуна, згадаўшы, што ў багажніку бутэлька з дысцыліраванай вадою для акумулятара. Ці там электраліт? Дзень назад што наліваў у бутэльку, як заходзіў да шофераў у гараж? Электраліт ці ваду? Ваду ці электраліт? Ногі распаўзліся на каўзаце, і ледзь не загрымеў у гразь, ды паспеў сігануць уперад — галавою ў сцяну ўпёрся, аж у галаве грукнула. Гарбун? Га, любенькі! Бадануў галубчыка? Дзверцы былі адчыненыя, і Валетаў зваліўся на сядзенне. Яшчэ раз мутна падумаў пра бутэльку, а падняцца ўжо не мог. Патузаўся на сядзенні і заціх.

Валетаў адчуў, як гараць твар і вушы. Нехта пляскаў па шчоках далоньмі, па адной і па другой, балюча цёр вушы, смаргаў за мочкі. І голас пачуў:

— Мілок, прачніся!..

Голас быў жаночы. Падалося, што Манін. Зноў ці не ў гасцях? Зноў напіўся? Рукі не Маніны — тоўстыя, грубыя. Без шкадобы трэслі за плечы.

Валетаў расплюшчыў вочы і за лабавым шклом гарбуна ўбачыў цемень. А яшчэ — светлая пляма, агнянае вока. Ноч? Машына з уключанымі фарамі? Павярнуў галаву: побач за рулём сядзела кабета ў белым халаце, у руцэ на рулі трымала адкаркаваную пляшку. Аж усяго страсянула. Не ад пляшкі. Ад таго, што ў жанчыне пазнаў Кірылаўну, сваю хірургічную сястру. Заўважыўшы, што ён прачнуўся, яна адразу сунула яму ў рот дзве ці тры таблеткі і следам — горла бутэлькі.

— Запівай вадзічкаю. Буль-буль, і яшчэ... буль-буль? Во мы і малайцы. І паедзем. І ты, мілок, станеш на ножкі. І галоўка будзе ясненькая.— Яна адчыніла каля сябе дзверцы машыны і крыкнула: — Паганяй, Федзя!

Святло за лабавым шклом зарухалася, агняныя вочы адвярнуліся, прамяні стрыганулі па полі, высвецілі вялізны, пад неба, крыж і драбіны пад крыжам. Крыж некуды плыў, як над полем па небе. Сплываў у цемень. Перад шклом акрэсліўся фургончык «хуткай дапамогі». З'явіўся шафёр Федзя, палез пад гарбунчыка, жалезкай паляскатаў. Машына загула. Гарбунчык здрыгануўся і зрушыў з месца, засвяціўшы адным вокам у зад Федзевай «дапамогі».

— Вады, мам-м...— вымавіў Валетаў.

Кірылаўна сядзела побач, круціла руль. Яна апусціла

руку ўніз, каля ног знайшла бутэльку, падала Валетаву:

— Пі, мілок, прамый шлунак. А прыедзем, я цябе ўсяго памыю. Будзеш ты ў мяне як гурочак.

Валетаў напружана думаў, чаму за рулём не ён, гаспадар машыны, а Кірылаўна, чаму яна камандуе, а ў яго, Валетава, не пытаецца, ехаць ці не ехаць, куды ехаць? Да Федзевай «хуткай дапамогі» прывязаныя. На буксіры? Значыць, Кірылаўна прыехала па яго і едуць яны ў бальніцу? Ну, вядома, адна мамка мае ўладу над хірургам Валетавым — таму яна і мамка. І ўжо ён з яе рук не выцерабіцца. Як прыедуць, яна ўскіне яго руку сабе на плячо, без Федзевай дапамогі чорным калідорам зацягне на другі паверх у душавую, распране, пакіне ў адных спадніках, уключыць халодную ваду, зробіць душ Шарко, які, калі не схапіцца за сцяну, з ног зваліць. Галавамыйка будзе. А потым ваду Кірылаўна выключыць, прынясе чыстую прасціну, пакіне аднаго на той час, пакуль будзе выцірацца, аддыхвацца, апранацца. Душ усяго хмелю з яго не выб'е, але апранецца ён сам. Свае мокрыя спаднікі схавае ў шафу, знойдзе, калі пашанцуе, якія-небудзь трусы, а не пашанцуе, дык штаны ўсцягне на голае цела. Яшчэ будзе хістацца ва ўсе бакі, ад сцяны да сцяны, і тут зноў з'явіцца Кірылаўна, возьме пад руку і хуценька, каб іх ніхто не заўважыў, адвядзе ў ардынатарскую. Там паднясе яму кубак гарачага, густа заваранага чаю, гэтакага моцнага, што аж у галаву шыбане, хоць і не так, як гарэлка. Галаву не адаб'е, як адбівае тая зладзейка, на месца нават паставіць, і ён адчуе, што ёсць у яго галава. Сядзець за чаем будзе столькі, колькі дазволіць Кірылаўна, а калі ёй падасца, што ў свой прыстойненькі вобраз хірурга ён яшчэ не вярнуўся, яна скажа: «А цяпер, мілок, дай мне сваю залатую ручку». Як тая цыганка, што некалі гадала яму на трэфовага вальта. І ён зноў нікуды не дзенецца, падасць ёй руку, сам загорне рукаў, і яна ўвалье ў вену паўшпрыца кафеінчыку. Пасядзеўшы яшчэ дзве-тры хвілінкі, ён устане на ногі і ўжо зусім іншым голасам, бадзёрым і нават патрабавальным, спытае: «Ну, дзе твае хворыя?» Адчуўшы яго патрабавальнасць, яна зробіцца добрай, паслужлівай, пасобіць апрануць белы халат, ужо без нахабства паднясе яму пад нос шматок ваты з нашатырам, ён назадаволена пачмыхае доўгім носам, а яна ласкава папросіць: «Трымайся, мілок, будзь героем»,— і сама пойдзе паперадзе да палаты, у якой яго чакаюць хворыя. Хто там будзе чакаць? З якімі болькамі? Пабітыя ў аварыях? Цяпер гэтакія кожны дзень, кожную ноч. З усіх дарог вязуць

паламаных, абгарэлых, скрывянелых. Ці са шлункамі? Таксама поўна. Ядуць і п'юць абы-што, абы-як. Што б ні балела, а хірургу трэба кожнага ратаваць, каб кожны жыў. Ды не, не за ўсіх яму балела аднолькава. І таму было ў яго самае першае пытанне да Кірылаўны:

— Там дзеткі ёсць?

Гэтае пытанне насцярожыла мамку:

— Няма дзетак, мілок. Старыя лапці.

Цяпер бы і супакоіцца. Але Валетаў верыў і не верыў. Кірылаўна, каб яго загадзя не хваляваць, магла зманіць. Яна ведала, што больш за ўсё на свеце ён баіцца хвіліны, калі ў палаце хірурга сустракала заплаканая матка з дзіцяткам на руках і бачыла, што хірург п'яны, хоць і трымаецца на нагах, чула, як ад яго тхне гарэлкаю; калі, агледзеўшы дзіця, ён казаў, каб малое рыхтавалі да аперацыі, бо чакаць нельга, адкладаць аперацыю рызыкоўна, а маці аж калацілася, дзіця не аддавала яму пад нож. Ён тады хутчэй пакідаў палату і з той маткаю, з тым дзіцяткам заставалася Кірылаўна. Яна адна ведала словы, якія прымушалі жанчыну змірыцца з воляй хірурга. Але што з той жанчынай рабілася!.

— Ты не маніш? — перапытаў Валетаў.

— А ці я, мілок, калі-небудзь цябе падвяла?

О, не! Кірылаўна ўсю бальніцу ні разу не падвяла, хоць рабіла аперацыйнай сястрою даўно, гадоў сорак. Ды ці толькі аперацыйнай? Шукаць і знайсці хірурга на нейкім зігзагу ягонага аб'езду, прывезці ў гэтакім стане — хіба яе абавязак? А хто яшчэ гэта зробіць, акрамя яе? Ніхто. І шмат чаго ў бальніцы ніхто не зробіць, акрамя Кірылаўны. І на аперацыі яна галоўны чалавек пасля хірурга. Ёй не трэба казаць — сама ўсё разумее, кожны яго рух і позірк. Што б ён, Валетаў, рабіў без яе? Хто б яго абмыў, прывёў у той стан, калі мог стаць за стол? Хто ўгаварыў бы тую гаротную матку аддаць дзіцёначка на аперацыю? Адна яна ўгаворыць. Бо яна ведае, што і ў гэтым выглядзе Валетаў аперацыю зробіць не горш за любога цвярозага. Нікога ён не называе ў хірургіі мамкаю — яе адну. Як і яна адна магла яму сказаць, нібы мамка родная: «Мілок...»

Едучы, Валетаў хістаўся ва ўсе бакі, соўгаў то правым плячом у дзверцы, то левым у надзейнае плячо Кірылаўны. Ён не заўважыў, як выехалі з Радзімцаў, але раптам, расплюшчыўшы вочы, убачыў за акенцам гарбунчыка чорнае поле і хату, два светлыя акны, чалавека пад вокнамі. І ўжо амаль цвяроза скамандаваў:

— Стой! Стой, кажу!..

Яна ціcканула на тормаз, але гарбун не спыніўся. Успомніла, што ён на буксіры, пасігналіла, і тады за шклом загарэліся чырвоныя стоп-сігналы Федзевай «дапамогі».

— Ну што, мілок? Табе кепска?

Кірылаўна выйшла з машыны, абагнула яе, адчыніла дзверцы каля Валетава, пасобіла вылезці на дарогу.

— Што ў вас тут? — спытаў Федзя.

— Вазьмі ты яго, адвядзі за машыну. Можа...

Трымаючыся за Федзю, Валетаў загаварыў не пра тое, пра што падумала Кірылаўна:

— Дзе Лаўрэн?..

А ўжо і Хросны тут як тут:

— Гэта ты, Палыч, толькі з аб'езду вяртаешся? Ну, загуляўся! А я ж цябе чакаю з грузавіком.

— Нас-сыпаў? — пачаў заікацца Валетаў.

— А не забыў, глядзі ты! — здзівіўся Хросны.— І я не забыў. Як жа? Абяцаў, дык насыпаў.

— Н-нясі!..

— Куды ж ты пакладзеш тую бульбу? — Хросны падняў незачыненае века багажніка, з-пад якога тырчэў рог паўнюткага меха.— Камбікорм вязеш? Хто табе, Палыч, удружыў? Ці не Будавей?

— Н-нясі бульбу.

— Ды куды ж ты яе? На галаву?

— Вунь маш-шына.— Валетаў глядзеў у бок Федзевай «дапамогі».

Браць бульбу ў сваю чысцюлю Федзя не хацеў, баючыся натрэсці зямлі на дывановую дарожку, але ў размову ўстрэла Кірылаўна, ведаючы ўпартасць п'янага Валетава і падатлівасць цвярозага Федзі, і ўжо сам Федзя прывалок два цяжкія, насыпаныя бульбай мяхі, падняў у машыну. Зачыніў дзверцы:

— Паехалі.

Але Валетаў не спяшаўся садзіцца:

— Гэта ўсё?.. Не абд-дурыў мяне?..

Вясёлы настрой у лесніка знік. Ён не чакаў, што п'янаму Валетаву два мяхі будзе мала, быў вымушаны прызнацца, што насыпаў і трэці, але не завязаў.

— Ну т-ты і саб-бака!..

Трэці мех прывалок сам Хросны. Ад'язджаючы, Валетаў усё высоўваў у прачыненыя дзверцы нос і крычаў на развітанне:

— Я т-табе сп-плачу! З-за кожную бульбіну!..

А ляснік стаяў і не ведаў, што ў гэты час думаў Валетаў, што значыла ягонае абяцанне, чаго ў ім больш — удзячнасці ці пагрозы?

— Цяпер і я, Паўлавіч, пазычу ў вас бульбы,— казала Кірылаўна, улева-ўправа тузаючы руль.

— А я т-табе, мамка, дам цэлы мех.

— Ну, дзякуй.

— І Федзю мех. Т-табе, сабе і Федзю.

Сваё шчодрае абяцанне Валетаў паўтараў шмат разоў, пакуль не заціх, а як заціх, дык і захроп. І зноў занепакоілася Кірылаўна:

— Ты, мілок, яшчэ не выспаўся?

Яна ведала, што калі Валетаў моцна засне, то ёй зноў трэба будзе доўга яго раскатурхваць, рабіць з ім усё тое, што яна ўжо з ім рабіла: церці вушы, пляскаць па шчоках, соваць у рот таблеткі. І таму, пакуль машына ехала, ёй трэба было гаварыць з ім, не спыняючыся, каб ён яе чуў, каб хоць калівам мозгу думаў пра тое, што яна яму казала, не адключаўся.

— Эх, мілок, як ты мне ўеўся сваімі п'янкамі. І калі ўжо я ад цябе пазбаўлюся, калі пакіну вашу гэтую багадзель? Дацягну да канца года і пайду на пенсію. Во тады вы паскачаце без Кірылаўны. І ты, мілок, паскачаш.

Валетаў перастаў храпці, сядзеў ціха, чуючы, што казала Кірылаўна, і Кірылаўна ведала, што ён сапраўды баіцца, каб яна не пайшла на пенсію, бо іншай гэтакай мамкі, якая б з ім цацкалася, у яго не будзе. Якая-небудзь хірургічная сястра, вядома, знойдзецца, але, напэўна, маладая пстрычка, на аперацыі будзе стаяць, нібы тая цаца на выстаўцы, не ведаючы, што ёй рабіць пад рукой у хірурга, і ўжо валаводзіцца з ім, п'яным, хоць і хірургам, не стане. «Ну-ну,— думала сама сабе,— паслухай, што я табе кажу, якая маліна чакае цябе». І ўжо не замаўкала, вылівала ўсё, што накіпела ў душы, што не скажаш цвярозаму, а сказаць даўно ахвота:

— Колькі вас перабыло? Як добры хірург, дык і п'яніца. Былі, што не пілі. Але як не п'е — дуб дубам, рукі — у сраццы. Быў Беленькі. Вайну хірургам прайшоў. Тысячы людзей да жыцця вярнуў. Пад агнём рабіў аперацыі! А тут, дзе не грымела і не гарэла, спіўся. Хавалі не старога, у самыя гады мужчыну. Ты, мілок, яшчэ школьны мячык ганяў. А я сама, як хавалі, клала яму ў дамавіну пляшачку медыцынскага спірту. Гэтак мне, маладой, загадаў галоўны ўрач бальніцы. Сказаў, што трэба выканаць апошнюю волю нябожчыка. І я выканала. А як памёр Сухін? Таксама не век — пяцьдзе-

сят два гадкі. Галоўным хірургам вобласці паставілі — трыццаці не было. Са сталіц прыязджалі глядзець на яго аперацыі. Сам апарацікі прыдумваў, каб аперыраваць сэрца. У Мінск забіралі галоўным хірургам усёй рэспублікі. Вунь куды б выскачыў! А не забралі — чаму? Піў бязбожна. І як не ўзялі — запіў яшчэ мацней, па-чорнаму. Ты ж гэта ведаеш, мілок. Тады яго і з Магілёва турнулі, вярнуўся ў свой раён. Якраз і ты пачынаў, вучыўся ў яго. Я і яму, і табе прыслужвалася. Мне, помню, кажа: з Валетава я зраблю першую зорку хірургіі. А што? Не ён цябе зрабіў хірургам? Не Лявон Макаравіч? Ну, што ты маўчыш, мілок? Тваё шчасце, што быў побач з табою Сухін. І тваё няшчасце, што рана спіўся. Я ж помню, як да нас прыязджаў маскоўскі хірург, прафесар, як яны ўдвух ратавалі мужчыну з глыбокай чарапной траўмаю. Паміж іх стаяла. Пасля аперацыі прыйшлі ў ардынатарскую. Сухін па горле — шчоўк: намёк тонкі, і за шырмачку. Я яму — шклянку спірту. У мяне для яго заўсёды стаяла бутэлька. Ён — хлабысь, вадою запіў, выйшаў да прафесара, бярэ яго за руку і кажа: цябе да чалавека з гэтакім капытам падпускаць нельга, у цябе чалавек ледзь не памёр. А той глядзіць у вочы Сухіну, бачыць, што п'яны, і маўчыць — разгубіўся. А Лявон Макаравіч зноў за шырмачку: налі, мамка, яшчэ! А я: не, хопіць! Каб не чужы чалавек, наліла б, нікуды не дзелася, сам бы ў мяне пляшку забраў і наліў, а пры чужым — дзвярыма хлопнуў і пайшоў. І больш мы яго не бачылі жывога. Ні я, ні ты. Ты, мілок, тады быў у адпачынку, некуды ездзіў. А я... Можа, трэба было б тую пляшку яму аддаць? Усё думаю: вінаватая ці не вінаватая? Гэтакі быў, што, як яму закарціць выпіць, не спыніш. Няма — выкапае з-пад зямлі. Праз два дні ў парку знайшлі мёртвага. А хірург быў ад Бога. Ды і ты, мілок, мала ў чым ад яго адстаў. І што з вамі, мужыкамі, робіцца? Чуеш мяне, мілок?.. Ці чуеш?..

Валетаў зваліў галаву сабе на плячо і маўчаў. Кірылаўна зноў пачала сігналіць, не ведаючы каму: Валетаву ці Федзю? Валетаў яе сігналаў не чуў, але Федзя «дапамогу» спыніў. Падышоў:

— Ну што, Кірылаўна? Стамілася руль круціць? Ужо, бачыш, Сож блішчыць. Пераедзем — і дома.

— Пачакай ты са сваім домам. Мне... кроў з носа, а Паўлавіч павінен быць у форме. Дарога яго загайдала. Ты мяне чуеш, мілок?.. Ды падымі ты сваю сівую галоўку?..

Валетаў храпнуў, узняў галаву, і раптам яго ўсё роўна як не свая сіла кінула ўбок, у дзверцы.

— Федзя!.. Пасоб!.. Дзе ты?!.

Той ужо быў ля дзверцаў. Ледзь адчыніў, як Валетаў сунуўся яму галавой у жывот. Схапіў пад рукі, вывалак, а ён павіс на ім, малым, і свістануў цераз плячо рвоцікамі.

— Ты што, Паўлавіч?

— Трымай, цэлы будзеш.— Кірылаўна падхапіла Валетава пад руку.— Вядзі сюды, Федзя. На чыстую траўку. Ну!..

Валетава паклалі на зямлю. Прынеслі бутэльку з вадою, пачалі абмываць твар, кашулю. Ён сеў, трос галавою і форскаў, нібы конь.

Федзя стаяў над ім. Кірылаўна сядзела побач.

— Дзе мы? — Валетаў аглядаўся, нічога не пазнаючы ў цемені.

— Вунь Сож, мілок. Дубы над Сажом. Выпі вады. Яшчэ глыток. Пасядзім і паедзем.

— Я каліва паляжу.

— Зямля халодная. Гэта ж не лета?

— Лісце сухое.

Кірылаўна ціха абрадавалася, што гаварыў ён ужо амаль зусім цвяроза, нават дубовае лісцейка на зямлі заўважыў, сапраўды сухое. Скінула з сябе куртку, падсунула яму пад плечы.

Валетаў ляжаў тварам да зорнага начнога неба і надзіва ясна адчуваў, можа, усё, што рабілася пад ім і над ім. Пад ім была зямля, вялікая і жывая, над ім — неба, таксама вялікае, родненькае; ён ляжаў, сагрэты знізу і зверху, як паміж духмяным сенністым і ватовай коўдрачкаю. Хто сказаў, што ўжо нельга легчы на сваю зямельку? Шнэйдар сказаў? А хто такі Шнэйдар? Немец? Яму яна заплёваная? Ну, заплявалі. І ён, Валетаў, рыгнуў. А хто на яе не рыгаў? І ўсё роўна цёплая, родненькая. На неба таксама рыгалі. І неба цёплае. Там — Бог. Колькі зорачак — дзетак Богавых!

— Мамка?..

— Ну што, мілок?

Ды нічога, нічога. Ён ні ад каго нічога не хоча. Яму ад зямлі цёпла — нічога больш і не трэба. Праверыў, хто тут жывы. Ці ёсць хто? Ёсць.

Грэла ў карак. Руку за плячо закінуў — адкуль цяпло?

— Ну, мілок, табе ўжо і бабу трэба? Мацаеш...

Кірылаўна весела засмяялася. Ён хмыкнуў: тоўсцень-

кае мамчына калена пад галавою? Цёплае, нібы печка.

Зямля плыла і пагойдвалася. Хто сказаў, што яна нерухомая? Сам калісьці не верыў, што плавае, кружыць вакол свяціла. Не верыў, бо не адчуваў і не бачыў, што гэта так. А цяпер чуе: плыве і пагойдваецца разам з мамчыным цёплым каленам пад галавою. Раней не адчуваў таму, што гарэлкі не піў. А трэба піць — тады ўсё адчуеш і зразумееш. Міцька не збрахаў: каб не піў, даўно б здох. Кожны Цэзар гэтак скажа.

Валетаў зноў расплюшчыў вочы: убачыў і цемень, і святло ночы. Цемень усюды, але і святло ад зорак. Цямней, як дзе, на зямлі, навокал, хоць і зямля збоку, нават блізка, белым агнём палала, быццам у тым агні гарэла вёсачка. А над агнём, ад вёсачкі, у неба ішоў белы, як той агонь, шлях. І куды вёў? Каго вёў? Людзей — з зямлі да Бога? Цэзараў? А можа, калі пайсці і пайсці Белым шляхам, прыйдзеш да мамы?

Застагнаў, замармытаў. Кірылаўна адгукнулася:

— Ну што, мілок? Табе што трэба?..

Гэта — мамка. А мама — там, высока, дзе Белы шлях. Яны абедзве добрыя. І мама, і мамка.

Белы шлях плыў вышэй і вышэй — над самай галавою Валетава перасякаўся з яшчэ адным шляхам, кароткім. Белыя анучкі наплывалі на шлях, чапляліся за яго, адпачывалі на ім і пакідалі, нібы іх змятаў вецер. А ці не Аброк там? Той, што ставілі з Будавеем? З белага дубу. Валетаву здалося, што Белы шлях — крыж, і не ляжаў ён, а стаяў над зямлёю. І стаяў, і плыў са сваёй белаю крыжавінаю. Белыя ручнікі на крыжавіне віселі, на ветры матляліся. Хто іх павесіў? Хто паспеў ужо абрачыся зямлі і небу? Вакол белага крыжа сяйво зорак, Богавых дзетак,— яны абракліся на белым крыжы ручнікамі? Ці бачыш, Міцька, дзе наш крыж? Глянь!..

— Ты каго клічаш, мілок?..

Хтосьці штосьці сказаў? Валетаў прыслухаўся. Ціша ў небе і пад небам. Куды пайшоў Міцька?

Зноў усе думкі былі пра Аброк. Як жа так? Паставілі на сваім полі, а ён узнёсся на неба. Адмовіўся вартаваць Радзімцы? Паказаў шлях ратунку — Белы, у неба? На небе ратунак? Можа, усе з Маліны, Чудзікаў, Халмянкі туды перасяліліся? А Шастапалаў, сусед Косцікаў, чаму назад у Радзімцы вярнуўся? Дарогі не знайшоў? Блукаў-блукаў і не знайшоў Белы шлях да Аброка? Ці тады, як блукаў, яшчэ не было Белага шляху? Аброк учора паставілі? Цяпер

знойдзе. Добра, Міцька, што Аброк паставілі, людзям шлях паказалі.

— Ну, мілок, паедзем?..

Мамка? Паедзем. Але не трэба кружыць, як Шастапалаў. Трэба ехаць на поле радзімецкае, пад Салаўкі — Белы шлях там пачынаецца. Там, дзе белы крыж, мама, дзядзька Ерафей з Кацярынаю, Сцёпачка. Там Таня-Лісачка. Там усе.

Валетаву здалося, што зямля пад ім паплыла хутчэй. Ён хапаўся за яе рукамі і не мог абаперціся.

— Ты хочаш устаць?.. Федзя! Пасоб мне яго падняць. Паедзем. Нас людзі чакаюць...

Валетаў стаяў на нагах, але зямля пад нагамі плылапагойдвалася, і ён абхапіў мамку аберуч, цяжка павіс на ёй, дзябёлай і цёплай.

— Ну во, мілок, то зямлю абдымаў, то мяне абдымаеш. Прытуліўся, як да жонкі.

— А ты цёплая, мамка...

Развесяліў Кірылаўну:

— Чуеш, Федзя? Я яму цёпленькая.

— Дай вазьму.

— Пачакай. Нешта ён хоча...

Падбародак Валетава ляжаў на плячы ў Кірылаўны, і ў яе за спіною Валетаў бачыў яркую поўню над чорнай начной зямлёю. Поўня была яшчэ нізкая, толькі падымалася, але ўжо свяціла белым агнём, смяялася вочкамі, носікам, роцікам. Дачушка? Валетаў хацеў нешта крыкнуць, але зямля загайдалася мацней, паплыла разам з Кірылаўнай, і ён у яе ў руках паплыў. І тварык у небе паплыў. Паплыў і знік. А галасок застаўся — ціхенькі: «Тата едзе ў аб'езд — дзеткам будзе што паесць...»

— Стой, Федзя. Нешта мокрае.

— Ён плача, Кірылаўна.

Зямля спынілася. Цёплая мамчына далонь легла на вочы Валетаву, шарганула па шчоках і падбародку.

— Не плач, мілок...

Ясны дзяціны тварык зноў з'явіўся на небе. Ён смяяўся. Зіна — дачушка? Смяялася з бацькі?..

Поўня падымалася ўсё вышэй — краем Белага шляху.

# КРЫЖ НА ЗЯМЛІ І ПОЎНЯ Ў НЕБЕ

## МЕСА ГРЫГА

*Зося была маім першым каханнем*

*Яна была незямной прыгажосці. Я адчуваў у ёй далёкі загадкавы свет*

*На яе партрэце, які я пачаў*

Незямная прыгажосць патрабавала незямных колераў. Але дзе фарбы, якія далі б святло і колеры далёкага загадкавага свету? У куфэрку і на палітры ляжалі звычайныя, зямныя.

*Побыт яе патрыярхальнай сям'і скоўваў нашы памкненні застацца на адзіноце, і толькі ў нядзельныя дні, прыехаўшы ў касцёл да імшы, сярод старых трупехлых магіл нам удавалася пабыць без бабулек і цётак*

Буяла вясна. Па вечарах, як пачынала сутонець, цяжкія хрушчы, прашываючы сваімі бурклівымі палётамі тэрасу, галоўкамі біліся аб шкло акон і сцены дома, а крыху далей, над агромністым возерам Няшчэрда, уздоўж зарослых трыснягом берагоў, у бок чырвонай, як цёмны крап-лак, зары, ад краёў аздобленай залацістае охрай, неслася пагоня слонак, пагоня зусім не лютая — на крылах таго самага вясновага кахання і вечаровай песні, якія ўсё не даваліся на кончык пэндзля.

*Бачу Зосю ў светлай, з карункамі, сукенцы, якая вельмі пасавала да яе зграбнай паставы*

*Яна была сімвалам мая*

*Яна была тым духмяным майскім ветрыкам, пад якім ажываюць кветкі*

Ён днямі шукаў на палатне патрэбны тон, ловячы сваё натхненне на ўзыходзе сонца, калі першая хваля святла пачынала саграваць лясныя ваколіцы, лугавую раскошу траў, абуджаючы ад начной спячкі кожную кветку, званочкі і парасончыкі, зрывала з азёрнага люстра белую коўдру, падсіненую ультрамарынавым золакам, разводзіла па бяскрайнім люстры бірузовую паводку, на якой пачынаў раз-

гараца дзень. Але ранішняе абуджэнне зямлі і вады не нараджала душы азарэння. Ён шукаў яго пазней, калі выспяваў, наліваўся на сонцы дзень, святло якога здавалася спакайнейшым за святло раніцы, без той кволасці, нервовасці, няпэўнасці — спакойнае ў велічы дня. Але і дзень мінаў, праляталі дні за днямі, блізіўся час ад'езду з Краснаполля, райскага куточка на Віцебшчыне, дзе жылі бацькі, а фарбы на палатне не загараліся полымем, якое паліла сэрца. Шукаць незямное святло было пакутай, як і кахаць. Салодкай і разам з тым невыноснай.

І вось аднойчы...

*Я злавіў гукі аргана*

Была ноч, і ўсё пачалося ў сне, калі ўбачыў рыжую галаву ксяндза Каятана. Вочы яго былі зашторань цяжкімі векамі, быццам ён спаў, але прыгожы круглы твар то азараўся жаўтлява-ружовым святлом, то шэрх, тануў у змроку. Гэта адбывалася пад музыку, падобную на раскаты грому, на гнеў нетраў, які з зямнога палону рваўся да неба, у нябёсы, а тут, на зямлі, разліваў незямное святло, што змывала твар святара, на месцы якога адразу ўзнікалі рукі, вялізныя хударлявыя рукі — яны нервова і моцна білі па белых і чорных клавішах. Дык няўжо то рукі ксяндза? Можа, рукі арганіста Зэліка? Звычайна ў касцёле іграў Зэлік, ён жа флейціст у аркестры на гулянках і бадзяга, але гэтакія рукі былі адно ў ксяндза — вялізныя, моцныя, нервова-чуйныя да кожнага гуку тут, на зямлі, і там, у небе,— які таксама неаднойчы садзіўся за арган. Вось яны ўзляцелі высока, на імгненне застылі ў паветры, але адтуль, з вышыні, рынуліся ўніз, у паводку загадкава-фасфарычнага святла, і паводка шуганула ўгару, у вышыню нябёсаў, а ў нябёсах расплылася па ўсім высокім абшары. Ужо і сябе адчуў на вышыні, на той паводцы, якая выпраменьвала фасфарычнае святло, адчуў, што некуды ляціць, лёгка і свабодна, як можа ляцець дух, ляцеў увесь, з усім сваім целам і духам, і там, на вышыні, пазнаў музыку. То была знаёмая меса, якая часта гучала ў касцёле над возерам, ад якой заўсёды замірала сэрца, а ў маці, што ў час службы стаяла побач, на твары пачыналі блішчаць слёзы.

*Я пачуў месу Грыга*

Расплюшчыў вочы і толькі тады зразумеў, што ляжыць на ложку ў пакойчыку бацькоўскага дома на беразе Ня-

шчэрды. Пахла язмінам і воскам яшчэ цёплых свечак у кубачках прыгожага меднага кандэлябра на круглым століку, дзе ляжаў эцюднік. На кандэлябры ззяла тое самае загадкава-фасфарычнае святло. Усхапіўся, стаў на мяккую коўдру, якая спаўзла ўначы — бо ўсе апошнія ночы спаў неспакойна, і коўдра ляжала на падлозе кожную раніцу. Акно было прачыненае і гэта з саду ў пакой плылі вострaы водар язміну і святло ночы. Падышоў да акна, расхінуў шырэй і ў начной піжаме скочыў у сад. Сад залівала тое самае святло, што ляжала на кандэлябры ў спальні, што бачыў у сне, якое змывала твар і рукі ксяндза і нараджала музыку аргана. Але тут яно лілося на зямлю з неба, праз створ яловай алеі, між кронаў старых высозных яблынь. Калі гэта святло месяца, то дзе месяц? Фасфарысцыравала само неба, ахопленае загадкавым белым агнём. Чулася музыка — меса Грыга.

Ён кінуўся ад дома ў бок алеі, над якой бліпічала неба і чулася музыка. Здалося, што музыка гучыць у касцёле. Яна, аказваецца, была адной стыхіяй з гэтым дзіўным святлом, якога ніколі не бачыў раней. Можа, святло абудзіла касцёльны арган? Не рукі Каятана і не рукі Зэліка, а гэтае незямное святло — нябеснае ззянне?

Мінуўшы алею, выскачыўшы на зялёны газон, спыніўся. Так — гучаў арган, гучала любімая маміна меса. Але не як у касцёле. Тут арганам была сама прырода, небам касцёла — само неба, арганнымі трубамі — патокі незвычайнага, у незвычайным белым бляску, святла, якое лілося з неба.

Зноў убачыў перад сабою Зосю...

*Мне здалося, што на партрэце, які я пачаў, яна павінна з'явіцца на фоне начных нябёсаў, жамчужна-фасфарычных*

Кінуўся ў пакой — да палітры. Спяшаўся. Баяўся, каб не пагасла фасфарычная гама ночы, яе нечаканае ззянне, якое якраз і было жаданым святлом, каб не замоўкла меса. Калі здавалася, што неба гасне, святло, падоранае небам, чэзне, дагарае меса, ім абуджаная, таропка кідаў позірк на вялізны куст язміну, які стаяў за акном у квецені, упэўнены, што неба адразу не гасне на пялёстках язміну, што гэта той самы тон, што кветкі язміну злавілі яго і яны захаваюць белае фасфарычнае святло нават тады, калі неба зусім пагасне. Але ці надоўга?

Гэтае святло было не толькі фонам, але і дыханнем яе незямнога твару. Ён схапіў яго і быў упэўнены, што цяпер ужо не згубіць. І калі неба пачало заплываць змрочнай

сінізною, а сад ахутала начная шэрань, калі ўжо цяжка было даверыцца святлу язмінавага куста, ён адставіў эцюднік ад акна і запаліў свечкі на кандэлябры.

Не, трэба было дачакацца раніцы, каб у яе натуральных колерах зразумець, што знайшоў гэтай ноччу і чаго вартыя нечаканае святло ночы і яе музыка. І ўрэшце — яго каханне да Зосі Лапарэвіч, стрыечнай сястры.

Раніца яшчэ была далёка, і ён, седзячы ля акна, паклаўшы галаву на падаконнік, заснуў. Сніліся Друць пад Бялынічамі, у Крынках, першым на памяці бацькавым маёнтку, узгорак над рэчкаю, драўляны дом на ўзгорку, кусты шыпшыны пад вокнамі, лес за Друццю. Лес быў зусім блізкі, хоць рака пад гарою, на якой стаяў дом, жывапісна выгіналася, выраблЯла тры пятлі перад самым домам, адсунуўшы меднастволы сасновы бор за трэцюю галоўку. У гэтым доме ён нарадзіўся, каля яго ўбачыў першыя малюнкі прыроды, якая акружала з усіх бакоў, людское жыццё, якое тады, у маленстве, найбольш хвалюючым здавалася на рацэ, на плытах, што гналі пад вокнамі плытагоны. Загадка жыцця была ў рацэ: адкуль цякла і куды? Потым сніўся малюнак, калі яму было гадкоў пяць і сям'я жыла ў Арле, дзе бацька служыў на папяровай фабрыцы Шарамецьева, прадаўшы маёнтак у Крынках. Па ўсім горадзе ззялі ілюмінацыі, гірлянды, у скрынках і галёшах гарэў тлушч, на вуліцах і плошчах ігралі ваенныя духавыя аркестры — краіна святкавала перамогу над туркамі. Ён гуляў па горадзе разам з няняй і, узбуджаны незвычайным відовішчам, дадому ісці не хацеў. І вось пазней, калі ў доме сабралася ўся сям'я, яму сказалі, што за свавольства на вуліцы ён заўтра будзе сядзець дома. Страшэнна пакрыўджаны, ён заявіў, што паедзе на вайну. Яго не супакойвалі і не адгаворвалі — на вайну дык на вайну. Пачалі збіраць. Збіралі ўсе, у тым ліку дзядзька Іосіф, весялун і выдумляка, якога маці называла Іосіфам-прыўкрасным, і дзядзька Уладзіслаў, які добра ведаў, што такое вайна, бо ўдзельнічаў у польскім паўстанні, быў асуджаны на смяротную кару, пасля замененую катаргай у Сібір — ён шмат расказваў пра Манюшку, Касцюшку, Стэфана Баторыя і ўсім чытаў сваіх любімых паэтаў — Міцкевіча, Пушкіна, Ажэшку, Канапніцкую. Дзядзька Уладзіслаў загадаў прынесці дзіцячую стрэльбачку і шаблю. Ранец напакавалі піражкамі і цукеркамі. Яшчэ дзядзька Іосіф спахапіўся, што не ўзялі начны гаршчочак, без якога, як ён сказаў, на вайне не абысціся. Гаршчочак загарнулі ў прыгожую паперу. З'явіўся фурман. Ён з парога

спытаў, хто збіраецца на вайну, сказаў, што трэба спяшацца, бо ўжо ваенны цягнік дае гудкі адпраўлення. Праводзіць выйшлі ўсе. І вось ён, пяцігадовы Віталік, сядзіць у пралётцы. З ім усе развітваюцца, даюць апошнія парады, як весці сябе на вайне, і даводзяць праводзінамі да таго, што ён пачынае горка плакаць. Маці бярэ на рукі, цалуе ў мокры гарачы тварык, суцяшае словамі, поўнымі любові і пяшчоты, хвалюецца, схаваць сваё хваляванне не можа і яшчэ мацней плача сама.

Прачнуўшыся, адарваўшы галаву ад падаконніка, убачыў, што ўжо добра світае. Нехта гамоніць у садзе. А свечкі гараць, да самых кандэлябраў аплыўшы за ноч. Ён хутчэй гасіць агарачкі свечак, падыходзіць да эцюдніка, і тут ахоплівае пачуццё не то сораму, не то жаху. З палатна глядзіць прывабны авал дзявочага твару, але гэта ж авал святой з іконы, у якім няма жыцця, хоць ёсць незразумелая чысціня і свячэнне загадкавай душы.

Зосіна душа?..

*Гукі старога аргана магутна плылі у лясныя далячыні возера Няшчэрда, будзілі ваколіцы*

*— Хутка імша скончыцца. Ты чуеш? Ужо спяваюць «Анёл панскі». Пойдзем? — шаптала Зося, трывожна пазіраючы на мяне. Мы ішлі, а гукі аргана разам з белымі воблакамі плылі ў высокім небе*

Зрабілася страшна. За яе і за сябе. Спачатку — за яе. У святле нябёсаў, можа, ззяла душа, але гасла жыццё, з чым ён не мог змірыцца.

І раптам...

*Блеклы колер прымусіў мяне паверыць трывожным чуткам, якія хадзілі пра яе здароўе*

*Я зноў пачуў гукі аргана — месу Грыга*

Вось яны — улада колераў і ўлада святла. У колерах і святле — таямніца жыцця, свету? Зразумеўшы іх, ці можна спасцігнуць душу чалавека, яго лёс і драму?

Здзівіла, што ўсё гэта не хвалявала раней. Ужо не першы год трымаў у руцэ палітру, яшчэ гімназістам прайшоўшы ў Кіеве выдатную школу мастака Мурашкі, год вучыўся ў Маскве ў славутым вучылішчы жывапісу на Мясніцкай, у класах Паленава, Касаткіна, Пранішнікава, Каровіна, Сцяпанава, але толькі тут, на радзіме, адчуў уладу свят-

ла і колераў над жыццём. Быў і здзіўлены, і акрылены.

Акрылены?.. Так! Але адно ў самыя першыя хвіліны адкрыцця. Наступным пачуццём, якое прыйшло вельмі хутка, была разгубленасць ад бездапаможнасці перад вобразам Зосі. Знайшоў, здаецца, галоўнае — колер, праз яго спасціг душу, хваробу каханай, але на палатне не было жыцця, нават бляску ў вачах пад доўгімі вейкамі, якім употай ад строгай цёткі Анэлі яна сустракала яго кожны раз, калі з'яўляўся ў маёнтку. Яе драма нараджала ягоную драму, і гэта ўжо была драма мастака. Партрэт Зосі схаваў. Ад каго? Перш за ўсё — ад сябе. А лета кацілася.

*Хлеб быў зжаты. Вецер распранаў дрэвы. Лес зрабіўся задумлівы, сумны. Галкі, шчоўкаючы, зляталіся ў вырai. На палетках капалі бульбу, палілі вогнішчы. Далячыні возера Няшчэрда зрабіліся сінія, халодныя. Па вадзе беглі белыя баранчыкі. Сэрца засумавала. Блізілася развітанне з Зосяй*

*Разлука з ёю трывожыла*

Але пазбегнуць яе было немагчыма.

*Грукаючы коламі, да ганка пад'ехала брычка. На ёй сядзеў Апанас у белай свіце, падпяразаны зялёным поясам. У роце — піпка. Ад яе — знаёмы пах густога дыму махоркі. На ганак выйшлі маці, сёстры, браты, бацька. Нянька Анета перахрысціла, маці заплакала, Апанас чмокнуў губамі, шмаргануў лейцамі — брычка пакаціла міма парку і млына па дарозе да станцыі, да дзвюх бліщчастых сталёвых стужак, якія злучалі мяне з Масквой*

Па дарозе на станцыю стаяў маёнтак Лапарэвічаў.

*Зося выйшла на ганак*

*Як цяпер, бачу мілую постаць на фоне дзікага зачырванелага вінаграду. Стаіць, абняўшы белую калону. На доўгіх вейках — слёзы*

Ці ўсё гінула, ці ўсё толькі пачыналася? То былі канцы чагосьці дарагога, ці чагосьці пачаткі?

Ён назаўсёды развітваўся са сваім першым каханнем. Гэта падказвалі злоўленыя пэндзлем фасфарычныя колеры, якія ядналі мілы вобраз з далёкім, загадкавым, але не з гэтым, зямным, светам. І яшчэ — яе слёзы.

Страта Зосі абвастралася адчуваннем, што яе партрэт не напіша ніколі. З'явілася адчуванне страты самога сябе.

Следам за журавамі па небе плылі шэрыя восеньскія хмары. Яны плакалі і смяяліся. Нібыта плылі не хмары, а фарбы, яму не падуладныя.

На неба было цяжка глядзець.

Ён быў яшчэ малады і не мог падумаць пра тое, што жыццё ў мастацтве для яго толькі пачынаецца, што яно не бывае і не будзе суцэльным святам і абавязкова павінна прынесці драму. Пэўна адчуваў адно тое, што, не напісаўшы партрэт Зосі, ніколі ніводнага мазка не пакладзе ў авал яшчэ чыйго-небудзь твару. Гэта быў таемны зарок, і ён ужо ведаў — зарок свой будзе аберагаць як памяць пра Зосю, як святы крыж на яе заўчаснай магіле.

## РОДНАЕ

*Я — беларус. Нарадзіўся ў маёнтку Крынкі каля Бялыніч, на Магілёўшчыне. Там прайшлі мае дзіцячыя гады. Бацька служыў арандатарам, пасля ў дняпроўскім параходстве. Выпраўляючыся ў рэйсы па Дняпры, Прыпяці, Сажы, часта браў мяне ў свае службовыя паездкі. Гэта было найвялікшым шчасцем і радасцю, бо якраз тады, у тых паездках, я адкрыў для сябе ні з чым не параўнаную прыроду маёй роднай Беларусі*

Вялікія рэкі бягуць з малых крыніц. Людзі, на страту сабе, пра гэта часта забываюць у захапленні то пачварнай гігантаманіяй, то бясплённым нігілізмам, то проста ад пустой ганарлівасці перад усім сваім.

Вітольд Каятанавіч крыніц не забываў. Пражытае, блізкіх людзей, родныя куточкі ўспамінаў часта, асабліва ў апошнія гады. Успаміны — у лістах, занатоўках на аркушах паперы і ў сшытках, нават у аўтабіяграфіях, напісаных скупой на слова, як патрабуе «жанр», моваю. Гэта ў яго арганічнае. Ад душы, ладу мыслення, выхаванасці.

*І Крынкі на беразе Друці, і ўсе іншыя сядзібы, дзе жыла сям'я пасля Крынак, прырода, якая іх акружала, моцна сядзяць у памяці. А куткоў гэтых шмат, бо сям'я наша часта пераязджала з месца на месца*

Усё, што з маленства бачыў і чуў, што ведаў і памятаў, пасталеўшы, уяўляў сабе не як нейкія кадры, вырваныя з жыццёвай панарамы, не як эпізоды ці старонкі, а ў сувязі з жыццём усіх людзей, якіх ведаў, у дачыненні да свету, які бачыў, асэнсоўваў у каардынатах сусвету, як звёны лагічных і гарманічных канструкцый, без каторых, нават самых нібыта нязначных, свет-сусвет нетрывалы. У гэтым роздуме жыў не толькі як мастак, але яшчэ як філосаф. Тут адно ў адным: філосаф у мастаку, мастак у філосафе, хоць мастак — жывапісец — заўсёды бярэ верх. Ад цямна да цямна працуючы на прыродзе, шукаючы лад і гармонію свету ў вобразах, фарбах, контурах, перспектыве, знаходзіў час, каб пачытваць Канта і Гегеля, Біблію і Леніна. З іх дапамогай шукаў найвышэйшы сэнс жыцця і навакольнага свету, усё да каліва, таксама і метад пошукаў, правяраючы і выяўляючы прыродай, яе розумам і прыгажосцю. А ў выніку? Мудрасць Бібліі давала карцінам свой таемны сэнс і дух, з чаго паўставала спаконвечная ісціна, якую можна было прымаць ці не прымаць, але нельга было не бачыць; пейзажы Волгі пад Ульянаўскам і Горак Ленінскіх выяўлялі вытокі новых, пад знакам рэвалюцыі, ідэй бунтоўнага чалавечага розуму. А яшчэ ўбачыў, што прырода — над усім і ўсімі геніямі і рэвалюцыямі, што найвышэйшай мудрасці вучыць яна, што геній чалавека і чалавецтва вызначаецца мераю разумення і адчування прыроды. На гэтай вышыні ўсе свае ісціны знаходзіў Леў Талстой. А вялікія перадзвіжнікі? Сурыкаў і Рэпін? З гэтай вышыні, урэшце, Кант вывеў формулу вечнага свету. А як з Леніным? Ці шмат прызнання найвышэйшай ісціны за прыродай у яго рэвалюцыйных пераўтварэннях? Пакажа час? А час, які прайшоў, што паказаў? Тут, безумоўна, былі складанасці, перад якімі Вітольд Каятанавіч з яго даверам да натуральнага мастацкага вобраза мог разгубіцца. Як і аднойчы над Волгаю ва Ульянаўску, калі для музея трэба было напісаць Вянец — высозны бераг горада. Які ён, Вянец, павінен быць на карціне — новы ці стары? Лагічна было б пісаць новы, які стаў за гады Савецкай улады. І ўсё ж напісаў стары Вянец. У старым была праўда стагоддзяў і прыроды, у новым — праўда гадоў і рэвалюцыйных змен. Стары Вянец уздымаўся да неба двума дзесяткамі залатаглавых сабораў, новы — руінамі тых сабораў.

*Маё жыццё з маленства пастаянна звязана з прыродай. У ёй і з ёй для мяне заўсёды быў сэнс жыцця. Я вырас у вёсцы, у прыродзе, у народзе*

І калі першай такой вёскай былі Крынкі, то другой — Быстрэя.

*Быстрэя — родавы маёнтак бацькоў маёй маці Чарноцкіх на высокім беразе Заходняй Дзвіны каля Бешанковіч. Памятаю Быстрэю вельмі прыгожай. Наш бераг быў круты, з пясчанымі плывунамі, зарасцямі ажын, маліны, шыпшыны, а процілеглы — адхонны. Дом стаяў вялізны, аднапаярховы, перад ім раслі векавыя ліпы. Супроць дома — сад, каменныя слупы брамы. На слупах заўсёды жылі буслы. Вакол дома — сажалкі, у якіх вадзілася шмат рыбы і ракаў*

*Як сёння, бачу пакой бабулі з нізкай столлю, з кандэлябрам на сцяне, у якім аплыўшыя, з нагарам, васковыя свечкі. Стары стол з карэльскай бярозы, застаўлены разеткамі з фіялетавага шкла для варэння. Попельніца завалена недакуркамі, нагарам з трубкі дзядзькі Уладзіслава, бабулінага любімчыка. У вокнах каляровага шкла маленькія форткі, за вокнамі — зблытаныя галіны старых ліп. Клавесін, на якім ігралі бабуля і ўсе тры дачкі, з падсвечнікамі з фіялетавага шкла і абгарэлымі свечкамі. У пакоі былі цудоўныя шторы са старога зялёнага штофу, вышываныя бісерам, і старыя кнігі.*

*Было шмат птушак, асабліва качак*

*Буслоў і ўдодаў тут ўсе любілі*

Пясчаныя плывуны, круча Дзвіны, зарасці ажын і шыпшыны, удоды і буслы, каляровыя шыбкі ў вокнах, старыя ліпы, бабулін клавесін, нібы акампанемент гоману ліп і звону каляровых шыбак, дзядзькава попельніца — ці гэта такі ўжо вялікі і неабходны свет? Як зразумець настальгічныя ўспаміны Вітольда Каятанавіча? Як мілыя сэрцу куточкі, рэчы, дэталі побыту, прыроды? Мілыя — яму, а ўвогуле — звычайныя? Ці як значныя з'явы і падзеі на галоўнай дарозе, што на яе, галоўную, якраз і выводзілі?

Дарэчы: калі наш герой убачыў свет Быстрэі?

*Мая бабуля Чарноцкая вельмі любіла маю маму, сваю малодшую дачку, і была шчаслівая, калі яна прыязджала са мною да яе ў маёнтак Быстрэя. Мне ў гэты час было прыблізна гадкоў пяць*

Па-над кручай Дзвіны вуліца вёскі нібы ў тунелі з высозных акацый, якія трывала берагуць памяць зруйнаванага часам і людзьмі маёнтка. За акацыямі па кручы берага за-

раснікі ажын, здзічэлы маліннік, шыпшына. Стары цагляны млын, ліпа высозная, магутная — з тых, якім ужо тады, сто гадоў назад, было за сотню, яблыня, ссівелая ад моху, вузлаватая, жылаватая, пабачыўшая, мабыць, яшчэ прыгон, адна з тых, што раслі перад домам у вялікім садзе.

Анастасія Пятроўна Цяцера, якая жыве на тым месцы, дзе стаяў маёнтак, гаворыць:

— Памятаю сад, дом. Чарноцкіх не памятаю. А Хрэймана, латыша, памятаю. Перад рэвалюцыяй ён жыў у пакоях. А мая мама была ў яго парабчанкаю. І я з мамай прыходзіла. Што наймацней запомнілася ад тых пакояў, дык гэта каляровыя шкельцы ў вокнах. Чырвоненькія, жоўценькія, сіненькія. Так хацелася праз іх глянуць на свет. Дужа прыгожы свет быў за імі. Пяць гадкоў мне было...

Вось што запомнілася ў пяць гадкоў: каляровыя шкельцы і свет за імі — прыгожы. За шкельцамі — свет. На ўсё жыццё.

Ці мала гэта — прыгожы свет?

Дзе бераг пакідаюць ажыны, маліннік, шыпшына, пясок стромы трымаюць купіны мурагу, і з-пад кожнай купіны, з-пад кожнай травіны ў раку бяжыць крынічка. Ручаінка ля ручаінкі, адна ля адной, адна адной перабягаюць сцежку, зліваюцца, шырэюць, празрыста-сонечныя, і ўжо ўнізе, пад берагам-кручаю, падземнай ракою мчаць у Дзвіну. Тут не трэба вялікай фантазіі, каб, крыху прыўзняўшы бераг, нахіліўшы яго, нібы конаўку, над ракою, убачыць вадаспад, падобны на Ніягару ў мініяцюры, хоць па даўжыні — уся Дзвіна, і куды да яго Ніягары! Вадаспад — з-пад зямлі: з якіх схаваў? Уражанне — на любы ўзрост. А на пяцігадовы? Зноў — цэлы свет? І яшчэ большыя, як з тымі шкельцамі, таямніцы.

Можа, меншае хваляванне — цётчын клавесін ці дзядзькаў пісьмовы стол? Але... хіба дзядзькаў стол — гэта ўсяго толькі стол? Гэта ж сам дзядзька Уладзіслаў. Добры, блізкі, у арэоле пакутніка і героя.

*Дзядзька Уладзіслаў быў актыўны ўдзельнік польскага паўстання. Яго прыгаварылі да смяротнай кары, але замянілі яе сібірскай катаргай, і пра гэта ніхто ў сям'і не ведаў. Якой нечаканай радасцю было яго вяртанне! Хіба можна забыць маршчыністы твар і блакітныя вочы дзядзькі Уладзіслава, калі ён з захапленнем успамінаў часы Манюшкі, Касцюшкі, Стэфана Баторыя, ці калі на памяць чытаў любімага Пушкіна, чытаў і плакаў:*

*Дар напрасный, дар случайный,*
*Жизнь, зачем ты мне дана?*
*Иль зачем судьбою тайной*
*Ты на казнь осуждена?*

Змучаны доўгай сібірскай катаргай і песнямі Пушкіна, дзядзька Уладзіслаў адварочваўся да акна, каб ніхто не бачыў яго слёз, але пяцігадовы хлопчык бачыў, і ці не тады, ці не ў тыя хвіліны жыцця ў Быстрэі пачаў разумець, што мужнасць і слёзы могуць жыць у адным чалавеку, што яны не варагуюць, што мужны чалавек, як дзядзька Уладзіслаў, можа таксама плакаць, і ганьбы ў гэтым няма. І што паэзія ў адным радку з мужнасцю. І што паэзія можа навучыць мужнасці.

Значна пазней Вітольд Каятанавіч напіша дачцэ Любашы ліст, пазначаны 27 чэрвеня 1936 года,— з Пушкінскіх Гор:

*Тут усё — паэзія. Божа мой! Я ў салодкім палоне пушкінскай восені. Я адчуваю, што ў гэтым палоне жыў заўсёды*

І ці не абудзіліся там, у Пушкінскіх Гарах, ужо ў ім, Вітольдзе Каятанавічу, хваляванні дзядзькі Уладзіслава? Ці не тымі хваляваннямі, з якімі дзядзька Уладзіслаў у Быстрэі адварочваўся да акна, хаваючы слёзы, памножанымі на свае асабістыя ўражанні ад сустрэчы з зямлёю Аляксандра Сяргеевіча, ён тады, у трыццаць шостым, напіша зажураную, у светлым зімовым вэлюме хатку няні Арыны Радзіёнаўны з дубочкам пад вокнамі на варце, знойдзе лёгкую, як дыханне золатагаловага дзіцяці, яснасць сонечнага паветра для «Бярозы ля ракі Сораць у Трыгорску»? І ці не мужнымі слязьмі дзядзькі Уладзіслава будзе пісаць вечную журбу Расіі — магілу Пушкіна пад жалобна-чорнымі, голымі, без лістоты, нямогла пахіленымі ствaламі дрэў і холадна ссінелымі макаўкамі Святагорскага манастыра? Усё гэта мы пасля ўбачым і зразумеем, што яно прыйшло на палатно не адразу, не ў тую пушкінскую восень Вітольда Каятанавіча, а здалёк, ад томіка ў Быстрэі, ад хваляванняў дзядзькі Уладзіслава.

Вось што такое дзядзькаў стол, на якім, дарэчы, побач з томікамі Пушкіна, Міцкевіча, Ажэшкі і Канапніцкай ляжалі старыя шомпальныя пісталеты часоў нашэсця французаў.

А бабулін клавесін?

Бабуля і яе дочкі — старэйшая Стэфанія, прыгажуня Элеанора і малодшая, маці Вітольда Каятанавіча, Антаніна Раманаўна — гралі на клавесіне любімых Шапэна, Грыга, Чайкоўскага, і ўсе іх кампазітары стануць яго любімымі. Пад месу Грыга ён знойдзе і згубіць Зосю Лапарэвіч, а разам з ёю, сваім першым каханнем, знойдзе срабрыстую, жамчужна-перламутравую гаму колераў, якая зробіць яго лепшыя палотны непаўторнымі ва ўсім нацыянальным жывапісе, прынясе аўтару славу мастака надзвычай тонкага настрою, майстра паветра і некранутай цішыні. Шапэн на ўсё жыццё паселіцца ў ягоных пакоях і майстэрнях, а Чайкоўскі...

О, гэта — старонка асаблівая!..

Свет Быстрэі Вітольд Каятанавіч будзе адчуваць заўсёды, як і аднойчы, ужо акадэмікам, даючы наказ маладым жывапісцам:

*Любіце і ведайце музыку*
*Любіце і ведайце родную паэзію*
*Любіце прыроду, працуйце на прыродзе, вывучайце яе ва ўсе поры года, кожны дзень і кожную хвіліну*

Гэту навуку сам ён зразумеў рана. Адкуль? Ды ўсё адтуль: з маленства, з маладосці, з акружэння бацькоў, радні, на сваёй зямлі, асабліва калі, скончыўшы вучылішча жывапісу, вярнуўся з Масквы і на колькі гадоў звязаў жыццё з лясамі, балотамі, азёрамі, рэкамі Прыдняпроўя, Палесся, Віцебшчыны. Школа мастакоў-перадзвіжнікаў, вялікіх рэалістаў, умацавала ў ім разуменне пейзажу як таямніцы жывой натуры, якую трэба шукаць і вывучаць не толькі розумам, сэрцам, але і нагамі, у доўгай дарозе. Гэта навука шчасліва паразумелася з душэўнай прагнасцю да жыцця ў прыродзе. Адразу, з'явіўшыся ў бацькоўскім доме ўжо не як госць, не на студэнцкія вакацыі, а жыць, жыць аднымі буднямі з сям'ёй, ён не заседжваецца ў доме нават перад мальбертам, знікае надоўга, вандруючы па лясах, балотах, лугах. Сталічная вопратка — у шафах, на плячах — лясная паляўнічая куртка, на галаве — старая шапка, на нагах — высокія для бадзянняў па лясах ды балотах боты. Стрэльба — на адным плячы, на другім — эцюднік і куфэрак з фарбамі.

*Блукаючы са стрэльбай і фарбамі па палетках, далінах і пералесках Беларусі, сустракаючы і праводзячы зоры ля*

*вогнішчаў, начуючы ў лесе, прыслухоўваючыся да галасоў прыроды, я глыбей адчуў яе прыгажосць, навучыўся яе разумець.*

*Бывала, позні́м вечарам, у восеньскую непагадзь ці зімовую сцюжу, пасля доўгіх блуканняў па Палессі, страшэнна стомлены, ушчэнт прамоклы, вяртаешся з палявання. І — божа мой! — з якой радасцю ўбачыш свой дом, агеньчык ў акне, а потым — заплаканыя вочы маці: «Я так чакала цябе! Што толькі не перадумала! Можа, ты трапіў у дрыгву, з якой не выбрацца? Хіба мала паляўнічых загінула ў нас на Палессі?» Яе рукі цягнуцца да майго ягдташа, у якім заўсёды верны спадарожнік — альбом з накідамі алоўкам пейзажаў Палесся.*

*Шчаслівы, хто памятае пяшчоту і любоў маці*

Жывапіс і паляванне. Адно і другое — жыццё ў прыродзе. Яно поўнасцю адпавядае жаданням, думкам, мэтам. Два самыя моцныя захапленні шчасліва яднаюцца ў адну жыццёвую сцяжыну. Знайсці яе, вядома, дапамагла абстаноўка ў сям'і з кнігамі, клавесінамі, мамінай і цётчынай музыкай, сабакамі, птушкамі, стрэльбамі, з дзядзькам Уладзіславам, паляўнічым і паэтам у душы.

*Выйдзеш на золаку — чуеш берасцяны ражок: «Аксюта-а! Ідзі сюды, я тута-а!..» Рэхам пакоціцца па далінах — рэхам адгукнецца ў лесе*

*А то, бывала, пачуеш трубны паляўнічы рог Гаўрылы са Стараселля — збірае гончых сабак*

Стараселле там, дзе Краснаполле і возера Няшчэрда. Ад Краснаполля, дзе нейкі час жылі бацькі Вітольда Каятанавіча — дзве вярсты. На беразе Дрысы, невялічкай утульнай рачулкі, стаяў дом, далей па Дрысе, у суседнім Стараселлі, над самай вадою, стаяла хата Гаўрылы. Вёскі ўжо няма. Усе тыя старасельцы — на могілках. Там і паляўнічы. Ад вёскі застаўся высокі бераг, з якога трубіў у рог Гаўрыла, збіраючы ганчакоў.

На беразе — вялізны куст белага бэзу. Бэз не пакідае свайго, пад вокнамі былой хаты, гародчыка, даўно разгароджанага, белы вецер змятае з яго пялёсткі ў рэчку, гоніць іх у Няшчэрду. Гэта возера — адно з самых паэтычных успамінаў Вітольда Каятанавіча.

*Мама і ўся наша сям'я жылі ў Краснаполлі шумна. Шмат прыязджала гасцей, суседзяў з павета. Заўсёды бывалі Лапарэвічы. Ксёндз Каятан, забыўшы на свой сан, першым пускаўся ў мазур. Імкліва, з вялікай экспрэсіяй, насіўся ён па рыплівай падлозе, ліхасцю не ўступаючы гусарам. Яго чорная раса, адлятаючы, блішчала бэзавай шаўковай падбіўкаю. Ад яго пахла ружовай памадай і духамі «Пачулі». Гэта палохала цётку Анэлю Лапарэвіч, і яна, скрывіўшы губы, знікала ў суседнім пакоі. Цётка баялася кепскага ўплыву нашага дома, хоць у нас была нават хатняя капліца, дзе духоўнікі служылі імшу, маленькі алтар і неабходныя рэчы — плоскі камень, кубак і іншае, а бацька фанатычна верыў у Бога, і ўсе мы, члены сям'і, трымаліся ў вялікай строгасці.*

*Жывучы з бацькамі ў Краснаполлі, я шмат часу праводзіў на берагах возера Няшчэрда, у бліжэйшых ад яго лясах, шмат паляваў і пісаў.*

Была зіма, нешта пасля каляд. Моцныя завеі накрылі ў лесе ўсё, што можна было накрыць. Вялізныя гузы снегу ляжалі і віселі на кожнай галінцы. Вітольд Каятанавіч ехаў са старасельскім Гаўрылам на кані да незнаёмага мужыка, які нібыта, як сказаў егер, ведаў бярлогу.

Час надышоў вячэрні, шэры, і яны збіліся з ляжнёўкі. Пятляючы лясной глухаманню, заехалі ў дзялянку, дзе з восені быў лесапавал, і так зашыліся, што ні ўзад ні ўперад. Кругом пні, кінуты вальшчыкамі вяршыннік, маладыя дрэвы, абыдзеныя піламі, пазгіналіся да зямлі пад цяжарам снегу і лёду, папрырасталі вяршынямі да белай зямлі. Калі пачалі разварочвацца назад, конь шарахнуўся ўбок, закалаціўся, захроп — павалок сані праз пні-калоды.

— Стой, Віталік,— сказаў Гаўрыла.— Тут ці не бярлога і ёсць.

Ён выпусціў двух ганчакоў, і тыя, не падаючы голасу, пайшлі на завал. Яшчэ крокаў сто ад'ехаўшы, прывязалі каня да дрэва, самі вярнуліся.

Сабакі брахалі як на мядзведзя ці чалавека, пацвярджаючы спаконвечныя размовы, што мядзведзь чалавеку радня. Накрыж ляжалі, заваленыя снегам, дрэвы, елкавываранень — гара каранёў, накрытая снегам. Усё выдавала бярлогу, але подступу не было і не было нават знаку на ўваход у бярлогу. Гаўрыла дастаў з-за дзягі сякеру, высек даўгую жэрдку, пачаў ёю асцярожна пароць пад вываранень, абіваць снег. Дзірку ў бярлогу знайшлі, але ніякі мядзведзь

не азываўся. Гаўрыла стрэліў у адтуліну — уваход у бярлогу. Ціха. Зноў з'явіліся ганчакі, пачалі аббрэхваць вывараценъ, але брахалі нібы на старую пустую лёжку. Вітольд Каятанавіч падышоў ушчыльную да адтуліны ў бярлогу, узяўся раскідаць уваход, упэўнены, што там нікога няма. І раптам у святле, якое ад сонца пранікла ў бярлогу, убачыў, як перад ім пачала вырастаць вялізная чорная капа — на дыбы падымалася мядзведзіца. У гэту хвіліну, знайшоўшы знізу адтуліну, у бярлогу прабраўся ганчак, учапіўся ў спіну звярыны. Яна рохнула і, нібы снарад з гарматы, выскачыла з бярлогі. Вітольд Каятанавіч стаяў ушчыльную да галля і стрэльбу, свой лёгенькі вінчэсцер, ускінуць не паспеў, не дало галлё, але паспеў адхіліцца ад увахода ў бярлогу — адкінула прэлым ветрам, густым мядзведжым духам. Калі ўскінуў стрэльбу, ужо не бачыў мядзведзіцу — перад ім, яму ў твар і на галаў, сыпалася воблака снегу з яліны. Гаўрыла стрэліў, але, як часта бывала з ім, у неба. Сабакі пагналі мядзведзіцу, ды спыніць ці завярнуць не маглі — брэх аддаляўся.

Лес цямнеў, блізка была ноч, і яны без сабак, але з гадавалым мядзведзікам вярнуліся ў вёску. Як аказалася, мядзведзік у бярлозе і быў прычынаю, чаму глуха сядзела мядзведзіца, што ні ганчакі, ні стрэл Гаўрылы ў бярлогу, ні шумгам не маглі яе падняць.

Толькі раніцай вярнуліся сабакі. Гаўрыла сцвярджаў, што сваім стрэлам параніў звярыну, і яны зноў выехалі да бярлогі. След мядзведзіцы быў скрозь чысты, паказваў, што важыла яна пудоў дзесяць, не меней.

*У маўклівых сузіраннях таго вечара і той сустрэчы з мядзведзіцай я кожны раз чую зімовую цішыню і тахканне сэрца. Я не маю сілы забыць, не маю сілы ды і ахвоты спалохаць думы, пачуцці і прадчуванні, якія мяне перапаўнялі ў тое імгненне*

## ГАЎРЫЛАЎ, ПЕТРАКОЎ, АПАНАСАЎ Я ЛЮБІЎ

*Па вечарах, калі ў нашым доме былі госці, мы з братам, зачыніўшыся ў сваім пакойчыку, самотна глядзелі ў акно. Каціўся май, неба ружавела, была самая цяга слонак*

*Гэтакімі вечарамі мне рабілася сумна без Гаўрылы са Стараселля, я з хваляваннем чакаў*

— А чаму ты, Гаўрыла, нешчаслівы?

— Трэцяга дня прынёс з Няшчэрды дзвюх качак і чырка. Учора быў не галодны, сёння не галодны. Якое яшчэ мужыку трэба шчасце?

— Ды я не пра гэта. Хоць ты і прынёс з Няшчэрды чырка і качак, а за слонкай не паспяваеш — у неба лепіш.

— А можа, я, Віталік, не хачу песню зрэзаць?

— Хітруеш, Гаўрыла. Каб я цябе не ведаў. Каб мы з табою не бралі ў бярлозе мядзведзя. Помніш?

Гаўрыла разяўляе рот, моўчкі глядзіць у неба, робячы выгляд, што слухае неба, чакаючы жаданую ім абодвум слончыну песню, не чуе, што яму кажа малады Біруля.

*Усіх Гаўрылаў, Петракоў, Апанасаў я любіў, да ўсіх іх прывязваўся. Блукаючы з імі па лесе, палетках, сустракаючы світанкі, начуючы ля вогнішчаў, я пачаў разумець прыгажосць прыроды, навучыўся яе чытаць*

*Яны выхавалі ўва мне*

— Цыц, хлопча! Ляціць!..

Неба над альшанікам быццам прарвалася ў тым месцы, дзе гасла апошняя плямка вячэрняй зары, яго сарамлівая чырвань, і адтуль, з нечаканага разрыву, на лясную прасеку, да паляўнічых скацілася кругленькае і звонкае «цык» і яшчэ — «цык». Замерлі падгалыя Гаўрылавы ганчакі, узнялі ў неба вострыя насы. Шырока расставіўшы доўгія, як аглоблі, ногі, Гаўрыла ўзняў цяжкую пішчаль у неба, прыклаўся вухам, але не варушыўся, быццам страляць не думаў, проста выглядам сваім наводзіў жах на неба і слонку.

— Цык... Хор-р...

Вялізны сноп агню вырваўся з пішчалі, грымнула моцна, аж плячо адкінула назад. Гаўрыла ледзь устаяў, а слонка, што камень, рынулася з неба да яго ног. Усё адбылося ў адно імгненне: і радасць Гаўрылы, і разгубленасць абодвух, калі птушка, са свістам разрэзаўшы паветра перад вачыма паляўнічых і сабак, узнялася на сваю шлюбную трасу.

Вітольд толькі тады, у апошняе імгненне, ускінуў вінчэстэр. Затвор клацнуў мякка, хлёстка, і слонка, кульнуўшыся на фоне звечарэла-пагаслага неба, вінтом пайшла на алешнік. Сабакі з ціхім віскатам кінуліся ў кусты.

Гаўрыла не глядзеў ні на Вітольда, ні ў той бок, дзе сабакі шукалі слонку, ні на неба, хоць яшчэ была самая цяга. Трымаючы перад сабою пішчаль, доўгую і цяжкую, як

сам, засоўваў палец у ствол, круціў у ім пальцам, вымаў са ствала, падносіў да носа, нюхаў, разглядаў на пальцы парахавы нагар і глыбакадумна казаў:

— Гм-м, так!.. Порах адсырэў.

*Уся бяда Гаўрылы была ў тым, што ён кепска страляў і заўсёды тлумачыў сваю прамашку нейкай прычынай*

Сабакі прынеслі слонку, паклалі да ног гаспадара. Але ён не заўважаў ні сабак, ні слонку.

Цяга была ў самым разгары. Слонкі праносіліся над прасекай адна за адной, але Гаўрыла, расхваляваны няўдалым стрэлам, ужо не чуў іх песень. Усё нюхаў палец і гразіўся:

— Ну, другі раз трапяць яны мне на мушку, дам дык дам, адчуюць стрэл Гаўрылы. Будзе і тут,— паказваў на шчаку і плячо,— будзе і там,— ківаў на неба.

Цямнее.

Слонкі яшчэ крычаць, не супакойваюцца, але над прасекаю не ляцяць, як напужаныя стрэлам Гаўрылавай пішчалі. Чуваць іншая музыка — скрыпка. Яна нібы заблудзіла ў лесе, недзе зусім блізка, і плача.

— Табе, Гаўрыла, больш шанцуе на качак,— углядаючыся ў свайго старэйшага сябра, нібы дастаючы з яго душу, з посміхам кажа Вітольд.— Вось пабыў на Няшчэрдзе — прынёс тры качкі.

Гаўрыла падымае галаву, выпінае наперад рыжую казліную бародку, падазрона глядзіць у вочы Вітольду:

— Не верыш? Дзве качкі і чырка.

— Чаму — не веру? — мякка ўсміхаецца Вітольд.— Я табе, Гаўрыла, заўсёды веру. Трэба нам схадзіць на Няшчэрду.

— Як з'ем тых качак. Ці мне іх выкідаць?

— А я зараз пайду. Адсюль, з цягі.

— На ноч?

— А хіба не ты мне казаў, што ноччу ў вясновым лесе самая работа? Пакуль дайду да Няшчэрды, наслухаюся. Можа, пад якім-небудзь дубам і храпану. Мне абы золак не праспаць.

— Раніцу чакай пагодлівую. Зара доўга трымалася, чырвань густая. Золак будзе ясны. Толькі куфар з фарбамі ў цябе цяжкаваты. І стрэльба, і гэты, як яго?.. Эцюднік?.. Ходзіш па лесе — ні мастак, ні паляўнічы.

— Няпраўда, Гаўрыла. І паляўнічы, і мастак. Кругом

паляўнічы. З аднаго ствала — па птушках, з другога — па колерах.

Плач скрыпкі мацнее, як вырваўшыся з няволі на прастору, і ўжо з ёю — флейта і барабан.

— Глядзі ты на гэтых цыганоў, Віталік!..

З-за лесу на дарогу выкочваецца высокая балагольская буда, крытая шэрым дзіравым брызентам. І буда знаёмая, і сівы конь знаёмы:

— Ды гэта ж Зэлікава каманда! Гэй, Зэ-лі-ік! Стой!..

Музыка замаўкае. Конь спыняецца. З буды выглядаюць чорнагаловыя бадзягі-музыкі, а вышэй за ўсіх — густы чуб над будаю — Лейба Краль, які вечна гнуўся, баючыся зачапіцца за што-небудзь галавою. Яны яшчэ пяць дзён назад, на Вялікдзень, прыехалі ў Краснаполле па запрашэнні Біруляў, бацькі і маці Вітольда, яшчэ ўчора ксёндз Каятан здзіўляў выхілястымі скокамі пад іх музыку, а сёння, адпачыўшы, ехалі далей, да новага прыстанішча, дзе іх таксама чакалі.

Вітольд падбягае да буды, прыціскаючы да сябе левай рукою шкатулку з фарбамі і эцюднік, якія вісяць на левым плячы, праваю — стрэльбу:

— Куды едзеце, Зэлік?

Прысадзісты кучаравы музыка, размахваючы ў паветры флейтаю, саскоквае на дарогу і, нібы яшчэ адна лясная птушка, разносіць па лесе пералівістыя гукі флейты:

— На фэст, да Лапарэвічаў.

Паветра перасела ў грудзях у Вітольда. Яны — у маёнтак Зосі Лапарэвіч? Там — фэст? Значыць, там будуць бацька і маці? І ён таксама павінен быць там? Яго, можа, будуць шукаць дома? Ён сказаў, што ідзе паляваць на Няшчэрду, але не сказаў, на колькі дзён. Хіба гэта бяда? Ён будзе там, на Няшчэрдзе, раней за ўсіх.

— Ну, Гаўрыла!.. Хутчэй еш сваіх качак!..

Ён ужо сядзіць у балагольскай будзе Зэліка, ужо кляча, якую Зэлік корміць адно пугаю, кранае буду, яна коціцца ціха па лесавой дарозе. Гаўрыла застаецца пры дарозе, абапёршыся на доўгую пішчаль, трымаючы ў руцэ слонку. Нарэшце ўспомніўшы, што ў яго ў руцэ, бяжыць за будай, размахваючы птушкаю, крычыць нешта паспешліваe, незразумелае. Зэлік раскручвае над будаю пугу — сівая кляча даказвае, што можа бегчы даволі шыбка. Гаўрыла пачынае адставаць ад буды, і тады, раптам, у буду да ног музыкаў ляціць яшчэ цёплая слонка. Янкель Сахір падхоплівае птушку на калені і птушынымі лапамі выбівае на цымбалах

польку. Музыкі весела рагочуць. Зноў заліваецца плачам скрыпка Робе Саламона, у яе мелодыю ўплятаецца срабрыстая нітачка флейты Зэліка, кантрабас Лейбы-Сімана Краля пачынае адбіваць такт, і ўжо не балагольская буда едзе у ноч па лесе, а дружны, вясёлы вандроўны аркестр, вакол якога лес замірае.

І замірае ад нечаканай радасці сэрца ў Вітольда.

*Я заўсёды з вялікай цеплынёю думаў пра гэтых сціплых бадзяг-музыкаў, рамяство якіх давала небагаты хлеб. Таленавітыя людзі, яны маглі б куды лепей жыць, але ні гэтых дарог у балагольскай будзе, ні інструментаў яны не пакідалі. Сваё жыццё любілі і на багаты кавалак памяняць яго не маглі*

На беразе Няшчэрды Вітольд пакінуў буду, раптам адчуўшы, што да Лапарэвічаў ехаць яму не трэба. Музыкі, вясёлая з імі дарога, нечаканы ўспамін пра Зосю нарадзілі жаданне застацца аднаму ў лесе — з думкамі і пачуццямі, якія авалодалі ім.

Была ноч, але над возерам яшчэ на ўсю моц свайго хору спявалі жабоцькі. Вітольд запаліў вогнішча, настрыг аеру, паслаў ля агню начную пасцель. Спаць не хацелася, і ён доўга сядзеў, углядаючыся ў агонь, у яго пунсовыя языкі, якія то нервова ўзляталі ўгару, то ападалі, у белыя і чырвоныя зорачкі попелу і агню, што несліся ад вогнішча ў неба і там не то знікалі, не то пачыналі сваё падарожжа ў загадкавую бездань.

Ноч выдалася зорная, ціхая, вада паўз бераг маўчала. Недзе блізка ў чароце спалі качкі. Чарот жаўтлява блішчаў пад поўняй і зорамі. Масляна-срабрыстае возера абяцала ціхую раніцу.

Воддаль на высокім беразе тым самым масляна-срабрыстым святлом адлівалі крыжы касцёла.

У гэту хвіліну чуйнай адзіноты да яго прыйшла думка пра блізкую раніцу: з чаго пачне — з фарбаў ці з палявання? Падкажа раніца? Ён ведаў уладу раніцы над сабою і не любіў гадаць загадзя.

Зноў загледзеўшыся на касцельныя крыжы, думаў пра Зосю. Дзе яна цяпер? За мяжою? Лечыцца? Навошта яму фэст, калі там не будзе Зосі?

А Гаўрыла? Кінуў слонку ў буду — пакрыўдзіўся, можа, на яго, Вітольда, што кпіў з яго паляўнічага шчасця?

Жабоцькі сціхлі адразу, дружна.

Зрабілася сумна, што адзін. Гэтакае з ім часта бывала ў вандроўках па лясах ды палях: калі надта добра самому, хацелася, каб побач была яшчэ хоць адна блізкая душа, каб і тая чыясьці душа адчула асалоду, якую адчуваў ён.

Успомніў Зэліка, яго вясёлую каманду — адчуў, што сам нечым на музыкаў падобны. Вандроўкамі? Яны — ад маёнтка да маёнтка, з дарогі на дарогу, а ён — ад зары да зары, ад вогнішча да вогнішча. Яны — вечна са сваёй музыкай, ён — са сваёй. Хіба ў іхняй музыцы няма таго святла, тых колераў, якія шукае ён? І хіба ў яго колерах і святле, якія шукае і знаходзіць, няма музыкі? Навошта колеры, фарбы, святло, калі ў іх няма музыкі?

Блізка, адразу за вогнішчам, у прыбярэжным чароце кракнуў стары качар.

## ЯНЫ ВУЧЫЛІ НАС ЖЫЦЬ

(Ліст да сябра Лабанава)

*Дарагі мой Віктар Міхайлавіч!*

*Ты нагадаў мілую сэрцу маладосць, разварушыў тое, што захавала і мая памяць — вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства,— які быў у нас двор, якія былі пабудовы, дзе жылі мастакі, нашы прафесары. Такой нерэальнай мараю здавалася жаданне трапіць у школу жывапісу, дзе яны, перадзвіжнікі, якіх мы ведалі раней па фотаздымках ды карцінах*

*Ці магу я забыць*

Вітольд Каятанавіч любіў пісаць лісты блізкім людзям. Пісаў шмат і лёгка, як піша шчыры чалавек. Але гэты ліст пісаўся цяжка. Адну старонку перапісваў тры, пяць, сем разоў, Першы радок — той самы: *Дарагі мой...* Далей — кожны раз іначай. Быццам ствараў запаветную карціну, зноў і зноў здымаючы адны фарбы і кладучы другія. Шукаў тое, што і ўсё жыццё — дакладныя контуры, дэталі, святло.

Яшчэ нядаўна роўны прыгожы почырк цяпер сам не пазнаваў: літары здрабнелі, пахіснуліся, скакалі кожная пад сваю музыку, не прызнаючы ўлады аўтара. Радкі, адзін за адным, каціліся, як падбітыя паязды, пад адхон.

Інсульт і частковы параліч пускалі туды, пад адхон, разам з радкамі на паперы, усё самае дарагое.

Але ён і ў гэтым стане заставаўся мастаком. Без ма-

люнкаў — які ліст? Тым больш — да сябра? Аслабелая рука выводзіць дваровыя будынкі, майстэрні, акно, за якім жыў любімы Макоўскі.

*Як перадаць хваляванні, калі я і Жукоўскі стаялі ў вестыбюлі, не зводзячы вачэй з вялізнага гадзінніка, чакалі, калі ён баўкне дванаццаць. Жукоўскі быў у мундзірчыку вучня гродзенскага рэальнага вучылішча, я — у форме кіеўскага кадэта. І вось гадзіннік баўкнуў. Швейцар Афанасій шырока адчыніў дзверы фігурнага класа*

Не прамінём, заўважым: па імёнах Вітольд Каятанавіч ведаў швейцараў, сталяроў, егераў, фурманаў, афіцыянтаў, леснікоў, пастухоў, цесляроў, садоўнікаў, з якімі хоць аднойчы сустрэўся на паляванні, ля вогнішча, праехаў на возе, абедаў, працаваў у садзе, якія яму ставілі дом, капалі калодзеж, рабілі падрамнікі да карцін ці хоць аднойчы далі разумную параду. А тым больш — Афанасій на Мясніцкай, які адчыняў высокія дзверы ў храм мастацтваў! Яго памятаў усё жыццё.

Але ў той раз швейцар адчыніў дзверы не перад ім з Жукоўскім.

*Паважліва нахіліўшы галаву, ён вітаў высокага, поўнага, з густой сівізной чалавека, на галаве ў якога была чорная аксамітавая ярмолка. Калі мы з Жукоўскім спыталі: «Хто гэта?», швейцар Афанасій адказаў шэптам: «Гэта самы галоўны ва ўсёй нашай школе рысавальшчык, самі-с Яўграф Сямёнавіч Сарокін. Да іх у натурны клас ніхто, божа барані, не можа зайсці, толькі тыя, хто вучыцца». А калі выйшаў Уладзімір Ягоравіч Макоўскі, Афанасій сказаў: «Гэта яны-с усіх пішуць у сваіх карцінах. Майго памочніка Кузьму напісалі ў царкве з дзіцём на руках. Напішуць як жывога ды яшчэ і грошы табе заплацяць»*

*Усіх нашых выкладчыкаў мы глыбока любілі. Мы бачылі, як самі яны пісалі. Мы даражылі кожным днём, кожнай гадзінай, пражытымі побач з імі*

*Шчаслівы той, хто вучыўся пад іх крылом*

Лічыў сябе шчаслівым? Тады, перад дзвярыма, адчыненымі Афанасіем,— безумоўна. А пазней? Ці пра гэта не думаў?

Пра шчасце, якое яно, з кім яно, што такое шчасце, Вітольд Каятанавіч зноў і зноў заводзіў размову ці час ад часу думаў усё жыццё.

Як разумеў шчасце?

Быць вучнем Макоўскага, Пранішнікава, Каровіна, Сарокіна, Касаткіна, Левітана — шчасце.

А вучыцца ў Паленава?

А бачыць у сваёй кватэры ўсіх перадзвіжнікаў, саміх Сурыкава і Рэпіна?

А быць запрошаным у свае майстэрні Сурыкавым і Левітанам?

А ці не шчасце — доўгія гады адчуваць, як за тваёй працаю сочыць сам Ільля Яфімавіч Рэпін, і нарэшце атрымаць ад яго ліст благаславення, нібы ціснуты залатымі літарамі:

«Я так прывык асвяжацца душою перад Вашымі жывымі павевамі праўды, прастаты і свабоды!»

Ці мог падумаць, што шчасце — нешта большае?

Аднойчы дачцэ Любашы прызнаецца:

*Я працую радасна, шмат. Гэта — шчасце*

А радасна і шмат працаваць усё жыццё?

У апошнія гады, калі аслабелая рука выводзіла радкі ліста да Лабанава, лавіла контуры будынкаў вучылішча, ён, цяжкахворы, напіша яшчэ і свой першы верш, які назаве — «Шчасце».

Шчасце здрадзіла? Але калі здрадзіла, значыць было з ім? Здрадзіла ў канцы жыцця — дык было з ім амаль усё жыццё? Гэта — не шчасце?

*Густым зрабіўся змрок у акне пустым.*
*Я свечы запаліў, адзін каб на адзін*
*З пейзажам гаварыць — стаяў ён на мальберце.*
*Але ў квадраце чорным ночы*
*Гарэла зорка ў адзіноце.*
*Я — не адзін?..*
*Са мною шчасце —*
*У квадраце чорным ночы.*

Гэта — там, дзе апошняя рыса. Да яе — некалькі крокаў. А раней? Калі швейцар Афанасій адчыняў высокія дзверы на Мясніцкай?

*Ты, Віктар, просіш успомніць і апісаць двор, пабудовы на ім, кажаш, што не памятаеш, якія яны былі, адно памятаеш, што былі, бо сэрцам голас чуеш: «Не гавары з само-*

*тай — іх няма, кажы з удзячнасцю — былі!» А я ўсё яшчэ адчуваю сябе вучнем вучылішча*

*Памятаю, як Ігумнава спрачалася са Слабодчыкавым. Ён — ёй: «Ты маўчыш, а што любіш у Талстога?» А яна: «Люблю яго — гэта не азначае, што я з ім ва ўсім згодная. Яму не трэба араць зямлю. Хай піша кнігі»*

*А хто не памятае нас, кіяўлян, якія ў асноўным і складалі групу талстоўцаў вучылішча? З Суляржыцкім я жыў у чыгуначных нумарах на Каланчоўцы. Там у нас збіраліся ўсе кіяўляне. Аднойчы прыехаў Мікалай Ге, прывёз вялікую карціну «У чым ісціна?» (Хрыстос перад Пілатам). Ён быў у вучылішчы, бачыўся з перадвіжнікамі, ад іх дазнаўся пра нашу групу і з карцінай заявіўся ў пакой. Быў вечар. Падыходзячы да дома, яшчэ з вуліцы ўбачыў наша акно, асветленае лямпамі «маланка», у акне — гіпсавыя галовы і хлопцаў у чырвоных кашулях. Назаўтра мы ўсе пайшлі з ім на Вялікую Далгарукаўскую вуліцу ў майстэрню мастака Мамантава, дзе Ге скінуў са сваёй карціны посцілку: глядзіце — два светы, сутыкненне*

*Формы ў нас не было, апраналіся абы-як, у кожнага за спіной на рамяні шкатулка з фарбамі, у руцэ скрутак папер з эцюдамі ці малюнкамі. Аднойчы выйшлі пасля вячэрніх заняткаў з фігурнага класа — князь Львоў насустрач. А потым ён заявіў, што мы выгляду не маем знешняга, ды яшчэ ва ўсе глоткі спяваем, увагу да сябе прыцягваем на вуліцы. Нам тады загадалі, каб выходзілі з класаў праз чорны ход на двор, ішлі Юшкавым завулкам. Але мы ўсё роўна спявалі. У Сулера быў выдатны голас, ён запяваў: «Стаіць гара высокая, а під гарою гай» — падхоплівалі хорам. А мастацкія выкладчыкі любілі нашы песні, заўсёды слухалі: Архіпаў, Касаткін, Каровін, Корын, Сарокін, Макоўскі. На Мясніцкай не паспеем замоўкнуць, як перад намі — гарадавы і дворнік*

*Сулера ты не можаш не памятаць. Ён ездзіў у Канаду, вазіў туды канадскіх духабораў. Гэта — па заданні Талстога. Сядзеў у Бутырскай турме, а мы насілі яму перадачы. Талстой за яго ваяваў, каб выпусцілі. Талстой любіў яго ўжо тады, як мы вучыліся. Пасля Сулержыцкі пайшоў у тэатр*

*А Юля Ігумнава стала сакратаром у Талстога. Я яе бачыў у Яснай Паляне. Мяне ў Ясенкі пасылала Соф'я Андрэеўна. Льва Мікалаевіча ўжо не было. Пасылаючы, помню, казала: «У Ясенках вас сустрэне Юлечка Ігумнава, ваша маладое каханне. Яна чакае»*

*Гэтак усё і было, і я абавязкова павінен табе расказаць, як у Ясенках мяне сустрэла Юлечка. Ты спытаеш: як я апынуўся ў Яснай Паляне, чаму Соф'я Андрэеўна захацела, каб туды ехаў я, адкуль мяне ведала? А ўспомні Таццяну, дачку Льва Мікалаевіча і Соф'і Андрэеўны? Яна ж з намі вучылася. У нашай групе тады былі Сулержыцкі, Іпаліт Бакал, Панчанка, Таццяна Талстая — гэта быў вышэйшы натурны клас. Я быў з імі. Юля Ігумнава, Аляксандрава, якая потым выйшла замуж за Пятрова-Водкіна. Нас аб'яднаў Сулержыцкі. Гэта была дружная сям'я яснапалянскіх сяброў. Дык вось Таццяна і Сулер расказалі пра мяне Соф'і Андрэеўне і Льву Мікалаевічу. Яны пра мяне ведалі*

*І тут, Віктар, я павінен успомніць*

Радок абрываецца пасярэдзіне старонкі, ніжэй — аркуш белы, дакладней — жоўты ад часу.

Пачаты сказ насцярожвае. Не зместам, не абяцаннем чагосьці недагаворанага, а сустрэчнай думкаю: тут — канец усяго, усяму? Няўжо старонка — сведка апошніх сіл? Калі яна, дык і яшчэ нешта і нехта? Апошнія гады Біруля, цяжкахворы, правёў на беразе Удомлі, за чатырыста кіламетраў ад Масквы, у добраахвотна выбранай адзіноце і лясной глушы, з агеньчыкам у каміне...

Але вось — яшчэ аркуш. Верш? Яшчэ адзін? Тым самым няўпэўненым почыркам, якім напісаны ўвесь ліст да Лабанава:

*Гэтай ноччу*
*Сон пакінуў мяне. І тады*
*Ў нетрах цемені, цвілі, жуды*
*Нейчы голас паклікаў прарочы.*
*За акном стагнаў вецер магіл,*
*Беглі слёзы па шыбах —*
*Дождж ішоў ледзяны.*
*Але там, дзе і холад, і дождж,*
*І той голас з зямлі ці з нябёс,*
*Я ўбачыў — пралескі цвілі,*
*Адчуў подых вясны*

Усё гэта — ліст да сябра Лабанава? Пад вершам дата: студзень, 1952. Год цяжкі, але не апошні.

Значыць, змаганне? Вясна пралесак змагаецца з ледзяным дажджом зімы?

Вясна — любімая пара года. Тая, якую называў блакітнай вясною, калі яшчэ ляжаў снег, але рэкі былі ўжо

голыя ад лёду і ўсё навокал — зямлю, ваду і неба — саграваала першае вясновае сонейка. І яшчэ тая, якую называў днямі юнага мая. І яшчэ — вясна лотаці, вясна вялікай вады, вясна першай навальніцы. Шмат вёсен перажыў, у кожнай бачыў свой твар. І што ж яшчэ, як не подых лотаці ці пралесак магло вёснамі напоўненую душу старога паляўнічага і жывапісца ўратаваць ад нетраў цемені, цвілі, жуды, ад ветру магіл?

Яшчэ старонка з ліста — таксама сведка ўпартага змагання ў зімовай ночы:

*Я павінен табе расказаць, як аднойчы, у шчаслівую пару свайго жыцця, лёг спаць мала каму вядомым вучнем вучылішча, а прачнуўся вядомым жывапісцам, багатым і найшчаслівейшым*

*Гэта быў другі год вучобы, калі нам дазволілі ўдзельнічаць у вучнёўскай выстаўцы. Першая спроба — адразу поспех: сам Павел Міхайлавіч Трацякоў набывае маю карціну — «Ваколіцы Пяцігорска». Я пісаў яе, гасцюючы ў Пяцігорску ў брата Аляксандра, з якім тады жыў і мой бацька. Шчасцю не было мяжы*

*Калі выстаўка закрылася, я зняў карціну са сцяны і павёз у Трацякоўскую галерэю. Зайшоў у кантору. Паўла Міхайлавіча не было. Але мяне чакаў канверт. На ім стаяла маё прозвішча*

*Не, я чакаў не канверт. Мне хацелася ўбачыць самога Трацякова. Я вяртаўся паўз канал сумны, і думкі мае былі аб тым, павесіць Павел Міхайлавіч маю карціну ў галерэі ці не? У галерэі — побач з карцінамі славутых мастакоў? Разлічваць на гэта было нахабствам. Але сэрца шчымела: раптам? Прыйшоўшы дадому, я раскрыў канверт і страшэнна здзівіўся. У ім ляжалі не сто рублёў, якія карціна каштавала, а дзве зусім новенькія сторублёўкі. Непаразуменне? Памылка? Як я мог узяць гэтакі канверт? Быў вечар, і я ледзь дачакаўся раніцы. Уляцеўшы ў кантору галерэі, спытаў Паўла Міхайлавіча. Мне адказалі: «Зараз ён да вас выйдзе». І вось ён выйшаў да мяне: высокі, хударлявы, з пачырванелымі ад стомы вачыма. Ціха спытаў: «Што вы хацелі?» — «Я вучань Біруля. Учора я вам прынёс карціну, якую вы купілі, і ў канверце вы пакінулі мне грошы. Але там не адна сторублёўка, а цэлыя дзве. Тут непаразуменне?» Павел Міхайлавіч цёпла мне ўсміхнуўся і сказаў: «Непаразумення няма. Я вам заплаціў за карціну і даў задатак на будучае». Добра памятаю, як мне зрабілася горача. Зады-*

*хаючыся, спяшаючыся, я раптам спытаў: «Вы... карціну купілі... для сябе?» Ён адказаў: «Так, вядома, карціна з учарашняга дня ў галерэі. Зайдзіце паглядзіце»*

*Праз імгненне я быў у вялікай зале. Мая карціна вісела побач з палотнамі самога Левітана. Я страціў галаву. Не памятаю, як доўга стаяў перад сваёй карцінай, пэўна, вельмі доўга, бо пакідаў залу пад званок швейцара, які абвяшчаў апошнім наведвальнікам, што галерэя закрываецца*

*Так я быў прызнаны самім Трацяковым. Што гэта — ты, Віктар, ведаеш. Імя Трацякова было для нас святым*

Літары зноў бягуць пад адхон, ужо нават не збіраючыся ў словы, быццам кожная — слова і думка. Чытаць немагчыма, адно можна здагадацца, што яшчэ хацеў сказаць Вітольд Каятанавіч. Пра Ігумнаву, як яна сустракала яго ў Яснай Паляне? Колькі разоў выходзіць на таемнае жаданне — расказаць — і заўсёды збіваецца на што іншае, ці радок збягае пад той самы адхон.

Але працяг ёсць.

*Я ўспамінаю нашых настаўнікаў — Макоўскага, Каровіна, Пранішнікава, Касаткіна, Левітана, Сарокіна, Сцяпанава. Як мы ім верылі! Яны былі з намі бязмежна адкрытыя. Яны аддавалі нам усё, што мелі і ведалі. Вялікія настаўнікі і вялікія мастакі. Кожны — карыфей, асоба! Любімыя!*

Тут Вітольд Каятанавіч выходзіць на адну з самых хвалюючых для сябе размоў. Дарэчы яшчэ раз успомніць, з якім захапленнем ён з Жукоўскім глядзеў на Макоўскага і Сарокіна, перад каторымі швейцар Афанасій адчыняў дзверы ў вучылішчы жывапісу. Тады ён паступаў у вучылішча, першы раз бачыў славутых мастакоў-перадзвіжнікаў. Але пройдуць гады, ужо сам будзе ў сям'і перадзвіжнікаў, прызнаным жывапісцам, у Мюнхене і Барселоне на вельмі аўтарытэтных выстаўках атрымае залатыя медалі, будзе ўвенчаны лаўрамі акадэміка, а маладое захапленне сваімі настаўнікамі застанецца ранейшым.

*Ну а Паленаў! Які тэмперамент, дыяпазон мастака і прафесара! Ён быў нашай паходняй, пуцяводнай зоркай. Як мы яго любілі! І як ён любіў нас! Кожны яго вучань станавіўся асобаю: Галавін, Аладжалаў, Чыркоў, Жукоўскі, Сокалаў. Не магу забыць, як сустрэў Васіля Дзмітрыевіча на Нікіцкім бульвары. Ён ішоў ад Чыркова. Спыніўся і кажа*

*мне: «Ну вось, хутка пятае снежня, у нас будзе свята, вялікая падзея — выстаўка. Чыркоў закончыў карціну «Марозная раніца». Такога пейзажу я яшчэ не бачыў!» Яго твар ззяў ад шчасця, захаплення сваім вучнем. I Паленаў не памыліўся. На конкурсе Чыркоў атрымаў першую Боткінскую прэмію. Карціна ўсіх узрушыла. Потым прэмію Боткіна атрымаў Сокалаў, потым — Жукоўскі. Усе — вучні Паленава*

Следам за сябрам Жукоўскім пачэсную прэмію Боткіна атрымаў Біруля. Ён таксама быў вучнем Паленава, хоць адносіны да свайго настаўніка ў яго склаліся не такія блізкія, як у Жукоўскага. Сябра быў у групе Паленава, браў ад яго ўсё, што мог узяць — Паленаў захапляў каларытам, тэмпераментам, багаццем і яркасцю колераў. Ім абодвум здавалася, што да Паленава яны фарбаў як след не ведалі. Але палітра ў Бірулі была больш стрыманага настрою. Гэта не перашкаджала захапляцца Паленавым. Ды і Паленаў яго заўважаў. Сваю карціну «Вясна ідзе» Біруля выставіў па просьбе Паленава і атрымаў прэмію Боткіна. Як гэтаму радаваўся Паленаў!

Пасля Біруля неаднойчы раскажа сябрам, як ён, пакутліва чакаючы вынікаў конкурсу, з'явіцца ў зале выстаўкі і першага сустрэне Паленава. Той будзе ісці насустрач, спускацца з лесвіцы, радасна ўсміхаючыся. За Паленавым— Сцяпанаў з паднятым угару пальцам. Абодва ішлі да свайго вучня — палец Сцяпанава азначаў першую прэмію. I першы павіншаваў з прэміяй Паленаў.

Адносіны з некаторымі настаўнікамі пераходзілі ў сяброўства. Гэтак яшчэ ў вучнёўскія гады атрымалася ў Бірулі з Касаткіным, які пазней прывядзе свайго вучня ў Хамоўнікі ў дом Талстога, выведзе на яснапалянскія пейзажы, падкажа нямала і тэм, і вобразаў, і тэхнічныя рашэнні многіх карцін.

Але ў самае блізкае сяброўства перарастуць адносіны Бірулі з настаўнікам, выдатным мастаком-анімалістам Сцяпанавым. Гэтыя адносіны відаць хоць бы з лістоў Сцяпанава да жонкі, якія ён піша ў Маскву з Цвярской губерні, з вёскі Гарусава, дзе жыве разам з Бірулем:

«...бярэ сум і мой сум мімаволі перадаецца Бірульку (гэтак па-сяброўску ласкава ён называе Вітольда Каятанавіча.— **В. К.**). Мы жывём з ім душа ў душу, вадой не разальеш. Разам праводзім дні — пішам, палюем».

Праўда, гэта ліст пазнейшага часу. Але адносіны паміж

імі, вучнем і настаўнікам, былым вучнем і былым настаўнікам, усё жыццё — як тады.

Сам Вітольд Каятанавіч пазней будзе ўспамінаць:

*За гады вучобы ў вучылішчы мы са Сцяпанавым аб'ездзілі і выхадзілі Ноўгарадскую, Цвярскую, Валагодскую губерні. Ад яго, выдатнага паляўнічага і жывапісца, я шмат чаму навучыўся ў блуканнях па лясах і балотах з эцюднікам, стрэльбай і фарбамі*

Скончана мастацкае вучылішча. А паляванні з Аляксеем Сцяпанавічам?

Апошні раз, як настаўнік і вучань, выехалі на паляванне да Петрака Булыгі, казённага лесніка ў Белазёрскім лесе на Ноўгарадчыне. Сцежка на леснікову дачу была тораная неаднойчы. Пятрок высочваў мядзведзяў, але сам не паляваў, баяўся, зарабляў тым, што прадаваў высачаныя мядзведжыя бярлогі, сляды, і Сцяпанаў з Бірулем ужо колькі разоў куплялі ў яго бярлогі, плацілі па дваццаць пяць рублёў, якія каштавала футра мядзведзя. Той апошні раз Біруля прыехаў з Масквы раней, Сцяпанаў праз дзень павінен быў з'явіцца з Ноўгарада.

Было прадвесне. Снег яшчэ ляжаў шаранам у лесе, але мядзведзь, не дачакаўшыся паляўнічых, выйшаў з бярлогі. Вёска паспрабавала выганяць кароў, яшчэ не на пашу, на сонца, каб худоба хоць косці з зімы пагрэла, і мядзведзь, галодны таксама, адразу задраў карову. Мужыкі паставілі на яго пастку, але мядзведзь у яе не ішоў, хоць да вёскі зноў і зноў падыходзіў. Пятрок адчуваў сябе няёмка перад мастакамі, бо грошы атрымаў, не ведаючы, што мядзведзь пакінуў бярлогу. Вяртаў іх назад, ды Біруля не браў. Тады Пятрок прапанаваў упільнаваць падлюгу на лабазе, і як прапанаваў, дык тут жа лабаз згарадзіў за гумнамі на хваіне, з-за якой мядзведзь і прыходзіў у вёску. Без Сцяпанава ісці на мядведзя Біруля не хацеў, гэта было б непаважліва, і звечара, чакаючы старэйшага сябра толькі раніцай на другі дзень, падаўся на глушца. Ледзь выйшаў за вёску, як амаль адразу пачуў глушцоў на пералётах у лесе. Выбраў ціхае месцейка, распаліў вогнішча, паставіў на агонь чайнік, правёў з гарачым чаем ля агеньчыка цудоўную ноч, і калі на ўсходзе забарвовеў пасак ранішняй зары, па моцным шарпаку пачаў асцярожна падбірацца да песні бліжэйшага глушца. Не дайшоў, можа, сотню крокаў да току, як глушэц замоўк. Спыніўся і ён. Глушэц маўчаў. Няўжо пачуў крокі?

Здаецца, ішоў асцярожна, спыняўся і заміраў загадзя, адчуваючы, што зараз птушка перапыніць песню. Але замоўклі і глушцы, якія такавалі далей. Прычына — іншая? Пачуўся незразумелы шум. Чалавек? Што ж гэта за дурань ідзе, што ўвесь лес заціхае і толькі ён адзін на ўвесь лес робіць шуму-трэску? Надта ж шмат таго трэску? Ці не звер які ломіцца? Цяжкі — лось? Данёсся бразгат жалеззя, усё роўна як грымеў ланцуг. Заціхла, ды глушцы ўжо не такавалі. І зноў затрашчаў сушняк, забразгацела жалеззе. Шум, грукат, трэск, звон пачалі аддаляцца. І тады Вітольд Каятанавіч зразумеў, што гэта ішоў мядзведзь з той самай пасткай на лапе, якую на яго ставілі мужыкі,— ушчаміў, бедалага, а пачуўшы паляўнічага, звярнуў ад бяды падалей? Біруля кінуўся напярэймы. Мядзведзь — у поле. Бегчы па цупкім шарпаку было лёгка, і Біруля пачаў наганяць звера. Той зразумеў, што не ўцячэ з цяжэннай жалезінай на задняй лапе, увесь час чапляючыся ёю за пні-калоды,— спыніўся. Біруля ледзь паспеў перазарадзіць вінчэстэр, закласці ў ствалы замест шроту кулі, як мядзведзь зароў і ўскінуўся на дыбы. Аграмадны, шыракалобы, цёмна-буры, ён, узняўшыся на задніх лапах, трымаў перад сабою вялізныя пярэднія лапы, і кіпці, большыя за мужчынскія пальцы, былі ўсяго за пяць крокаў, гатовыя зграбці чалавека ў смяротных адбымках. Адступаць — куды? Ускінуў стрэльбу і ледзь не дастаў ствламі гарачае месца пад левай лапаткай. Гахнуў дуплетам. Мядзведзь раўнуў на ўсё горла апошні раз і аб'ехаў на зямлю, ля самых ног сунуўся круглай галавою ў леташні мох. Толькі цяпер Біруля разгледзеў, што на цёмна-бурай галаве срабрыстым haладком адлівала не ранішняе сонца, а налёт старэчай сівізны, якая асабліва густа высыпала паміж круглых невялічкіх вушэй.

Сцяпанаў прыехаў надвечар, і яны выйшлі на цягу слонак. Цягнулі слонкі кепска. Вецер у другой палове дня перакруціўся, падзьмуў з паўночнага захаду, пахаладала, і слонка не пайшла. У вёску, аднак, не вярнуліся. Знайшлі падказанае лесніком такавішча цецерукоў, паставілі пад ялінаю буданок і ля вогнішча, маючы хваёвую страху, заначавалі, чакаючы раніцы і цецеруковага току.

Настрой у Сцяпанава быў не лепшы. Ён увесь вечар прасіў расказаць пра сустрэчу з мядзведзем, Біруля расказваў, але Сцяпанаў праз нейкі час зноў прасіў расказаць пра мядзведзя, і гэта паўтаралася да самае ночы. Калі леглі ў буданчыку спаць, Сцяпанаў зноў папрасіў расказаць пра мядзведзя. І тады Бірулі здалося: Сцяпанаў з яго здзе-

куецца, не даруючы, што адзін забіў мядзведзя. Гэта было не падобна на заўсёды велікадушнага Сцяпанава, але калі не гэта, то што яшчэ за прычына? Нарэшце здагадаўся: Сцяпанаў незадаволены расказам пра сустрэчу з мядзведзем, не знаходзіць у ім новае, нейкую нечаканую дэталь, мастацкую іскрынку. І тады расказаў настаўніку пра вялікую круглую галаву мядзведзя, якая ляжала ля яго ног, і якім халадком на галаве між вушэй дыхала срабрыстая старэчая сівізна. Сцяпанаў доўга маўчаў, не варушачыся. Не спаў.

І раптам усхапіўся:

— Вось, Бірулька! Вось што — сівізна паміж вушэй у мядзведзя! Старэчая шапачка! А ты забіў. Старога!.. Га, Бірулька?.. Як жа гэта ты?..

— Я не бачыў, што ён сівы. Гэта пасля ўбачыў, калі галава ляжала ля маіх ног.

— Як жа ты не бачыў, Бірулька? Як ты мог не бачыць?

Вітольд Каятанавіч разгубіўся. Значыць, Сцяпанаў быў ім усё ж незадаволены? Не тым, што пайшоў адзін на мядзведзя, а тым, што перш чым стрэліць, не разгледзеў сівога? І тады, нібы ратуючыся, ускрыкнуў:

— Але ж гэта — мядзведзь!..

Нічога не адказаў яму Сцяпанаў. Яны ляжалі моўчкі, пакуль не заснулі.

Вітольд Каятанавіч думаў пра свайго настаўніка, як ён, палюючы, у імгненні сустрэчы са зверам шукае ў ім тое, што яму яшчэ невядома, новае ў руху, абрысах, колерах, стараецца спачатку зазірнуць зверу ў вочы і зразумець нейкі міг яго жыцця. Для гэтага трэба страляць, як страляе Сцяпанаў — наўскід, адной рукой, імгненна і дакладна. Ён, Біруля, страляў не горш, але... Але ж гэта — мядзведзь! Сустрэча — імгненне! Як у гэта імгненне зазірнуць мядзведзю ў вочы, разгледзець на галаве шапачку сівізны ды яшчэ і апярэдзіць яго рывок да цябе дакладным стрэлам, адзіным, бо другі зрабіць звер не дазволіць?

І ўсё ж... І ўсё ж...

*Дружа Віктар! Наша самае большае шчасце, можа, не столькі ў тым, што мы ў вялікіх мастакоў вучыліся жывапісу, колькі ў тым, што ў іх, вялікіх, мы вучыліся, як трэба жыць, каб стаць сапраўднымі жывапісцамі*

*Яны вучылі нас жыць*

Раніцай, калі за лесам узыходзіла яшчэ нябачнае сонейка, а тут, у лесе, ледзь-ледзь світала і пачынала світаць

у будане, калі, яшчэ недзе далекавата, спрабавалі будзіць цішыню золаку цецерукі, Біруля, варухнуўшыся на мулкім хвойніку, прачнуўся і адразу ў самае вуха пачуў шэпт Сцяпанава:

— А я табе, Бірулька, удзячны, што ты расказаў мне пра мядзведзя з сівой шапачкай на галаве. Я, скажу табе, сівога мядзведзя яшчэ не бачыў. Я яго напішу.

Ён, мабыць, даўно ўжо не спаў, ляжаў і думаў пра таго старога, з сівой галавой, бачыў яго на сваёй будучай, можа, самай лепшай карціне, і крыўды на маладога сябра і вучня, вядома, ужо не было, бо ён, Сцяпанаў, быў не толькі выдатным мастаком, але і выдатным паляўнічым і ведаў, што правілы сяброўства і жывапісу не заўсёды ўдаецца ўзгадніць з абставінамі, якія выпадаюць пры паляванні на звера.

## УЛАДА І ЗАГАДКА КУМІРА

Класы на Мясніцкай засталіся для наступнай хвалі будучых геніяў, ужо яны, будучыя, акружалі любімых настаўнікаў, а яму — надышоў час самастойнай, без падказак з-за пляча, работы. Вітольд Каятанавіч ажаніўся з сяброўкай па вучылішчы — сумесная вучоба звяла пад агульны дах уласнага дома ў цэнтры Масквы, дзе помнік Пушкіну, у завулку Варатнікоўскім. Вольга Іванаўна была багатай маладой мільянершай, у свеце яе прымалі як абаяльную, выхаваную, адукаваную маладую барыню. Вітольда Каятанавіча заўважалі таксама здалёк. Яшчэ малады жывапісец, ён ужо быў пастаянным удзельнікам усіх выставак Маскоўскага таварыства мастакоў і Таварыства аматараў мастацтваў, на выстаўках прыцягваў да сябе ўвагу славутых перадзвіжнікаў і прэсы, яго карціны паяўляліся ў лепшых музеях і салонах мецэнатаў, за ім сачылі Траццякоў і Мамантаў. Надышоў, здавалася, час творчай раскаванасці, упэўненасці. Да таго ж і працаваў шмат, за эцюднікам і мальбертам прастойваў па дзесяць, пятнаццаць гадзін, пісаў дзень за днём.

Але — што адбывалася? Чым далей адыходзіў ад класаў і майстэрань вучылішча, ад настаўнікаў, тым мацней адчуваў іх уладу над сабою. Няма нічога ў гэтым кепскага? Вунь сябра Станіслаў Жукоўскі, адчуваючы на сабе моцную ўладу Паленава, адкрыта ганарыўся, што быў адным з любімых яго вучняў, што ўсё, чым быў моцны, узяў ад Паленава:

каларыт, колер, адчуванне гуку, мелодыі, паветра. І прэмію Боткіна, і Вялікі сярэбраны медаль за вучылішча атрымаў дзякуючы ўплыву Паленава. Але ж яго Паленаў не скоўваў — акрыляў? А Біруля — адчуваў штосьці зусім іншае.

Яго творчай пакутаю і кумірам быў Ісак Ільіч Левітан.

*Імя Левітана я вымаўляў шэптам*

Зноў жа: хіба кумір можа абяззбройваць? Ён, мабыць, павінен натхняць? Так, ён натхняў. Але... і абяззбройваў.

Можа, прычына была не ў куміры, а ў вучні?

Жукоўскі не кідаўся ў роспач, калі ў яго штосьці не атрымлівалася. Яму ўсё было ясна. Усё ясна было на карцінах Паленава. Самі фарбы, каляровая гама настаўніка гучалі як гімн жыццю, нараджалі пачуццё светлай радасці. Таямніца была і ў Паленава. Яе Вітольд Каятанавіч адчуваў заўсёды, нават перад маленькім эцюдам «Вёска Тургенеўка». Што там? Сонечны дзень лета, хлявы, укленчаныя пад калматымі саламянымі стрэхамі, урослыя ў зямлю. Збіліся ў гурт, нібы авечкі. Нават не авечкі — дзяды сагнутыя, глядзяць у зямлю, слухаюць, як іх жыццё адплывае. Тут таксама свая патаемнасць — маляўнічая, сонечная.

Ясны і Левітан? Але ў яго заўсёды шчымлівая рана. Яго таямніца выпраменьвае боль. Калі не боль — адчуванне разладу, страты. Зноў жа — загадка?

Боль Левітана схаваны, няўлоўны, яго адчуваеш адразу, але цяжка зразумець да канца. Часам таямніца настаўніка раздражняла, але часцей перад ёю губляўся і тады, як атручаны, не мог працаваць. Карціны Левітана былі поўныя настрою, пачуцця ранімай душы, яны хвалявалі Вітольда Каятанавіча, адпавядалі таму, як ён сам разумеў жывапіс. Але як працаваць, да канца не зразумеўшы душу левітанаўскага пейзажу? Калі разгадка таямніцы куміра здавалася нерэальнай, хацелася знайсці ад яго паратунак. Чаму — Левітан? Чаму ён, толькі ён на дарозе? І наогул, ці любіў Левітан свайго вучня Бірулю? Успамінаў заняткі ў вучылішчы. Як педагог, Левітан быў ні на кога не падобны. Калі іншыя настаўнікі, такія, як Паленаў, Каровін, Сцяпанаў, працавалі разам са сваімі вучнямі на натуры, у прыродзе, разам шукалі сюжэты, вобразы, форму, каларыт, Левітан трымаў вучняў у майстэрні, ставіў перад імі букет кветак, дрэўца, галінку, зацярушваў ватаю, імітуючы снег, уключаў святло — гэта пісалі. Са Сцяпанавым можна было, як з сябрам, блукаць па палях і лясах, начаваць у стагах і ля вог-

нішчаў, пісаць і страляць, бачыць і слухаць прыроду, вучыцца яе жывапіснаму і цэласнаму разуменню. Паленаў тое, што пісаў, прыносіў на суд вучням, як аднойчы прынёс цэлую серыю летніх пейзажаў гарэлага лесу, такіх бліскучых па каларыту. А Левітан? Вучняў не падпускаў да сваіх работ. Аднаму Пятровічаву шанцавала пісаць разам з ім. Аднаму — з усіх: ці не занадта скупы кумір? Аднойчы Біруля з хваляваннем рыхтаваўся да вучнёўскай выстаўкі, пісаў пейзаж. Падышоў Левітан. Зняў шапку, павесіў на кіёк і сеў перад пейзажам. Доўга глядзеў, маўчаў. Пераглядзеў эцюды. І раптам узлаваўся: «Дзе ваш слых? Вось на эцюдах — тое, што я прывык у вас бачыць. А на карціне слых знік. Гэтак нельга. Ваш удзел у конкурсе трэба адкласці да наступнага года і сур'ёзна працаваць». Лёс карціны быў вырашаны. Жукоўскі не толькі выставіў карціну на конкурсе, але атрымаў прэмію Боткіна, яго карціну купіў Траццякоў, а Біруля? Лёгка было перажыць удар? Праўда, на наступнай выстаўцы і ён атрымаў першую прэмію, тую самую — Боткіна, але тады... Той боль пёк доўга.

І ўсё ж — Левітан панаваў. Не толькі на ўсіх выстаўках. Ён панаваў у душы ў Бірулі.

Можа, Левітан быў з жывапісцаў, якіх трэба спасцігаць пакрысе, паступова, н не адразу, як хацелася?

*Аднойчы мы стаялі з Жукоўскім на перасоўнай выстаўцы. Да нас падышоў Левітан*

*— Ну, што вам тут спадабалася?*

*Мы з захапленнем загаварылі пра яго работы*

*— А вось гэта? Што скажаце?*

*Ён паказаў на работы Дубоўскага, Кісялёва, Волкава і Бягрова. Жукоўскі закусіў губу. Ён гэтак заўсёды рабіў, калі быў незадаволены. Я сказаў, што пейзажы мне не падабаюцца*

*— У Дубоўскага мора не кепскае,— адказаў Левітан.— Астатняе, сады і неба, дамскае рукадзелле. А ў Волкава фарба крычыць. Тон можа гучаць, а не фарба. У прыродзе ёсць тон, але не фарба.*

*Гэта — на ўсё жыццё: «Тон павінен быць, тон, а не фарба»*

Адна з таямніц Левітана? Але ж сказаў як нешта звычайнае, вядомае, не павучаючы, не патрабуючы ўвагі да сваіх думак і слоў. Усё роўна як мімаходзь кінуў мазок на карціну і пайшоў. Як восень кідае тую лісціну з галіны —

у твар, пад ногі. Можна заўважыць, можна не заўважыць. А трэба — і заўважыць, і пачуць. Кожнае слова-лісціну, кожную інтанацыю — ці не тады Левітан адкрыецца ва ўсёй сваёй глыбіні. Ён, вучань, хіба заўсёды быў уважлівы?

*Аднойчы ён паглядзеў на нашы эцюды, мае і Жукоўскага, і ціха, спакойна кажа:*

*— Ніколі не ганяйцеся за памерамі эцюдаў. У вялікім эцюдзе шмат няпраўды, а ў маленькім яе зусім мала*

*Падумалася:*

*«Эцюд Левітана «Уладзімірка» вельмі маленькі, але, пераходзячы ад яго на вялікі памер, карціну, Левітан стварыў шэдэўр»*

Не, ён любіў не аднаго Пятровічава. Да гэтай высновы Вітольд Каятанавіч прыходзіць усё ж часцей, як да процілеглай. І аднойчы пра гэта скажа рашуча:

*Яго любоў і ўвага да нас, маладых, была кранальнай. Ён заўсёды стараўся, як толькі мог, натхніць нас, дапамагчы нам*

*У мяне і ў Жукоўскага была мара пабыць у яго ў майстэрні*

І вось на Чыстых Сажалках Біруля і Жукоўскі нечакана сустрэліся з Левітанам. Яны гулялі, ён ішоў імкліва, высока ўскідваючы перад сабою кіёк. Прайсці міма незаўважанымі было немагчыма. Ды і самім вельмі хацелася, каб заўважыў. Спыніліся. Левітан падышоў, і Жукоўскі, больш рашучы, звярнуўся:

— Ісак Ільіч! Мы ведаем, што вы рыхтуецеся да перасоўнай выстаўкі, напісалі цікавыя карціны.

Левітан насцярожыўся. Яго мяккія пушыстыя вочы пасвятлелі:

— Вы адкуль ведаеце?

Тут і Жукоўскі быў разгубіўся, але ўнутраная прыродная ўпартасць не давала права ні замоўкнуць, ні паказаць, што ён, як яго сябра, губляецца:

— Мы, Ісак Ільіч, таксама марым выстаўляцца. Але... Памажыце набрацца смеласці, вашага духу, якія нам вельмі патрэбныя, каб адважыцца. Пакажыце свае новыя работы?..

*Мы падышлі да Трохсвяціцельскага завулка, дзе ў доме Марозава знаходзілася кватэра Левітана. І вось ужо сядзім*

*у майстэрні нашага куміра, незвычайна ўражаныя яго новымі работамі. Раптам Ісак Ільіч падышоў да аднаго з цудоўных пейзажаў і пачаў жорстка церці шкляной паперай неба. Мы былі збянтэжаны. Жукоўскі саўгануў мяне плячом, я нічога не мог зразумець. Левітан заўважыў нашу рэакцыю і, працягваючы церці паперай пейзаж, прытым упарта, утрапёна, загаварыў:*

*— Трэба забываць пра напісанае, каб пасля яшчэ раз паглядзець свежымі вачыма, па-новаму. Тады ўбачыш, як шмат не зроблена, як шмат яшчэ трэба працаваць над карцінай. Я вось здымаю тое, што прымушае карціну крычаць, лішняе*

Ніхто з сяброў не мог паверыць: няўжо Левітан адкрыў перад імі, вучнямі, сваю майстэрню? Паказаў карціны, над якімі працаваў? Гэта здавалася неверагодным.

Але гэта было так.

І калі Вітольд Каятанавіч раўніва думаў пра Пятровічава, пра шчасце працаваць побач з Левітанам, калі адольвала разгубленасць перад карцінамі настаўніка і ён адчуваў, нібыта кумір аддаляецца ад яго са сваёй неразгаданай душою, спяшаўся ўспомніць тую сустрэчу на Чыстых Сажалках, майстэрню, пушыстыя цёмныя вочы, падобныя на чорны аксаміт і недасягальную таямніцу, якімі Левітан пазіраў на яго, вучня, рашуча сціраючы шкляной паперай неба на карціне, і тады вярталася адчуванне, што яго, Бірулю, настаўнік таксама любіў, што тымі цёплымі вачыма глядзеў на яго часцей, як на Жукоўскага. А любоў — значыць, вера, спадзяванні. Няўжо ён, Левітан, верыў, што і яго, Бірулева, поўня ўзыдзе на небасхіле айчыннага жывапісу?

А калі на абодвух глядзеў, на яго і Жукоўскага? Усё роўна — хіба з яго, Бірулі, гэтага мала?

І зноў да Вітольда Каятанавіча вярталася адчуванне, што Левітан побач, што ён сочыць за ім са сваёй загадкавай мроі. Проста яму, вучню, трэба знайсці подступы да настаўнікавых загадак. Можа, яны — у загадках жыцця, лесу?

Ён перабіраў у памяці лепшыя работы Левітана. Што хавалася за імі? Якія пакуты, страсці? Лепшымі былі «Над вечным спакоем», «Сакавік», «Залатая восень», «Ля віру», «Вясна — вялікая вада» — напісаныя ў адну пару, у апошнія гады, калі ў ім, безнадзейна хворым, усё роўна як абудзілася другое дыханне, другая маладосць. Болдзінская

восень? Але дзе яна да яго прыйшла? Дзе знаходзіцца яго Болдзіна?

Біруля як прачынаецца ад доўгага сну: дык гэта ж усё напісана ў Цвярской губерні, на азёрах Удомля, Пясьво, Астравенскім, Кезадра! Там, усё — там! Што за азёры? Што за край?

Зноў і зноў ідзе ў Траццякоўку, дзе гэтыя цудоўныя карціны. Гадзінамі прастойвае перад імі. Узіраецца ў чыстае золата восені, бяздонную глыбіню неба, ваду, незвычайна прыпаяную да берагоў, уманцыраваную ў яе не як вада ў зямлю, а як расплаўленая магма ў планету, у малую цэркаўку пад вечным спакоем углядаецца не як ў цэркаўку, на якой крыж — гэта крыж, і ўсяго толькі.

*Я сядзеў перад карцінамі Левітана*
*Я адчуваў прыроду, чытаў вершы Цютчава, чуў музыку Чайкоўскага*

Ва ўсім, што на карціне, Вітольд Каятанавіч шукае душу мастака. Снег сакавіка — хіба снег? І конь у санях. Святло, цені. Сіні сакавік? Ці гэтая сіняя гама — боль душы? Але тады — адкуль боль, пакуты? Няўжо толькі ад хваробы? Ды і хіба хворы чалавек можа з гэтакім натхненнем жыць у сваёй болдзінскай восені? Ці падумалі пра гэта крытыкі мастака? Што кажуць іншыя мастакі?

Усе былі ў захапленні. Некаторыя маўчалі, шапталіся. Былі раўніўцы. Але... Аладжалаў? Добры мастак, паэт вясны, як сказаў Жукоўскі. Як ён падняў голас супраць Левітана, публічна заявіўшы, што Левітан узяў у яго, Аладжалава, матыў карціны «Вячэрні звон»? Якая мана! А прэтэнзіі Канстанціна Каровіна? Зноў — нібыта Левітан бярэ ў яго, Каровіна, матывы для сваіх карцін. Адкуль гэта? Ад зайздрасці да гучнай славы Левітана?

Безумоўна, раўнадушных у левітанаўскай зале не было. Але ў чым яго сіла? Няўжо ў пакутах? Хоць Левітан нікому пра сябе не расказваў, мастакі ведалі яго пакутлівае жыццё, лёс сіраты і ізгоя, які ўжо на парозе да славы стаяў галодным, бяздомным, без цёплай сарочкі на плячах, геніем. І вось — на карцінах пакуты чалавека ці мастака? Калі гэта пакуты чалавека, то якія: пакуты беспрытульнага, галоднага сіраты ці пакуты пазнейшыя — свядомай душы і памяці? У той жа час — ці ёсць паміж усім гэтым мяжа?

Пытанняў шмат, у іх можна было патануць, але ў нейкі момант яны трацяць уладу над Вітольдам Каятанавічам, іх

стоўпішча асядае на дно калодзежа пачуццяў, на чыстай паверхні якога застаецца галоўная думка — адно жаданне:

*Я загарэўся ехаць туды, дзе жыў і працаваў у апошнія гады Левітан. Мне трэба было пабачыць тыя мясціны*

Пабачыць зямлю, ваду і неба, якія паланілі душу Левітана і якія сталі яго апошнімі зямлёю, вадою і небам.

## І ВОСЬ — АДНОЙЧЫ...

Пагодлівай красавіцкай раніцай 1901 года, у самым пачатку XX загадкавага веку, на станцыі Троіца Балагова-Рыбінскай чыгункі з вагона маскоўскага цягніка на правінцыйна зарослы леташнім рудым быллём перон весела выскачыў прыгожы кафейна-белы лягаш. За ім, трымаючы ў руцэ напяты павадок, сышла маладая жанчына, апранутая вельмі прыстойна, пад чорным футравым капялюшыкам, і за ёю — рухавы, такіх самых маладых гадоў, сярэдняга росту, бялявы мужчына, на плячы ў якога ў скураным футарале вісела стрэльба. У руках ён трымаў эцюднік, скрынку, у якой, як падказваў эцюднік, пэўна ж, ляжалі цюбікі з фарбамі і пэндзлі, складное крэсла і альпійскі спальны мех. Выцвілыя пад дажджом і сонцам у вандроўках куртка і кепка-лесавушка, боты на нагах, стрэльба і чыстакроўны лягаш выдавалі паляўнічага, і ўжо тут, пры гэтакіх акалічнасцях, прыгожую маладую дамачку далікатнага выгляду можна было прызнаць за мастачку ці выпадковую спадарожніцу. Агледзеўшыся ў яшчэ засмужанай, хоць ужо з першым выбліскам сонца з-за лесу раніцы, яны заўважылі непадалёк ад сябе мужыкоў з падводамі і тарантасамі — падаліся да іх. Сабака падбег першы, мужыкі абмяняліся з ім узаемнай увагаю, і калі падышлі пасажыры, гаспадары лягаша, тыя адразу пачалі хваліць мясцовыя лясы і азёры, поўныя птушак і звера.

— Ну, а хто з вас ведае Вараніху на возеры Кезадра? Памешчыка Калакольцава? — спытаў, выслухаўшы мясцовых людзей, прыезджы.

Да яго падышоў спакойны барадаты селянін ў доўгім, зграбным на шырокіх плячах армяку, падпяразаны чырвоным поясам:

— Калакольцава як не ведаць. Яго і Вараніха, і Кезадра. Сам ён цяпер ў горадзе, а барыня, маці, у пакоях на Кезадры.

— Возера багатае?

— Качак сёлета поўна, трэба страляць. Летась Мішка Клепікаў, пацан, качара на возеры голымі рукамі ўзяў. Барын паклікаў Мішку да сябе і не пакараў, адно сказаў, каб паляваць з ім хадзіў.

— Самога Калакольцава, значыць, няма? Ну, усё роўна. Адвезяце ў дом барскі?

— Гэта — мігам. Тарантас у мяне новы, коні — маладыя.

Раніца была надзіва ціхая, свежая. Яшчэ ў падлеску трымаліся лапікі шэрага снегу, але палі былі чыстыя, азімыя густа блішчалі пад ласкавым ранішнім сонцам, над імі ў небе спявалі жаваранкі. Тарантас ехаў весела, хоць коней фурман не гнаў, не грымеў, не рыпеў, усё ў ім было падагнана па-гаспадарску, змазана, нішто, акрамя жаваранкаў ды мяккага шлёпання конскіх капытоў па дарозе, не парушала ранішняй цішыні, і госці Калакольцава, першы раз трапіўшы ў гэтыя мясціны, маўчалі, захопленыя краявідамі. Дарога то кацілася ў лагчыну, то падымалася, мясціны вакол ляжалі ўзгоркавыя, хоць не было ні крутых спускаў, ні крутых пад'ёмаў, блізка да дарогі падбягалі не альшанікі, дык бярэзнічкі, малымі купінамі падбягалі і адбягалі, зноў даючы прастор палям, па якіх то злева, то справа адкрываліся дзіўныя, падобныя на срабрыста-перламутравыя ракавіны, азёры.

— У нас прыгожа,— азваўся фурман, адчуўшы захапленне, з якім прыезджыя разглядалі ўлонні.— А рабкоў, глушцоў, цецерукоў — да ліха. Даруйце, што не магу назваць па імені ды па бацюшку, не ведаючы. Але паколькі едзеце да Калакольцава, то будзем суседзямі. Чым магу — буду служыць. А зваць мяне Фёдар Віхроў. Жыву з зямлі. Рамізнік.

— А мы... Супруга Вольга Іванаўна, я — Вітольд Каятанавіч. Бірулі.

— Палякі? — Віхроў зноў азірнуўся, чэпка ўглядаючыся ў твар Вітольда Каятанавіча.

— А чаму вы гэтак падумалі?

— Ды... завецеся па-польску.

— Бацькі каталікі. Але беларусы. І я беларус. З Магілёўскай губерні.

— Гэта што ж — беларус? Рускі, мабыць? Толькі белы? Не чуў пра такіх. А губерню ведаю. З Магілёўскай праз Вараніху хадакі ішлі, зямлю пыталіся, хацелі купіць. А якая ў нас зямля? Самім мала.

— Ну дык ёсць такі народ — беларусы. Славяне, як рускія. І жывуць блізка. Побач з Расіяй. А ты, Фёдар, не паляўнічы? Вока ў цябе хвацкае.

— Я не паляўнічы. Паляўнічыя ў Камянцы, вёсцы ля Вараніхі. Гаўрыла ды кум Якаў. А ў вёсцы Панамарова стрэльбу мае Цімох.

Ральф весела бег то справа ад тарантаса, то злева, ад мачажыны да мачажыны, абнюхваючы то купіну, то яміну. Чуючы птушку на сідцы, раптам рабіў стойку, але тарантас не спыняўся, і ён, доўга не вытрымаўшы стойку, кідаўся на птушыную купіну, падымаючы то дупеля, то бакаса. Гнаў іх і адставаў, спыняўся, вяртаўся да тарантаса, глядзеў на гаспадара з асуджэннем, што той яго не разумее, усё роўна як знарок не заўважае паднятых ім птушак, і зноў нервова адбягаў ад дарогі, ужо не спадзеючыся ні на гаспадара, ні на яго стрэльбу. Зноў чуйным носам лавіў востры птушыны дух і па ім кідаўся да наступных мачажын і купін.

Усё хвалявала Вітольда Каятанавіча — жывасць Ральфа, краявіды, расказы фурмана. Цераз плечы Віхрова ён ужо глядзеў часцей наперад, як па баках: дзе ж тая Вараніха?

Фурман азіраўся на сваіх пасажыраў вострымі чорнымі вачыма, і Вітольд Каятанавіч заўважыў, што цяпер ён часцей пазірае на Вольгу Іванаўну. Спытаў, як сlibre секануў:

— А што вы, Фёдар, усё на маю жонку пазіраеце?

Спытаў з ледзь прыкметным гумаркам, разлічваючы на сустрэчны гумар. Але Віхроў адказаў сур'ёзна:

— Ды... з адной думкаю, барын. Думка мая не злая, не хітрая, а сказаць яе не асмелюся.

— Гавары. Мы не пакрыўдзімся. Ты мяне хоць і называеш барынам, але, як давядзецца бліжэй сысціся, убачыш, што мужык, як усе мужыкі.

— Дык вось... думаю: навошта чалавек вашага саслоўя бярэ на паляванне прыгожанькую барыню? Не вы адзін. Я нагледзеўся.

Вольга Іванаўна сядзела насцярожаная, адчуваючы, што гэты гаваркі і дападкі Віхроў здольны выкінуць якуюнебудзь прыкрасць, але цяпер, пачуўшы бяскрыўднае разважанне, засмяялася:

— Чаму ж вы лічыце, што барыні нельга на паляванне?

— Ды... Ваша ножка, можа, і бота не нюхала. А без ботаў у лес ды балота не сунешся. А яшчэ — пот, бруд, кроў. Для гэтакай работы вы надта чысценькая, далікатная. Прабачайце... Не ў сваё лезу. Але я без зла, без хітрасці.

Ехаць стала весялей.

— Дык мы, Фёдар, з Вольгай Іванаўнай мастакі. Палюем не толькі са стрэльбай.

— Ды... гэта я заўважыў. Што да чаго — ведаю. Куфэрак з фарбамі, станочак. Мой дзед, угоднік боскі Церах, царствіе яму нябеснае, прыслужваў Венецыянаву. Вазіў яго на эцюды ў фурманцы, рабіў рамачкі, палатніну нацягваў. Ён з Кустоўскага прыходу, Венецыянаў, адкуль і я. Там магілка. Ад Варанізі дванаццаць вёрст.

— Венецыянаў?!.. Магілка?..

Вітольд Каятанавіч быў здзіўлены. Нават не тым, што нечакана, сам таго не ведаючы, ехаў да магілы Венецыянава, на яго зямельку, а тым, што гэта ўсё роўна як разбурала патаемную думку — знайсці тут мясціны, звязаныя з Левітанам, ягонае Болдзіна. Ягонае — значыць, нічыё больш? Такое было адчуванне. І пра гэта нікому не казаў.

Нават жонка думала, што іхняя дарога сюды выпадковая. А пачыналася з таго, што аднойчы летась гэтакай, як цяпер, парою, у красавіку, выбраліся з Масквы на Волгу, на эцюды, і ля вёскі Кімры сустрэлі памешчыка Калакольцава, які пасля кароткага знаёмства запрасіў да сябе ў Вараніху. Вось — уся як быццам нагода. Вольга Іванаўна бачыла адно гэту знешнюю логіку, а што была яшчэ і логіка ўнутраная, якую ведаў Вітольд Каятанавіч, яна не здагадвалася. Ды якраз у згодзе з гэтай унутранай логікай за дзень да ад'езду бачыў сон — ваду, якой няма канца-краю, як і небу над вадою, быццам едзе ён з жонкай на цягніку, а вакол бяжыць і бяжыць вада, і бяжыць неба, і бачыць далей, як тырчыць з вады вялізны магільны крыж, але не зусім з вады — пад ім маленечкая лапінка зямлі, і нехта кажа, што гэта ўся зямля, якая засталася ад патопу, лапінка з крыжам. І калі прачнуўся, доўга думаў, што б усё гэта значыла: вада, неба, лапінка зямлі з крыжам? Ні да чаго не дадумаўся, толькі адчуў, што трэба ехаць туды, куды душа гоніць,— цяпер ужо гнаў і сон. Ці не сасніліся ягоная вада, ягонае неба, ягоны крыж? Раптам гэта — будучая карціна? Але ці можа быць карціна, каб ваду і неба яднаў адно крыж? Без зямлі? І наогул, ці здолее ён напісаць іх пасля таго, як гэта сумежжа напісаў Левітан? Хто асмеліцца падумаць, што можна напісаць неба больш глыбокае і неабсяжнае, як у Левітана, што гэтак касмічна, з біблейскай магутнасцю, можна ахапіць мастацкім рашэннем зямлю і неба, зямное і нябеснае? Левітан знайшоў і рэалізаваў ідэю ці не на мяжы магчымага і немагчымага, і як цяпер, пасля яго, пісаць зямлю, ваду і неба,

не адчуваючы сябе ў яго ў палоне? Як цяпер быць яму, Бірулю, маладому жывапісцу, што пакутуе тымі самымі зямлёю, небам, вадою і духам іх гарманічнага адзінства?

На ўспамін прыйшоў Паленаў, яго захапленне біблейскай вышынёю Іванава — карцінай «З'яўленне Хрыста народу». Бязмежна шчыры перад сваімі вучнямі, Паленаў прызнаваўся, што Хрыстос Іванава — яго, Паленава, пакута. Ці не тое адбываецца з ім? Дні за днямі ў роздуме, пэндзаль падаў з рук. Заходзіў у майстэрню і праз паўгадзіны выходзіў. Ішоў на натуру, ставіў эцюднік і адыходзіў, не мог пісаць. Гэтак жыў, пакуль аднойчы не адчуў, што ніводная карціна, які б геній яе ні стварыў, не можа спасцігнуць, не толькі вычарпаць, усёй глыбіні сусвету, усю яго гармонію, бо пошукі мастацкага вобраза, найвышэйшай мастацкай ідэі — вечныя. І вечнымі будуць адкрыцці? Ці не гэтак думаў Паленаў, калі казаў, што карціна Іванава то абсякае крылы, то акрыляе? У ім таксама змагаліся два пачуцці: адно абяззбройвала, другое — натхняла? І калі б не Іванаў, не яго Хрыстос, ці паехаў бы Паленаў у Сірыю, Егіпет, Палесціну? А ў той жа час — хіба з падрэзанымі крыламі мог адважыцца на гэтакае падарожжа?

І вось — Венецыянаў. Такое шчасце — апынуцца на яго зямлі! Нібы казачны асілак, ён перавярнуў і паставіў на ногі нацыянальны жывапіс, прымусіў мастакоў убачыць селяніна ў вёсцы, у сваёй працы, на сваёй любай і горкай зямлі. Каб не ён, хіба з'явіліся б перадзвіжнікі? Ад яго — увесь новы жывапіс: Саўрасаў, Сурыкаў, Паленаў, Макоўскі, Пранішнікаў, Рэпін... Але, калі тут — мужыкі і бабы Венецыянава, іх і яго вёскі, хаты, палі, то дзе ж тады неба, зямля і вада Левітана?.. Біруля не мог уявіць, каб яны, Венецыянаў і Левітан, пісалі свае карціны на адных дарогах, у адным лузе, полі, лесе. Венецыянаў — асобны свет, як асобны, ні з кім не падзелены свет — Левітан. Прырода, якую пісаў Левітан, не магла адкрыцца яшчэ каму-небудзь. Бо не толькі мастак яе знаходзіць. Яна знаходзіць мастака. Свайго, адзінага.

— Стой, Фёдар! — закрычаў Біруля, ускочыўшы з сядзення і трымаючыся за плячо Вольгі Іванаўны.— Сто-ой!..

Віхроў азірнуўся:

— Навошта, барын? Вось — дом памешчыка Калакольцава.

Толькі цяпер Вітольд Каятанавіч заўважыў, што тарантас коціць па шырокай цяністай алеі старых бухматых елак, за якой сонечным святлом блішчала люстра возера,

а над вадою, на высокім беразе, блакіт і сонца ад азёрнай вады адбіваліся ў вокнах вялікага аднапавярховага дома.

Дом адразу падаўся светлым, цёплым, гасцінным.

## ЦВІЛА ЛОТАЦЬ

Гэтакім, як здаўся з першага погляду, ён і быў: светлым, цёплым, гасцінным.

Паколькі сам Калакольцаў у маёнтак яшчэ не прыехаў, а яго маці, гаспадыня, жыла ў флігелі, дом стаяў пусты. Сонца вясны лілося праз вялікія вокны, святло выпраменьвалі сцены і столь — высокія і чыстыя, усе восем пакояў, з густам абстаўленыя старой мэбляю з чырвонага дрэва, карэльскай бярозы і ясеню, упрыгожаныя карцінамі, пераважна паляўнічымі пейзажамі, камінамі і высокімі кафельнымі грубкамі, прываблівалі, запрашалі ў сваю строгую ўтульнасць. Асабліва госці абрадаваліся раялю, таксама з чырвонага дрэва. Вольга Іванаўна была цудоўнай піяністкай, спявала, а Вітольду Каятанавічу пасля бадзянняў з эцюднікам і стрэльбаю для адпачынку часта не хапала любімай музыкі. Здавалася, тут музыка жыла ва ўсім — у водары яблыневага саду, што пад самымі вокнамі ўжо налiваўся сокамі квецені, у водары сасновага бору, які стаяў адразу за садам і называўся Красаўкай, у парку і возеры, у цішыні і спакоі, якія атульвалі ўсё жывое. Можа, быў гэтакі дзень прыезду, можа, была гэтакая пара года, можа, у прыродзе адбывалася штосьці незвычайнае, але ў доме, у кожным яго пакоі, у садзе, у парку, у бары і на беразе возера панаваў той настрой велічнай цішыні, у якой ясна думалася і адразу з'яўлялася жаданне пісаць карціны.

Захапленню не было межаў, асабліва калі Вітольд Каятанавіч дазнаўся ад старэнькай Калакольцавай, што адсюль, ад Варанiхі, усяго пятнаццаць вёрст да Астравенскага возера, на беразе якога маёнтак памешчыка Ушакова, што ў доме Ушакова доўгі час жыў і пісаў свае цудоўныя эцюды і карціны Ісак Ільіч Левітан, што на другім беразе возера, насупраць дома Ушакова, у маёнтку Горка, жыла Турчанінава, і Ісак Ільіч, закаханы ў яе, Ганну Мікалаеўну, а пасля і ў яе слаўных дачок, асабліва ў малодшую Юлю, якую называў ласкава — Люлю, перасяліўся да Турчанінавых, і там, у Горцы, у апошнія гады жыцця пражыў сваю другую ды і безумоўна самую светлую і плённую ў рабоце маладосць. А Венецыянаў? Яго маёнтак Кастравіцкае быў зусім

у іншым баку, хоць таксама блізка, і там была яго магіла.

У той першы дзень Вітольд Каятанавіч спяшаецца адаслаць лісты сябрам. Ён з захапленнем апісвае маляўнічую ўтульнасць Вараніхі і запрашае да сябе на лета — пісаць карціны і паляваць.

Ён любіў адзіноту і ад яе пакутаваў. Як жывапісец і паляўнічы, ведаў, што на адзіноце з прыродай, у прыродзе, калі яе не парушае нічыя выпадковая прысутнасць, у цішыні, нараджаюцца самыя мудрыя, глыбокія, прыгожыя думкі, пачуцці, словы, гукі, колеры, нарэшце — лепшыя карціны. Але ў ім самім, як ва ўсім жывым, былі супярэчнасці. Адна з іх — у любові, разам з імкненнем у цішыню і адзіноту, да вясёлай сям'і, да жыцця сярод добрых людзей, у імкненні і дзіўным уменні збіраць вакол сябе шумную вясёлую сябрыну. Гэта ішло, мабыць, ад маці, ад роднага, у доме бацькоў, быту, яшчэ тых няпісаных сямейных правіл жыцця.

Праз некалькі дзён, калі Вітольд Каятанавіч і Вольга Іванаўна паспелі хіба толькі ўладкавацца ў пакоях і пазнаёміцца з ваколіцамі, абысці Кезадру і Красаўку, але яшчэ не паклалі ніводнай фарбачкі на палітру, да іх у Вараніху прыязджае Сцяпаша, як любоўна называлі Сцяпанава Аляксея Сцяпанавіча, свайго настаўніка, навучэнцы вучылішча жывапісу. Ён з захапленнем пісаў звяроў, назіраў за імі, проста любіў іх, і гэта часта перамагала ў ім паляўнічага. Аднойчы на яго пайшоў мядзведзь. Вітольд Каятанавіч гэта бачыў, але страляць не мог — яны, мядзведзь і Сцяпанаў, аказаліся побач. Страляць павінен быў Сцяпанаў, але і той не страляў. Што здарылася? Сцяпанаў збочыў, даў зверу дарогу, і мядзведзь пайшоў, не зачапіўшы паляўнічага. Пасля апраўдваўся: «Як я мог страляць, калі ён прэцца на мяне праз корч, а вочы такія добрыя, даверлівыя — за што забіваць?»

Следам за Сцяпанавым прыехаў самы блізкі сябра Вітольда Каятанавіча Станіслаў Жукоўскі. Сярод мастакоў іх, двух беларусаў, называлі шалёнымі паляўнічымі. Абодва былі фанатыкамі палявання, але гарачы тэмперамент Жукоўскага неаднойчы абодвум нёс непрыемнасці. Калі Жукоўскі, што здаралася, праўда, рэдка, страляў міма,— гэта было пачаткам разладу. Пасля няўдалага стрэлу ён, неверагодна хвалюючыся, спяшаючыся, зноў і зноў ляпіў міма, і тады ці сам адыходзіў ад Вітольда Каятанавіча, ці гнаў яго ад сябе.

У Вараніху сябра прыехаў з жонкаю, і Бірулі ўступілі ім два лепшыя пакоі.

Раўнавагай Жукоўскаму быў спакойны Мараваў. Нібы дзеля гэтай раўнавагі і спакою ў Варанісе ён з'явіўся адразу за Жукоўскім. Мараваў хоць і хадзіў за кампанію з сябрамі на паляванні, але стрэльбу часта забываў у пакоі на сцяне, а яго сабака быў вельмі падобны характарам на гаспадара і бегаў па лесе і азёрах дзеля свае сабачай асалоды. У вачах у абодвух была не лянота, а проста думка, далёкая ад палявання. Спакойны, разважлівы, чарнявы Мараваў больш за паляванне любіў музыку, песні. Але якое спяванне магло быць без Багданава-Бельскага? На гэты раз Багдаша, як яго звалі сябры, прыехаў следам за Марававым.

Пасяліўся Багданаў-Бельскі за чатыры вярсты ад Вараніхі ў Пажынках, маёнтку мастака Галкіна, каб не перапаўняць дом Калакольцава галасамі і шумам. Чалавек ён быў таварыскі, і гэтыя чатыры вярсты не разлучалі з сябрамі. Асабліва весела было па вечарах, калі вярталіся з палявання. Прыгатаваная жанчынамі дзічына ўпрыгожвала вялікі стол, вячэралі ўсе разам і гаварылі да поўначы і пазней, спрачаліся і спявалі. Вольга Іванаўна сядала за раяль, вялікую светлую гасцінную напаўнялі мелодыі Шапэна, Чайкоўскага, Бетховена, спявалі рамансы, гаварылі пра жывапіс, музыку, літаратуру. Вольга Іванаўна і Аляксандр Віктаравіч Мараваў былі выдатныя знаўцы гісторыі мастацтваў. Але неўзабаве ўсе замаўкалі, калі Мараваў і Багданаў-Бельскі садзіліся побач на канапу, бралі ў рукі балалайкі, якія вазілі з сабою:

Івушка зялёная
Усю ноч прашумела...

Днём працавалі.

Вітольд Каятанавіч пісаў вёску Галадзяіху, суседнюю з Вараніхай, дзе на ўсе двары была адна кабылка, але наймацней яго прывязала да сябе возера Кезадра. Ціхае ў ахове сасновых бароў, нават санлівае, яно пастаянна мяняла сваё каляровае аблічча, рэагуючы на самыя нязначныя рухі воблакаў, ветру, сонца, месяца. Усё гэта адбывалася непрыкметна, і непрыкметна мянялася каляровая гама азёрных берагоў, лесу, рэагуючы на настрой азёрнага люстра. Назіраць за гэтым было цікава, і Вітольд Каятанавіч, калі нават не пісаў гэтых да цнатлівасці чуйных пейзажаў, любіў падоўгу ўглядацца ў іх, у спакойную гульню мяккіх колераў і святла, пры якой заўсёды, у любое надвор'е, панавала нейкая пэўная танальнасць. Левітан сто разоў меў рацыю: не фарбы, а тон, толькі тон валодае душою пейзажа. Ке-

задра пра гэта нагадвала кожны раз, калі Біруля прыходзіў на бераг і заставаўся тут адзін. У цішыні вока было вастрэйшае. Ён даўно пачаў заўважаць, што ў кожнага возера свая гама, свой тон, не аднолькавыя, не пастаянныя, але заўсёды свае. Кезадра чаравала перламутравымі танамі, падсвечанымі то мяккай шэранню раніцы, то барвянцам вечара, то блакітам, ледзь-ледзь, нібы на ўсю прастору возера з нябёсаў зляцела ўсяго адна-адзіная кропелька ультрамарыну. Часам у вочы кідалася нечаканае, нідзе не бачанае срэбра, акрэсленае цёмным шнурочкам ночы, і яна, гэта амаль не ўбачаная, амаль угаданая ноч, дзе панавала звонкае, як саборны гук, срэбра, наганяла сум. Вітольд Каятанавіч успамінаў возера Няшчэрда, бацькаў краснапольскі дом, беленькую каплічку і каля яе, ці ў ёй, ці на яе фоне — Зосю. Гэта быў цяжкі ўспамін. Адвярнуўшыся ад возера, каб яго не бачыць, спяшаўся ў лес ці дом. Але возера лёгка не адпускала. Спыняўся, азіраўся, зноў спяшаўся адсюль, нібы за штосьці быў вінаваты не то перад возерам Кезадра, не то перад Зосяй.

Самота, думкі пра Зосю вярталі да Левітана, і тады зноў адчуваў у душы разгубленасць, якая падказвала, што трэба ехаць на Астравенскае возера — у Горку і Астраўно.

Сябры пісалі больш засяроджана, і ён не ведаў, як ехаць — з імі ці без іх? Ім, бачыў, тут добра працуецца — як адарваць ад эцюдаў, карцін? Ехаць аднаму ці з Вольгай Іванаўнай? А ці яны не пакрыўдзяцца?

Жукоўскі знайшоў тое, што заўсёды марыў знайсці — багаты дом у ранішнім ці вячэрнім, ад сонца і месяца, асвятленні, парк з возерам, светлыя інтэр'еры, тэрасы. Ціхія маёнткі яго захаплялі, а тут было не проста ціха, а ўтульна, тут усё грэла душу.

Яшчэ больш работы, здавалася, было ў Маравава і Багданава-Бельскага. Яны сябравалі з вясковымі дзецьмі. Любоў была ўзаемная. Мараваў і Багданаў-Бельскі любілі вёску, яе быт, сялян, усё гэта пісалі. Багданаў накідваў адзін за адным эцюды з дзецьмі, а Мараваў пісаў возера, лодкі, рэчку Варонку. Дзеці прыходзілі ў чыстых новых кашульках, і калі мастакі пыталіся, чаму апранутыя, як на свята, яны казалі:

— А можа, вы нас у старым пісаць не захочаце? Мы заўсёды для вас рады стаяць, як вы скажаце.

— Мне мамка пашыла новую кашульку.

— А ў мяне новы сарафан.

— А мне мамка казала, каб кашульку я не вымазваў, каб

быў чысты, а то Мікалай Пятровіч будзе з мяне бруднае спісваць.

У кішэнях рабочай курткі Багданава-Бельскага для сялянскіх дзяцей заўсёды ляжалі арэхі і ледзянцы. Затое і першыя ягады былі ў яго. Іх яму неслі дзеці.

Прыехаў у Вараніху па запрашэнні Вітольда Каятанавіча яшчэ адзін яго сябра па вучылішчы жывапісу — Анатоль Іванавіч Мухін. Вучань Пастарнака і Сярова, ён быў выдатным рысавальшчыкам, асабліва ў жанрах партрэта і сюжэтных карцін. І вось у Варанісе, яму не пашанцавала. Ён закахаўся ў дачку мясцовага дзяка, вельмі прыгожанькую, пачаў пісаць яе партрэт, але ў гэты час тут знаходзіўся пецярбургскі тэатр «Крывое люстра», артыст якога Ягораў таксама захапіўся дзяўчынай. Хтосьці павінен быў уступіць. Але — хто? Кожны дзень Мухін прыходзіў у дом дзяка, пісаў партрэт дзяўчыны, і гэта канчаткова раз'ятрыла Ягорава. Аднойчы, калі сцямнела і Мухін вяртаўся ад дзяўчыны з куфэркам, у якім ляжалі фарбы і пэндзлі, з лесу выйшаў Ягораў. Яго нельга было пазнаць, бо ён быў апрануты пад незразумелага страшэннага звера. Мухін спалохаўся, уцякаў, не азіраючыся, і ў гэты час, калі бег, куфэрак раскрыўся, і з яго высыпаліся фарбы і пэндзлі. Схаваць гэта ад сяброў было немагчыма. Уся вёска смяялася з няўдалага кавалера. Ён вельмі перажываў.

Мастаку наогул не шанцавала ў каханні. Аднойчы ён расказаў Вітольду Каятанавічу яшчэ больш драматычны выпадак.

Мухін кахаў артыстку Вялікага тэатра Грэміну. Яны збіраліся пажаніцца, але жаніху трэба было выканаць жаданне наравістай нявесты. Ён быў з роду данскіх казакаў, і яна патрабавала, каб выйшаў з казацтва, зняў з сябе гэта званне і атрымаў свой грашовы пай ад казацкай станіцы. Мухін нарэшце з'явіўся ў станіцу і заявіў, што адмаўляецца ад звання данскога казака. На плошчы атаман сабраў войска. Іграў духавы аркестр. Атаман падняўся на ўзвышэнне і сказаў прамову:

«Мы шануем і цэнім казакоў Мухіных, якія мужна абаранялі святую рускую зямлю. А сёння мы бачым маладога Мухіна, які просіць аб выхадзе з казацтва і вяртанні яму грашовага пая. Дык што мы, казакі, скажам на гэта? А скажам мы яму — адно: «Гнілая трава з поля — вон!» І казакі, усе, якія былі на плошчы, ускінулі ў паветра шаблі: «Вон! Вон! Вон!»

Расказваючы гэта Вітольду Каятанавічу, Мухін хапаўся

за галаву і плакаў. Яго бяда, можа, была б меншай, каб хоць ажаніўся з артысткай. А то ж і гэтага не адбылося.

Дні каціліся. Адбуяла вясна, заціхлі паляўнічыя стрэлы над возерам, шумныя, з-пад стрэлаў, пералёты качак, шлюбныя бакасіныя песні і цяга слонак. Стрэльбы былі пахаваны, сабакі прыціхлі. Затаіліся са сваімі эцюднікамі па берагах Кезадры мастакі. Багданаў-Бельскі па некалькі дзён не заглядаў у Вараніху, хаваючыся ў Пажынках; Мараваў кожную раніцу на ўвесь дзень пакідаў дом, знікаючы на берагах возера; Жукоўскі нікуды далёка не ішоў, пісаў заўсёды ў пакоях, на тэрасе ці ў парку, але пацішэў і ён, аддаўшыся рабоце, зрэдку падаючы голас, перасвістваючыся дзе-небудзь у парку з птушкамі; Мухін жыў зусім ціха, усё роўна як глыбока перажываючы свае няўдачы з жанчынамі, але працаваў шмат над партрэтамі; Сцяпанаў адзін за адным пісаў эцюды гуашшу. Вольга Іванаўна, паддаўшыся агульнаму творчаму настрою, таксама ўзялася за эцюды — у вучылішчы жывапісу, дзе яна вучылася разам з Вітольдам Каятанавічам, Марававым, Жукоўскім, Багданавым-Бельскім, яе работы высока ацэньвалі, і калі выйшла замуж і пакінула натурны клас, настаўнікі вельмі шкадавалі.

Працаваў і Вітольд Каятанавіч. Акрамя вёскі Галадзяіхі, ён пісаў карціны «На возеры Кезадра» і «Дом у Пажынках». Але час ад часу думкі адрываліся ад карцін і эцюдаў, фарбы і пэндзлі сохлі, настрой мяняўся. Ужо каласілася лета, пачыналася пара сенакосу, а ніяк не мог пакінуць Вараніху, сяброў — усё не ехаў у Астраўно і Горку. Думкі пра Левітана пачыналі хваляваць мацней, незадаволенасць сабою абвастрылася. І вось аднойчы ён пасылае хлапчукоў да Фёдара Віхрова, каб той з'явіўся з тарантасам.

У Астраўно выехаў для ўсіх нечакана, узяўшы з сабою толькі Вольгу Іванаўну.

## АПОШНІЯ КВЕТКІ ЛЕВІТАНА

У занатоўках, якія Вітольд Каятанавіч рабіў у апошнія гады жыцця, ёсць радкі:

*Пра Левітана трэба пісаць кнігу. Яна павінна называцца «Апошнія кветкі Левітана»*

*Гэту кнігу я пачаў*

Кнігу пра настаўніка і любімага мастака, які, мабыць, як ніхто іншы паўплываў на творчасць Бірулі, з якім яго яднаў сам Бог, сам Дух, сам Боль, ён не паспеў напісаць. Але пакінуў некалькі старонак пра той самы дзень, калі сеў з Вольгай Іванаўнай у тарантас Фёдара Віхрова і мяккай прасёлкавай дарогай пакаціў у Астраўно да памешчыка Ушакова.

Будзем, дарагі чытач, лічыць, што нам пашанцавала. Дзень, які ў многім вызначыць далейшае жыццё нашага героя, паслухаем з вуснаў самога Вітольда Каятанавіча.

*Маёнтак Ушаковых называўся Астраўно і размяшчаўся на беразе Астравенскага возера. Стары дом быў у стылі ампір з зялёна-блакітнымі ад даўніны шыбкамі ў вокнах і шырокай лесвіцай, якая маршамі і пляцоўкамі спускалася з балкона ў сад, зарослы шыкоўнымі кустамі бэзу. Лесвіца была адных гадоў са старым домам*

*Мікалай Уладзіміравіч Ушакоў жыў у асобным флігелі, які, жартуючы, называў шале безнадзейнага халасцяка, а сёстры, Соф'я і Варвара, жылі ў доме. Гэта быў мужчына шмат старэйшы за сярэднія гады, шатэн, незвычайна прыемны, з цудоўнымі рысамі твару і прыгожымі блакітнымі вачыма, амаль сівой галавой і прыкметна пасівелымі бравымі вусамі. Старэйшая з сясцёр Соф'я ўражвала сваім падабенствам са знешнасцю Екацярыны II, а малодшая Варвара яшчэ захавала інстытуцкую звычку закочваць вочы і ахаць. На мае пытанні пра Левітана і яго тут работу яна адказвала з какецтвам старой дзевы: «Што вы, што вы! Якія карціны? Хіба магла я бачыць іх, калі ўвесь час хацелася глядзець у цудоўныя вочы Ісака Ільіча?»*

*Нас з жонкай правялі ў пакоі, якія некалі займаў Ісак Ільіч з вучаніцай Соф'яй Кувшыннікавай. Пакоі былі вельмі светлыя, белыя, без шпалераў. Вокны аднаго з іх выходзілі на захад, адкуль Левітан бачыў, як садзіцца сонца. Другі пакой — з балконам і цудоўным відам на возера. У гэтым другім пакоі стаяў даўніх часоў клавесін. Адсюль, з балкона, і вяла маршамі лесвіца ў прыгожы, нібы казка, бэзавы сад. Паказваючы сад, Варвара Уладзіміраўна звярнула нашу ўвагу на абшыўку дома пад акном, дзе было шмат фарбы, знятай з палітры мастэхінам, і сказала: «Сябе ў працы не шкадаваў, але і фарбаў не шкадаваў»*

*Гаспадары гасцінна прапанавалі нам з Вольгай Іванаўнай заняць два левітанаўскія пакоі і яшчэ далі для карыстання некалькі пакояў, разам з вялікай залай з хорамі для*

*работы. Мы размясціліся ў іх з радасцю, прадчуваючы асалоду жыць у паэтычнай, дарагой і любімай для Левітана прыродзе*

*Усё, рашуча ўсё гаварыла мне тут пра Ісака Ільіча*

*Праз колькі дзён у Астраўно прыехаў мой сябра Аляксандр Віктаравіч Мараваў*

*Аднойчы ў нядзелю мы сядзелі за круглым сталом у старэйшай сястры Зосі Уладзіміраўны і пілі ранішні чай, калі бадзёрымі крокамі да нас зайшоў Мікалай Уладзіміравіч. Ён быў у светлай сарочцы, цёмна-сіняй, з тоўстага сукна, паддзёўцы, усім аблічам нагадваючы тыповага рускага двараніна*

*— Са святам. Сёння нядзеля,— сказаў ён і падышоў да стала.— Учора Піліп Пятроў прывёз Юлію Іванаўну Турчанінаву ў Горку. Наш край азарыла сваёй усмешкай Люлю.— Паглядзеўшы на Аляксандра Віктаравіча, заўважыў: — Вам, маладому прыгажуну, трэба старанна пагаліцца. Вось Вітольду Каятанавічу гэта неабавязкова, ён бландзін, ды і мне без патрэбы, у мяне ўся прыгажосць у вусах*

*Я заўважыў:*

*— Вы памыляецеся, Мікалай Уладзіміравіч. Ваша прывабнасць у вашых вачах, і я ўпэўнены, што калі б вы жадалі, то не былі б халасцяком ды яшчэ безнадзейным*

*— Быль молайцу не папрок,— засмяяўся Ушакоў*

*Неўзабаве мы, трое мужчын, выйшлі з дома і накіраваліся пеша ў Горку. Стаяў цудоўны дзень лета, на лузе ляжала скошаная трава, разліваючы ў паветры пах мёду. Мікалай Уладзіміравіч, узяўшы жменю травы, сказаў:*

*— Сена сухое, трэба звозіць*

*Каля павароткі ў маёнтак, звяртаючыся да Аляксандра Віктаравіча, заўважыў:*

*— Будзем шчырыя, небяспека вялікая. Не столькі для Вітольда Каятанавіча, ён мае сям'ю, як для вас, Аляксандр Віктаравіч*

*Мураваў адкашляўся і адказаў:*

*— Мы думаем цяпер пра работу, а не пра радасці, тым больш мімалётныя*

*Якраз агіналі бор, які падыходзіў да дома, і Ушакоў паказаў нам на ледзь прыкметную дарожку:*

*— Вось Юлія Іванаўна скажа, чым ёй гэта дарожка памятная. Тут я неаднойчы дапамагаў ёй сесці ў сядло. Яна чамусьці любіла садзіцца з гэтага пянёчка*

*Калі мы падышлі да чорнага ганка дома, сэрца скаланулася ад нечаканага малюнка*

*— Стойце! Стойце! — прагаварыў я.— Мне знаёмае гэта месца. Праўда, усё тут было ў зімовым уборы, а бочка ляжала на санях з канём. Той сакавік у мяне перад вачыма.*

Вітольд Каятанавіч успамінае карціну Левітана «Сакавік»: ганак дома, ля яго — конь, запрэжаны ў сані, на санях — бочка, абапал — лес, і снег — вяснова і вечарова сіні, як сіні апошні раз, падточаны вясновай і вечаровай чырванню, дакладней — ружовасцю. Сінізна і ружовасць: чагосьці канец, чагосьці пачатак, канец зімы і, можа, не толькі зімы, пачатак вясны і, можа, не толькі вясны? Самота і лёгкая надзея.

*Абышоўшы дом, мы трапілі ў кветкі, ружовыя і белыя ружы і флоксы, якімі сад быў літаральна ўсыпаны. Насустрач выйшла пакаёўка Глаша. На пытанне Мікалая Уладзіміравіча, ці дома гаспадыня, адказала, што Юлія Іванаўна дома. Ушакоў папрасіў далажыць, што прыйшоў з гасцямі, маскоўскімі мастакамі*

*І вось дзверы балкона расчыніліся, і Глаша запрасіла нас у сталовую. Мікалай Уладзіміравіч прапанаваў нам сесці, адчуваючы сябе як дома*

*Пакой быў напоўнены водарам суніц, якія ляжалі ў блюдах на стале. У акно весела глядзела сагрэтае сонцам неба, было шмат святла, лёгкая святочнасць жыла ў доме. Дзверы адчыніліся, і з яснай маладой усмешкаю да нас выйшла Юлія Іванаўна. Мікалай Уладзіміравіч паважліва падышоў і павіншаваў яе з прыездам у Горку. Паглядзеўшы ў наш бок, сказаў:*

*— Гэта маладое мастакоўства з Масквы*

*— Надоўга? — пацікавілася яна*

*За нас адказаў Ушакоў:*

*— Яны народ вольны, нічым не звязаны. Магчыма, і зіму прыхопяць*

*— А я вымушана адсюль паехаць,— сумна заўважыла Турчанінава.— Самае галоўнае, што з Горкай я развітваюся назаўсёды. Абставіны прымушаюць мяне прадаць яе. Нас, дочак, у мамы шмат, і шмат патрэб. З Горкай у мяне звязана ўсё самае цудоўнае, што ніколі ўжо не паўторыцца*

*Пасля чаю, які мы пілі з суніцамі, Юлія Іванаўна прапанавала паказаць нам месцы, дзе працаваў Ісак Ільіч. Калі мы ўвайшлі ў сад, я зноў быў уражаны разлівам флоксаў, якія дружна цвілі, і не ўтрымаўся, каб не спытаць:*

*— Юлія Іванаўна, скажыце, чаму ў вас гэтак шмат*

*флоксаў? Можна падумаць, што іх развялі на продаж?*

*Усміхнуўшыся, Юлія Іванаўна сказала, што Ісак Ільіч вельмі любіў кветкі, асабліва флоксы, і што мама яе, Ганна Мікалаеўна, саграваючы клопатам і любоўю Ісака Ільіча, пасадзіла ўсё гэта для яго*

*Мы абагнулі берагам возера Горку, прайшлі па бярозавай алеі, зноў жа знаёмай — напісанай Левітанам у месячную ноч з ценямі на дарожцы. Некалі мы з Жукоўскім бачылі яе, завітаўшы ў майстэрню да мастака, калі сустрэліся з ім на Чыстых Сажалках. Тады ён апантана цёр неба над алеяй шкляной паперай, адчуўшы, што яно крычыць*

*Бліжэй да берага, на высокім узгорку, ляжалі рэшткі спаленай пабудовы. Яны яшчэ не зараслі хмызняком, грувасціліся чорнымі асмалкамі, пахлі, як на свежым пажарышчы*

*— Тут стаяла майстэрня Ісака Ільіча з высокім акном на поўнач,— сказала Юлія Іванаўна.— Мама бачыла, што яму трэба пісаць вялікія карціны, а пакоі ў нашым доме невялікія, і яна пабудавала яму гэту майстэрню*

*Абагнуўшы возера, мы апынуліся ў бары, раскінутым па ўзгорках. Ці не адсюль назва — Горка? З гары вачам адкрывалася глыбокая лагчына з блакітна-зялёным мохам, па якім раслі танклявыя бярозкі. Усё гэта выглядала незвычайна маляўніча на фоне лесу. Прыгадалася карціна Левітана: залатыя бярозы на фоне аліўкавай зеляніны бору, а ўнізе — карункі папараці*

*Мы выйшлі з бору. Перад намі былі рэчка і лагчына з лісцвяным падлескам і даляглядам на вёскі Дароніна і Стракалава. Гэты краявід нагадаў яшчэ адну карціну — «З гары»: вёсачку, за якой — глыбокія лясныя далягляды*

Тут Вітольд Каятанавіч штосьці недагаворвае. Тут ён быццам вядзе рэпартаж з месца падзей. Так, ён, жывапісец, бачыць дакладна, адкуль і што браў Левітан для сваіх карцін, што выбіраў і адбіраў, што выносіў на першы план, што — на другі, што — у перспектыву. Але сам ці гэта шукае? І гэта, вядома, але ці гэта галоўнае? Конь, сані, ганак, золата бяроз, карункі папараці, вёскі на даляглядзе — хіба гэта хвалявала, калі глядзеў на карціны Левітана? Што хвалявала? І ці засталося тое хваляванне, роўнае разладу з самім сабой, адчаю і немагчымасці працаваць? А можа, ён цяпер стрыманы? Скажа пасля?

*Борам мы выйшлі на знаёмую сцежку. Мікалай Уладзіміравіч спыніўся, павярнуўся да Юліі Іванаўны:*

*— І пянёчак — той самы? Стаўшы на гэты пянёчак, вы садзіліся на каня, а хто ўвішным гусарам папраўляў сядло, дапамагаў вам сесці? І ці памятаеце вы, як Ісак Ільіч, нібы выпадкова, выходзіў вам насустрач, калі вы вярталіся з прагулкі?*

*— А вы, Мікалай Уладзіміравіч, той самы — калючы,— усміхаючыся, адказала Юлія Іванаўна*

*Калі мы вярнуліся, я спытаў у Юліі Іванаўны, ці ёсць у яе работы Левітана. Яна адказала, што пра карціны, якія былі ў мамы, нічога не ведае, а ў яе ёсць альбом, у якім Ісак Ільіч маляваў ёй на памяць*

*— Я даражу ім*

*Яна прынесла альбом, і я ўбачыў выкананыя акварэллю бярозавую алею, астравенскую царкву, некалькі разоў паўтораныя лілеі — у крышталёвым бакале, у бірузовай вазачцы з залочанымі беражкамі. Кожная акварэлька мела свой надпіс з прысвячэннем: «Дарагой і мілай Люлю...»*

*Калі мы разглядалі альбом, Юлія Іванаўна сказала:*

*— У мамы былі фотаздымкі Ісака Ільіча. Але ні на адным я не магу ўбачыць яго цудоўных вачэй. У іх заўсёды выразна жылі самота, задумлівасць*

На гэтым Вітольд Каятанавіч заканчвае яшчэ адну старонку апавядання і не спяшаецца пачынаць наступную. Заўважыў хваляванне Юліі Іванаўны? Безумоўна. Ён быў не толькі жывапісец, але і паляўнічы: зрок, слых, інтуіцыя — выдатныя. Ды і жанчын бачыў наскрозь. І разам з тым выхаванасць, тонкі густ, такт не дазвалялі гэта падкрэсліваць. Проста пакінуў маналог Юліі Іванаўны адкрытым.

Зрабіў паўзу, прасвет. Памаўчаў, пазначыў лічбай наступны раздзел апавядання і толькі пасля гэтага прадоўжыў.

*Назаўтра, маючы запрашэнне Юліі Іванаўны, я зноў падыходзіў да Горкі, каб яшчэ раз пачуць з яе вуснаў: «Ісак Ільіч...» Праз дрэвы ў кветніку адразу заўважыў гаспадыню дома*

*— Вельмі добра, што прыйшлі,— прывеціла яна.— А то я ўжо думаю пра ад'езд у Пецярбург*

*Я заўважыў, што Юлія Іванаўна самотная, якой не была ўчора, што самота зноў і зноў, нібы аблачынка, набягае на яе твар*

*Мы выйшлі да возера. Спыніўшыся на беразе, яна сказала:*

*— Тут Ісак Ільіч пісаў лілеі. Мы з ім прыплывалі сюды на лодцы. У яго было зусім кепска з сэрцам. Грэбці ён ужо не мог, і мама пасылала мяне. Вы бачылі яго вялікія эцюды? Вада і лілеі*

*Я адразу іх прыгадаў. Хіба можна забыць ціхае люстра вады, праз якую прасвечвае дно, і пяшчотныя белыя лілеі?*

*— Мы прыплывалі на лодцы, апускалі на дно камень, на вяроўцы, каб вада не адносіла лодку, і Ісак Ільіч працаваў. Аднойчы мы прыплылі з ім сюды ў белую ноч. Ісак Ільіч задумаў напісаць карціну «Лілеі ў белую ноч», і яму трэба было бачыць іх у святле белай ночы. Як заўсёды, я была на вёслах. Зачапіўшы вяслом некалькі лілей, я іх паднесла яму. Ён узяў адну і пацалаваў. Я сказала, што лілеі хутка завянуць, а мне вельмі хочацца мець іх у сваім альбоме на памяць*

*Я ўспомніў альбом Люлю з лілеямі Левітана. Нечакана прыгадаліся і вершы А. К. Талстога:*

*Труба пастушья по утру*
*Еще не пела звонко*
*И в завитках еще в бору*
*Был папоротник тонкий.*

*— У вас цудоўная памяць,— цяжка ўздыхнуўшы, сказала Юлія Іванаўна*

*Самота і задумлівасць па-ранейшаму былі ў яе на твары і ў вачах*

Здаецца, яшчэ адно слова пачуем ад Юліі Іванаўны, і перад намі паўстане пытанне: ну, а што з вучаніцай Ісака Ільіча Куўшыннікавай? Дзе ў гэты час яна? Спала ў белую ноч? Ах, яна яшчэ дагэтуль пакінула і Астраўню, і Горку — не вытрымала раўнівае сэрца. Ну, а... што ж Юліна мама — Ганна Мікалаеўна Турчанінава?..

Але ўсе пытанні пакуль што адводзіць, да месца замаўкаючы, Юлія Іванаўна. Ці гэта — воля Вітольда Каятанавіча?

Ах, маэстра! Лаканізм і мастацкая мера не здраджваюць і тут, у слове? Што ж, талент — усюды талент.

Але ёсць і трэці раздзел апавядання.

*Мы сустрэліся з Юліяй Іванаўнай і яшчэ аднойчы. Было гэта ў верасні, калі Мікалай Уладзіміравіч паведаміў мне, што Люлю ад'язджае*

*Восень дыхнула на Горку. Клёны скідалі чырвонае лісце,*

*высцілаючы дарожкі алей парчовымі дыванамі. Набліжаўся вечар, і Глаша ставіла самавар*

*— Вось мы з вамі і расстаёмся,— сказала Юлія Іванаўна.— Мне цяжка пакідаць Горку. І разам з тым хочацца хутчэй з'ехаць адсюль, каб назаўсёды захаваць у памяці яе такой, якой яна была ў дні маёй маладосці, у дні Ісака Ільіча*

*У доме стаяла цішыня, і было чуваць, як у бары seклі лес: багаты селянін Агей Маркаў спяшаўся адчуць сябе гаспадаром набытага маёнтка. Мы сядзелі ў гасцінай. На раялі стаяў букет руж з тых самых кустоў, якія так любіў Левітан. Яны былі апошнім яго пацалункам Юліі Іванаўне. Яна маўчала. Некалькі пялёсткаў, зляцеўшы з бутонаў, ляжалі на чорным бляску раяля*

*Парушыўшы цяжкую цішыню, я папрасіў яе сыграць што-небудзь з таго, што любіў Ісак Ільіч*

*— Ну што вы, я кепска іграю. Вось мама іграла добра*

*Усё ж яна села за раяль, і загучала «Баркарола» Чайкоўскага, якую вельмі любіў Левітан. Музыка ляцела праз адчыненае акно ў бор, у неба, пад якім жыў і тварыў незабыўны мастак*

*Раптам Юлія Іванаўна ўсхапілася, падышла да акна. Яе плечы ўздрыгвалі*

Няцяжка заўважыць, што Вітольдам Каятанавічам авалодаў настрой Юліі Іванаўны, якая развітвалася з любімай Горкай, з борам, з возерам, з домам, з небам, пад якім пражыла лепшыя дні свайго жыцця. Развітвалася з Левітанам. Яшчэ раз. І не будзем ні здзіўляцца, ні папракаць нашага героя за тое, што ён, едучы сюды, на бераг Астравенскага возера, каб да канца спасцігнуць таямніцу Левітана, аказаўся ў палоне таямнічай душы Люлю, усё роўна як забыўшы на мэту прыезду.

Ці не быў гэта палон душы самога Левітана? Праз Люлю?

Зрэшты, пачуццё заўсёды апраўдвае мастака.

*Я падняўся з крэсла*

*Цяпер мы развіталіся назаўсёды*

Берагам возера Вітольд Каятанавіч ішоў з Горкі ў Астраўню. Узняўся вецер, нагнаў на неба хмары, абяцаючы навальніцу. Над галавою гайдаўся і шумеў бор, паўз возера

гнуўся і трымцеў трыснёг. Зажурылася, накрыўшыся рабаціннем, азёрнае люстра.

У бары гахнула. Вітольд Каятанавіч здрыгануўся і спыніўся. Стрэл? Прыслухаўся. Зноў — два разы. Заціхла. Сякера таго самага селяніна Агея, новага гаспадара Горкі? Але чаму здалося, што бор аглушыў стрэл? Зблытаў сякеру са стрэльбай?

І сякера змоўкла. Але адчуванне, што чуўся стрэл, не пакідала. Можа, гэта — рэха таго стрэлу, якім усе свае пакуты хацеў спыніць Ісак Ільіч? Люлю не сказала пра гэта ні слова, але расказаў Ушакоў. Ён дзіўна сказаў — спытаў: «А любая душа хіба магла ўсё гэта вытрымаць? Каханне да абедзвюх цудоўных жанчын, дачкі і маці, каханне сустрэчнае, а сіл ужо няма, сілы страчаны на тое, каб вырвацца з галечы, сіроцтва, голаду, бяспраўя ізгоя за рысай аседласці, і ўрэшце — на апошні ўзлёт таленту, духу, генія?» Яшчэ ён сказаў, таксама дзіўна: «Спроба пакончыць з сабой была няўдалая...»

Што значыць — няўдалая? Смерць абышла — гэта няўдача?

Праз некалькі дзён тут быў Антон Паўлавіч Чэхаў. Іншага доктара, вядома, побач з Левітанам быць не магло. Іншыя маглі быць абы-дзе, але не тут. Тут, дзе канала душа вялікага мастака, мог быць адно Чэхаў.

Так, Чэхаў паставіў яго на ногі. Гэта мог зрабіць толькі Чэхаў. Але — стрэл ужо адбыўся. Ён быў не бясследны. Гучаў і цяпер. Той самы...

*Прайшло шмат гадоў, як мы апошні раз бачыліся з Юліяй Іванаўнай. Яна больш не прыязджала*

Гэта — эпілог? Так, Вітольд Каятанавіч палічыў, што ён неабходны, што закончыць усю гэту гісторыю развітаннем з Люлю не можа.

*Я жыў ужо непадалёку ад Горкі ў сваёй дачы «Чайка», пабудаванай на беразе вялізнага возера Удомля. І вось аднойчы з вёскі Дароніна да мяне прыйшоў знаёмы селянін Аляксей Пагодзін і паведаміў, што барскі дом у Горцы згарэў, што на яго месцы пасецца жывёла мясцовых сялян. У памяці адразу ажыло ўсё, што было звязана з гэтым домам: Турчанінавы, Левітан, яго цудоўныя творы*

*І вось я зноў тут*

*Як усё змянілася! Там, дзе стаяў дом, шумеў малады*

*зараснік, кветнікі заглушыла трава. Але раптам на гэтым забытым людзьмі месцы я ўбачыў куст руж. Гэта былі пасынкі ад тых белых руж, якія любіў Левітан. Мне захацелася зберагчы іх на памяць пра яго і ягоную Горку. З дапамогай Аляксея Пагодзіна я выкапаў куст і пасадзіў у садзе на дачы. Куст прыжыўся. Але розныя абставіны адарвалі мяне ад дачы і саду. Пустазелле і тут схавала пад сабой куст руж з Горкі*

*Зноў мінула шмат гадоў. Прыйшла старасць, а з ёю і яе няўмольныя спадарожнікі — хваробы. Адна такая хвароба зваліла мяне ў ложак, а затым пазбавіла магчымасці хадзіць. Давялося доўгі час жыць у «Чайцы». Я ўзяўся расчышчаць сад ад пустазелля, і зноў на сонцы заблішчалі пасынкі левітанаўскіх руж*

*Мая ўвага да куста была незвычайная. І куст адгукнуўся на клопаты рук чалавека, набраў бутоны і зацвіў*

*Якое было шчасце глядзець на ружы з Горкі і думаць пра тое, што жывуць, не ведаючы смерці, не толькі цудоўныя карціны Левітана, але і яго апошнія кветкі*

Гэтым светлым акордам, які вянчае болдзінскую пару Левітана, пражытую ім у Горцы ў цяпле цудоўных Турчанінавых, Вітольд Каятанавіч заканчвае апавяданне. Цяпер ужо і мы, чытачы, у палоне яго жывапіснай музыкі, яго пачуццяў і слоў, забываем на момант, што да Левітана нас вяла таямніца яго мастацтва, а не захапленне Турчанінавымі, тая самая таямніца, што паўстала перад Вітольдам Каятанавічам як яго лёс. Але ці не забыў у Горцы пра тую таямніцу сам Біруля?

Прамога адказу на гэта пытанне Вітольд Каятанавіч не пакідае. Можа, разлічвае на нашу здагадлівасць, на тое, што сваёй інтуіцыяй мы вартыя свайго героя? Хіба Горка не вывела яго і нас да загадкавай левітанаўскай таямніцы? Драма ў Горцы — не вывела?

Эпілог з апошнімі кветкамі Левітана — хіба не пра гэта?

Ды і не будзем спяшацца ў высновах. Паглядзім, куды павядзе сцяжына з Горкі. Не ў пазнейшую пару гісторыі з кустом левітанаўскіх руж, а ў пару маладосці нашага героя — пасля развітання з Юліяй Іванаўнай Турчанінавай.

## НАД ВЕЧНЫМ СПАКОЕМ

А павяла тая сцяжына ў блізкую ад Горкі — пяць вёрст — вёску Гарусава. Яе паказала Юлія Іванаўна, дадаўшы, што на ёй сляды Ісака Ільіча. Сцяжына вывела да дома Аракчэевых на беразе возера Удомля.

Дом быў вялізны, драўляны, аднапавярховы, з мезанінам. Гаспадарылі ў ім брат і тры сястры Аракчэевы, якія да графа Аракчэева, «услаўленага» некалі Пушкіным, мелі далёкія сваяцкія адносіны. Пры доме быў вялікі сад, вакол дома шмат кветак, асабліва бэзу і язміну, акружалі яго векавыя ліпы і елкі. Стаяў дом на беразе, а насупраць, на возеры, быў востраў, які дзед Аракчэевых прайграў некалі ў карты генералу Зільману з Беластока. Калі Зільман адпускаў на волю сваіх сялян, то адпусціў і каваля Грыгорыя Іванова разам з востравам. Каваль жыў на процілеглым беразе, якое называлася Кузёмкіным, там стаялі яго дом і кузня, а на востраве сеяў жыта, за што востраў назвалі Аржанікам. Вось сюды, у дом Аракчэевых, і прыязджаў Левітан. Тут ён садзіўся ў лодку, і Аракчэеў вёз яго на востраў Аржанік.

Пачуўшы пра гэта, Вітольд Каятанавіч адразу загарэўся плысці на востраў. Лодка стаяла каля берага, вёслы ляжалі ў лодцы, але Аракчэеў аднаго не пусціў:

— Я, Вітольд Каятанавіч, меў некалі вялікае задавальненне плаваць на востраў з Ісакам Ільічом. Цяпер я хацеў бы прадоўжыць падарожжа з мастаком.

— Ну... я ж не Левітан,— сціпла паправіў Біруля.

Але гаспадар дома і лодкі сціпласці не прызнаў:

— І ўсё ж, усё ж... Мастакі — свет асобы. Нашаму брату, асабліва правінцыялу, далучыцца да вашага дзіўнага свету — свята.

Тут да іх падышла Вольга Іванаўна, і апошняя кропля надзеі на тое, каб аднаму заплысці на востраў, растала:

— І я таксама хачу на востраў.

Хмарыла з раніцы, а ўжо вечарэла, колькі разоў неба зацягвалася фіялетавымі навальнічнымі хмарамі, але ні навальніцы, ні хоць бы ціхага дажджу не было, чаканне іх было доўгім і пастутова прытупілася. І хоць неба зноў пацямнела, абвісла пад цяжарам ужо нават не фіялетавых, а сініх хмар, ніхто на іх увагі не звярнуў, тым больш што да вострава блізка, вада паміж ім і берагам нешырокая, было ціха, хмары над вадой як сабраліся ў табун, дык і віселі, нікуды не сплываючы. Вітольд Каятанавіч сеў у нос лодкі,

Аракчэеў — на вёслы, Вольга Іванаўна — на карму, і паплылі. Лодка ўжо была пасярэдзіне між берагам і вострававам, калі з-за вострава падзьмуў непрыемна халодны і неспакойны вецер. Яны плылі. Вецер мацнеў, хмары на небе прыйшлі ў рух, па вадзе пабеглі дробныя хвалі, вада ссінела, пачала біць з-пад нізу ў прыўзнятае дно лодкі.

Аракчэеў затрывожыўся, пазіраючы на Вольгу Іванаўну:

— Мы, мужчыны, да любой непагоды прывычныя. Таму тут рашаючае слова за вамі, жанчынай.

Ён быў галантны. Вольга Іванаўна ацаніла галантнасць удзячнай усмешкай, але перавяла позірк на Вітольда Каятанавіча і ўпэўнена заявіла:

— Ну што вы, гэтыя хмары вісяць з раніцы. А калі і дожджык пырсне? Вось... мы ўжо на востраве.

Аракчэеў міла ўсміхнуўся і адказаў:

— Але на востраве ні дрэўца, ні кусточка. Грыгорый пад жыта яго добра пачысціў. І калі не пырсне, а ліне як з вядра?

У гэты час над галовамі загуло, неба здрыганулася, чырвоная расколіна стрэльнула па ім з азёрнага небакраю. Узняўся вецер, сцямнела, хлестануў дождж, хлестануў і аціх. Лодка нахілілася. Аракчэеў два разы ўскінуў вёслы, і ўжо яна плыла ў бок Гарусава. Вольга Іванаўна падганяла, як забыўшы, куды плылі:

— Хутчэй!.. Няўжо не паспеем? Зараз ліне...

Аракчэеў соп на вёслах, Вітольд Каятанавіч маўчаў. Ніхто не хацеў рызыкаваць.

Ледзь паспелі вярнуцца на свой бераг, схавацца ў доме, як разгулялася навальніца. Ліло моцна і доўга, пярун біў з усіх бакоў, маланкі крэслілі неба агнянымі швамі, нібы па ім страляла сама раз'юшаная азёрная прорва. І нават калі дождж адмалаціў, адшумеў, яшчэ доўга, да самае цемені, бліскалі маланкі без грому, ціхія, на ўсё неба бліскавіцы.

У той вечар пазней як звычайна ў гасцінай запалілі свечкі. Вольга Іванаўна села за раяль і з натхненнем іграла любімага Шапэна.

Ноччу, калі ўсе спалі, Вітольд Каятанавіч выйшаў на тэрасу.

Цішыня пасля дажджу была ясная, мокрая. Чуваць было, як равочкам шумела вада, збягаючы ў возера. Недзе далёка за вострававам ціха грукатала ў вышыні, усё роўна як па небе беглі колы боскай фурманкі. А ўсё спала, і неба ачысцілася на адной сваёй палавіне, ад вострава. На той палавіне гарэлі зоры. Вітольд Каятанавіч сышоў з тэрасы ў парк і ліпавай алеяй падаўся да возера.

Лодка стаяла на замку, але ў замку тырчаў ключ, усё роўна як некага чакаў. Удзячна ўсміхнуўся, падумаўшы: ці не яго і чакаў? Зняў замок, сцягнуў лодку з пяску ў ваду і ўскочыў на карму. На дне лодкі ляжалі вёслы.

Ноччу бераг вострава здаўся зусім блізкі, і ён успомніў чыесьці словы аб тым, што ноч падманвае мастака, не дае рэальных прапорцый зямлі, неба і вады, прычым кожная ноч робіць гэта па-свойму, і меру яе падману зразумець цяжка. Можа быць. Але затое, калі яна злоўлена на пэндзаль, удаецца — якое шчасце!

Ён хутка падплыў да вострава і выйшаў на бераг. Пад нагамі ляжаў мокры пясок. За пясчанай касою, якая свяцілася пад зорамі і месяцам, што выплыў з-за хмар, яшчэ мацней свяцілася жыта. Чарнёнае ноччу срэбра пералівалася па ім.

Спыніўся, не адрываючы вачэй ад жыта пад начным небам, пад поўняй і зорамі, уражаны. Успомніліся маладыя пакуты, калі ў бацькавым маёнтку на возеры Няшчэрда шукаў святло і тон для партрэта Зосі. Тон знайшоў, а вобраз не знайшоў. Халодны срабрысты тон, які свяціўся, фасфарысцыраваў, выпраменьваў не радасць — пакуты. Яе твар, якім ён яго ўбачыў, быў вельмі падобны колерам на гэтае начное жыта. Цяпер пачатак ліпеня — жыта, адкрасаваўшы, налівалася, палавела, але яшчэ было маладзенькае. Як і Зося тады. Боязна дакрануцца, дыхнуць на яго.

Ад вады праз жыта вяла сцежка. Вяла — як зманьвала. На таемны голас ён адгукаўся заўсёды. І цяпер пайшоў, кінуўшы лодку ля берага.

Сцежка вывела на ўзгорак, жыта скончылася — на другой палове вострава пад поўняй тым самым срабрыстым святлом блішчаў мокры луг. Увесь востраў пад нагамі нібыта прыўзняўся, яго рэльефна акрэслены срабрыстым шнурам контур уразаўся не ў звычайную прастору вады, а ў яе геаметрычна выпуклую сферу і, можа, у чарах ночы сфера вады здавалася агромністай, у нейкіх касмічных формах. З формамі вады гарманіравалі такія самыя рэльефна выпуклыя формы вострава, а над імі, над зямлёй і вадой, дакладней — над стыхіяй зямлі і вады, у бязмежную вышыню імкнулася такая самая геаметрычна вылітая прастора неба, не размытага змрокам ночы, не сціснутага ім, як гэта звычайна бывае, не замкнёнага цеменню, а ўсё роўна як імі — змрокам, цеменню, ноччу — ператворанага ў біблейскую святыню і саму вечнасць. І зоры, і месяц, яго зыркая поўня, не падначаліліся звычайнай уладзе ночы наближаць

усё існае, скоўваць, змяншаць, яны адрынулі гэту ўладу, адплылі ў яшчэ большую глыбіню, усё неба вакол сябе ўзняўшы і раскінуўшы ўшыркі. Здалося, што ён, чалавек на востраве Аржанік, сярод вады, на востраве зямлі пад небам, зусім і не тут, не на гэтым невялічкім астраўку, а на далёкай адсюль, невядомай, нечаканай, таямнічай планеце, пра якую людзі яшчэ, можа, не ведаюць. Гэта адчуванне было адчуваннем далучэння да агромністай таямніцы, роўнай хіба таямніцы самога сусвету. Але яшчэ больш нечаканым было тое, што адчуванне як быццам знаёмае, недзе калісьці ён яго ўжо зведаў раней, некалі ўжо стаяў перад гэтым агромністым таямнічым светам, разгублены, чуючы ў сабе не то незвычайную мізэрнасць, не то незвычайную веліч.

Дзе і калі з ім гэта ўжо было?

Не, другога такога выпадку не магло быць, бо гэтакае можна бачыць і адчуваць толькі тут, на востраве, а тут ніколі раней не быў. Ці, можа, быў?

Як быццам быў. Але — калі? Чаму гэтага не памятае? І ў чым сіла відовішча і свайго адчування?

А Левітан? Гэта — яго зямля, вада, неба? Над вечным спакоем? Гэта — карціна Левітана ці яго, Бірулі, адчуванне — спакой і вечнасць? Калі гэта — Левітан, то дзе ягоная цэркаўка і над ёю крыж, узнесены ў глыбознае неба?

І дзе святло, празрыстая да слёз яснасць? Там — дзень, тут — ноч? Ноч без цэркаўкі і крыжа — які Левітан?

Але... штосьці... Што — штосьці?..

Вітольд Каятанавіч пачуў голас:

— Зямля... Вада... Неба...

Гэта быў яго мяккі, ціхі і вешчы голас...

*Я ўспомніў, як аднойчы Левітан сказаў мне і Жукоўскаму: мы яшчэ не зусім валодаем уменнем спалучаць і абагульняць у пейзажы зямлю, ваду і неба. У нас усё паасобку. А разам, як цэлае — не гучыць*

Вось яно!..

Не праз коскі, не праз шматкроп'і — адзін уздых і выдых, адзін магутны свет: Зямля... Вада... Неба... Свет — Сусвет! Як жа ён, Біруля, забыў урок Левітана?

Але настаўнік хіба хацеў, каб вучні спасцігі гэты ўрок? Як ён сказаў?

— Мы яшчэ не зусім валодаем...

Хто — мы? Левітан, Жукоўскі і Біруля? Ці ў адваротным парадку: Біруля, Жукоўскі і Левітан? Паставіў сябе

побач са сваімі вучнямі? І ў чым? У тым, што *не зусім валодаем*? Гэта — сур'ёзна? Ці іронія? Ён любіў гаварыць іранічна, зразумець сказанае можна толькі з папраўкаю на іронію. Калі і тут яны, вучні, паправілі пачутае так, што ад яго нічога не засталося ў памяці? Сам даў падставы зразумець выпакутаваную ім ісціну, таямніцу, адну з таямніц, як іронію?

Ахоплівала вусцішнае адчуванне. Пакуль думка працавала ў адным напрамку, пранікаючы ў сутнасць некалі сказанага настаўнікам, сказанага яму і Жукоўскаму, у загадку адзінства *Зямлі, Вады і Неба*, пачуцці апярэджвалі думку і ўжо гаварылі іншае. Здалося, што стаіць перад маленькай цэркаўкай, такой да шчымлівасці чыстай, перад крыжам, які яна, цэркаўка, а дакладней, можа, проста святое на зямлі месца, узнесла ў неба, да свайго адзінага там, у глыбозным небе, паратунку. Ён сам, здавалася, стаяў на зямлі як святы з крыжам, быццам гэта ён, апынуўшыся на астраўку сярод вады-акіяна, узносіў да неба малітву аб выратаванні душы. Нечаканае адчуванне наблізіла да думкі, якой спачатку ўсё роўна як спалохаўся, а потым здзівіўся: няўжо тут, на гэтым астраўку, Левітан пісаў свой найвялікшы шэдэўр — «Над вечным спакоем»?

Вітольд Каятанавіч здзівіўся ад свайго адкрыцця. Як яно магло ўзнікнуць? Як можна ноччу ўбачыць карціну, напісаную, хоць бы і тут, удзень?

Але, як толькі задаў сабе гэта пытанне, убачыў, што ноч траціць фарбы, што яна адступае, што за ёю набліжаецца дзень. Ці гэта ён сам набліжаў яго ў сваім уяўленні? Ён сапраўды бачыў дзень, бачыў ледзь не ў тым блакітным святле, што на карціне Левітана.

Але дзе цэркаўка? Тут, на востраве, не было цэркаўкі?

Не, гэта ўжо не сур'ёзна. Хвіліну назад сам на яе глядзеў. Уявіў? Але ўявіць — гэта ўбачыць. Убачыць — перадаць на палатне. Гэта і ёсць мастацтва. Чаму ён, даючы сабе волю, адбірае яе ў Левітана?

Ноч адступала. На беразе за возерам, дзе стаяў дом Аракчэева і ўсе яшчэ, мабыць, спалі, прачнуліся першыя пеўні. Яны крычалі моцна, як хацелі дакрычацца да вострава, да яго, начнога астравіцяніна. І дакрычаліся. Вітольд Каятанавіч ці не ад іх крыку адчуў раптам ранейшыя, іншыя, як адчуваў гэтае ноччу на востраве, сувязі з зямлёю, вадою, небам. Там, на беразе, быў дом, у якім, можа, прачнуўся гаспадар, можа, прачнулася жонка і, не знайшоўшы ні яго, ні лодкі, шукаюць яго і лодку?

Жытам выйшаў да лодкі.

Аракчэеў стаяў ля прычала.

— Добрай раніцы, Вітольд Каятанавіч. Вас, працаўніка, ні ноч, ні навальніца не ўклалі ў ложак? Гэтакі быў Ісак Ільіч. Тут збіраецца дождж, навальніца, а ён за эцюднік, за фарбы, заганяе мяне ў лодку на вёслы, і мы плывём на востраў.

— А што ён пісаў на востраве?

— Як што? Востраў, ваду, неба. Эцюды. Усе эцюды да карціны «Над вечным спакоем» напісаны тут, на Аржаніку.

— Як — тут?..

Паветра перахапіла горла.

— Вас гэта, бачу, збянтэжыла?

— Калі тут, то... дзе цэркаўка?..

Аракчэеў не паспеў адказаць: над возерам пакаціўся звон, напаўняючы гулам і водгуллем абшар. Яны замоўклі — слухалі. Звон абуджаў наваколле, ляцеў над возерам, над востравам, над жытам і лугам да неба, прыўзнімаючы само неба. Сыпанулі малыя званочкі, гукі зліліся ў адну мелодыю.

— Сёння нядзеля,— прамовіў Аракчэеў.— Мікола на Стане збірае прыход на ранішнюю службу.

Вітольд Каятанавіч маўчаў. Яму ўжо не трэба было перапытваць пра цэркаўку, якую Левітан паставіў на востраве Аржанік. Яна, з высозным крыжам у неба, была — адчуў — побач.

Аракчэеў падаўся на гару, дзе кожную раніцу аглядаў сваю немалую птушыную гаспадарку, кароўнік, канюшню, а Вітольд Каятанавіч і не заўважыў, як ён пайшоў. Ім авалодалі ўражанні пражытай ночы, начной цішыні на востраве і гэты нечаканы над востравам звон. Успомніў, як Юлія Іванаўна сказала, калі пакідаў Горку:

— Там, у Аракчэевых, вы знойдзеце шмат з таго, што шукаеце, глыбей зразумееце тое, што тут, у Горцы, пачулі.

Што гэта значыла?

Гэтай ноччу таксама, можа, знайшоў тое, што шукаў? Але пра свае пошукі ён не гаварыў Люлю — як яна яго зразумела? І як ён павінен зразумець тут, на Удомлі, тое, што чуў там, у Горцы? Што яна мела на ўвазе? Пакуты Ісака Ільіча? Усё, што расказвала пра Левітана, было самотай і болем яго сэрца. Болем пісаў, кахаў, жыў. Боль быў ягоным катам, гільяцінай, і ў той жа час боль рабіў кожную карціну з'явай, шэдэўрам. І ці не пакуты, якія у апошнія гады яму шчодра выпалі, давёўшы да стрэлу ў Горцы, зрабі-

лі жыццё на беразе Астравенскага возера залатой болдзінскай восенню?

Ці не пакутамі і болем ён яднаў у сваім несмяротным шэдэўры зямлю, ваду і неба?

Але хіба толькі пакутамі чалавек можа спасцігнуць найвышэйшую ісціну мастацкай душы? Іншага шляху — няма?

Калі гэта так, то якія пакуты чакаюць яго, Бірулю, у пошуках сваёй мастацкай ісціны?

Ён спадзяваўся, што, разгадаўшы таямніцу настаўніка, знойдзе спакой і ўпэўненасць, а цяпер адчуў, што сапраўдныя пакуты толькі пачынаюцца. І яшчэ адчуў тое, што адсюль, з берага Удомлі, з вострава Аржанік, з-пад гэтага неба, з-пад звону Мікольскай царквы ён ужо нікуды дарогі не мае, што боль, які б ні выпаў на яго долю, будзе ўвесь тут, на Удомлі.

## ПРАЎДА, ПРАСТАТА І СВАБОДА

Вітольд Каятанавіч яшчэ вяртаецца ў Вараніху, яшчэ сюды прыязджае штолета з сябрамі, але ў гэтыя самыя гады ўсё часцей з'яўляецца на берагах Удомлі — з эцюднікам, стрэльбай і Ральфам. Часта — з Вольгай Іванаўнай.

Як раней мог жыць без гэтага куточка? Тут было ўсё, што шукаў у прыродзе: маляўнічыя азёры з дзіўнымі чаратовымі і ляснымі берагамі, абрывістымі і адхоннымі, чуйнымі, як вада, да кожнага павеву ветру, да любой змены надвор'я. Іх часцей, як іншыя берагі, хоць бы і берагі Кезадры, наведвалі грозныя навальніцы і велічная цішыня, а ўзгоркавыя палі па берагах былі то з задумлівым звонам жытняга коласу, то ў роўным блакіце льну, то забеленыя цвіценнем грэчкі. Да вады падбягалі лясочкі: бярозава-бялюткія, ялова-цёмныя і калючыя, смаліста-духмяныя сасновыя, баравыя, з кучаравымі вольхамі, івамі, вербнікам па лагчынках, дзе і травы стаялі як падлесак. А колькі разнастайнасці і пластыкі было ў абрысах рэльефу! Ды і назвы чаго вартыя! Хоць бы — Удомля. Нібы яшчэ язычнікамі нарачонае возера. Ці той жа востраў Аржанік. Назва нядаўняя, а якая ў ёй каранёвая моц! Ды і вёскі: Гарусава, Стан, Ванюнькіна, Шабарына, Рад — усе па беразе Удомлі, суседнія, а кожная са сваім аблічам, характарам, норавам, ладам. Ва ўсім штосьці роднае, ад Магілёўшчыны і Віцебшчыны. Падобныя

ў абрысах і колерах, у настроі, зямля і вада, палі і лясы. Першыя гады пасля вучылішча кожную вясну, восень, зіму ездзіў у родны край, падоўгу зараджаўся родным духам, пішучы і ходзячы па лясах, палях, балотах ля Прыпяці, Дняпра, Дзвіны, Сажа. Часам здавалася, што там, на тых рэках, усе яго пейзажы, што трэба жыць на радзіме, ды ўжо ў Маскве стаяў свой дом, жылі настаўнікі і сябры, была сям'я — жыццё, якое таксама кіравала. І вагаўся, і губляўся. Жыццё ў Маскве ўяўлялася то як вялікая знаходка, то як вялікая страта. Масква не магла замяніць Беларусь. І вось — усё роўна як павеяла родным, быццам сама Беларусь да яго падплыла-пад'ехала.

Прыйшла вясна, калі ад станцыі Троіца ўжо не толькі з жонкай і Ральфам, але і з маленькаю дачкою Любашай Вітольд Каятанавіч едзе не ў Вараніху, а ў Гарусава, у пакоі не менш гасціннага, як у Калакольцавых, дома Аракчэевых. А следам зноў, як тады, прыязджаюць Сцяпанаў і Жукоўскі, за імі — Мараваў і Багданаў-Бельскі.

Было адчуванне мяжы, да якой даўно ішоў і на якую нарэшце выйшаў. Пачыналася штосьці невядомае, зманлівае. Адчуванне не новае, некалі яно, падобнае, ужо хвалявала. Тое было ў 1896 годзе, калі вучыўся і Траццякоў купіў яго вучнёўскую работу «Ваколіцы Пяцігорска», павесіў у галерэі побач з карцінамі Левітана. Тады ён пачаў удзельнічаць у выстаўках і зноў апынуўся побач з Левітанам у лісце вядомага крытыка Часоўнікава вядомаму газетчыку і фельетаністу Лейкіну. Не зусім побач, але ўсё ж: «Галубчык! — пісаў Часоўнікаў.— Я ў Маскве. Знаходжуся пад свежым уражаннем толькі што агледжаных мною выставак. Пішу, каб прыцягнуць і Вас да агульнай радасці, параду мастацтва. Першымі: Левітан (пастэлі), Сяроў, Ан. Васільеў і К. Каровін. Акварэлі таксама цікавыя: Ендагураў і Бенуа. Вучнёўская выстаўка лепшая і большая за мінулагоднюю. Шмат жанраў. Ёсць добрыя. Лепшыя пейзажы — Біруля і Жукоўскі». І тады ж — Боткінская прэмія з рук самога Паленава. На самым пачатку. Магла галава закружыцца? А побач Жукоўскі — таксама выстаўляўся, купляўся, атрымоўваў медалі. Яны ішлі плячо ў плячо — два сябры-беларусы. Было адчуванне, што на нейкую мяжу ўзышоў. Ці вышыню? Трэба было ўстаяць. Устаяў? І вось цяпер — нешта падобнае. Цяпер, можа, не новая вышыня пад нагамі, проста ўсё перад вачыма — далягляд. Тут трэба жыць, працаваць — адсюль далёка відаць.

Лепшы пакой з вялікім акном у кветнік гаспадары пада-

рылі Любашы. Ёй было пяць гадкоў. Яна здружылася з сабакам Аракчэевых, і Мараваў напісаў яе партрэт з сабакам, які назваў «Сябры». Партрэт адразу пачаў вандраваць з перасоўнымі выстаўкамі перадзвіжнікаў.

У Гарусава мастакі прыязджалі не толькі вясной, але і зімою. Збіраліся на Каляды. Ставілі ёлку, упрыгожвалі, рабілі маскі, касцюмы. Да ёлкі заўсёды запрашалі сялян, вясковых дзяцей, разам танцавалі, спявалі, садзіліся за стол. А калі святы канчаліся — пачыналася работа. Праўда, Жукоўскі і Багданаў-Бельскі аблюбавалі сабе яшчэ і вёску Беражок, адзін — багаты дом пецярбургскага прафесара-акуліста Белярмінава, другі — дом Аксакава. І ўсё ж зімою збіраліся ў Гарусаве.

Вітольд Каятанавіч у гэтыя гады піша шмат эцюдаў. Ён адчуў, што тут, на Удомлі, ад вока хаваецца яго запаветная песня. Ён шукае яе. Піша карціну за карцінай. «Вясенні дзень» набывае Акадэмія мастацтва; Траццякоўская галерэя — «У канцы зімы». Яго прымаюць у Таварыства мастакоў-перадзвіжнікаў, а яшчэ праз два гады — у акадэмікі жывапісу. Заўважае і вітае сам Ілья Яфімавіч Рэпін. У 1910 годзе, 14 студзеня, ён піша ліст Вітольду Каятанавічу:

«...я заўсёды з новым і **вялікім** (апошняе слова падкрэслівае.— В. К.) задавальненнем глядзеў на Ваш узгорак з хатамі, занесены снегам; люблю гэтыя бярозкі, якія белымі краямі адбіваюцца ў горнай рэчцы». І далей, у тым самым лісце,— яшчэ і такое: «Я так прывык асвяжацца душою перад Вашымі жывымі павевамі праўды, прастаты і свабоды».

Ліст Рэпіна робіць на Бірулю незвычайнае ўражанне. Ніхто не прымушаў гэта пісаць. Мабыць, не мог не напісаць? Паміж імі пачынаецца перапіска, роўная дружбе. Лісты Рэпіна не проста акрыляюць. Яны і патрабуюць. Большага і яшчэ большага. Але Рэпін не бачыў тое, што ў майстэрні ў Вітольда Каятанавіча стаяла ў гэты час на мальберце.

І вось — 1911 год, першая міжнародная выстаўка для Бірулі ў Барселоне. Ён выстаўляе карціну «Перад вясной» і атрымлівае Вялікі залаты медаль. Першае міжнароднае прызнанне! Але ў гэтым жа годзе Вітольд Каятанавіч прымае ўдзел у вельмі аўтарытэтнай выстаўцы ў Мюнхене. І зноў — перамога. Зноў — Залаты медаль за карціну, да якой так доўга ішоў,— «Час цішыні. Возера Удомля». Разам з медалём удастойваецца выключнага права выстаўляць

свае карціны на ўсіх мюнхенскіх выстаўках. І яшчэ — запрашаецца ў Мюнхен. Там віншуюць як пераможцу на еўрапейскай выстаўцы і ўручаюць Залаты медаль. Разам з Вольгай Іванаўнай ён робіць падарожжа па краінах Еўропы.

Што дала паездка па Еўропе?

Як чалавек выдатна выхаваны і адукаваны, Біруля ведаў і высока цаніў жывапіс Італіі, Францыі, Галандыі, Іспаніі. Неаднойчы пра гэта выказваўся. Больш таго — яго палітра і майстэрства, асабліва ў перадачы паветра, настрою прыроды, руху схаваных у ёй сіл, святлацені, найтанчэйшых лірычных таноў і адценняў часта нагадваюць палітру і майстэрства імпрэсіяністаў, якіх ён любіў. Здавалася б, такому мастаку і цікава, і небяспечна апынуцца на вернісажах французаў. Ды яшчэ калі ўлічыць характар, які лёгка захапляецца, эмацыянальную натуру. Але тыя ж выхаванасць і адукаванасць, пройдзеная школа жывапісу аберагаюць ад небяспечных уплываў. У гэтым сэнсе ён увесь — у думцы, якую аднойчы выказаў пра Левітана:

*Вялікая яго заслуга ў тым, што, бываючы за мяжою, ён не паддаўся ўплыву вельмі шматлікіх плыняў у еўрапейскім мастацтве, да канца жыцця захаваў свой твар, сваю сутнасць*

Вялікая заслуга? Сказана нібыта з думкаю не толькі пра Левітана, але і пра ўвесь айчынны жывапіс, нібыта патрыятызм Левітана быў урокам для ўсіх, у тым ліку і для яго, Бірулі. Для яго — безумоўна. І тое, што сказаў пра настаўніка, сказаў пра самога сябе. Бо сказаў неабыякава — з гонарам, годнасцю. З непахісным адчуваннем, што сапраўдная школа пейзажа тут, дзе перадзвіжнікі.

Гэтая ўпэўненасць была ўласціва не аднаму Бірулю, але і яго сябрам па мастацтве. Той жа Станіслаў Жукоўскі, жывучы ўжо ў Варшаве, у 1933 годзе піша адтуль Вітольду Каятанавічу: «Мала хто з мастакоў тут глыбока разумее і ведае прыроду. Асабліва варшаўскія. Кожны піша свой зададзены матыў і далей за яго ён — дурань! На Захадзе — такія самыя! У наступным лісце апішу табе мастацтва Варшаўскае і Парыжскае».

Там, на Захадзе, іншым было не толькі разуменне жанру пейзажа, але і разуменне прыроды, адносін мастака да яе.

І ўсё ж Вітольд Каятанавіч вяртаецца з-за мяжы не з пустым. Больш ясна адчувае сябе як мастак, пейзажыст.

У правільнасці выбару школы ніколі не было сумненняў, але цяпер яшчэ раз пераконваецца, што школе перадзвіжнікаў няма канкурэнтаў. Імпрэсіяністы? Гэта самае сур'ёзнае, што знайшоў там, на Захадзе. Іх карцінамі Парыж якраз і прываблівае. Ён падоўгу стаіць перад палотнамі Сезана, Ван Гога, Дэгі, Гагена, Клода Манэ, Рэнуара, Сіслея, Манэ. Усе — на ўсіх парыжскіх выстаўках. Імпрэсіяністы радуюць навізною жыццёвых сітуацый, багатым каларытам, шчодрым святлом, у іх партрэтах — непасрэднасць натуры, у пейзажах — цёплы сонечны водар, жывое паветра, насычанасць тону і колераў, нідзе ніякіх схем, імправізацыя і фантазія робяць кожную работу святам. Клод Манэ выстаўляе пяць карцін — адзін і той жа сабор, напісаны нават з адной кропкі, але на кожнай карціне свае каларыт, тон, святло, паветра, нібы кожны раз глядзіць на сабор, падобны на сабор Парыжскай богамаці, у розным настроі, рознымі вачыма, у празнае надвор'е і розную пару года. Можа, гэтыя варыяцыі не вельмі цікавыя былі для звычайнага гледача, але яны давалі магчымасць пранікнуць у пошукі імпрэсіянізму, дыяпазон адчуванняў і майстэрства мастака. Вітольда Каятанавіча цікавілі карані новага жывапісу. Ён едзе ў Барбізон, аглядае школу барбізонцаў, натуру, з якой яны пісалі пейзажы. Усё тут параўноўвае са сваёй школай. Вучыцца ёсць чаму. Тут, толькі тут, калі мець на ўвазе Захад. Але сэрца ўжо гнала дадому, у свае лясы і палі, на свае азёры, да сваёй палітры.

І вось ён зноў на беразе Удомлі. Падымаецца на высокі ўсходні бераг, дзе хата і кузня Грыгорыя Іванова. «Час цішыні» пісаў адсюль. Усе эцюды — адсюль. Ваду і неба, бераг, тры малыя хваінкі. На процілеглым беразе, за цішынёю вялікай вады, цішыня зажуранай вёскі. Там — Гарусава. Ледзь відаць хаткі. Там — дом Аракчэевых. Там — Левітан, яго акно на возера, яго вечная тут, на Удомлі, прысутнасць. Гэта вада — вада славутай карціны. І неба — «Над вечным спакоем». Тут — яго дух і пакуты. А цяпер ужо — не толькі яго. На гэтай вадзе і зямлі, пад гэтым небам і ён, Біруля, знайшоў сваю песню. Яна — што такое? Не фарбы — не колеры, не тон, не святло і не цені — пакуты над таямніцаю Левітана. Гэтага ніхто не ведае. Нават Жукоўскі не ведае. Нават Вольга Іванаўна. І Мараваў, і Сцяпанаў — ніхто не ведае. Ведае ён, Біруля. Ён шмат гадоў шукаў сваю цішыню, каб ёю адгукнуцца на вечны спакой Левітана. Цішынёю — на вечны спакой. Гадзіна цішыні — як хвіліна. Як мог. Над пакутамі любімага майстра. Над яго

трагедыяй і перамогай. І хваінкі — не хваінкі: замёр і не варухнецца пачэсны каравул — міг цішыні. Над яго вечным спакоем — там — цэркаўка з крыжам, тут — тры абмерлыя хваінкі. А зямля адна. Пад адным крыжам.

У Мюнхене на выстаўцы загаварылі пра яго як пра майстра срабрыста-перламутравага паветра, якое маўчыць і звініць, нібы жалоба струны. Гэта казалі і раней, раней — у Маскве. Але ні там, ні тут нічога не зразумелі ў гэтым срабрыста-перламутравым паветры. Ніхто не зразумеў, што гэта не тон — гук, той самы гук, які ў ім, Бірулю, прадбачыў адно Левітан, калі пытаўся і патрабаваў: «Дзе ваш гук? Я прывык чуць у вас гук на эцюдах. Дзе ён на карціне?» А там было толькі нараджэнне гуку, там ён, Біруля, яго яшчэ лавіў. Лавіў гук і душу. У душы гук жыў даўно, з таго часу, як на возеры Няшчэрда сустрэў і пакахаў Зосю. Гэты гук там нарадзіўся. Але тады думаў, што гэта — колер, срабрыста-фасфарычны. Не, гэта быў гук. Яго ў ім, вучню, пачуў настаўнік. І вось цяпер, толькі цяпер, у міг цішыні, ён загучаў на карціне так, як раней гучаў у сэрцы. Левітан адно не прадбачыў, што гэты гук у свой час, у час цішыні, ператорыцца ў звон царквы Мікола на Стане, і гэта будзе ўжо не міг цішыні, а звон над вечным спакоем самога Левітана. І над вечным спакоем Зосі. Зосі і Левітана. Ён, Біруля, доўга шукаў яго, і ён яго знайшоў. І цяпер ён, вучань, ведаў, што таямніцу настаўніка нарэшце спасціг.

Але — ці спасціг?

Ён стаяў на беразе. Перад ім было аграмаднае белае возера. Над белым возерам узвышалася белае неба. З трывожнай сінізной і яшчэ больш трывожнымі шэрымі хмарамі. Гэта было іх возера, іх неба, іх бераг — Левітана і яго, Бірулі, настаўніка і вучня, настаўніка, які хацеў абудзіць у сваім вучню таямнічы гук, і вучня, які марыў спасцігнуць таямніцу настаўніка. Цяпер яны абодва прысутнічалі тут, на Удомлі, тут валадарылі і зямлёй, і вадой, і небам. Яны зноў былі разам. Але... яны, ці ўсяго толькі іх пакуты? Сапраўды, што ж гэта, як не пакуты — усё жыццё, тысячы і тысячы дзён і начэй, тысячы і тысячы вёрст з эцюднікам і стрэльбаю ісці да адзінага імгнення цішыні, каб спасцігнуць імгненне вечнага спакою настаўніка? І што іншае, калі не пакуты — усё жыццё, да самага апошняга дня, укласці ў імгненне над вечным спакоем? Ён, Левітан, сам сказаў: «Над вечным спакоем» — увесь я».

Вітольд Каятанавіч стаяў над возерам, глядзеў удалячынь, на той яго бок, дзе чарнелі дамкі Гарусава, і адчуваў,

што адсюль яму дарогі няма. Ён застаецца тут — на Удомлі. Бо тут — усё. І ягоны міг цішыні, і Левітанаў вечны спакой.

Тут — лёс.

Міне ўсяго некалькі тыдняў, і Біруля купіць у Грыгорыя Іванова, вясковага каваля, зямлю на беразе Удомлі, тое самае Кузёмкіна, з якога ўбачыў свой «Міг цішыні», разам з вострававам Аржанік, з якога свой «Вечны спакой» убачыў Левітан. Ён прывязе сюды славутага, апошняга ў высокай славе цесляра ўдомльскага краю Грыгорыя Бялова, адшукаўшы яго ў вёсцы Якаўлева, і пачне ставіць вялізны і светлы дом з адборнага смаловага цёсу. Дом задумаў высокі, з майстэрняю на другім паверсе, каб з акна майстэрні кожны дзень вачам адкрывалася прастора Удомлі, вострава Аржанік — у левітанаўскім небе і звоне царквы Мікола на Стане.

## ЗІМА. ПРЫЕЗД У ЯСНУЮ ПАЛЯНУ

(Працяг ліста да сябра Лабанава)

*Цяпер я раскажу, як Юлечка Ігумнава сустракала мяне ў Яснай Паляне. Але спачатку — як усё пачалося*

*Пасля смерці Льва Мікалаевіча Талстога да мяне зайшоў мой настаўнік Касаткін і расказаў, што быў у Хамоўніках у Соф'і Андрэеўны, яна цікавілася мною. Размова ішла пра альбом жывапісных твораў пра Ясную Паляну, яе прыроду, куточкі, якія любіў Леў Мікалаевіч. Думкі ў пошуках жывапісца сышліся на мне. Соф'я Андрэеўна ведала, што я вучыўся ў вучылішчы жывапісу з Суляржыцкім і Таццянай Львоўнай, быў членам групы талстоўцаў*

*Тут нельга не ўспомніць дні, калі Талстой прыходзіў у вучылішча. Ён любіў маладых мастакоў, любіў нашых настаўнікаў — перадзвіжнікаў. Прыходзіў з Хамоўнікаў пеша, вешаў сваё футра ўнізе ў гардэробе і падымаўся ў настаўніцкую. Калі мы заўважалі футра Талстога ў гардэробе, нас ужо нельга было адцягнуць ад дзвярэй настаўніцкай. Калі хто-небудзь заходзіў ці выходзіў адтуль, мы ў шчыліну дзвярэй бачылі Льва Мікалаевіча і вакол яго — Прамішнікава, Касаткіна, Каровіна, Макоўскага. Аб чым яны гаварылі? Мы прагна лавілі з-за дзвярэй кожнае слова, кожны гук*

*А ці можна забыць дзень, калі Таццяна Талстая зайшла ў фігурны клас і паведаміла, што Леў Мікалаевіч запрашае нашу групу ў тэатр «Скамарох» на прэм'еру драмы «Улада цемры». І вось мы заходзім у тэатр разам з самім Талстым. Нас усіх сустракае рэжысёр тэатра, усіх рассаджвае на першых двух радах. На самым першым — Талстой, Касаткін, Суляржыцкі, а за імі адразу, за спіной у Талстога,— мы, астатнія. Тэатр знаходзіўся на рагу Юшкава завулка і Срэценскага бульвара, якраз там, дзе быў тракцір Кузаўлева, куды мы заглядалі, ідучы з вячэрніх заняткаў, каб зганяць, як тады казалі, на більярдзе партыю ў пірамідку. Тракцір быў самага нізкага разраду, і ў ім мы маглі танна павячэраць. Але калі заводзіліся лішнія рублікі, дазвалялі сабе завітаць у тракцір «Саратаў», які стаяў зусім блізка ад тракціра Кузаўлева, і там часта бачылі Макоўскага, Касаткіна, Сурыкава. У іх акружэнні ў вялікай зале за чайным сталом неаднойчы сядзеў Леў Мікалаевіч. Ціха іграў аркестр, за сталом ішла бяседа. Мы стараліся, каб яны нас не заўважылі, але яны заўважалі і запрашалі да сябе за стол. Мы сядзелі з імі, любімымі, за адным сталом. Успамінаючы ўсё гэта, думаеш: а ці не сон? Гэта былі людзі, побач з якімі і дзеля якіх хацелася жыць*

Тут, відаць, не лішнім будзе пагадзіцца, што нашаму апавяданню часам не хапае і логікі, і стройнасці. То яно бяжыць па роўнай дарожцы, то кружыць-пятляе. Вось зноў: нібыта размова пра тое, як герой едзе ў Ясную Паляну, як яго там павінна сустрэць сяброўка маладосці Юлія Ігумнава, і раптам — Хамоўнікі, Соф'я Андрэеўна. Ну, гэта яшчэ не бяда, калі, перш чым трапіць у Ясную, герою зноў захацелася зазірнуць у Хамоўнікі, сесці за стол Соф'і Андрэеўны, настроіцца на Талстога, адчуць яго дух, яго прысутнасць. Але ці да месца тэатр «Скамарох», хоць і з Львом Талстым? Тым больш — тракцір? А за ім яшчэ адзін — яшчэ і там сесці за чайны стол? Дарэчы прыгадаць пазнейшы, пасля смерці Вітольда Каятанавіча, успамін Лабанава: «Калі ў Акадэміі мастацтваў адзначалі 80-годдзе Бірулі, ён адчуваў сябе кепска і даручыў мне, з вялікай, безумоўна, павагі, выступіць ад яго імя, зачытаць яго выступленне. Даслаў тэкст, старонкі чатыры, даючы права на сваю думку скараціць. І я гэта зрабіў. Мне падалося лішнім у выступленні апісанне маскоўскага тракціра з асобнымі кабінетамі...» Лабанаў, мабыць, і тут выкінуў бы тракцір, палічыўшы непрыгожым аб ім успамінаць. Але для Вітольда Каятанаві-

ча, які ніколі не быў ні снобам, ні ханжою, тракцір не гучаў як штосьці недазволенае, гэта — таксама з жыцця, якім яно было, а калі там Талстой, Сурыкаў, Макоўскі, Касаткін, калі за адным сталом з імі, за самаварам, і ён з сябрамі, запрошаны вялікімі, як жа не прыгадаць тракцір? Тым больш яму, чалавеку захопленаму, эмацыянальнаму, лірыку чысцейшай вады і крыві, узрушанаму ўспамінамі? Тут — характар, тут — вобраз. І што значаць у параўнанні з гэтым нейкія там умоўнасці жанру? Тым больш што, прадчуваючы эмацыянальныя адхіленні свайго героя, які, між іншым, як бы сааўтар нашага апавядання, мы і самі сябе не сквалі рамкамі пэўнага жанру, запрасіўшы ў твор і эскіз, і эцюд, і споведзь. А што такое аповесць-эсэ, як не разбурэнне жанравых канонаў? Ды і ці прыстойна старога, цяжкахворага чалавека, хоць па-маладому захопленага і наравістага, заганяць у жанравыя аглоблі, прывязваць да стылёва прычасанага воза? Парадуемся яго яснай памяці, шчырасці, неўтаймаваным эмоцыям, у якіх столькі верагоднасці і праўды ўжо далёкага часу.

*І вось мы з Касаткіным запрошаны ў Хамоўнікі. Да нас далучыўся Мараваў. З той пары, як ён пісаў у Яснай Паляне партрэт Льва Талстога, яго тут любілі*

*За круглым чайным сталом Соф'я Андрэеўна была вельмі гаваркая. Яна з захапленнем расказвала аб прыродзе Яснай Паляны, казала, як важна стварыць альбом яснапалянскіх пейзажаў. Леў Мікалаевіч нарадзіўся, жыў і пісаў у акружэнні прыроды, без яе яго нельга зразумець. Тут ён усё жыццё натхняўся на штодзённую працу, і тут яго магіла. У гэтай прыродзе ён выхаваў у сабе незвычайную любоў да палявання, і гэта ў яго не пагасла да глыбокай старасці. «Калі я прыехала ў Ясенкі,— расказвала Соф'я Андрэеўна,— паляванні тут бывалі кожны дзень, заўсёды з чародамі хартоў і гончых сабак, верхавымі даездчыкамі. І з самых першых дзён я ўсё сваё жыццё прысвяціла Льву Мікалаевічу. Я жыла толькі для яго і дзеля яго. Хоць мела ўсе падставы і на свае інтарэсы ў жыцці. Я шмат каму падабалася, мела поспех у свеце. Мне прысвячаў вершы Фет, я яго натхняла. Я была маладая і прыгожая, а Леў Мікалаевіч быў непрыгожы — гэта ўсе ведаюць. І ўсё ж я да канца яго жыцця была яму верным спадарожнікам, аберагала яго творчасць ад мноства людзей, якія ў сваёй большасці прыязджалі ў Ясенкі як на адпачынак, не лічачыся з тым, што Леў Мікалаевіч працуе. У яснапалянскай прыродзе ўсё было*

*дарагое Льву Мікалаевічу, нават шаша на Тулу. Гуляючы, ён любіў выходзіць на шашу, па якой ішлі людзі. Ён іх запыняў і вёў размову. Вакол Ясенак трэба ўсё апісаць»*

*Я ўжо збіраўся ехаць, як Касаткін з уласцівымі яму сяброўскімі клопатамі зайшоў да мяне і, усхваляваны, расказаў, што зноў быў у Хамоўніках, што Соф'я Андрэеўна задаволена маёй згодаю ехаць, але прасіла перадаць, што ехаць са мною цяпер не зможа і мяне ў Ясенках сустрэне Юля Ігумнава. Яшчэ Касаткін дадаў: «Вы, вучні вучылішча, усе, і ты таксама, былі нераўнадушныя да Ігумнавай, такой мілавіднай. Я, твой настаўнік, гэта ведаю. Я сам... Бачыш, злапомслівы. Так што ў Яснаи Паляне будзеш мець увагу і клопат аб сабе». І я паехаў*

*Была зіма*

На яснапалянскую чыгуначную станцыю Засека Вітольд Каятанавіч прыехаў раніцай. Зіма пачыналася, а снегу ўжо накідала шмат, ён, малады, ружавеў і іскрыўся на сонцы, якое толькі ўзыходзіла.

Ледзь выйшаў на перон, як ля станцыйнага будынка заўважыў сівога каня, запрэжанага ў вазок. Можа, таму, што болей ніякіх вазкоў на станцыі не было, здагадаўся, што конь яснапалянскі. Падышоў, паставіў ля вазка чамадан, зняў з пляча эцюднік, куфэрак з фарбамі, стрэльбу, якую і на гэты раз не пакінуў дома. Адразу падбегла Ігумнава:

— А я цябе, Вітольд, шукаю на вакзале.

Абняліся.

Яна была ў сялянскім кажушку, у валёначках, але не таму, не ад вопраткі зімовай падалася распаўнелай. Ён ужо чуў дагэтуль, што Юля — відная дама. А голасам, з твару — тая самая Юлечка: ветлівая, ласкавая.

— Не пазнаў? — заўважыўшы яго прыдзірлівы позірк, спытала, калі яны ўжо сядзелі ў вазку, ехалі ў яснапалянскую сядзібу.

— Як жа я магу цябе не пазнаць? Столькі пражыта разам! Мы былі такія шчаслівыя!

— Нас, помню, не прыбіла нават вестка, што Сулера пасадзілі ў Бутырку. Ён і раней быў нашым кумірам. А тады стаў героем. Ды і быў героем. Адмовіцца ісці ў армію, застаючыся талстоўцам,— хто б падумаў? Вядома, за спіною быў сусветны аўтарытэт Льва Мікалаевіча. Талстой яго любіў, Талстой яго не мог пакінуць у бядзе, але — усё ж? І які дух быў у нас тады!

— Талстой любіў мастакоў.

— Як ён любіў Рэпіна! Мяняўся з твару, маладзеў, калі дазнаваўся, што Рэпін збіраецца ў Ясенкі. Ды і Рэпін любіў працаваць у Ясенках. Колькі ім тут напісана карцін і партрэтаў Льва Мікалаевіча!

Ігумнаву заўсёды лёгка было завесці на размову, спрэчку, і гэтакай яна засталася, была цяпер:

— Думаеш, Талстой цаніў у Рэпіне толькі выдатнага мастака? Можа, яшчэ больш — выдатнага субяседніка, чулівага, тонкага чалавека, які ўсё разумеў з паўслова, думкі лавіў на ляту. Але ж, Вітольд, ён любіў і маладых мастакоў, зялёных і нясмелых.

— Мы з табою былі зялёнымі і нясмелымі?

Ігумнава весела смяялася:

— Ну што ты, што ты, Вітольд? Мы адразу крочылі ў класікі. А можа, Леў Мікалаевіч і бачыў у кожным з нас будучыню Расіі?

— Пра гэта мне аднойчы сказаў Маравaў.

Ігумнава паклала руку на руку Вітольда Каятанавіча і зусім іншым голасам, цішэйшым, больш разважліва сказала:

— Маравaў? Вось бачыш, як цёпла яго сустрэў у Ясенках Леў Мікалаевіч, ён яго палюбіў. Маладога.

*Гэта, Віктар, я павінен табе расказаць. Тое, што мне расказваў сам Маравaў. Ты яго характар і сур'ёзнасць ведаеш. Ён за ўсё жыццё ніводнага разу не схлусіў. А ў мяне памяць была чэпкая. І вось аднойчы, прыехаўшы з Яснай Паляны, Маравaў расказаў, як плакаў Леў Талстой*

*Ты не паверыш? І я не мог паверыць, каб плакаў Талстой. Але не паверыць Маравaву не мог і не магу*

*Гэта адбылося, калі Талстой пазіраваў, Маравaў пісаў яго партрэт. Леў Мікалаевіч, разбіраючы пошту, чытаў, паглыбіўшыся, ліст свайго карэспандэнта. Маравaў раптам заўважыў, як у Льва Мікалаевіча задрыжэлі рукі, заскакаў у руках ліст, па маршчыністым твары пакаціліся буйныя слёзы. Маравaў, як ён расказваў, аслупянеў, пэндзаль заскакаў у руцэ. А Талстой працягвае яму ліст і пытаецца: «За што? За што? Ну... вы пачытайце?..» Пасля Маравaў неаднойчы чытаў мне на памяць тэкст ліста, і я пераканаўся, што памятаў ён яго даслоўна. Ліст быў ад студэнта сельскагаспадарчай акадэміі. У ім пісалася, што Талстой меў ад жыцця ўсё, што хацеў мець, пражыў яго так, як хацеў пражыць, што ён, распешчаны ў жыцці, цяпер павучае, як*

*трэба жыць, зыходзячы нібыта са сваіх перакананняў, хоць сам усё жыццё рабіў інакш. Што ў яго, Талстога, жыццё вельмі багатае, бо хапіла часу як на адно, так і на другое, як на навучанні для іншых, так і на тое, каб зусім інакш пажыць для сябе, што яму моладзь паверыла і пайшла за ім, поўная да яго маладой веры і любові, але ўрэшце зразумела, якія шчодрыя людзі бываюць у сваіх парадах і якія скупыя яны становяцца, калі трэба плаціць не словамі, а справамі. Студэнт пісаў, што не ў аднаго яго, а ў многіх склалася думка, што Талстой ва ўладзе крывадушнасці*

*Яшчэ Мараваў казаў, што слёзы Талстога яго настолькі ўзрушылі, што некалькі дзён не пісаў. Леў Мікалаевіч прыходзіў у вызначаны час на сваё месца, сядзеў, пазіраваў, а Мараваў працаваць не мог. І як ён быў рады, калі аднойчы Леў Мікалаевіч прапанаваў пайсці ў лес да Гарэлай Паляны. На твары Талстога зноў праменіла светлая ўсмешка, якая грэла і яго самога, і ўсё навокал. Яны прайшлі да Кудзяяравага калодзежа, і Леў Мікалаевіч расказаў пра тое месца, дзе некалі быў абрабаваны купец, які ехаў у Тулу. Леў Мікалаевіч паспачуваў Маравату, што забраў у яго сеанс работы над партрэтам, але Мараваў супакоіў, сказаўшы, што любіць пісаць па падсохлых фарбах. Талстому адказ Маравава вельмі спадабаўся, бо тут як бы і віны яго не было. Мараваў быў шчаслівы, гуляючы з Талстым. Мы часта з ім гаварылі пра той ліст Талстому і яго слёзы. Мы былі ў захапленні ад гэтага чалавека*

За размовамі не заўважылі, як пад'ехалі да круглых белых калон яснапалянскай сядзібы, апынуліся на яе галоўнай алеі — «прышпекце». Вітольд Каятанавіч малітоўна маўчаў, маўчала Ігумнава. Вазок праехаў паміж сажалак — яны ляжалі пад белым чыстым снегам, у белых берагах, нібы сподачкі. Сонейка раніцы румяніла яшчэ не зусім атрэсеную вятрамі вопратку на векавых бярозах і ліпах алеі, праз створ між імі ружовым шнурочкам ляжала на абочыне, і ў гэтым сонечным промні Вітольд Каятанавіч заўважыў на снезе сінія луначкі заечых слядоў. Убачыўшы гэты эцюд з заечым следам у рамцы, сіненькую заечую дарожку па ружовай дарожцы першага сонечнага промня, а за ім краёчак шараватай ад ранішняга змроку сажалкі, уверсе — зацярушаныя камлі ліп і бяроз, ніжняе голле пад снегам, мастак адчуў, што гэта мог бы быць цудоўны яснапалянскі эцюд, хоць усё тут звычайнае: белы-бялюткі снег, ружовы сонечны прамень, сіні заечы след, шэры акрайчык сажалкі,

дрэвы пад снегам. Што яснапалянскага ў ім? Чысціня раніцы? Цішыня? Сляды прысутнасці жывой душы? Зажураныя пад снегам дрэвы і сажалка? З усяго гэтага востра адчуў ранішнюю цішыню і сляды жывой душы, якая таемна, па начах, наведвае святую зямлю. Малюнак зліваўся з цяперашнім адчуваннем Яснай Паляны, яе зажуранай, але светлай цішыні.

— Ну вось мы і пад'язджаем да дома нашых гасцей. Праехалі дом Валконскага, дзеда Льва Мікалаевіча, там цяпер ніхто не жыве,— сказала Ігумнава.

Вазок спыніўся ля белага двухпавярховага дома.

Фурман пасобіў зняць з вазка чамадан. Эцюднік і стрэльба, як заўсёды, былі ўжо на плячах у Бірулі.

— Табе, Вітольд, адвялі два вялікія светлыя пакоі. Ніхто тут тваёй цішыні не парушыць. Жыві, працуй.

— Дзякую, Юля. Я ўжо адчуваю твой клопат.

Яна ўсміхнулася, задаволеная, што ён яе зразумеў, што яго галантнасць з жанчынамі засталася ранейшая, з гадамі не згубілася і правяла ў адведзеныя пакоі.

— На чай да мяне — цяпер? Ці хочаш з дарогі адпачыць?

— Прабач, Юля. Адпачынку мне не трэба, я хачу пабыць на магіле Льва Мікалаевіча.

— Правесці?

— Цябе я знайду потым. Не турбуйся.

Яна яго зразумела і тут, у гэтым жаданні застацца аднаму, самому знайсці магілу Льва Мікалаевіча. Яны вучыліся ў адным класе, у адных настаўнікаў, яна таксама была мастачкай, хай не такой прызнанай светам, як ён,— гэтага было дастаткова, каб зразумець душу мастака, якому трэба пабыць на адзіноце з Львом Мікалаевічам Талстым.

Ён пайшоў ад дома па алеі, якая вяла да месца захавання зялёнай палачкі і Льва Мікалаевіча, яна — па другой. Можа быць, усё адбывалася так, як павінна было адбыцца, як трэба, але нечаканае хваляванне спыніла яе. Павярнулася і глядзела яму ўслед. Ён не спыніўся, не азірнуўся.

«Божа мой,— падумала Юлія Паўлаўна,— няўжо тое, што паміж імі было, тыя пачуцці, тыя душэўныя пакуты не засталіся ў ім? Ён увесь у сабе, у сваім свеце...»

Яшчэ на алеях драмала ранішняя падсіненая смуга, яго постаць растваралася ў смузе, а яна ўсё глядзела ўслед, пакуль ён не схаваўся за векавымі ліпамі. Калі спахапілася, што глядзіць на пустую алею, зрабілася тужліва і горка. Яна павярнулася і пайшла да дома Талстога.

## МАГІЛА ТАЛСТОГА. ТЛЕН І ДУХ

*Дарагі дружа Віктар!*

*Калі я ад'язджаў з Масквы ў Ясную Паляну, да мяне, каб праводзіць, прыйшоў Касаткін. Доўга расказваў пра магілу Талстога, як яна выглядае зімою, якая вакол яе драўляная агароджа, якія вянкі ад сялян вісяць на агароджы, які над магілай дуб, якое ў яго галлё. Касаткін падказваў напісаць магілу ў чыстым белым саване зімы, бачыў будучую карціну ўжо ў канкрэтным святле. Я тады сур'ёзна не ўспрыняў яго слоў, ведаючы, што загадзя з Масквы нельга прадбачыць ні святло, ні цені, ні сам вобраз. Але калі прыйшоў на магілу, здзівіўся, як дакладна Касаткін у Маскве адчуў зіму на магіле Талстога, светлую цішыню ў зімовым яснапалянскім саване. Вось якія ў нас былі настаўнікі, якія былі мастакі*

Касаткін і Соф'я Андрэеўна падказалі ўсё, што маглі падказаць, але адшукаць у Яснай Паляне галоўнае павінен быў ён сам, і тое галоўнае адразу не прыходзіла.

Яшчэ на станцыі Засека, ды і ў дарозе, у вагоне, калі не спаў ноч, Вітольд Каятанавіч адчуў, што працаваць будзе не так проста, як здавалася ў Маскве, што да манументальнасці выразны вобраз, блізкае яго веданне, захапленне ім не аблегчаць пошукаў, можа, наадварот, перашкодзяць раскаванасці ўяўлення, і таму, хвалюючыся ад прадчуванняў, як толькі прыехаў, заспяшаўся да магілы Льва Мікалаевіча. Над курганком маўкліва стаялі высокія голыя дрэвы — дуб, ясені, ліпы,— збіўшыся ў гурт, нібы ад страху ці холаду, падпіраючы над белай магілай абвіслае неба, на дрэвах вакол драўлянай агароджы віселі вянкі з чорнымі жалобнымі стужкамі. Усё настройвала, падказвала подступы да вобраза, асабліва дрэвы, якія злучалі зямлю з небам, белае з белым, але бянтэжыла магіла. Талстой у вачах і сэрцы жывы, вечны, бязмежная яго ўлада над жыццём, а тут — мізэрны курганок, які ўсё ж быў поўнай фізічнай уладай над самім Талстым. Як звязаць у адно два гэтыя адчуванні: адчуванне духоўнай велічы, улады чалавека над светам і яго фізічную капітуляцыю перад жменяй зямлі, тлену?

Душа была перапоўнена пачуццямі. Але думкі драбніліся, не збіраліся ў фокус, не апладняліся пачуццямі. Вітольд Каятанавіч доўга стаяў над магілай. Пайшоў снег. Лёгкі, на лёгкім марозіку, нетаропкі ў цішыні, але спорны. Замгліліся

далі, неба, магілу і дрэвы ўсыпалі чыстыя слёзы парушынак, і ўжо іншы настрой апанаваў гэты куточак яснапалянскай зямлі, усё тут набыло незямную лёгкасць. На душы пасвятлела. Вітольд Каятанавіч быццам прачнуўся. Што з ім? Ён заўсёды шукаў таямніцы і загадкі жывапісу ў прыродзе, у ёй знаходзіў разгадкі жыцця, чалавека, лёсу, як бывалы паляўнічы ведаючы, што кожнае імгненне ў прыродзе — новы і новы ключык да зямных сакрэтаў, што падабраць адзіны патрэбны ключык — гэта ўпільнаваць сваё імгненне, чакаць і дачакацца, дачакацца і не выпусціць, схапіць на пэндзаль і пакінуць на палатне. Апошняе — задача жывапісца. Але чаго ён, жывапісец, варты ў пейзажы без вопыту паляўнічага? Тым больш — у Яснай Паляне, дзе жыў выдатны мастак і выдатны паляўнічы? Тут — увесь сакрэт? Шукаў магілу Талстога, а трэба знайсці імгненне ў прыродзе, светлавы і колеравы вобраз, тон, як сказаў бы Левітан, перш за ўсё тон, і яго, гэты няўлоўны тон, павінна злавіць вока жывапісца і паляўнічага. Там, калі з Юляй Ігумнавай ехалі па бярозавым яснапалянскім «прышпекце», калі ўбачыў амаль непрыкметныя ў ранішняй белай смузе заечыя слядкі і праз іх — пейзаж, відавочна яснапалянскі, талстоўскі, хіба не ўлавіў адразу тон пейзажа? І тон, і дух. Жывую душу. Вось што трэба — тон і дух.

У той першы дзень на магіле Талстога ён штосьці неабходнае зразумеў, адчуў. Але штосьці — так мала. Наступны дзень прынёс моцны мароз, і зноў прыйшоў на магілу без палітры, без фарбаў. На трэці дзень усё роўна як пацяплела, хацеў пісаць, але фарбы замярзалі.

На пяты дзень мароз адпусціў. Спяшаючыся на магілу, Вітольд Каятанавіч спыніўся перад рабінай. Дрэўца было нізкае, галінастае, нібы куст, усыпанае чырвонымі ягадамі. Усе дрэвы і кусточкі вакол пад снегам, снег моцна зачапіўся за галіны ўжо цяпер, на пачатку зімы, вісеў шапкамі, а ў рабінкі кожная гронка, кожная ягадка гарэлі чыстымі чырвонымі кропелькамі на нізкім ранішнім сонцы. Снег з гронак асыпаўся долу, ляжаў пад дрэўцам дробнымі камячкамі, па ім былі раскіданы ягады рабіны і ці то ад ягад, ці то ад нізкага сонца снег пунсова рдзеў, цёплы і плыўкі, як вада ў рацэ. З шумам праляцела чародка снегіроў, грудкі ў якіх палалі той самай рабінавай чырванню. Сеўшы на рабінку, яны замалацілі дзюбкамі, жыруючы,— ягады сыпанулі на снег. Вітольд Каятанавіч зрабіў некалькі крокаў да дрэўца, і птушкі дружна ўзняліся, паляцелі па-над палянай у той бок, дзе была магіла Талстога. На хвастах і крылах яны нес-

лі пунсовае цяпло, якое гарэла на рабінцы. Здалося, што і ў паветры гайдаўся водбліск пунсовасці, і снег на паляне, пад птушынай чародкай, сагрэўся тым пунсовым святлом.

Снегіры паляцелі ў бок Заказа, рова, на краі якога была магіла, і Вітольд Каятанавіч пастяшаўся за імі, нібыта адчуўшы, што там, над магілай, яны страсуць з крылаў астатняе пунсовае святло і снег загарыцца нечаканым, патрэбным яму святлом.

Снегіроў над магілай не знайшоў. Не было і рабінавага агню. Але снегіры вывелі на святло, падобнае да таго, што неслі на хвастах і крылах. Неба ачысцілася ад малочных аблокаў і белай смугі, няярка ззяла нізкае сонейка, і яго цёплае святло разліло па снезе ў агароджы і па-за агароджаю, на магільным курганку і па вянках на дрэвах прыглушаную белым холадам барвовасць, жаўцізну, у якіх былі і жалоба, і бясконца глыбокае святло зямлі. Быццам не магіла ў зімовым саване грэлася ў жаўтлявым сонечным святле, а сама яна яго выпраменьвала на ўсё, што навокал, у далягляды і ў неба, і гэта ўжо быў не колер, а тон, адчуванню якога вучыў Левітан. Не хапала жалобы? Яе ўзмацнялі гонкія голыя дрэвы над магілай, ствалы якіх з процілеглага ад сонца боку былі падобныя на жалобна-чорныя, вертыкальна, з высокага неба, звешаныя стужкі. Адчуўшы, што ўсё гэта якраз тое, што чакаў пяць дзён і па чым не спаў пяць начэй, Вітольд Каятанавіч працаваў увесь дзень, забыўшы на ўсё астатняе. І цяпер яму шанцавала. Гэтакі самы дзень выдаўся назаўтра. Ён пісаў эцюд за эцюдам, думаючы і пра зялёную палачку, якая закапана тут, дзе магіла Талстога, пра якую яму ў маленстве расказваў брат Міколка. Палачка ведала таямніцу, як усіх людзей зрабіць шчаслівымі, і Вітольд Каятанавіч, працуючы, адчуваў, што ў гэтым цёплым жаўтлявым святле адкрывалася таямніца зялёнай палачкі.

Усё ж надвор'е мянялася. Кожны наступны дзень даваў новае і новае святло. Мастак піша эцюд за эцюдам. Піша магілу і ў святле шафранавага вечара, і ў сляпучай белізне дня і замглёнай раніцы, і ловячы размытыя ў начных водбліскаx месяца абрысы, кожны раз шукаючы і знаходзячы новы каларыт, новы настрой, як рабіў некалі Клод Манэ, шмат разоў пішучы ў рознай каляровай гаме адзін і той жа сабор.

Сляды начнога заечага візіту ў Ясенкі Біруля не напіша. Ён не любіў пісаць па памяці. Баяўся нават драбнюсенькай кроплі маны. Але затое прыедзе сюды пазней, у 1928 годзе,

запрошаны Аляксандрай Львоўнай Талстой, і ўжо на летняй натуры напіша, як бы ў працяг сваіх зімовых яснапалянскіх пейзажаў, нямала эцюдаў і карцін з яснапалянскай, каля «прышпекта», сажалкі, з царквы і талстоўскага магільніка ў Канчаках, дзе магільнік з царквою ў цэнтры будзе ўсё роўна як востравам плысці ў разліве зяляніны пад высокім небам, узняўшы праваслаўныя крыжы над тленам і духам Талстых.

Напіша і шашу, што вяла міма Яснай Паляны на Тулу, тую самую, пра якую казала Соф'я Андрэеўна, бласлаўляючы на працу ў абшарах Льва Мікалаевіча. Шаша Бірулева бязлюдная. Мастаку не было патрэбы выводзіць на яе мясцовых сялян, хадакоў у Тулу, бо іх тут ужо не мог сустрэць і затрымаць на размову Леў Мікалаевіч.

## «ЧАЙКА», ВЯСНА

*«Чайку» я бязмежна люблю*

*У «Чайцы» мне добра, пакутліва добра*

*Буду планаваць свой прыезд у «Чайку», у дом з белымі вокнамі ў сад, дзе жыве мая Любаша*

*Адпачываць паеду ў «Чайку», у наш белы дом. Буду сядзець ля каміна і слухаць цвіркуна*

*Жыву думкаю, што прыеду ў «Чайку», у наш дом, наш сад, падымуся ў майстэрню*

*Жывы, здаровы, усё добра. Надвор'е не давала працаваць. Але сёння цудоўна, і я прагну работы. Хутка снег сыдзе. У гэтыя два-тры дні можна ўсё зрабіць, і гэта так радуе сэрца*

*«Чайка», вясна*

Пасля яму часта будуць казаць: «Вось бачыш, Рэпін разумна параіў — на Удомлі будуйся. І ты разумна зрабіў, што паслухаў Рэпіна. Твая «Чайка» — шэдэўр».

Ілья Яфімавіч сапраўды раіў будавацца на Удомлі. Ён ведаў гэтыя мясціны, любіў іх. Але яшчэ раней, да той парады, Вітольд Каятанавіч прыняў рашэнне ставіць дом на беразе Удомлі. І зямлю купіў. Гэта зрабіць падказаў іншы славуты — той, хто ў гэты час нічога не мог сказаць са свайго вечнага спакою.

Вітольд Каятанавіч ўсміхаўся, калі яму нагадвалі пра мудрую думку Рэпіна, і маўчаў.

Я прыехаў сюды сёлета ў канцы мая, калі ў садзе Вітольда Каятанавіча шалёна цвіў бэз, у тую самую пару, калі тут заўсёды жыў ён.

Дні стаялі пагодлівыя, сонечныя, па-веснавому чыстыя, духмяныя. Люстра Удомлі, чуйнае да кожнага павеву ветру, да настрою кожнай аблачынкі ў высокім небе, да кожнага сонечнага променя, разлілося бліскуча-срабрыстай паводкай ад берага да далягляду, і толькі востраў Аржанік, на якім ужо даўно не каласілася жыта, каляровым кантрастам да вады кучаравіўся цёмным ліісцвяным лесам. Здзічэла зарослы сад даўно не бачыў гаспадара, руплівых рук, але прырода буяла, цвіў белы і ліловы бэз, гушчар язміну, акацыі, высокія, нікім не тапттаныя травы, у цёплых духмяных зарасцях наперахлёст спявалі салаўі і дразды, у верхавінні мацёрых ялін крычалі, лётаючы з вяршыні на вяршыню, галкі, былі чуваць берасцянкі, канаплянкі, а да ўсяго недзе далёка ў лесе лічыла гады зязюля.

Праз варотцы ў гнілавата-нетрывалай агароджы я падышоў да дома, які так любіў Вітольд Каятанавіч. Быў ён запушчаны, але стаяў яшчэ як звон. Мяне сустрэў вартаўнік — Дзік, гібрыд дварняка з ганчаком, злосна загрымеў ланцугом на доўгім, вакол дома, дроце. На ганак чужога не пусціў, але дзверы на вялікай, з ганкам, тэрасе адчыніліся, і з дома выйшаў мужчына. Ён сышоў з тэрасы, загнаў сабаку ў будку і падышоў да мяне. Гэта быў селянін з суседняй вёскі, які прырабляў тут да калгаснага заробку, прыглядаючы дом. Я падняўся на ганак. З вялізнай сталовай у пакоі вяло чацвёра дзвярэй, налева і направа, высокіх, прыгожых, у белую фарбу, і я прайшоў праз адны з іх — левыя.

— Тут быў пакой яго дачкі...

Усё самае светлае, чыстае, лепшае Вітольд Каятанавіч аддаваў Любашы. І ў доме Аракчэевых у Гарусаве лепшы пакой быў у Любашы, хоць ёй тады было ўсяго пяць гадкоў. І ў Маскве ў Варатнікоўскім завулку. Ды што — пакой?..

*Як я хачу ўсе свае дні, адмераныя лёсам, пражыць для цябе — дзе сіл набрацца?*

*Дарагая Любусенька! Твая радасць — мая радасць. І памятай, што гонар мой — ты*

*Самае дарагое, што ў мяне ёсць — гэта ты і «Чайка»*

Вялізнае акно глядзіць на Удомлю. Але возера з яго не відаць. Калі ў пакоі жыла дачка Вітольда Каятанавіча, былі відаць з акна белая, на вадзе, купальня, пясчаны пляж на

востраве, жыта Аржаніка, якое і тады яшчэ нехта сеяў, як пры кавалю Грыгорыю Іванове. Цяпер акно глядзіць у зялёны гушчар, у кашлаты дуб, які зусім маладзенькім успамінае Вітольд Каятанавіч. Але з гэтага акна бачыць Удомлю няма ахвоты, як не хочацца бачыць апошні дзень Любы.

Наступны пакой таксама вялікі і светлы.

— І тут жыла яна...

Сцены, як ва ўсім доме,— голае бервяно, часанае, габляванае, пакрытае пакостам, кожнае — жывое дрэва, светлае і духмянае, як учора пакладзена ў сцяну.

Падымаемся на другі паверх: два пакоі Вітольда Каятанавіча, адзін з іх — майстэрня.

*Жыву думкаю, што прыеду ў «Чайку», у наш дом, наш сад, падымуся ў майстэрню*

Акно высокае, пад столь, хоць і столь высокая, як у старасвецкіх палацах, шырокае — на Удомлю, на той бераг, дзе Гарусава. Там відаць дом Аракчэевых, які яшчэ пры жыцці гаспадароў сяляне назвалі домам мастакоў. Але перш за ўсё ў акне — неба, тое, што над Удомляй, што глядзіцца ў яе, што вартуе вечны спакой Удомлі і яе берагоў, зямлі і вады. Майстэрня майстра, як і пакоі дома, пустая, нашчадкі ўсё адсюль вынеслі, але штосьці не пускае з пустой майстэрні, трымае ў голых сценах, пад высокай столлю. Трымаюць сцены, паветра? Часаныя сцены яшчэ не змылі з сябе светла-шэры, з нябесна-блакітнаватым адлівам колер фарбы, выпраменьваюць таямнічы колер злёгку кранутага прыцемкам срэбра, ранішняга ці вячэрняга, усё роўна як з Удомлі, з яе азёрнага люстра. За акном у супакоеную зямлю садзіцца сонца, садзіцца не ў звычайнае гэтай майскай парою пунсовае вогнішча, а ў срабрыста-замглёную чысціню, і сцены, сагрэтыя святлом сонечнага закату, выпраменьваюць святло, у якім адчуваеш кволую цяплынь і Няшчэрды, і Удомлі, і загадкава-незямную Зосіну прыгажосць. Колер мае не толькі святло, але і водар, які мала падобны на пах фарбы, і мае гук. Нейкая струна трымціць, напаўняе пакой сумнай срабрыстай мелодыяй. Я выходжу з майстэрні, шчыльна зачыняю дзверы, падпіраю іх аполкам, якім і былі падпертыя, усё роўна як баючыся, што ў прачыненыя дзверы з майстэрні вылецяць і гук, і колер, і срабрыста-перламутравае паветра майстра.

Спусціўшыся на першы паверх, мы ідзём па ўсіх астатніх пакоях. З апошняга — зноў на тэрасу.

Тут мой нечаканы гід мяне пакідае. Ён падаецца да сябе ў вёску, і мы з Дзікам застаёмся ўдвух. Пабачыўшы мяне побач са сваім гаспадаром, Дзік ужо не разяўляе пашчу, не паказвае клычча, шоргаецца мірна аб маю нагу, матляе хвастом, просячы да сябе ўвагі і дабрыні. Знаходжу яму кавалак каўбасы, купленай па дарозе ў Вышнім Валачку, але Дзік есці яе не хоча, адварочвае морду і пакрыўджана знікае ў будцы.

Я сыходжу з ганка ў сад. Сцежка вядзе алеяй у бок возера, коціцца з горкі. Спыняюся. Раптам успамінаецца карціна Вітольда Каятанавіча «Тэраса». Ён пісаў яе ў 1915 годзе ясным восеньскім днём, калі бярозкі апошняе лісце скінулі на дарожкі саду, на тэрасу, яно густа ляжала на балюстрадцы і, змеценае з дарожак, на іх пажоўклых берагах, а за бярозкамі на маладзенькіх яблыньках чырвона-жоўтае лісце яшчэ дзе-нідзе трымалася, ад яго пунсавелі не толькі дарожкі, але нават, ледзь-ледзь, аблачыны ў небе, хоць і светлым, бялесым, як у пагодлівы дзень, але нізкім, як увосень. Усё гэта было на ўзгорку, які за бярозкамі ды яблынькамі, тры гады назад пасаджанымі, танклявенькімі, збягаў да возера, і туды збягала дарожка, якая цяпер ляжыць сцежкаю між тоўстых бяроз і кустоў бэзу. А перад самым ганкам, белым, як увесь дом, як тэраса, была круглая клумба і на ёй, па позняй зялёнай траве, раслі кусточкі ружаў з жаўтлявымі бутонамі. Згадаўся ўспамін Вітольда Каятанавіча, як ён быў у Горцы і выкапаў там куст любімых Левітанам белых ружаў, прынёс іх у «Чайку», пасадзіў, і як яны спачатку зараслі травою, заглохлі, калі хварэў, не падымаўся з ложка, і як нарэшце, праз колькі гадоў, больш-менш акрыяўшы, зноў іх дагледзеў, і як яны яму аддзячылі, выкінуўшы бутоны. На карціне іх яшчэ не было, на кволым восеньскім сонцы апошнія бутоны грэлі іншыя кусты, ружы калі не маладосці, дык яшчэ і далёка не старасці мастака, бо левітанаўскія ён садзіў пазней, і я падышоў да клумбы, якая цяпер, захаваўшы свае ранейшыя абрысы, ляжала проста шапкаю старога дзёрну, рыжага ад леташняга быльнягу, густа зарослая дзікім маладняком. Я разгроб быльнёг, галлё, сушняк з дрэваў, спляжыў маладую, але ўжо агрэсіўную дзіч, скінуў з клумбы, ці дакладней — з колішняй клумбы, навал і тлен запусцення, і пад усім гэтым навалам і тленам убачыў тоўстыя, калючыя галіны руж. Яны ляжалі на зямлі заглушаныя, але ад старых чорных галін угару цягнуліся маладыя, зялёныя, і на іх, маладых, былі дробныя бутончыкі. Куст, мабыць, сам па сабе здзічэў, але на буто-

нах з зялёных сарочак рубінавай чырванню праклёўваліся кветкі, кволыя ад цемені ў зарасці. Я павырываў побач зелле, адгроб парахню галля і сухіх сцяблоў, даў кусту святло, адкрыў яму неба. Ці быў гэта левітанаўскі куст, хоць нейкая дваццатая ці яшчэ далейшая яго радня, але безумоўным было тое, што бутоны наліліся ад кустоў, якія садзіў і любіў Вітольд Каятанавіч. Хто ж паўторыць яго мудрасць? Хто зберажэ ружы? Хто выкапае куст і, як некалі зрабіў ён, мастак, прынясе іх у свой сад, пасадзіць каля свайго ганачка? Каму цяпер, не на пачатку, а ў канцы стагоддзя, захочацца зберагчы гэту духмяную сувязь з цудоўным светам і Бялыніцкага-Бірулі, і Левітана?

Я доўга стаяў над кустом, думаючы аб тым, што вось заўтра будзе яшчэ адзін пагодлівы дзень вясны, будзе сонца, і якое гэта шчасце, што я ўбачу бутоны пад сонцам.

Сцежкаю, якая вядзе да возера, я спускаюся з гары. Нехта яе тут пратаптаў, але я не пра гэта думаю, па ёй ідучы, у думках ружы, куст, які дагэтуль бярог, як мог, памяць пра апошнія кветкі і Левітана, і Бялыніцкага-Бірулі. Стаю на беразе пад старымі, якія ён таксама пасадзіў, ялінамі, дзе некалі на вадзе стаяла белая альтанка Любашы. Тут была яе купальня, блізка да купальні ляжаў бераг вострава Аржанік, тут яна пераплывала возера.

Я абыходжу сад. Пад дубам яшчэ трымаецца спарахнелы зруб калодзежа, у зрубе высокая вада, якую можна дастаць, нагнуўшыся з конаўкай, на вадзе белыя яблыневыя пялёсткі. Нехта капаў рыдлёўкай, раскідаў зруб: ці каб паставіць новы, ці каб зусім знішчыць калодзеж? А яблыні адцвіталі. Яны за калодзежам там-сям, па густой траве, усеянай дзікімі кветкамі, і нехта ўжо касіў траву, сена згарнуў. Яблынькі крывенькія, калекі-пакутніцы. Вялікі яблыневы сад Вітольда Каятанавіча некалі вымерз ушчэнт, не за ім — пазней, беспрытульны, і яблынькі пайшлі самахоць ад старых пнёў-каранёў, раслі як маглі, прабіваючыся да святла, паўсталі з парахні продкаў, з пнёў. Жывая прырода не хацела мірыцца са смерцю саду мастака, які яго любіў і даглядаў, сама, на свой розум, уваскрасала жыццё.

Абышоўшы кожную яблыньку, я выйшаў да разбураных хлявоў. Тут некалі стаяла кабыла Тучка — вазіла Вітольда Каятанавіча на эцюды, на паляванне.

*Дарагая Любусенька!*

*Сёння быў у канюшні ў гасцях у Тучкі, аднёс ёй лустачку хлеба. Яна перадае табе нізкі паклон. Спачатку мяне не*

*пазнала, выкаціла чорныя вочы, моцна захрапла, аж я спалохаўся. Пасля была да мяне вельмі ласкавая і ўважлівая*

*У нас тут ідуць дажджы, адзін дзянёк быў з сонейкам*

Тучка не жыла ў адзіноце. Побач стаяў яе сябра Арол, было ў іх жарабятка — Копчык. А яшчэ на двары жыла карова Маруся, хадзілі сабакі, без якіх якое паляванне, асабліва калі прыязджалі сябры-мастакі: Жукоўскі, Сцяпанаў, Мараваў, пазней — Герасімаў, Грабар. О, колькі іх тут перабыло! Адных сяброў дачкі Любашы з тэатра наязджала столькі, што, каб пасадзіць усіх у сані, трэба было трое саней. А яшчэ ж бывалі госці вышэйшыя: Фрунзе, Рудзутак. І Тучкі, і Арла часам не хапала. Падрослы Копчык быў малой падмогай. Даводзілася трымаць яшчэ і арабскіх скакуноў. Для верхавой язды.

*Тут, Любусік, кожны дзень дажджы, панура, але прыгожа, цвітуць астры, жоўкнуць дрэвы, паціху скідаючы долу бляклае лісце. Тучка, Арол і Копчык здаровыя, табе кланяюцца. Маруся кланяецца. І Сняжок, і Нюра, ваўчыца, Валет. У Азы два маленькія сынкі, ужо глядзяць. Яна цяпер страшэнна злосная, нервовая*

Госці часта наведваліся не на дзень-два. Тут многія жылі, працавалі. Асабліва падоўгу — мастакі, сябры Вітольда Каятанавіча. Нават у цяжкія дні і гады, калі паставіць на стол у місах было праблемай. Вось Любаша з Масквы піша бацьку ў «Чайку»:

«Лідзія Іванаўна і Грыша з Наташай моляць пасяліць у «Чайцы» беспрытульнікаў. Я адказала, что пакуль сама не ведаю, што і як там, якое жыццё, што дам адказ, як пагавару з табою і сама пабываю на Удомлі. Размова аб ліпені для Аркадзя і аб жніўні для ўсіх чатырох. Непакояць два іх сабакі. Сам разумееш, жыццё вельмі складанае. Баюся, што больш як сем-восем чалавек у гэтым годзе ў «Чайцы» пасадзіць за стол будзе вельмі цяжка».

Мала цікавіць нас, хто такія Лідзія Іванаўна, Грыша, Наташа, далёкія сваякі ці проста знаёмыя, ці чужыя людзі, якіх у «Чайцы» заўсёды хапала. Былі такія, што, ведаючы хлебасольнасць дома, гэтым злоўжывалі. І ўсё ж часцей тут жылі блізкія, дарагія сябры, хто і сваё душэўнае святло прыносіў у дом.

Вось ліст Ігара Грабара да В. Дракіна:

«Цяпер толькі вярнуўся з адпачынку ў «Чайцы» Бялы-

ніцкага-Бірулі на возеры Удомля. Цудоўна адпачыў і напісаў пяць рэчаў, у тым ліку вялікі, у рост, партрэт Бірулі на фоне зімовага пейзажа, з палітрай у руках. Пісаў на марозе пры 15 градусах, у мяцеліцу. Увесь час заносіла снегам, але ў мяне быў сродак разагравацъ фарбы».

Ліст пісаўся 6 лютага 1939 года. А ўжо ў красавіку Грабар зноў у «Чайцы», адтуль піша Дракіну:

«Ліст Ваш атрымаў на возеры Удомля, на дачы акадэміка Бялыніцкага-Бірулі, дзе адпачываю, пішу, палюю».

Зрэшты, Грабар не з частых гасцей «Чайкі».

Я абыходжу дом з захаду, ад Гарусава і Каскова, куды пайшоў вартаўнік. Іду паўз агароджу, спыняюся. Дом не светла-шэры, як з боку тэрасы, не белы, як здаваўся з боку Удомлі, калі я стаяў над зрубам калодзежа ў садзе, над яго крынічнай вадою, цяпер ён светла-ружовы. Асабліва заружавелі з боку Удомлі вежа, другі паверх, акно майстэрні, дах над майстэрняй. Зразумела: дом заружавеў ад сонца, якое села ў Каскове, хоць села ўжо глыбока, нават далягляд неба астыў. Дом як бы не спяшаўся развітацца з пражытым сонечным днём і не падпускаў да сябе шэры змрок. Ружовую цяплынь выпраменьвалі не далягляд, дзе закацілася сонца, не неба, яе выпраменьваў сам дом, бо ўсё навокал было шэрае.

«Чайка». Хто даў дому Вітольда Каятанавіча гэту назву? Хто — першы? Рэпін, Жукоўскі, Мараваў, Вольга Іванаўна, Любаша? Сам Вітольд Каятанавіч? А якая розніца? Назву дому даў мастак — гэта бясспрэчна. Той, хто ведаў тутэйшую прыроду і душу гаспадара. Хто палюбіў «Чайку». Дом сапраўды, нават цяпер, падобны на чайку з Удомлі. Як белая чайка над азёрным люстрам, увесь ва ўладзе святла, пераменлівасці пагоды і колераў над Удомляй, але пры ўсёй пераменлівасці — светлы, лёгкі, нібы ўзлятае над зямлёю і садам, над узгоркам, высокім берагам возера.

Наконт гэтага захаваўся кароценькі ўспамін Вітольда Каятанавіча:

*Сваю назву дача атрымала з прычыны, што ў той час на возеры было вельмі многа чаек, а дача, пафарбаваная ў белы колер, стаяла высока над возерам і мела выгляд чайкі. Паўплывала і тое, што Багданаў-Бельскі часта спяваў тут раманс «Вот вспыхнуло утро, над озером белая чайка летит», які мне вельмі падабаўся*

З першых гадоў «Чайка» абрасла сябрамі. Яна вітала ўсіх, хто сюды імкнуўся. Ад вясны да вясны вакол высокага белага дома пад сонцам і нават у непагоду расцвіталі вялізныя каляровыя парасоны мастакоў. Шмат хто пісаў маляўнічую прыроду. Адсюль па возеры далёка разносіліся песні выдатных спевакоў. Ад азёрных хваляў адбіваліся гукі музыкі, якая жыла заўсёды ў садзе, у доме. «Чайку» было чуваць і відаць усяму наваколлю.

Марыя Сяргееўна Сакалова жыла на процілеглым беразе ў Гарусаве, у доме Аракчэевых. З яе цёткай Надзеяй, студэнткай Сарбонскага універсітэта ў Парыжы, сябраваў Вітольд Каятанавіч. Пазней яна ўспамінала: «У дваццатыя-трыццатыя гады ў «Чайцы» заўсёды было шмат гасцей — мастакоў, артыстаў, пісьменнікаў. Яны прыплывалі на лодках у наш цудоўны сад, заўсёды поўны кветак, асабліва руж. Памятаю, як з Вітольдам Каятанавічам, Любачкай і Нінай Аляксандраўнай, яго другой жонкай, прыехала вельмі прыгожая жанчына, паэтэса Таццяна Шчэпкіна-Купернік, унучка вядомага артыста Шчэпкіна, сяброўка Аляксандры Калантай. Ёй так спадабаўся наш сад, што яна адразу напісала экспромт: «Ваш упоительный цветник мне в душу сладостью проник. В былое отворилась дверь. Воспоминания родник забил в глубинах тайных сердца. Вот так же пахла резеда в давно минувшие года». Гэтая запісачка да апошняга часу захоўваецца ў маёй сястры.

Яна ж, Марыя Сяргееўна, пакінула нам і самае непасрэднае ўражанне ад Вітольда Каятанавіча:

«Прыгожы бландзін з блакітнымі вачамі, вельмі жывы, красамоўны, страсны паляўнічы. Ён вельмі любіў жанчын і сяброў, любіў таварыства».

Я абышоў дом і вярнуўся да белай, пасінелай на ноч тэрасы. На ёй стаяў вялізны дубовы стол таго самага, што і ўвесь дом, колеру. Тут, за сталом, зноў прыгадалася «Тэраса» — карціна, якая цяпер вісела ў музеі Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве. Там, на карціне, і гэтая тэраса з белай калонай, і гэты стол пад калонай, на стале сіняя, налітая вадою Удомлі, ваза, у вазе яркія восеньскія кветкі. З гэтага месца, на якім я сядзеў зараз, у той час праз малады сад была відаць прастора Удомлі, вузенькай нітачкай далягляду злучаная з прастораю неба, і ён, мастак, кожны дзень бачыў адсюль Удомлю і неба над ёю, іх адзінства і варагавітасць, суадносіны іх ліній, колераў, тонаў, бачыў, як гэтыя колеры і тоны мяняліся і як яны ўзаемадзейнічалі кожны дзень і дзесяткі гадоў — выяўляў таямніцу ўзаемаадносін зямлі,

неба, вады назіраннямі за той самай зямлёй, небам і вадой, што нарадзілі левітанаўскі шэдэўр.

Але дзень пагас. Спаў у будцы, не падаючы голасу, Дзік. Я знайшоў у кутку тэрасы свечку, запаліў, паставіў на стол.

Змрок ночы ўсё ніжэй апускаўся на сад, на дом. Агеньчык свечкі ледзь пагойдваўся ад майго дыхання, ды яшчэ, можа, ад шалёных салаўіных спеваў, ды яшчэ хіба, ад жабоцькавага хору на возеры, за садам. Паветра стаяла ціхае, нібы налітае ў глыбозны сасуд.

Ціхія святлацені пагойдваліся ад свечкі на стале.

Колькі ж людзей магло сядзець за гэтакім сталом? Пятнаццаць, дваццаць? Колькі едакоў ён мог адразу прыняць, накарміць? І калі пятнаццаць ці дваццаць, то колькі чаго павінна стаяць на стале? Дзе было ўсё ўзяць у цяжкія гады пасля рэвалюцыі ці ў вайну, пасля вайны?

Зноў на памяць прыходзяць радкі з лістоў Вітольда Каятанавіча ў «Чайку»:

*Дарагая Любусік!*

*Дастаў пуд мукі, пшанічнай, дзесяць кілаграмаў грэчкі, восем кілаграмаў цукру, пятнаццаць кілаграмаў пшана*

*У «Чайку» прыеду, як закончу работу з Мадоравым. Купіў дваццаць кілаграмаў аўсянкі*

*З прадуктамі ў Маскве па-ранейшаму цяжка. Давялося вельмі пераплачваць*

*Знайсці патрэбныя прадукты немагчыма. Але пашанцавала купіць мяшочак цукру*

Тое самае ў «Чайцы», той самы клопат: што падаць на стол, як накарміць гасцей? Вось піша Люба бацьку:

«Пасля шчупакоў, пра якія я табе пісала, злавіла яшчэ, учора 4,5 фунта, сёння — 2,5 фунта».

«Купіла цяля, якое заказвала ў вёсцы, і цяпер у нас ёсць што падаць людзям на стол».

Нават з Нова-Нікалаеўска, дзе яна гастралюе з трупай свайго тэатра летам 1920 года, піша ліст бацьку і ў лісце — радкі таго самага клопату:

«Чым далей едзем ад Омска ў глыбіню Сібіры, тым вышэй цэны на прадукты. У Н.-Нікалаеўску чорны хлеб — 75 руб. фунт, яйкі 400 рублёў за дзесятак, малако — 60 р. бутэлька. Але пасылку адсюль вышлю. Калі будуць дапытвацца ад каго пасылка, то гавары, што чакаеш яе ад супрацоўніцы культурна-асветніцкага Аддзела Штаба Памочніка Галоўнакамандуючага ўсімі Узброенымі Сіламі

Рэспубліці па Сібіры Л. В. Бірулі. Цалую — Л. В. Біруля».

Не ва ўсе, вядома, гады жыццё ў «Чайцы» было цяжкое. Цяжэй тады, як цяжка ўсім, у гады галадовак, разрухі. Нават даехаць з Масквы ў «Чайку» было складана. Вось — 14 снежня 1917 года Люба піша з «Чайкі»:

«Малю цябе, не едзь пад самае свята, бо цябе сапхнуць пад цягнік. Міхайлу Рыжанава, салдата, скінулі пад цягнік, які ішоў, парвалі яму ўсё вуха. Ён і шапку згубіў. Абкручвае галаву Шурынай вязанай кофтай. Уяўляю, што будзе пад самае свята. Калі ты мяне любіш, то выканай маю просьбу — не прыязджай раней як чацвёртага, пятага. Я страшэнна баюся, што ты трапіш у якую-небудзь гісторыю. Увесь час думаю: як вы там, у Маскве?»

Але, нягледзячы ні на што, жыццё ў «Чайцы» ішло так, як хацеў Вітольд Каятанавіч, дакладней — як патрабавала душа мастака. Не спыняліся паляванні, выезды на эцюды, работа над карцінамі, прыезды і ад'езды гасцей, застолле было заўсёды шматлюднае, вясёлае. Гаспадар усімі сіламі стараўся падтрымаць полымя сяброўскіх сустрэч, не падаючы выгляду, як гэта цяжка часам рабіць. Ён шмат пісаў, яго пейзажы ахвотна набывалі лепшыя мастацкія музеі, галерэі, фонды, куплялі прыватнікі. І ўсё ж...

Аднойчы вынес карціны на чорны рынак. Ішла грамадзянская вайна, і грошы нічога не былі вартыя. Карціны мяняць на прадукты? І вось яны ў руках у селяніна. Той плаціць хлебам і салам. Ускінуўшы мех з прадуктамі на плячо, адышоўшы ад сялянскага воза, Вітольд Каятанавіч спыняецца. Спакою не дае загадка: навошта селяніну карціны, калі гэтакія дарагія прадукты? А ён, мастак? Да чаго дайшоў, каб на чорным рынку збываць за хлеб і сала карціны? Азірнуўся, разгублены, і ўбачыў, як селянін, седзячы на возе, зрываў палотны з падрамнікаў, рамы і падрамнікі скідаў з воза, палотны запіхваў у мех, а шкло з карцін клаў на сена і сенам перакладаў. Вітольд Каятанавіч падбег, абураны, закрычаў, што гэта чалавек робіць? Той спакойна адказаў, што шкло яму патрэбна ў вокны, а палатно, калі ўдасца адмыць ад фарбы, згадзіцца на сарочкі дзецям і што буржуі псуюць палатно і шкло, не ведаючы іх сапраўднага прызначэння.

Яшчэ аднойчы вырваў са сцяны разам з цяжкой мармуровай плітою дарагі, прыгожага меднага ліцця рукамыйнік, узваліў на тады яшчэ магутныя плечы і прынёс на той самы рынак. Чалавек купіў, але, агледзеўшы набытак, спытаў:

«Навошта ж ты, барын, прынёс рукамыйнік разам з вадою? За ваду ніхто табе не заплаціць».

Змрок вакол тэрасы густы, як апоўначы. Замоўклі на возеры жабоцькі, за імі следам сціхлі салаўі. З машыны, якая стаяла ў садзе, я дастаў спальны мех і з ім вярнуўся на тэрасу.

Свечка дагарала. Я ўзяў яе цёплы агарачак і, затульваючы далонямі, каб не пагасла ад якога нечаканага ў гэтай цішыні шолаху ветру, зайшоў з ёю ў дом.

Жаўтлява-сінія плямы кволага святла ад свечкі гайдаліся і плавалі ў паветры, па сценах і столі, па далёкіх ад мяне сценах і высокай столі, па высокіх замружана-белых дзвярах, па такой самай белай пячной сцяне над камінам. На прыпечку чорнай пашчы каміна я заўважыў яшчэ адну свечку, запаліў яе ад агарка, але і агарак не патушыў, паставіў на прыпечак. Цёмнае жарало каміна ажывілася ад бляску агеньчыка свечкі, заблішчала чорнае жалеза аковы. З доўгай свечкай у далонях я адышоў ад каміна да белых дзвярэй, але адчыніць іх усё роўна як не асмельваўся і зноў азірнуўся. Агеньчык свечкі ў каміне ажыўляў і жарало каміна, і ўвесь пакой, яму пасабляў агеньчык з маіх рук, і мне падалося, што ў доме хтосьці ёсць акрамя мяне, жыве нейкая жывая душа.

Я зноў пачуў яго голас:

*Ноччу сяджу ля каміна і слухаю, як плача мяцеліца*
*Ля агню чую любімага Цютчава:*

*Как сердцу высказать себя?*
*Другому как понять тебя?*
*Поймет ли он, чем ты живешь?*
*Мысль изреченная есть ложь.*

Радкі паэта часта прыходзілі на памяць, калі Вітольд Каятанавіч заставаўся сам-насам з начной цішынёй, з агнём у каміне ці перад агеньчыкам свечкі, дзе-небудзь у лесе ці полі каля паляўнічага вогнішча, проста адзін над возерам, адзін над рэчкаю. Паэт дапамагаў зразумець самога сябе, сваю таямніцу. Як і цяпер. Ён, Вітольд Каятанавіч, пачуццё цаніў вышэй, як слова. Ілжы ў пачуццях было заўсёды меней, як у слове. Ілжывую душу пачуцці сапраўдныя не наведвалі. Гэтак і карціна глыбокая, таленавітая: калі ў ёй шмат пачуцця, тады няма лжы. Ен гэта адчуваў заўсёды, але

сказаць, як сказаў Цютчаў, не мог. Цяпер — мог і сказаць. За паэтам услед. Яго радкамі.

І таму нельга гасіць агеньчык у пакоі, дзе жыве чыстая душа. І выносіць агеньчык таксама нельга. Ён можа пагаснуць сам. Толькі сам. Як захоча душа.

Але ў мяне ў руках яшчэ адна свечка, і з ёю я іду далей па пакоях начнога дома. Шолахі, гукі, чыёсьці дыханне чуюцца ў кожным пакоі, на кожным кроку. Я не адразу здагадваюся, што гэта мае шолахі, мае крокі, маё ўсхваляванае дыханне трывожыць вусціш ночы ў доме — такія тут сцены, такая столь, такое ўсё, што самы ціхі гук не тоне ў цішыні, а будзіць сваіх двайнікоў. Ці, можа, мае шолахі, крокі, дыханне знаходзяць чыесьці шолахі, крокі, дыханне? У іх, паміж імі, можа, свая размова?

Спыняюся ў пакоі Любашы. Ля акна, якое глядзіць на Удомлю. Бачу нібыта возера, белую купальню, насупраць — востраў Аржанік.

«Мой мілы татачка! Пішу табе ў дзень балю, грандыёзнага балю, які сёння ў «Чайцы». Зноў гучаць «прахадная» і «лансей». Ногі самі скачуць. Вялікае табе дзякуй за панчохі, чаравікі, тарты, цукеркі. Вельмі прыемна атрымоўваць твае падарункі з Масквы».

Голас — яе? І зноў — яго:

*Дарагая! Віншую са святым Прычасцем. Дай бог табе, родная, у добрым настроі сустрэць свята! Мне вельмі сумна, што не магу цябе абняць, парадаваць*

Зноў — яна, Люба:

«Дарагі мой!.. Часам мне здаецца, што ніводная дачка ва ўсім белым свеце не бачыць столькі пяшчоты і клопатаў ад свайго таты, колькі бачу іх я. Усе мае сябры, уся мая тэатральная трупа ведае, які незвычайны ў мяне татачка».

І зноў — голас Вітольда Каятанавіча:

*Веру ў цябе, люблю цябе, жыву толькі для цябе*
*Мае думкі і сэрца з табою. Як бы хацелася пражыць усё жыццё для цябе*
*Павер, што больш за ўсіх на свеце я люблю цябе*

І раптам — гром з яснага неба:

«Мілы, адзіны татачка! Калі настане канец маёй Галгофе? У мяне няма больш сіл знаходзіцца ў гэтых сценах, няма сіл пакутаваць. Калі ёсць у цябе да мяне хоць

кропля спачування, калі ты яшчэ любіш мяне, забяры адсюль. Дзеля ўсяго святога, што ёсць у цябе ў жыцці, памажы мне. Пішу крывёю сэрца».

Жудасна адчуваць, што там, за начным акном, адразу за акном, за садам — Удомля. Я адварочваюся ад акна і выходжу ў наступны пакой. Таксама — пакой Любашы? Пакідаю яго, мінаю яшчэ адзін невялічкі пакойчык і драўлянай лесвіцай падымаюся на другі паверх.

Але ж яе крык — не з Удомлі? Не з гэтага дома?

Пакуль што — не з гэтага. І ўсё роўна... пасля такой узаемнай любові з бацькам і такога, у любові і радасці, жыцця?

І калі не адсюль, то — сюды, у гэтыя сцены?

Адкуль?..

Я адкідаю ад дзвярэй аполак і заходжу ў майстэрню. У акне загараюцца адбіткі агеньчыка маёй свечкі, і начны змрок адступаецца ад акна. Я кідаю на пустую падлогу спальнік, усё роўна як далей ісці няма куды.

На адзіным у майстэрні крэсле, заляпаным старымі фарбамі, заўважаю яшчэ дзве васковыя свечкі. Яны стаяць, прывараныя воскам да крэсла. Падпальваю іх чарнахвостыя кнаты і паміж імі, зліўшы гарачы воск на крэсла, стаўлю сваю свечку. Тры свечкі, тры языкатыя агеньчыкі ды яшчэ адбіткі ў акне, па тры ў кожнай шыбіне, напаўняюць пакой не столькі святлом, як яго хвалюючым мільгаценнем, што ажыўляе і сцены, і столь, і падлогу, ствараюць, разам з водарам расплаўленага воску, нейкі саборны настрой. Я падыходжу да акна. Яно такое высокае, што ў ім нават змроку зямлі не відаць — толькі змрок неба. Там — зоры, месяц. Не бачу, але ведаю — яны там. І зноў адчуваю, што тут, у доме, акрамя мяне, сапраўды ёсць жывыя душы. Азіраюся. Дзверы — адчыненыя? Я хіба не зачыніў, як ішоў, за сабой?.. У калідорчыку за адчыненымі дзвярыма па сцяне слізгаюць плямы святла і цені, усё роўна як там нехта прайшоў.

Мроі? Але... калі ім даць волю?..

«...няма сіл пакутаваць. Калі ты яшчэ любіш мяне...»

Так, ён тады быў тут, у «Чайцы». І, можа, калі прыйшоў гэты ліст, быў у майстэрні? Канец сорак сёмага года? Ён тады шмат працаваў. Амаль кожны дзень працаваў, як бы цяжка ні было жыць. Гэта — прафесійная патрэба. Пісаць — кожны дзень. І калі прынеслі гэты ліст, калі ён яго прачытаў?..

Так, ён не мог з гэтым лістом заставацца ў майстэрні.

Ён выйшаў... Куды? У сад? На возера? Ён спусціўся па лесвіцы ў пакоі Любашы. Там, у яе шкатулцы, захоўваліся ўсе сямейныя лісты. Ягоныя — да яе. Яе — да яго. Ён успомніў... Яму шмат чаго трэба было ўспомніць. Сваё і яе жыццё. Жыццё было ў лістах. Яны так часта пісалі адно аднаму. Яны не маглі без гэтага пражыць дня — каб не напісаць, не атрымаць ліст.

Ён спускаўся з майстэрні па лесвіцы з агеньчыкам у руках, са свечкаю ці з лямпаю, бо ў доме не было электрычнага святла і заўсёды палілі лямпы і свечкі, а ён любіў свечкі.

Гэта — калі ліст атрымаў увечары, як сцямнела. І тады следам за ім, калі пакідаў майстэрню, па дзвярах і сцяне ў калідорчыку матляліся гэтыя плямы — святло і цені.

Ён сышоў у пакоі Любашы...

## І КРЫЖ, І ПОЎНЯ

Ад агеньчыка, які трымаў у руках Вітольд Каятанавіч, запаліў свечкі на медным кандэлябры, што стаяў на туалетным Любашыным століку побач са шкатулкай, сваю свечку паставіў на камін, сеў перад ім, халодным, у крэсла і яшчэ раз прачытаў жахлівы ліст з бальнічнай няволі. Потым, паклаўшы яго на столік, адкінуў века шкатулкі, дастаў з яе пачак лістоў. Зверху пазнаў ліст, напісаны ім даўно, яшчэ ў дваццаць першым годзе, у адзін з пагодлівых дзён вясны, у сакавіку, ранічкай у майстэрні.

*Дарагая Любаша!*

*Я ў захапленні ад сённяшняга сну. Стары Гарусаўскі дом, твой пакойчык, у правым кутку ад святла блішчаць лампады, старэнькія іконы, праз шчыліну занавескі глядзіць неба веснавой ночы, а ля твайго ложка мілая, бясконца добрая твая нянечка спявае: «Баюшкі-баю, жыве барын на краю...» Я вярнуўся з палявання. Ты ўжо ўлеглася спаць. Я заходжу развітацца з табою на ноч, як рабіў заўсёды, нават калі ты ўжо спала. Я лічыў сваім шчаслівым абавязкам гэта зрабіць: прыйсці і паглядзець, як спіш. «Баюшкі-баю, баюшкі-баю»,— гучыць усё цішэй. На дыбачках, каб цябе не пабудзіць, пакідаю пакой, а ў сэрцы столькі ціхай радасці! Увесь сэнс жыцця быў у табе адной, усе нягоды, увесь смутак перакрываліся радасцю, што ты ў мяне ёсць. Як цяпер, памятаю кожны год, кожны месяц, у тваім жыцці.*

*Памятаю восеньскі дзень, апалае ля балкона жоўтае лісце ліп і цябе, як ты ў карычневым палітончыку маленькімі грабелькамі збіраеш лісце ў кучу, а ў ясным небе сумна крычаць журавы, і сэрца поўніцца радасцю, якую нельга выказаць. Я тады быў маладым мастаком, у мяне было ўсё наперадзе,і я шмат бы даў, каб вярнуць хоць год таго жыцця, той надзеі, веры ў сэнс існавання, зноў глядзець на цябе, песціць цябе, зноў што-небудзь прыносіць табе з палявання. Памятаю, як позняй восенню я знайшоў у лесе некалькі малінавых ягадак, што выпадкова засталіся ў дзікім малінніку. Я іх асцярожна паклаў у пустыя гільзы патранташа, каб данесці, не змяўшы. Якая гэта была для мяне радасць! Я ніколі гэтак не радаваўся пасля, калі насіў табе дарагія цацкі. Жыццё развучыла радавацца. Яно не літуе ні правых, ні вінаватых. Насуперак нашай волі, нашаму розуму нас вядуць невядомыя сілы, і мы падначальваемся ім. Фатум? Я глыбока веру, што гэта — так*

Ён апусціў рукі з лістом на калені. Чаму — фатум? Што значыць: жыццё не літуе ні правых, ні вінаватых? І што за невядомыя сілы, якім падначальваемся? Ён заўсёды вучыў дачку быць моцнай, не паддавацца злым сілам, а тут? Шукае апраўдання? Якога? У чым апраўдвацца перад дачкою?

Гэта быў толькі адзін унутраны голас — голас адваката. А быў яшчэ другі, таксама яго, унутраны — пракурора ці суддзі, які цэліў не ў брыво, а ў вока: дзе Вольга Іванаўна, маці тваёй дачкі?

Зрабілася халодна, няўтульна, жахліва. Вольга Іванаўна памерла сорак гадоў назад ад сухотаў. Хто застрахаваны? Ці ёсць такі — хоць адзін? Памерла ў сваім доме — у Маскве, у Варатнікоўскім завулку. Люба была пры ёй. А ён — пры ёй? Чаму развяліся? Хто вінаваты? Любіў жанчын? Была Ніна, Любашына бонна, якая жыла з імі, у іх доме? Як жа ты?..

*Мая мілая, бясцэнная мая! Так хочацца, каб ты мяне зразумела, каб была да мяне бліжэй*

Каб дачка зразумела і апраўдала? Але яшчэ тады — ці магла яна цябе зразумець, калі ты адпіхнуў ад сябе яе маці? Ці не тады паміж бацькам і дачкою свет раскалоўся? Не, не! — запратэставаў голас адваката.— Люба мяне любіла і любіць. Я не пазбаўляў яе маці. Яна гэта ведае. Вольга Іванаўна сама пайшла. Не вытрывала — шмат жанчын акру-

жала мужа? Гэта — так. Але ён не хаваўся. Яны былі ў іх доме, за сталом. Рэўнасць? О, гэта — жах! Але ці магла Люба ў той час іх зразумець? Колькі ёй было? Гадкоў дванаццаць? І яна любіла Ніну Аляксандраўну. Пасля смерці Вольгі Іванаўны любіла яе як маці. Нядоўга? Так — праз колькі год памерла Ніна Аляксандраўна. Таксама ад сухотаў. Чаму ўсе — ад сухотаў, першая і другая? Што за хвароба? Кажуць, сухоты — ад душэўных пакут? Але жылі заўсёды цікава, у дастатку. Пакуты душы бываюць і ў дастатку? Зрэшты, чаму, калі не лічыш сябе вінаватым, просіш дачку, каб яна цябе зразумела? Дапускаеш, што можа не зразумець? Магла не зразумець?

Аб гэтым яшчэ ніколі не думаў з жорсткасцю да самога сябе, заўсёды даваў права гаварыць аднаму адвакату. Але цяпер пракурор няўмольны, пераканаць і абвергнуць яго ўсё цяжэй. Лягчэй проста не чуць. Заткнуць вушы? Зрабіць выгляд, што не чуе? Не, лепей чытаць ліст да Любашы, свой ліст з далёкага часу, чытаць і чытаць, не адрываючыся.

*Пасля Сібіры ты яшчэ да мяне не вярнулася. Ты мяне любіш, я гэта ведаю, любіш не менш, як раней, але мы з табою ўсё далей і далей адно ад аднаго. Паміж намі нейкая сцяна. Я імкнуся да цябе, але ты далёкая, і зноў, убачыўшы цябе, я, нібы смоўж, хаваюся ў сваю шкарлупіну*

Так, гэта пачалося з Сібіры, дзе дачка была ў гастрольных паездках з трупай МХАТа. Але колькі добрых лістоў яна прыслала адтуль! Заўсёды, дзе б ні была на гастролях, пісала, з кожнага горада, пісала часта. Адкрывала свет, краіну, жыццё ёй адкрывалася, была шчаслівая ад паездак, набіралася радасці, аптымізму, вопыту і, як яму здавалася, глыбокага дарослага пачуцця. Тыя лісты ўсе ў шкатулцы. З Адэсы, Днепрапятроўска, Нова-Нікалаеўска, Харкава, Омска, Растова-на-Доне, Свярдлоўска.

Пачаў выкладаць іх на стол. Вось — з Харкава: «Вельмі я без цябе, татачка, сумую. Радая, што працуеш у Яснай Паляне, у прыродзе, якую так любіш». А вось — са Свярдлоўска: «Мілы мой татачка! Два дні не пісала табе і адчуваю вялікую душэўную патрэбу сказаць хоць некалькі слоў. Не за гарамі жнівень, а з ім і «Чайка», наша мілае возера, ты, мой дарагі і любімы». І з Адэсы. Усюды пра яго і пра «Чайку», пра мару сустрэцца, пра яго карціны ў мясцовых музеях, галерэях. Ходзіць па музеях і шукае карціны — у кожным горадзе. Вось — яшчэ ліст з Харкава: «Была ў мас-

тацкім музеі, бачыла тваю карціну «Асенняе сонца». Цудоўная, адна з маіх любімых (памятаю яе з маленства), а вісіць не на месцы. Разгаварылася з загадчыкам музея, прасіла перавесіць. Паабяцаў. Над тваёй карцінай жахлівая работа Барлюка. А ярлычок — Канстанцін Каятанавіч Бялыніцкі-Біруля. Я сказала, што ты ўсё жыццё насіў імя Вітольда. Не паверылі. Давялося паклясціся, што я твая дачка, родненькая».

Не, Любаша яго любіла, як і ён яе. А сцяна паміж імі пасля сібірскіх гастроляў — упершыню. І ён у шкарлупіну хаваўся ўпершыню. Перажываў? А трэба ўсё разумець. Жыццё ў тэатры складанае. Трэба паважаць яе права на думку, учынак, пачуццё. Ён гэтак рабіў? Ці заўсёды?

*Хацеў бы пражыць вячэрнюю зару сваю з табою разам, не замінаючы табе, не пярэчачы ні ў чым. Не хачу даваць парады, не прэтэндую на свой уплыў. Я вельмі цябе паважаю і лічу, што як чалавек ты склалася. Але не забірай у мяне маю апошнюю радасць быць побач з табою. Ты не падыходзіш да мяне, а я ўсё веру, што ты да мяне вернешся, і твой ссівелы татачка, твой сябра, не малады мастак — стары акадэмік, зноў прынясе табе з лесу малінавыя ягадкі ў гільзах, а яго Любанька вялікімі грабелькамі, як калісьці маленькімі, будзе збіраць сухое лісцейка ў садзе «Чайкі»*

*Мая дарагая! Гэты ліст напісаны па загаду сэрца. Яго напісалі ціхія слёзы радасці, успаміны пражытага. Яшчэ раз — я глыбока шчаслівы, што ты запоўніла маё жыццё*

Апошняя фраза прымусіла задумацца. Запоўніла жыццё? Так, гэта — праўда. Асабліва пасля смерці Вольгі Іванаўны — хто, як не Люба? Дзе той ліст?.. А не трэба шукаць — памятаў: «Беражы сябе, мілы, ведай, што мы з табою ў жыцці адзінокія, і ўсе, хто вакол нас, толькі да таго часу, пакуль нам з табой добра». Гэта яна пісала ў ліпені 1947 года, калі свечка на магіле маці даўно згарэла, роўна за год да сваёй свечачкі. Гэту кроўнасць, адну-адзіную нітачку кроўнасці ў акіяне далёка не вечных сяброў, прыхільнікаў, нейкіх сваякоў, яна адчувала востра, балюча. Усё разумела. Нават Алена Аляксееўна, яго трэцяя, апошняя, жонка, якая была побач, не залічвалася ёю ў круг кроўнасці. І гэтыя пачуцці былі яго пачуццямі, пра якія ён не хацеў думаць, якія жылі ў ім таемна, але жылі. Алена Аляксееўна была побач, але ці былі ў яго да яе пачуцці, якія ён меў да Любінай мамы, Вольгі Іванаўны? Люба яднала адно з маці, усе

астатнія жанчыны побач з ім былі ёй чужыя. Яна яго разумела не толькі як дачка бацьку, але як жанчына, як мастак мастака. Інтуіцыяй, нервамі. Заўсёды было адчуванне, што яна яго разумее лепш за іншых. Нават калі была маленькая. У ёй да яго жыла не проста любоў, але бязмежная вера.

Калі шукаў загадку Левітана, хіба не шукаў загадку самога сябе? Калі спасцігаў узаемаадносіны Левітана з Турчанінавымі, дачкой і маці, Люлю і Ганнай Мікалаеўнай, адчуваў драму настаўніка, хіба не прадчуваў у ёй сваю драму? І хто гэта ведаў, як не Люба? Ні самыя блізкія сябры, ні жонка не ведалі — ведала Люба. Адкуль? Ад яе нічога ў жыцці не хаваў. Ды і сама адчувала.

Яркая зорка згарае хутчэй, чым цьмяная. Каб не згарэць дачасна, трэба гарэць, можа, не так ярка? Моцны агонь у сасудзе спальвае сасуд. Але хто пагасіць гэты агонь душы? Ці ёсць тая сіла? Жыццё Левітана пацвердзіла, што сілы гэтай няма. Ён сам не сіла. Ён геній, які павінен згарэць у сваім агні. Яго талент — пакуты. Тут — і зямны крыж і поўня ў небе. Моцнае пачуццё патрабуе моцнага здароўя — гармонія зместу і формы. Іначай — катастрофа? Але Левітан быў не лепшым чынам, як дар прыроды, сканструяваны мозгам прыроды, каб катастрофы не адбылося. І калі ён, Біруля, гэта зразумеў, адчуў, які магутны агонь можа гарэць у кволым сасудзе, тады зразумеў і свой лёс. Яго сасуд, можа, быў мацнейшы, агонь у ім, магчыма, слабейшы, але гэта мала што мяняла ў сэнсе выніку, лёсу, бо ўсё роўна не было да адпаведнасці паміж зместам і формаю, агнём і сасудам. Гэтакі лёс кожнага сапраўднага мастака. Нават калі ён — не геній. Калі проста талент. Бо і звычайны талент — талент згарання. І ці не таму, усё гэта прадчуваючы, а можа, і ведаючы, ён некалі быў страшэнна ўражаны слязамі Талстога, пра якія расказаў Мараваў? Тады ўразіла не слабасць Талстога, а яго сіла — сіла пачуццяў. А з кім ён падзяліўся гэтымі думкамі? У сэнсе самаадчування, свайго адбітку ў люстэрку жыцця мастака? Ні з кім, акрамя Любы. Яна ўжо была актрысай тэатра і зразумела яго трывогу. Гэту трывогу яна зразумела як блізкую небяспеку, як лёс сям'і.

Не, яна ніколі не папракнула бацьку за нейкі легкадумны крок. Ведала, што розум і мэтазгоднасць — не ўся мера жыцця ў мастацтве, што ёсць яшчэ мера — апантанасць душы і сэрца. І таму з трывогай у кожным лісце пыталася ў бацькі пра здароўе, настрой, сон, працу, пісала яму, калі разлучаліся, ледзь не кожны дзень і кожны дзень

чакала голасу ад яго, быццам ўсё гэта магло адвесці немінучыя непрыемнасці і бяду. Яна была адзінай жанчынай, якая ўсё адчувала, прадчувала. Іншай такой ён не ведаў. І таму любіў сваю Любу не толькі як дачку, але як адзіную сабе па духу жанчыну.

Думаючы пра ўсё гэта, працягваў перабіраць лісты ў шкатулцы, пакуль не выхапіў з яе, як апёкшыся, ліст са знаёмым выразным, буйнымі літарамі, почыркам. Ад Станіслава Жукоўскага? Адкуль тут гэты ліст? Атрымаўшы з Варшавы, нікому яго не паказваў, хаваў у сваім стале. Праўда, ад Любашы сакрэтаў не было, як і ў яе ад яго, і хоць не ў першы дзень, але і гэты ліст чытаў ёй сам, стараючыся голасам, асцярожнымі каментарыямі згладзіць уражанне, якое дачка магла мець ад шчырай споведзі Станіслава. Нейкія радкі не прачытаў, прапусціў, думаючы, што яна пра іх не дазнаецца. «Ліст, які ты напісаў мне, можа напісаць толькі закаханы чалавек...» Не, гэта — чытаў. І чытаў далей: «Я лічу, што чалавек, калі ён кахае, можа ўзняцца да неверагодных вышынь духу, да якіх толькі можа ўзняцца чалавек у творчасці і глыбіні пачуццяў». Любаша заўсёды з асалодаю слухала і чытала тэмпераментныя, поўныя шчырага пачуцця лісты Жукоўскага. Яны мелі шмат агульнага ў характарах. Абое любілі прыгожае жыццё, выхаванасць, далікатнасць. Таму дачка і заўважыла ліст на бацькавым стале, паклала яго разам з усімі лістамі ў сваю шкатулку. Як жа, ліст ад Жукоўскага! Хіба магла дапусціць, каб зваляўся? І што было ад яе, дарослай, хаваць? «Гэта месца ліста не чытай маладым закаханым — ім яшчэ не зразумець і яны мяне асудзяць, назавуць цынікам». Любу, пэўна, меў на ўвазе, кажучы пра маладых закаханых. Але што за месца ў лісце? Тое, што пасля слоў пра вышыні духу?

«Твой ліст выдае цябе — ты закаханы. Цудоўна! На метрыку махні рукой. Ты малады душою і вастрынёй пачуццяў. Усходнія мудрацы, якіх я лічу лепшымі за шчырасць і логіку, кажуць, што чалавек да глыбокай старасці павінен жыць усімі функцыямі душы і цела. Што да мяне, то я стараюся трымацца гэтай парады. Жыву толькі для жанчын, да работы натхняюся з думкаю аб прыгожай жанчыне. Калі ж не будзе гэтага допінгу, тады ці варта жыць? Як выдатна ты сказаў у сваім лісце: «Сэрца не слухае, што гаворыць халодны розум». І гэта так! Хай сэрца не слухае. Мы, мастакі, да канца дзён сваіх павінны быць паэтамі і палоннымі жаночай прыгажосці! Аднак я не раю табе занадта даваць сэрцу волю — не рызыкуй, небяспечна

перайсці мяжу, за якой пачынаюцца ўсе спадарожнікі закаханага — рэўнасць, падазронасць, а там і высочванне, сыск,— тады пачнуцца церні кахання, на гэта пойдзе ўся энергія нерваў. Успомні, як ты ў сініх акулярах, у футры ганяўся на ліхачы? Як бы не паўтарылася гэтакая неабходнасць. Ніколі не засяроджвай пачуцці на адной жанчыне — трэба мець рэзерв. Ён будзе паратункам: страціш адну — застанецца другая, і пакут меней. Пачуццё павінна раздвойвацца. А кахаць можна адразу дзвюх жанчын».

Вітольд Каятанавіч усміхнуўся, паклаў ліст на калена, адкінуўся спіною на спінку крэсла і са светлай усмешкай глядзеў на агеньчык свечкі, якая стаяла перад ім. Дружа Станіслаў! Вось гэтакі ён быў амаль заўсёды. Рыцар жыцця, весялосці, прыгажосці, сваёй і жаночай, рашучы, адкрыты, гуляка і рызыкант, але разам з тым які каларытны жывапісец, са сваім мастацкім густам і тварам. Насустрач любой бядзе ішоў і ў жыцці, і ў мастацтве. Успомнілася прыкрая гісторыя, калі яго ледзь не выставілі з Таварыства перадзвіжнікаў. З гарачкі пляснуў па твары Эфроса. Пры людзях. А за што? Эфрос, мастацкі крытык, выступіў у «Театральном обозрении» з артыкулам «Две выставки». Пахваліў, як падхалім, Каровіна і несправядліва раскрытыкаваў Жукоўскага. Гэтага, вядома, Станіслаў дараваць не мог. І разгарэўся сыр-бор. Астраухаў, Юон, Крымаў былі катэгарычна за вывад Жукоўскага з Таварыства, прыгразілі сваім выхадам, калі ў ім застанецца Жукоўскі. Што было! Умяшаўся Ілья Яфімавіч Рэпін. «Ах, мілы, ну навошта вам пакідаць Таварыства? — іранічна ўсклікнуў ён у адрас Астраухава.— Жукоўскі сам сябе пакараў сваім учынкам. Такі чалавек — гарачы!..» Вёў перамовы міратворчыя і Вітольд Каятанавіч, па просьбе Рэпіна. Гусар? Усе мы былі гусарамі! А ўсё ж гарачы тэмперамент, свой гусарскі характар Станіслаў уклаў не толькі ў аплявуху Эфросу. Гэты агонь і ў яго жывапісных карцінах. Тая самая кроў тэмпераментна палае ў яго пейзажах: Яшчэ Паленаў яе заўважыў. Станіслаў быў добрым вучнем Паленава, вартым настаўніка. Узяў ад яго тэхніку, а душа — свая. Кроў — свая. Гэта заўважала і крытыка. Эфросу хацелася зняважыць мастака? Але пісалі іншыя, пісаў вядомы крытык Кін: «Вялікі майстар святла і паветра, Жукоўскі наўрад ці мае сёння канкурэнта ў іх перадачы. Яго пэндзаль багаты і ўпэўнены. Жукоўскі — майстар і паэт». А хто лепш за яго пісаў «дваранскія гнёзды?» Тут ён — кароль!..

Вітольд Каятанавіч паднёс ліст да агеньчыка свечкі:

«Я навучыўся не губляць галаву ў каханні. Цяпер у мяне дзве прыгажуні, абедзве жонкі графаў».

Вось тое месца, якое Жукоўскі не раіў чытаць маладым. Але яго любіў перачытваць Вітольд Каятанавіч.

«Адна з іх бландзінка з блакітнымі вачамі, другая з чорнымі бліскучымі, як чорны брыльянт (калі пажадаеш, прышлю фотаздымкі), высокая культура душы і цела. Люблю абедзвюх. Чарнавокая — такой арыгінальнай, з трагічным налётам, прыгажосці, што я з асалодаю кожны раз гляджу на яе, назіраю жэсты — яна актрыса аперэткі і жонка графа М. А другая, жонка графа К., бландзінка з блакітнымі вачамі, цудоўным тварам і не менш цудоўнай фігурай — паліць мяне агнём. Бачыш, мой дарагі сябра, як трэба жыць: каб воўк быў сыты і авечкі цэлыя. Кахай, але не трацъ розум».

Вітольд Каятанавіч успомніў, як рагатаў, чытаючы ліст першы раз. Было гэта ў трыццаць трэцім годзе, летам. Ён тады збіраўся ехаць у Запаляр'е пісаць поўнач і пісаў наваколле «Чайкі». Падвесяліў Станіслаў на дарогу. У яго, поўнага жыцця і энергіі, заўсёды сур'ёз быў змешаны з жартамі. Пра сваё захапленне жанчынамі ён пісаў праўду, як і гаварыў заўсёды праўду, праўды не баяўся, але ў высновах часам цяжка было зразумець: дзе праўда, дзе наіў, дзе жарт? Вучыў як жыць: «каб воўк быў сыты і авечкі цэлыя». Жартуе ці хітруе? Сам гэтак не жыў, не хітраваў. А ў лісце? Пажартаваў?

У тым годзе, калі пісаўся гэты ліст, ім стукнула па шэсцьдзесят. Старыя? Як хто. Станіслава старасць не брала. І з ліста хіба дасі яму шэсць дзесяткаў?

«Паненак нам пара забыць. Гэта не жанчыны, а хлапчукі ў штанах, да таго ж яны не хочуць і не ўмеюць глядзець за сваім целам, ад іх пахне потам і цыбуляй. Нам з табою, эстэтам-мастакам, патрэбна культурная прыгажосць, і ўсіх паненак трэба пакінуць розным там студэнцікам».

Вітольд Каятанавіч зноў усміхнуўся, на момант забыўшы, які цяжар на душы прывёў у пакой Любашы. Як і ў маладыя гады, Станіслаў не маніў, гаварыў тое, што думаў, але выказваўся часцей перасаліўшы, як недасаліўшы, не баючыся выдаць сябе ў нявыгадным святле. Як бы ахвотна даваў апаненту фору, козыр, пераканаы, што сам выйграе без форы, без казыроў. Ігрок? Гульню любіў прыгожую.

Што ж, колькі б у лісце, як і ў іх жыцці, ні было іроніі, жарту, гульні, яны не былі глухімі і сляпымі да жанчын.

Ці шмат знайшлі ў гусарстве? Ці шмат згубілі? Калі па

вялікім рахунку — застануцца карціны. Кожны чалавек вольны глядзець на іх крытычна. Але кожны, хто будзе глядзець на карціны Жукоўскага і Бірулі, не папракне аўтараў у бяздушнасці, адсутнасці пачуцця, болю ці радасці, пакут ці шчаслівага азарэння. У іх пейзажах — сэрца, кроў, слёзы. І за гэта людзі даруюць усё іх гусарства. І памылкі жыцця.

Вітольд Каятанавіч устаў з крэсла. Свечка дагарала.

«Ну, а ці даравала Люба?» — раптам пачуў голас свайго пракурора.

Любаша? А хіба ў яе было хоць калі-небудзь адчуванне, што яму, бацьку, яна павінна нешта дараваць ці не дараваць? Здаецца, пра гэта ніколі не думала. Нават у апошнім лісце: «Па-ранейшаму з бязмежнай любоўю да цябе, з бязмежнай сваёй пакутай — твая дачка». Апошні радок апошняга ліста. «...з бязмежнай любоўю да цябе...»

Люба яго любіла і разумела такога, якім ён быў. У яе было ягонае ранімае сэрца. Яна, актрыса, усё жыццё пражыла сярод мастакоў і акцёраў. Яна разумела, што нягоднік выдатна сыграе на сцэне нягодніка, скупы — скупога, лгун — лгуна. Гэты закон мастацтва жыве і ў жывапісе. Мастак піша пейзаж не фарбамі, а пакутамі. Гэта даказаў Левітан. Хоць ён — не першы і не апошні гэта даказваў.

Паэзія — не тое самае? Пушкін, Цютчаў, Міцкевіч?

Творчыя страсці Талстога, яго мастацкія вобразы — не жыццё Талстога? А пакуты Дастаеўскага? Хіба не яны стваралі творы людскіх пакут?

Кепскі чалавек таксама напіша добры радок? Глухім сэрцам можна пісаць музыку? Хто гэта кажа?.. Крывадушнікі і хлусы!

І Біруля — не выключэнне. Хочаш спасцігнуць таямніцы Левітана? Але для гэтага зведай пакуты Левітана. Хочаш, каб у тваіх карцінах гучала музыка? Жыві музыкай. Пакляўся ўсё жыццё пісаць срабрыста-перламутравым тонам твару сваёй каханай Зосі? Дык кахай, кахай, як тады, як семнаццацігадовы. Ці не сам сябе асудзіў на гэтае каханне да скону?

Але... як ты, стары мастак, можаш гаварыць пра маладое каханне, калі чуеш крык дачкі з псіхіятрычнай бальніцы, крык дарагой табе Любашы? — раптам зноў пачуў голас пракурора.

Свечка дагарэла і абвуглены хвосцік кнота зваліўся ў гарачую лужынку расплаўленага воску. Святло пагасла.

Ён устаў з крэсла і, сціскаючы ў руках лісты, падышоў

да акна. Высока, у разрыве воблакаў, стаяла поўня, шыбкі блішчалі жамчужна-фасфарысцыруючым святлом. Лісты вываліліся з рук на падлогу. Ён не пачуў. Закрыў далонямі твар і стаяў, як молячыся свайму богу. Потым упёрся рукамі ў аконнае шкло, нібы хацеў яго праламаць у тую бясконцую ноч. Далоні ляжалі на шкле. Аконнае шкло выпраменьвала тое самае жамчужна-срабрыстае, ад поўні, святло. Далоні былі цёмныя, чорныя, як у сажы газавай з цюбіка, з палітры, нібы мёртвыя. Ці яго гэта? Малыя — жаночыя?.. Зосіны?.. Любашыны?..

Ён ускрыкнуў і адарваў далоні ад акна.

Ах, Станіслаў!.. Дружа!.. Гусарылі разам, але ці тое ты гаворыш?.. Былі жанчыны, але жамчужна-срабрыстае святло, Зосіна святло, пячэ, паліць душу ўсё жыццё? Як жа так, Станіслаў? Гэта — здрада ці вернасць? І, можа, гэта святло — крыж на ўсіх маіх карцінах?.. Крыж не смерці — жыцця! Крыж — лёс. Я нікому ніколі не гаварыў пра Зосю, нёс яе ў сэрцы таемна ад усіх. Нават табе ўсяго не сказаў пра яе. Але гэтае каханне і ты бачыў на кожнай маёй карціне. Усе бачаць. Ты не быў на маім апошнім творчым вечары ў Акадэміі? Так, ужо не мог быць побач са мной. Сорак сёмы год, ранняя вясна, сакавік. Якраз перад цудоўнай паездкай па нашай роднай з табою Беларусі. Дык я табе скажу, што там, на вечары, пачуў ад Сашы Герасімава. Я даслоўна запамятаў яго словы: «...усё жыццё ўглядаючыся ў пейзажы Вітольда Каятанавіча, бачу, як у іх ніколі не страчваецца пяшчотнае, закаханае пачуццё да прыроды. Ён яе піша так пяшчотна, як можа пісаць толькі васемнаццацігадовы юнак, закаханы ў сваю цудоўную дзяўчыну». А між тым Герасімаў нічога не ведаў пра маю вечна семнаццацігадовую Зосю. Вось табе і гусарства, дарагі дружа Станіслаў!

Супакоіўшыся, Вітольд Каятанавіч прайшоў праз пакой дачкі на цёмную начную лесвіцу, якая вяла ў майстэрню, у пакой насупраць майстэрні, дзе стаяў ложак, дзе ён спаў. На лесвіцу ўзышоў асцярожна, каб у цемені не зачапіцца за прыступку. Але, узяўшыся за парэнчу, зрабіўшы першы крок, спыніўся.

У сваім аграмадным пустым доме адчуў поўную адзіноту, і дом, які так любіў, упершыню здаўся чужы.

«Даруй, што ў жыцці прынесла табе шмат пакут. Павер, гэта — не мая воля...»

Люба?!. Я чую цябе. Але чым я магу памагчы?..

Ён схапіўся за галаву, грудзьмі прыціснуўся да парэнчаў лесвіцы, і толькі парэнчы ўтрымалі. Усе яе словы сядзелі

ў галаве жывым болем, свідравалі мозг. Не мог ні працаваць, ні спаць. Не мог жыць у «Чайцы», калі яна пакутавала ў бальніцы. Ехаць у Маскву? А што — Масква? Калі ён не можа вырваць яе з пакут?

«...татачка, вазьмі мяне адсюль! Чуеш мяне?.. Дзеля ўсяго святога!.. У мяне быў вельмі моцны прыступ хваробы. Два, больш як два тыдні адольвалі галюцынацыі, і якія!.. Сваё знаходжанне ў буйным шостым аддзяленні амаль не памятаю. Памятаю агульны фон, на якім мой хворы мозг вышываў мудрагелістыя карункі. А як я верыла табе, што ты ніколі ўжо не адвязеш мяне ў бальніцу. Як я табе верыла!..»

Яе далёкі крык вырваў з ягоных грудзей стогн. Ён ударыўся галавой аб парэнчу, балюча выцяўся — і тады ўсхапіўся. Верыла?..

Ногі саступілі з прыступкі лесвіцы, і ён рукамі намацаў дзверы, якія вялі ў гасціны пакой. Ля выхаду з гасцінай на тэрасу, ля вешалкі, намацаў упоцемках капялюш, знайшоў кіёчак ля дзвярэй. Паліто? Ці якую б куртку? Плашч? Дзе яны? А куды апранацца? Ноччу — куды? Цягнік на Маскву ідзе раніцай, а яшчэ поўнач?..

І як завагаўся, зноў пачуў яе голас:

«Ведаю, што ўсе мае малітвы да цябе не дойдуць так, як трэба, бо той, хто не пабываў у гэтых сценах, ніколі да канца не зразумее мае пакуты. Даруй мне. Гэта я апошні раз клічу да сябе цябе, тваё сэрца. Не дакрычуся — скаруся перад сваім лёсам...»

Ён зрабіў рашучы крок да дзвярэй, яны перад ім расхінуліся, і ён выйшаў на тэрасу.

Над садам, над домам, над Удомляй, над станцыяй Троіца, з якой паязды ішлі на Маскву, высока ў небе ззяў поўны дыск месяца. Калісьці вельмі любіў поўню. Яна абяцала поўніцу жыцця, поўніцу славы жывапісца, поўніцу шчасця. Цяпер, убачыўшы яе, падумаў аб тым, што вось і збываецца яго даўняе жаданне зразумець таямніцу Левітана — на поўніцу прыйшлі свае пакуты.

## ГРУГАНЫ
## Ў САДЗЕ ДРАЗДОЎ

Я ляжу на падлозе ў майстэрні Вітольда Каятанавіча, кінуўшы пад сябе спальны мех, падклаўшы пад галаву, далонь на далонь, рукі. Ляжу на спіне, гляджу ў столь і высокае акно. З трох свечак, якія запаліў на падлозе, дзве

пагаслі, не дагарэўшы, але адна гарыць, і адзінае, што відаць на столі і акне, гэта гульня святла і ценяў. Дзе святло — там і цені. Вечная паміж імі гульня.

Гэтакія і думкі: колькі святла было ў доме і колькі ценяў яго азмрочыла? Колькі тут сюжэтаў на вечную тэму — святло і цені, святло і цемень!

Вітольд Каятанавіч быў чалавекам святла. Гэта відавочна пры самай першай, нават мімалётнай сустрэчы з ім, з кожнай яго карцінай, з кожным эцюдам. Можа, таму і пісаў усё жыццё пейзажы, адны чыстыя, як кажуць, пейзажы, што ў свеце не засталося нічога больш чыстага, як прырода?

І аблічча светлае: твар, валасы, вочы — блакітныя, як вясновае неба. Не мог вымавіць слова чорнага, бруднага, усе яго словы светлыя. Чалавек, хто б ні быў, ішоў ад яго са святлом у сэрцы. На карцінах і эцюдах няма цёмнага ці шэрага тону, ёсць хіба светла-шэры, з блакітам ці жаўцізною, няма чорнай плямы, бруднага мазка, хоць быў мастаком абвостранага настрою, а настрой залежаў не толькі ад самога сябе і бываў розны. На карціне перадаваў яго не колерам, ■ святлом, якое лячыла боль. Такая і славутая жамчужна-срабрыстая гама. Яна выражала не толькі пераходны стан у прыродзе, рух ад зімы да вясны, ці з ночы ў раніцу, ці ад непагадзі да пагодлівага промня, але і пагоду ў душы. Своеасаблівую каляровую гаму мастака шмат хто тлумачыў нацыянальнымі асаблівасцямі таленту, характэрнымі для беларускай прыроды светла-шэрымі, срабрыста-блакітнымі, жамчужна-перламутравымі танамі, якія ў пазнейшыя гады накладалі на карціны Вітольда Каятанавіча настрой суму па роднай Беларусі, па яе лясах, балотах, ранішняй смузе, прырэчных туманах, па нізкіх у небе воблаках з іх светла-шэрымі, блакітнаватымі, жаўтлявымі танамі, і ўсё гэта так. Але большая праўда ў тым, што душа з маленства была сугучная з душой прыроды і, пішучы яе, родную, ён спавядаў лірычную душу.

Неяк мастак Георгій Рублёў сказаў: «У адрозненне ад многіх пейзажыстаў Вітольд Каятанавіч мае свой незвычайна яркі твар». А Герасімаў на гэта заўважыў: «Свой твар — мала. У яго ёсць свая душа, адсюль — і свой твар».

Прырода навучыла дабраце. Ён бачыў у чалавеку добрае, па добрым вызначаў цану чалавека, сваю да яго цікавасць. Таму ў яго так шмат было сяброў.

Дом на Удомлі будаваў вялікі, сад садзіў вялікі, ведаючы, што гэта — і для сяброў.

Трымаў выдатных коней — для сяброў.

Усю тэатральную трупу, сяброў Любашы, якія прыязджалі ў «Чайку», мог апрануць у новыя футры — поўныя адзення гардэробы былі для іх.

Абедаць ці вячэраць рэдка садзіўся без сяброў.

Але бачыў, што свет раскалоўся. І раней ён не быў з'яднаны. Яго заўсёды нявечыў разлад між людзьмі. Але цяпер гэты разлад апанаваў жыццём з нейкай прагнасцю. Расколіна паміж людзьмі гарэла чырвоным пажарам. Гэта — рэвалюцыя? Але ж рэвалюцыя — у імя братэрства? На яе сцягу — еднасць людская? Так абвешчана, а што робіцца? Самае страшнае, што расколіна не заўсёды паміж ворагамі. Раскалоліся людскія душы. Блізкія людзі гатовы адзін аднаго зжэрці. Што — гэта? Рэвалюцыя?

Ён усё жыццё быў са светам адкрыты. Душа адкрытая насустрач людзям, вятрам, дню. І свет разумеў яго адкрытасць. Свет да яго раней таксама ішоў адкрыты. Хіба не гэтак было ўсе гады вучобы ў вучылішчы на Мясніцкай? Ці ў Таварыстве перадзвіжнікаў? З сябрамі? Масква ведала пра яго адкрытасць, хлебасольства. Ды і тут.

Усе свае дзверы адкрыў для людзей. Колькі сялян з бліжэйшых вёсак перабыло ў доме? Кожнаму нечым дапамагаў. Грашыма, вопраткай, парадай, заступніцтвам у органах улады. Калі рэвалюцыя павярнула людзей да граматы, мастацтваў, сабраў для краю дзесяткі карцін вядомых мастакоў, адкрыў на Удомлі, у сваім доме, мастацкую школу для дзяцей, у вёсцы — школу рамёстваў, з класамі разьбы па дрэве, сталярным, слясарным, ткацтва. Але з гадамі сам пачаў баяцца сваёй шчодрасці, даверлівасці, адкрытасці. Усяму, што меў у душы, вучыў дачку, і раптам — парады быццам чужымі вуснамі:

*Не паўтары маіх памылак у жыцці, менш вер людзям, агароджвай сваю душу, калі ў цябе ёсць што дарагое, хавай ад людзей — не зразумеюць, растопчуць*

Хавацца ад людзей? Няўжо гэта гаворыць ён, Біруля? Няўжо гаворыць яго душа? Сам людзям усё аддаваў, а іншаму вучыць любімую дачку? Ды яшчэ перад дарогай у тэатральную школу, на яе першых кроках у тэатр, у мастацтва!

*Жыццё складанае, і нават верныя табе людзі сталі нягоднікамі, так засмецілі жыццё, што, далібог, няма ахвоты жыць*

Адкуль гэты настрой? Як з ім працаваць? Як жыць? Як пісаць? Дзе ўзяць для будучых карцін ранейшыя пачуцці?

Можа, гэта часовы настрой? І ці ёсць для яго падставы? Можа, гэта ад нейкіх выпадковых адчуванняў тонкай душы мастака і адчуванні пакуль што не маюць пад сабой глебы?

Ці ён сапраўды бачыць, як распадаюцца людскія душы і распадаецца жыццё?

*Прыехаў Іван, расказваў, як весела вы паставілі спектакль. Але паклёпнік ён вялікі, і я сэрцам адчуваю, тонкім чуццём, што ён нам не сябра, што па сваёй натуры сябрам быць нам не можа. Ведаю яго даўно, але верыў, што дабрынёй, пяшчотаю я яго крану. Не крануў. Цяпер канчаткова бачу, што гэта нізкі паклёпнік, страшэнны эгаіст і інтрыган. Ён столькі зрабіў мне зла непапраўнага! Я сам вінаваты, вінаватая мая бесхарактарнасць. Да гэтага часу не магу супакоіцца і забыць яго мярзоту супроць мяне за апошнія восем-дзесяць гадоў*

Хто ён, той Іван? А ці ён адзін быў гэтакі побач з Вітольдам Каятанавічам у доме, за яго сталом? Колькі гэтакіх «сяброў» саграваў Біруля сваёй пяшчотай, спадзеючыся выхаваць людзей дабрынёю, шчодрасцю, чалавечнасцю!

Перажываў, калі гэта не ўдавалася.

І ўсё ж Любашу настройваў на святло:

*Ды... не будзем пра гэта гаварыць. Будзем жыць будучым. У цябе ўсё наперадзе. Тэатр — гэта мастацтва самае яркае і самае цудоўнае з усіх мастацтваў. Буду радавацца і жыць тваімі радасцямі, тваімі поспехамі. І сам папрацую, дасць бог. Часам сняцца карціны, і якія прыгожыя, якія цікавыя*

Аднак жыць светлай будучыняй, пераступіўшы праз мярзоту бліжэйшага дня, не заўсёды ўдавалася, мудрыя думкі не ратавалі ад удараў жыцця, і многія цудоўныя карціны навечна заставаліся ў снах.

*Я абавязаны зрабіць усё, каб Ігнат Багагай быў асуджаны народным судом. Для людзей Удомльска-Радскай воласці не сакрэт, што Багагай злодзей, правакатар, нягоднік. Хаваючыся за званне члена РКП, ён беспакарана робіць злачынствы. Ён кругом абакраў мяне, пакраў вадасцёкавыя трубы, сек і прадаваў лес*

Ліст на імя старшыні валаснога выканкома С. П. Смірнова ў дваццатыя гады, рэзкі і гнеўны, зусім нечаканы для Вітольда Каятанавіча. Гэта — выбух бомбы ў «Чайцы».

Што сталася? Прычына — трубы і лес?.. Ужо далей нельга было цярпець побач злодзея з партыйным білетам?.. Ці тое, што Багагай злодзей, не галоўнае? Тады — што яшчэ магло гэтак моцна абурыць Бірулю?..

*Яго выступленне на валасной партканферэнцыі — гэта паклёп на вышэйшых прадстаўнікоў савецкай улады, на нашых наркомаў, якія былі гасцямі «Чайкі»*

Наркомы?..

Так, сюды, у «Чайку», у госці да Бірулі наведваліся Фрунзе, Луначарскі, Рудзутак. Але што ўчыніў супраць іх невядомы нам Багагай? Што за паклёп? Ці пачыналіся гады, калі паклёпы сталі вышэйшым знакам рэвалюцыйнасці? Ліст не дае адказу на шмат якія пытанні. Але ён паказвае самога Вітольда Каятанавіча, ціхае, як многія думалі, жыццё пейзажыста ў «Чайцы».

*Вы, Сяргей Паўлавіч, ведаеце, як Багагай тэрарызуе сялян, як ён разам з братам Мікалаем Багагаем выкраў у Сігаўскага млынара дзяржаўны хлеб, як падрабляе квітанцыі, як ён, член партыі, хрысцячы дзяцей, вымагае за гэта паркаль. Вы, Сяргей Паўлавіч, як партыйны чалавек, павінны стаць на абарону аўтарытэту вышэйшай улады, садзейнічаць ачышчэнню партыі ад нягоднікаў. Народ павінен ведаць, што ў партыі не месца злодзеям, правакатарам і жулікам*

Катэгарычныя патрабаванні Вітольда Каятанавіча здаюцца неверагоднымі, нават калі Багагай абакраў яго самога, бо колькі гэтакіх нягоднікаў яго абкрадала — ніколі нікому не скардзіўся. Па сваёй натуры мог толькі ратаваць чалавека. Але што ў далейшых радках ліста?

*Маё сумленне чыстае. Я беспартыйны, але кожнаму чалавеку быў у жыцці сябрам. Я дапамагаў кожнаму, хто трапляў у бяду, даваў чалавеку, што яму было трэба. Я аддаў людзям, здаецца, усё, што мог аддаць, нават свае хлявы і стрэльбы. Былі выпадкі, калі я здымаў з сябе вопратку, каб апрануць голага. Я ніколі нічыёй дапамогі не прасіў, хабару ніколі не браў, цёмнымі справамі не займаўся, ад людзей не*

*хаваўся і подкупам не забрудзіў сябе. Гэтага не можа ўявіць Багагай. Самым чыстым ён лічыць сябе. Але вы, Сяргей Паўлавіч, будзьце мужныя і прынцыповыя — нягодніка Ігнація Багагая трэба аддаць пад суд. Мне ўжо пяцьдзесят два гады, але, нягледзячы на гэта, як толькі Багагай будзе асуджаны, я адразу ж, на наступны дзень, падам заяву ў вашу ячэйку, і ўсё жыццё, якое мне засталося пражыць, аддам партыі*

Да партыйнай адказнасці Ігнація Багагая ніхто не прыцягнуў, да судовай — таксама, і заяву ў партячэйку Вітольд Каятанавіч не прынёс. Ішоў 1926 год, краіна стаяла напярэдадні вялікіх выпрабаванняў і, як паказала гісторыя, шмат каму Багагай быў патрэбны. Багагай, а не Біруля.

Багагай аказаўся мацнейшы за наркомаў і акадэміка жывапісу.

Недзе высока, над акном, над столлю ўзнікаюць і заціхаюць трывожныя начныя гукі. Нешта жывое валтузіцца, змагаецца. Што? Хто з кім? Лопае, нібы крыллем, верашчыць. Птушкі? Стрэхі над майстэрняю высокія і крутыя, а ў франтоне акно, шкло у якім высыпалася, і там, калі надвечар хадзіў вакол дома, бачыў чорных птушак. Было ўжо цёмна, і я падумаў, што гэта галкі. Але калі выйшаў за плот і стаяў пад ялінамі на алеі, якая вяла, некалі пасаджаная Вітольдам Каятанавічам, ад дома ў бок вёскі Стан, пачуўся магільны крык старога гругана, і я ўбачыў, як ён, трупны смурод, сядзеў у тым акенцы франтона над акном майстэрні і драў горла.

Плячысты, чорны, як галаўня.

Ці не ён там, на гарышчы, і цяпер валтузіўся са сваім груганнём?

А можа, гэта чорная душа Багагая, аднойчы прынёсшы сюды, у дом, трывогу, засталася тут і ўсё ваюе, хоць ужо няма з кім ваяваць?

Можа, яна тут жыве?

Заціхла на гарышчы толькі пад раніцу.

Калі ўзышло сонца, я выйшаў у сад. Было ціха і цёпла, паветра пахла густым настоем бэзу і язміну. Усяго хараства я ўчора, прыехаўшы надвечар, не заўважыў, і хоць хадзіў і стаяў тут, на дарожцы ля ганка, цяпер як упершыню глядзеў на вялізныя кусты белага і ружова-фіялетавага, з сінім адлівам, бэзу. Дарожка вяла праз сонечныя кусты,

і я выйшаў на алею, па якой ішоў учора да возера. Пад касымі промнямі сонца алея была ў белым і ружаватым святле бяроз, тоўстых, але, безумоўна, тых самых, якія вечна маладзенькімі, танклявенькімі стаялі за тэрасаю на карціне Вітольда Каятанавіча.

Здавалася, што і не алея вядзе мяне да возера, а святло, калідор бярозавага святла.

Я сыходзіў усё ніжэй да возера, як раптам, ля шэрага камля бярозы, аплеценага пасохлым галлём, заўважыў птушачку. Шэранькая, ладненькая, з жоўтым дзюбікам і ўжо не жоўтымі буйнымі лапкамі, яна сядзела на галінцы і з таго часу, як я яе заўважыў, ніводным рухам не выдала, што жывая. Яна вельмі ўдала злівалася з фонам, пёрцы на ёй ляжалі такія самыя пярэсценька-рыжыя, як і камель дрэва, як сушняк вакол яе, і я здзівіўся, якім чынам сваімі слабымі вачыма яе заўважыў? Гэта адбылося, вядома, выпадкова, але яшчэ большым дзівам было тое, што птушачка так і не выдала ніякім рухам, што жывая, хоць я стаяў перад ёю доўга, даючы магчымасць нават і збегчы ад мяне, як яна збегла ўчора, калі напаткаў яе на гэтай самай алеі. Тады, яшчэ не лётаючы, даволі шустра бегала. Але што з ёю сёння?

Я дакрануўся пальцам да дзюбкі — нават і не зміргнула.

Я правёў пальцам па спінцы, не варухнула ніводнай пярынкаю.

Але вока... раптам заміргала, і з яго выкацілася буйная сонечная слязінка.

Згадалася:

*Сяджу на тэрасе і слухаю птушак свайго саду*
*Люблю слухаць, як спявае дрозд*

Але ж... дрозд і груган — у адным садзе? Як суіснуюць?

Як Вітольд Каятанавіч суіснаваў з Багагаем?

Каму такое суіснаванне патрэбна? Няўжо самой прыродзе? І калі гэта так, то чаму яго не мог прызнаць Вітольд Каятанавіч? Як паляўнічы — прызнаваў? Не мог — як жывапісец?

А ці не маглі жыць і тут свае супярэчнасці — паміж паляўнічым і жывапісцам?..

## І ЎСЕ — БРАТЫ

Ён па-ранейшаму любіць «Чайку», любіць Удомлю. Ён разумее, што Багагай — вырадак, што вырадкі ёсць у кожным народзе, нават у кожнай вёсцы. А народ — іншы.

Згадаем яшчэ раз:

*Усіх Гаўрылаў, Апанасаў, Петракоў я любіў і да ўсіх іх прывязваўся*

Гэта — з маленства. На ўсё жыццё. Ну а яны — Гаўрылы, Апанасы, Петракі?.. Людзі, калі не браць пад увагу Багагая, як ставіліся да Вітольда Каятанавіча, каго ў ім бачылі — акадэміка, барына, інтэлігента, іншай, як самі, косці і крыві, ці чалавека, блізкага па думках, пачуццях? Іх погляд на яго — які?..

Аб гэтым лепш не скажаш, як ён сказаў-расказаў хоць бы на пажоўклых старонках апісання сваёй дружбы з вясковым паляўнічым Шмелем. Вітольд Каятанавіч дае нам такую магчымасць, і грэхам было б ад яе — ягонае ласкі — адмовіцца.

*Прыйшоў доўгачаканы канец жніўня. Дні насталі шэранькія, ціхія. Дзе-нідзе стракаціцца зжоўклымі пасмачкамі лес. Азіміна на палетках бурштынавая, а ў гумнах з раніцы знаёмыя гукі: ту-ку, ту-ку, ту-ку — малоцяць новую збажыну. Стаю ля акна, гляджу на возера, чакаю Шмеля, кума Фёдара Валова, свайго прыяцеля, у якога ёсць і яшчэ мянушка — Руця. Ён паляўнічы, рыбак, а па прафесіі шавец. Жонка кінула, а ён не разгубіўся, знайшоў другую. Першая была, як у народзе кажуць, ад бога, а другая — ад людзей, якая і аказалася яму па думцы. Другая падарыла сем хлопцаў, з якіх чатырох мне лёс падарыў у хрэснікі*

Тут можна было б і кропку паставіць. З Шмелем адносіны ясныя. Калі чатырох сыноў яго Вітольд Каятанавіч узяў у хрэснікі, дык жа, вядома, прычынай была не служба, а дружба. Але, як кажуць, дружба дружбаю, а яшчэ нам цікава паглядзець на іх абодвух, калі яны побач,— што гэта за дружба?

*Вось маё вока ловіць удалечыні лодку. Углядаюся і пазнаю Фёдара Сцяпанавіча. Вяслом ён грабе неяк па-асобаму, стоячы на карме дуба, выгінаючыся ўсім целам. На*

*плячы скураная сумка, у якой кум Фёдар возіць звычайна хлеб, кавалак бараніны альбо сала і звыш таго, як любіць казаць, шыла і дратву на ўсялякі выпадак*

*Сустракаючы яго, я з нецярплівасцю пытаюся:*

*— Ну што бакасы? Ёсць?*

*— Звыш таго, што гразі. Пад кожнай купінай*

*— А дупелі?*

*— Звыш таго, нібы насыпана*

*— А налёт качыны?*

*— А налёт — звыш таго. Ляцяць — няма канца і краю. Сонца з-за іх не відаць. Больш, як варон*

*У мяне па целе прыемныя дрыжыкі. Ну, думаю, калі кум Фёдар збрахаў на ўсе сто працэнтаў, дык і тады надта шмат птушак*

*А кум працягвае:*

*— Патронаў, звыш таго, паболей бяры. Ды на ўсякі выпадак вазьмі буйнога шроту. Вечарам застанемся на качыны лёт. Там ад іх чорна, як лятуць.— Зноў дрыжыкі па спіне.— Заначуем у стозе. Раніцай пазбіраем качак*

*Сеўшы ў драбіны, мы адпраўляемся да пожні ля рэчкі Ціхамандрыцы, далей — да возера Навалок. Сабака бяжыць побач з драбінамі, то адбягаючы ад іх, то зноў падбягаючы. Яму насустрач трапляюцца чужыя сабакі. Баімся, каб яны нашага не пакусалі, ад укусаў вязем з сабою лёд. Праязджаем Сігава, млын. Нудна, трывожна шуміць плаціна. З дрэваў сыплюцца кроплі дажджу — слёзы восені. Шэрае пахмурнае неба нізка вісіць над зямлёй. Па гразкай дарозе валакуцца вазы на млын з жытам. Колы грузнуць да самых ступіц, мужыкі лаюцца, пакурваючы. З дарогі відаць бясконцыя пожні гадомлі, стаяць стагі, ужо абгароджаныя жэрдзем, и ўдалечыні — суровае стальное возера Навалок. Сінее лясная далеч*

*Ля дарогі зрываецца бакас, другі, трэці. Са ствала — дымок, яшчэ дымок, і птушачкі, згарнуўшыся, сыплюцца на зямлю. Кум Фёдар бярэ бакаса ў руку і кажа:*

*— Тлусты, як парася*

*Сабака робіць стойку — зноў зрываецца бакас*

*Сетка напаўняецца даўганосікамі, цёплымі камячкамі ў ржавых пярынках. Мы спыняемся каля стога. Сабака стараецца зашыцца ў сена, трэцца аб стог, кум Фёдар пад стогам чухаецца і неўпрыкмет засынае. Я гляджу ў яго глыбакадумны твар і думаю: трэба яму, звыш таго, вусы абрэзаць*

*Кум храпе*

*Спіць і сабака*

Можна, чытаючы, здзіўляцца дакладнасці і мудрасці назіранняў, каларыту характараў, народнай трапнасці слова, а тым больш — раптоўнаму жаданню Вітольда Каятанавіча абрэзаць куму Фёдару вусы, бо тут — і шчырая душа, і гумар, якi магчымы толькі паміж вельмі блізкімі, душа ў душу, людзьмі, тут адчуванне, што нават гэты не бяскрыўдны жарт, калі яго ажыццявіць, будзе зразуметы непасрэдна і лёгка, па-сяброўску.

Але вусы ў Шмеля, кума Фёдара, застаюцца: ён прачынаецца. Прачынаецца і сабака.

Паляванне працягваецца.

*Пасля доўгага дня, душнага і спякотнага, знайшоўшы шмат цецерукоў, дупеляў, бакасаў, настраляўшы поўныя сеткі, мы ідзём пусташшу, Лапаціхай. Змерклася. Набліжаецца навальніца*

*— Накрые нас, Віталій,— кажа Шмель.— Зойдзем у хлеў, абначуем. Хлеба, шкада, няма. Сабака галодны. Самі — нішто. Дождж пройдзе, прыб'емся ў вёску — людзі накормяць. Але сабака*

*— Накормяць і сабаку*

*Наляцеў вецер, і зашумеў лес. Бліснула маланка, і грымнуў гром. Усё навокал стагнала, гуло. Сыпанулі буйныя кроплі дажджу. У пуні было цёпла, зацішна, мякка на нядаўна абмалочанай цапамі саломе. Мы заснулі*

*Прачнуўшыся, я ўбачыў месяц. Ён глядзеў да нас у пуню. У яго ным святле за варотамі блішчалі мокрыя дрэвы, трава*

*Я пабудзіў кума Фёдара, і мы падаліся ў вёску*

Вось і зазірнулі ў душу не толькі Вітольда Каятанавіча, заўважыўшы яе непасрэднасць перад Шмелем, паляўнічым і кумам, селянінам, мужыком, але яшчэ ў душу Шмеля, кума Фёдара — якая дабрыня і шчырасць напаўняюць яе перад Вітольдам Каятанавічам, для яго — проста Віталем, сардэчным сябрам.

Праз прыроду — дыялог Бірулі са Шмелем? Ды не з ім толькі. З усім сялянскім светам. Гэта наогул у характары, у філасофскай і мастацкай канцэпцыі Вітольда Каятанавіча: у чалавеку, зверыне, расліне, гуку прыроды — бачыць жыццё, увесь свет.

Цікавыя і рукапісныя старонкі пра паляванне на мядзведзя ля станцыі Званкі Ноўгарадскай губерні, дзе як бы месца Шмяля заняў селянін Фама.

*У адзін са сваіх наездаў у Званкі за мядзведзямі меў я вялікую радасць бачыць з акна поезда Фаму Панкратавіча, які прыехаў па мяне на сваёй пегай кабылцы*

*— Здраствуй, Віталь! Колькі я без цябе грусціў, дарагі*

*— Ды і я па табе сumaваў таксама. Пастарэў, нябось*

*— Што ты? Думкі — як семнаццаць гадоў*

*Сказаў гэта настолькі пераканана, што я адразу адчуў, якую няпраўду вымавіў — не пастарэў Фама*

*— Ну, кладзі на воз рэчы. Кабыла адпачыла. Паедзем у Мішугі, а там — рукою падаць да мядзведзя*

*— Колькі гэта вёрст?*

*— А мы на пячушцы сядзім — вёрст не лічым*

*— Ну дык расказвай, Фама, дзе і які твой мядзведзь*

Такая сустрэча. Пачуцці і словы, радасць. І ці скажаш, што сустракаюцца акадэмік і мужык? Не — два мужыкі. Хіба ў слове, у гаворцы будзе ў кожнага свой лад — лад селяніна і лад мастака. А душы — як адна.

І пасля Фама, пакуль тое паляванне, не раз і не два пакажа сваю любоў да Вітольда Каятанавіча, але асабліва — калі будуць браць аграмаднага мядзведзя: паставіць яго перад бярлогай, «на штых», на першы стрэл, хоць гэта і будзе самае небяспечнае месца. Тут — не толькі павага, але і вера ў чалавека, яго надзейнасць, смеласць. Ды і астатнія мужыкі — Ягор, Елізар — нібыта спецыяльна для Вітольда Каятанавіча ладзяць паляванне.

*Цішыня, зрэдку прабяжыць вецер па верхавінні ельніку, скіне з галля снег, і зноў ціха*

*Даходзім да пяты, спыняемся. Ягор шэпча:*

*— Тут выскачыць. Ля гэтай сасны стой, мядзведзь на цябе выйдзе, на штых. Падпусці блізка. Бі ў галаву. Галава ў яго нібы чушка*

*Я стаў, абтаптаў снег. З абодвух бакоў ад мяне — па сем чалавек у белых балахонах*

*Цішыня пакутлівая. Зімародкі папіскваюць. Недзе дзяцел страсянуў сухастоіну. Зноў ціша*

*Таропка, з глыбіні круга, бачу, праз гушчар прабіваецца Фама*

*— Ну, Віталій, усіх па месцах расставіў. Пайду ў круг з яршамі, а ты спусціш сабаку і адразу дасі стрэл. Як падымем, чакай*

*Праз пятнаццаць мінут чую:*

*— Пачынай, пачынай!*

*Яршы са сваіх месцаў пайшлі ў круг*

*— А-ха! А-у!.. У-у-у!..— скалануўся лес*

*Сотні галасоў будзілі векавы лес. Сякеры і калы заляскаталі па дрэвах. Стрэл! Яшчэ стрэл! Магутны гул каціўся па лесе*

*— Трымайце! Трымайце звера! Звер-звяруга пайшоў, хлопцы! У-а-а-а!.. Бах!.. Бах!..*

*На мядзведжую пяту выйшаў Хомка і ўсіх гнаў, заводзіў*

*Слых злавіў нечаканы шоргат, сапенне. Бачу чорную калматую постаць, як воблака між дрэваў, і ўжо зусім блізка — аграмадную чорную галаву, вушы тарчма, язык выкінуты — цяжка, узрываючы камы снегу, на мяне ішоў мядзведзь. Бліжэй, яшчэ бліжэй. Ложа штуцэра шчыльна легла да пляча, пальцы на гашэтцы застылі — стрэл: здрыгануўся лясны цар, асілак, і паволі асеў на снег. Струмень алай крыві лінуў з ілба*

*Я першы падышоў да звера. Вакол яго сабраліся ў круг паляўнічыя. Твары дыхалі сілай, радасцю*

*— Ну і Віталій! Усяго адзін раз грохнуў*

*Падышлі Фама, Ягор*

*— Ну, як зверына? Глянь, што за лбіна!.. Хопіць, хопіць яму мужыцкіх кароў драць, беднага мужыка крыўдзіць*

*Сустрэць нас з мядзведзем на санях выйшла ўся вёска — старыя і малыя. Усе запрашалі ў хаты частаваць. Колькі радасці*

І вось — Біруля зноў садзіцца ў вагон на станцыі Званкі і начным цягнікам вяртаецца ў Маскву. Іншы падумае: чаго было ехаць за сотні кіламетраў? Каб намерзнуцца, набрацца страху, рызыкаваць жыццём, ды яшчэ і не ўзяць ні мядзведзя, ні футра? Мядзведзь фактычна яго, а вяртаецца ■ пустым.

Але вяртаўся Вітольд Каятанавіч самым шчаслівым у той дзень чалавекам. Непаляўнічы, вядома, гэта не зразумее.

«Звыш таго», як сказаў бы кум Фёдар, нават гэтае паляўнічае шчасце — не самае большае ўражанне ад пражытага дня. Вёз ён у сэрцы куды мацнейшае пачуццё:

*Седзячы ў вагоне, я думаў пра нашых добрых і смелых мужыкоў і пра цудоўны стары лес, у якім жылі гэтыя людзі і мядзведзі*

Яго погляд заўсёды шырэйшы, далейшы за непасрэднае ўражанне. Гэта і прафесійнае — праз малы вобраз шукаць панараму жыцця, лагічныя сувязі, абагульненую сутнасць свету; і прыродны талент, чалавечая сутнасць — вечныя думы аб жыцці, людзях і свеце, трывога за іх.

Сказанае даказваюць і старонкі дружбы Вітольда Каятанавіча з паляўнічым Гаўрылам, пра якую мы зноў шчасліва даведваемся з напісанага самім мастаком.

*Была ранняя вясна. Прыехаўшы ў Камянец, я адразу пайшоў да Гаўрылы. Ён збіраўся на палетак, сустрэў мяне з радасцю:*

*— Вось... Саху рыхтую. Трэба араць, ніву паліць, гной у поле трэба вывезці, а там — сяўба. Ды і лог нячышчаны. Жыццё сялянскае ідзе па крузе, і нідзе прадыху. Ці давядзецца нам з табою, Віталій, на паляванне вырвацца*

*Гаўрыла завёў у хату, загадаў жонцы Арынні ставіць самавар*

*— Няўжо японец нас пераможа? — спытаў.— Што там робіцца? Мы тут, у лесе, нічога не ведаем. Курапаткін, кажуць, вагон з абразамі патрабуе на фронт?*

*— Пакуль што справы кепскія, а што будзе далей — не ведаю,— адказаў я*

*Папілі чаю, пагаварылі пра вайну з японцамі, пра вясну, пра паляванне. Гаўрыла пайшоў паліць ніву, а я — дадому ў Вараніху. Быў вечар ранняй вясны, на кручах возера ляжалі лапікі снегу, качкі ўжо лёталі над возерам, звініла аўсянка, папісквалі чыбісы. У полі мужыкі аралі. Бралася зеляніна*

Яшчэ ёсць у Вітольда Каятанавіча паўстаронкі:

*Па вечарах гулі камары, чорны жучок ляжаў дагары — Гаўрыла сеяў яравыя. Качкі лёталі парамі, жывёла хадзіла ў пойме, дзе трава ўжо ладная. Сустрэліся мы з Гаўрылам у полі — ён падзяліўся радасцю:*

*— Ржыца ў мяне сёлета, слава богу, добрая.— Але радасць тут жа і згасла на твары.— Ці давядзецца яе ўбіраць?*

Пакапаўшыся ў рабенькім чамаданчыку, дзе ляжаць паперы Вітольда Каятанавіча, знаходзім і яшчэ старонку:

*Быў летні вечар, малады шэры месяц выскачыў з-за лесу. Я ішоў палеткамі, на якіх цвіло жыта, калышачыся*

густым зялёным морам. Здалёк пазнаў Гаўрылу. Ён крочыў мне насустрач. За ім следам — Арыння. Трывожна забілася сэрца: куды яны?

Падышоўшы да мяне, Гаўрыла сказаў:

— Прашчай, Віталій. Вось і мне на зборны пункт. Позва прыйшла ў хату.— Сарваў жытні колас, цёр у пальцах і маўчаў. Потым падняў на мяне вочы, і я ўбачыў, як дзве буйныя слязіны скаціліся па маршчакаватым твары старога салдата

Арыння, закрыўшы твар фартухом, ціха заплакала

— Калі што якое, Віталій, не пакінь Арынню і хлопцаў

— Табе цэлы месяц яшчэ ехаць на фронт. Пакуль даедзеш, дык і вайна скончыцца,— супакойваў я

Цяжка, калі не ведаеш, што сказаць, калі ўсе словы, бачыш, пустыя і лішнія

Месяц серабрыў палеткі, над возерам вісеў туман, драч таргаў сваю песню, перагукваліся перапёлкі. На гару мы ішлі моўчкі. Развітваючыся, Гаўрыла сказаў:

— Гэтакі лёс, Віталій. Мой лёс — быць на вайне

Я доўга глядзеў услед Гаўрылу і Арынні, пакуль яны не расталі ў замглёным начным жыце. Было ціха. А на сэрцы — цяжар

Назаўтра, не ўседзеўшы дома, зноў пайшоў да Гаўрылы. Раным-рана, падыходзячы да яго хаты, заўважыў малую буланенькую кабылку. Белая палатняная катомка Гаўрылы з куравам і хлебам вісела на драбінах, сабака Дзевятка круціўся ля драбін. Стаялі брат Гаўрылы Андрэй і кум Якаў. З хаты выйшлі Гаўрыла і Арыння, высыпалі дзеці

Пасадзіўшы Арынню на воз, Гаўрыла скамандаваў:

— Ну, баба, паганяй

І мы пайшлі за драбінамі

На станцыі Каменка ўжо стаяў воінскі цягнік. У адзін з чырвоных вагонаў, на якім было напісана «40 чалавек, 8 коней», у шырока адчыненыя вароты, якія нагадвалі разяўленую пашчу звера, мы пасадзілі Гаўрылу. Там, у вагоне, спявалі мабілізаваныя, пішчаў гармонік. Прайграла медная труба гарніста, тры разы звякнуў станцыйны звон, здрыгануліся вагоны, і павезлі з Каменкі сыноў, братоў, мужоў у далёкі шлях, да чужых палёў, палітых крывёю рускага народа

У паветры вісела воблака паравознага дыму, і далёкі ўжо грукат цягніка адбіваў у сэрцы Арынні пякучы боль. За што? Перахрысціўшыся, яна сышла з платформы, легла ў драбіны тварам у сена, і буланенькая, форскнуўшы, пай-

*шла да палёў Камянца, дзе каласілася Гаўрылам пасеянае жыта. Дзевятка бегла за возам з падцятым хвастом і не брахала*

Такое ўражанне, што Вітольд Каятанавіч не ставіў перад сабою мэту напісаць хроніку жыцця Гаўрылы ці нейкі іншы закончаны твор пра Гаўрылу, хоць талент бачання свету, людзей, прыроды шукаў свайго выяўлення і ў слове, у творчасці мастацкім словам. Проста прыязджаў да Гаўрылы раз, другі, пяты, і кожная сустрэча з Гаўрылам, з яго сям'ёй, з Арынняй настолькі хвалявала, што, ад'ехаўшы ад сваіх сяброў, ён па іх сумаваў, за іх перажываў, пра іх думаў і, знайшоўшы нейкі аркушык паперы, для сябе запісваў думкі, пачуцці, уражанні. Сярод старонак пра Гаўрылу і Арынню напісаў некалькі старонак тагачасных падзей у сталіцы, пра тое, што ў гэтыя самыя дні, калі ішла нікому не патрэбная вайна, рабілася ў Пецярбургу. Вось адзін з асабнякоў на Фантанцы, у якім пахне духамі, пудрай, губной памадай, ільецца шампанскае, звіняць бакалы і шпоры, гучаць аркестры, бесіцца ад тлушчу сталічная эліта. Вось — шантан, дзе п'янствуе застолле толькі што спечаных па царскім загадзе маладых мічманаў, якія ў прыпадку лжывага патрыятызму п'юць, б'юць аб падлогу бакалы, крычаць «Ура! Ура!», кулакамі грукаюць сабе ў грудзі, што не пашкадуюць крыві за айчыну, гатовы загінуць за цара-бацюхну і спяваюць «Божа, цара ўратуй!». І тут жа —

*А там, на ўсходзе, на палях Ляаяна і Цюрэнчэна, лілася кроў людская, і ніхто не ведаў — за што?..*

І вось Вітольд Каятанавіч зноў у Каменцы, зноў ідзе да хаты Гаўрылы і Арынні, каб дазнацца, што чуваць адтуль, з фронту.

*Мінуў Спас, перад другім Спасам палосу Гаўрылы засяваў яго брат Андрэй. Сустрэўшы мяне, сказаў:*

*— Не чуў?.. У валаснoе ўпраўленне прыслалі Арынні пакет. Ягораўскі крыж, чатыры рублі і семнаццаць капеек. Усё, што засталося ад Гаўрылы*

*Сэрца сціснулася*

*— Ты ад каго чуў?*

*— Толькі што бачыў ураднiка. Сказаў, што прыслалі Арынні гэтакі падарунак*

*— Гаўрылу забілі? Божа?!*

*Мы доўга стаялі адзін перад адным, звесіўшы галовы, маўчалі, не ведаючы, што казаць, куды ісці, што рабіць*

*Пайшла ў магілу з Гаўрылам чысцейшая душа мужыка-хлебароба, які так любіў свае нівы, сваю Арынню і дзевяць сваіх сыноў*

*Пайшоў мой дарагі дружа, мой настаўнік, які вучыў мяне любіць нашых мужыкоў, ведаць усе іх беды і радасці, любіць і разумець прыроду*

Гаўрыла з Каменкі і Гаўрыла са Стараселля — розныя людзі. Як розныя паміж сабою — Шпак, кум Фёдар, Ягор, Фама, Елізар, шмат якія мужыкі, з каторымі сябраваў Вітольд Каятанавіч. Але дзіва-дзіўнае: любоў Бірулі да іх усіх родніць іх між сабою настолькі, што яны жывуць у сэрцы Вітольда Каятанавіча як народ, з якім жыць — шчасце, вучыцца ў якога — шчасце.

І ўсе яны гэта ведалі.

І ўсе любілі паляўнічага і мастака Бялыніцкага-Бірулю. Любілі за талент быць кожнаму сябрам і братам.

## ДВАЦЦАТЫЯ, ТРЫЦЦАТЫЯ...

Як ні вабіла да сябе «Чайка», акрамя яе была Масква, там свой дом, мастацкія салоны, выстаўкі, Акадэмія, майстэрня, а ў ёй — мальберт і карціны, якія чакалі да сябе. Ды і жыццё ў «Чайцы» патрабавала кантактаў з Масквой. Зямля, на якой стаяла дача, была калгасная, а калгас — жабрак з пустой торбаю: ні плугоў, ні цвікоў, коней абагулілі, а вупраж, якая была, парвалі — дзе ўзяць лейцы, хамут, сядзёлку? Куды ні кінь — клін і клін. Хто пасобіць, як не Масква? Калі там няма, дык дзе ёсць? А ў Маскве свой чалавек — акадэмік. Пасабляй, Біруля? І хадзіў па Маскве, даставаў калгасу то хамуты, то мяхі, то цвікі, то жорны. Казалі: ты наш шэф, абавязаны пасабляць. Жартам-смехам, а прыліпла на поўным сур'ёзе: шэф і шэф. І куды, галубок, дзенешся? Калі шэф — мазгуй. Яшчэ і мужыкі ідуць напрамкі ў «Чайку»: аднаму прывязі з Масквы мыла, другому — соль. А ў Маскве калі ёсць, а калі няма. Цукерак не заўсёды возьмеш. Без цукерак — як вяртацца? У кожнай хаце дзяцей насыпана. Зойдзеш — глядзяць, як шпакі, у вочы. Ідзеш на паляванне — пасуць, з палявання — пасуць. Пакуль сабака забітую качку прынясе — сялянскі хлапчук валачэ. Як жа без цукерак, з пустой кішэняй?

Сялянскія дзеці — асобы боль. Нібы тыя парастачкі да сонца, яны — да цяпла, прыгажосці, пяшчоты. А дзе цяпло, прыгажосць? У фарбах, колерах. Як гарэлі вочкі, калі глядзелі на карціны, палітру з фарбамі! Трэба вучыць? І Вітольд Каятанавіч адкрывае для сялянскіх дзяцей мастацкую школу. У сябе на дачы.

Школа — не майстэрня. Цішыня для работы ўжо не гаспадыня — госця. А колькі трэба алоўкаў, паперы, фарбаў, пэндзлікаў — зноў вязі з Масквы. А вучыць дзяцей — каму? Самому? Адгукнуліся сябры — Мараваў, Багданаў-Бельскі, Сцяпанаў, Архіпаў, Карэтнікаў. У «Чайцы» яны працуюць над сваімі карцінамі і выкладаюць. Але ўжо новыя цяжкасці: дзецям тут цікавей, як у вясковай агульнай школе, усе іх старанні тут, і ўжо не задаволены вясковыя настаўнікі, ды і бацькі — дзяцей дома не бачаць, адбіліся ад сялянскіх гаспадарак, дзе работы поўна. Як быць? У Бірулі выспявае новая задума: не спыняючы заняткаў у мастацкіх класах, ён на свае сродкі адкрывае ў вёсцы Сігава школу працы, для работы ў якой наймае мясцовых майстроў. Тут вучаць ткаць, шыць боты і вупраж, сталярыць, слясарыць, выразаць з дрэва мастацкія рэчы.

Жыць заўсёды хацелася смела, адкрыта, шчодра. Вялікі двухпавярховы дом у Маскве яшчэ ў 1914 годзе Біруля аддае пад шпіталь для параненых салдат першай сусветнай вайны, сам з сям'ёй заняўшы ў ім тры невялічкія пакойчыкі. У 1910 годзе Северава, жонка Рэпіна, у кнізе «Інтымныя старонкі» пісала, як у гэтым доме, у Бялыніцкага-Бірулі, збіраліся мастакі-перадзвіжнікі, асабліва ў час вялікіх мастацкіх выставак у Маскве, якія былі застоллі, размовы, песні, музыка, як маленькая Любаша, дачка Бірулі, кожнага госця вітала кветачкаю чырвонага гваздзіка ці ружы. І вось гэты дом для ўсіх, каму трэба столь над галавой, цяпло. Тут жывуць салдаты, калекі, чужыя людзі, якіх гаспадар дома мала ведае ці не ведае. І гэтакае самае жыццё ў «Чайцы» — усім адкрытае.

Час адкрытых дзвярэй і сэрцаў? Вітольд Каятанавіч адкрываўся з ахвотай.

З дванаццаццю вядомымі мастакамі ён — сам трынаццаты — прымае ўдзел у стварэнні АМРР — Асацыяцыі Мастакоў Рэвалюцыйнай Расіі. Асацыяцыя збірае сваю першую выстаўку, і Вітольд Каятанавіч — адзін з яе актыўных арганізатараў. У сааўтарстве са Сцяпанавым ён выстаўляе незвычайную для сябе жанравую карціну «Пярэдадзень Кастрычніка». Выстаўкі наладжваюцца адна за адной, і ва ўсіх

прымае ўдзел Біруля. У 1922 годзе яго карціны, разам з карцінамі Паленава, Кустодзіева і іншых лепшых савецкіх жывапісцаў, упершыню едуць за акіян, у Злучаныя Штаты Амерыкі.

Ён заўсёды і ўсюды не мог спакойна сядзець на адным месцы. На паляванні пра яго сказаў Жукоўскі: «Дзе ты пройдзеш, там трава не расце». Стараўся трымацца падалей ад сябра, але гэта мала ўдавалася — Біруля ўсюды наганяў і апераджаў. Селянін Міша Рыжанаў, сябра Бірулі і Маравава, які з імі доўгія гады ездзіў на паляванні і на эцюды, майстраваў рамы, падрамнікі, нацягваў на падрамнікі палатно, казаў тое самае: «Конь на ўсіх чатырох нагах». А ў Рыжанава, які пасля стаў старшынёю камбеда, вока было дакладнае, з хітрынкай. На паляванні Біруля мог не толькі сяброў упарыць, ідучы па слядах звера ці шукаючы сляды, але і каня, і сабак. Трыццаць вёрст лёгка выхаджваў за дзень па лясным лам'і, балотах, а раніцай, колькі начных гадзін пагрэўшыся ля вогнішча, зноў ішоў, і гэтак, бывала, тыдзень за тыднем. Стомы не ведаў. І не ў адных нагах прычына — натура няўрымслівая.

Прываблівала не толькі тое, што было побач, блізка, на даляглядзе, але і тое, што далёка, за даляглядам. У 1930 годзе ён едзе ў саўгас «Гігант», камуну «Сейбіт», там жыве і піша пейзажы, адны пейзажы. Затым — Данбас, Марыупаль, завод «Азоўсталь». У 1933 годзе ляціць за Палярны круг на высакагорную паўночную станцыю Акадэміі навук СССР, працуе на апатытавых рудніках у Кіраўску, у рыбалавецкім калгасе на рацэ Церыберка, плавае з рыбакамі ў Баранцавым моры. У 1936 годзе прымае ўдзел у пад'ёме з марскога дна ледакола «Садко».

Пра ўсе гэтыя паездкі, як шмат пра што, паспявае расказаць не толькі эцюдамі ды карцінамі, але і ў лістах да Любашы, у запісах — для сябе.

*Вось і адчалілі ад прыстані Мурманскага порта. Ідзём залівам у Баранцава мора. Кідае моцна, на нагах немагчыма стаяць. Ледзяным снегам лепіць у шкло ілюмінатара. Там усё белае, нібы малако. Хачу выбрацца на палубу, але дзверы кубрыка адчыняюцца, і мокры штурман дае мне пояс:*

*— Прывяжыся, бацька. І не бойся. На палубу не выходзь. Змые — як муху*

*Ён знікае*

*Судна здрыганулася, застагнала, і зноў з'явіўся мокры штурман:*

*— Кінулі якар*

*Сеў за стол і пачаў есці хлеб з салам*

*— Не панесла б нас у бок Ледавітага акіяна? — нясмела спытаў я, парушыўшы маўчанне*

*— Эх, баця! Гэта было б добра. А вось калі нас панясе на Усход, будзе горш. Выкіне на скалу, стаўчэ, як у ступе. Без руля мы засталіся. Сарвала руль*

Але і ў гэтакай сітуацыі Вітольд Каятанавіч не забывае ні на хвіліну, што ён мастак, бачыць усё ў вобразах і колерах будучай карціны:

*Мора шалела, кідала нам насустрач ледзяныя горы, упрыгожаныя каронамі падсіненай пены*

*З далёкага берага даносіўся стогн сірэны*

Пакуль эпронаўцы рыхтуюцца падымаць «Садко», Вітольд Каятанавіч, каб не траціць часу, высаджваецца на востраве Багамоліха і піша эцюды Белага мора. Тут ён адзін. Вечарэе. За ім павінен прыйсці кацер, каб даставіць на пад'ём «Садко», а кацера ўсё няма. Мерзнуць рукі і фарбы, з'яўляецца неспакой, што ў клопаце пра пад'ём ледакола на яго забылі, але і ў гэтым становішчы не спыняе работу, працуе над эцюдам мора і вострава, уражаны цішынёю, вусцішнай тутэйшай адчужанасцю ад усяго свету.

А раптам кацер не прыйдзе?

Трывога арганічна зліваецца з загадкавай, суровай прыродай, і гэта абвостранасць пачуццяў застанецца ў карціне, якую ён назаве дакладна і проста — «Белае мора. Багамоліха».

Але вось і кацер...

*Я быў сведкам, як у суровую палярную ноч эпрон падняў са дна Белага мора ледакол «Садко» і як уваскрэслы «Садко» на буксіры пайшоў у Архангельск. Я быў усхваляваны тым, што бачыў, і напісаў карціну, на якой тое, што бачыў, тое, што хвалявала*

У цяжкіх для немаладога ўжо чалавека паездках Вітольд Каятанавіч шмат працаваў і напісаў карціны: «Пачатак зімы на Белым моры», «Возера Вуд'яўр», «Пасёлак апатытавых руднікоў», «Чыгунка на апатытавых рудніках» і яшчэ, і яшчэ.

Тут важна адчуць час, у які працаваў Біруля. У газетах

і на сходах, афіцыйна і не афіцыйна, падкрэслівалася, што месца мастака на будоўлях веку, на гігантах індустрыі, дзе варыцца сталь і здабываецца руда — там героіка. Мастакі ехалі — на поўнач і поўдзень, на Далёкі Усход і ў Сібір, хто не ехаў — той як бы не падтрымліваў сацыялістычных пераўтварэнняў у краіне. Свой малы, родны, дарагі сэрцу з маленства свет стаў як бы варожы сацыялізму. Вітольд Каятанавіч апынуўся ў цяжкім стане. Яго лірычныя пейзажы, поўныя ціхай любові да роднай Беларусі і куткоў сярэдняй паласы Расіі, інтымныя пачуцці да малой радзімы апынуліся, на думку мастацкай крытыкі, па-за межамі сацыялістычнага рэалізму. Чым гэта пагражала, мастак добра ведаў.

І вось — персанальная выстаўка. Біруля дае творчую справаздачу аб паездках за Палярны круг. Як асмеліўся? Калі туды ехаў — сябры маўчалі. На героіку ды гіганты індустрыі кідаліся многія, не лічачыся з асаблівасцямі таленту. Зрэшты, ехаць можна. Пісаць? Таксама. Але — выстаўляцца? Тым больш — Бірулю з тэмаю Запаляр'я? Не баіцца правалу? Ці хоча прынародна засведчыць, што вось і ён, як многія, здраджвае сваёй душы, таленту ў імя «вышэйшай» ідэі?

Але ні здрады, ні правалу не адбылося. Мастак адкрывае поўнач такой, якою бачыць толькі ён, Біруля. І «звыш таго», як сказаў бы Шмель, кум Фёдар, выстаўка паказвае, што палітра мастака ўсё роўна як чакала поўначы з яе маразамі, снягамі, вятрамі, заледзянелымі і заінелымі контурамі, агорнутымі бляклай марской сінечаю і мёртвай цішынёю, штармавымі хвалямі з каронамі смяротна-жоўтай пены, марознай імглою, заснежаным небам, па вертыкалі прашытым срабрыста-жамчужным ззяннем. Новы свет раптам выявіў яшчэ большую разнастайнасць і насычанасць любімых срабрыстых тонаў, увесь іх спектр, у якім нават гераічнае вяртанне з таго свету ледакола «Садко» не прыглушыла тонкага лірычнага пачуцця. Аказалася, што Біруля не па героіку ехаў. Ён і тут шукаў сябе, як шукаў заўсёды, на гэты раз — у матэрыяле і даляглядах хай іншых, не сваіх, але са сваімі сумежных, сугучных ім непахіснай уладай прыроды, яе свабодным дыханнем.

*Я пісаў тое, што мяне хвалявала*
*Пісаў прыроду*
*Пісаў сваё*

Ён піша незямную цішыню Поўначы, часам — яе немату, якая ледзяніць сэрца. Гэта ўжо і на дарогах Архангельскай вобласці, па якіх ездзіць і ходзіць пад восень 1944 года. Вось — «Ратанавалок. Старая царква». Зямлі на палатне роўна столькі, каб царкве за яе зачапіцца, прырасці, стаяць, але неба, раўнадушна-срабрыстае, схаладнела-ссінелае, на ўвесь памер карціны, і драўляная царква, пажоўкла-срабрыстая і ссінелая,— таксама на ўсё палатно. Нібы адны яны — на ўвесь паўночны край: ляціць некуды неба, ляціць з небам царква — куды? Зноў жа срабрыстая цэркаўка ў канцы вясковай вуліцы, на гары — карціна «Вёска Зачачча». Адзінае, як на ўсю поўнач, абтрэсенае халадамі дрэўца, а перад ім уздоўж вуліцы — хаты, на паўночны крой высокія, з вокнамі аж пад страхой. У вокнах — цёмна: ці ёсць хто жывы? Ёсць! У адной з хат вокны блішчаць белым паўночным святлом. Можа, гэта ў іх адбіваецца прасветліна ў небе? І ўсё роўна — столькі цеплыні ад гэтых акон выпраменьваецца ў холад паўночнай сутані, што нават ёсць і надзея — можа, за тымі вокнамі і людзі жывыя, хоць адна душа? Мастак дае падставы для гэтай думкі, і яна саграває карціну.

І ў паўночным матэрыяле Біруля знаходзіць грань, яшчэ больш рызыкоўную, дзе самота, нуда, а разам з тым кропля святла, якое грэе і пейзаж, і жыццё. Вось — «Стары млын на Паўночнай Дзвіне», таксама з цыкла сорак чацвёртага года. Зямля, рака і неба нізкае, шэрае, як зямля, у якім цьмяна-белыя аблачыны не ратуюць, тым больш што лініі размытыя, чэзлыя дрэўцы адно ўгадваюцца ў плямах барвовай жаўцізны: вечны нябыт? Але ратуе ад гнятлівага настрою млынок, высока, над зямлёй і ракою да неба ўзнёсшы свае чатыры крылы. Таксама і млынок у паўночнай смузе, яго хутчэй угадваеш, як бачыш, ды ён стаіць, непахісны, на ветры — і гэта ўжо рух, які перадаецца зямлі, рацэ, небу. А дзе рух — там жыццё.

У дваццатыя і трыццатыя гады Вітольд Каятанавіч актыўна працуе ў жанры мемарыяльнага пейзажа. Пэўна, можна лічыць, што ён якраз і пачаў ствараць савецкі мемарыяльны пейзаж. З гэтай работай звязаны шмат якія паездкі па краіне.

Што ж прывяло на мясціны жыцця і творчай працы Пушкіна, Талстога, Леніна, Чайкоўскага? Нейкія выпадкі? Новыя задумы? Чыесьці падказкі? Найперш, мабыць, тое, што для гэтай работы Вітольд Каятанавіч быў добра падрыхтаваны не толькі ў плане жанравага майстэрства, але

ўсім сваім духоўным і эмацыянальным вопытам. Так, працаваць у Ясную Паляну ён першы раз прыехаў яшчэ па просьбе Соф'і Андрэеўны і Касаткіна, ужо тады пісаў магілу Льва Мікалаевіча, яснапалянскія пейзажы. Але папярэднічаў і не толькі гэты вопыт. Яго заўсёды вабілі старыя сядзібы, векавыя паркі, сажалкі, маёнткі з тэрасамі, мансардамі, шыкоўнымі, як у доме Ушакова на Астравенскім возеры, лесвіцамі да возера ці ракі, з флігелямі ў садах і парках, альтанкамі і масточкамі праз раўкі і ручаінкі. Гэта — і быт, і культура, якія з маленства акружалі будучага мастака ў маёнтках бацькоў, сваякоў, знаёмых. Ва ўсім гэтым былі і паэзія, і музыка. І ўсё прасілася на пэндзаль. А тут яшчэ побач — Станіслаў Жукоўскі, сэрцу якога гэтыя куточкі наогул святыя і салодкія. Ён пастаянна жыў у гэтакіх маёнтках, пісаў іх і слыў выдатным майстрам іх перадачы на палатне, з ім тут ніхто не мог спаборнічаць. Жукоўскі быў, як тады казалі, каралём у жывапісе панскіх маёнткаў і інтэр'ераў. І хіба маглі яны, самыя блізкія сябры, доўгія гады жывучы побач, палюючы, пішучы, адданыя адзін аднаму, адзін на аднаго не ўплываць як мастакі?

Гэта — з аднаго боку. А з другога — трэба ўлічыць артыстычна-эмацыянальную натуру Вітольда Каятанавіча, культуру, эрудыцыю, выхаванасць, тонка інструментаваную душу з яе вечнымі пакутамі за чалавека, цікавасць да цікавых людзей. Усё гэта выводзіла на чалавека і яго духоўнае святло. Ён без якіх-небудзь пераўвасабленняў мог адразу ўлавіць біятокі іншага чалавека, настроіцца на яго хвалю, пранікнуць у яго духоўную сутнасць.

Хіба не пра гэта сведчаць хоць бы лісты Вітольда Каятанавіча да Любашы з Пушкінскіх Гор?

*Дарагая мая!..*

*Няма слоў! Ды і не знойдзеш іх! Каб расказаць пра мае перажыванні і хваляванні*

*И пусть у гробового входа*
*Младая жизнь будет играть,*
*И равнодушная природа*
*Красою вечною сиять...*

*Геніяльны паэт, вялікі прарок! Ля яго магільнага ўвахода гулялі школьнікі. Варотцы былі на замку, і дзеці правялі мяне праз дзірку ў агароджы. Старажытныя, зусім струхлелыя сцены манастыра ў палоне векавых дрэваў, з якіх залатым дажджом сыплецца лісце, залатым дываном на-*

*крываючы зямлю, а на пляцоўцы ля амвона сціплы белы абеліск: «А. С. Пушкін». Сядзіш на лаўцы, перад табою праходзяць вобразы, ты чуеш дзіўныя словы, усім нам даўно вядомыя, зразумелыя. І няма сіл адысці ад гэтага белага слупочка*

Праз дзень — другі ліст. Зноў — да Любашы. Той пісаўся 12 кастрычніка трыццаць шостага года, гэты — 14 кастрычніка:

*Прыгажосць і прыгажосць! Куды ні глянеш — прыгожа! Лес залаты, азімыя палеткі — яркі ізумруд! На золаку пачынаюць мармытаць цецерукі. Працую шмат. Падымаюся рана і кладуся рана, каб раней падняцца*

*Родныя мае! Толькі што вярнуўся з Трыгорскага*

Ці можна паверыць, што з гэтакім хваляваннем і захапленнем піша чалавек, жыццё якога няўмольна падбіраецца да сямідзесяці? Можна, аказваецца, калі глядзіш, думаючы пра пачуцці мастака, на яго карціну «Трыгорскае. Алея парку», якую ён пісаў у тыя самыя дні, калі пісаў і ліст да Любашы, ці на эцюды «Святагорскі манастыр. Магіла Пушкіна», «Святагорскі манастыр, дзе магіла А. С. Пушкіна», «Трыгорскае. Бяроза ля ракі Сорань». Над магілай і вакол манастыра голыя — ніводнага лісціка — дрэвы, чорныя цені ствалоў — жалоба, чорныя ствалы і чорнае голле ад іх — натуральна крывыя, пакурчаныя, як у сваіх таемных пакутах. Але барвяная пазалота не зляцела бясследна, самой прыродаю пераплаўлена ў пазалоту зямлі і нябёсаў, якія там, за жалобнымі ценямі на пярэднім плане, ператвараюць усё ва ўсяленскі пажар.

Вітольд Каятанавіч неаднойчы паўтараў словы Рэпіна: «...Я думаю, што найвышэйшая ўзнагарода чалавеку на зямлі: уяўленне». І развіваў гэту думку далей:

*Неабходна выхоўваць у сабе здольнасць запамінаць уражанні. Гэта дар, які Рэпін называў сілаю ўяўлення*

Дар, безумоўна, маладога сэрца. Ён быў уласцівы Вітольду Каятанавічу да самых апошніх дзён жыцця. Чалавек вельмі глыбокіх пачуццяў, ён меў шчасце і пакуту, то салодкую, то горкую, захоўваць пачуцці свежымі і моцнымі на ўсё жыццё. А гэта давала радасць знаходзіць дакладнае і моцнае вобразнае рашэнне. Ці не тут найбольшая цяж-

касць мемарыяльнага пейзажа наогул і ці не тут загадка выдатных работ Бірулі ў гэтым жанры?

Тая ж пушкінская тэма — «Міхайлаўскае. Дні восені. Алея Керн». Самотны светла-шэры тон, замглёнасць, цёмна-шэрыя голыя ствалы старых ліп, па цэнтры, па самай восі алеі між лужынак восеньскага дажджу шнурочак чырванавата-залацістага лісця, пустыя пад ліпамі лавачкі, а за шэрымі ліпамі, куды вядзе чырванавата-залацістая сцяжынка, бэзавы далягляд неба з імгліста-залатым кругам закатнага сонейка. Цішыня. Яна адчуваецца востра, з лёгкім сумам. Залацістае лісце — сцяжынка пасярэдзіне алеі — узварушанае, як жывое, рухомае, быццам па ім толькі што прайшла сама Анна Пятроўна Керн.

Ці вось яшчэ — «Трыгорскі парк». Тая ж восень, таксама цёмна-шэрыя, як жалоба, ствалы ліп, светла-шэрая лістота пад дрэвамі, а на зямлі, пад ліпамі, пустая белая лавачка, і ты, гледзячы на карціну, увесь час пазіраеш на лавачку, бо табе здаецца, што да яе зараз нехта павінен падысці, нехта на яе павінен сесці. Яна хвалюе. Само паветра — поўнае чакання.

Пачуццё нараджае вобраз. І нават людскія фігуры майстру для гэтага не патрэбны. Вобраз паэта ствараюць дрэвы, алеі, лавачкі, неба, паветра. Ёсць гармонія цэлага, цэлае — вобраз. На яго працуе кожны штрых, кожная кропля колеру і святла, кожны мазок.

Звернем увагу: першая карціна напісана ў пяцьдзесят другім годзе, праз шаснаццаць гадоў з той паездкі ў Пушкінскія Горы, калі мастаку было ўжо восемдзесят гадоў, за чатыры гады да смерці, а другая закончана ў сорак пятым, амаль праз дзесяць гадоў пасля паездкі на радзіму Пушкіна. Вось што такое «здольнасць запамінаць уражанні» і што такое «сіла ўяўлення».

Але ці кожны раз у гэтых паездках па краіне, у прыватнасці — да ценяў вялікіх, жывых і нябожчыкаў, мастака знаходзіла адкрыццё?

Задумваючыся над гэтым, бачыш яго настойлівую даўгалетнюю працу ў стварэнні сродкамі мемарыяльнага пейзажа вобраза У. І. Леніна. Ён неаднойчы выязджае і падоўгу жыве, працуючы ў Горках Ленінскіх, Разліве, Ульянаўску, піша стары Вянец над Волгаю, шалаш у Разліве, любімыя Леніным лясочкі, азярыны, тэрасы ў Горках. Працуе карпатліва, сумленна, доўгія гады шукае ў прыродзе рысы, фарбы, гукі, якія хвалявалі героя, напаўнялі яго духам, натхнялі, уплывалі і ўжо самі неслі ў сабе штосьці ад яго.

І пры ўсёй сваёй выканаўчай культуры, пры ўсёй мастацкай адметнасці работы гэтыя, нібы прыгожыя ілюстрацыі да альбома пра жыццё чалавека. У чым прычына? Вобраз аказаўся не па сілах мастаку? Ці, можа, выяўленчыя сродкі пейзажа малапрыдатныя для таго, каб стварыць вобраз палітычнага дзеяча, рэвалюцыянера? Тым больш калі пейзажыст — лірык, калі пэндзаль ловіць не матэрыяльнае — дух, калі колер празрысты, нібы паветра, а святло фасфарысцыруе. Зрэшты, адносна ленінскага цыкла ўсе гэтыя пытанні не безвыходныя. Напісанае — калі не шэдэўры, дык прыстойныя пейзажы, створаныя ў асноўным для Цэнтральнага музея У. І. Леніна, дзе яны ўсе да месца. Іншае — з паездкай мастака ў сонечную Грузію на радзіму Сталіна. Тут пытанне нават не ў тым, кат Сталін ці не кат, і калі кат, то як мог сумленны мастак, гуманіст і дэмакрат, абраць саму тэму? Ён ехаў у Грузію ў 1926 годзе, і тады Сталін быў у вачах народа не катам, а Ісусам Хрыстом. Пытанне ў іншым: палітра поўдня — не палітра Бірулі. Гэта не Запаляр'е, блізкае па каларыту да беларуска-рускага пейзажу, поўдзень — фарбы яркія і чыстыя, з цюбіка, як кажуць, і на палатно, кантрасты, якіх Біруля баяўся, якія не выяўлялі яго душы, настрою, пачуццяў. Нават яркасць колераў у пейзажах Паленава, Каровіна, Левітана — «Залатая восень» ці паўднёвыя работы — вельмі адрозніваецца ад каляровай гамы Бірулі, хоць у гэтых мастакоў ён вучыўся і каларыту, і жывапісу. Тут у яго было сваё адчуванне. Уплыў не мог аказаць нават самы блізкі сябра Жукоўскі, які ад Паленава якраз узяў і святло, і колер. Тут — і светапогляд. Ужо ў вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства Біруля прыйшоў са сваім бачаннем прыроды, веданнем яе таямніц.

Гэта быў ранні, на маладым пачуцці, паляўнічы вопыт, больш ранні і грунтоўны, як у яго сяброў. І таму Біруля не мог бы, скажам, адправіцца ў падарожжа, якое зрабіў Паленаў, па паўднёвых экваторыях Еўропы, Блізкага і Сярэдняга Усходу і Азіі. Для яго было натуральным тое, што сваё першае замежнае падарожжа ён робіць па краінах Скандынавіі, Галандыі (1905 год), што затрымліваецца ў Парыжы, з цікавасцю ўглядаецца ў палотны мастакоў барбізонскай школы, імпрэсіяністаў, блізкіх па духу, у пошуках выражэння свайго аўтарскага пачуцця. Вось на што адгукаецца душа Вітольда Каятанавіча. Гэта ён потым засведчыць і ў лісце, напісаным у Мінск маладому тады беларускаму мастаку Антону Бархаткову:

*Я назаўсёды запамятаў словы вялікага французскага мастака Каро, які з'яўляецца заснавальнікам школы барбізонцаў: «Калі мастаку трэба пачуць апошняе слова ад прыроды, ён павінен яе паважаць, ён ёю павінен захапіцца». Гэта — святая ісціна*

Ну, а ці пакінуў Вітольд Каятанавіч хоць нейкі ўспамін ці напамінак у якім-небудзь лісце альбо ў сшытку пра сваю паездку на радзіму Сталіна? Пра кожную паездку ў яго засталіся радкі — пра Пушкінскія Горы, Трыгорскае, Ясную Паляну, Клін — музей Чайкоўскага, Запаляр'е, Данбас. А пра гэту? Ні слова. Ва ўсякім выпадку — у архівах, у публікацыях. Адно гэта не можа не насцярожыць. Што кажуць самі творы? Якія? Дзе яны? Іх цяжка знайсці. І не варта шукаць. Сталіна не пісаў. Пейзажы Горы? Але іх не любіў успамінаць.

Іншыя мастакі, не ствараючы на сталінскую тэму шэдэўраў, стваралі, у ёй працуючы, нейкія для сябе выгоды. На Вітольда Каятанавіча ў адказ на паездку ў Грузію пасыпаліся не выгоды, а адны непрыемнасці. Шмат разоў яго работы прадстаўляліся да вышэйшай у дзяржаве Сталінскай прэміі, але ніводнай не атрымалі.

І пра гэта Вітольд Каятанавіч не ўспамінаў. Ён быў не толькі мастаком-асобаю, але і гордым чалавекам.

Затое імя яго пачало ўсё часцей з'яўляцца на старонках угневанай прэсы.

Ішоў 1940 год. Аднойчы непагодлівым восеньскім вечарам, у слату і шквалісты вецер, калі святло на вуліцы было ад адных ліхтароў, ён вярнуўся з майстэрні ў свой дом у Варатнікоўскім завулку.

Пакоі патаналі ў цемені, хоць дачка была дома — яе прысутнасць адчуў, як заўсёды, не па голасе, па нейкім асобым настроі ў кватэры.

— Штосьці ты мяне не сустракаеш?

Павесіў на вешалку мокры плашч, капялюш, толькі пасля гэтага ўключыў у прыхожай святло, прайшоў у гасціны пакой і апусціўся ў мяккае крэсла. Яно прытуліла і ўжо, здавалася, ніякая сіла не магла падняць з крэсла.

Падышла дачка:

— Ты стаміўся, дарагі мой?

Яна стаяла побач і цёплымі далонямі грэла яго пахаладнелую на сцюжы галаву, гладзіла светлыя валасы.

— Я, Люба, пятнаццаць гадзін выстаяў за станком. Як некалі, у маладыя гады.

— Ты сябе не шкадуеш.

— Што пішуць газеты?

Дачка маўчала. Але па трапяткіх руках, якія ляжалі ў яго на галаве, адчуў, што пытанне было для яе нечаканае. Што адбылося? Ён вымушаны быў паўтарыць сваю просьбу:

— Прынясі сённяшнія газеты. Такія вакол падзеі, а я ў рабоце не маю часу за імі сачыць.

Яна прынесла газеты, уключыла ў пакоі святло і выйшла. Ужо з кухні пачуў яе голас:

— Я зараз прыгатую вячэру. Ты, мабыць, галодны? Яшчэ, можа, не абедаў?

Ён разгарнуў «Правду». Не таму, што любіў гэту газету. Ціха, у думках, каб ніхто не чуў, лічыў яе вялікай манюкай, але што зробіш, калі прэса краіны пачыналася з «Правды» і самая небяспечная мана была на яе старонках. Вочы пабеглі па калонках, не звяртаючы ўвагі на загалоўкі. Чацвёртая старонка — тут заўсёды пісалі пра мастацтва, літаратуру. Толькі на апошняй. Але на гэты раз і тут — нічога? Разгарнуў разварот — так-так: пра мастацтва сацыялістычнага рэалізму? Ага — Мухіна, Герасімаў... Га, галубок — Бялыніцкі-Біруля? Сышоў з рэек сацыялістычнага рэалізму? Не захоплены героікай камуністычнага будаўніцтва? Дробныя пачуцці, камернасць? Уплыў імпрэсіяністаў? Палітра не загараецца сонейкам, якое ззяе над краінай? Бачыць жыццё ў шэрых тумановых колерах?..

— Любаша!..

Ускочыў з крэсла, з газетай у руках прыбег на кухню. Але дачка на кухні была не адна, ля пліты кухмарылася старая тоўстая суседка — кухня была даўно агульная з падсяленцамі. Вітольд Каятанавіч замоўк і вярнуўся ў свой пакой. Але дачка была побач з ім.

— Я чытала, тата. Не хвалюйся. Тры гады назад пра цябе не лепш пісалі. Усё абышлося.

Ён падышоў да акна, уставіўся ў начную цемень горада, засеяную светлячкамі вулічных ліхтароў.

— А ведаеш, Люба? Я сапраўды люблю жывапіс імпрэсіяністаў. Я хацеў бы пісаць, як яны. Не... Я хачу пісаць так, як пішу. Як піша толькі Бялыніцкі-Біруля. Я хацеў бы, каб святла на маіх карцінах было не меней, як у іх. Але для гэтага трэба, каб яно было вакол мяне, у жыцці. Святло і чыстае паветра. Памятаеш, як сказаў пра твайго бацьку Рэпін? «Жывыя павевы праўды, прастаты і свабоды!» Рэпін! Сам вялікі Рэпін сказаў! А яны?.. Хто сказаў тут? — Ён трос у паветры газетай.— Хто?

— Пад артыкулам невядомае прозвішча, тата. Мабыць, зноў псеўданім?

— Зноў хаваюцца? Кат хавае свой твар. З-за вугла. Упоцемку. Нягоднікі! Служкі!..

— Павячэраем, тата,— сказала дачка.

Але ён апусціўся ў мяккае крэсла і маўчаў. Яна зноў стаяла каля яго, і яе цёплыя танклявыя пальцы ласкава гладзілі яго пасівелую галаву. Чакала, што зараз скажа.

І ён прамовіў:

— Збяры мне чамаданчык. Я еду ў «Чайку».

Яго рашэнне было нечаканым.

— Ты што? Восень, гразь, халадэча. У «Чайцы» нікога няма. Дом халодны. Ты што надумаў?

Але ён паўтарыў непахісна:

— Я еду. Тут — не магу. Збяры мяне, Любачка.

Не першы раз ён нечакана ехаў на дачу ў гэтакім гнятлівым стане, калі ўсё, што акружала тут, у Маскве, станавілася невыносным, калі працаваць не мог і, не працуючы, пакутаваў яшчэ мацней. І яна, дачка, ведала, што як ні цяжка адпускаць бацьку аднаго ў «Чайку», да якой усё ж чатырыста кіламетраў, якая ні цяжкая дарога прадстаяла яму ў немаладым узросце па скалелай ад холаду і халепы дарозе, гэта было адзінае, што магло вывесці з цяжкага душэўнага стану і што адгаварыць яго ад паездкі яна не зможа.

Выйшлі на вуліцу.

Імжыў халодны дождж.

Жорсткі вецер ірваў на плячах вопратку, хваставў па тварах мокрым даждж़ом.

Спыніліся.

— А цяпер вяртайся дадому,— сказаў ён дачцэ.— Да вакзала я даеду адзін.

Цяжка было адпускаць яго ў ноч:

— Можа, вернемся разам? Можа, заўтра? Распагодзіцца? Ды і... Ноч, татачка?..

Ён мог змяніць сваю думку, свае намеры, калі яна вельмі прасіла, гэтак было неаднойчы, але цяпер у яго хапіла рашучасці, каб не адступіць ні на крок:

— Ехаць трэба цяпер. У вагоне будзе шмат людзей, цёпла, удасца — яшчэ і высплюся. Мы ж з табою заўсёды ездзім начным. Раніцай я ўжо буду ў нашай любімай «Чайцы». А там — сонейка. Вось я і знайду сонечныя фарбы нашых гераічных дзён.

— Добра хоць тое, што цябе не пакідае жарт. Ён цябе часта ратуе, а мяне — супакойвае.

— Ты не хвалюйся.

Тую ноч Любоў Вітольдаўна не спала. І дзень, і яшчэ ноч і дзень яна толькі і думала пра бацьку: як ён там адзін? Што знайшоў на дачы? Цяплынь ці холад? Хоць бы не захварэў...

На чацвёрты дзень прыйшоў ліст:

*Вось я і ў «Чайцы». Але цябе тут няма, і ўсё пуста. І неба сёння халоднае, воблакі свінцовыя, клоччам вісяць над Удомляй, каб плакаць над блеклымі, ужо барвовымі дрэвамі. У кустах шыпшыны яшчэ гараць агеньчыкамі апошнія бутоны, і Нінушчын табак, макі гавораць пра яе. Вельмі ўзрадаваўся вязень Міцечка і дзякуе за папяросы табе і Нінушы, і за кавун. Другі кавун я аддаў Лілішы ад Нінушы, хоць есці яго будзем разам. Ліліша ходзіць без фасону і тону, з белымі губкамі, з распатланымі валасамі і лыжы ўжо скіроўвае на Балагое і Маскву*

*Ноч, стаміўся ў дарозе. Няма сіл. Хачу спаць*

*Моцна, моцна цалую цябе, мая радасць*

*Твой Віт. Бял.-Біруля*

*«Чайка»*

З гэтым лістом у руках яна і звалілася на ложак, каб нарэшце заснуць, супакоеная не толькі тым, што тата ўжо ў «Чайцы», але і яго настроем.

## СІНІЯ НОЧЫ, АГНЯНЫЯ БЛІСКАВІЦЫ

Старэнькі бабулін клавесін Вітольд Каятанавіч успамінаў часта як штосьці дарагое, святое.

*Чую яго гукі. Яны абуджаюць ува мне святло і цяплынь*

Яшчэ малы, калі прыязджаў з маці ў Быстрэю, адкрыў дзіўную таямніцу бабулінага клавесіна: вылятаючы з акон дома, хаваючыся ў кветках, траве, дрэвах, пад берагам у шырознай Дзвіне, у паветры, гукі не знікалі бясследна, тыя самыя кветкі, травы і дрэвы ад іх пачыналі ярчэць, ззяць, нават калі не было сонца ці месяца, лілі духмяны водар. Дзвіна несла гукі клавесіна вельмі далёка, а яны ўсё гучалі, пераляцеўшы цераз раку, і там, на тым беразе, пры-

мушалі гучаць паветра, увесь далягляд. Калі ж клавесін замаўкаў, калі бабуля, маці, цёткі, Стэфанія альбо Элеанора, адыходзілі ад яго, за акном, адчыненым у сад, яшчэ доўга гучалі мелодыі. Вітольд Каятанавіч памятаў, як у гэтакую хвіліну ён, малы хлапчук, бег у сад, на бераг Дзвіны, хаваўся ў зацішку ад дарослых і дзівіўся, як доўга бабуліна музыка жыла ў кветках, травах, дрэвах, рацэ, як яна ўсю прыроду напаўняла ўрачыстасцю і маляўнічасцю. Яшчэ тады ён адчуў, што прырода і музыка кроўныя сёстры, як Стэфанія і Элеанора, ці, дакладней, як мама і цётка Элеанора, кроўныя і прыгожыя, і што музыка заўсёды шукае кветкі, травы, дрэвы, раку, неба, хоць нараджаецца ў бабулінай скрынцы, што і прырода гукае яе да сябе, чакае сястрыцу-музыку і шчаслівая адно з ёю.

Гэта ранняе адчуванне пазнейшае жыццё не разбурыла, і ўсюды, дзе б ні жыў Вітольд Каятанавіч, у яго доме гучала музыка.

Без музыкі не магла жыць і Вольга Іванаўна. Калі на беразе Удомлі пабудавалі дом, сюды адразу трэба было прывезці раяль. Які? Выдатны раяль быў у Калакольцавых на беразе Кезадры, і яго Бірулі купляюць для «Чайкі». Яшчэ раней, калі жылі ў Гарусаве, у доме Аракчэевых, быў куплены раяль у Астраўно, у маёнтку Ушакова, той самы, на якім Кувшыннікава іграла для Левітана яго любімую баркаролу. І калі Шапэн, Грыг, Манюшка прыйшлі ў дом Вітольда Каятанавіча ад бабулі Чарноцкай, ад маці, ад Вольгі Іванаўны, дык Чайкоўскі — не толькі ад іх, але яшчэ і ад Левітана, з'явіўся з вятрамі, што прыляталі на Удомлю з Астравенскага возера, ад дома Ушаковых і з Горкі Турчанінавых. Любімая музыка Ісака Ільіча стала любімай музыкай Бірулі.

Улада Чайкоўскага над душою ў маладыя гады была загадкавай, няяснай. Яе Вітольд Каятанавіч зразумеў нават не тады, як пакутаваў Левітанам, значна пазней. У аўтабіяграфіі той час будзе пазначаны трыма радкамі:

*1942. Вясна*
*Ездзіў у Клін, у музей-сядзібу Пятра Ільіча Чайкоўскага. Напісаў некалькі карцін*

Так — была вайна.

Аднойчы, у самы першы дзень вясны другога года вайны, першага сакавіка, Вітольд Каятанавіч рана выйшаў з дому на плошчу Пушкіна, адкуль заўсёды ездзіў падземкай у

майстэрню. Пад сцяной дома, насупраць помніка паэту, людскі натоўп слухаў па радыё паведамленне Саўінфармбюро пра падзеі на фронце. Яно заканчвалася тым, што нашы войскі пасля жорсткіх баёў вызвалілі ад ворага горад Клін, а далей — пра музей-сядзібу Чайкоўскага ў Кліне, як акупанты ператварылі яго ў салдацкую казарму, як, паспешліва адступаючы, аблілі дом бензінам, каб падпаліць, ды не паспелі. Паведамленне ўражвала. Раней Вітольд Каятанавіч неяк не думаў, што ў доме, дзе Чайкоўскі пісаў Шостую сімфонію і «Пікавую даму», могуць гаспадарыць фашысцкія салдаты, што чароўную музыку ў ім заглушыць жывёльны інстынкт і брудны акопны фальклор, што ўсё гэта ўчыніць радзіма Бетховена. Чайкоўскі і Бетховен здаваліся яму вельмі блізкімі духам, гармоніяй таноў і мелодый, багаццем дабрыні і святла сваёй музыкі. Чаму ж людзі, якія выраслі на зямлі Бетховена, нявечаць святыню Чайкоўскага?

Пытанні паўсталі адразу і дзень за днём не пакідалі ў спакоі. Ехаць у Клін? Усё кінуць і ехаць, каб убачыць самому, што там адбылося? Ці пачуе ён цяпер у доме Чайкоўскага яго музыку?

У дарогу сабраўся, але ад'езд зацягваўся. Вырвацца з Масквы ўдалося толькі ў канцы мая.

Праз Клін ішлі войскі. Адны — на поўдзень, наганяючы фронт, яму на падмогу, другія — на поўнач, на пераформіраванне. Хворыя і параненыя шукалі свае шпіталі. Па ўсім і ўсіх было відаць, што там, на фронце, які адкаціўся ад Кліна, жорсткія баі. А Клін патанаў у гразі, смуродзе, змроку. У горадзе не было святла і было поўна бежанцаў, галодных людзей. Вакол музея Чайкоўскага ўсё згарэла, стаялі толькі дом кампазітара ды дом, дзе жылі супрацоўнікі музея, у якім пасяліўся і Біруля.

У пакойчыку было самае неабходнае: жалезны, нічым не накрыты ложак, стол на трох ножках ды крэсла з адламанай спінкаю. Стаяў смурод, як у хляве. Круглыя суткі было адчынена акно ў сад, а смурод не выводзіўся. Пахла гарэлым, як на пажарышчы.

Затое вясна ўсталявалася цёплая. Як забыўшы пра вайну, на грымоты і пажары, цвілі кветкі, бэз і шыпшына. Да доміка Пятра Ільіча цэлымі днямі, ад сонца да сонца, ішлі салдаты і афіцэры, дарога якіх ляжала праз Клін. У доміку іх прымала Марыя Эрнэстаўна, навуковая супрацоўніца. Перад прыходам немцаў у горад яна рыхтавала музейныя экспанаты да эвакуацыі, цяпер іх збірала зноў.

Першыя дні Вітольд Каятанавіч проста блукаў па го-

радзе, папялішчах, вакол дома Чайкоўскага, сядзеў на лавачцы ў садзе, у зацішку алеі з ліп і бяроз, прагна ўглядаўся ў чорныя сляды вайны, у твары людзей, усё больш губляючыся: што тут ён, пейзажыст, можа рабіць? На папялішчах не чуў музыкі любімага кампазітара, а без яе, музыкі, не мог знайсці ні сюжэта, ні вобраза, ні святла для карціны. За гэтыя дні зразумеў адно тое, што музыка Чайкоўскага і вайна, вынішчэнне жыцця — стыхіі несумяшчальныя, іх нельга прымірыць. Адчуванне варожасці паміж музыкай Пятра Ільіча і вайной наводзілі на думку, што і яго палітру не змогуць натхніць папялішчы, пакуты, варожасць. Не яго гэта час? Не яго пейзажы? Не яго фарбы — чорныя, шэрыя, чырвоныя? Але ж — вясна? Ён, можа, таму і паехаў сюды не адразу, як пачуў пра вызваленне Кліна, паехаў пазней, калі набрала сілы вясна, ведаючы, што вясна яго не падвядзе, яна заўсёды, у самых няўдзячных абставінах, выведзе на карціну. І цяпер чакаў сваёй хвіліны. Жыў і чакаў.

Аднойчы Вітольд Каятанавіч да позняга вечара сядзеў пад старымі ліпамі. Ля доміка цвіў бэз. Яго водар, востры і салодкі, перамагаў пах гары з блізкіх котлішчаў. Змрок гусцеў, і ссінела-бэзавая смуга паступова запоўніла сад, ахутала дом. У сінім колеры Вітольд Каятанавіч заўсёды адчуваў драму, горкую таямніцу, неаднойчы бачыў у ім і левітанаўскую Горку, і сваю Удомлю. У той жа час гэта быў колер паветра, у якім гучала баркарола, што хвалявала і Левітана, і яго, Бірулю.

Думаючы пра ўсё гэта пад ліпамі, Вітольд Каятанавіч бачыў, як да доміка прайшоў табунок салдат. Зніклі за рогам, а ён яшчэ чуў тупат ботаў.

Змрок гусцеў, і чырвоны пасак на даляглядзе пагас. У акне загарэлася святло, зырчэйшае, як ад запалкі ці свечкі. Салдаты, мабыць, прынеслі газы, і Марыя Эрнэстаўна запаліла лямпу пад шклом і папяровым абажурчыкам.

Пачуліся гукі раяля. Яны адразу зліліся ў мелодыю, такую вусцішна-звонкую, урачыстую, святочную, што падалося, быццам яна ляціць не з доміка, а з нейкага неабсяжнага поля, з прасторы стэпу, з далягляду доўгіх дарог. Вітольд Каятанавіч яе пазнаў. То быў зімовы настрой з «Пор года» Чайкоўскага, была мелодыя лістападу, першага снегу, першага на ім следу, з перазвонамі балаболаў пад дугою карэнніка і святочным выездам захмялелай ад снежнае чысціні душы. Музыка вяла ў звонкую чысціню, абяцала на яе дарогах волю і свята.

За хмарамі, за голлем дрэў узышоў круглы месяц.

Музыка сціхла, але яе апошні акорд гучаў — у акне, дзе гарэла лямпа, у дрэвах, кустах, траве, у небе.

З доміка выйшлі салдаты. Спыніліся, як усё яшчэ слухаючы музыку, той гук, што застаўся, не хацеў памерці, трывожыў. Закурылі і адзін за адным, вузкай сцежкай, панеслі на папяросах агеньчыкі да шашы, якая вяла далей, на фронт.

Вітольд Каятанавіч узяў на калені эцюднік, хацеў падняцца з лаўкі, ісці да свайго стала і жалезнага ложка, але апошні гук усё яшчэ жыў у ім, не пускаў. Ён так і не расклаў сёння эцюднік, не дакрануўся пэндзлем да палітры, да фарбы, але цяпер адчуў, што гук, які застаўся і гучаў, даваў патрэбную надзею, злучаў з нечым яшчэ няясным, але якраз тым, што шукае. Яго нельга было згубіць, і ён баяўся паварухнуцца. Трэба было слухаць гэты гук, ісці туды, куды вёў, і раптам, услухоўваючыся ў яго, адзіны гук, пачуў, як з гэтага гуку вырастае нясмелая, быццам павеў цёплага ветрыку, мелодыя, не тая, якую толькі што чуў, а новая, без таго снежна-марознага звону, цёплая і таемна-шчымлівая. Яна, новая, паўставала з нейкай смугі, няяснасці, з сіняй раніцы ці... з сіняга вечара? Баркарола? Ах, гэта яна, тая сіняя музыка! Яна, вядома ж, адтуль — з Горкі, з Астраўно, з Удомлі. Для яго, Бірулі, яна заўсёды жыла там, толькі там, там і засталася — з Турчанінавымі, Левітанам і, вядома ж, з Чэхавым, Антонам Паўлавічам. Не музыка, а паветра, у якім яны жылі. І Чэхаў, Антон Паўлавіч. У засмужанасіняй Горцы кахаў і пісаў сваё каханне, пейзажы кахання, Левітан, а калі чароўную цішыню Горкі раскалоў стрэл, як разрыў сэрца Левітана, Чэхаў, атрымаўшы жахлівы ліст ад Ганны Мікалаеўны Турчанінавай з яе просьбай неадкладна прыехаць, каб уратаваць Ісака Ільіча, прыехаў, прыехаў неадкладна, і ў той чароўнай сіняй смузе знайшоў сваю баркаролу. Усё ці не ўсё ён апісаў, што знайшоў, у далікатна-стрыманым, але ўсё ж з чароўнай Жэняй, апавяданні «Дом з мезанінам». З сіняй смугі, нібы з таямніцы душы, з мелодыі баркаролы сатканы сустрэчы яго героя, мастака, з Жэняю, і іх настрой лірычны, іх чыстае, як тое паветра, каханне, іх разлука. І нават спаднічка на Жэні сіняга колеру, колеру тых летніх начэй, вечаровых таноў возера, дачы, бору над возерам, колеру любімай мелодыі Левітана.

Вітольду Каятанавічу часта здавалася, што любая добрая музыка мае свой колер, сваю каляровую гаму, агульны каляровы тон. І тое самае — з таленавітым мастацкім словам. «Дом з мезанінам» бачыўся ў сінім святле баркаролы.

І цяпер, слухаючы музыку, якая заўсёды гучала для яго ў цёплым сінім святле левітанаўскіх пейзажаў, Вітольд Каятанавіч пачаў заўважаць, як і тут, у сядзібе Пятра Ільіча, сіні тон перамагае шэры, чорны — у акне, асветленым лямпаю Марыі Эрнэстаўны, на даху, сценах доміка, у якім жыў кампазітар, па ўсім садзе. Можа, адно неба выбівалася з тону, нацягнуўшы на сябе бялесыя, нібы жамчужныя ракавіны, воблакі, але далей, за воблакамі, яно было таксама сіняе, ды і воблакі злёгку падсіненыя. Нават месяц, круглы і зусім блізкі, адліваў зямным колерам.

Карціна? Домік кампазітара, акно ў ім, асветленае лямпай, парк, поўня над гэтым просценькім зямным пейзажам як бы і не галоўныя, галоўнае — сіні тон, колер, які павінен быць самой музыкай, самой баркаролай, духам і вобразам кампазітара. І калі б ён, Біруля, пісаў партрэт Чайкоўскага, напісаў бы яго абавязкова ў цёмна-сінім фраку ці касцюме, пад цёмна-сінім капелюшом на срабрыстым падсіненым фоне. Ці ёсць яшчэ тон, які б гучаў гэтак суладна з музыкай кампазітара? Няма. Нават вочы... Дарэчы, якога колеру ў Чайкоўскага былі вочы? Ён, Біруля, раней ніколі пра гэта не думаў. Сінія?.. Падалося, што вочы ў кампазітара павінны быць абавязкова сінія, як кропелькі неразведзенага ультрамарыну.

Вітольд Каятанавіч расклаў эцюднік. Хоць бы прамянёк святла пад пэндзаль, адзін усяго прамянёк на палітру. А калі яго няма? Ці гэта вельмі важна? Галоўнае, што ён зразумеў пейзаж, адчуў, як яго трэба пісаць, злавіў тон, музыку любімага кампазітара не толькі пачуў, але і ўбачыў, ва ўбачаным — пачуў, усё астатняе — тэхніка, тое, што можна рабіць з заплюшчанымі вачыма.

Пісаў, спяшаючыся, ловячы момант, які гучаў. Святло ў акне пагасла, а ён пісаў. Замоўкла ў доміку музыка, а ён яе ўсё роўна чуў і пісаў. Чуў яе ў сініх фарбах, а ў ёй — бачыў сіняе святло зямлі і неба. І дом кампазітара мог пісаць пры пагашаным у акне святле, хоць ведаў, што на карціне акно абавязкова павінна быць светлае, агеньчык у ім павінен гарэць. Нідзе больш, адно ў ім. Калі на яго з дарогі звярнулі салдаты, якія, можа, сёння ці ўчора выйшлі з бою ці ідучы на фронт, у бой, значыць, ён патрэбны на гэтай зямлі, усім патрэбны. Ён сам, мастак, запаліць яго.

Ноч выдалася трывожная. Нават збег ночы, калі ён, вярнуўшыся ў пакойчык, ляжаў на жалезным ложку, кінуўшы пад бок куртку, у якой працаваў. Нібы высокага суддзі, чакаў раніцы.

На золаку нечакана заснуў, змогшыся. Прачнуўся, як ужо ўзышло сонца. Падхапіўся, кінуўся да незакончанага эцюда і ўбачыў, што пісаў недарэмна. І зноў трэба было чакаць вечара, пільнаваць тую самую поўню над сінім домікам, блакітнае святло ў акне.

На гэты раз да лавачкі пад ліпамі прыйшоў загадзя. Дачакаўся і сіняга вечара, і поўні ў небе, але акно ў доме Пятра Ільіча не загаралася. Гучала музыка, баркарола, а ў акне было цёмна. Музыка гучала ў ім, мастаку, ён выразна яе чуў, яна яго хвалявала, як і ўчора, увесь свет яднаючы тым самым сінім тонам, але святла ў акне не было. Вітольд Каятанавіч дапісаў неба, поўню, сад, але дзе святло ў акне?

Раптам пачуў жаночы голас:

— Вы працуеце? Ноччу?

Азірнуўся: перад ім стаяла Марыя Эрнэстаўна.

— Так. Пішу гэтую ноч.

— А я думала, што вы проста збеглі з галоднай Масквы. Там, кажуць, няма чаго есці. Тут хоць і гаспадарылі немцы, але нядоўга. Пражыць у нас лягчэй, чым у Маскве.

— Хіба я вам не сказаў, з якой нагоды прыехаў?..

— Так-так... Але столькі людзей бяжыць з Масквы! Ды і... я музыкантша, жывапіс ведаю кепска, асабліва сучасны. Мастакоў... цяперашніх, прабачце, амаль не ведаю. Ды і... вайна. Якіх толькі людзей не сустрэнеш...

Яна спахапілася, што магла чалавека зняважыць, пакрыўдзіць, не жадаючы, але ён не пакрыўдзіўся, зняважаным сябе не адчуў, наадварот — усміхаўся, разгаварыўся, і гэты яго настрой, у якім адчувалася годная вышыня, прымусіў яе зусім сумецца, бо раней яна сапраўды сумнявалася, што перад ёю мастак, жывапісец. Замоўкла, апусціла вочы. Маўчаў і ён, разглядаючы яе, іранічна чакаючы, што яна яшчэ яму скажа. Яна мелася сказаць іншае, дабрэйшае, але раптам запрасіла:

— Пойдзем да мяне на чай.

І што дабрэйшае можна было прыдумаць?

— Я... абавязкова. Вы мяне чакайце. Я прыйду.

Ён адразу ўявіў, як яна зараз завітае ў свой пакойчык, запаліць лямпу, будзе заварваць чай, чакаць яго, і гэта якраз тое, што яму трэба,— у доміку засвеціцца акно, з якога ў сад будзе ліць цёплы ясны блакіт. Гэтак і адказаў, каб яна яго пакінула, ішла і запаліла святло ў акне. І яна зрабіла так, як ён хацеў: пайшла адна і запаліла святло.

Было блізка да поўначы, калі Вітольд Каятанавіч завітаў

да Марыі Эрнэстаўны. Ціха адчыніўшы дзверы пакойчыка, ён убачыў стол, засланы белым абрусам, на ім — сінія кубкі на сініх сподачках, чайнік і сінюю вазачку з варэннем. Марыя Эрнэстаўна сядзела за сталом у мяккім крэсле, усё роўна як спала, падпёршы рукой галаву. Ён паставіў перад ёю на стале толькі што дапісаны эцюд. Яна падняла галаву, адкрыла вочы. З хвіліну ўглядалася ў эцюд, потым перавяла позірк на госця:

— А я думала...

— Што з Масквы прыехаў ніякі не мастак, а звычайны галодны? Ваша праўда. Вечна галодны на цудоўную музыку.

— Я два разы падагравала чай, а ён усё роўна астыў.

Вітольд Каятанавіч дакрануўся рукою да чайніка — яшчэ цёплы.

— Я гэтакі якраз люблю.

Яна налівала чай у сінія кубкі і глядзела на эцюд.

— Як на вашу думку? Ці гучыць мой эцюд? — раптам, можа, не вельмі сціпла, спытаў ён.— Ці чуеце вы ў ім музыку? Калі чуеце, то якую?

Ён ведаў, што ад яе адказу ў значнай меры залежыць яго заўтрашні дзень: застанецца ён тут, каб пісаць эцюды і карціны, альбо вернецца назад у Маскву.

Яна не адказала, і яны моўчкі пілі чай з густым клубнічным варэннем.

Але вось Марыя Эрнэстаўна паставіла кубачак на стол і падышла да піяніна. Папрасіла, каб ён падаў эцюд — паставіла на пюпітры. Яе танклявыя маладыя пальцы прабегліся па клавішах, і тая самая сіняя чароўная музыка запоўніла пакойчык, дом, усю гэтую майскую ноч. Марыя Эрнэстаўна не зводзіла вачэй з эцюда, быццам ні пра што іншае не думала, быццам сама слухала баркаролу, якая цяпер гучала ў эцюдзе, у акне, якое было на ім. Музыка здавалася і ўспамінам светлых дзён, і мовою ўсяго свету, які хваляваўся, кахаў і плакаў, і яго заўтрашнім днём, у якім будзе ўсё тое самае, што было ўчора і вечна — каханне і слёзы, чаканне і страты.

*Май 1942 года быў нялёгкі. Але гэта быў цёплы і светлы май*

*Я жыў на зямлі Чайкоўскага, дыхаў яго паветрам, слухаў яго душу, чуў яго музыку*

*Я з хваляваннем пісаў «Дом Чайкоўскага», «Ціхую светлую ноч», «Вечар юнага мая», «Алею саду Чайкоўскага»*

*Я хацеў, каб у маіх карцінах гучала любімая музыка*

## ГОД 1947. БЕЛАРУСЬ. ДОЖДЖ І ХЛЕБ АДРАДЖЭННЯ

*У кожнага чалавека ёсць радзіма. Яна жыве ў сэрцы, у думках. Можна разлюбіць нявесту, жонку, але разлюбіць радзіму — жахліва, немагчыма*

*Была вясна. Я хадзіў па роднай беларускай зямлі. Я быў шчаслівы*

Гэта радкі з ліста Бірулі да першага сакратара ЦК КП Беларусі Панцеляймона Кандратавіча Панамарэнкі, якое мастак напісаў у 1954 годзе, успамінаючы сваю першую пасляваенную паездку ў Беларусь у красавіку — маі 1947.

Вясна — любімая пара года Вітольда Каятанавіча. За сваё доўгае жыццё ён пражыў шмат вёсен, і кожная, якая б цяжкая яна ні была, прыходзіла святам, кожную памятаў па днях і падзеях, кожная была непаўторнай, са сваімі фарбамі, галасамі.

*Нідзе на поўдні няма такой шматфарбнай, урачыстай вясны, як у нашых краях. На поўдні яна кароткая, хуткая. Наша прыходзіць надоўга. Яе вітаюць амаль усе пярнатыя. Гнёзды яны робяць толькі ў нас*

Калі сябра па кіеўскім кадэцкім корпусе генерал і пісьменнік Аляксей Аляксеевіч Ігнацьеў, адчуўшы, што надышлі апошнія дні жыцця, дорыць сваю кнігу «Пяцьдзесят гадоў у страі», Біруля высылае яму ў адказ эцюд «Квітнеючы май».

А неўзабаве ў сшытку напіша:

*Ён адчуў свой канец. Заўсёды трэба памятаць, што ля апошнага парога нас чакае блакітная вясна*

Блакітнай называў апошнюю вясну чалавека.

Вясну 1947 года Вітольд Каятанавіч не лічыў сваёй блакітнай вясной. Ён проста ведаў, што на радзіму павінен ехаць вясной. У яго жыцці гэта была вясна светлага настрою і прадчування цікавай работы. Да яе рыхтаваўся загадзя. Пасля работы над шэдэўрамі драўлянага дойлідства Поўначы, якім аддаў восень сорак чацвёртага і зіму сорак пятага года, шмат працаваў у Ленінскіх Горках і Ульянаўску, працягваючы ствараць пейзажную Лeніняну. Але на пачатку вясны сорак сёмага дапісаў карціны, якія стаялі на

мальбертах і ў Чарнышоўскім завулку ў Маскве, дзе была майстэрня, і ў «Чайцы». Адчуваў, што паездка у Беларусь — вясна, якой яшчэ не было і якую павінен вітаць без цяжару ўчарашніх недаробак.

Мінск сустрэў цёпла. Яшчэ горад стаяў у руінах, але ўжо выраслі новыя прыгожыя дамы, на Савецкай вуліцы званіў трамвай. Ведаў загадзя, прыехаўшы — убачыў, як цяжка землякам, колькі трэба працы, каб узняць з папялішчаў вёскі і гарады, але тым мацней усхвалявала цеплыня, з якой сустрэла радзіма. Едучы сюды, усю дарогу думаў, ці той час выбраў, ці да яго тут людзям? А яны, гаспадары спапялёнай зямлі, зразумелі нават настрой, яго клопат — вывезлі за горад на Курасоўшчыну, і пасялілі ў парку са старымі ліпавымі алеямі і яблыневымі садамі на беразе вялізнага рова, па дне якога бегла прыгожая ў маладой зяляніне рачулка, у белым невялікім, прыгожым і зграбным, з мансардамі і балконамі, дамочку, які некалі належаў генералу Курасаву, цудам уцалеў у вайну, і цяпер называўся Белай дачай. Пад акном стаяла легкавая аўтамашына, прасторная, вельмі зручная для паездак на натуру. Яе, сваю службовую, Панцеляймон Кандратавіч даў гасцям, Вітольду Каятанавічу і Алене Аляксееўне, на час жыцця ў Белай дачы.

Кожную раніцу, прачнуўшыся, Біруля выходзіў у яблыневы сад. Нізкія сонечныя прамяні, яшчэ не абласкаўшы зямлю, знаходзілі беласнежную кіпень яблынь і запальвалі яе ружовым святлом. Спявалі салоўкі, дразды. Слухаў вясновы грай на роднай зямлі і пачынаў трывожыцца. Нідзе, здавалася, не бачыў гэтакіх ружовых, у квецені, садоў. Усё роўна як на яблынях ляжала не толькі цяплынь сонца, але і гарачыня ваенных пажараў. Яшчэ і зязюля трывожыла. Забыўшы на снеданне, выносіў у сад эцюднік і пачынаў пісаць яблыневую квецень.

*Была думка: калі мне ўдасца адлюстраваць на палатне адраджэнне роднай зямлі, паказаць выключную працавітасць майго народа, я буду шчаслівы*

Тут — і мэта, і праграма. Шчасце вызначана жаданнем народа адрадзіць зямлю, бацькаўшчыну. Вітольд Каятанавіч кожную раніцу спяшаецца да палатна.

Сама Белая дача і сад у квецені бачацца мастаку найчысцейшым астраўком знявечанай ворагам роднай зямлі, вобразам і сімвалам вернутага жыцця. Ён з захапленнем піша эцюды Белай дачы і саду ў майскай квецені. Настрой

расквітнелай зямлі завалодвае душою. Але жыве і памяць. Яна пячэ. Сад Белай дачы — не той, што ў «Чайцы», які пісаў на беразе Удомлі, хоць і той лавіў на пэндзаль у майскай квецені. Гэты цвіце цяжка, яшчэ ўвесь у бліскавіцах вайны. Майская зяляніна пад дрэвамі адлівае чырванню бяды, шэранню папялішчаў, далягляд і акрайчык неба трывожна пунсавеюць, майская прозелень і просінь не змылі апёкаў. Яблынькі цвітуць нясмела, бель квецені, як сівы туманок, як першае вяселле ў спаленай вёсцы, і гэты чысты туманок маладога жыцця падымаецца да неба яшчэ на пакрыўленых злыбедай танклявых ствалах, на пакурчаных у нядаўняй бядзе галінах. Не, гэта — не проста яшчэ адзін май, не звычайная квецень яблынь. Гэта тое, што ў самой назве эцюда: «Беларусь. Яблыні ў квецені. 1947». Усё павінна быць ясна: на якой зямлі цвітуць яблыні, калі, якой вясною.

Штосьці падобнае адчувае мастак у вобразе Белай дачы. Прыгожы чысты дамок старой пабудовы мог бы стаяць на першым плане, у яго белізне каларытна глядзелася б сама вясна, яе мяккая ружовая цяплынь, яна адбіла б і палітру майскай сінізны неба, і квецень саду. Але не белы дамок спакушае мастака. Яму патрэбны вобраз зямлі, арганічны, закаранёны ў другой пасляваеннай вясне. Чысты колер, белы колер дамка не паглыбіць пачуцці, зняважыць іх, у гэты час ён павінен сам сябе пасаромецца. І мастак хавае белы дамок за старой ліпай, ён у яго толькі выглядае адным сваім акном з-за аднаго боку ліпы і другім акном з-за другога боку ліпы, і цяпер ужо не белы, проста светлы, замглёны вясной і не толькі вясной, ці не самой пасляваеннай парою, якая мае свае адметныя колеры і сваё адметнае святло. А на пярэднім плане — зямля, па якой вясна разводзіць складаную каляровую палітру, у якой жыве ўчарашняя трывога, хоць жыццё маладое перамагае: праз шэрань і бурую жаўцізну леташняй мёртвай травы прабіліся маладыя парасткі зяляніны, і яны гаспадарліва зацягваюць шэры дзірван. І не белы дамок прываблівае з першага погляду, нават не расцвіўшыя яблынькі, а зямля пад імі, уезджаная стужка дарогі па збалелай і шчаслівай у сваім прадчуванні і ў сваёй вясне руні. Усё як бы расступілася — мы глядзім на родную зямлю. Хоць назва эцюда: «Мінскія ваколіцы. Белая дача. Квітнеюць яблыні. 1947».

У тым самым лісце ёсць радок:

*Калі я выходжу пісаць, мне цяжка адарвацца ад зазелянелай калгаснай руні*

Рунь — жыццё. Вітольд Каятанавіч таму і любіў вясну больш за ўсе поры года, што любіў жыццё. Тут усё арганічна, як гэта можа быць толькі ў выдатнага мастака, дзе кожная фарбачка і кожная рысачка не могуць гуляць абы-як, абы-дзе, павінны ляжаць на сваіх месцах. Прыродная любоў да жыцця, якая вызначыла ў ім усё дарэшты — і працу, і сяброў, і настаўнікаў, і захапленні, і нават слабінкі характару,— роўная любові да вясны, а ў вясне ён бачыў перш за ўсё рунь, што не толькі апранала зямлю ў маладыя вопраткі, але давала ёй рух да мары, спадзяванняў, дастатку, заможнасці, шчасця. А гэта так трэба было зямлі і людзям, якія выйшлі з вайны. І вось ён, мастак, ужо не можа доўга сядзець і пісаць на Белай дачы, ён выязджае на дарогі, якія вядуць ад дачы ва ўсе бакі Беларусі. А найперш — па ваколіцах Мінска. І піша — піша эцюды. Яго захапляе ўсё, што бачыць. Напісанае так і называе: «Мінскія ваколіцы». Вось — «Мінскія ваколіцы. Калгас «Сенніца»», «Мінскія ваколіцы. Сенніцкая царква», «Мінскія ваколіцы. Беларуская вёска», «Мінскія ваколіцы. Вёска. Эцюд да карціны», «Мінскія ваколіцы. Белая дача».

Што ні дзень, то эцюд. І якія эцюды! Яму хочацца перш за ўсё схапіць настрой пасляваеннага беларускага поля, лесу, неба, пасляваеннай беларускай вёскі, дарогі, вясны, настрой перш за ўсё, настрой і агульны тон, каларыт, але жывапіснага каларыту мала, трэба злавіць нацыянальны каларыт, каларыт часу. Эцюд не канчатковая мэта, але Вітольд Каятанавіч заўсёды пісаў карціны па эцюдах з натуры, у гэтым была, магчыма, галоўная сутнасць школы, якую ён прайшоў і засвоіў ад перадзвіжнікаў, ведаючы, што добрыя эцюды амаль заўсёды давалі добрыя карціны. Але эцюды мінскіх ваколіц хіба толькі эцюды? Нават не ставячы перад сабою вельмі складаных задач, ён піша эцюды, якія цяжка не назваць карцінамі. У іх — і глыбокая перспектыва, і ўраўнаважанасць фігурамі, колерам, лініямі, і аўтарскае не толькі пачуццё, але крэда, погляд, пошук абагульненага вобраза. Тая ж «Сенніца» — ці не вобраз зямлі?

Зрэшты, гэта заўсёды было пытаннем з пытанняў жывапісу — што такое эцюд і што такое карціна? Пытанне практыкі і тэорыі жывапісу. Тут, у Беларусі, Вітольд Каятанавіч сваімі эцюдамі і карцінамі нібы зноў, як у маладыя гады, працягвае спрэчку, якая для яго вельмі прынцыповая. Стаўленне да карціны і эцюда, якое ён дэманструе сваімі работамі, не пакідае раўнадушнымі маладых беларускіх мастакоў, для каторых Бялыніцкі-Біруля сам па сабе — школа жыва-

пісу, пры тым свая, нацыянальная. І вось, ужо вярнуўшыся ў Маскву, праясняючы даўнюю спрэчку, ён піша ў Мінск мастаку Бархаткову:

*Дарагі Антон! З твайго ліста я зразумеў, што ты спрабуеш выясніць пытанне, якое ўсё жыццё хвалявала мяне, маіх сяброў мастакоў, маіх настаўнікаў. Пейзаж-карціна ці пейзаж-эцюд? У гэтым пытанні лягчэй разабрацца, калі звярнуцца да мастакоў, якіх даўно няма, але іх карціны, эцюды, эскізы пейзажаў упрыгожваюць і цяпер наша мастацтва. Я сябраваў з мастаком Пераплётчыкавым, які быў шмат старэйшы за мяне і шмат пісаў акварэллю, пастэллю, пісаў з натуры вялікія эцюды, а іх прымалі за карціны. Пра карціну ён марыў усё сваё доўгае жыццё і гаварыў: «Вось паеду на Урал ці ў Сібір, там усюды, куды ні глянеш, карціны ў натуры, і я напішу карціну, выстаўлю на конкурс і адбяру ў Жукоўскага і Бірулі першую прэмію». Ёсць ліст Левітана да Траццякова, ён у фондзе Траццякоўскай галерэі. У ім, адказваючы на прапанову Траццякова, Левітан піша, што згодны сваю карціну «Над вечным спакоем» уступіць галерэі, яму будзе прыемна бачыць яе там, бо ў ёй — ён гэтак і піша,— «Увесь я выліўся! У ёй я сам! Уся мая сутнасць». Між тым Ушаковы і Юлія Турчанінава гаварылі мне, што гэту карціну ён пісаў цяжкахворы на астму, што ён працаваў над ёю ў час паміж прыступамі хваробы. Гэта не ўсе ведаюць. А на Удомлі, на нашым астраўку, ён пісаў эцюды да карціны. Вось што такое карціна. Гэта праспяваны сабе на адыход рэквіем!*

*Карціну трэба адчуць, убачыць — у гэтым яе таемная сіла.*

Такая патрабавальнасць да карціны была ў Вітольда Каятанавіча. І недарэмна ён зноў загаварыў пра гэта пасля паездкі ў Беларусь. Загаварыў — пасля. Але, працуючы на роднай зямлі, знявечанай вайною, пісаў яе пейзажы з мараю аб карціне, якую адчуе, убачыць. Шукаў праз эцюды, якімі намацваў галоўнае, у якіх знаходзіў яе пакрысе, па рысачцы, па фарбачцы.

Аднойчы выехаў за гоні калгаса «Сенніца», за гаёчкілясочкі, паехаў на поўдзень слуцкай дарогай. Вясновыя краявіды, якімі хацелася любавацца бясконца, змяняліся то спляжаным лесам, то здзічэлым полем, то папялішчамі. Зноў і зноў прасіў шафёра спыніцца, выходзіў з машыны, забрыдаў ад яе далёка — вялі то нечаканыя сляды вайны, то

знакі ўваскрэслага жыцця, то галасы птушак, якія так старанна рабілі гэту вясну падобнай на ўсе ўдалыя вёсны. І раптам, адышоўшы далёка ад дарогі, аж здрыгануўся — перад ім, пад зазелянелым узгоркам, сунуўшыся жалезным тупым рылам у кручу, задраўшы свой усё яшчэ грозны хобат, стаяў мярцвяк — фашысцкі танк. За апошнія дні Вітольд Каятанавіч нямала пабачыў гэтакіх пачвараў, гармат ды танкаў, на палях, пад адхонамі дарог, па ўзлесках, але цяпер, толькі цяпер, гэта ўбачылася іначай, па-новаму, значна. Быў іншы антураж? Так, вядома. Пад танкам дружна зелянеў мурог, вырасла ўжо маладая трава, і здавалася, што танк зарастае травою, урастае ў зямлю, што яна яго паглынае. Але і не гэта нават у першую чаргу кінулася ў вочы. Перад мёртвым жалезным мамантам на ўзгорку стаяла белая, у квецені, яблынька. Яны, танк і яблынька, жалезная махіна і танклявы жывы парастачак, стаялі адно перад адным, як на дуэлі — вечныя ворагі. Працістаялі жыццё і смерць. І смерць была пад узгоркам, зарастала травою, а жыццё, як белым ветрам апранутае, урачыста ўзвышалася над смерцю, падпіраючы белым голлейкам чыстую просінь вясновага неба. Усё, рашуча ўсё тут, у пейзажы, падкрэслівала вечнае, як зямля, як свет, працістаянне жыцця і смерці: хатка за яблынькай, прасёлак у лагчыне, якім сюды прыпоўз чужынец і па якім цяпер у поле спяшаліся сеяць вясковыя людзі, сейбіт далёка ў полі, за танкам, які ішоў за канём, за плугам.

Вітольд Каятанавіч расклаў эцюднік.

Але чаму ўспомнілася панарама «Абарона Царыцына»? У сорак першым годзе, калі пачалася вайна, ён пісаў яе ў Маскве разам з мастаком Дубоўскім на Харашоўскай шашы, якая абстрэльвалася фашыстамі. Аднойчы яны прыйшлі ў павільён, а панарама — пабіта снараднымі асколкамі. Тады яе перавезлі ў Музей прыгожых мастацтваў і дапісвалі ўжо там. Успомнілася таму, што і гэты далягляд з яблынькай у квецені і танкам на пярэднім плане прасіўся на жывапісную панараму абуджанай да жыцця зямлі.

Не, гэта не панарама. І не эцюд тым больш. Гэта — карціна! Ён адчуў, што стаіць перад карцінай, аб якой марыў, да якой ішоў і ехаў, якую шукаў у напісаных эцюдах. Недарэмна іх пісаў. Яны далі пачуццё адраджэння зямлі. І яблынькі ў белай квецені на Белай дачы, і сенніцкая ізумрудная рунь, і ўзгоркі, па якіх ён днямі хадзіў у мінскіх ваколіцах, растрывожылі душу, далі дакладнае адчуванне вызваленай ад ворага роднай зямлі, і гэтым пачуццём, болем

ён раптам убачыў і зразумеў паядынак яблынькі з танкам, жыцця са смерцю.

*Карціну «Зноў расцвіла вясна (Па слядах разбітага ворага)» я ўбачыў у натуры, хоць напісана яна з выкарыстаннем эцюдаў*

*Веданне роднай прыроды дапамагло мне стварыць пейзажны вобраз*

Важнае сведчанне. У ім — шлях да карціны, яе разуменне, значэнне натуры, работы над эцюдамі, унутранай падрыхтаванасці да спасціжэння вобразу.

Здаецца, Біруля даўно не ведаў такой унутранай засяроджанасці і паўнаты адчуванняў, як гэтай вясною. Абвастраюцца, па-новаму выяўляюцца прагнасць «праўды, прастаты і свабоды», якія ў ім некалі заўважыў Рэпін. Ідзе восьмы дзесятак гадоў, маладосць даўно пражыта. Яшчэ на пятым дзесятку ён з усёй сур'ёзнасцю называў сябе старым. Але надзіва маладымі, па-маладому тэмпераментна, пішуцца эцюды і карціны. Вочы і слых абвостраныя, думка працуе, пэндзаль у руцэ дакладны і лёгкі. Няўжо — другая маладосць, падобная на другое дыханне ў спартсмена?

Пазней у тым самым лісце да Панамарэнкі, згадваючы гэтую вясну, Вітольд Каятанавіч дасць ёй тлумачэнне:

*Вы наблізілі мяне да маёй радзімы. Дзён, праведзеных у роднай Беларусі, я не магу забыць і не забуду да самай смерці*

Гэтыя радкі шчырага прызнання нельга не прыгадаць, углядаючыся ў карціну «Зазелянелі беларускія бярозкі». Пагорак, малая рачулка, тры маладзенькія бярозкі стаяць нібы ў абдымках, на голлейку зеленаваты раёк лёгкіх матылёў, а там, на тым беразе, ваколіца вёскі, некалькі светлых хатак — так няшмат усяго, такое ўсё някідкае, сціплае, а колькі хараства, якая гармонія жыцця, значнасць і закончанасць. Бо ёсць глыбокае пачуццё любові, якое нават малое і непрыкметнае робіць вялікім і значным. Здаецца, толькі маладым вокам усё гэта можна ўбачыць і маладым сэрцам адчуць.

А маладому заўсёды нечага не хапае. І Вітольду Каятанавічу, як у маладыя гады, нечага не стае пры ўсёй паўнаце ўражанняў.

*Я хадзіў па роднай зямлі, я быў шчаслівы*

*Але гады мяне скоўваюць. Іначай пабываў бы на Палессі, у Краснаполлі, каля мястэчка Чавусы на Магілёўшчыне*

Вось яна, натура Вітольда Каятанавіча, яго прагнасць жыцця: пры поўнай радасці радасць не поўная, бо да ўсяго ахвота дайсці, усё ўбачыць, зразумець, асабліва тое, што тваё з маленства, што кроўнае, роднае, да чаго некалі раней, хоць аднойчы, датыкнуўся ці прырос душою.

З гэтакіх сустрэч, даўно жаданых, і сустрэча з Якубам Коласам.

Быў канец мая, вясна губляла свае блакітныя, салатнасрабрыстыя, ружова-жаўтлявыя таны, паветра нагрэлася і загусцела, сонечнае святло страчвала далікатнасць, лагоду, цнатлівая чысціня святлаценяў набывала цяжар, глухату разрослай зяляніны, ліній. Вясна пераходзіла ў лета, ды яшчэ і адразу ў гарачае, бо сонца смаліла, дажджоў не было. Спадзяванні на тое, што маладая рунь дасць збавенне ад нястачы і голаду, неўзабаве прынясе на стол хлеб, рабіліся няпэўнымі. Патрэбны быў дождж. Колеры жыцця гаслі.

У адзін з гэтакіх дзён Вітольд Каятанавіч сабраўся ў госці да Якуба Коласа. Жаданне гэтае было з першых дзён прыезду ў Мінск, было і запрашэнне паэта. Нарэшце, адклаўшы работу, сеў у машыну, пасадзіў побач жонку, сяброў, якія жылі з ім на Белай дачы, і прыехаў да Коласа.

Канстанцін Міхайлавіч сустрэў гасцей ля дома. Вітаючыся, ён пазіраў на неба. Там збіраліся хмары, і Колас вельмі перажываў: ці будзе дождж? Гаворачы з Вітольдам Каятанавічам, зноў і зноў устаўляў у размову: «А ўсё будзе добра». Часам прыказка была як быццам дарэчы, але не заўсёды, і Вітольд Каятанавіч замаўкаў, гадаючы: да чаго б гэта?

Селі за стол на тэрасе. Размова пайшла весялейшая.

Неба ўжо зацягнулі хмары, пачаў накрапваць дожджык. Якуб Колас усхапіўся з-за стала, выйшаў у сад і,задраўшы галаў, падстаўляючы твар небу, лавіў ім нябесныя кроплі.

Дождж пайшоў дружней, залапацеў у кроне дрэваў.

Колас вярнуўся за стол павесялелы, гаваркі і ўжо ўвесь вечар, прыслухоўваючыся да дажджу, углядаючыся ў неба, паўтараў, пра што б ні ішла гаворка: «Будзе дождж — будзе і хлеб, і ўсё будзе добра».

Усё роўна як яго паўтор быў заклёнам: дождж мац-

неў, пайшоў заліўны. А Колас усё паўтараў: «Будзе дождж — будзе і хлеб, і ўсё будзе добра».

Дождж ліў увесь вечар, усю ноч і толькі раніцай адпусціў гасцей ад Якуба Коласа. І да раніцы, пакуль не раз'ехаліся, гаспадар быў вясёлы, весялейшы за ўсіх. І калі Вітольд Каятанавіч абняўся з ім на развітанне, то над самым вухам пачуў яшчэ раз яго бясконцую радасць: «Будзе дождж — будзе і хлеб, і ўсё будзе добра».

*Гэта была незабыўная паездка да незабыўнага чалавека*

Калі Вітольд Каятанавіч ад'язджаў з Мінска, ён, развітваючыся з сябрамі-беларусамі, казаў ледзь не кожнаму Коласавымі словамі: «Будзе дождж — будзе і хлеб, і ўсё будзе добра». Словы паэта ўрэзаліся ў памяць, бо ўрэзаліся ў душу. Адчуўшы ў іх глыбіню народнай мудрасці і любові паэта да сваёй зямлі, Біруля прыняў іх як свае, яму падораныя, і ўжо сам, кажучы іх, зычыў роднай зямлі і хлеба, і дожджыку адраджэння.

## КУДЫ ВЯДЗЕ БАЛЬШАК?

Сустрэча з бацькаўшчынай была настолькі хвалюючай і творча плённай, што калі роўна праз год, у наступным маі, мастакі Беларусі сабраліся на свой першы пасляваенны з'езд, Вітольд Каятанавіч з радасцю прыязджае ў Мінск. Ён ужо не бярэ з сабою ні сабаку, ні стрэльбу, ні фарбы, пэндзлі, эцюднік, хоча проста пабачыцца з жывапісцамі роднай зямлі, усіх абняць, усім прызнацца ў тым, што хвалюе,— апошні год быў доўгім роздумам аб Беларусі.

І вось — з'езд. Што сказаць мастакам роднага краю? Работы многіх з іх бачыў — у майстэрнях, на выстаўках. Сачыў за беларускай прэсай. Стараўся чытаць усё, што пісалі мастакі, што пісалі пра мастакоў. Хацелася ведаць, на якой глебе набірае сілы тутэйшае выяўленчае мастацтва, яго адносіны да свайго мінулага, да традыцый, яго маладыя павевы. У зале сядзела моладзь. Якая яна? Што шукае? У што верыць?

І Вітольд Каятанавіч выходзіць на трыбуну.

*Дарагія землякі!*

*Я бязмежна рады магчымасці выказаць перад вамі думкі, якія хвалююць мяне. Гэта думкі пра традыцыі і нашых*

*славутых папярэднікаў. У кнігах, артыкулах па мастацтву, якія з'явіліся ў апошні час, пра гэта гаворыцца, як правіла, у падрадкоўных заўвагах, быццам пра штосьці зусім не абавязковае*

Пашану да папярэднікаў, выдатных настаўнікаў, ён сам пранёс праз усё жыццё ў сэрцы і не ўяўляў, як можна працаваць, рабіць нешта вартае, ігнаруючы традыцыі? Убачыўшы ў зале маладых мастакоў, на момант успомніўшы сябе маладым, падумаў: ці ведаюць цяперашнія маладыя, нашчадкамі якіх традыцый з'яўляюцца? Ці вучацца на нацыянальных традыцыях? Прэса, якую чытаў, само гэта пытанне закрэслівала. Быццам спадчыны ў беларусаў не было і няма. Мог ён, Біруля, стары мастак, пра гэта маўчаць?

*Некаторыя мастацтвазнаўцы, як Бескін і Машкоўцаў, сцвярджаюць, што да канца дзевятнаццатага стагоддзя Беларусь на карце мастацтва была белай плямай, што заснавальнік і піянер беларускага выяўленчага мастацтва — Ю. Пэн. Гэта няпраўда. Гэта фальсіфікацыя нашай гісторыі. Пэн з'явіўся ў Беларусі, калі беларускае мастацтва мела ўжо сваю вялікую гісторыю. Пэн не меў ніякага ўяўлення аб яго нацыянальных традыцыях. Звязваць крыніцы з імем Пэна — гэта значыць усё ставіць з ног на галаву, ігнараваць гістарычнае мінулае, яго цудоўныя рэалістычныя традыцыі*

*Мастацкая крытыка прыніжае лепшых мастакоў-рэалістаў, якімі мы павінны ганарыцца*

Рэзка? Але — ці празмерна? І наогул, ці ўласцівы гэтакі тон выступлення Вітольду Каятанавічу?

Інтэлігентны, добразычлівы, ён ніколі ні з кім не абвастраў адносін. Тое, што ў чалавеку не падабалася, як бы не заўважаў, цаніў яго па тым добрым, што ён у сабе меў, што рабіў. У яго не было ворагаў. І ён сам нікому не быў ворагам.

Тым больш тут, у Мінску, куды ехаў з такой любоўю да ўсяго роднага: як мог дазволіць сабе гэтую рэзкасць?

Мабыць, трэба яшчэ раз згадаць ліст да ўлад пра Ігнація Багагая. І там — усё роўна як не ён пісаў: столькі гневу!

Значыць, бывалі выпадкі, калі стрымаць гнеў не мог. Калі бачыў, што маўчаць — ганьба. І маніць — ганьба.

І выступленне ў Мінску на з'ездзе — той самы выпадак. Маўчаць немагчыма. Ужо столькі свайго спаганілі, стапталі! Колькі можна яшчэ таптаць святыні?

*Ці шмат хто з маладых сённяшніх мастакоў ведае Мікодыма Юр'евіча Селівановіча? Сын прыгоннага селяніна з Вілейшчыны, ён дасягнуў высокага ўзроўню жывапіснай культуры ў выдатных мазаічных і жывапісных творах, такіх, як «Вязень», «Раніца мудрэйшая за вечар», «Партрэт бацькі мастака», «Галава дзяўчынкі» і многіх іншых. Ён упрыгожваў Ісакіеўскі сабор у Пецярбургу, а створаная ім галава Матфея — шэдэўр сусветнага мазаічнага мастацтва.*

*Ці ўспомнім Сяргея Канстанцінавіча Заранку з Магілёўшчыны. Як і Селівановіч, ён нарадзіўся ў сям'і прыгоннага селяніна, а вырас да акадэміка жывапісу. Вучань Венецыянава стаў настаўнікам Пярова, Пранішнікава, Макоўскага, Саўрасава, Пукірава і іншых карыфеяў жывапісу. Заранка — гэта сапраўднае ўпрыгожанне беларускага нацыянальнага мастацтва, наш вялікі нацыянальны гонар. Яго рэалістычныя традыцыі маюць выключнае значэнне і непагасны сэнс для кожнага з нас. Трэба зрабіць усё, каб імя Заранкі гучала як імя найвыдатнейшага сына свайго народа. Беларусы павінны ім ганарыцца, а не замоўчваць, як гэта робіцца сёння*

Пра Заранку мог расказаць такое, што стала сваім лёсам. Яшчэ калі першы год вучыўся ў Маскве, разам з Жукоўскім хадзіў па ўсіх музеях і выстаўках, шукаючы работы Заранкі, з дзіўным адчуваннем, што гэта — роднае, сваё. Побач у вучылішчы былі Макоўскі, Пранішнікаў — вучні Заранкі,— і калі яны расказвалі пра любімага настаўніка, кожнае іх слова лавіў як святое. А калі жыў у доме Калакольцава на Кезадры, колькі разоў прыносіў кветкі на магілу Венецыянава, думаючы і пра Заранку. Выстройвалася дзіўная дарога ў мастацтве, на якой апынуўся і ён, Біруля: Венецыянаў вучыў Заранку, Заранка вучыў Саўрасава, Саўрасаў вучыў Левітана, Левітан вучыў яго, Бірулю. Які бальшак! І ён, Біруля, на гэтым бальшаку? Хіба нельга разгубіцца? Здавалася, што бальшак — ад самога Госпада Бога! Няўжо і ён, Біруля, боскі абраннік? Так, ён губляўся ад такога суседства на сваім бальшаку. Але падтрымлівала думка: Заранка — не з неба, з Магілёўшчыны, амаль з суседняй вёскі, свой мужык, зямеля, а без яго хіба не рассыпаўся б увесь бальшак? Здавалася, што ён жывы і побач.

*А нядаўна ў газеце «Літаратура і мастацтва» ў артыкуле Есакова з дзіўным невуцтвам чарнілася імя яшчэ аднаго славутага беларускага жывапісца Апалінара Гілярыевіча*

*Гараўскага, які названы вучнем Дзюсельдорфскай школы і прапаведнікам мастацтва для мастацтва. Артыкул паказвае, што Есакоў нічога не ведае ні пра Дзюсельдорфскую школу, ні пра Гараўскага, ні пра прапаведнікаў мастацтва для мастацтва, і што ён, крытыкуючы, не бачыў ніводнай работы мастака. А хто такі Гараўскі? Ён быў адным з выдатнейшых перадзвіжнікаў і выстаўляў свае карціны разам з вялікім Рэпіным. У адным з лістоў да Трацякова ў 1873 годзе Рэпін пісаў: «Мая карціна на выстаўцы аказалася каларытнай, нягледзячы на тое, што яе паставілі паміж вельмі моцнымі рэчамі па тэхніцы — Гуна «Прышыванне крыжа гугенота» і Гараўскага «Галава бабулі». Аказваецца, што Рэпін гаварыў пра сваю славутую карціну «Бурлакі на Волзе». Я асабліва звяртаю вашу ўвагу на словы Рэпіна, што яго карціну паставілі паміж вельмі моцнымі па тэхніцы рэчамі і што да гэтых вельмі моцных рэчаў Рэпін адносіў карціну Гараўскага. Мастак напісаў шмат першакласных рэалістычных пейзажаў, у якіх паказаў сябе сапраўдным песняром беларускай прыроды. Нельга не захапляцца яго пейзажамі «Перад дажджом», «Пераход статка праз раку Бярэзіну», «У ваколіцах Бабруйска», «Луг ля ракі Бярэзіны», «Від дубровы каля Бабруйска», «Дубы на радзіме». Паглядзіце яшчэ раз на яго карціну «На радзіме» — вы адразу адчуеце, якая гарачая любоў да Беларусі грэла сэрца нашага суайчынніка*

Вітольд Каятанавіч спыняецца на трох імёнах, але падкрэслівае, што гэтыя тры — з вялікай плеяды беларускіх жывапісцаў, не толькі не ацэненых на радзіме, як іх даўно ацанілі ў вялікім свеце, але знарок замоўчаных ці зняважліва забытых і нават аплёваных.

Што ж адбываецца?

Пра гэта ён доўга думаў. Адны адмаўлялі ў мастацтве заходнія матывы ды ўплывы, другія — усходнія, адны намагаліся спісаць мастацтва ўсходняга краю, другія — заходняга. А ўрэшце? Кроілі па жывым целе, збяднялі і нішчылі душу народа, самі сябе абувалі ў лапці і апраналі ў зрэб'е. Якія маглі быць схемы? Асабліва ў гісторыі беларусаў. Што ні чалавек — то і лёс. Мастаку-жывапісцу патрэбна школа, акадэмія, калі ён не жадае абмежаваць сябе лубком, вясковым прымітывам, калі хоча заявіць пра сябе і свой народ у цывілізаваным свеце. Што было б з Заранкам ці Гараўскім, калі б яны засталіся ў вёсках, у якіх нарадзіліся, ці ў Бабруйску, у Магілёве, у Мінску, нарэшце, дзе не было сапраўд-

ных прафесійных школ? Ці з ім, Бірулем, калі б ён не знайшоў бальшак на Мясніцкай у Маскве, школу перадзвіжнікаў, Паленава і Левітана, Рэпіна і Куінджы, Касаткіна і Сцяпанава? Пытанне было ў гэтым. Тут пралягаў падзел на «нашых» і «не нашых», хоць адкрыта пра гэта сказаць ніхто не асмельваўся. Вялікая палітыка? Ці балотная валтузня? Калі ўжо гаварыць пра нацыянальную ідэю, дык ці не трэба ставіць пытанне іначай: тыя ж Заранка і Гараўскі, Жукоўскі і Біруля ці засталіся беларускімі мастакамі, прайшоўшы школы Масквы, Пецярбурга, Еўропы? Калі мастак усё жыццё адседзеў на балотнай купіне і не падняўся ў сваёй песні вышэй за крумканне балотнай жабы — гэта беларускі мастак? Ці калі ён спасціг вышыню мастацтва і з той вышыні вяртаецца да свайго народа?

Прыехаўшы ў Маскву, Вітольд Каятанавіч пра гэта доўга думаў. А можа, вінаватая вайна? Можа, яна абвастрыла пачуццё недаверу, варожасці? Нават — паміж сваімі?

Усё гэта былі зусім нечаканыя ўражанні. Але яны не адштурхоўвалі ад Беларусі. Наадварот, мацней, як летась, пасля той прыемнай паездкі, Біруля адчуў, што без роднай зямлі, далёка ад яе, жыць становіцца ўсё цяжэй, што яна, родная, вабіць да сябе не толькі чысцінёй і святлом, але і сваімі бедамі, што без яе ні жыць, ні пісаць не зможа.

І зноў збіраецца ў Беларусь, на ўсё лета — жыць, працаваць.

Але ён не ведаў, што чакала яго ў тое лета.

## СТАРЫ ГАРШЧОК ДВА РАЗЫ ЖЫВЕ

*Дарагі мой Віктар Міхайлавіч!*

*Аказваецца, не так проста і лёгка памерці, нават калі хочаш памерці. У мінулым годзе, калі мяне на машыне везлі з Масквы ў «Чайку», ехалі міма Троіцкай царквы, якая стаіць на берагах двух славутых азёр, і я не мог не спыніць тут машыну. На старым, зарослым векавымі таполямі могільніку, ля бакавога ўвахода ў царкву абгароджана магілка маёй Любачкі, адзінай маёй дачушкі, якая была ў мяне. На тым месцы, дзе павінна быць мая магіла, стаіць лавачка. Я сеў і, успамінаючы Любачку, убачыў, што дзірван зрэзаны рыдлёўкай ад магільнага курганка да лавачкі, прычым зрэзаны беражліва. Я адшукаў вартаўніцу магільніка, і яна мне сказала: «Ваш служачы Рыбакоў прыйшоў з «Чайкі» і за-*

*явіў, што Біруля памірае ў Маскве, што яго прывязуць цягніком і пахаваюць у агароджы побач з дачкою — гэтак сам прасіў». І ўсё гэта праўда. Але я яшчэ жыву. Вось ужо настае пяцьдзесят другі год, мне будзе восемдзесят, мы яшчэ раз убачымся на маёй выстаўцы, на якой я развітаюся з вамі, сказаўшы: даруйце мае грахі, вольныя і нявольныя, не памінайце ліхам*

Ліст напісаны напярэдадні новага 1952 года, у самым канцы пяцьдзесят першага, праз тры з лішнім гады ад другой пасляваеннай паездкі ў Беларусь, якая навяла на думку прыехаць сюды зноў і назаўсёды. Што ж адбылося тады, у сорак восьмым? Што не пусціла зноў на радзіму?

З Мінска вярнуўся акрылены, упэўнены ў тым, што ў ягоным жыцці адбываецца зрух, якога даўно чакаў. Як некалі, паўстагоддзя назад, захоплены пошукам творчых таямніц Левітана, ён апынуўся на берагах Удомлі і Астраўно, Песьво і Кезадры і ўжо не змог не звязаць сваё жыццё з гэтым блаславёным краем, прыйшоў і застаўся ў ім, нешта гэтакае адбывалася цяпер — вяртаўся ў родны край, якім жыў заўсёды, які сніў і памятаў, любіў і славіў, вяртаўся з адчуваннем, што робіць, магчыма, самы неабходны крок у сваім жыцці. Гэтым хваляваннем жыў цяпер кожны дзень. Ужо абдумаў сваю наступную паездку. Але раптам крылы абрэзала вестка з «Чайкі»... Самая жахлівая.

У той перадапошні дзень чэрвеня, на макаўцы лета, Люба выйшла са свайго пакоя, пастаяла на тэрасе, на сонцы, палюбавалася садам, ясным небам і дарожкай, ядранадухмянай ад квецені бэзу, сышла да любімага возера. Дзень быў сонечны, цёплы, ціхі. Яна зайшла ў белую купальню, якую ёй падарыў бацька, распранулася, увайшла ў ваду і паплыла да вострава Аржанік. Яна выдатна плавала, даплыць да вострава ёй было проста, як увайсці ў ваду, але на гэты раз паплыла, каб ужо ніколі адтуль, з таго боку вады, не вярнуцца.

Боль страты быў роўны любові да Любашы. Невымерная любоў абярнулася невымернай бядою.

Сілы пакінулі, дзе паратунак — не ведаў. Які паратунак? Ад чаго? З Любашаю адышло, здавалася, усё. У «Чайцы» месца яму ўжо не было. Але не было месца і ў Маскве. Сядзець тут, калі яна ляжыць там? І ён зноў вяртаецца ў «Чайку».

Кожны дзень яго бачаць пад белымі калонамі Троіцкага сабора, ля магілы дачкі. Побач з ёю — зямля, яго зямля.

Тут — яго месца. Але жывы ў магілу не ляжаш. І, як цямнее, ён вяртаецца ў «Чайку».

А што цяпер у «Чайцы»? Што «Чайка» без Любачкі?

«Жнівень не за гарамі, а з ім і «Чайка», і наша мілае возера, і ты, дарагі і любімы...»

Гэтак яна пісала са Свярдлоўска, калі была там на гастролях з тэатрам, яшчэ ў дваццаць дзевятым годзе. І гэта пачуццё любові да «Чайкі» ў яе было моцным да апошніх дзён.

«Калі я буду старэнькай, я прыеду сюды дажываць свой самотны век». І гэта — пра «Чайку». Пісала пасля вайны, у сорак пятым. Дзе той цудоўны ліст?

Ён памятаў ці не ўсе лісты, якія яна пісала яму, і ўсё, што пісала, кожны радок з яе лістоў. Але вось ужо і жнівень, яшчэ адзін, жнівень без Любашы, першы — без яе, ужо яе не бачыць любімая белая «Чайка», не бачыць яе любімае возера, і ўжо ён, яе любімы бацька, без яе, любімай дачкі. Жнівень, яе любімы месяц, першы жнівень — без яе.

Ён хадзіў па дачы, як чужы ў чужым. Падняцца ў майстэрню не мог, не ішлі ногі. Туды, на гару, іх заўсёды гналі душа, сэрца, ахвота працаваць, але цяпер сэрца было знясіленае і ледзь трымалася ў грудзях, а душа апусцела. Нават думаць не мог пра майстэрню. Яна ўжо быццам не яго чакала. Заходзіў у Любашын пакой, запальваў свечку і доўга сядзеў перад агеньчыкам. Гэта было і ўдзень, калі свяціла сонца. Навошта свечка ўдзень? Тушыў, садзіўся да акна і глядзеў у сад. Тут усё, што любіла дачка: пакой, акно, сад. Але яе не было, і таму — пуста. Не, не толькі цяпер адчуваў, як пуста без яе. Гэтак было заўсёды. Даўняе адчуванне, даўняя думка: *Цябе няма, і ўсё тут пуста.* Некалі гэтак пісаў ёй у Маскву. Пуста! Выходзіў з пакоя на тэрасу, садзіўся за вялізны, на вялікую сям'ю і шмат гасцей, стол. І зноў не мог доўга сядзець. Тут любіла сядзець яна — яе не было. Пуста. Сыходзіў з ганка ў сад, сцежкай ішоў міма калодзежа да возера. Стаяў на беразе, глядзеў на Удомлю, на белую купальню, на востраў Аржанік — усё дарэшты гаварыла пра дачку, пра яе любоў да гэтых куткоў. Не мог і тут стаяць — ішоў назад у дом. Куды? Зноў, апынуўшыся ў яе пакоі, запальваў свечку на яе любімым кандэлябры, які стаяў на століку, садзіўся ў яе любімае крэсла. На століку пад кандэлябрам стаяла яе запаветная шкатулка. У ёй — лісты. Ён ніколі не заглядаў у шкатулку. Тут жыла яе таямніца. Але цяпер яму гэта было дазволена лёсам, і ён дастаў са шкатулкі некалькі лістоў. Адны — яе, пісала яму, дру-

гія — яго, якія ён пісаў ёй. Яна іх берагла. Вось... тое, якое сёння ўспомніў, напісанае ў сорак пятым, у жніўні дваццаць другога, з «Чайкі» ў Маскву. Яна тады прыехала ў «Чайку» першы раз пасля вайны:

«Сёння ўжо дзесяць дзён, як я тут, а мне здаецца, што прайшоў усяго адзін дзень. Каб ты толькі ведаў, як цудоўна ў «Чайцы». Тут проста казка, чароўная казка. Возера, неба, сад, цудоўны наш белы дом — ды няўжо ўсё гэта існуе сапраўды, рэальнае, не сон? Пасля чатырох гадоў разлукі якая радасць — вярнуцца ў месца, з якім звязана ўсё маё жыццё з маленства, убачыць старых сяброў, якія так прыветліва мяне сустрэлі. Ох і добра ж тут! Мару: як толькі наладзіцца жыццё, большую частку яго буду праводзіць у «Чайцы». У дом вярнуўся твой любімы цвіркун, ды не адзін, а з цэлай кампаніяй. Пад іх утульную песеньку як добра пасядзець вечарком на кухні з Марыяй Патапаўнай, у задушэўных размовах. З Калініна вярнуўся Алёша Рыжык. Ён вызвалены...»

Марыя Патапаўна з мужам Рыгорам Іванавічам жылі ў «Чайцы». Свой дом быў у вёсцы, але тут, як свае людзі, елі, спалі, тут, як для сябе, штосьці рабілі ў садзе, у доме. Што ж, дом вялікі, догляд патрэбны, а яны, людзі працавітыя, сумленныя, за гэты клопат не былі ў страце, і пра іх тут быў клопат. А цяпер? Колькі на іх плечы легла са смерцю Любашы! Як без іх управіўся б? І хаваючы, і стол збіраючы. Яны любілі Любу, як дачку. А хто яе не любіў? Хто, можа, не ведаў? Яна была да людзей з усёй душой, як да радні. Гэта — ад яго, бацькі. У яе было шмат ад яго.

«Разам з калгаснікамі святкавала заканчэнне сяўбы. Наш калгас у раёне першы. На свяце была прынятая як дарагая, пачэсная госця. Я нават забыла пра гады, выбівала рускую са старым Хвядосам. Мілы, добры ў нас народ. І моладзь цудоўная. Заўтра пачынаюць касіць».

Гэта яна пісала яму ў Маскву летась, 25 чэрвеня, год назад. Ён тады вярнуўся з Беларусі, быў пад уражаннем ад паездкі на радзіму. Яе голас — як з ягонай душы. Тая самая радасць.

А яшчэ яна пісала яму з «Чайкі»: «Тут добра да болю, да слёз». Зноў — нібы з ягонай радасцю, з ягоным болем.

Божа мой! Што ён страціў! Каго страціў! Люба — увесь свет у вачах. Яна і ён — адзін свет. Як — без яе?

«З Каурцаўскага балота прынеслі з Любачкай аграмадны кошык маладзенькіх падасінавікаў. Збіраемся па рыжыкі. Іх таксама шмат. На дарожку рыба не ловіцца. Не ведаю,

што здарылася? Езджу кожны дзень, і ўсё дарэмна».

Гэта — з ранейшых лістоў. Яна вельмі любіла прыроду, што таксама ад яго, бацькі. Неаднойчы пра гэта пісаў ёй у лістах, падтрымліваў. Вось ліст — у шкатулцы, тры гады назад напісаны, у сорак пятым, першым пасляваенным летам:

*Я вельмі рады за цябе, што ты ў сваёй белай «Чайцы», якую бясконца любіш. Як цудоўна ты пішаш пра нашага старога сябра Цвіркуна! Друг ты мой, Любачка! Родная мая! Табе гэта і трэба, табе гэтага не хапала — ты так тонка ўспрымаеш і разумееш прыроду! Яна табе ніколі не здрадзіць*

— Вітольд Каятанавіч?

Ён узняў галаву: насупраць, у прачыненых дзвярах, стаяла Марыя Патапаўна, трымаючы ў руцэ карасінавую лямпу. Кнот гарэў няроўна, як на ветры, агеньчык матляўся, і святлацені гулялі па яе маршчыністым твары. У рухомых плямах святла і цемені яна была падобная на здань. Ажно адхіснуўся назад у крэсле, яе ўбачыўшы.

— Ты-ы... Патапаўна? Яшчэ тут?

— А дзе ж я цяпер буду? Вы тут і я тут. Вячэру, можа, сабраць на стол? Рыгор рыбкі свежай прынёс, я пасмажыла.

— Што вы ўсё ля мяне? А дома? І жывёла, і дзеці.

— А там Рыгор. Ён прыйшоў і пайшоў.

Хацеў сказаць, што есці не хоча, але казаў гэта Патапаўне кожны раз, як нагадвала пра снеданне ці вячэру. Яна, душа добрая, перажывала, што нічога не есць, а таму цяпер, каб не перажывала зноў, спытаў:

— Рыгор ужо сёння не прыйдзе?

— Дасць свінням і прыбяжыць.

— Скажы яму, каб адвёз мяне да вячэрняга цягніка. Трэба з'ездзіць у Маскву.

Марыя Патапаўна нічога не параіла, ехаць ці не ехаць, але абрадавалася, што едзе. Апошні час яна часта думала, што хай бы ён адарваўся ад «Чайкі», дзе кожная дробязь нагадвае Любу, ад магілкі, на якую кожны дзень носіць кветкі. Тым больш што ў Маскве жонка Алена Аляксееўна, якая, пакуль у «Чайцы» жыла Люба, амаль не бывала тут і цяпер чакала яго прыезду ў Маскву. Марыя Патапаўна бачыла, што трэці шлюб Вітольда Каятанавіча прынёс яму таемныя, схаваныя ад усіх хваляванні ад разладу, які быў паміж Любай і Аленай Аляксееўнай. Ён апынуўся паміж іх

і, усё жыццё ўсіх мірачы, у сваім доме не мог прымірыць самых блізкіх яму людзей. Цяпер практычны сялянскі розум Марыі Патапаўны не знаходзіў адказу на пытанне яе разгубленай душы: чаму, калі такая бяда, калі Вітольд Каятанавіч тут, не можа адарваца ад магілкі Любы, яна, жонка, там, у Маскве? І ў той жа час адчувала, што яму трэба ехаць да жонкі.

Пра гэтыя свае думкі і адчуванні Марыя Патапаўна не сказала, але зрабіла ўсё, каб сабраць да ад'езду. Павячэраўшы, развіталіся. Рыгор Іванавіч адвёз Вітольда Каятанавіча на станцыю і пасадзіў у вагон маскоўскага цягніка.

У тое лета ён яшчэ неаднойчы прыедзе сюды, у «Чайку», але ўжо лягчэй будзе пакідаць яе.

Лета скончылася, адгарэла і восень. Час пакрысе як быццам лячыў жахлівую рану на сэрцы, і ўжо Вітольд Каятанавіч усё часцей думаў пра свае карціны. Пісаць у «Чайцы» па-ранейшаму не мог. Цяжка было глядзець вачыма мастака на пейзажы, якія дачка так любіла, і ён прымае рашэнне пакінуць «Чайку», каб вярнуцца да мальберта ў сваёй гарадской майстэрні, пісаць па мінулагодніх эцюдах цяперашнім болем.

Позняй восенню вяртаецца ў Маскву.

Але нечаканая бяда, яшчэ адна, зноў бурыць усе задумы. Ідучы ў майстэрню, ужо на пачатку зімы, ён нечакана падае на тратуары. «Хуткая дапамога» прывозіць дадому. Дыягназ дактароў жорсткі: інсульт з частковым паралічом рукі і нагі. Хвароба прыкоўвае да ложка.

Пра гэты яшчэ адзін злом жыцця Бірулі ёсць сумнае сведчанне Аляксея Аляксандравіча Маравава, сына Маравава-мастака, Аляксандра Віктаравіча, сябра Бірулі,— у лісце, напісаным да мастацтвазнаўцы А. І. Кац у Калінін:

«На Бірулю вельмі падзейнічала нечаканая смерць яго дачкі. Ён неверагодна яе любіў. Сасуды не вытрымалі, тым больш што яму ўсё даводзілася рабіць самому — ехаць, хаваць. Гэта — замест таго, каб старому чалавеку даць магчымасць пабыць у спакоі, апамятацца. Прайшло гады два-тры, пакуль настала невялічкае паляпшэнне. Тады ён змог цвяроза гаварыць, нават пісаць лісты, на ложку — рухацца...»

Але магчымасць пісаць лісты, рухацца, хоць і на ложку, прыйшла пазней, не ў Маскве. Значна раней, зусім бездапаможны, у нейкія хвіліны прасвятлення, ён неверагоднай сілаю волі прымушае сябе рэальна зразумець свой стан, лячэнне, умовы, у якіх апынуўся, і прымае на першы погляд жахлівае рашэнне ехаць з Масквы на дачу, за чатырыста

вёрст ад дактароў у лес, на сваё возера, да магілы Любашы.

Ні дактары, ні блізкія людзі яго не падтрымліваюць. Што за трызненне? Але ён настойвае.

Пра гэта сам Вітольд Каятанавіч напіша пазней у знаёмым нам лісце да Панамарэнкі:

*Павінен Вам растлумачыць, чаму я, хворы, пакінуў Маскву і паехаў на дачу «Чайка». Я і ў тым цяжкім стане не мог уявіць сябе, як мастак, без работы над карцінамі. А ў якіх я апынуўся ўмовах? Хоць жыў у сваім некалі багатым вялізным доме, маімі засталіся тры пакоі, у якіх не было ні святла, ні паветра. У двух пакоях трэба было круглыя суткі паліць электрычнае святло, бо натуральнага сонечнага святла ў іх не было, у трэцім пакоі быў паўзмрок. Не было нават ванны. Нават туалетам карыстацца было цяжка ў доме, перанаселеным чужымі людзьмі. Цяжкахворы, я ляжаў, закрыўшы вочы, пры электрычным асвятленні, а пада мною і нада мною грукатала, бо ішоў рамонт дома*

Яго чакалі на Троіцкім магільніку, каб пакласці, як сказала вартаўніца, побач з дачкою, а ён праехаў міма да «Чайкі», запыніўшыся на магільніку адно затым, каб паглядзець на магілку Любашы. Можа, ён сапраўды хацеў памерці, як сказаў аб гэтым у лісце да Лабанава? Не, сказаў, пэўна, пад нейкі часовы настрой і гэты настарой не быў галоўным настроем.

Праз два гады ў лісце з «Чайкі» ў Маскву да жонкі Алены Аляксееўны ён выказжацца на гэтую змрочную тэму іначай:

*З нагоды маёй выстаўкі я напісаў Герасімаву Сашу, што прыблізна ў другой палове лістапада 1952 года прашу даць мне магчымасць прачытаць свае вершы, каб паслухалі маю развітальную сімфонію і не паміналі ліхам. І яшчэ скажу ўсім, што жыць хачу*

Вось гэты настрой — *жыць хачу* — вызначаў не толькі думкі, але і паводзіны Вітольда Каятанавіча. Прага жыцця моцная, бо моцнай застаецца прага работы над карцінамі, якія сняцца па начах.

Яшчэ выразней ён скажа пра гэта ў тым самым лісце:

*Цяжкая хвароба мяне не забіла, а толькі скалечыла, і стары беларус усё яшчэ жывы. Недарэмна ў нашым народзе ёсць прымаўка: «Стары гаршчок два разы жыве»*

*Калі гаршчок лопне, разваліцца, яго абгортваюць карою з бярозы, бярростаю, ці карою з лазы, і пасудзіна зноў служыць, яе зноў можна ставіць у печку*

*Відаць, у беларусаў ад прыроды тыя сілы, што дапамагаюць ім змагацца са смерцю*

Ён дарэчы ўспамінае разбіты гаршчок, які гаспадар абвязвае бяростай ці карою лазы. З горада бяжыць не ад дактароў, а да доктара, які — у поўным сэнсе ягоны — не ў Маскве, ■ ў прыродзе. Калі нават малады і здаровы задыхаўся ў горадзе, то якое лячэнне можа быць тут цяпер, калі хвароба прыкавала да ложка? Так, ён ужо не зможа класці сцежкі па лясах і балотах з палітрай і стрэльбай, не зможа начаваць на снезе ля вогнішча, хадзіць на мядзведзяў і качак, але ён будзе бачыць, хоць у акно, сонца і месяц, будзе дыхаць чыстым паветрам лесу, саду і возера, будзе чуць, як за акном шапочуць дажджы, мяце завіруха, шуміць ля берага, пад сцяной дома, Удомля, яму ў акно будуць шкрэбціся на ветры галінка яблыні, лісце, зляцеўшы з дрэва, снег і дождж, за акном яму будуць спяваць дразды і салоўкі, а доўгімі зімовымі вечарамі, прыгрэўшыся недзе за печчу, зноў будзе заводзіць сваю песеньку цвіркун — усё гэта бяроста, якая не дазволіць выкінуць гаршчок на сметнік, уратуе і верне да жыцця. Ён пакуль што не зможа выйсці з эцюднікам на пейзажы, стаць з палітраю да мальберта, але калі будзе бачыць святло сонца і месяца, снегу і возера, паветра пад пераменлівым небам Удомлі, хоць і ў квадраце акна, усю каляровую палітру свайго саду, лесу і возера, ён зможа без палатна і пэндзля пісаць з гэтай палітры пейзажы. Сюжэты і вобразы падкажа памяць. Колькі ў ёй цудоўных малюнкаў, вобразаў! Іх ад яго не схавае ў цемень ніякая хвароба. Іх хапіла б на ўсіх жывапісцаў зямлі. І яны прагоняць хваробу. Слухаючы галасы і гукі прыроды за акном, ён зможа зноў пісаць пейзажы. Спачатку ў сваім уяўленні. Урэшце, калі ніякіх гукаў і галасоў не пачуе, калі там, у лесе, будзе надта ціха, ён напіша цішыню, тую самую цішыню, якой просяць сябры. Яны неаднойчы называлі яго чараўніком цішыні, асабліва пасля карціны «Час цішыні. Возера Удомля», і вось ён зноў падорыць ім хвіліны цішыні на Удомлі. Пейзажы, напісаныя ўяўленнем, якога ад мастакоў патрабаваў Рэпін, пераможуць хваробу, паставяць на ногі — да мальберта, бо яго пейзажы не могуць памерці разам з ім.

Гэтак думаў цяжка хворы мастак, пакідаючы Маскву.

## ХВАРОБА. РАЗМОВА З ДУХАМ

Жыць — два разы?

Гэтак ён скажа і напіша праз колькі гадоў, а тады, у тую зіму, усе зразумелі дарогу ў «Чайку» як апошнюю — да дачкі, пад белую сцяну Троіцкай царквы.

На дачу яго прывезлі на пачатку вясны. Паклалі ў Любашыным светлым пакоі, і з гэтага часу хранометр пачаў адлічваць месяцы амаль нерухомага жыцця на ложку.

Дом стаяў халодны, паліць у печах не было дроў. Іх можна было атрымаць толькі ў леспрамгасе, які знаходзіўся ў райцэнтры. Там абяцалі, прасілі пералічыць грошы. Марыя Патапаўна і Рыгор Іванавіч неаднойчы хадзілі туды, за пятнаццаць кіламетраў, пералічылі тысячу семсот пяцьдзесят рублёў, на якія можна было заваліць «Чайку» дрывамі, але іх усё не было. З лесу вазілі галлё, але як галлём нагрэць вялізны дом? Узяліся разбіраць старыя хлявы, платы. Нарэшце сплавам па возеры леспрамгас падагнаў чародку бярвення, набрынялага вадою,— дровы не гарэлі.

Вітольд Каятанавіч ляжаў нерухомы, як адрэзаны ад усяго свету, і свет не ішоў да яго, не чуў яго.

Паратункам былі Марыя Патапаўна і Рыгор Іванавіч. Але ў Рыгора Іванавіча работы хапала ў сваім двары ды ў калгасе, часта заглядаць у «Чайку» не ставала часу. Марыі Патапаўне таксама цяжка было разрывацца на дзве гаспадаркі, бегаць з дачы ў вёску, з вёскі на дачу. Там, дома, і дзеці, і свае непрыемнасці.

Бывалі дні і ночы, калі ў доме ляжаў зусім адзін. Самыя цяжкія дні і ночы. Здавалася, што жыццё канчаецца.

З Масквы прыязджала Алена Аляксееўна, прывозіла прадукты. Але яна зноў ад'язджала ў Маскву, і тады кола адзіноты вакол яго зноў змыкалася. Ляжаў і думаў: хто цяпер разамкне гэтае кола? Марыя Патапаўна ці Алена Аляксееўна?

Аднойчы пачуў, як за сцяною ляснулі дзверы. Цёплы праменьчык надзеі крануў сэрца. Але ў пакой ніхто не заходзіў. Можа, кашчавая? Ляжаў, чакаў, ужо хацеў крыкнуць: хто там? — як раптам адчыніліся дзверы пакоя, у акне адляцела фрамуга — уварваўся шалёны вецер. Гардзіны ад акна падляцелі да столі, вецер шугануў у дзверы. Раней ад гэтакага ветру, ад скавыша, вокны і дзверы бераглі, баючыся, каб нічога не паскідаў са сталоў, падаконнікаў, шафаў, каб не паразбіваў вазы і посуд, але на гэты раз вецер уварваўся як паратунак. Мяккі, цёплы, сонечны, ён напоўніў

пакой водарам вясны: Вітольд Каятанавіч адчуў і золкую свежасць азёрнай паводкі, і сонечную духмянасць маладых пагонаў, бутонаў, лісцікаў, дыханне сагрэтай зямлі. У пакой заляцелі галасы драздоў, саловак, блізка крычалі чайкі, за садам у лесе прачнулася зязюля. Ніхто нікому не перашкаджаў спяваць, гукаць вясну, цёплую радасць. Сэрца моцна закалацілася. Вітольд Каятанавіч, закрыўшы вочы, дыхаў гучна, як сам вырваўся з ледзяной зімовай клеткі. Услухоўваўся ў голас зязюлі, адчуўшы, што зязюля, яна адна, ведае, ці доўга яму яшчэ жыць на любай зямлі. Лічыла, вядома, ягоныя гады. Чые ж яшчэ? Адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, восем... Няўжо ўсе восем — яму аднаму? Любая зязюленька! Няўжо сапраўды ведае, колькі яшчэ жыць?.. Няўжо — восем?..

Вецер шугаў па пакоях, калі з'явілася Марыя Патапаўна. Кінулася зачыняць акно, але Вітольд Каятанавіч спыніў:

— Не трэба!..

— Вы... прастудзіцеся. На вясновым ветры гэта вельмі лёгка.

— Не трэба, Марыя Патапаўна. Дзверы зачынілі — даволі. Акно не трэба. Я чакаў гэтага ветру. Мне сёння лягчэй. Цяпер я папраўлюся. Вясна, Марыя Патапаўна! Я так доўга яе чакаў. Зязюлю чуеце?..

— Я прыбегла вас пакарміць.

— Сядзьце на ложак. Будзем слухаць зязюлю. Зараз зноў пачне лічыць мне гады.

— Колькі ж яна вам налічыла?

— Неверагодна многа. Цэлых восем гадоў! Не верыце? А я ёй веру. Я ўжо нікому не веру. Усе збрахаліся. Веру вам, Марыя Патапаўна, і зязюлі.

— Зязюлі і я веру.— Жанчына села на край ложка, падгарнула яму пад плячо коўдру, папраўліла пад галавой падушку і ледзь прыкметна ўсміхнулася.— Вам, Вітольд Каятанавіч, сёння лепш? Вочы чысцейшыя, твар паружавеў. І вось — гаворыце. Слоўкі светлыя.

— Я тады зрабіў памылку, паехаўшы ў Маскву.

— Не трэба было вас пускаць.

— Душа ваша чыстая. Перад усімі. І перад Богам. А я... Мне яшчэ Бялоў сказаў... Памятаеце Бялова, цесляра, які ставіў гэты дом?.. Дык вось ён, як мы тут за сталом сядзелі, сказаў: жыві і дому не здраджвай, не здрадзіш — будзеш жыць доўга. Мне не трэба было яго пакідаць. Але цяпер я вярнуўся, і ўсё будзе добра. А там, у Маскве, я ўжо, можа,

памёр бы. Я, Марыя Патапаўна, дзіця зямлі, вады, неба. Там, дзе іх няма,— мая турма і мая смерць.

Надвечар зноў застаўся адзін. Павінен быў наведацца Рыгор Іванавіч, ды ўжо сцямнела, а яго не было. Не то санлівасць, не то мроя замружвала вочы, адчуванне было такое, быццам правальваўся ў мяккую яміну, дзе нічога і нікога. Як бы засынаў, але прачынаўся, быццам выплываў з яміны, тут жа засынаючы зноў. У сне пачуў голас. І ад яго прачнуўся. Расплюшчыў вочы. У вячэрнім змроку перад ложкам стаяў мужчына ў чорным доўгім плашчы. Рыгор Іванавіч? Адкуль гэты доўгі чорны плашч? Муж Марыі Патапаўны заўсёды хадзіў у старой куфайцы. А калі не ён, дык хто яшчэ? Вітольд Каятанавіч ціха, колькі тых сіл, спытаў:

— Чаго ты, Грыша, стаіш? Запалі лямпу.

Чалавек дастаў з кішэні плашча карабок, шмаргануў па ім — у руцэ загарэлася запалка, і ў тым святле Вітольд Каятанавіч разгледзеў незнаёмы твар.

— Запаліць лямпу? — перапытаў чалавек.

Вітольд Каятанавіч адкрыў рот, каб адказаць, але сілы не хапіла, і ён, не сказаўшы ні слова, закрыў яго зноў.

На століку ля ложка стаяла лямпа, і госць, заўважыўшы яе, зняў шкло, паднёс запалку да кнота — задыміў агеньчык. Надзеў шкло і зноў, апусціўшы рукі, стаяў перад ложкам. Толькі цяпер Вітольд Каятанавіч заўважыў у яго ў руцэ малы чамаданчык.

— Вы... хто такі? — прашаптаў.

— Не хвалюйцеся. Я ваш сябра.

Вітольд Каятанавіч паспрабаваў прыўзняць галаву, але яна, як свінцом налітая, зноў звалілася на падушку. Голасу хапала толькі на шэпт, і ён захліпнуўся, замоўк. Што зрабілася? Калі прыходзіла Марыя Патапаўна, добра ж гаварыў. Куды дзеліся голас, сілы? Зноў намогся — прашаптаў:

— Адкуль вы? Хто вы?..

Чалавек падышоў бліжэй і рукою дакрануўся да рук Бірулі, якія ляжалі зверху на коўдры:

— Я з Мінска. Беларускія мастакі прыслалі вам грошы на лячэнне.

Ён падняў чамаданчык на столік, дзе стаяла лямпа, адчыніў, дастаў з яго штосьці ў белай анучцы.

— Вось... гэта мы сабралі для вас. Мы... вас любім, і вы павінны адолець хваробу.

Цела паліла гарачыня, твар быў мокры ад поту. Чалавек узяў са спінкі ложка ручнік, выцер ім змакрэлы лоб Вітоль-

да Каятанавіча. Той зноў намогся прыўзняцца насустрач, але галава і на гэты раз звалілася на падушку. Ужо заплюшчыўшы вочы, прашаптаў:

— Я вас чакаў...

Праз колькі гадоў Біруля ўспомніць пра тое з'яўленне начнога госця ў адным з лістоў:

*Якой радасцю было для мяне, калі ў вельмі цяжкія дні хваробы — я тады ляжаў у ложку, аддаўшыся на волю няўмольнага лёсу,— да мяне зайшоў незнаёмы чалавек і сказаў, што ён з Мінска, што яго паслалі мае землякі, сябры, якія хоць чым-небудзь хочуць аблегчыць мае пакуты. Убачыўшы, што я вельмі слабы і моцна ўсхваляваны ад яго з'яўлення, ён пайшоў*

Ноччу Вітольд Каятанавіч некалькі разоў бачыў земляка ў доўгім чорным плашчы. У сне? Так. Але калі прачынаўся, здавалася, што той па-ранейшаму стаяў ля дзвярэй. Нехта хлябаў дзвярыма. Зноў ён? Ці, можа, Марыя Патапаўна? Чаму зямляча, прыехаўшы здалёк, гэтак хутка пайшоў? І ці пакарміў яго хто ў доме? Хто мог пакарміць? Галодны пайшоў? Дзе заначуе? Каб з дому Бірулі ў ноч калі-небудзь пайшоў чалавек, не атрымаўшы прытулку? Ды яшчэ і галодны? Божа! Ці было такое? Ды і чалавек здалёку, тут — у чужым краі, прывёз любоў, памяць роднай зямелькі! Пайшоў, каб не прымушаць хворага гаварыць праз сілу, хвалявацца? Але хіба ў гэтым супакаенне?

І яшчэ той самай ноччу Вітольду Каятанавічу здалося, што вакол яго лётае цень. Кволым агеньчыкам гарэла лямпа, і ён бачыў той цень, які то падымаўся пад столь, то соваўся ў акно. Можа, хацеў пакінуць пакой, ды акно было зачыненае, дзверы зямляча зачыніў таксама, і цень ніяк не мог вылецець з пакоя. Потым памроілася, што гэта не цень, а душа. Калі душа, то чыя? Яго, Бірулева? Чыя ж яшчэ? Можа, Любашына? Гэтай думкі ён ані не спалохаўся, наадварот — абрадаваўся. І хоць голасу свайго не пачуў, але спытаў:

«Любачка? Ты?»

Ніхто не адказаў. Але цень, нібы злоўлены ў сіло, заметусіўся на сценах, кінуўся ў акно — дзынкнула шыбка.

«Дачанька? Не бойся мяне. Я рады, што ты тут».

Ён адчуў, як трэба яму, бацьку, пагаварыць з дачкою, бо хоць яны шмат гаварылі ў жыцці, шмат пісалі адно аднаму,

усё не сказалі, не напісалі. Ён мог бы шмат чаго сказаць цяпер, але раптам пачуў іншы голас:

«Я — твой Дух».

«Мой Дух?.. Як жа гэта так? Я ж яшчэ жывы? Пакуль чалавек жывы, яго Дух не пакідае?»

Загаварыў як быццам са сваім Духам. І той адказаў:

«А я цябе не пакінуў. Я з табою. Мне цяжка, і ты, мой гаспадар, бачыш цень майго гарачага дыхання».

«Я — твой гаспадар? Што ты кажаш? Хіба не ты заўсёды быў маім гаспадаром? Хіба не ты, Дух, валодаў мною ўсё жыццё?»

«Гэта так — я валодаў табою. Але ты мог мне здрадзіць, як багата здраджвалі свайму Духу іншыя. Хіба ты не бачыш, як раскалоўся свет, як усюды цела адмаўляецца ад Душы, як цела жарэ і душыць Дух, як Душа пакідае цела, нават калі яно яшчэ здаровае і маладое?»

«Але цела без Духу маладым і здаровым не бывае?»

«Так. Яно тады ператвараецца ў мех з вантробамі, пачынае смярдзець, гніць, само пачынае жыць гніллём, падлаю. І таму гэтак засмуроджана зямля, жыццё на ёй быццам на бойні, смярдзіць гніллём і крывёю. Чалавек робіцца дваісты, каб служыць Сатане і Богу, але служыць аднаму і другому нельга, бо дзе жыве Сатана, там не жыве Бог. Бог ніколі не змірыцца з Сатаною. І таму, калі чалавека пакідае Дух, той пачынае смярдзець, як падла. А які чалавек, такая і ўся зямля. Ты ж усё гэта сам бачыш. Багагай хіба не смурод? Ці ўся тая машына, якая абараніла яго ад суда — не машына смуроду? Людзі самі адракаюцца ад сваіх Душ. А ты не адрокся. І таму я цябе не пакіну, пакуль ты жывы. І нават калі перастанеш дыхаць, я буду з табою. Я ўсё зраблю, каб жыццё цябе не пакінула. І пакуль я буду з табою, смерць цябе лёгка не возьме. Смерць і я, твая Душа,— вечныя ворагі. Калі ты сам не хочаш памерці...»

«Я хачу жыць! Яшчэ я хачу напісаць пейзажы, якія жывуць ува мне. Гэта будуць пейзажы майго развітання з жыццём»,

«Яны жывуць ува мне, у тваёй Душы».

«Я любіў зямлю, неба і хачу з імі развітацца па-людску. Яшчэ я ім павінен штосьці сказаць».

«І ты скажаш...»

*Я ляжаў без памяці, праваліўшыся ў топкую, як палеская багна, яміну, мне здавалася, што я знікаю, чуў гэта нейкім кволенькім пачуццём, апошняй нітачкай пачуцця,*

*але душа мая і тады жыла, яна мяне не пакідала, яна спавядала мяне, гаварыла са мною, ужо амаль нябожчыкам, яна адганяла ад мяне смерць. Нечакана ў маім пакоі расчынілася акно. Я пачуў гэта. Расплюшчыў вочы: у пакоі нікога не было. Стаяла дзіўная цішыня. Але хто адчыніў акно? Зноў пачуў зязюлю. Пачаў лічыць... І зноў, як раней, яна пракукавала восем разоў. І я ёй паверыў*

*Мне здалося, што акно адчыніў мой Дух*

*Гэта адбылося раніцай. Надвечар мне палягчэла*

## БЛАКІТНЫЯ РАЗВІТАЛЬНЫЯ ВЁСНЫ

Вясна 1950 года прыйшла ў «Чайку» не так, як прыходзілі ўсе ранейшыя вёсны. Яе цяплынь і святло рана абудзілі сад, адчынілі вокны пакоя, у якім ляжаў Вітольд Каятанавіч, не пагражаючы яму ні ветрам з возера, ні вяртаннем халадоў. Пакой напоўніўся сонцам, песнямі драздоў, шпакоў, салоўкаў, усялякай птушынай драбязы. У акно заляталі жаўтлявыя і стракаценькія матылькі, стракозы заносілі сонейка на празрыстых крылцах. А калі вечарэла, калі вокны зачыняліся на ноч, галасы з саду замаўкалі, Вітольд Каятанавіч ляжаў і ўслухоўваўся ўжо не ў жыццё за вокнамі, а ў самога сябе, чуў, як у ім, у ягонай крыві, у кожнай жылцы і костачцы іграла вясна. Ён, паляўнічы, заўсёды вітаў вясну кожнай жывой тканкаю, фізічна адчуваючы тое, што адчувалі зямля, вада, неба, кожная галінка і травінка, але ранейшае адчуванне было іншым, то было адчуванне здаровага цела, хворае — адчувала інакш. Вастрэй і паўней? Так. Але і больш балюча, калі ад аднаго сонечнага праменька, ад шолаху цёплага ветру, ад нейкага птушынага голасу, які чуў усё жыццё, наварочваліся слёзы.

Аднойчы раніцай, пачуўшы ў пярэднім пакоі Марыю Патапаўну і Рыгора Іванавіча, паклікаў іх да сябе, папрасіў падтрымаць і, пераадольваючы цяжар аслабела-атлусцелага ад доўгай нерухомасці цела, падняўся на ложку. Сеў, звесіў з ложка ногі, доўга сядзеў, а пасля, пасмялеўшы, абапёрся на Марыю Патапаўну і Рыгора Іванавіча, устаў на ногі, прайшоў два крокі — яны даліся цяжка, але выйшаў на тэрасу. І тут яшчэ мацней здзівіўся: тэраса, сад, двор пахлі не проста вясною, а фарбамі, якімі ён пісаў вясну, ягонай палітраю. Жахнуўся: як даўно не чуў іх? Няўжо, калі памі-

рае цела мастака, то памірае і пах ягонай палітры? Калі гэта так, то цяпер, зноў пачуўшы яго, будзе жыць?

Фарбы і палітра наверсе, у майстэрні, але тут, на белай сонечнай тэрасе, у садзе, Вітольд Каятанавіч чуў іх востра, і гэта абвостранае адчуванне не знікала.

Неўзабаве ён напіша ліст у Мінск — Панамарэнку:

*Я жывы*
*Мая прага жыцця, мая любоў да жывапісу мацнейшыя за смерць*

У тыя дні, пішучы ліст, ён ужо будзе ў садзе з эцюднікам. Стаяць перад ім не зможа, не ўтрымаюць ногі, але ён будзе працаваць, седзячы ў крэсле. Левая рука не зможа трымаць палітру, але правая ўжо не захоча выпускаць пэндзаль. Яшчэ ён не рызыкне выходзіць за межы саду, тым больш — на паляўнічыя сцежкі, але будзе пісаць сад, бераг Удомлі, яе далячыні, неба, ускраіну суседняй вёскі, хлявы, дарогі, якія вядуць ад дома ў палі і лясы. Што пісаць — не галоўнае. Злавіць непаўторны міг у прыродзе, напоўніць яго пачуццём, сэнсам, каларытам — вось што трэба. А гэта — ад вастрыні перажывання, ад свайго болю.

Ён піша эцюды. На большае сілы пакуль што няма. Але эцюды, як заўсёды, набліжаюць да карціны. Гэта ён ужо адчувае. Эцюды вясны — дарога ўваскрэсення, пошукаў самога сябе, тут усё маладое, у пачуцці і бачанні, нібы піша, вярнуўшыся ў маладосць. Колькі разоў, узіраючыся ў рунь, выкінутыя да цяпла парасткі, пупышкі, пялёстачкі, слухаючы птушак, раптам лавіў сябе на знаёмым пачуцці, якое некалі ўжо здзіўляла, уражвала. Калі дакладна — успомніць не мог, але было і было даўно. Адчуўшы паўтор маладога пачуцця, ажно ўвесь скалануўся: як можа ён, стары і хворы чалавек, толькі-толькі адступіўшы ад мяжы паміж жыццём і смерцю, адчуць свет, як некалі, молада?

Але ўжо настае лета, а з ім — іншыя фарбы, іншае святло. Вясна не вылілася ў карціну. Не хапіла смеласці? Страціў яе за час хваробы? Пісаць лета? Але яно звычайна не хвалявала душы. Ды і што за лета? Дажджы не спыняюцца, нібы гэта восень. Калі-нікалі неба яснее, распагаджваецца, але зямля не паспее абсохнуць, як ліе зноў. І гэтакае ўсё лета. З дажджамі і вятрамі пачынаецца восень. Надвор'е гняце душу мацней, як хвароба. З дому не выйсці. Застаецца адно: сядзець за сталом ці ляжаць у ложку, думаць, глядзець у акно, чакаць лепшых дзён, пісаць лісты,

а паміж імі — старонкі проста роздуму, шчырасці. Невядома — каму, навошта?..

*Цяжка. Прычына нават не ў тым, што лета жахлівае. Такая і восень. Плешчуць, не суціхаючы, дажджы. Ліўні. Удомля паднялася на паўтара метра, выйшла з берагоў. На лугах затапіла стагі сена, прыйшла ў сад. Навальнічныя вятры, цяжкія хвалі параскідалі каля берага ўсе нашы дровы. Ад берага іх панесла да плёсу. Акрамя таго, у доме няма ні кроплі газы, няма свечак. Дні і ночы за вокнамі, за сценамі, у комінах выюць лютыя вятры. Халодна і цёмна. Нервы агаліліся. Цяжка*

Ад ранніх халадоў на беразе Удомлі раней, як звычайна, пажоўклі бярозкі. Але за імі, нібы варта, шчыльнымі купінамі стаяць зялёныя ялінкі. Яны збягаюць, быццам па рэчышчы вясновага ручая, паміж узгоркам, на якім стаіць дача, і калгасным полем да возера, зліваючы ў яго і жаўкву, і чырвань, і шэрань, і зеляніну няўдалай восені. Ад гэтай ранняй палітры, змытай з пагоркаў у возера, яно не толькі сіняе, але і шэрае, і пажоўклае. Дый не адна Удомля гэтак пагасла, абмылася не сваімі фарбамі. Неба таксама шэрае, пажоўкла ад заўчаснай змены вопраткі на зямлі, пажоўкла і зазелянела, а жаўква з зелянінаю даюць яшчэ большую шэрань, цяжкую, з напамінкам блізкай зімы. Эцюд? Не, гэта — карціна. Просты і ясны сюжэт — простая хай будзе і назва: «Бераг возера. Асенняя чырвань». Цяжкаватае неба? Можа, і так. Але куды дзецца ад хваробы, якая гняце сваім цяжарам? Ды і ад восені.

Зіма з яшчэ большай жорсткасцю заганяе ў дом. Вясновыя, летнія, восеньскія дні абяцалі вывесці на ранейшыя сцежкі, але зіма адбірае светлую надзею: снег, каўзата, мяцеліцы робяць кожны крок небяспечным. Вітольд Каятанавіч з дапамогай Марыі Патапаўны і Рыгора Іванавіча пераносіць мальберт у пакой, дзе стаіць ложак. На мальберце ўсё яшчэ «Бераг возера». Ён здымае карціну з мальберта і просіць Рыгора Іванавіча нацягнуць на падрамнік палатно крыху меншае. Пісаць зіму? Седзячы ў пакоі? Па памяці? Бачачы яе з акна? Гэтак пісаць зіму не будзе. З чыстым палатном на мальберце будзе чакаць наступнай вясны. Ён напісаў шмат вясновых эцюдаў, якія просяцца ў карціну. І ёсць задума карціны. Даўно, яшчэ да хваробы, неаднойчы любаваўся прыходам вясны праз варотцы сваёй сядзібы, як яна падкатвала пад дом з лесу па алеі ці, да-

кладней, прагалам між бяроз і ялін з усходу. Там, за прагалам, глыбокая перспектыва, заледзянелы сакавіцкі наст маляўніча збягаецца з даляглядам. Святло адтуль мяккае, асабліва ранняй вясной, на золаку,— вітае «Чайку». А пярэдні план — бераг «Чайкі»: лёгенькі, зліты з падлескам, частакольчык, адчыненыя напоўніцу, як толькі снег і лёд на зямлі дазваляюць, варотцы ў свет, да святла за прагалам, на даляглядзе, і дарога ад дома ў той свет. Усё ёсць на эцюдах. Але гэта — карціна. І яе трэба напісаць цяперашнім станам душы, жаданнем кінуцца ў далёкі лясны далягляд, у тое святло — з журбою, болем і надзеяй. Тую, пакуль што недасягальную, але знаёмую, зведаную раней радасць, наблізіць да сябе, запрасіць праз адчыненыя варотцы ў госці. Гэта можна пісаць цяпер. Па эцюдах, па памяці.

А пакуль мальберт стаіць з чыстым белым палатном, і Вітольд Каятанавіч не асмельваецца падысці да яго з палітрай і фарбамі. Нагледзеўшыся на белы квадрат, садзіцца да стала і на меншым белым квадраце, на аркушы паперы, выводзіць буйнымі літарамі:

*Дарагі сябра Лабанаў!*

Падумаўшы, закрэслівае напісаны радок, які здаецца халаднаватым, афіцыйным, і почыркам, не падобным на ранейшы прыгожы почырк, піша:

*Дарагі мой Віктар Міхайлавіч!*

*Сардэчна дзякую табе за твой ліст. Ён сагрэў мяне такой цеплынёю, якую рэдка бачыш у нашы дні ад людзей*

Ліст да Лабанава — не проста ліст, не адзін з многіх, напісаных за жыццё, лістоў. Ён — як тыя варотцы ў свет, грэе далёкім, родным, але ўжо адгарэлым святлом. Ён — вяртанне ў пражытае, самае дарагое. Вяртанне да самога сябе, у сваю маладосць. Вітольд Каятанавіч піша яго не адзін дзень — дзень за днём. Па вечарах, калі зааконны свет у цемені і святло толькі тут, у ягоным пакойчыку, ад каміна, у якім гарыць бярозавае паленца, ды ад свечак ці лямпы. Гэта і не ліст. Гэта — размова сам-насам з тым, што было. Тут ніштo не павінна распыляць думкі, адчуванні. Нават белы квадрат палатна з падрамнікам на мальберце Вітольд Каятанавіч завешвае посцілкай, каб не думаць пра яго, каб яго не бачыць. Увесь там — у пражытым.

Размова з мінулым прыходзіць як вострая неабходнасць. Больш таго — у доўгія зімовыя вечары ля каміна Вітольд

Каятанавіч адчувае, што калі зязюля не зманіла, калі яна сапраўды адлічыла яму нейкія гады на гэтым цудоўным свеце, дык усе гады і дзянёчкі, да самага апошняга, будуць гадамі і днямі яго развітання з дарагімі сэрцу людзьмі, зямлёю, дрэўцамі, кусточкамі, птушачкамі, вадою, азёрамі і рэкамі, якія ён так любіў, з небам, на якое маліўся ўсё жыццё, са сваімі эцюдамі і карцінамі, напісанымі і ненапісанымі, з бацькаўшчынай, Зосяй, Любашай, з усімі Гаўрыламі, Петракамі, Апанасамі, з мядзведзямі і зайцамі, якія застаюцца жыць у яго любімым лесе. Не, ён не мог памерці, не развітаўшыся з усім дарагім, што на гэтай зямлі. Душа раптам не паміpae. Як паміралі вялікія настаўнікі? Талстой як паміраў? Хіба ён не рыхтаваўся да смерці доўгія і доўгія гады? Хіба яго духоўныя пакуты, пошукі сэнсу жыцця і веры не на дарозе да курганка пад высокім святлом зялёнай палачкі? Ці Левітан? Хіба «Над вечным спакоем» — не развітанне з зямлёю, вадой і небам? І што такое ўвесь яго боль, як не боль прадчування нябыту, як не развітанне з жыццём? Усё ў ім развітальнае: і карціны, і каханне да Турчанінавых, і дружба з Чэхавым. Тут сакрэт ягонага болю: рана пачаў развітвацца з жыццём. Нават кахаў — як развітваўся. Папракалі за эгаізм. Але яго не разумелі. Так, свет рана замкнуўся вакол мастака, ён паглыбіўся ў свой унутраны свет, у сваю душу. Нават дружба з Чэхавым не вылілася чэхаўскім настроем, чэхаўскім матывам і вобразам на ніводнай карціне Левітана. Але ўсё гэта ён, Вітольд Каятанавіч, зразумеў толькі цяпер, калі сам, адчуўшы непазбежнасць развітання са светам, зачыніў вокны і дзверы, апусціў на вокнах шторы, белы квадрат палатна на мальберце схаваў пад посцілкай, калі адключыўся ад усяго, што акружала, застаўся адзін на адзін з агеньчыкам у каміне. Вось ён які — Левітан. Яго боль — боль развітання. Вось дзе загадка! І ён, Біруля, гэтага не мог спасцігнуць раней, бо ён іншы, ён пісаў — як уваходзіў у жыццё, усе гады да самай глыбокай старасці пісаў кожную карціну як карціну сваёй першай сустрэчы з жыццём. А Левітан — як развітваючыся. І ў гэтым яны розныя. Вось у чым вучань не сышоўся з любімым настаўнікам. І таму, толькі таму так доўга не мог зразумець боль настаўніка. Тут ужо не загадка талентаў — загадка лёсу. Ён, Біруля, быў паляўнічым. Левітан таксама хадзіў у лес са стрэльбай, але як хадзіў? Нібыта з кіёчкам. А вучань? Успомніўся бацькаў кухар Антось — вунь хто першы даў яму, малому, стрэльбу ў рукі. Колькі тады было? Шэсць, сем гадкоў?

Паляванне многае выясняла ў ім, Бірулю, як у мастаку. І калі развітвацца з усім, што дарага, люба, што вызначыла лёс, жыццё між людзьмі ў прыродзе, у мастацтве, дык трэба яшчэ і паляўнічая споведзь. Так паралельна з лістом да Лабанава, у адзін з тых зімовых вечароў, Вітольд Каятана-віч кладзе перад сабою чысценькі аркуш паперы і зверху на ім выводзіць вялізнымі літарамі:

*ПАЛЯВАННЕ*

Ніжэй — радкі прысвячэння:

*Вам, смелым паляўнічым, хто ведае таямніцы лесу; вам, хто жыве ў шэрых хатах і чуе стогн завірухі; вам, хто разу-мее гоман ветру, сустракае і праводзіць зоры*

Пад радкамі прысвячэння — пачатак споведзі:

*У Беларусі вакол мяне было шмат паляўнічых. Хадзіць на паляванне я пачаў без стрэльбы з нашым кухарам Анто-сем. Ішоў годна, несучы ягоны ягдташ, не даючы яму забі-тых ім зайцоў і птушак. Потым Антось даў мне стрэліць са свайго ружжа па сойцы, якая сядзела на елцы. Вялікім было шчасце, калі шэра-карычневая птушка з блакітнымі пёркамі на крылах камячком звалілася на зямлю. Антось быў задаволены:*

*— Малайчына. Першы раз страляў і не спудлаваў. Бу-дзеш паляўнічым*

Ёсць у Вітольда Каятанавіча і ўспамін, які пачынаецца з немімалётнага радка:

*Яшчэ юнаком я пачаў паляваць адзін*

Гэта — ці не пачатак асэнсаванай дарогі да самога сябе як мастака. І больш таго — як чалавека. Дарогі ў паэзію жыцця і прыроды. Праз паляванне, якое толькі і магло звесці найбліжэй, тварам у твар, з кожнай галінкай і птуш-кай, з кожным лясным голасам і зверам, з кожнай таямні-цай у прыродзе.

Успамінаючы сваё доўгае паляўнічае жыццё, мастак запіша і яшчэ адно цікавае назіранне:

*Як жывапісец, я зразумеў вельмі шмат з таго, што можа спасцігнуць толькі паляўнічы, які ва ўсе поры года зжы-*

*ваецца з прыродай, чуе дыханне і гоман кожнага дрэва, кожнай лісцінкі ў любое надвор'е, у розныя часы дня і ночы. Яе гукі — размова, якая то заціхае, то раптам зноў ажывае, у якой ёсць і пачуццё, і думка*

*Якая б ціхая ні была ноч, а перад самым світаннем, на золаку, старая асіна, што стаіць на ўзлеску, абавязкова прашэпча ў трывозе сваю малітву*

Думаючы пра лёс кожнай знаёмай рачулкі, стромы ці ровіка, якія ўначы схаваюць ад ветру, кожнага гаёчка і бору, у якіх знаходзіў натхненне, і разам з тым пра лёс сяброў-паляўнічых, Вітольд Каятанавіч неаднойчы згадае і запіша ў сшытачку назіранні і разважанні, карані якіх у народным паляўнічым вопыце, у маралі. Ён выказвае свае погляды на жыццё са стрэльбаю, на правілы паводзін чалавека ў прыродзе і радуецца, якім высокім гуманізмам і патрыятызмам кіраваліся яго сябры, аднадумцы па мастацтве, настаўнікі, з якімі жыў, пісаў і паляваў. Часта думае пра Сцяпанава, які быў самым блізкім па поглядах, разуменні і адчуванні прыроды. Успамінае, як аднойчы Сцяпанаў і Бакшэеў спяшаліся на цягу, баючыся спазніцца. Нягледзячы на спешку, Сцяпанаў раптам, пачуўшы нечаканую песню дрэва пад ветрам, спыніцца, заслухаецца, забудзецца на цягу, а калі Бакшэеў пачне, злуючы, падганяць, раскіне на ўсю шырыню рукі і ўзмоліцца: «Божа любы! Не будзе нас на гэтым свеце, а прырода застанецца такой, як цяпер, цудоўнай! З чым балюча развітвацца? З ёю — з прыродаю!..» Адкуль гэтая мудрая сардэчнасць? Пра гэта Біруля таксама думае. І вось ад Сцяпанава, ад захаплення настаўнікам ідзе думкаю ў народ, да мастакоў старэйшага пакалення. Што сказаў Несцераў? «Пранішнікаў і Пяроў былі паляўнічымі тургенеўскага тыпу, яны вучылі нашага Сцёпачку любіць паляванне за тое, што адбываецца ў прыродзе ў час цягі — любіць паэзію палявання». Ён, Біруля, неаднойчы перажываў, што не ўдалося паляваць з Пранішнікавым. А мог бы. Калі вучыўся ў вучылішчы, у Пранішнікава. Не асмеліўся далучыцца да старэйшых? Між іншым, пра Пранішнікава, як паляўнічага, ведаў усё — ад Сцяпанава. Стары кожны раз вяртаўся з палявання хворы, у яго былі слабыя лёгкія, прастуджваўся, кашляў, але жыць без палявання не мог.

А паляўнічы Саўрасаў?

А Шышкін — як паляўнічы?

А Куінджы, які аднойчы заплакаў, убачыўшы, як прыгожа садзіцца за ракою сонца?

Пра кожнага з іх, выдатных жывапісцаў і паляўнічых, Вітольд Каятанавіч скажа хоць радок, хоць слова.

*Саўрасаў — пачатак разумення рускай вясны, любові вясны*

*Шышкін? У кожнага дрэва свая душа. Набяжыць ветрык — і кожнае дрэва скажа штосьці сваё, сваім голасам. Лясны цар Шышкін чуў гэта як ніхто іншы*

*Астраухаў. Хто-небудзь са мною, магчыма, не згодны, але яго «Сіверка» — найвялікшы пейзаж, шэдэўр*

*Паўлаў?.. Не магу забыць яго расказ, як ён малым хлапчуком аднойчы сядзеў з вудачкай на рацэ і ўбачыў старога — той таксама сядзеў на беразе і думаў. Да вады прыляцела чапля. І вось хлопчык пытаецца: «Дзядуля, што ты робіш?» І той адказвае: «Па вечарах сюды прылятае чапля, па начах яна тут корміцца, а я прыходжу, сяджу і назіраю, любуюся ёю». Як жа гэта цудоўна заўважана: «А я назіраю, любуюся ёю»*

Вітольд Каятанавіч запісвае свае думкі пра Сурыкава, Левітана, Макоўскага, Касаткіна, Рэпіна. Ён ставіць любімых мастакоў у акружэнне прыроды, углядаецца ў іх арганічныя сувязі з ёю, у іх лепшых мастацкіх палотнах бачыць высокі паэтычны дар, які ад прыроды, ад яе разумення і адчування. Пра некаторых, каго любіў асабліва моцна, атрымліваюцца цэлыя апавяданні, як пра Левітана.

І ўсё гэта, кожны радок успамінаў,— светлы сум развітання. З дарагімі сэрцу мастакамі, паляўнічымі. З прыродай. З мінулым, пражытым у лясах, балотах, палях.

Ад успамінаў святло адбіваецца на яго самога, і ў гэтым святле мы бачым Вітольда Каятанавіча ўсё тым жа: у старой паляўнічай куртцы, высокіх ботах, аблавухай шапцы, на адным плячы — эцюднік, на другім — стрэльба, з адной кішэні тырчаць пэндзлі, загорнутыя ў анучку, з другой — анучка, у якой цюбікі з фарбамі, і ў тых самых кішэнях — патроны. Гэтакім яго бачылі ва ўсіх вёсках, дзе ён жыў, паляваў, пісаў. Тут, у народзе, як пра паляўнічага, пра яго разышлося шмат расказаў, успамінаў, легенд — пра яго сустрэчы з мядзведзямі, ваўкамі, лісамі, пра тое, як ён страляў — наўскід на заказ, дакладна ў вока ці ў птушыную дзюбу,— пра яго смеласць, пра яго стрэльбу, пра яго сабаку. Раённая газета пісала, што Біруля ўзяў адных мядзведзяў — сорак восем, спасылаючыся тут жа на спрадвечную ў народзе думку, што самы мужны і ўдалы паляўнічы жыве да свайго

саракавога мядзведзя. І гэта — праўда. Калі дзе-небудзь аб'яўляўся небяспечны мядзведзь, шатун, які паляваў за людзьмі, браў хатнюю жывёлу, людзі прыходзілі да Бірулі, каб ён іх ратаваў. І ён адразу адпраўляўся шукаць мядзведзя. Аляксей Аляксандравіч Мараваў пісаў: «Ён заўсёды дакладна ведаў, дзе ў любую пару года, у любы час дня і ночы, у любую пагоду знаходзіцца звер, птушка. Ён ніколі не памыляўся. Ён адчуваў прыроду сэрцам». Звера браў заўсёды, але дадому вяртаўся звычайна без трафея: дзічыну пакідаў сябрам дзе-небудзь у вёсцы, у хаце, якая сагрэла пасля палявання. Той жа Мараваў заўважаў: «На паляванні Вітольд Каятанавіч быў ні на каго не падобны. Ён не глядзеў на паляванне як на адпачынак ці здабычу звера, птушкі. Калі б ні гаварыў пра паляванне, гэта заўсёды была размова пра прыроду, яе стан, вобразы, пра назіранні мастака ў прыродзе, а працэс палявання, трафеі адступалі на другі план». Пра гэта сам Вітольд Каятанавіч сказаў так:

*Бываюць радасці, якія хвалююць неверагодна моцна. Да мяне яны прыходзяць асабліва тады, як я адзін, сам з сабою, калі вясной ці ўвосень я на паляванні, блукаю па нашых бясконцых палетках і пералесках з фарбамі і са стрэльбаю, не ўзяўшы з сабою нават сабакі, каб яна не пужала цішыню, а з ёю разам успаміны і пачуцці, якія авалодваюць мною. У маўклівых назіраннях вечара, сутоння, золаку я падоўгу слухаю цішыню і сваё сэрца, якое ўсхвалявана б'ецца ў грудзях*

Ён паляваў у тыя часы, калі звера і птушак было вельмі многа. Пакінуўшы дом, як успамінаў Мараваў, усяго на гадзіну, можна было прынесці поўную сумку дзічыны.

А Вітольд Каятанавіч, бліскучы стралок, пакідаў дом на дні, на тыдзень і вяртаўся часта без трафеяў.

Зімовыя вечары пачыналіся рана, цягнуліся доўга. Біруля звыкся са сваёй адзінотай, не адчуваў сябе адзінокім, калі думкамі і душою авалодвала мінулае, пражытае ў мастацтве і прыродзе, сярод сяброў, любімых людзей. І ледзяны дождж за акном, і злосны вецер мяцеліцы, і глухое, як з мёртвых нетраў, выццё ваўкоў, што падбіраліся блізка да дома, вылі пад вокнамі, адчуваючы ў доме знясіленага, ужо не страшнага ім паляўнічага, не прыгняталі душы. Успамінаючы, жыў не адзін. Гэта былі цудоўныя вечары і ночы ўспамінаў. Горш тое, што не мог доўга пісаць. Стамлялася рука, балела плячо, у вачах пачыналі гуляць кругі святла

і цемені. Тады клаўся на ложак і ўспаміны ўжо не запісваў. Мог чытаць. Зноў даставаў лісты з Любашынай шкатулкі.

Асабліва часта ў рукі трапляўся ліст, напісаны ў пару, можа, самых вялікіх спадзяванняў на Любу:

*Дарагія Любачка, Нюрачка, Міцюша!*

*Вялікае сардэчнае вам дзякуй за памяць, за ласку. Усё, што датычыць вас, вашы перажыванні, настрой — усё гэта блізка мне. Скажу больш: хацеў бы на закаце свайго жыцця дапамагчы ўсім вам жыць, часам падказаць, параіць, парадавацца вашымі радасцямі. Я так палюбіў вас усіх, вашу студыю, вы мне ўсе такія блізкія пасля «Чайкі», і я ўжо не ўяўляю «Чайкі» без вашых галасоў, без мільгацення ў садзе вашых сукенак. Вы запалілі мяне маладосцю. Пуста без вас. Калі я бываю на Удомлі, на станцыі, заўсёды гляджу на тэатр, у якім вы ігралі. Успамінаецца вечар пасля дажджу; недзе ў палях крычаць перапёлкі*

*Як хочацца быць з вамі*

Цяжка было чытаць гэты ліст, не перапыняючыся, не адплываючы ледзь не ад кожнай яго фразы да Любы, яе сяброў па тэатральнай маладзёжнай студыі, з якою яна прыязджала ў тое лета ў «Чайку». Тады яму здавалася, што яе маладосць — працяг яго маладосці, што старасць — пара не толькі не сумная, але шчаслівая, калі побач маладое жыццё і ты не адгарадзіўся ад яго, ты яму, маладому, патрэбны. Ён тады, можа, мацней як калі-небудзь яшчэ, раней ці пазней, адчуваў не абавязак, а радасць быць падтрымкаю маладым талентам, і гэта была як бы не яго асабістая радасць, а традыцыя інтэлігенцыі, якая бачыла ў гэтым свой лёс.

*Вас хвалюе стан студыі? У сённяшнім жыцці яна і не можа быць іншай. Якія цяпер выкладчыкі? Адны стаміліся, іншыя хочуць самі выгадна ўладкавацца, высунуцца, набыць папулярнасць. Хіба яны працуюць дзеля таго, каб вам даць, забыўшы пра сябе?*

*Памятаю, як вялікія мастакі адносіліся да моладзі. Ім не трэба было сябе высоўваць. Яны былі богі. Сваю працу любілі дзеля мастацтва. Мэта жыцця была — праца. Памятаю, як Рэпін, Сурыкаў, Макоўскі гаварылі: маладыя, нібы воск, паддаюцца любым формам, у кожным трэба намацаць матэрыял. З аграмадным аўтарытэтам, імем, талентам, як яны нас запальвалі, якія ў нас з імі былі гутаркі далёка за поўнач! Яны нас любілі, глядзелі на нас як на дзяцей, якім*

*трэба перадаць спадчыну. Але гэта былі вялікія людзі. Цяпер гэтакіх аўтарытэтаў няма. Вазьміце сваю студыю. Адзін Пятроўскі, і той падбіўся, стаміўся. А самае сумнае, што нідзе яшчэ, як у тэатры, няма столькі інтрыг, хітрых падкопаў, дробязнага самалюбства. Мяшчанства не дае сумленна працаваць, не дае жыць, атручвае юныя душы. І ўсё ж — будзьце мужныя, не паддавайцеся расчараванням. Мастацтва — шлях цярністы, але бываюць такія светлыя, такія радасныя хвіліны! Я ўпэўнены, што жыццё вас прызнае. Вы яшчэ маладыя. Трэба жыць, жадаць, упарта імкнуцца да мэты, і не жыццё вас пераможа, а вы пераможаце жыццё*

А можа, ужо тады, пішучы ліст, ён развітваўся з жыццём? Ці не гучаць тут ноткі развітання? Можа, сам таго не ўсведамляючы, выконваў непазбежную місію развітання? Хіба ў тых адносінах, якія былі да моладзі ў Паленава, Левітана, Макоўскага, Пранішнікава, у той іх бязмежнай шчырасці са сваімі вучнямі не было адыходнай мелодыі? Можа, адчуванне гэтай мелодыі і нараджала адносіны вялікіх настаўнікаў да моладзі, як да сваіх нашчадкаў? Гэта — так натуральна! Бо гэта — эстэтыка самога жыцця, калі яно не парушана хлуслівымі палітыканамі, маралістамі, рознымі там наватарамі, чырвонымі ці карычневымі. А ён, Біруля? Хіба не захапляўся сваімі настаўнікамі? Хіба ён не браў ад іх усё іх багацце? І чаму ён павінен быць іншы?

Толькі цяпер зразумеў, што таемна, натуральна ў ім не сёння прачнулася мудрасць па-людску развітацца з жыццём, сказаць маладым, адыходзячы, што мог і хацеў сказаць. І ўжо свой стары ліст чытаў быццам першы раз.

*У гадзіну ночы сяджу ля каміна, слухаю, як плача мяцеліца, і думаю, думаю пра вас усіх, бачу вас, чую вашы галасы, і так хочацца паклікаць вас, насцярожыць, прыгрэць*

*Мае любыя! Мае добрыя! Беражыце адзін аднаго, памятайце, што ў кожнага з вас ёсць балючыя раны. Не варушыце іх. І без таго яны смыляць*

*Цалую вас, дзяцей «Чайкі». Яна ўсіх вас чакае. Яна вас заўсёды аблашчыць белымі крыламі, дасць адпачынак, неабходны кожнаму, бо вы жывяце нервамі і ад нерваў згараеце*

*«Чайку» не забывайце*

*З глыбокай любоўю да ўсіх вас,*

*Віт. Бялыніцкі-Біруля*

*P. S.*
*Усе вы павінны жыць разам*
*У сяброўстве — сіла*

Што гэта? Бацькоўскі наказ, завяшчанне? Так. Але і большае. Прадбачанне бяды, што насоўвалася на моладзь, на яе чыстыя душы, якая пагражала затапіць маладую чысціню багнаю страху, паклёпу, мяшчанства? І гэта — так. Вітольд Каятанавіч шмат ведаў, бачыў і прадбачыў. Жыццё абяцала навальніцу — ён яе чуў.

Адно не прадбачыў — што, развітваючыся з маладымі, яму суджана пакінуць любы свет пазней за шмат каго з іх, маладых, пазней за Любашу.

Доўгія, да поўначы, думкі пра дачку заўсёды вялі да кашмарнай ночы, калі цяжка было адрозніць, дзе сон, дзе ява, і гэтая ноч выдалася не лягчэйшая. Заснуў пад раніцу, але неўзабаве прачнуўся: над Удомляю гучаў звон царквы Мікола на Стане — была бацькоўская субота, масленка, і ў акно глядзела яшчэ белае, праз снежныя завеі, вясновае сонейка.

Вітольд Каятанавіч падняўся, запаліў свечку і зноў пагасіў. Галава была цяжкая, балелі вочы, нямеў левы бок, і ён доўга сядзеў на ложку, баючыся стаць на ногі. Але стаў, выйшаў, трымаючыся за сцяну, з дапамогай кійка, у суседні пакой, прынёс палатно на падрамніку, якое там стаяла з восені. Мінулым летам задумаў напісаць лён у час цвіцення, калгаснае поле на ўзгорку за садам. Дачка любіла тое высокае, з нахілам да возера, поле, калі лён зацвітаў. Яна часта гуляла сцежкаю па-над возерам, захопленая разлітым па полі блакітам. Даўно марыў напісаць гэта палатно, даўно напісаў бы, але ўсё лічыў, што блакітнага поля ды блакітнага неба мала, трэба яшчэ нешта для карціны, хоць якая дробная дэталька, і не знаходзіў яе. А мінулым летам адчуў, што ніякай дэталькі не трэба, трэба напісаць адно блакітнае поле і блакітнае неба, у гэтым суцэльным блакіце будзе гук, які ў ім некалі знайшоў Левітан, будзе музыка, падобная на баркаролу Чайкоўскага, якую так любіў, і яна, музыка, з глыбінёю блакіту, звяжа зямлю і неба, яшчэ раз адгукнуўшыся Ісаку Ільічу. За эцюды поля ўзяўся з захапленнем. Нават паспеў пачаць карціну. Адчуваў, што атрымаецца развітанне з Удомляй, яшчэ раз — з Левітанам, з Любашай. Глыбозны блакіт поля і неба аб'яднае натуральная срабрыста-перламутравая смуга, і яна будзе нагадваць пра возера, якое побач. Ужо знайшоў тон,

адчуў блакіт праз срэбра, гарачае летняе паветра, якое павінна аб'яднаць прастору поля з глыбознай прасторай неба. Закончыць работу ў час цвіцення льну не паспеў, пісаць па эцюдах не асмеліўся. Цяпер паставіў карціну побач з мальбертам на крэсла, насупраць акна, і падумаў: лён па льне ніхто не сее, і сёлета ці не засеюць тое поле жытам?

З думкамі пра карціну адседзеў на ложку ўсю раніцу, чакаючы Марыю Патапаўну. Але яна не ішла. Хацелася не так чаго-небудзь з'есці, як выпіць добрага чаю ці кавы. Што надумаў! Устаў з ложка, каб выйсці на кухню, але адчуў, што да кухні не дойдзе. Пастаяў, трымаючыся за спінку ложка, зрабіў два крокі да стала, на якім ляжалі паперы. Напісаць ліст у Маскву? Як там жонка? Чаму не едзе? Сказаць, што чакае яе? Нагадаць пра сябе?..

І Вітольд Каятанавіч піша адзін з самых невясёлых лістоў:

*Паважаная Алёна Аляксееўна!*

*Пра што марыць забыты, выкінуты лёсам з жыцця так званы Вітава? Ён марыць пра лыжку супу і пра кубачак смачнай кавы. Атрымаўшы іх, ён удзячна ўсміхнецца — будзе рады і шчаслівы*

*Цяпер я ведаю, што такое лёс, як ён можа гуляць з чалавекам. То ўздыме высока, то кіне ў бездань і — ані следу*

*Але ў бездань я не збіраюся*

*Ваш некалі Вітава*

*2.20 па поўдні. Чайка. 1952*

Паклаў ліст у канверт, напісаў адрас, заклеіў, лёг у ложак і адразу заснуў.

Толькі надвечар прыйшла Марыя Патапаўна. Зварыла, пакарміла і панесла ягоны ліст, каб кінуць у вёсцы ў сінюю паштовую скрынку.

Сцямнела. Вітольд Каятанавіч запаліў лямпу і сеў за стол, за паперы. У апошнія дні ён часта ўспамінаў сялян, з якімі пашчасціла сысціся, пасябраваць, успамінаў пра сумесныя з імі паляванні. Прыгадалася, як паляваў на лісу, на кабана, на мядзведзя, на глушца, на зайца, на воўка. Якія былі дзянёчкі! Хацелася пра кожнае паляванне напісаць, пра кожнага паляўнічага — якая мудрая была б кніга!

Але святое жаданне азмрочыла адчуванне, што дарэмна напісаў ліст жонцы без дабрыні і пяшчоты. Можа, ёй няма як прыехаць?

І ён піша іншы ліст, каб заўтра ж раніцай адправіць, наўздагон сённяшняму.

*Алёнушка, памятай пра мяне, не забывай, яшчэ я вам з Ілюшам зггаджуся. Яшчэ вы таксама дапаможаце дзядзьку Вітольду, які вас любіць. А каго ж яму любіць? Старая мая не кепская, а ўнучак, хоць і маленькі, мае такое вялікае, такое цудоўнае сэрца*

Час бяжыць. Рэзкі ліст да жонкі не забываецца. Вітольд Каятанавіч пачынае пакутаваць новай думкаю: а ці не пакрыўдзіў ён у сваім жыцці яшчэ каго? Развітваючыся, павінен кожнаму сказаць хоць адно ласкавае слова, сказаць, што крыўды былі выпадковыя, што ён усіх любіў. З гэтымі думкамі зноў сядзіць за сталом. Хочацца кожнага нечым адарыць: хоць словам, калі не карцінай. Чым яшчэ можа адарыць стары мастак? У яго, праўда, ёсць сапраўдны скарб, самы дарагі — лісты Рэпіна. Іх трэба аддаць блізкаму чалавеку.

Вітольд Каятанавіч піша яшчэ адзін ліст жонцы:

*Самае дарагое, што ў мяне ёсць, я хачу падарыць табе. Гэта лісты, папера якіх пажоўкла, чарніла на якіх выцвіла, але змест іх застанецца назаўсёды. Яны былі мне радасцю, суцяшэннем, калі я траціў веру ў жыццё. Лісты напісаны найвялікшым мастаком, усімі любімым, які шмат перажыў, шмат адпакутаваў і толькі таму так многа стварыў у мастацтве. Гэта лісты Ільі Яфімавіча Рэпіна*

*Я веру, што яны і табе прынясуць радасць, суцяшэнне і падтрымку, калі ты будзеш сядзець за мальбертам. Працуй, не азіраючыся назад. Праца і лісты Рэпіна будуць палёгкаю твайму сэрцу. У гэта вер*

*Цалую*

*Твой, як раней і заўсёды,*

*Віт. Бялыніцкі-Біруля*

Снег вакол дачы шарэў, сплываў.

Аднойчы, у цудоўны вясновы дзень, Вітольд Каятанавіч з дапамогай Рыгора Іванавіча выносіць мальберт з дому пад яго ўсходняе крыло, ставіць ля ганка, цёпла апранаецца, каб на каварным вясновым ветры не прастудзіцца, і на мальберт ставіць палатно, каб пісаць у леташніх эцюдах знойдзеную карціну ранняй вясны. Ён любіў назіраць, як вясна абуджае зямлю, прыроду. Напісаў дзесяткі карцін і эцюдаў вясны,

але заўсёды пісаў нібы першы раз, нібы першую вясну ў сваім жыцці. Гэта мог сказаць пра сябе сам. Але і не толькі сам. Бачылі ўсе. На адной з выставак Віктар Лабанаў спыніўся перад ягоным эцюдам «Дзень прыбавіўся на адну хвіліну». Што прымусіла доўга стаяць перад ім? Пазней прызнаваўся: «Як быццам звычайны пейзаж Вітольда Каятанавіча, срабрысты, снег пад красавіцкім сонейкам як бы нечым незадаволены, гарызонт далёкі. Але недзе ў адным бліку, усяго ў адным, раптам адчуў — так, дзень прыбавіўся на адну хвіліну. І гэта не нейкае там агульнае ўражанне, якім нас захаплялі імпрэсіяністы, а канкрэтнае ўражанне мастака недзе на цязе слонак ці яшчэ ў нейкі момант палявання». Роздум запомніўся на ўсё жыццё, бо Лабанаў сказаў вельмі дакладна: момант палявання. Пейзаж павінен перадаць пэўны стан прыроды, пэўны момант, а гэта заўсёды глыбей адчувае паляўнічы. Лабанаў наогул умеў бачыць у ягоных, Бірулевых, пейзажах моманты палявання, і гэта Вітольду Каятанавічу падабалася. Вось і цяпер, пачынаючы новы сакавіцкі пейзаж ля дачы, ён ужо захапіўся ім, бо адчуў момант. Яшчэ ляжаў снег, шафранава-сіні, як быццам няўтульна ўсяму жывому на пераходзе зімы ў вясну, шарпачок, як кажуць на Магілёўшчыне, аплылі зімовыя санныя каляіны, сінее лужынка талай вады сярод снегу, ад дрэваў загусцелі цені на шарпачку, а ў дрэвах, у кустах ужо разгараецца вогнішча вясновага, на зары, сонейка, зімовая зялявіна — там-сям, як бы сама сябе саромеецца на ялінках, бо ў куточку неба загараюцца барвы, жаўтлява-ружовае святло адтуль, з куточка неба, маладзіць узлесак, снежную прасеку, і ўсё гэта — момант раніцы на золаку, золак дня ранняй вясны, калі і заяц недзе пад ялінай зашыўся ў разгубленасці, баючыся парэзаць аб шарпачок лапкі, чакае ці мякенькага свежага снегу, ці першых праталін — куды павярне гэты дзень, назад да зімы ці наперад да цяпла?

У гэтакі дзень усё жыве прадчуваннем цеплыні. І гэта — першая вясновая радасць.

Люба заўсёды хоць на дзень ці на два ехала ў такую пару з Масквы ў «Чайку». Вярталася ў добрым настроі. Калі бацька пытаўся, чаму гэтак раптам паехала і хутка вярнулася, яна весела адказвала, што ездзіла прывітаць вясну, бо ў Маскве яе першых крокаў не пачуеш і не заўважыш, папракала бацьку, што ўпускае сваё шчасце, свой момант. І тады ён пачынаў збірацца ў «Чайку».

Так, гэта пейзаж Любашы. Ён назаве яго проста: «Прыйшла вясна». Яшчэ як бы ідзе, і ўжо — прыйшла.

момант, які заўсёды ўлоўлівала Люба. Пейзаж будзе яго развітаннем з ёю.

Вітольд Каятанавіч працуе над пейзажам вясны кожны дзень — як некалі, у маладыя гады. Сілы, вядома, не тыя, але бачыць і адчувае з ранейшай непасрэднасцю, свежасцю, усё роўна як нанова адкрывае вясну. Здаецца, што хвароба, пакуты апошніх гадоў не прыглушылі адчуванняў новага ў прыродзе, наадварот — абвастрылі. Калі ляжаў, не пісаў, самай невыноснай пакутай быў страх: няўжо ён, яшчэ жывы, памёр як жывапісец, няўжо фізічны параліч прывёў да паралічу душы, зроку, слыху, да глухаты сэрца? Не, не прывёў. У гэтым годзе яму будзе восемдзесят і ён адкрые сваю выстаўку ў Акадэміі мастацтваў, выставіць новыя работы, і на ёй, толькі тады, развітаецца з сябрамі, з Акадэміяй.

Карціну заканчвае, не ўпусціўшы сваю вясну да самага апошняга мазка, і адчувае, што няма на ёй ніводнай фальшывай фарбачкі, ніводнай лішняй плямы.

Вітольд Каятанавіч пераносіць мальберт і карціну ў майстэрню, і якраз тады прыязджае Алена Аляксееўна. Цяпер яна застаецца ў «Чайцы». Яны пачынаюць прыводзіць у парадак сад, запушчаны за месяцы і гады хваробы. У Горцы, высечанай і здзічэлай у новых гаспадароў, знаходзяць любімыя ружы Левітана, перавозяць іх у «Чайку», высаджваюць ля тэрасы, побач з тымі, якія раней, яшчэ да хваробы, Вітольд Каятанавіч таксама прывёз адтуль.

Лета пачынаецца новай вялікай работай. Цяпер яму не дае спакою цвіценне лёну за садам. Усё ж тут зноў пасеялі лён. Можа, у калгасе кепскія аграномы, не ведаюць севазвароту, а можа, Рыгор Іванавіч угаварыў старшыню, адчуваючы, як яму, Вітольду Каятанавічу, патрэбны тут сёлета лён? Зялёная маладая шчотачка высыпала дружна. Прайшлі цёплыя майскія дажджы з навальніцамі. Яны захапілі на нейкі момант новымі вясновымі эцюдамі, па якіх ён пасля напіша і «Дні юнага мая», і «У дні майскіх навальніц». Але і май адкаціўся, прыйшоў чэрвень, а з ім зялёны Любашын узгорак успыхнуў блакітным полымем, усё роўна як высокае неба абмыла яго сваім блакітным дажджом.

Карціна давалася не адразу. Пісаць было цяжка. На ёй не было нічога, акрамя гарачага срабрыстага блакіту. Не было ніякіх фігур, дамкоў, дрэўцаў, кусцікаў. Гэтак задумаў. Але на чым карціна павінна трымацца, калі няма нічога, акрамя колеру, тону? Поле не роўнае, схіл гары — добра, гэта — знаходка. Але ці не мала? Ці будзе глядзецца адным

тонам зробленая карціна? Задача складаная. Але адмаўляцца ад яе Вітольд Каятанавіч не мог.

Аднойчы, калі працаваў на блакітным полі, з процілеглага берага Удомлі дакаціўся саборны звон. Ён разнёсся па ціхай прасторы возера, узняўся высока ў неба, усё роўна як завіс над блакітным узгоркам, і праз колькі гадоў зноў пачулася меса Грыга. Ён убачыў прасторы возера Няшчэрда, званы над возерам, белы дом з калонамі і ля калон — Зосю. Як даўно ўсё было! І як усё — блізка! Падалося, што ўсё тое — тут, на гэтым блакітным узгорку. І тады зразумеў, што гарачы летні дзень, гэту ўрачыстасць поля і неба павінен пісаць не столькі блакітам, колькі сваім каронным срабрыста-перламутравым тонам, у якім некалі ўбачыў Зосю. І калі гэта адчуў ранейшым маладым пачуццём, то заўважыў, як у блакітным небе пачынаюць збірацца лёгкія, быццам дыханне, чыстыя, бялюткія аблачынкі, як яны не зацягнулі блакіт неба, а прасвятлілі яго, яснейшым зрабілі далягляд, вышэй прыўзнялі поле, неба, далі пейзажу вертыкальнае вымярэнне, а блакітнаму тону — срабрыста-перламутравае ззянне. Пейзаж трэба пісаць з думкай пра Зосю, вяртаючы яе адтуль, з блакіту возера Няшчэрда, на гэтае поле, у той жа час развітваючыся з ёю. Так, ён яе не забыў. Ён усё жыццё пражыў з ёю ў сэрцы. Яго срабрыста-перламутравы тон — гэта яе, Зосіна, дыханне, якім пісаў усе лепшыя свае карціны і эцюды.

Ён робіцца маўклівы, замкнёны. Кожную раніцу ідзе ў поле, якое за садам. Стаіць выдатнае цёплае надвор'е. Ціха, ясна ў прыродзе. І неба па-ранейшаму высокае. Дзень за днём праводзіць тут са сваёй карцінай. Да сябе нікога не падпускае. Ні з кім гаварыць не хоча. Ён адзін. Ён і Зося. А паміж імі, з імі разам — блакіт поля і блакіт неба. Срабрыста-перламутравае паветра — жывое, рухомае.

Пасля карціны «Лён зацвіў» Вітольд Каятанавіч будзе пісаць яшчэ і вёсны, і восені. Будзе пісаць асінкі, дубочкі, ялінкі, возера, палеткі, сад. У сваю апошнюю вясну асабліва пяшчотна напіша бярозкі. І ўсё, да апошняга эцюда, да апошняй бярозкі — у той самай срабрыста-перламутравай смузе.

Ён будзе зноў рыхтавацца да выстаўкі, з хваляваннем думаючы аб тым, каб апошнюю выстаўку зрабіць маладой па каларыту, дыханні. Пачнецца 1957 год. Клопаты з выстаўкай запатрабуюць прыездаў у Маскву. Але там — куды? У Варатнікоўскім завулку няма ніводнага пакоя з нармальным нябесным святлом. Ці шмат дзён засталося жыць? Ці

можа хоць адзін дзень не пісаць? І ён піша ліст самаму моцнаму чалавеку краіны — Хрушчову. Просіць змяняць яго трохпакаёвую кватэру ў Варатнікоўскім завулку, дзе няма цэнтральнага ацяплення, святла, акрамя электрычнага, няма свайго туалета і ванны, на любую светлую кватэру ў Маскве, дзе можна было б паставіць мальберт. Ён аддасць і сваю майстэрню ў Чарнышоўскім завулку, куды хадзіць на працу ўжо няма сіл. Цяпер ён можа пісаць толькі ў сваёй кватэры.

Чакае адказу на ліст месяц за месяцам. Самы моцны чалавек краіны не адказвае.

А неўзабаве...

У адзін з апошніх дзён чэрвеня 1957 года над Удомляй загавораць жалобныя званы Нікольскай царквы — якраз у хвіліну, калі з «Чайкі» вынесуць яе гаспадара, павязуць берагам возера праз Стан, Гарусава, Шамардзіно. У кожнай вёсцы працэсію будуць спыняць сяляне, развітваючыся з чалавекам, якога ведалі і любілі, які прыйшоў сюды першым з сяброў, мастакоў-перадзвіжнікаў апошняй хвалі, і самым апошнім з іх пакідаў край. Ужо не было Сцяпанава, Багданава-Бельскага, Маравава. У сорак чацвёртым годзе ў Варшаве, у фашысцкім лагеры, закатаваны Станіслаў Жукоўскі. Толькі Вітольд Каятанавіч яшчэ пісаў, нібы за ўсіх сяброў, молада, як шэсцьдзесят гадоў назад.

Звон Нікольскай царквы падхопіць Троіца — яшчэ прыпынак для развітання з краем, з магілкаю Любы.

Далей дарога павядзе на станцыю Удомля.

У апошнія гады за апантанай працай Вітольд Каятанавіч не паспее выказаць сваю волю, выбраць два апошнія метры зямлі, і гэта за яго зробяць сябры, сваякі.

Ад Троіцкай царквы, ад магілы дачкі, побач з якой некалі, паміраючы першы раз, хацеў быць пахаваны, дарога павядзе ў Маскву, на Новадзявочыя могілкі.

Тут можна было б і закончыць аповесць жыцця жывапісца і паляўнічага Вітольда Каятанавіча Бялыніцкага-Бірулі. Але наш герой не любіў сумных апошніх акордаў. Кожны раз, перш чым выцерці пэндзлі ў канцы яшчэ аднаго пражытага дня, а выціраў іх часта аб сваю рабочую куртку, падобную на палітру, ён нейкі час углядаўся ў новы пейзаж і клаў апошні мазок, які заўсёды быў светлым. Жывапісец дзіўна тонкіх настрояў, ён ведаў, што жыццю амаль заўсёды не стае адной кропелькі святла, яшчэ аднаго светлага праменьчыка, і пра гэта не забываў нават у цяжкія дні, у самую апошнюю хвіліну работы над кожным пейзажам.

Ён як бы і нам падказвае закончыць аповесць яго ўласным маленькім апавяданнем, надзіва светла напісаным незадоўга да свайго апошняга дня і названым —

## КІСЛЯЧЫХА

*— Цьфу! Няма на вас ні здыхаты, ні праклёну! Д'ябал вас тут носіць! Траву мняце*

*Гэтак вітала нас Кіслячыха з вёскі Вашывая Горка, косячы ўскрай махавога балота*

*— Шмель! — звярнуўся я да свайго спадарожніка.— Чаму Кіслячыха гэтакая злосная*

*— І не кажы, браток. Не баба — вядзьмарка! Усіх склубіць, усіх абгаворыць. І ўжо, даруй божа, колькі разоў яе білі. Да смерці ніяк не заб'юць — жыве, усіх бэсцячы, нікому не даючы праходу. Нават сыны родныя колькі разоў збіраліся біць, даруй божа, а яна ўсё жыве. У вёсцы што ні сходка, то і бойка з-за Кіслячыхі. Як на золаку ўставаць не трэба, яна абавязкова пабудзіць. Альбо лаецца, альбо лямантуе*

*Я да яе прыгледзеўся: маленькая, нос — смарчком, вочкі — мышыныя, рот — вялізны, гаворыць з хрыпатком:*

*— Можа, малачка папіць жадаеце?*

*Падзякаваўшы, ад малака адмовіліся. Пайшлі далей. І тут Шмель занепакоіўся:*

*— Кепска, што мы яе сустрэлі. Лепш павярнуць назад. Вока ў яе злое, шчасця не будзе*

*— Ну, Фёдар, дарэмна ты ў гэта верыш,— супакойваю я Шмеля*

*— А ты, браток, спытай у дзядзькі Якава Качаноўскага, як мы з ім лісіц абкладалі і як у той дзень сустрэлі Кіслячыху. Верыш ці не, але за ўсю зіму нічога не забілі. Што не бацнеш — уцякае. І хоць ты плач! Ля доўгай пусткі, ужо як блізка лісіца набегла, бацнуў, а яна хоць табе што — вочы вырачыла, глядзіць*

*Падыходзім да Алушкінага моху. Сабака спыніўся ў густым брусʼнічніку. Я зняў з пляча стрэльбу. Падняўся вывадак белых курапатак. Я стрэліў. Дзве птушачкі камячкамі зваліліся на зямлю. Адна білася белаватымі крыльцамі, заціхаючы. Падышоў да яе, узяў у рукі. У птушыных вачах адбіваліся лес і неба*

*— Ну, кладзі ў сетку,— сказаў Шмель.— Будзем тут іх шарыць*

*Я хацеў зарадзіць стрэльбу, гляджу — няма левага курка. Што за ліха! Згубіў*

*— Кіслячыха зрабіла сваю справу,— услых падумаў я і ўсміхнуўся.*

*— Вяртаемся назад,— змрочна адказаў Шмель*

*Ледзь ён замоўк, як сабака з енкам адскочыў ад купіны і ўзняў лапу. Пад купінай была змяя*

*— Ну, цяпер ты верыш? А то — няверка. Будзеш ведаць Кіслячыху,— казаў Шмель.— Цяпер, браток, сваю стрэльбачку аддай Якаву ў лазню. Хай ён яе дымам пракурыць, замову зробіць. А не — дык і выкінеш зусім*

*Здарэнне з сабакам прымусіла нас закончыць паляванне. Узялі ў вёсцы падводу і паехалі дадому. Шмель усю дарогу бурчаў, пляваўся*

*Праязджаючы палеткамі Пенькіна, мы заўважылі чародку дзікіх галубоў, віцютняў. Шмель кінуў лейцы і пайшоў скрадваць. Вось ён выпаўзае з-за мяжы, падбіраецца да птушак усё бліжэй. Воблачка дыму — стрэл. Чародка падымаецца і ляціць у поўным сваім складзе*

*Шмель стаіць з разяўленым ротам, глядзіць наўздагон галубам і зноў лае Кіслячыху*

*Мяне душыць рогат*

*— Пачакай, яшчэ ты пазнаеш Кіслячыху,— падышоўшы, злосна кажа Шмель*

*Селі на падводу, едзем далей*

*Праехалі млын, падымаемся на гару. У глыбокай каляіне загрузла кола. Саскокваем з драбін, прытрымліваючы сабаку, які ляжыць і стогне ад болю ўназе, апухлай ад моцнага змяінага ўкусу. З пярэдняга кола пачынаюць вывальвацца спіцы, і воз бездапаможна кладзецца на левы бок*

*— Ну, што? Ты — вучоны, а я — валнуха? — ускліквае Шмель.— Па-твойму, вока тут ні пры чым? А глядзі, што толькі не нарабіла праклятая Кіслячыха! Сустрэнься яна мне зараз — так бы і ўхрастаў вядзьмарку са стрэльбы*

*Плюючыся, скінуўшы з галавы шапку, Шмель падсоўвае жэрдку пад зламанае кола*

*Вечарэе. Сярпок маладога месіка выскачыў з разарванага воблака, адбіўся ў люстры возера. Над намі са свістам праносяцца на кармёжку качкі*

*Мы шлёпаем побач з падводай*

*Шмель моўчкі перастаўляе вялізныя цяжкія боты, чмокаючы, падганяе каня. Я пасміхаюся, пазіраючы на Шмеля*

* * *

Тут мы і развітаемся з Вітольдам Каятанавічам. Бо развітацца з ім трэба — з жывым.

Ён пайшоў ды пайшоў сабе са Шмелем пад маладым месячыкам, які павіс на шэрай восеньскай аблачыне, пашлёпаў хоць і халоднай гразёю, але з цёплай усмешкай. А мы, застаўшыся там, дзе быў і ён, будзем зноў ды зноў углядацца ў непаўторныя пейзажы яго паляўнічых дарог, чуць яго да ўсіх нас голас:

*Не адбірайце ў чалавека радасць*

Гэтак ён аднойчы сказаў, думаючы аб радасці жыцця ў прыродзе, і думку пакінуў у запаветным сшытачку. Гэтаму яго вучылі любімыя настаўнікі, вучыла жыццё. Гэтаму ён вучыў і вучыць усіх нас.

## СУПРАЦЬ НЕБА — НА ЗЯМЛІ

У Ходарава, сваю вёску, Іван Калядка прыехаў ноччу, блізка да першых пеўняў.

З цягніка ў Магілёве ён сышоў познім вечарам, калі аўтобусы ў яго бок ужо не ішлі, ды пашанцавала — злавіў начнога таксіста. Гнаць за паўсотню кіламетраў той адмовіўся, а за горад падкінуў, і там, у полі, Калядка галасаваў, пакуль не спыніў спадарожную машыну. Пажылы шафёр уважыў, прывёз аж у вёску, хоць ламачына-самазвал, нават парожні, ледзь поўз. І грошы, дзівак, не ўзяў. Закурылі, пацiснулі адзін аднаму рукі, і машына вярнулася на асфальт, а Калядка дзе з кабіны вылез, там, на родненькай вуліцы, і стаяў з лёгкім салдацкім чамаданчыкам, цяжка абсунуўшыся плячыма на новенькія варанёныя мыліцы.

Ні ў воднай хаце агню не было, вёска спала, і гэта суцяшала, бо яшчэ ў Ташкенце, у шпіталі, уяўляючы, як вернецца ў вёску, хацеў, каб гэта здарылася ноччу, абавязкова ноччу, і каб сустрэлі сабакі, адны сабакі. Яны — хай пазнаюць. І хоць прыехаў ноччу, не ўсё атрымалася, як уяўляў: сабакі не брахалі. Такой бяды. Але здзівіла, што ніводны дварняк не пачуў самазвала, як ён грымеў, падгопваў на катавінах, ніводны не пачуў ні яго, Іванавага, голасу, ні голасу чужога шафёра, як яны гаманілі, прыкурваючы ад афганскай запальнічкі. Ці ў вёсцы не стала сабак? Быць не магло. Чым Ходарава заўсёды славілася, дык гэта сабакамі. Тут не вадзілася ніводнай стрэльбы, нават іржавай куркоўкі, ніхто не паляваў ні звера, ні птушкі, не было ў вёсцы ні лаек, ні ганчакоў, але гультаяватыя дварнякі вылежваліся ля кожнага ганка — звягі хапала. Таму і здзівіўся. У нейкі момант здалося, што не ў сваю вёску трапіў. Пазнаваў

і пазнаць не мог. Хаты як быццам знаёмыя, ды цішыня — якой у Ходараве не чуў зроду.

Густа, з усіх бакоў, цвілі сады. Вішні ды слівы ўжо адцвіталі, але яблыні абсыпаліся самай квеценню, ад якой ноч, здавалася, спачывала ў святле пражытага дня. Нават шыбы ў вокнах белым блішчэлі, усё роўна як хаты парасчынялі вокны і ў іх калыхаліся белыя гардзіны. Дождж прайшоў звечара — і там, дзе Калядка ехаў, за вокнамі вагона, і тут, у вёсцы, па якой стаялі лужыны,— у паветры парыла, зноў ці не на дождж, і гэтая начная цяплынь таксама, як духмяная белізна, давала адчуванне дня. Здалося, што хаты не спяць, што за кожным акном стаяць людзі, што яны, схаваныя прыцемкам і белым бляскам, глядзяць на яго ды маўчаць, як маўчаць сабакі ў дварах. Калядка адарваў мыліцы ад зямлі, зрабіў пяць крокаў — зноў спыніўся.

Ён не адразу заўважыў, што стаіць пад гонкімі вішнямі Капасёвай Ганначкі. Жыла-расла дзяўчынка побач, праз два шнуры яблынь ды праз два прагоны бульбы, за плотам у дзве жардзінкі, скакала-бегала, ён яе як дзяўчыну, сабе раўню, не заўважаў, а ў апошнюю вясну, калі ішоў у армію, заўважыў і здзівіўся, якая слаўная Ганначка, як яна адразу, за адну вясну, сонейкам налілася. І панёс у сэрцы не то боль, не то радасць, пакутлівую трывогу, тлумачэння якой не ведаў і не шукаў з прычыны зялёнае маладосці. Цяпер падумаў: не заўважаў, жывучы побач, а нехта ж высачыць з-за лясоў, з-за нівак. Можа, нехта ўжо высачыў? Занепакоіўся — няўжо? Дзе яна цяпер? У вёсцы ці ў горадзе? Працуе ці вучыцца? Тут, у Ходараве, якая вучоба, якая праца? Нават школы сваёй няма, хадзілі за тры вярсты ў Лукам'е. Вёска малая, трухлявая, ледзь не кожным калочкам на клады глядзіць. Неперспектыўная, як кажуць. Дык ці тут ёй, Ганначцы, месца? Мабыць жа, у горадзе?

З гэтымі думкамі і пастаяў, і да сваёй хаты дайшоў.

Два акны ў гародчык, дзе цвіў, моцна пахнучы, белы бэз, былі таксама, як па ўсёй вёсцы, белыя, нібыта і ў вокнах цвіў бэз. А хата — чорная. Ад дажджу, макраты. Студня пад вокнамі. Зрубчык нізкі, у зямлю праваліўся, але новы вяночак зверху ляжаў, свяціў, і стрэшка над ім новая. Ці не дзед змайстраваў? Ланцуг на калаўроце блішчэў. Іван падышоў да варотаў, бразнуў клямкаю і адразу зірнуў у бок суседавай хаты, усё роўна як чакаў, каб з хаты выйшла Ганначка. Ціха і там, ціха і тут. Паляскатаў мацней — ціха. У хаце — нікога? Дзе ж старыя? Праз штыкет гародчыка мыліцай дацягнуўся да акна, саўгануў у раму — шыбкі

звякнулі, а далей — ні гуку. І ў хаце, і на ўсёй вуліцы. Ужо на гэтакі бразгат, бывала, ні ў адным двары сабака, нават самы гультай, не змоўчыць, падасць голас. А то...

Падышоў да калодзежа, выцягнуў вядро вады і доўга піў набгом, прыхлёбваючы, з успамінам, як у вагоне шукаў, дзе б напіцца, сноўдаў па вакзалах, перонах — глытка вады не мог знайсці. Затое цяпер доўга не адрываўся ад вядра, ад вады — сцюдзёнай, чысцюткай, з нябеснымі зорачкамі і з белымі яблыневымі пялёсткамі. Ён іх, бялюткія, не здзьмухваў, п'ючы. Плылі ў рот, [redacted] ён, скасіўшы ўніз вочы, глядзеў на кожны, пасміхаўся, нібы дзіця, блазнуючы, піў ваду з імі разам.

Напіўшыся, зноў ляскатаў клямкаю, дзынкаў у шыбу, але ніхто яму не адгукаўся. Дзе яшчэ маглі начаваць старыя, як не ў сваёй хаце? Іх круг жыцця даўно сышоўся-замкнуўся на вёсцы. Ды і ведалі, што ён, Іван, едзе. Ліст напісаў з Ташкента, а тэлеграму даў следам з дарогі. Не атрымалі? Адчуўшы нешта чужое ў роднай вёсцы, зноў агледзеўся, як шукаючы вакол загадку свайго становішча, і раптам пасярод вуліцы заўважыў дзіўную істоту. Яна сядзела па-сабачы, бліскала жоўтым святлом вачэй, сама жаўтлявая, калматая, падобная на дварняка, [redacted] вушы — тарчма, нібы ў ваўка ці аўчаркі. І ні знаку жыцця: ні голасу, ні хоць бы аднаго якога руху. Можа, здань? Адкуль з'явілася, калі хвіліну назад вуліца была зусім пустая, нікога на ёй не было? Падняў з-пад ног цагліну, шыбануў. Істота не варухнулася.

Калядка падышоў да плота, пралез паміж жардзін на агарод, засеяны бульбай, якая яшчэ не ўзыходзіла, абышоў па мяжы хлеў і лазню, адкінуў кручок на фортцы — зайшоў на двор з тылу.

На сенечных дзвярах вісеў замок.

Недзе грукнула. Не ў сенцах, не ў хаце — у лазні? Кот мышэй ганяў — свой ці чужы? А што ў лазні катам ды мышам рабіць? Не свіран, не хлеў, не клець — які наедак мышам? Можа, леташнія венікі?

Пасярод двара стаяла дубовая калода, і Калядка сеў на яе, дастаў з кішэні круглы кітайскі ліхтарык, пасвяціў вакол па двары. Двор быў надзіва чысты, зарослы травою, гразі ні следу, усё роўна як па двары даўно не хадзілі ні кабаны, ні куры, ні карова. Нават будка сабачая зарасла маладой крапівою ды свінарэем. Ціша і ў ёй, нібы ў труне. Дзе ж Сумёт? Няўжо здох? Сабака быў стары, з ім Калядка яшчэ малы ў школу бегаў, запрагаў у санкі. Можа, і здох, сваё

адбрахаўшы. Светануў далей, у акенца лазні. Ледзь прамянёк лізнуў шыбку, як за ёю грукнула, быццам штосьці на падлогу звалілася. Ад промня? Усхапіўся з калоды на мыліцы, падскочыў да дзвярэй, пачаў ляскатаць. Там хтосьці дыхаў, але не адчыняў. Хаваўся? Падхапіў на плячо драбіну, якая ляжала пад плотам, прыставіў да франтона, з адной мыліцай падняўся на гарышча.

Столь яны з дзедам уцяплялі пяском ды мохам, але над прымыльнікам дошкі клалі голыя, нават не прыбіваючы, каб праз шчыліны выходзіла пара. Падняў дошчыну, побач — другую, пастаяў над дзіркаю, слухаючы, можа, яшчэ які гук зловіць, і, не пачуўшы нічога, акрамя нейкага як быццам знаёмага смуроду, ніякага гуку, звесіўся на руках у дзірку, намацаў нагою падлогу — бліснуў ліхтарыкам. У прымыльніку — нікога. Адчыніў дзверы ў парылку — бліснуў туды. Святло слізганула па печы, палку, лаўцы з тазамі і выхапіла з цемені чалавека — жывога: галава вялізная, сівая, на вачах круглыя шкельцы акуляраў. Той жмурыўся ад святла, шырока, нібы рыбіна ў прыдуху, разяўляў рот, намагаўся сказаць ці крыкнуць і не мог, а побач з ім старая, прыціснуўшыся да старога, за ягоным плячом хавала ад святла твар.

— Дзед Панкрат — ты? Баба Кланя?

Ліхтарык пагас. Калядка аберуч схапіў старых, быццам малых, прыціснуў абаіх да сябе і лбом, носам, вуснамі шукаючы ўпоцемку твары, тыцкаўся ў галовы і цалаваў, чуючы, што твары іх ужо гарачыя і мокрыя.

Старая вохкала, хлюпала носам, а стары, лапаючы ўнука за плечы, спіну, галаву, пытаўся:

— Няўжо гэта ты, Іван?.. Чаго ж ты тутака?..

— Ну... я гэта, дзед Панкрат. Я ж вам пісаў, што еду. Вы не атрымалі майго ліста? Тэлеграмы не атрымалі?

— Ды атрымалі, Іванка,— шаптала старая слабенькім і дрыготкім, як ад страху страціўшы апошнія сілы, галасам.— Усё атрымалі. Кіно гэтакае не чакалі.

— А чаго ж вы тут?.. Не мыецеся, а ў лазні. Хаты мала?

— А на машыне, можа, ты пад'ехаў? Машына гула.

— Я... на самазвале.

— Ну во, баба!.. — уз'рыўся стары.— Я табе што казаў? Я і казаў: ці не Іван? А ты мне — што? Міліцыян, можа?.. Вось дык сустрэлі!..

— А бо-жа мо-ой!.. — залямантавала старая, быццам тое, што сказаў стары, да яе нарэшце дайшло.

Калядка зноў уключыў ліхтарык.

Акенца было завешана шэрай коўдраю, у куце на падлозе гарэў керагаз, на ім стаяла выварка, накрытая тазам, а з-пад таза ва ўсе бакі пырскала тая самая смярдзючая пара, якую ён пачуў яшчэ на гарышчы. Здагадаўся:

— У самагоншчыкі запісаліся?

Старыя прымоўклі, нібы перад тым міліцыянам, ад якога хаваліся, хоць спытаў Калядка больш са здзіўленнем, як з асуджэннем. Дзеду Панкрату ўсё роўна як зрабілася брыдка перад унукам — кінуўся апраўдвацца:

— А хто ж з вайны сустракае без кроплі пякучкі? Калі гэтакае чуў ці бачыў? Ці мы нехрысці? Людзі прыйдуць у хату павітацца. Не нальеш — асудзяць. Каму дакажаш, што няма дзе купіць?

Старой гэтыя апраўданні не спадабаліся:

— Ды кінь ты... Пайшлі, можа, у хату?..

— Бровар зачыняем? — спытаў Іван.

— Ліха з ім, хай смярдзіць. Агонь, баба, збаў.

Стары адступіў ад парога, прапускаючы ўнука наперад, той крутануўся на адной назе, выставіў мыліцу за парог, выскачыў з прымыльніка на двор, і там, пасярод двара, асветленага зорным небам і белым садам, апынуўшыся ў нечаканым святле каля дубовай калоды, на якой стаяў чамаданчык і ляжала другая мыліца, збянтэжыўся, усё роўна як голага вывелі на святло.

— А бо-жань-ка-а!.. — схапілася за галаву старая.— Што ж гэта яны з табою, Іванка, зрабілі?!

Калядка ўзяў яе за плечы, прытуліў да сябе, глушачы лямант у сваёй мяккай фланелевай куртцы, у якую тварам сунулася баба Кланя. Куртка была шырокая, з мноствам рамянькоў, замкоў, кішэнек, аборак, купляў яе ў Ташкенце на рынку, як выйшаў са шпіталя, убачыўшы, што да мыліц нішто вайсковае не пасавала, і, можа, гэтая вопратка таксама бянтэжыла бабулю — пэўна ж, чакала ўнука пры лычках ды бляшках, у форме, як з арміі ўсе вяртаюцца.

— Сціхні, баба,— адцягваў яе ад унука стары.— Жылі і жыць будзем. Сорак першы адужалі. І сорак пяты. Без ног ды без рук вярталіся праз аднаго. А жывём?.. І вёску адбудавалі, і дзяцей панараджалі...

У штодзённым жыцці старая хоць пакрыквала на старога, яго ўлада была большая, бо ішла ад спакою, разважлівага слова, перад якім яна замаўкала. І цяпер, калі пачаў разважаць, аціхла на грудзях унука, далонню выцерла твар і ўжо сама, адхінуўшыся ад яго, не па-дурному разважыла:

— Ты сядзь, Іванка. Стаміўся нябось.

Яны сядзелі пад сенечнымі дзвярыма на ганачку — унук пасярэдзіне, старыя абапал,— пад замком на дзвярах, які здзіўляў Калядку. Не вытрымаў, спытаў, з якога часу на сенцы з двара замок вешаюць. Баба Кланя нечакана павесялела:

— А гэта ж, Іванка, ад міліцыяна. Хаваемся, як, бывала, ад немца. Той самы страх. Хоць табе, бачу, смешна.

Смеху сапраўды было болей, як бяды, бо Іван усё роўна не зразумеў, навошта замок на сенцах, калі з вываркаю хаваліся ў лазні, але ўжо не дапытваўся, адно падумаў, што дзед замок не павесіць, выдумка, пэўна ж, запалоханай бабы Клані.

— А дзе Сумёт? Няўжо здох?

— Ды як быццам жывы. І як быццам няма,— мудрагеліста адказаў дзед Панкрат.

— Як гэта?

— А я ж табе, Іванка, пісала, пра нашу бяду,— прыгадала свой адзіны за два гады ліст баба Кланя. Лістамі яна, як і стары, не сыпала, бо літары ў яе слове былі падобныя на зубы ў гнілым роце, сама свае пісаніны саромелася, хоць аднойчы, на першым годзе ўнукавай службы, як дужа спатрэбілася, набралася смеласці, напісала.— Ці помніш?

— Помню, бабуля. Пра радыяцыю? Але ж у тым лісце ні слова не было пра Сумёта. Ты пісала, што Бочка аднекуль прывалок у вёску стрэльбу, сабак страляе. А пра Сумёта — ні слова. Ці ён і Сумёта забіў?

— Бочка страляў спачатку тых, каторыя па вёсцы бадзяліся. Казаў, што ёсць загад страляць, каб заразу не падбіралі, не разносілі. А пасля пайшоў па дварах. Хоць у будцы, на ланцугу, а не пашкадуе, пакладзе. Свайго сабаку, сам ведаеш, кожнаму шкода. Людзі і пачалі з ланцугоў спускаць. А яны, апошнія, ужо ведалі, што Бочка на іх палюе. Як з двара — дык і ў лес. Каторыя самі пазрываліся. А лес парабіў іх ваўкамі.

Дзед Панкрат, слухаючы, абурыўся:

— Якімі ваўкамі, баба? Сабаку воўкам не зробіш, калі сабака. Падзічэлі ў лесе. Галодныя, а ў вёску не ідуць. Падыдуць блізка і выюць, як ваўкі.

Старая змоўчала і патэпала ў лазню да керагаза, а яны, мужчыны, зайшлі ў хату. Як толькі стары ўключыў святло, Калядка адразу заўважыў, што яго тут чакалі. Звычайна яшчэ ў зальчыку блюлі парадак, усё ці амаль усё ляжала і стаяла на сваіх месцах, а тут, ля печы ды ля парога, як у кожнай гаспадарцы, і чыгуны, і вёдры, і дровы, падлога

вечна брудная, фарбуй ці не фарбуй, гальнём шараваць не паспявалі, гразь як сама з двара плыла і плыла, асабліва ў дождж, у халепу, абы-што і абы-як вечна параскідана па лаўках, стале, падаконніку, з печы віселі транты. А то і падлога жоўценькая, нібы яечка, чыстым ходнічкам засланая, і ніякага шуруму-буруму на лаўках, ля печы ні чыгуноў, ні вёдзер, як і не вёска, як у хляве няма каго паіць ды карміць, печ быццам нядаўна пабеленая, з чыстай квяцістай шырмачкаю над пячуркамі, з якіх нішто не вісіць, не тырчыць, ніякіх нідзе ануч, трантаў. І нават партрэт яго над сталом. Здымаўся летась у палявой форме дэсантніка. Вось — падумаў — гэтакага баба Кланя яго чакала.

Селі за стол, засланы старой, але чысценькай, палапленай на рагах цыратаю,— адзін супраць другога.

— Адваяваўся, значыць, сынок? — Дзед Панкрат і раней называў унука сынком, што было справядліва, бо даражэйшага чалавека, як Іван, у старых не было. Ён гэта заўсёды памятаў.— А мы тут цябе, атрымаўшы ліст, кожны дзень чакалі. Старая на дні сто разоў бегала на шлях, хто ідзе ці едзе, пыталася: там Іванку майго не бачылі? А сустрэлі?..

Дзіўна было і Калядку:

— Ніколі б не падумаў, што мае старыя ведаюць, як яе, зладзейку, рабіць. І хто вас навучыў?

— Жыццё, галубок, навучыць.

Дзед Панкрат ціхі, лішняга каліва, колькі жыў, не ўзяў, яму як ёсць — люба, супраць сумлення ды закону не ішоў ні ў малым, ні ў вялікім. І вось гэтакі чалавек сядзеў перад родным унукам, хаваючы вочы, тручы пальцамі шкельцы ў акулярах, якія і раней, калі хваляваўся, мутнелі ад поту. Сам ведаў, што не ў сваё карыта ўсунуўся, але штрафнікам сябе не лічыў.

— Як атрымалася? Твой ліст падагнаў. Кінуўся я ў краму — як ні круці, а ў хаце свята, сынок з вайны вяртаецца? Да крамы пяць вёрст — прыбег першы. Яна, з гарэлкай, адна на сельсавет, мужыкі ды бабы плывуць з усіх вёсак, з горада, бо і ў горадзе не дужа купіш — нейкі ліміт прыдумалі, як раней на хлеб. А краму адчынілі — пайшлі па галовах. Бугаі ды шпікулянты хапаюць скрынямі, а табе, старому, ніякага подступу. Тры дні хадзіў — усё паражняком. Падказалі чалавека на хутары. Прыйшоў. Наліў ён мне каністрачку, у якой ты ваду браў на трактар. Гарэлка, вядома, свайго заводу. Прынёс у хату, а следам участковы з панятымі. Мне людзі пасля сказалі, што хутаранца яны не бяруць, берагуць, самі ў яго пасуцца, а бяруць тых, хто ў яго

купляе. Штрафу прыпаялі ды яшчэ маёй гарэлкай зямлю напаілі. А тут бульбу садзіць. Я ў калгасную кантору па каня, а мне кажуць — самагоншчык. Я да Бочкі: ты ж мяне ведаеш — ці я самагоншчык? А ён, хоць сусед, тое самае: не паложана — штрафнік. Я да старшыні...

— А Бочка які начальнік?

— Брыгадзір.

— А старшыня — хто? Бабуля пісала, што новы?

— Ананіч. Аднекуль прыехаў.

— І што гэты Ананіч?

— А тое самае. Што пайшоў супраціў закону. А калі супраціўнік, кажа, дык запрагай, дзед, сваю бабу.

— Гэтак сказаў?.. Ну а ты?.. Ты яму — што?..

— А я — не ўлада. Павалокся шукаць хамут на бабу.

Іван аж падскочыў з лаўкі:

— Ды ты што кажаш, дзед Панкрат?.. Ты?..

— А што было, галубок, тое і кажу. Прыйшоў я ў райком да самага першага. Сяджу ў прымыльнічку. Людзі сядзяць. Ён, першы, да нас з кабінеціка выйшаў. Як я сядзеў бліжэй да дзвярэй, ён у мяне і запытаў адразу — з чым прыйшоў? Так і так — хамут шукаю. Ці ў райкоме, кажа, хамуты прадаюць? Дык нідзе, кажу, не прадаюць, а бульбачку садзіць трэба. Адышоў ад мяне, як ад дурня, да наступнага чалавечка, але зноў вярнуўся, усё роўна як я яму дужа моцную скабку загнаў. Конь, пытаецца, ёсць? Кабыла, кажу, ёсць, а хамута, які на маю кабылу трэба, няма. А які ж табе трэба? Трэба, кажу, хамут на бабу. Ён рот разявіў — зачыніць не можа. Я змікіціў, як пасобіць, тлумачу, што Ананіч, старшыня, даў каманду, каб запрагаў бабу. Ён за тэлефончык — накручвае Ананічу. Праўда, пытаецца, што ты там старых баб у плуг запрагаеш? І давай чысціць. А потым — мне: вяртайся, дзед, у вёску, і каб больш гэтак не жартаваў, бо твае жарты падрываюць савецкую ўласць. Вярнуўся я ў вёску, гляджу і вачам не веру: стаіць ля маіх варот белы конь, гладкі, чысты, аж блішчыць, якраз пану для выездаў, хоць і запрэжаны не ў панскую карэту, а ў захлюпаныя драбіны. На драбінах — плуг з ворчыкам. Быццам у той казцы, якую ты, Іван, малым, калі ў школу бегаў, любіў чытаць дзеду і бабе. Не забыў? Пра канька-гарбунка?..

На душы зноў пасвятлела. Ад дзедавага ўспаміну, ад таго, што дурата з хамутом знайшла неблагі канец. Нават радочкі пад настрой успомніліся:

— Кобылица та была вся, как зимний снег, бела, грива в землю, золотая, ■ мелки кольца завитая...

Загаварыўшыся, не заўважылі, як на парозе з'явілася старая, аберуч трымаючы перад сабою абгорнуты анучкаю слоік. Стаяла ды слухала. Калі ж Іван, а за ім і дзед Панкрат зірнулі на дзверы, заўважылі, яна падышла, паставіла на стол паміж імі слоік, строга паглядзела на свайго Панкрата. Той здагадаўся, што яна чула іхнія казкі, ад пачутага ўзлавалася — рукі да слоіка:

— Бач, з дымком. Наша баба — золатца.

Іван з другога боку працягнуў рукі да слоіка:

— Гарачанькая?..

Ліслівае пахвальбы ў свой бок старая не прызнала. З анучкай у руках спакойна пазірала на аднаго, на другога, а потым сказала тое, што думала:

— Ты, стары, калі пачаў пра свае геройствы, дык пакажы ўнучаку, як тая белая кабылка ў цябе на спіне распісалася. Ну?..

Наступ быў для дзеда поўнай нечаканасцю:

— Ды я... Ды што мы?.. Іван не ведае нашай жыткі?.. Хай пра сябе раскажа, як з тымі душманамі?..

Ды старая і на гэтыя яго хітрыкі не клюнула:

— Іван раскажа. А ты, калі пачаў, круці да канца. Каб усё папраўдзе і да канца, як ты любіш казаць. Ну?..

Дзед Панкрат насупіўся і маўчаў, галаву ўтуліўшы ў плечы, нібы хворы ці пашкуматаны навальніцаю верабей, пакрыўджанымі вочкамі лыпаў то на старую, то на ўнука, усё роўна як сам зразумеў, што ўладу здаў і пакорліва чакаў літасці. Але гэтак толькі на момант здалося Івану. Можа, нават самой бабе Клані. Раптам, як прачнуўшыся, стары рашуча адсунуў ад сябе слоік з гарэлкаю, усхапіўся на ногі, упёрся кулакамі ў стол і скамандаваў, нібыта войску:

— Спаць!.. Пара, баба, спаць!..

І адбылася яшчэ адна нечаканасць — яна разгубілася:

— Ну дык... кладзіся, ці што?..

Іван ляжаў у топкіх пярынах ды падушках на канапе ў зальчыку галавою ў кут, дзе вісела любімая бабіна ікона Міколы-цудатворца і святога боскага ўгодніка. За ікону баба Кланя засоўвала пукі валошак, рамонку, купалля, пазней — жытнія каласкі, і травамі ў пакоі, нібы ў сянніцы, пахла заўсёды, нават зімою. Пахла і цяпер, асабліва моцна — мятаю. У гэтакай мяккай ды чыстай пасцелі Іван даўно не ляжаў, а заснуць не мог. Спачатку думаў пра тыя травы, успамінаў іх жывыя пахі, потым стала душна, і ён вылез з-пад коўдры, адчыніў палавінку акна на вуліцу. Пасядзеўшы, лёг, і тады здалося, што побач з уцалелай

левай нагою ляжыць правая. Рукою шарыў у тым месцы, нічога не намацаў, супакоіўся, але праз якую хвіліну зноў здалося, што правая, якую толькі што шукаў і не знайшоў, ные, як пасля доўгай цяжкой дарогі, што на ёй свярбяць усе пальчыкі, быццам даўно не мытыя, і ён сеў, адкінуў коўдру, як паверыўшы ў цуд. А потым ляжаў, глядзеў у столь і думаў пра вёску. Хто ў ёй цяпер жыве, хто яе за апошнія два гады пакінуў? Бочка ці не самы малады? Яшчэ — Капасі. Вось і ён, Калядка, вярнуўся. Ці надоўга? Як служыў, думаў, што вёска не затрымае, жыццё трэба ладаваць у горадзе, не ўдасца ў вялікім, дык хоць у райцэнтры. Усе ў арміі, хто з вёскі, мараць пра горад. А пазней, у шпіталі, зразумеў, што не яму пра горад думаць, што гэтакага, на адной назе, горад не прыме, калі за яго і зачэпішся — як жыць у ім сярод чужых людзей? На дзвюх нагах — адна жытка, на адной — другая. Трэба вяртацца ў вёску, да дзеда і бабы, там хоць хата свая, людзі свае, зразумеюць і пасобяць, родныя сцежкі, палі, лясы. На трактар не сядзеш? Але ж нейкая работа знойдзецца. Можа, Ганначка працуе ў калгасе? Карцела спытаць пра яе ў старых, ды яны ўжо, відаць, спалі. А тым часам у акне світала — зноў падумаў: чаму пеўні маўчаць? Ляжаў — прыслухоўваўся: дзе тыя кураччыны кавалеры? Пачуў — плакала баба Кланя. Ціха, глуха, у падушку. А што дзед? Заснуў — не чуе? Раней спаў з лёгкім храпам, з прысвістам. Можа, не спіць, маўчыць? Чаму ж не суцешыць бабу Кланю? Івану не было нічога балючай, як бабуліны слёзы, і ён нясмела, не ўпэўнены, што нехта адкажа, на ўсякі выпадак спытаў пра пеўняў.

Баба Кланя кінула плакаць, заціхла. Голас пачуўся дзедаў:

— Няма пеўняў. Нічога жывога. Пабралі кароў, свіней, авечак. Сказалі, што ад жывёлы зараза. Падбірае з зямлі радыяцыю.

І тады ціха, у лад дзеду і ночы, Іван спытаў:

— А што вы тут ясце? Ні свайго малака, ні яечка?

— А нам на кожную жывую душу даюць па трыццаць рублёў грабавых, каб з крамы карміліся.

— Грабавых?..

Іван ледзь вымавіў слова — замоўк, нібы косткаю падавіўся. Там, адкуль вярнуўся, трунаў набачыўся, але не мог падумаць, што той самай атрутаю ў першую ж ноч павее тут, у дзедавай ды бабінай хаце. Там — вайна, з бядою звыкся, баяўся, ці паразумеецца ўжо з мірнай вёскаю, ехаў, здавалася, з пекла ў рай, а што тут кажа дзед? Свой рай не цэ-

ніць? Забыўся, як на вайне? Можа, нагадаць? Не стрываў:

— Ведаеш, дзед Панкрат! Калі мы першы раз, яшчэ зайцы не абстраляныя, прыляцелі ў Кабул, выйшлі з самалёта, перад намі, на лётным полі, стаялі штабялі новенькіх цынкавых грабоў. Пад самае неба — бялюткія, блішчалі на сонцы. Крычаць хацелася: мы яшчэ жывыя, а вы тут ужо нас чакаеце?.. А як адтуль сюды ехаў, месца не знаходзіў ад думкі: вяртаюся, буду жыць, а цынк свой некаму пакідаю? Кагосьці іншага пакладуць у яго, у мой, такога маладога, як я, можа, майго сябра, які мяне, параненага, выносіў з бою?..

Не ўсё сказаў, што хацеў,— задыхнуўся. Маўчаў і стары. Заткнуўся са сваёй бядою? Але не — зноў:

— Яны нас, сынок, усюды чакаюць. Тут мы іх не бачым загадзя. Тут яны не блішчаць. Нашы драўляныя...

— Ну... не будзем!..

Іван сарваўся, крыкнуў, як загадаў, і цяпер ужо маўчалі доўга, нібы адмовіўшыся ад гэтай начной размовы, адчуўшы, што завялі не тую катрынку, што на сон можна б іншае ўспомніць, сказаць. Ці не пакрыўдзіўся дзед Панкрат? Чаго закрычаў раптам? Бабу Кланю, можа, спалохаў? Ціха, як апраўдваючыся, спытаў пра іншае:

— Ганулі Капасёва вучыцца ці працуе?..

Насцярожыўся: што стары падумае, як адкажа? Чаму раптам у той бок, за агароджу ў дзве жардзінкі, думкаю стрэльнуў?

Але ўжо баба Кланя лейцы перахапіла:

— Капасі яшчэ летась з'ехалі з Ходарава. Хату кінулі. Хароміна, самі будавалі, якую хацелі, а купца не знайшлося. Хто цяпер у Ходараве жыць кінецца? Замок на дзверы — паехалі. Яго ж, Капася, пагналі з партыі.

— Капася — з партыі?.. За што?..

— А за радыяцыю. Што бегчы надумаў. Сказалі, што дэзерцір. А ён мне, ад'язджаючы, так сказаў: не хачу, каб мае дзеткі жылі з грабавых. Тры дзяўчынкі...

— Во як!..

Гэта, апошняе, Івана зусім збянтэжыла. Нават не тое, што побач не было Ганначкі, ад чаго над вёскаю само сабою сцьмелі і сонейка, і месячык, збянтэжыла пачутае пра Капася, які рабіў у калгасе галоўным аграномам, зямлю ведаў і любіў, з рук яе, можна сказаць, не выпускаў. І за Ходарава трымаўся. Колькі зманьвалі ў раён, у вобласць, на высокія пасады, а вёскі не кінуў, нават у Лукам'е, цэнтр калгаса, не пераехаў, хоць там катэджык новенькі яго чакаў. Дочкі раслі хваравітыя, а тут, казаў, у Ходараве,

высокае месца, лугі мядовыя, дзяўчатак лечаць. Жывёлы развёў поўны двор, у садзе вуллякоў панаставіў. І ў калгасе рабіў, як цяпер мала хто робіць. Дарма хлеб не еў. А вось пагналі? Гэтага Іван не мог зразумець. Яму заўсёды здавалася, што Капась — камуніст з камуністаў. Ды і ўся вёска тое казала. На табе — дэзерцір. А ці тут якая вайна, што павінны быць дэзерціры? Дачок любіў, дрыжаў над кожнай? Дык і зямлю ж любіў? Ці гэтага мала?

Іван глядзеў у столь. Спаць не хацелася. Не мог заснуць, гэтакае пачуўшы. Быў звёў вочы, усё роўна як сон нарэшце падкраўся, а ў галаве мешанка з пражытага і на тым, пакінутым, беразе, і на гэтым, да якога вярнуўся. На бок лёг, расплюшчыў вочы — у акне ўбачыў раніцу, зусім ясную, хоць яшчэ не сонечную, засмужаную, шырокую зялёную вуліцу, суседаў хлевушок на тым баку вуліцы, бярозку над шыферным дахам. Здалося: вось нехта будзе ісці па вуліцы — вёска ж, пэўна, прачнулася? — і ён чалавека пазнае, здагадаецца, куды пайшоў, па што, як заўсёды здагадваўся, ведаючы, хто чым тут дыхае. Але хоць ляжаў на баку даўгавата, нікога ў акне не заўважыў, ніхто нікуды не ішоў, усё роўна як раніца з ім падманвалася і людзі яшчэ спалі. За хлявом убачыў чыйсьці чырвоны комін і ўжо сачыў, чакаў, калі ён пусціць дым у неба. Зноў не мог дачакацца — комін тырчаў, як пень мёртвы. Рана паліць у печах? Слухаў: ці варушацца там старыя? Нехта з іх пасопваў за шырмай, мабыць, дзед Панкрат. У гэтакі час звычайна баба Кланя ўжо рыпела дзвярыма, тупацела туды-сюды, за парог у сенцы і зноў у хату, налівала чыгуны, ставіла ў печ, а то ж і ў хаце ціха, як жывога нікога, ніякага клопату?

Іван падняўся. На падлозе ля галавы стаяў чамаданчык, і ён яго паклаў на канапу, адчыніў. Зверху ляжала шаўковая, у яркія кветкі хустка з доўгімі махрамі, якую купіў у Ташкенце на рынку бабе Клані на святы. Павесіў хустку на спінку крэсла, з чамадана дастаў цёплы шарсцяны світэр для дзеда Панкрата, каб у халады не мёрз, паклаў на падаконнік. Яшчэ старым вёз ласункі ўсходнія, пляшку каньяку, але гэтага пакуль не чапаў. Дастаў вайсковыя штаны, кіцель. Штаны прымяліся за дарогу, але ён іх надзеў, далонямі разгладзіў, падабраў правую калашыну, закалоў шпількаю, каб не вісела пустая. Кіцель таксама прасіў праса, але і яго, звякаючы медалямі, ускінуў на плечы. Глянуў на сябе ў люстэрка, якое ў авальнай багетавай раме здаўна вісела на сцяне ля канапы, яшчэ калі канапы не было,— вось, падумаў, якім баба Кланя чакала ўнука. Ну... не зусім такім,

Я спыніўся на рагу гастранома. Пад яго вітрынаю на асфальце расплылася лужынка крыві, побач з якою ляжала тоўстае зялёнае шклянне ад бутэлькі з-пад шампанскага. Жанчыны адна адной гаварылі, што ў продаж выкінулі віно і людзі за ім былі пазадушыліся. А я глядзеў на тую лужынку, на тое шклянне і думаў: ну, можа, і не забілі нікога, можа, толькі кроў адзін аднаму пусцілі, бо калі б каго не дай бог забілі, дык жанчыны і пра тое б не змоўчалі.

Я павярнуўся і пайшоў назад, да вальсаў Штрауса.

Злева ад мяне насустрач рушыў натоўп. Ідучы, я разглядаў яго і бачыў, што пажылыя жанчыны, як тады, сто гадоў назад, апраналіся, нібы маладыя, можа, яшчэ ярчэй, быццам зусім не змяніліся за ўсё гэтае стагоддзе, а маладыя апранутыя без ахвоты, вопратка на іх была як бы лішняя, матлялася непажаданымі ім самім шматкамі, а самі яны з большай ахвотаю, каб не розныя там старасвецкія норавы, хадзілі б зусім голыя. Як гэтыя дзве дзяўчынкі, што блíснулі кафейнай скураю ў мяне перад вачыма, на якіх вузенькія, нібы шнурочкі, плавачкі і штосьці на грудзях — не то кафцёнкі ўразлёт, не то адны ліфчыкі?

Але дзе генералы?.. Ніводнага?.. Пры Чэхаве было шмат — ён гэта заўважыў і сказаў. Іх не заўважыў Багдановіч? Быў іншы час? Вядома, 1917 год загнаў генералаў у акопы. Але ж і цяперашнім не да Ялты?..

Учора за вячэраю ў нашым літфондаўскім доме два паэты за маім столікам спрачаліся — будзе ці не будзе грамадзянская вайна? Ну хіба не дзівакі? Быццам яна, грамадзянская, не пачалася ў тым самым семнаццатым. Ці, можа, калі-небудзь скончылася?..

Аркестр іграе вальсы Штрауса. Ніхто не танцуе. Усе слухаюць і нешта думаюць. І я стаю ўскрай натоўпу, бліжэй да аркестра, слухаю музыку іншага, як гэты, свету, чароўна-лёгкую і ў чароўнай лёгкасці невыносна цяжкую нашаму перадінфарктнаму сэрцу. Сонца ўжо закацілася за Ай-Петры, астывае паветра, сінее мора, блякнуць далягляды, гасне неба, шарэе людскі рух на набярэжнай. У вокнах атэля «Арэанда» за сінімі, як глыбіня мора, шторамі загараюцца першыя агеньчыкі. Нешта залаценька-агнянае бліскае пад лаўкаю, на якой сядзіць першы шэраг аркестрантаў. Бліскаючы, перабягае з месца на месца. І выбягае на круг. Ліска? Ды вядома ж яна! Мордачка вастранькая, нібы ў лісы, хвост пушысценькі, тыя самыя вушкі, лапкі — уся рыжая, нібы агню купінка. Я паклікаў:

— Ліска?..

Сабачка закруціўся вакол свайго хваста, падбег да людзей і пайшоў па крузе, носам тыцкаючыся ў ногі, вынюхваючы свайго чалавека. Я зноў хацеў пазваць, ды агеньчык ужо знік паміж людскіх ног. Я перасек круг і заспяшаўся ў той самы бок. Аркестр іграў Штрауса.

Ліска бегла ўлукаткі па набярэжнай, падбягаючы да людзей, якія сядзелі на лавачках ці стаялі, ішлі ў той самы бок ці насустрач, абнюхвала сляды і ногі, кацілася далей і далей, і, хоць купінка рыжага агню была далёка відаць, я спяшаўся, каб не згубіць яе з вачэй. Ліска падбегла да атэля «Арэанда», паснавала ля самага ўвахода і зноў выбегла на набярэжную, пакацілася міма беласнежнага, з сінімі вокнамі атэля для багатых інвалютных турыстаў. Пакуль яна снавала ля ўвахода ў атэль, я амаль што яе нагнаў. Але дзе яна? Я спыніўся. Куды ісці? Насупраць высокі фарбаваны плот, за ім — малы дамочак. На другім паверсе ў акне гарыць святло. Ужо цёмна. Толькі цяпер я разумею, дзе апынуўся. Гэта ж вуліца Мікалаеўская, і тут стаяў дом нумар восем Марыі Цамко. І акно на другім паверсе — да мора. За акном, дзе святло, паміраў наш паэт. Святло слабое. Як тады? Свечка на кандэлябры. Кандэлябр на стале ці століку? Агеньчык матляецца. Яго ганяе марское паветра праз прачыненую фортку? Святло гуляе па шторах.

Але ці той дамок? Казалі, што таго ўжо няма. На тым месцы іншы? Ці на тым жа?

«...дом на гары, але да мора сажняў трыццаць — сорак». Гэтак паэт пісаў Пятру Гапановічу. А што? Трыццаць — сорак ад мора да свечачкі — якраз. І на гары. І яшчэ ў тым лісце: «...вокны на мора, цудоўная відаль, паўдня свеціць сонца, ёсць балкон, вакол дома сад і інш.» Садок ёсць і цяпер. І ўсё астатняе. Апроч балкона. Яшчэ і гэтае: «вокны на мора...». Акно ці вокны? На гэта можна не зважаць? Так. Ёсць акно, і ў ім святло — свечачка. На тым месцы, дзе і гарэла.

Але... чаму ніхто з іх, абодвух, не сказаў пра дзве хвоі? Старыя, з высознай кронаю, падобнай на паўкружжы парасонаў. Ім год па сто? Відаць, што болей. Тады — стаялі? І якраз насупраць ягоных вокан, паміж вокнамі і морам. Паэт не паспеў сказаць пра іх? Не паспеў. А Яму — проста не спатрэбілася. Навошта, калі не сказаў паэт?

Сцямнела ўмомант. Я сядзеў пад хвояй на камені і глядзеў на мора. Куточак быў зацішны, людзей — нікагусенькі, але за кустамі бліскаў ліхтарык. Потым ён бліскаў пад гарою. Зноў на гары, з другога боку. І раптам — голас:

— Стаяў і я на гэтай кручы... Га, старычок?.. Як цяпер

там у нас, на Сажы?.. На нашай кручы?.. Памятаеш?..

Я ўсхапіўся. Ён стаяў і побач, і воддаль. Па той бок ад хвоі, але вельмі блізкі быў голас. Глядзеў далёка ў мора, якое блішчэла святлом ад поўні ў небе. Строгі профіль задумліва-прыгожага твару графічна адбіваўся на фоне марскога бляску. І Ліска, Ягоная радасць, снавала ў нагах тым самым ліхтарыкам — пад поўняй блішчэла агнянае футра.

І яшчэ раз паўтарыў:

— Стаяў і я на гэтай кручы: бы звон быў дзень — каціўся Сож...

Той дзень я памятаў. Мы начавалі ў Лімені ў старога Ананія і раніцай, напіўшыся малака з хлебам, лугам прыйшлі пад дубы на пясчаную кручу. Сонца ўзнялося над лесам, над лугам, над рэчкаю, па Сажы ў высокіх берагах плыў разам з плынню густы, сонцам паланёны туман, і мы весела купаліся ў сцюдзёна-сонечнай рацэ пад бела-залацістай коўдраю туманоў, гонячы іх ад ліменскага берага, як блазны, рогатам і воклічамі: «Плывіце ў Сычын!.. Плывіце ў Сычын!..» І туманы плылі сонечнай ракою ў Сычын, дзе і Галуба-рэчанька, «прыгалубленая Сажом», і «Касю з Ясем на сенакосе», і «каня над рэчкаю іржанне». І тое, апошняе: «А ты даруй...» — было таксама. Пазней, калі быў ужо гэты верш. Мы ішлі ў Мінску берагам возера, і Ён мне сказаў: «А ты даруй...» І яшчэ — што верш пісаўся мне і ўсё ў ім наша, але Рыгор вельмі прасіў той верш, і Ён не мог яму адмовіць. І яшчэ Ён сказаў тады, на беразе возера: «А ты даруй... Я напішу табе лепшы вершык...»

Нам здавалася, што мы яшчэ доўга будзем ісці побач, што часу нам на ўсё хопіць, тым больш — на вершы.

— Ты, старычок, перадай Рыгору, каб ён вярнуў у вершык самы першы радок: «Стаяў і я...» Як у сіненькай кніжачцы. «Стаяў і я на гэтай кручы...»

Яго ўжо не было. Тое, апошняе, мне пачулася з неба. Ягоны голас быў ужо там, пад поўняй срэбра. А за Максімавай хвояй, дзе стаяў дагэтуль, вакол Ягоных слядоў круцілася Лісачка, і над ёю ў акне гарэла свечачка.

Чамусьці Ліску Ён з сабою не ўзяў. Яна разгублена снавала агняным ліхтарыкам і, два разы гаўкнуўшы ў бок мора, пабегла ад мяне берагам. Шукала Яго след?..

Я таксама пайшоў у той бок — за ліхтарыкам у сіняй ялцінскай ночы. Ішоў і чуў голас:

— Стаяў і я... і я... і я на кручы...

...і аддаляўся, і заставаўся са мною.

# БОГ З НАМІ

## СТАРОНКІ З ДЗЕННІКА

Снег, снег і снег.

Бела-бялюткае наваколле. Пароша лягла ўночы. Іскрыць, маладзенькая.

Неба чысцюткае. Ані пярыначкі хоць бы ад выпадковае аблачыны. Ужо і глыбокае, і блакітнае.

Зіма. Парыпваюць апошнія дні лютага.

Вясна!..

Сонейка. Яно доўга хавалася ад нас у сваім космасе, ці, можа, яго нехта недзе ад нас хаваў, але вось з-за нейкае там заслоны, як з палону, вырвалася і радуе, нібы ўпершыню.

І навокал такія самыя белыя і сонечныя: палеткі, пералескі, вёсачкі, масточкі, дарожкі, чалавечкі...

Як у Максіма Гарэцкага:

«Там пушча, там гай; там бор, там хмызняк; там балота з рэдкім лесам, там сыпучы пясок; вось — стужка вадзяная, вось — голы плех; вось — шэрстка нівы, і травы, вось — кучкі, хаткі...

О мой край! О мой шлях!»

А можа, усё гэта і вырвалася з яго вось тут, на гэтай самай дарозе, якою мы едзем у ягоную Малую Багацькаўку з Горак — ягоных таксама? Вось у гэтым полі?

Мы радыя, што едзем да яго. І дарога радая. І радуецца поле. І радуецца неба.

Нас вязе светлы і цёплы аўтобус. Нас шмат. Пісьменнікаў, мастакоў. Ёсць навукоўцы. Ёсць чыноўныя. Чыны.

Мы з Кудраўцом сядзім ля сонечнага акна і то размаўляем пра што-небудзь, то моўчкі радуемся хай сабе яшчэ зімоваму, але ўжо з вясновай усмешкаю дню. І ўся гэтая радасць не сама па сабе ў нас і навокал. Штосьці яшчэ яна абуджае, некуды кліча. Туды, дзе мы не былі, і туды нібыта, дзе ўжо былі.

Майму суседу згадалася, як аднойчы пагодлівы дзень выманіў яго з Мінска. Спыніў за горадам спадарожны грузавічок, залез у кузаў, а там саломка свежая. Улёгся ў ёй, духмянай, і пакаціў у далёкі раён да сяброў студэнцкае пары. Тая дарога запамяталася мацней як іншыя, больш камфартабельныя. Больш ці менш? Куды ўжо ехаць больш кам-

фортна, як у кузаве на свежай, з роднае ніўкі, саломе?

Нешта падобнае і я прыгадаў. Ціхую і цёплую ўкраінскую ноч. Як у Палтаве доўга і весела вячэраў з новымі сябрамі і як потым мне трэба было дабірацца да Днепрапятроўска, як мы шукалі туды транспарт, але было позна і ніякага транспарту не знаходзілася. На ўскраіне горада сябры пасадзілі мяне на спадарожны грузавік, і я паехаў. У кузаве былі людзі і было сена. Хто кімарыў, хто шаптаўся. А нейкі малады чалавек усю ноч чытаў вершы Тараса Шаўчэнкі.

Каб зразумець паэзію тае ночы, трэба ўявіць яе таямнічую, у святле месяца, цемень, свежую, з ветрыкам, цяплынь пасля душнага дня, раўнюткі палтаўскі стэп, што імчаў насустрач, з цемені ў цемень, па абочынах дарогі — высокія пірамідальныя таполі, яркі круглы месяц за таполямі, які плыў небам паралельна з дарогаю, не адстаючы ад машыны, і задушэўна-мяккі голас:

Минають дні, минають ночі,
Минає літо. Шелестить
Пожовкле листя, гаснуть очі,
Заснули думи, серце спить.
І все заснуло, і не знаю,
Чи я живу, чи доживаю...

Не адразу, неяк зусім непрыкметна ў тае арганічна-паэтычнае ночы мацнела мелодыя душы і той самы голас заспяваў:

Доле, де ти! Доле, де ти?
Нема ніякої!..

І нехта яшчэ заспяваў: ціха, сардэчна.

І яшчэ... жанчына?..

І нехта побач са мною як быццам заплакаў.

І я таксама то шаптаў, то падпяваў для сябе, каб ніхто іншы не чуў, і думаў: Божа, як добра жыць,калі ёсць такое Слова, такое Пачуццё, такая Паэзія. Калі яны ў табе і па-за табою, уладараць табою і ўсім светам.

Вось і цяпер, як тады, думалася: добра жыць, калі ёсць Гарэцкі, ёсць Шаўчэнка, калі дзень на парозе вясны, дарога сонечная бяжыць у Багацькаўку...

Калі ў нас ёсць выпакутаваная літаратура. Калі яна — у нас, мы — у ёй. Хораша!

* * *

У Доме літаратара дзіцячая навагодняя ёлка. Там і Алёнка. Пайшла ў вясёлым настроі — з бацькам і бабуляю. Усе свае песенькі панесла з сабою: «Цячэ вада ў ярок...» з найлюбімейшым апошнім радком «... а я малодзенька», прыпевачкі, сярод якіх і пра яблычак, што «на тарелочке»: «... надоела мне жена,пойду к девочке». Ну, думаю, у цішыні пасяджу, што-небудзь дапішу, дачытаю. Але адразу і засумаваў без Алёнчыных песенек. Апрануўся і падаўся ўслед за ёю на ёлку. Позна выйшаў — позна прыйшоў: ёлка ўжо адшумела. Я павярнуўся назад, на вуліцу.

Дадому вярнуўся вечарам, і сустрэла мяне Алёнка слёзкамі. Яе бяда была ў тым, што на вялікай ёлцы яна не спявала ніводнае песенькі. Не асмелілася. Але слёзкі высахлі. Алёнка запаліла на сваёй ялінцы ліхтарыкі, сабрала ўсіх зверанят, лялек, пасадзіла іх пад ялінкаю, абвясціла, што будзе спяваць народная артыстка, і знікла. Зноў з'явілася ўжо ў маміных чаравічках на высокіх абцасіках, у прыгожай блакітнай сукенцы, абсыпаная серпанцінам і мішурой, і гэтакая, уся ў агеньчыках, нібыта сама ялінка, заспявала: «Цячэ вада ў ярок...» Чым пакутавала, тое з яе і вылілася: «Ну што вы не пляскаеце?» І пляскалі ў далоні, і прасілі яшчэ спяваць. І яна спявала, яшчэ і яшчэ. Вось гэтак бы і на вялікае ёлцы. Не, там гэтакага быць не магло. Там было страшна: раптам не спадабаецца песенька, не папляскаюць — як будзе тое перажыць? Тут увесь сакрэт: ёй хочацца, каб яе зразумелі, для яе галоўнае — каб песенька ўсім спадабалася. Таму спяваць яна можа толькі дома, дзе ёй усе радыя, дзе ўсе лагодна ўсміхаюцца, просяць яшчэ і яшчэ: «Спявай!»

А ўначы, пасля Алёнчыных песенек, да мяне прыйшоў мой хлопчык. Ужо колькі гадоў ён наведвае мяне па начах, у сне. Душу кожны раз разварушыць, і тады я днямі пра яго думаю.

На гэты раз спачатку адчыніліся дзверы ў хату, і з двара ўвалілася агромністае белае воблака. У тым воблаку быў бацька: высокі, хударлявы, белатвары, у доўгім паліто, зацярушаным снегам. Ён з пляча на падлогу скінуў цяжкі мех, развёў у бакі рукі, і ў ягоных абдымках апынуўся той самы хлопчык. Бог ты мой! Ды гэта ж я быў на руках у свайго бацькі.

Потым бачыў чорнае начное акно за печчу, начную хату, у хаце казу белую, што зімою жыла ў запечку, бліскучыя ў

цемені кашачыя вочы, таго самага хлопчыка на печы, як ён устаў, з-пад ватніка ў галовах выцягнуў белыя валёначкі, сунуў нагу ў адзін з іх, пагладзіў яго, цёпленькі, ручкамі, другую нагу сунуў у другі валёначак, яго таксама пагладзіў, нібы кацянятка ці сабачку, на галаву ўсцягнуў белую пушыстую шапку, зняў яе, пагладзіў у сябе на каленях, зноў надзеў, споўз з печы на ляжанку, з ляжанкі на лаўку, з лаўкі на падлогу. На ім ужо быў кажушок. Хлопчык стаяў ля парога, трымаўся за дзверы і, азіраючыся, глядзеў мне ў твар. А вочы былі сумныя-сумныя. Падалося, што ён зараз спытае ў мяне штосьці жорсткае. Я баяўся яго пытання. Бо здагадваўся...

Аднойчы ён з'явіўся да мяне ўвесь у слязах і спытаў, чаму я здрадзіў яму. Зразумець гэтае пытанне адразу я не змог, адразу нічога не змог яму адказаць, а ён усё роўна як і слухаць мяне не пажадаў — адвярнуўся і пайшоў. Праз колькі дзён я зноў спаткаў яго недзе на вуліцы, як быццам на той самай, якою я вадзіў ў школу свайго сынка. Кінуўся да яго насустрач, але ён знік. Я адчуваў, што ён недзе блізка, шукаў яго па незнаёмых дварах, падвалах і не знаходзіў. Ён як бы сачыў за мною, але не жадаў, каб я яго бачыў. Быццам хацеў мне штосьці сказаць і ў той жа час не жадаў мяне слухаць. А я ўжо ведаў, што ён — гэта я маленькі, я і ёсць, і ўсё гэта было жудасна — усведамляць, нібыта я падзелены на дзве палавіны, мінулую і цяперашнюю, і што яны, мае кроўныя і кроўныя між сабою, не могуць жыць разам. Усё гэта, вядома, былі сны, але ці мала і ў снах праўды? Я адчуваў страту самога сябе і прадчуваў штосьці жахлівае. Клаўся спаць і гадаў: убачу зноў свайго хлопчыка ці не ўбачу? Я вельмі хацеў бачыць яго. Хацеў спытаць, за што ён мяне пазбягае, чаму не рады сустрэчы са мною — самім сабою, хацеў з ім памірыцца, і ў той жа час баяўся сустрэчы. І вось аднойчы мой хлопчык зноў прыйшоў да мяне. Я ўгаварыў яго пабыць са мною, і ён застаўся. У нас нарэшце адбылася размова. Я спытаў, чаму ён мяне ненавідзіць. Гэта я даўно адчуваў. І ён зноў, як тады, пры першай сустрэчы, адказаў, што я яму здрадзіў. Яшчэ і спытаў, аднымі сумнымі вачыма, чаму я здрадзіў. Які гэта быў жах — гэтакае пачуць! Хіба можна здрадзіць самому сябе? Хіба не ён, мая крывінка, мне даражэйшы за ўсіх на свеце? Але ён адказаў, што цяпер усе людзі, калі вырастаюць, здраджваюць сваім маленькім хлопчыкам і дзяўчынкам, забіваюць іх, і што я такі самы, як усе, нягоднік, бо няма ў свеце большага жаху, як забіць свой пачатак, сваю чыстую ад

прыроды душу. Я хацеў абняць свайго хлопчыка, прыгарнуць да сябе з усёй любоўю, што гарэла ўва мне да яго, але ён раптам знік. Я закрычаў ад болю... і прачнуўся. Сэрца калацілася моцна-моцна, быццам я доўга ўцякаў ад сваёй смерці.

Цяпер мой хлопчык сышоў з ганка драўлянага настаўніцкага дамка, які стаяў у старым парку, ад ночы цёмным і ад снегу белым, пад поўняю. Моцны мароз звонка шчапаў дрэвы, але хлопчыку было цёпла. Гэтае ноччу бацька прывёз яму ў мяху валёначкі і зімовую шапку, сапраўдную мужчынскую, і хіба мог ён з гэтакім нечаканым багаццем спакойна сапці на печы? Палову зімы ён хадзіў у мамінай хустцы, і яму было сорамна, што на галаве жаночая хустка, у той час як у іншых хлопчыкаў мужчынскія шапкі. Не было і валёнак. На двор бегаў у бацькавых чунях альбо ў маміных бурачках, а ў школу хадзіў у адных шарсцяных шкарпэтках — дамок настаўніцкі, слава Богу, быў прыбудоваю да цаглянай школы. І вось — цяпер у яго былі валёначкі, шапка, кажушок! Усё — як у сапраўднага мужчыны. Як жа тут ляжаць на печы? Трэба некуды бегчы... Куды?.. Як гэта — куды? Ды вядома ж, праз школьны вялізны парк, па той самай алеі, дзе высозныя дрэвы, галлё высока ў небе, туды, дзе алея канчаецца і стаіць хатка, у якой жыве яна, дзяўчынка з ягонага першага класа, бежанка з Ленінграда — Эрка. Яна павінна ўбачыць яго ў шапцы і валёначках. Страшна ў парку ноччу. Раптам з цемені выскачыць воўк? Усе кажуць, што ваўкоў цяпер дужа многа, па начах у вёску прыходзяць. Але хіба ён можа сёння збаяцца ваўкоў? Вузкая, у глыбозным снезе, сцяжына вядзе пад дрэвамі далей і далей. Дзе ж тыя апошнія дрэвы? Дзе ж тая хатка? Жудасна маленькаму хлопчыку ў начным парку. Навокал не відаць ані агеньчыка, поўня аднаго яго высвечвае ўсяму свету, але і назад дарогі няма. Ды ўжо і хатка — вунь яна, з ганачкам. Цёмна ў вокнах. Дзверы зачыненыя. Ціша. Эрка спіць? Але ж яна калі-небудзь выйдзе на ганак? Яна абавязкова выйдзе — трэба чакаць. І ён чакае. У шапцы, валёначках і кажушку цёпла пад лаўкаю. Нават зусім не страшна. Як дома. А потым марозна рыпнулі дзверы. Сярод ночы на ганак выйшла гаспадыня. Узяла соннага хлопчыка на рукі і пазнала ў ім сына школьнага настаўніка. Унесла ў хату, запаліла святло і церла далонямі тварык, халодны, нібы льдзінка. Зняла кажушок, а валёначкі і шапку зняць з сябе ён не даў — палез на печ у шапцы і валёначках. Спіною прыцiснуўшыся да цёплага коміна, сядзеў над

Эркаю, як дзядок, а дзяўчынка спала, і ўсе ў хаце спалі, акрамя яго і гаспадыні, мамы Эрчынай, якая ў гэты час бегла праз парк да бацькоў хлопчыка, каб сказаць, дзе іхні сынок. Тая ноч ці не была ноччу яго першага кахання.

Быць не можа — у першым класе каханне? Але тады — што ўсё гэта такое?

Уранні, пасля апошняй сустрэчы з хлопчыкам, я выйшаў у магазін па кефір. Ні кефіру, ні малака ў продажы не было, але людзі стаялі, чакалі. Прынеслі некалькі скрынак з малаком. Яго тут жа і расхапалі. Апошні пакет аказаўся ў руцэ ў старога. У той самы пакет учапілася і чырванашчокая дзеўка. Стары моцна трымаў пакет у руцэ. Адчуўшы, што ён яго не аддасць, дзеўка саўганула пакетам яму ў твар, і стары зваліўся на пустыя скрыні, абліты малаком. Я пасобіў яму стаць на ногі. Ён моўчкі выціраў рукавом твар, а дзеўкі ўжо не было. На яе месцы стаялі хлопцы і рагаталі.

Я ішоў па вуліцы. Мне насустрач ішлі людзі. Я глядзеў ім у твары, але бачыў старога. Я чуў голас свайго хлопчыка. Як ніколі раней, я верыў яму: забіць у сабе прыродную дабрыню да навакольнага свету, пяшчоту і спачуванне, узгадаваць у сваім сэрцы лжывасць, здраду і жорсткасць — ці не самае жахлівае гэта зладзейства і забойства? Можна, вядома, шукаць апраўданне. Можна даказваць, што вінаватыя сістэма, асяроддзе, дурное выхаванне. Але няма і не будзе нікому апраўдання перад судом свайго адзінага хлопчыка ці сваёй адзінае дзяўчынкі, калі не змаглі ўратаваць іх ад духоўнае смерці.

Што чакае Алёнку? Ці знойдзе яна гэтакая, уся ў мілых песеньках, сённяшняя, згоду з той яшчэ невядомай нікому жанчынаю сваёй будучыні? Што, калі і тая... здрадзіць нашаму маленькаму дзіву прыроды — Алёнцы?

* * *

Калядная раніца ясная, чыстая. Ноччу выпаў снег, падмарозіла. Аціх вецер. Сонейка ўзышло. Я ішоў праз парк сцяжынаю, схаванай пад начною парошаю, ужо размаляванай маладымі слядкамі. Куды вялі сляды гэтакай раніцай? Можа, у храм?

Свята-Духаў сабор быў урачыста прыгожы. Калядныя свечкі прадавалі на плошчы, і людзі стаялі да іх у чарзе. У саборы ішла святочная служба. Там ачышчаліся і набывалі надзею, якой даўно няма ў будзённае мітусні, шукалі ісці-

ну перад крыжам Збавіцеля. Людзей было шмат, трапіць у сабор было нялёгка, і я спусціўся з гары да Траецкага прадмесця, берагам Свіслачы выйшаў да нядаўна адноўленай царквы міраносіцы Марыі Магдаліны. І тут людзей было поўна, не прабіцца, але служба трансліравалася на ўсю ваколіцу.

Пад старымі таполямі, слухаючы калядную літургію, я згадаў Гарасіма Іванавіча Зубарава, сумленнейшага селяніна з вёскі Хацілавічы пад Крычавам. У святочныя і базарныя дні ён часта бываў у нашай крычаўскай хаце і пасля першае чаркі заўсёды іграў на бацькавай скрыпцы. Пра яго і бацьку, пра іх любоў да скрыпкі і сяброўства я пісаў у адным з першых сваіх апавяданняў «Дома», пісаў як пра вельмі моцнае маё ўражанне ў маленстве, але цяпер згадалася іх разважліва-добразычлівая спрэчка пра Бога. Бацька ў Бога як быццам не верыў, хоць у маладосці быў рэгентам у царкве і першы раз ажаніўся з дачкой святара. Мама была яго другой жонкаю, і яна мне пазней казала, што ў бацькі з Богам адбыўся разлад. Пра яго мінулае я ведаў мала, але ягоны недавер да Бога адчуваў, і калі ён па вечарах, не быўшы камуністам, штудзіраваў кароткі курс «Гісторыі ВКП(б)», і калі пытаўся ў госця:

— Ну і пасобіў вам Божанька?

Адзін да аднаго яны паважліва звярталіся на «вы».

— А што? Пражыў — нікога не падмануў, не забіў, чужога не ўзяў.

— Гэта ад сумлення. А што ад Божанькі?

Аднойчы са скрыпкаю на каленях Гарасім Іванавіч, прадчуваючы знаёмае бацькава пытанне, згадаў, як у вайну двойчы сустракаўся са сваім Анёлам-ахоўнікам. Першы раз — трапіўшы ў акружэнне, у сорак першым годзе. Была ноч, восень. Ён сядзеў у падлеску, прыхінуўшыся да дрэва, з рукава шыняля грэючыся цыгаркаю, як раптам над лесам убачыў светлую пляму. Яна набліжалася, ператваралася ў птушку. Бачыў крылы, галоўку, як у дзіцяці. Пачуў голас: «Ідзі за мною». Узяў рэчавы мех на плячо і пайшоў. Пляма то далёка ззяла, то блізка матлялася, вяла, хоць часам здавалася, што дарога безнадзейная, гіблая, на адным месцы кружыць. Але ўрэшце і сам з акружэння выйшаў, і хлопцаў вывеў, каторыя за ім пайшлі. А другая сустрэча з тым Анёлкам адбылася зімою на Доне. Рота сядзела ў акопе і чакала, калі падымуць у атаку. Наперадзе, на пагорку, ляжаў казацкі хутар, яго бралі другі дзень, паклалі шмат людзей, сваіх і немцаў, спалілі шмат тэхнікі, а ўзяць не маглі, немец

усё адкідаў роту ў лагчыну. На світанні па акопе зноў прабегла каманда, каб рыхтаваліся да штурму. Пачала біць артылерыя, якую за ноч падцягнулі. І тады, у тых грымотах, пачуў Гарасім Іванавіч знаёмы голас: «Не бойся. Я з табою». Здзівіўся: зноў той самы Анёлак? Перад вайною і ў царкву не хадзіў, і ў Бога як быццам не верыў. Іншая справа быць Анёлку з немцам. У таго нават на рамяні, на блясе: «Gott mit uns». У кожнага немца. З ім, значыцца, Бог — з немцам? У каго б пра гэта спытаць? Тут Анёлак усё роўна як пачуў ягоныя думкі — кажа: «Бог з табою. З тваім ворагам Сатана. Ад яго Бог адвярнуўся». У тое, што Бог з ім, Гарасім Іванавіч, застаўшыся жывы, паверыў і пасля вайны ў святы і нядзельныя дні пачаў наведваць царкву. Аднойчы калгаснікі хацелі паставіць яго брыгадзірам, а начальства дазволу не дало, што верыў у Бога. Калі Гарасім Іванавіч пра гэта расказаў, мой бацька паспачуваў:

— А маглі б і на старшыню калгаса выбіцца. Сумленне ёсць, зямлю ведаеце, франтавыя ўзнагароды таксама нештачка важаць.

Гэтыя думкі госцю не спадабаліся:

— Бог вышэй за старшыню. Я ўжо колькі разоў паміраў, а не памёр. І жонка мая памірала, і дзеткі, Насця і Каця, але ж усе жывыя? Падаткі і голад душылі — не задушылі. Хіба гэтакае магчыма без Божае літасці? Краіна на маёй памяці колькі разоў у дамавіне ляжала, іншая даўно б пайшла ў хмары, як дым, а наша ўсё дыхае. Ну хіба ж без Бога гэтакае магчыма?

Бацька, памятаю, слухаў і маўчаў. А я з таго часу думаю: ці не паверыў тым разам і ён, бязбожнік, Гарасіму Іванавічу, ці не вярнуўся тады і ён да Бога ў душы, нікому пра тое не сказаўшы, ці не памірыўся тады з Богам і ці не пагадзіўся нарэшце, што Бог з намі?..

Цяпер вось і я, дзівячыся, што вакол адбываецца, бачачы, як абылганы, абабраны, згвалтаваны народ паварочваецца да Бога, думаю так, як думаў Гарасім Іванавіч: чым жа яшчэ могуць быць моцныя людзі, калі ўсё, на чым спакон веку трымаліся зямля і яны самі, апляваныя і панішчаныя, калі ўсё святое збэшчана, а людзі жывуць? Мы ўсе — чым яшчэ моцныя і чым жывём? Якой яшчэ вераю, калі не той, што —

Бог з намі.

* * *

Бачыў сон...

Спачатку, ува сне, пачуў бацькаў голас:

— Сынок, ідзі да мяне.

І вось я іду. Па доўгай лесвіцы — усё ніжэй, ніжэй. Спускаюся ў змрочнае падзямелле, у пячору. Там шмат людзей. Агледзеўшыся, бачу, што гэта шкілеты: сядзяць, ляжаць, рухаюцца, ляскаючы касцьмі. І чарапы жывыя: чорнымі дзіркамі глядзяць на мяне з усіх бакоў. Кажуць, нібыта яны: «Скажы, настаўнік!» Патрабуюць: «Скажы!» У тым баку, куды глядзяць і кажуць, бачу бацьку. Ён сядзіць на вялізным камені, рукамі абхапіўшы жывот, пагойдваецца назад-наперад і стогне. Што з ім? Пакутуе, хапаючыся то за жывот, то за грудзі, то за горла, быццам сам сябе душыць, а шкілеты патрабуюць усё з большай упартасцю: «Скажы, настаўнік!» Ён намагаецца штосьці сказаць і не можа, і таму, бачу, пакутуе яшчэ мацней. А тыя патрабуюць: «Скажы!»

Жахлівы крык раптам разрывае пячору. Шкілеты падхопліваюцца са сваіх месцаў у шаленстве: «Сказаў!.. О, настаўнік! Ты знайшоў адзінае Слова!.. Мы выратаваны!..» Мітусяцца, грымяць касцьмі, бягуць і крычаць: «Слова!.. Ён успомніў Слова!..»

Рака касцей, чарапоў плыве з усіх бакоў міма мяне, а я стаю і не ведаю, што мне рабіць у гэтым патопе. Дзе бацька? Якое Слова ён сказаў? Чаму я не пачуў ягонае Слова?

І вось ужо пуста ў пячоры. Святло гасне. Ціха. Зноў — знаёмы голас:

— Ідзі да мяне, сын.

Бацька сядзіць на тым самым камені. Я падыходжу да яго і пытаюся: «Чаму я не ведаю тваё Слова?» Але ён маўчыць. «Скажы мне Слова?» Маўчыць.

У пячоры з'яўляюцца новыя шкілеты. Іх усё болей. Я думаю: вось калі зноў запоўняць пячору, бацька зноў будзе пакутаваць, адпакутуе і ўспомніць тое адзінае Слова выратавальнае, і тады мне трэба пачуць яго і разам з усімі шкілетамі выйсці з гэтае жахлівае цемры.

Але дзе бацька? Шкілетаў ужо шмат, а яго няма. Куды ён дзеўся?

Пагрукваюць косці. Я чую абурэнне: «Ты што маўчыш, настаўнік?»

Яны ў каго пытаюцца? Няўжо ў мяне? Бацькі ж няма? Значыцца, у мяне — ягонага сына? А што я ім скажу, калі не ведаю бацькавага Слова?

Яны патрабуюць усё грамчэй: «Скажы! Успомні!»

Я пакутую. Я хапаюся за жывот, за грудзі, за горла, за галаву: якое яно — тое Слова? Дзе мне яго ўзяць? Я ніколі яго не ведаў — як я магу яго ўспомніць? І я крычу:

— Бацька!.. Дзе ты?.. Скажы Слова!..

І прачынаюся ад свайго крыку. Гарачы. Мокры. Дыхаю цяжка, быццам мяне душылі. Няўжо сам сябе? Выцягваў з сябе тое адно-адзінае Слова? З гэтакімі пакутамі?..

А хто паверыць?..

* * *

Зноў адліга, якая для самаадчування горшая за мароз. Ужо не першы раз за зіму возера вызвалілася ад лёду і зноў плаваюць качкі, якіх мы з Алёнкаю прыходзім падкормліваць.

У мокрых чорных дрэвах крычыць варанне. Я пакідаю возера, каб не чуць гэтую брыдоту. Але ад чарады, што засела ў дрэвах, нейкі воран ляціць за мною. Я іду далей і далей, у глыбіню парку, каб ён мяне там не знайшоў, але ён у мяне над галавою пералятае з дрэва на дрэва і ўсё крычыць, цяжка і брудна, да хрыпаты, як прарочыць чорны дзень. Іду хутчэй, пятляю сцежкамі, шыбую напрасткі па кустах, а ён мяне не адпускае. Выходжу на алею, што вядзе да праспекта Машэрава, але і воран вылятае на алею. Znікае, змаўкае. І раптам я-ак крумкне мне ў самае вуха, з трэскам, з нейкай пячорнай хрыпатасцю, ажно я ўздрыгваю — спыняюся. Э-э, думаю, у пачвары вышэйшы пілатаж, пікіруе, быццам у галаву дзеўбануць наровіць. Крыві жывой захацеў? Падлюга! Я выходжу на праспект, зварочваю на бераг Свіслачы. Тое крумканне з галавы не выходзіць.

Прыходзяць думкі пра смерць.

Зрэшты, пісьменнік заўсёды павінен думаць пра смерць. Шэдэўры літаратуры часцей за ўсё ствараюцца з вострым адчуваннем блізкае смерці.

Адчуванне смерці робіць пісьменніка дэмакратычным, роўным з усімі смяротнымі. Яно дае яму выйсце да глыбіняў людскога жыцця.

Адчуванне смерці пазбаўляе пісьменніка ад спакусаў разбэшчанага побыту і ўлады. Яно прымушае ўвесь час узвышацца над бездухоўна-атлусцелым натоўпам.

Адчуванне смерці робіць пісьменніка філосафам.

Адчуванне смерці прымушае пісьменніка выходзіць з

чарады. Не баяцца адзіноты і помсты той самай чарады, бачыць сябе арганічнай часцінкаю, жывой пясчынкаю неабдымнага і магутнага цела прыроды і вяртацца да яе зноў.

Адчуванне смерці вядзе пісьменніка да Бога, але не дзеля ратунку ад смерці, а дзеля служэння ў жыцці і смерці.

Цяжка жыць з заўсёдным адчуваннем смерці. Але цяжка ўсяго толькі ў той меры, у якой цяжка быць сапраўдным пісьменнікам. Вянок з церняў — самы пачэсны яму вянец.

Так жыў Максім Гарэцкі. Так і сказаў: «Слава жыццю! Слава і смерці!»

У смерці наша вечнасць. А жыццё — толькі дзеля таго, каб зразумець гэтую жорсткую ісціну.

ЗМЕСТ

АПОВЕСЦІ

Краем Белага шляху — — — — — — — — — — — — — — 3
Крыж на зямлі і поўня ў небе — — — — — — — — — — — — 128

АПАВЯДАННІ

Супраць неба — на зямлі — — — — — — — — — — — — — — 311
Жанчына ў чорным і Афган — — — — — — — — — — — — 334
Маладзічок дэмакратыі — — — — — — — — — — — — — — 351
Гарэла свечачка — — — — — — — — — — — — — — — — 359
Бог з намі — — — — — — — — — — — — — — — — — — — 371

**Карамазаў В.**

K21 Аброчны крыж: Аповесці, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 382 с.: іл.

ISBN 5-340-01212-3.

Хто мы, беларусы? Гэта пытанне гучала ў творах Купалы, Гарэцкага, Чорнага. Сёння іншы час: па-новаму яно гучыць у аповесці В. Карамазава «Краем Белага шляху». Хто мы, дзеці чарнобыльскай зоны? Герой аповесці Міцька Будавей адказвае: «Нас усё жыццё рабавалі, спойвалі, травілі дустам і цэзіем, білі па галовах, пакуль мазгі не адбілі і не зрабілі нас Цэзарамі. Мы даўно не Богу молімся, а кожны свайму шлунку». Пустая вёска парахнее пасярод зарослага поля. Тут жылі людзі. Працавалі, кахалі, гадавалі дзяцей... Сумным успамінам шапоча асінка над тым жыццём і каханнем.

У зборнік увайшлі апавяданні на сучасную тэму і аповесць-эсэ «Крыж на зямлі і поўня ў небе» пра славутага беларускага жывапісца В. К. Бялыніцкага-Бірулю.

K $\frac{8820600000—080}{M\ 302(03)—94}$ 8—94

ББК 84(4Беи)6

Літаратурна-мастацкае выданне

**Карамазаў Віктар Філімонавіч**

**Аброчны крыж**

Аповесці, апавяданні

Рэдактар Е. А. Пяршай. Мастак Г. В. Шапялевіч. Мастацкі рэдактар А. І. Дрозд. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар А. Т. Глушчанка.

Здадзена ў набор 09.11.92. Падп. да друку 29.04.94. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 20,16. Ум. фарб.-адб. 20,16. Ул.-выд. арк. 22,04. Тыраж 6000 экз. Зак. 2392.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.